УДК 821(1-87)-32
ББК 84(0)-44
З-67

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»

Укладальнік Ганна Янкута
Прадмова Кацярыны Мацiеўскай

**Злачынства, сэр** : зборнік дэтэктыўнага апавядання / уклад. Г. Янкута. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 468 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).
З-67
ISBN 978-985-7057-68-9.

Зборнік дэтэктыўнага апавядання «Злачынства, сэр!» змяшчае як творы класікаў жанру, так і пародыі. Амаль усе апавяданні ў зборніку друкуюцца ўпершыню.

**УДК 821(1-87)-32**
**ББК 84(0)-44**

**ISBN 978-985-7057-68-9**

# ПРА БЕЗДАКОРНАСЦЬ МЕТАДУ

Неабсяжная гісторыя дэтэктыву налічвае столькі ўзораў жанру, што спробы іх класіфікаваць загадзя асуджаныя на паразу. У гэтай гісторыі ўсё ўжо было, і цяпер дэтэктыў таксама можа пацвердзіць мудрасць Эклезіяста. А калісьці... о, калісьці трава, зразумела, была зелянейшая, дэтэктыў паступова ламаў законы жанру, парушаў каноны і выходзіў за ўсе магчымыя межы, так што цяпер зводы правілаў на тэму таго, «як трэба пісаць дэтэктывы», выглядаюць пакрытымі пылам помнікамі эпохі, якіх ніколі не прыйдзе ў галаву слухацца. А між іншым, гэты дамастрой дэтэктыву цікавы менавіта з часавай адлегласці: «Як жа яны там жылі, бедныя?» — спытае распешчаны чытач. І задумаецца. Сапраўды, як жыць у свеце, дзе апавядальнік або дэтэктыў не можа аказацца злачынцам, а кітайцы ўвогуле забароненыя?

Адзінае, што яшчэ аб'ядноўвае дэтэктыўныя творы, — гэта іх абсалютная непадобнасць: пісьменнікі пакаленнямі старанна выдумлялі новых герояў і да поўнай дасканаласці шліфавалі іх метады. Што дазволена Шэрлаку Холмсу... сто гадоў не патрэбнае Нэра Вулфу: пакуль ён будзе попел з бруку падбіраць, архідэі завянуць. Айцу Браўну не патрэбны паліцэйскі атрад — ён умее злачынцаў пераконваць, а мадэмуазэль дэ Скюдэры можа напісаць вытанчаны ліст каралю. Галоўнае, каб метад працаваў.

«Артыстызм, калі ён у крыві, можа прыняць самыя нечаканыя формы», — аднойчы сказаў Шэрлак Холмс. Шаноўны джэнтльмен, па ўсім відаць, меў рацыю, бо вышэйзгаданы метад чытач ацэньвае выключна з эстэтычнага пункту гледжання. Прыгожы — значыць працуе. Ці так важна, што дэдуктыўны метад Холмса — не зусім дэдуктыўны, і ці папрыгажэе ён, калі мы назавем яго метадам з элементамі індукцыі і абдукцыі? Часам паэтычныя вольнасці ратуюць не толькі пераклад, але і дэтэктыў.

Ці ўсведамлялі гэта аўтары, ламаючы жорсткія рамкі канону, невядома, але факт у тым, што дэтэктыў з цягам часу ўсё больш аддаляўся ад першапачатковых аскетычных патрабаванняў пераймаць рэчаіснасць, выяўляць знаёмую чытачу да зубоўнага скрыгату будзённасць і маляваць абавязкова стэрэатыпных персанажаў, каб чытач ці то не заблытаўся, ці то не спалохаўся. І вось ужо мастацкая рэальнасць не мае нічога агульнага са звыклай, герой такі, якога ў жыцці не бывае, а мова — самая аддаленая ад будзённай, то бок паэтычная.

А потым рэчаіснасці пачынаюць пераплятацца. Вось містэру Сатэртуэйту ў Агаты Крысці дапамагае таямнічы містэр Кін, які невядома адкуль узяўся; ці чалавек ён увогуле — таксама вялікае пытанне, але дапамагае прыгожа, метад працуе, катарсіс забяспечаны, а што яшчэ трэба ад твора мастацтва? Вось Элеры Куін, герой раманаў Элеры Куіна, няспешна гартае «Часопіс таямніцаў Элеры Куіна», выдаваны Элеры Куінам, але не тым, які герой, а тым, які аўтар… ці наадварот? Мабыць, ужо няважна, проста сцэна прыгожая. А калі містэр Куін дэшыфруе злачынства з дапамогай твора Льюіса Кэрала, у прасторы перапляцення двух мастацкіх тэкстаў «нармальнай» рэчаіснасці месца ўвогуле не застаецца.

Згадзіўшыся з містэрам Холмсам, нам застаецца згадзіцца таксама з яго не менш знакамітым сучаснікам. Перавярнуўшы мімесіс з ног на галаву, містэр Ўайлд сказаў, што не мастацтва — перайманне рэчаіснасці, а зусім наадварот. Бадай, мы не будзем паглыбляцца ў гэтую сентэнцыю, бо параход сучаснасці параходам, але нешта непахіснае застацца павінна: у дэтэктыве не можа не быць таямніцы. Хто ведае, магчыма, чытач — толькі сон, які сніцца героям дэтэктыву, і нам пасля словаў «Прачынайся, ты забіты» наканавана ўсвядоміць, што жыццё — самы рэалістычны жанр літаратуры.

*Кацярына Мацiеўская*

## ГІЛБЕРТ КІТ ЧЭСТЭРТАН

# ЛЯТУЧЫЯ ЗОРКІ

«Найпрыгажэйшае з усіх маіх злачынстваў, — згадваў Фламбо ў сваёй дабрадзейнай старасці, — было, па дзівосным супадзенні, з іх таксама і апошнім. Я ўчыніў яго на Каляды. Як належыць мастаку, я заўжды стараўся пераступаць закон у суладдзі з парою году ці з вакольным краявідам і абіраў для кожнага ліхадзейства прыдатны сад альбо тэраску, акурат як для скульптурнай групы. Сквайраў, напрыклад, належыць абчмураць у даўгіх пакоях з абшытымі дубам сценамі, а габрэя, з іншага боку, дарэчней пакінуць без грошыка сярод агнёў ды перагародак Кафэ Рыш. Так, у Англіі, надумаўшыся збавіць якогась дэкана ад цяжару маёмасці (а гэта не так проста, як можа здацца), я імкнуўся — як бы гэта выказаць — аблямаваць яго зялёнымі лужкамі й шэрымі вежамі кафедральнага горада. Падобным чынам у Францыі, абдзіраючы багатага зласлівага селяніна (а гэта амаль немагчыма), я прагнуў адцяніць ягоную раз'юшаную фізіяномію шэраю чарадою падрэзаных таполяў і тымі велічнымі гальскімі раўнінамі, з якіх чэрпаў натхненне магутны дух Міле.

То вось, маё апошняе злачынства было каляднае — радаснае, утульнае ангельскае злачынства сярэдняга дастатку; злачынства ў духу Чарлза Дыкенса. Я ўчыніў усё ў добрым нябедным старадаўнім доме ля Путні, у доме

з выгнутаю дарожкаю для экіпажаў, у доме са стайняю пры ім, у доме з назваю, пазначанаю на адных і на другіх варотах, у доме з араўкарыяй у садзе. Ну досыць, вы ўжо ўявілі яго да дробязі. Што ні кажы, а Дыкенса я ў той раз пераймаў і ўмела, і па-мастацку. Амаль шкада, што я зрокся ліхога жыцця ў той жа вечар».

І Фламбо пачынаў расказваць гэтую гісторыю знутры, і нават знутры яна аказвалася дзіўнаю. Калі ж на яе паглядзець звонку, то будзе і наогул нічога не зразумела. Вось менавіта звонку з гэтай гісторыяй і належыць знаёміцца ўпершыню. З такога гледзішча можна сказаць, што ўсё пачалося надвячоркам у другі дзень Раства, калі дзверы дома са стайняю расчыніліся ў сад з араўкарыяй і маладая дзяўчына выйшла з хлебам у руках карміць птушак. У яе быў мілы тварык і задзірлівыя карыя вочы, а постаць — неадгадальная, бо яна так захуталася ў бурае футра, што нават не разрозніць было, дзе каўнер таго футра, а дзе — яе ўласныя валасы. Калі б не слаўны твар, то выглядала б яна нязграбным мядзведзікам.

Зімовы надвячорак учырвоньваўся ў вечар, і рубінавае святло ўпала ўжо на бясквЕтныя клумбы, запоўніўшы іх нібыта прывідамі мёртвых ружаў. Стайня была па адзін бок ад дома, а па другі пачыналася алея — ці нават галерэя — з лаўраў, якая вяла ў большы сад за домам. Юная лэдзі накрышыла на зямлю хлеба (у чацверты ці пяты раз за дзень, бо яго пад'ядаў сабака) і, не навязваючы птушкам свайго таварыства, рушыла па дарожцы між лаўрамі ў вечназялёнае мігценне саду. Там яна падняла вочы на высокую агароджу і ўскрыкнула ў здзіўленні — ці то шчыра, ці то проста для парадку; бо агароджу дзівачна асядлала дзівачная постаць.

— Вы толькі не скачыце адтуль, містэр Крук, — занепакоена ўсклікнула дзяўчына, — тут завысока!

Чалавек, які сядзеў на сцяне, бы на лятучым кані, быў цыбаты вуглаваты хлопец з натапыранаю шчоткаю

цёмных валасоў і з тварам разумным, нават вытанчаным, але хваравіта-бледым і амаль нетутэйшым. Яшчэ заўважнейшаю рабіў гэтую бледасць напорыста-чырвоны гальштук — здаецца, адзіная хоць неяк прадуманая дэталь у адзенні юнака. Магчыма, гэта быў сімвал. Не зважаючы на ўстрывожаную мальбу дзяўчыны і на рызыку пераламаць ногі, хлопец конікам скочыў на зямлю.

— Я з'явіўся на свет, мяркую, каб стаць рабаўніком, — ціхамірна заўважыў ён, — і стаў бы, канечне, калі б не нарадзіўся выпадкам у тым слаўным суседнім доме. Ды і якая тут бяда, у кожным разе?

— Як можна такое казаць? — запярэчыла дзяўчына.

— Разумееце, — адказаў хлопец, — калі хтосьці нарадзіўся не па той бок ад агароджы, то я зусім не бачу, чаму б яму яе не пералезці.

— Ніколі не ведаю, што вы праз імгненне скажаце ці ўчыніце, — сказала яна.

— Я і сам часта не ведаю, — адказаў містэр Крук, — але прынамсі цяпер я з патрэбнага боку агароджы.

— А які бок агароджы вам патрэбны? — спытала дзяўчына з усмешкаю.

— Той, з якога вы, — адказаў малады Крук.

Яны рушылі разам дарожкаю паміж лаўрамі, і тут трыкроць прагучаў аўтамабільны гудок, з кожным разам бліжэй, і машына — дзівосная хуткасцю, надзвычайная элегантнасцю ды бледна-зялёная колерам — птушкаю падляцела да дома і стала, дрыжучы, ля ўваходу.

— Ого-го! — сказаў юнак у чырвоным гальштуку. — Вось ужо хто з пэўнасцю нарадзіўся з патрэбнага боку агароджы. Я і не ведаў, міс Адамс, што ў вас такі найсучаснейшы Санта-Клаўс.

— А, гэта мой хросны, сэр Леапольд Фішэр. Ён заўсёды прыязджае адразу пасля Раства.

Рубі Адамс на імгненне прымоўкла, міжволі выдаўшы тым не дужа вялікае захапленне, і дадала:

— Ён вельмі добры.

Джон Крук, журналіст, чуў пра гэтага важнага магната з Сіці; а ў тым, што магнат з Сіці пра журналіста не чуў, той быў зусім не вінаваты, бо ў пэўных артыкулах «Трубнага голасу» ці «Новага веку» для сэра Леапольда не знайшлося ніякай літасці. Але цяпер Крук нічога не сказаў і толькі змрочна назіраў, як разгружаюць машыну — а гэта была не хуткая справа. Рослы ахайны шафёр у зялёным выбраўся з пярэдняй дзверкі, дробны ахайны слуга ў шэрым выбраўся з задняй, і разам яны перамясцілі сэра Леапольда на ганак і пачалі распакоўваць, быццам вельмі руплíва загорнутую пасылку. Яны размотвалі пледы, якіх стала б на цэлую краму, футры ўсіх лясных звяроў ды шалікі ўсіх колераў вясёлкі, пакуль нарэшце не паказалася нешта кшталту чалавечай постаці — постаці прыязнага, але чужаземнага з выгляду старога джэнтльмена з сівою казлінаю бародкаю і зіхоткаю ўсмешкаю, які пацíраў адна аб адну вялікія футраныя рукавіцы.

Задоўга да таго як сэр Леапольд канчаткова аб'явіўся з-пад пледаў і шалікаў, вялікія дзверы перад ім расчыніліся, і палкоўнік Адамс (бацька зафутранай дзяўчыны) выйшаў асабіста запрасіць вялебнага госця ў дом. Ён быў высокі, асмуглы й вельмі маўклівы, а на галаве меў чырвоную шапку накшталт фескі, праз якую рабіўся падобны да ангельскага сірдара ці пашы ў Егіпце. З ім выйшаў яго швагер, які нядаўна прыехаў з Канады, — светлабароды, рослы й досыць шумны малады аматар фермерскага жыцця на ймя Джэймс Блаўнт. З імі была і яшчэ адна асоба, не настолькі заўважная, — святар з найбліжэйшага каталіцкага касцёла. Палкоўнікава нябожчыца-жонка была каталічкаю, і дзеці, як часта бывае ў такіх выпадках, выхоўваліся ў матчынай веры. Усё ў гэтым ксяндзу было непрыкметным, і нават прозвішча

яго было проста Браўн. Але палкоўнік знаходзіў у яго таварыстве нейкую прыемнасць і часта запрашаў яго на такія сямейныя сустрэчы.

У вялізным холе было досыць месца нават для сэра Леапольда і ягоных бясконцых покрываў. Гэты хол быў, праўду кажучы, недарэчна вялікі ў параўнанні з рэштаю дома: даўжэзны пакой з уваходнымі дзвярыма ў адным канцы і падножжам лесвіцы ў другім. Перад вялікім камінам, над якім вісела палкоўнікава шпага, цырымонія распранання госця нарэшце завершылася, і ўсіх прысутных, не выключаючы хмурнага Крука, прадставілі сэру Леапольду Фішэру. Але вялебны фінансіст нібыта працягваў змагацца з часткамі свайго бездакорнага касцюма і нарэшце здабыў з якоесь найунутранейшай кішэні фрака чорную авальную скрыначку, якую, ззяючы, абвесціў калядным падарункам для хросніцы. З нязмушанай самазадаволенасцю, якая нечым абяззбройвала гледачоў, Фішэр падняў скрыначку перад сабою, штосьці націснуў, вечка адкінулася, і ўсе ледзь не саслеплі. Быццам чысцюткі фантан ударыў ім проста ў вочы. На аранжавым аксаміце донца, нібы тры яечкі ў гняздзе, ляжалі тры ясныя зіхоткія дыяменты, вакол якіх, здавалася, само паветра загаралася агнём. Фішэр добразычліва прамянеў, упіваючыся ўражанасцю й зачараванасцю дзяўчыны, змрочным захапленнем і няўклюднымі падзякамі палкоўніка ды агульным здзіўленнем усіх прысутных.

— Пакуль што я іх пакладу назад, мая мілая, — сказаў Фішэр, вяртаючы футарал у глыбіні фрака. — Едучы сюды, мне давялося добра пра іх клапаціцца. Гэта тры знакамітыя афрыканскія дыяменты, тыя самыя, што завуцца Лятучымі Зоркамі, бо іх вельмі часта выкрадалі. Усе вялікія злачынцы палююць на іх, але і простыя людзі на вуліцы ці ў гатэлі не адмовіліся б іх прыхапіць. Мяне маглі абкрасці проста па дарозе сюды. Так-так, вельмі магчыма.

— І вельмі натуральна, — прабурчаў хлопец у чырвоным гальштуку. — Калі б і абкралі, я б іх не вінаваціў. Калі людзі просяць хлеба, а вы не даяце ім і каменя, то што дрэннага, калі яны возьмуць камень самі?

— Не смейце так казаць! — з дзіўнаю палкасцю ўсклікнула дзяўчына. — Вы ніколі такога не казалі, пакуль не сталі гэтым жахлівым як-жа-гэта-завецца. Ды вы ведаеце, пра што я. Як называюць таго, хто гатовы абдымацца з камінаром?

— Святым, — адказаў айцец Браўн.

— Думаю, — сказаў сэр Леапольд з паблажліваю ўсмешкаю, — што Рубі мела на ўвазе сацыяліста.

— Раяліст не абавязаны граць на раялі, — крыху раздражнёна адазваўся Крук, — а кансерватар не заўсёды гатуе на зіму варэнні. А сацыяліст, завяраю вас, зусім не прагне таварыства ўсякага, каго заве таварышам. Сацыяліст проста хоча, каб усе коміны былі пачышчаныя, а ўсім камінарам за гэта заплацілі.

— Але нікому не дазволіць валодаць уласнаю сажаю, — нягучна дадаў святар.

Крук зірнуў на яго з цікавасцю і нават павагаю.

— А хтосьці хоча валодаць сажаю? — спытаў ён.

— Хтосьці, можа, і хоча, — задумліва адгукнуўся Браўн. — Я чуў, садоўнікам яна прыдаецца. А я аднойчы на Каляды вельмі ўсцешыў шасцярых дзяцей, якія не дачакаліся фокусніка, і мне спатрэбілася для гэтага выключна сажа — ужытая вонкава.

— Як цудоўна! — усклікнула Рубі. — Вось бы і нам на такое паглядзець.

Шумны канадзец, містэр Блаўнт, адразу ж узвысіў свой гучны голас у падтрымку гэтай задумы, а ўражаны фінансіст узвысіў свой, задуму досыць рашуча асуджаючы, і тут у вялікія ўваходныя дзверы нехта пагрукаў. Святар адчыніў, ізноў адкрываючы від на пярэдні сад, дзе вечназялёныя дрэвы — і араўкарыя між імі — цям-

нелі цяпер на фоне раскошнага фіялетавага заходу. Гэтая карціна ў раме расчыненых дзвярэй была такою яркаю і такою дзіўнаю, нібы тэатральная дэкарацыя, што ў першае імгненне ніхто не звярнуў увагі на непрыкметнага чалавека на ганку. Гэта быў, відавочна, звычайны пасыльны — запылены ды ў паношаным паліто.

— Ці ёсць сярод вас містэр Блаўнт, джэнтльмены? — спытаў ён, няўпэўнена працягваючы ім ліст.

Містэр Блаўнт асекся на паўвоклічы, так і не скончыўшы сваіх ухваленняў. З яўным здзіўленнем ён разадраў канверт і пачаў чытаць. Яго твар крыху спахмурнеў, пасля зноў пасвятлеў, і канадзец павярнуўся да свайго швагра й гаспадара:

— Мне прыкра так вам назаляць, палкоўнік, — сказаў ён з бадзёраю каланіяльнаю пачцівасцю, — але ці дужа вас засмуціць, калі сёння ўвечары да мяне зазірне па справе стары прыяцель? Гэта, уласна кажучы, Фларыян, той самы славуты французскі акрабат і комік. Мы пазнаёміліся калісь даўно за акіянам, ён родам з французскай часткі Канады, а цяпер вось у яго да мяне справа — каб я толькі ведаў, якая.

— Канечне-канечне, — не раздумваючы адказаў палкоўнік. — Дарагі мой, вашым сябрам я толькі рады. І ён тут, не сумняюся, будзе дарэчы.

— Ён вычарніць твар сажаю, калі вы пра гэта, — са смехам усклікнуў Блаўнт, — і высініць усіх сінякамі. Мне што, я не дужа выкшталцоны. Старая добрая пантаміма мне акурат да густу, і каб актор яшчэ на цыліндр сеў!

— Толькі, калі ласка, не на мой, — з годнасцю прамовіў сэр Леапольд Фішэр.

— Годзе, годзе, — бесклапотна ўмяшаўся Крук, — не будзем сварыцца. Бываюць жарты й безгустоўнейшыя за чалавека на цыліндры.

Непрыязнасць да юнака ў чырвоным гальштуку, народжаная драпежніцкімі перакананнямі апошняга ды ягонымі відавочна цёплымі адносінамі з Фішэравай слаўнай хросніцаю, змусіла дзялка прамовіць самым саркастычным і ўладным тонам:

— Вам, не сумняюся, сапраўды вядомыя жарты і безгустоўнейшыя за чалавека на цыліндры. Ці не зробіце ласку прывесці прыклад?

— Ды вось хоць цыліндр на чалавеку, — адказаў сацыяліст.

— Ну, ну, ну! — закрычаў канадзец з заўсёдашняю варварскаю зычлівасцю. — Не будзем псаваць такі слаўны вечар. Я проста кажу, давайце неяк пацешым таварыства! Не будзем чарніць твары і сядаць на капелюшы, калі нехта супраць, але чагосьці такога ўдумаем. Чаму б вось не зладзіць сапраўдную ангельскую пантаміму — каб усё як след, каб з клоўнам, і з Каламбінаю, і што там яшчэ трэба. Калі я з'язджаў з Англіі, у дванаццаць гадоў, я такую бачыў, і яна палае ў маёй памяці, як святочнае вогнішча. А ў мінулым годзе я вярнуўся — і выявілася, што такога ўжо не сустрэнеш. Паўсюль толькі слязлівыя казачкі. Мне б паглядзець, як махаюць гарачаю качаргою ды збіваюць на порхаўку паліцэйскага, а на сцэне толькі прынцэсачкі, што гавораць казані пры месяцовым святле, ды Сінія Птушкі, ды астатняе ў тым жа духу. Калі ўжо нешта сіняе, то хай гэта будзе Сіняя Барада, ды й таму б лепей перавярнуцца ў Панталонэ.

— Збіць паліцэйскага на порхаўку — гэта мне даспадобы, — сказаў Джон Крук. — Гэта лепшае вызначэнне сацыялізму, чым тое, што тут сёння гучала. Але зладзіць гэта ўсё будзе немалою працаю.

— Ды ні каліўца, — крыкнуў Блаўнт, ужо дужа захоплены. — Працей за арлекінаду мы нічога і не надумаем, і на тое дзве прычыны! Па-першае, вярзці можна ўсё, што ў галаву прыйдзе, а па-другое, спатрэбіцца толь-

кі тое, што ў любым доме і так ёсць — сталы, вешалы, кашы для бялізны ды іншае падобнае.

— А і праўда, — Крук з захапленнем заківаў і захадзіў па пакоі. — Але дзе ж узяць паліцэйскую форму? Я апошнім часам аніводнага палісмена не забіў.

Блаўнт у задуменні нахмурыўся, але тут жа ляпнуў сябе па сцягне.

— Знойдзецца! — усклікнуў ён. — Фларыянаў тэлефон тут ёсць, а Фларыян у Лондане ўсіх касцюмераў ведае. Зараз пазваню яму ды й папрашу захапіць сюды паліцэйскую форму, — і ён рынуўся да тэлефона.

— Хіба не цудоўна, хросны? — ледзь не скакала ад радасці Рубі. — Я буду Каламбінай, а вы — Панталонэ.

Мільянер ні на хвілю не страціў паганскай велічнай непахіснасці.

— Думаю, мая мілая, — адказаў ён, — што вам трэба знайсці іншага Панталонэ.

— Калі хочаш, я буду Панталонэ, — першы і апошні раз умяшаўся ў размову палкоўнік Адамс, дастаўшы з рота цыгару.

— Вам помнік трэба паставіць! — усклікнуў канадзец, які акурат вярнуўся, ззяючы, ад тэлефона. — Ну вось усіх і знайшлі! Містэр Крук будзе клоўнам — ён журналіст і ведае ўсе найстарэйшыя жарты. Я магу быць Арлекінам, для гэтага толькі і трэба, што мець даўгія ногі ды жвава скакаць. А мой сябар Фларыян кажа, што прыхопіць касцюм палісмена і дарогаю пераапранецца. Зладзім усё ў гэтым самым холе, вунь там на прыступках рассадзім гледачоў у некалькі шэрагаў. А дзверы будуць выдатным заднікам, хоць зачыненыя, хоць расчыненыя. Зачыніш — вось табе ангельскі пакой, расчыніш — вось табе сад у месяцовым святле. Выдатна ўсё атрымліваецца, нібы начараваў хто.

Ён выцягнуў з кішэні кавалак крэйды, што заставаўся там з апошняй гульні ў більярд, і доўгаю рысаю

раздзяліў пакой на дзве часткі: адну, з дзвярыма, — для сцэны, а другую, са ступенямі, — для публікі.

Як яны змаглі за тыя кароткія гадзіны падрыхтаваць спектакль, хоць бы і такі ёлупскі, — суцэльная загадка. Але яны ўзяліся за справу з сумессю няўрымслівасці й руплівасці, якая прыходзіць, калі ў доме жыве маладосць. А ў доме ў той вечар жыла маладосць, хоць, можа, і не ўсе адгадалі два твары й два сэрцы, дзе яна гарэла. Як звычайна, задума рабілася ўсё дзічэйшаю й дзічэйшаю праз тыя самыя будзённыя звыкласці, з якіх даводзілася ствараць патрэбнае. Незвычайная спадніца чароўнай Каламбіны дзіўна нагадвала вялікі абажур з гасцінай. Клоўн і Панталонэ выбеліліся мукою, узятаю ў кухара, ды начырвонілі шчокі румянамі, падаўца якіх застаўся (як усе праўдзівыя хрысціянскія дабрадзеі) невядомым. Арлекіна, які апрануўся ўжо ў срэбную паперу з цыгарных скрыняў, ледзьве здолелі ўтрымаць, калі ён прымерваўся разбіць старую віктарыянскую люстру ды аздобіцца зіхоткімі крышталямі. Ён абавязкова давёў бы справу да канца, калі б толькі Рубі не адкапала дзесьці ўзамен фальшывыя дыяменты ад даўняга маскараднага касцюма Дамы Звонкаў. Увогуле, з яе дзядзькам, Джэймсам Блаўнтам, ніякага зладу не было: у захапленні ён гарэзнічаў, нібы школьнік. Ён знянацку насунуў папяровую асліную галаву на айца Браўна, які цярпліва гэта стрываў і нават вынайшаў нейкі спосаб варушыць яе вушамі. А асліны хвост жартаўнік узнамерыўся прычапіць ажно да фрака сэра Леапольда Фішэра, але пад хмурным позіркам фінансіста гэтая задума згасла.

— Нешта дзядзька ўжо праз меру дурэе, — усклікнула Рубі, з сур'ёзным выглядам чапляючы каралі з сасісак на шыю Круку. — Што гэта з ім?

— Ён Арлекін у па́ру вашай Каламбіне, — сказаў Крук. — А я толькі клоўн са старымі жартамі.

— Лепей бы вы былі Арлекінам! — адказала дзяўчына, і сасісачныя каралі павіслі ў Крука на плячах.

Айцец Браўн, які ведаў усё да драбнічкі пра гэтую падрыхтоўку і ўжо нават атрымаў сваю долю апладысментаў, ператварыўшы падушку ў бутафорскае немаўлятка, сеў, тым не менш, сярод публікі і ўрачыста чакаў пачатку, нібы хлопчык, упершыню прыведзены ў тэатр. Гледачоў было няшмат: сваякі, некалькі добрых суседзяў ды слугі. Сэр Леапольд рассеўся наперадзе, і ягоная грузная фігура, дагэтуль у футраным каўняры, амаль зусім закрыла сцэну ад кароценькага святара. Але тэатральным крытыкам так і невядома, ці шмат святар ад гэтага страціў. Пантаміма была суцэльным вэрхалам, але не безнадзейным: яе пранізвала шаленства імправізацыі, якая паходзіла галоўным чынам ад клоўна Крука. Ён быў здольным наогул чалавекам, а ў гэты вечар яго ахінула дзікая ўсёведнасць, бязглуздасць, мудрэйшая за мудрасць свету, што прыходзіць да юнака, які прыкмеціў на імгненне пэўны выраз на пэўным твары. Паводле задумы ён граў клоўна, а на справе быў яшчэ амаль усім астатнім — аўтарам (наколькі там увогуле быў аўтар), суфлёрам, дэкаратарам, работнікам сцэны і, самае галоўнае, аркестрам. Калі ў заліхвацкай весялосці наступаў раптам няўдалы перапынак, клоўн — як ёсць, у ёлупскім строі — кідаўся да фартэпіяна ды вытарабаньваў на ім папулярныя песенькі, адначасова недарэчныя і цалкам прыдатныя да моманту.

І, як кульмінацыя гэтага шаленства, ды і ўсяго наогул, дзверы ў глыбі сцэны раптам шырока расчыніліся, і адкрыўся сад у месяцовым святле, а на фоне саду — іх знакаміты госць, вялікі Фларыян, апрануты палісменам. Клоўн зайграў хор паліцэйскіх з «Піратаў Пензанса», але музыка патанула ў аглушальным плясканні гледачоў, бо паставу і манеры сапраўдных палісменаў вялікі комік пераймаў хоць і стрымана, але да дробязяў бязда-

корна. Арлекін падскочыў да яго ды грукнуў па шлеме, піяніст тарабаніў песеньку «Гэта што ў цябе за шапка», а Фларыян азіраўся па баках у надзвычай пераканаўчым здзіўленні. А тады непаседлівы Арлекін стукнуў яго яшчэ (піяніст найграў кавалачак з прыпеўкі «І пасля яшчэ разочак»). А тады Арлекін кінуўся ў абдымкі да палісмена й паваліў яго на падлогу пад гром апладысментаў. Вось тады заезджы актор і паказаў тую знакамітую клаўнаду з удаваннем мерцвяка, пра якую дагэтуль не сціхла слава ў ваколіцах Путні. Ледзь магчыма было паверыць, што жывы чалавек можа гэтак абмякнуць.

Дужы Арлекін гайдаў яго туды й сюды, як мех, круціў ды падкідваў, бы жанглёрскі дручок, і ўсё гэта пад зухаватыя бязглуздыя гукі піяніна. Калі Арлекін не без цяжкасці адарваў канстэбля-коміка ад падлогі, клоўн граў «Я ўстаю ад сноў пра мілую», калі ўзваліў на спіну, загрымела «Рушу з клункам за плячыма», а калі ўпусціў нарэшце палісмена на дол з вельмі пераканаўчым грукам, шаленец за інструментам затарабаніў звонкую песеньку — тую самую, як дагэтуль лічыцца, песеньку, з якою дзеці ў гульні кідаюць на падлогу насоўку: «Напісаў я мілай ліст, але згубіў на вуліцы».

І вось недзе падчас гэтага найвышэйшага свавольства айцец Браўн зусім перастаў бачыць, што робіцца на сцэне, бо магнат з Сіці, які сядзеў перад ім, падняўся ў поўны рост і пачаў апантана рыцца ў кішэнях. Тады нервова сеў, не пакідаючы сваіх пошукаў, а тады зноў падскочыў. Спачатку ён нібыта хацеў неадкладна ўварвацца на сцэну, пасля ўтаропіў злы позірк у клоўна, а затым, нічога не сказаўшы, кінуўся прэч з пакоя.

Айцец Браўн толькі і паспеў некалькі хвілін station назіраць за бязглуздым, але не пазбаўленым зграбнасці танцам Арлекіна-аматара над захапляльна бязрушным супрацоўнікам. З праўдзівым, хоць і грубым, мастацтвам Арлекін упрыскок спінаю наперад выбраўся праз дзве-

ры ў сад, поўны месяцовым святлом і цішынёю. Арлекін танцаваў усё далей, і самаробны касцюм з бліскучай паперы й маскарадных аздобаў, задужа зіхоткі ў святле рампы, у ззянні месяца рабіўся ўсё срэбнейшым і ўсё чароўнейшым. Гледачы грымнулі апладысментамі і кінуліся бліжэй да дзвярэй, і тут нехта крануў айца Браўна за рукаў і шэптам папрасіў прайсці ў кабінет палкоўніка.

Святар пайшоў следам за слугою, узмацняючыся ў благіх прадчуваннях, і зусім не супакоіўся ад урачыста-камічнай карціны, што адкрылася яму ў кабінеце. Там сядзеў палкоўнік Адамс, па-ранейшаму ў касцюме Панталонэ, і ківаў рогам з кітовага вуса, але ў яго старых вачах было досыць тугі, каб ацвярозіць любую пагулянку. Сэр Леапольд Фішэр абаперся на камін і цяжка дыхаў у напышлівым перапудзе.

— Здарылася вельмі вялікая непрыемнасць, айцец Браўн, — сказаў Адамс. — Разумееце, выглядае, што тыя дыяменты, якія мы ўсе сёння бачылі, зніклі з кішэні фрака майго сябра. І паколькі вы...

— Паколькі я, — працягнуў айцец Браўн, разусміхаўшыся, — сядзеў акурат за ім...

— Нічога падобнага ніхто і ніколі не скажа, — запярэчыў палкоўнік Адамс і ва ўпор паглядзеў на Фішэра, выдаўшы тым самым, што нешта падобнае ўсё ж было ўжо сказана. — Я толькі прашу вас, як прасіў бы любога джэнтльмена, аказаць мне дапамогу.

— Іншымі словамі, вывернуць кішэні, — адказаў айцец Браўн і не адкладаючы так і зрабіў, паклаўшы перад суразмоўцамі сем шылінгаў, шэсць пенсаў, зваротны білет, маленькае срэбнае ўкрыжаванне, невялікі брэвіярый ды плітку шакаладу.

Палкоўнік доўга глядзеў на святара, а тады сказаў:

— Ведаеце, змесціва вашай галавы мне нашмат цікавейшае за змесціва вашых кішэняў. Мая дачка — з ва-

шых прыхаджанаў, і вось апошнім часам яна... — ён замоўк.

— Апошнім часам, — выкрыкнуў стары Фішэр, — яна адчыніла дзверы бацькоўскага дома галаварэзу-сацыялісту, які адкрыта хваліцца, што ў багацейшага чалавека скраў бы што заўгодна. А вось вам і вынік! Вось вам багацейшы чалавек, які сёння не пабагацеў.

— Змесціва маёй галавы я ад вас таксама не хаваю, — крыху стомлена адказаў айцец Браўн. — А чаго яно вартае, вырашыце самі. Вось першае, што я выцягну з гэтай падзапамятаванай кішэні: хто збіраецца скрасці дыяменты, той не стане ўслых хваліць сацыялізм. Вось асуджаць, — рахмана дадаў ён, — гэта магчыма.

Абодва астатнія тузануліся, а святар працягваў:

— Разумееце, мы ж іх больш-менш ведаем. Гэты сацыяліст не болей здатны скрасці дыяменты, чым егіпецкую піраміду. Нам бы хутчэй зірнуць на адзінага незнаёмага. На таго, што граў паліцэйскага, на Фларыяна. Ведаць бы, дзе ён цяпер.

Панталонэ падхапіўся і вялікімі крокамі выйшаў з пакоя. Пасля была інтэрлюдыя, цягам якой мільянер углядаўся ў святара, а святар — у брэвіярый. Тады Панталонэ вярнуўся й змрочна і адрывіста сказаў:

— Паліцэйскі так і ляжыць на сцэне. Заслону ўжо шэсць разоў паднялі ды апусцілі, а ён усё ляжыць.

Айцец Браўн выпусціў з рук кнігу і ўтаропіўся перад сабою раптоўна спусцелым позіркам. Патроху ў ягоных шэрых вачах ізноў заняплілася святло, і ён вымавіў не дужа чаканае пытанне:

— Даруйце, палкоўнік, але калі памерла вашая жонка?

— Жонка? — здзіўлена адгукнуўся вайсковец. — Два месяцы мінула. Джэймс, яе брат, усяго на тыдзень спазніўся яе пабачыць.

Караценькі святар падскочыў, як падстрэлены трусік.

— Хутчэй! — усклікнуў ён з нечаканым хваляваннем. — Хутчэй! Трэба зірнуць на паліцэйскага.

Яны рынуліся да схаванай заслонаю сцэны, ледзь не наляцеўшы на Каламбіну ды клоўна, якія вельмі ціхамірна пра нешта шапталіся, і айцец Браўн схіліўся над бязрушным комікам-палісменам.

— Хлараформ, — сказаў ён, выпрастаўшыся. — Чаму я раней не здагадаўся!

Была разгубленая цішыня, а тады палкоўнік павольна прагаварыў:

— Калі ласка, растлумачце як ёсць, што ўсё гэта значыць.

Айцец Браўн раптоўна разрагатаўся, пасля спыніўся, але гаварыў не без цяжкасці, змагаючыся з новымі прыпадкамі смеху.

— Джэнтльмены, — выціснуў ён, — часу тлумачыць няма. Мне трэба даганяць злачынцу. Але гэты вялікі французскі актор, які граў палісмена, гэты пераканаўчы мярцвяк, якога Арлекін кружыў, гайдаў ды шпуляў туды й сюды, — гэта быў... — тут голас ізноў адмовіўся яму служыць, і ён бегма кінуўся прэч.

— Гэта быў?.. — запытальна гукнуў яму наўздагон Фішэр.

— Сапраўдны палісмен, — адказаў айцец Браўн і знік у цемры.

У дальнім закуце густога саду хаваліся зацішныя альтанкі, а неўміручая зелень лаўраў пад шафіравым небам і срэбным месяцам нават цяпер, пасярод зімы, ззяла цёплымі адценнямі поўдня. Яркія трапяткія лісты, пурпуровая начная сінь і месяц нібы велічэзны крышталь — рамантычная карціна, амаль легкадумная. А між верхніх галінаў дрэваў караскаецца дзіўная фігура — не настолькі рамантычная, наколькі неймаверная. Яна мігаціць з галавы да ног, нібы апранутая ў тысячу меся-

цаў, а сапраўдны месяц ловіць кожны яе рух і запальвае на ёй новы агеньчык. Вось яна перабіраецца, зіхоткая ды жвавая, з нізкага дрэва ў гэтым садзе на высокае ды разлапістае ў суседнім, і таму толькі спыняецца, што пад меншае дрэва слізгае якісь цень і беспамылкова гукае па імені.

— Што ж, Фламбо, — кажа гэты цень, — вы і сапраўды выглядаеце Лятучай Зоркай. А пра лятучую зорку гавораць яшчэ так: зорка падае.

Срэбная зіхоткая фігура ўверсе, здаецца, нахіляецца з галіны лаўра і, пэўная ў бяспецы ўцёкаў, слухае малую фігурку ўнізе.

— Вы ніколі шчэ не кралі так прыгожа, Фламбо. Што за кемлівая выдумка: прыехаць з Канады (з білетам ад Парыжа, мяркую) усяго праз тыдзень пасля смерці місіс Адамс, калі ўсім не да пытанняў. А хіба мала кемлівасці ў тым, як вы высачылі Лятучыя Зоркі і вызналі дзень прыезду Фішэра? Але тое, што было далей, — гэта ўжо не кемліва, а папросту геніяльна. Скрасці камяні, мяркую, вам было зусім проста. Калі б і не прыдумалі чапляць той асліны хвост да Фішэравага фрака, дык знайшлі б сотню іншых спосабаў. Але ў астатнім вы зацьмілі самога сябе.

Зіхоткі чалавек сярод зялёнага лісця не рухаецца, нібы загіпнатызаваны, хаця ўцёкам нішто не замінае. Ён глядзіць на чалавека ўнізе.

— Так, так, — кажа чалавек унізе. — Я ўсё ведаю. Ведаю, што вы і падбухторылі ўсіх на пантаміму, і здабылі з яе дзве карысці разам. Вы збіраліся скрасці камяні цішком, але прыйшла навіна ад суўдзельніка: вас ужо падазраюць, і здольны паліцэйскі збіраецца спыніць вас у гэты самы вечар. Звычайны злодзей быў бы ўдзячны за папярэджанне і ўцёк бы. Але вы паэт. Задума схаваць дыяменты сярод бляску маскарадных аздобаў прыйшла першаю. А тады вы ўцямілі, што калі апранецеся Арле-

кінам, то і з’яўленне палісмена будзе зусім дарэчы. Годны прадстаўнік уладаў выйшаў з паліцэйскага ўчастка ў Путні з намерам вас схапіць і трапіў у найдзівачнейшую пастку ў цэлым свеце. Дзверы адчыніліся — і ён увайшоў проста на сцэну каляднай пантамімы, дзе весялун-Арлекін мог лупцаваць яго, і пхаць, і аглушыць, і ўсыпіць, і ўсё гэта пад грамавы рогат найвялебнейшых людзей у цэлым Путні. Не, лепшага вам і самому не выдумаць. А цяпер, між іншым, можаце і аддаць мне дыяменты.

Зялёная галіна, на якой гайдалася бліскучая фігура, зашалахцела, нібы ў здзіўленні, а голас працягваў:

— Я хачу, каб вы іх вярнулі, Фламбо, і хачу, каб вы кінулі такое жыццё. У вас ёсць яшчэ маладосць, і гонар, і гумар. Не марце, што захаваеце іх пры такім рамястве. Чалавеку па сілах больш-менш трымацца на адным узроўні дабра, але ніхто яшчэ не ўтрымаўся на адным узроўні зла. Гэтая дарога вядзе пад ухіл. Лагодны п’е і робіцца жорсткім. Праўдзівы забівае і адгэтуль змушаны хлусіць. Я ведаў шмат людзей, што пачалі, як вы, разбойнікамі з сумленнем, вясёлымі рабаўнікамі багацеяў, а скончылі па горла ў брудзе. Морыс Блум пачынаў перакананым анархістам, бацькам бедакоў, а скончыў гідкім шпіёнам і выказчыкам, якім абодва бакі карысталіся і грэбавалі. Калі Гары Бёрк заснаваў свой рух за вызваленне багацця, ён быў досыць шчыры, а цяпер бясконца цягне грошы на выпіўку са згалелай галоднай сястры. Лорд Эмбер шукаў таварыства беззаконнікаў з пэўнага рыцарства; а цяпер плаціць і плаціць апошнім вылюдкам сярод лонданскіх шантажыстаў. Капітан Барыён быў калісьці знакаміты джэнтльмен-апаш, вы ўжо не чулі аб ім. Ён памёр у вар’ятні, енчачы ад жаху перад шныпарамі і перакупшчыкамі, якія здрадзілі яму й цкавалі яго. Я ведаю, Фламбо, гушчары за вамі выглядаюць такімі вольнымі. Я ведаю, вы можаце ўраз у іх знік-

нуць, нібы малпа. Але аднойчы вы будзеце старою, сівою малпаю, Фламбо. І вы будзеце сядзець у сваім вольным гушчары, з холадам у сэрцы, са смерцю за плячыма, і на дрэвах вакол не будзе ні лісточка.

Нічога не зварухнулася. Чалавечак унізе нібыта трымаў таго, у вецці, на доўгім нябачным ланцужку. І ён працягваў:

— Вы ўжо зрабілі крок пад ухіл. Вы заўжды хваліліся, што не робіце нічога нізкага, а сёння ўчынілі нізасць. Вы пакідаеце падазрэнні на сумленным хлопцу, якога і так многія не любяць. Вы разлучаеце яго з дзяўчынаю, якую ён кахае і якая кахае яго. Але вы зробіце шмат і ніжэйшага, перш чым памерці.

Тры зіхоткія дыяменты ўпалі з дрэва на дзірван. Маленькі чалавечак нахіліўся іх падняць, а калі зноў зірнуў уверх, зялёная клетка галля ўжо спусцела, а срэбная птушка знікла.

Пасля вяртання дыяментаў (іх выпадкова знайшоў — хто б мог падумаць! — айцец Браўн) вечар завершыўся ў нямоўчнай радасці. А сэр Леапольд, ззяючы добрым настроем, нават сказаў святару, што хоць сам і трымаецца шырэйшых поглядаў, але здольны паважаць тых, ад каго вера патрабуе жыць замкнёна і зусім нічога не ведаць аб свеце.

*Пераклаў з ангельскай Антон Францішак Брыль*

# ЖАЛОБА МАРКІЗА МАРНА

Сполах маланкі выбеліў шэры лес, не абмінуўшы ў маршчыністай лістоце ніводнага скручанага лісціка, быццам выгравіяваў ці срэбнай іголкай прарысаваў кожную дэталь. Той жа дзіўны трук, якім маланка нібыта за адно імгненне выпісала мільёны драбніц, паказаў усё: ад элегантнага хаосу разгорнутага пад вязам пікніка да бледнай стужкі звілістай дарогі, у канцы якой людзей чакала белае аўто. На адлегласці стаяў меланхалічны асабняк з чатырма замкавымі вежамі. У шэрым змроку ён быў проста далёкім і невыразным нагрувашчаннем муроў, няйначай раздзёртая ветрам хмарына, а цяпер нібыта выскачыў на пярэдні план і ўзнёс над наваколлем свой умацаваны дах і пільныя пустыя вокны. Ад гэтага сполах набываў рысы адкрыцця. Бо для часткі кампаніі, якая сабралася пад дрэвам, гэты замак і напраўду быў нечым зніклым і амаль забытым, а ў хуткім часе мусіў давесці, што здольны зноў выйсці ў іх жыцці на пярэдні план.

На імгненне святло той жа срэбнай веліччу агарнула прынамсі адну з постацяў, нерухомую, як і вежы асабняка. Гэта была фігура высокага мужчыны, які стаяў на ўзгорку і такім чынам узвышаўся над іншымі, большасць з якіх сядзела на траве або збірала, схіліўшыся, посуд у кошык. На ім быў маляўнічы кароткі плашч ці накід-

ка на срэбнай шпільцы з ланцужком, якая зоркай загарэлася, калі яе крануў сполах. У яго нерухомай фігуры было нешта металічнае, і гэтае ўражанне ўзмацнялася колерам дробных кудзерак на галаве — бліскуча-жоўтым, можна сказаць, залатым. Здавалася, што аблічча яго старыць, бо пад яркім святлом, па-арлінаму прыгожае, яно выглядала злёгку зморшчаным і ссохлым. Магчыма, давала пра сябе знаць частае нанясенне грыму, бо Х'юга Рамэйн быў найвялікшым акторам свайго часу. У момант сполаху залатыя кудзеры, бледная маска і срэбны арнамент заблішчэлі, як даспехі, а ўжо праз імгненне яго постаць стала цёмным, ці нават чорным, сілуэтам на фоне хваравіта-шэрага дажджлівага вечаровага неба.

Нерухомы, як статуя, ён меў у сабе нешта такое, што вылучала яго з групы, якая размясцілася вакол месца, дзе ён стаяў. Пры нечаканым пробліску святла ўсе астатнія постаці міжволі скалануліся, як звычайна бывае з людзьмі, бо, хоць неба і было зацягнутае, да гэтага часу навальніцы не было. Адзіная прысутная жанчына, якая відавочна ганарылася сваёй элегантнай сівізной і выдавала такім чынам сябе як сапраўдную амерыканскую гаспадыню, мімаволі заплюшчыла вочы і рэзка ўскрыкнула. Яе муж, генерал Аўтрэм, вельмі флегматычны англа-індыец, лысы, з чорнымі вусамі і старасвецкімі бакенбардамі, кінуў стрыманы позірк угору і стаў прыбірацца далей. Хлопец па імені Мэлаў, вялізны, сарамлівы, з карымі, як у сабакі, вачыма, упусціў кубак і нехлямяжа папрасіў прабачэння. Трэцяй асобай, значна больш франтаватай, з напорыстым тварам, што нагадваў морду пранырлівага тэр'ера, і старанна зачасанымі назад сівымі валасамі, быў не хто іншы, як газетны магнат сэр Джон Кокспэр. Ён бессаромна вылаяўся, хоць ужыў і не брытанскі выраз дый меў заўважны акцэнт, бо сам прыехаў з Таронта. Высокі ж мужчына

ў кароткім плашчы стаяў у паўзмроку, зусім як статуя. Яго ярка асветлены арліны твар быў як бюст рымскага імператара, а высечаныя ў камні павекі не зварухнуліся.

Праз момант цёмны купал неба раскалоўся громам, і статуя няйначай ажыла. Чалавек зірнуў праз плячо і між іншым заўважыў:

— Хвіліны паўтары паміж сполахам і громам, але навальніца, здаецца, набліжаецца. Дрэва — не надта добрае сховішча ад маланкі, а месца, дзе можна схавацца, нам хутка спатрэбіцца, калі будзе дождж. Думаю, будзе зліва.

Хлопец трохі трывожна зірнуў на лэдзі і спытаў:

— Няўжо няма дзе схавацца? Вунь там, здаецца, дом.

— Там сапраўды дом, — змрочна адрэагаваў генерал, — ды толькі не надта гасцінны.

— Цікава ж выйшла, — сумна адказала яго жонка, — што мы трапілі пад навальніцу, і адзіны ў наваколлі дом — гэты.

Нешта ў яе тоне быццам выпрабоўвала хлопца, у якім спалучалася чуллівасць і здольнасць разумець, але спадара з Таронта тое зусім не бянтэжыла.

— Што з ім не так? — спытаў ён. — На выгляд амаль руіны.

— Гэты асабняк, — суха адказаў генерал, — належыць маркізу Марну.

— Ого! — сказаў сэр Джон Кокспэр. — Я чуў пра гэтага фрукта не раз, той яшчэ дзівак. Летась прысвяціў ягонай гісторыі першую паласу ў «Комет». «Нікому не вядомы маркіз».

— Але, я таксама пра яго чуў, — напаўголасу сказаў малады Мэлаў. — Якіх толькі баек не расказваюць пра тое, чаму ён так хаваецца. Я чуў, што ён носіць маску, бо шалудзівы. А нехта казаў мне, што на яго сям'і ляжыць праклён, дзіця нарадзілася з нейкай страшэннай выродлівасцю, і яго хаваюць у цёмным пакоі.

— У маркіза Марна тры галавы, — на поўным сур'ёзе заўважыў Рамэйн. — Раз на тры стагоддзі іх генеалагічнае дрэва аздабляе трохгаловы маркіз. Ніхто не насмельваецца набліжацца да праклятага дома, акрамя маўклівай чарады шапавалаў, якіх пасылаюць, каб забяспечыць сям'ю неверагоднай колькасцю капелюшоў. Але, — і яго інтанацыя зрабіла адзін з тых глыбокіх і страшных паваротаў, што выклікалі такое захапленне ў тэатры, — сябры мае, людзі капелюшоў такой формы не носяць.

Амерыканка пахмура паглядзела на яго з лёгкім ценем недаверу, быццам той фокус з голасам мімаволі ўзрушыў яе.

— Мне не даспадобы вашыя агідныя жарты. — сказала яна, — У любым разе, я б папрасіла вас больш так не жартаваць.

— Слухаю і падпарадкоўваюся, — адказаў актор, — але ці забаронена мне, як Лёгкай брыгадзе ў вершы Алфрэда Тэнісана, нават пацікавіцца, у чым прычына?

— Прычына, — адказала яна, — у тым, што ён не *нікому* не вядомы маркіз. Я сама знаю яго, ці, прынамсі, была з ім вельмі добра знаёмая трыццаць гадоў таму, калі мы ўсе былі яшчэ маладымі, а ён служыў аташэ ў Вашынгтоне. І ён не насіў маскі, прынамсі, не пры мне. Ён не быў шалудзівым, хоць, можа, і быў нагэтулькі ж самотным. Ён меў толькі адну галаву і ўсяго адно сэрца, і яно было разбітае.

— Ну вядома ж, няшчаснае каханне, — сказаў Кокспэр. — Я б такое надрукаваў у «Комет».

— Напэўна, для нас гэта мусіць быць кампліментам, — задуменна адказала яна, — калі вы думаеце, што разбітае мужчынскае сэрца — заўсёды справа рук жанчыны. Але любоў і смутак бываюць рознымі. Вы ніколі не чыталі «In Memoriam» Тэнісана? Ніколі не чулі пра Давіда і Іянафана? Гаротнага Марна зламала смерць брата. Па-

праўдзе, той быў яму стрыечны брат, але яны выхоўваліся разам, як родныя, і былі адзін аднаму бліжэйшымі за многіх родных. Джэймс Мэйр, як звалі маркіза, калі мы былі знаёмыя, быў з іх старэйшы, але ён заўсёды абагаўляў Морыса Мэйра. І калі верыць яго расказам, Морыс Мэйр сапраўды быў цудам. Джэймс быў зусім не дурань і меў вельмі добрыя поспехі ў сваёй галіне — палітыцы, але Морыс, здаецца, мог займацца і гэтай, і любой іншай справай: ён быў бліскучым мастаком, акторам-аматарам, музыкам — чаго ён толькі не рабіў. Сам Джэймс быў вельмі прыгожы — высокі, дужы і энергічны, прамы грэцкі нос... Але мне здаецца, маладыя людзі маглі б палічыць, што з гэтай барадой, якая па-віктарыянску раздзялялася на кашлатыя бакенбарды, ён выглядае занадта эксцэнтрычна. А вось Морыс галіўся гладка і, мяркуючы па партрэтах, якія мне паказвалі, выглядаў проста чароўна, хоць і быў занадта падобны да опернага тэнара, што не ўпрыгожвае джэнтльмена. Джэймс зноў і зноў прасіў, каб я адказала, ці не цуд яго сябар, ці ж не любая жанчына закахаецца ў яго і гэтак далей, пакуль ад гэтага не пачало ўжо нудзіць, ды толькі занадта хутка ўсё абярнулася трагедыяй. Было ўражанне, што гэтая манія запоўніла ўсё яго жыццё, і вось аднойчы ідал упаў і разбіўся, як фарфоравая лялька. Прастыў на моры і канец.

— І пасля гэтага, — спытаў хлопец, — ён так ад усіх адгарадзіўся?

— Спачатку ён паехаў за мяжу, — адказала жанчына, — пабываў у Азіі, на Канібалавых астравах і Бог ведае дзе. Розныя людзі па-рознаму пераносяць такія цяжкія ўдары. Для яго гэта вылілася ў адасабленне і разрыў з усім, нават са звычкамі і, наколькі гэта магчыма, з успамінамі. Ён не мог трываць напамінаў пра сваю старую прыхільнасць — партрэтаў, гісторый і нават асацыяцый. Не вытрываў і арганізацыі вялікага публічнага пахавання. Яго цягнула прэч. Ён не вяртаўся

дзесяць гадоў. Я чула, што пад канец свайго выгнання ён пачаў быў патроху папраўляцца, але варта было вярнуцца дадому, як адбыўся моцны рэцыдыў. Яго ахапіла рэлігійная хандра, а гэта ўжо практычна вар'яцтва.

— Кажуць, трапіў у лапы папáм, — прабурчаў стары генерал. — Ведаю, што ён тысячы аддаў, каб фундаваць манастыр, і сам жыве амаль як манах — ці прынамсі самотнік. Не разумею, які яны ў гэтым бачаць сэнс.

— Чортавы забабоны ўсё, — фыркнуў Кокспэр, — пра такое трэба пісаць. Вось чалавек, які мог прынесці карысць Імперыі і ўсяму свету, а гэтыя крывасмокі ўхапіліся і ўсе сокі з яго цягнуць. Іду ў заклад, яны са сваімі расказамі пра той свет нават ажаніцца яму не даюць.

— Вашая праўда, ён так ніколі і не ажаніўся, — сказала лэдзі. — Шчыра кажучы, у час нашага знаёмства ён быў заручаны, але не думаю, што гэта хоць калі мела для яго вялікае значэнне, і ён забыўся пра нявесту, як і пра ўсіх іншых. Як у Гамлета і Афеліі — ён не хоча любіць, бо не хоча жыць. Але я знала тую дзяўчыну, папраўдзе, знаю яе і цяпер. Між намі кажучы, гэта была Віёла Грэйсан, дачка старога адмірала. Яна таксама дагэтуль не выйшла замуж.

— Вось жа паскудства! Чорт ведае што! — усклікнуў сэр Джон, ускочыўшы. — Гэта не проста трагедыя, гэта злачынства. Я маю абавязак перад грамадствам, і я хачу на ўласныя вочы ўбачыць увесь гэты абсурдны кашмар. У дваццатым стагоддзі...

Ён ледзь не задыхаўся ад абурэння. Памаўчаўшы, стары ваяка дадаў:

— Я не сцвярджаю, што шмат пра тое ведаю, але мне здаецца, усім гэтым аматарам рэлігіі не зашкодзіла б прачытаць кніжку, у якой сказана: «Пакінь мёртвым хаваць сваіх памерлых».

— Вось толькі, на жаль, усё менавіта так, як і выглядае, — з уздыхам сказала яго жонка. — Як нейкая жу-

дасная гісторыя пра мерцвяка, што зноў і зноў бясконца хавае іншага такога ж, як ён.

— Бура нас абышла, — сказаў Рамэйн з даволі загадкавай усмешкай. — Усё ж не давядзецца вам наведваць гэты негасцінны дом.

Жанчына раптам скаланулася.

— О, гэтага мне больш не трэба! — усклікнула яна.

Мэлаў пільна паглядзеў на яе.

— Больш? А вы ўжо спрабавалі? — спытаў ён.

— Ну, аднойчы, — сказала яна з лёгкасцю, але не без ценю гонару. — Не варта нам пра гэта ўспамінаць. Дождж скончыўся, і здаецца, нам лепш вяртацца да аўто.

Яны рушылі гужам, які замыкалі Мэлаў і генерал, і апошні раптам сказаў, сцішыўшы голас:

— Не хачу, каб гэты дробны хам Кокспэр чуў, але раз вы пыталі, то лепш вам ведаць. Гэтага я Марну не дарую, хоць і думаю, што гэта манахі яго падвучылі. Мая жонка, якая была яму ў Амерыцы найлепшым сябрам, і праўда хадзіла ў той дом. Ён у той час шпацыраваў па садзе. Ён глядзеў сабе пад ногі, як манах, схаваўшыся пад чорным капюшонам. Смяхотны, быццам у масцы. Яна перадала ў дом візітоўку, а сама стаяла і чакала проста на яго дарозе. І ён прайшоў міма яе — ні слова, ні позірку, быццам яна камень. Гэта быў не чалавек, а нейкая жахлівая машына. Яна магла прыняць яго за труп.

— Усё гэта вельмі дзіўна, — няўпэўнена сказаў хлопец. — Гэта ўсё не тое... не тое, чаго можна было б чакаць.

Пасля гэтага даволі сумнага пікніка малады містэр Мэлаў з сур'ёзнымі думкамі заняўся пошукамі аднаго свайго сябра. Ён не знаў ніводнага манаха, але сярод яго знаёмых быў святар, якога ён вельмі захацеў азадачыць цікавым адкрыццём, што сёння зрабіў. Ён адчуваў, што таму было б вельмі цікава разабрацца ў нядобрых прым-

хах, якія сабраліся над домам Марнаў чорнай хмарай, як тая, што праплыла над асабняком у той дзень на яго вачах.

Некалькі разоў яго адпраўлялі то ў адно месца, то ў другое, і ўрэшце ён асачыў айца Браўна ў доме іншага свайго сябра, рыма-каталіка з вялікай сям'ёй. Ён уляцеў у пакой і ўбачыў, як айцец Браўн сядзіць з сур'ёзным тварам на падлозе і намагаецца прышпіліць рабаваты капялюш ад васковай лялькі на галаву плюшаваму мядзведзіку.

Мэлаў адчуў лёгкі дысананс, але быў занадта заклапочаны ўласнай праблемай, каб адкладаць размову. Ён не мог цвёрда стаяць на нагах ад расчаравання, што стала вынікам доўгага падсвядомага працэсу. Ён выvalіў трагедыю роду Марнаў ад пачатку і да канца ў тым выглядзе, у якім пачуў яе ад жонкі генерала, а таксама пераказаў большасць каментароў самога генерала і газетнага магната. Калі прагучала імя Кокспэра, канцэнтрацыя ўвагі ў пакоі неяк павысілася.

Айцец Браўн не ўсведамляў, што яго паводзіны могуць выглядаць камічна, дый не надаваў гэтаму значэння. Ён па-ранейшаму сядзеў на падлозе і са сваёй вялікай галавой і кароткімі нагамі дужа нагадваў малога, што гуляецца з цацкамі. Але яго вялізныя шэрыя вочы набылі выраз, які можна было ўбачыць у вачах многіх людзей за дзевятнаццаць стагоддзяў гісторыі. Што праўда, зазвычай тыя людзі сядзелі не на падлозе, а пры стале на нарадзе, ці ў крэсле на сходзе, або на епіскапскім ці кардынальскім троне. Скіраваны ўдалечыню, пільны позірк, цяжкі ад пакоры перад завялікай для чалавека адказнасцю. Такі трывожны позірк некуды за далягляд можна ўбачыць у маракоў ды яшчэ ў тых, хто прайшоў праз шмат штормаў на караблі святога Пятра.

— Як добра, што вы мне пра гэта расказалі, — сказаў ён. — Праўда, я страшна ўдзячны, бо з гэтым нам,

відаць, нешта давядзецца рабіць. Калі б гаворка была толькі пра такіх людзей, як вы з генералам, то ўсё магло б застацца справай прыватнай, але паколькі сэр Джон Коксмэр збіраецца ўзняць гвалт у сваіх газетах... аняго ж, ён жа аранжыст з Таронта, дык і нам не выпадае заставацца ўбаку.

— Але што вы на гэта ўсё скажаце? — узрушана спытаў Мэлаў.

— Перш за ўсё я на гэта скажу, — прамовіў айцец Браўн, — што тое, як вы гэта падаяце, да праўды не падобнае. Дапусцім — выключна дзеля дыскусіі, — што мы і праўда ўсе змрочныя крывасмокі і дарэшты разбураем людское шчасце. Дапусцім, я — змрочны крывасмок, — ён пачухаў нос мядзведзікам, але пачаў усведамляць недарэчнасць сваіх паводзінаў і адклаў яго. — Дапусцім, мы разбураем усе асабістыя і сямейныя повязі. Навошта нам ізноў распальваць у чалавеку старую сямейную прыхільнасць у той момант, калі ён пачынае паказваць прыкметы выбаўлення ад яе? Вядома ж, не зусім справядліва адначасова абвінавачваць нас у тым, што мы разбураем повязі і тут жа тыя самыя захапленні заахвочваем. Не разумею, адкуль нават рэлігійны маньяк мог бы мець такую манію, а таксама як рэлігія можа гэтую манію павялічыць, за выключэннем таго, каб асвятліць яе промнем надзеі.

І пасля паўзы ён дадаў:

— Я б хацеў пагутарыць з гэтым вашым генералам.

— Гэта яго жонка расказала, — сказаў Мэлаў.

— Так, — быў адказ, — але мне больш цікава, пра што змаўчаў ён, а не што расказала яна.

— Вы мяркуеце, што ён ведае больш за яе?

— Мяркую, яму вядома больш, чым яна расказала, — адказаў айцец Браўн. — Вы кажаце, ён абмовіўся, што дараваў бы ўсё, толькі не грубасць да яго жонкі. Зрэшты, а што яму яшчэ дараваць?

Айцец Браўн устаў, абтрос сваю бясформенную вопратку і так і стаяў ды глядзеў на хлопца напружаным, злёгку збянтэжаным позіркам. Праз момант ён павярнуўся, узяў свой не менш бясформенны парасон і вялікі пацёрты капялюш і патупаў па вуліцы.

Ён мінуў не адну шырокую вуліцу і плошчу, пакуль не прыйшоў да прыгожага старасвецкага дома ў Вест-Эндзе, дзе спытаў слугу, ці можна пабачыцца з генералам Аўтрэмам. Кароткая дзяжурная размова — і яго ўрэшце правялі ў кабінет, дзе кнігі саступалі па колькасці мапам і глобусам. У ім сядзеў лысы англа-індыец з чорнымі бакенбардамі, курыў доўгую тонкую цыгару і гуляўся са шпількамі на мапе.

— Даруйце, што ўрываюся, — сказаў святар, — асабліва таму, што маё ўварванне мяжуе з умяшаннем у ваш занятак. Я хачу абмеркаваць з вамі прыватную справу, але выключна ў спадзяванні, што яна і застанецца прыватнай. На жаль, здаецца, ёсць людзі, якія хочуць зрабіць яе публічнай. Генерал, мяркую, вы ведаеце сэра Джона Кокспэра.

Маса з чорных вусаў і бакаў старога генерала служыла ніжняй частцы яго твару як бы маскай. Ніколі нельга было разгледзець, ці не ўсміхаецца ён, але ў яго карых вачах часта загараўся агеньчык.

— Я думаю, яго ведаюць усе, — сказаў ён. — Я не надта добра з ім знаёмы.

— Але ж вам вядома, што калі ён нешта ведае, то пра гэта дазнаюцца ўсе, — з усмешкай сказаў айцец Браўн, — калі ён лічыць, што тое выгадна надрукаваць. І са словаў свайго сябра, містэра Мэлаў, якога, думаю, вы таксама ведаеце, я дазнаўся, што сэр Джон збіраецца надрукаваць некалькі гарачых антыклерыкальных артыкулаў, заснаваных на Таямніцы Марнаў, як ён гэта называе. «Манахі даводзяць маркіза да вар'яцтва» і гэтак далей.

— Калі друкаваць іх будзе ён, — адказаў генерал, — дык не разумею, нашто вы з гэтай праблемай прыйшлі да мяне. Мушу вас папярэдзіць, я заўзяты пратэстант.

— Я вельмі прыхільна стаўлюся да заўзятых пратэстантаў, — сказаў айцец Браўн. — Я прыйшоў да вас, бо быў упэўнены, што вы раскажаце мне праўду. Спадзяюся, з майго боку не будзе празмернай жорсткасцю сказаць, што я не настолькі ўпэўнены ў сэру Джону Кокспэру.

Карыя вочы яшчэ раз міргнулі, але генерал нічога не адказаў.

— Генерал, — сказаў айцец Браўн, — уявіце, што Кокспэр ці нехта да яго падобны збіраецца раззваніць на ўвесь белы свет абразлівыя байкі пра вашую краіну і ваш сцяг. Уявіце, што ён сказаў, што ваш полк уцёк з поля бою або што ваш штаб прадаўся ворагу. Ці дапусцілі б вы, каб нешта стала паміж вамі і фактамі, здольнымі яго абвергнуць? Хіба ж вы не знайшлі б праўду любой цаной? Дык вось, у мяне ёсць полк, і я належу да арміі. Іх дыскрэдытуюць гісторыяй, якая, я перакананы, ёсць хлуснёй, але як усё было насамрэч, мне невядома. Ці папракняце вы мяне за тое, што я намагаюся ў гэтым разабрацца?

Вайсковец маўчаў, і святар працягваў:

— Я чуў гісторыю, якую ўчора расказалі Мэлаў: як Марн з разбітым сэрцам аддаліўся ад свету пасля смерці таго, хто быў яму бліжэйшы за брата. Я ўпэўнены, што гэта не ўсё. Я прыйшоў спытаць вас, ці вядома вам штонебудзь яшчэ.

— Не, — каротка сказаў генерал. — Больш я вам расказаць не магу.

— Генерал, — сказаў айцец Браўн з шырокай усмешкай, — калі б я паспрабаваў адказаць гэтак двухсэнсоўна, вы б назвалі мяне езуітам.

Ваяка хрыпла засмяяўся, а пасля рыкнуў нашмат больш варожа:

— Што ж, тады проста не раскажу. Што вы скажаце на гэта?

— Скажу, — мякка адказаў святар, — што ў такім разе мне давядзецца расказаць вам.

Карыя вочы ўтаропіліся ў яго, але цяпер у іх не было агеньчыка. Айцец Браўн працягваў:

— Вы прымушаеце мяне тлумачыць — бадай не так спагадліва, як маглі б, — чаму ў мяне няма сумневаў, што за гэтай гісторыяй хаваецца нешта яшчэ. Я цалкам упэўнены, што ў маркіза ёсць больш значная прычына паглыбіцца ў сябе і схавацца ад людзей, чым проста страта старога сябра. І я сумняюся, што святары маюць да яе дачыненне. Я не ведаю нават, навярнуўся ён у каталіцызм або проста суцяшае сумленне міласцінай, але я пэўны, што гэта не проста жалоба. Паколькі вы настойваеце, я назаву вам некалькі прычын, што прымушаюць мяне так думаць. Па-першае, сцвярджалася, што Джэймс Мэйр быў заручаны, але чамусь разышоўся з нявестай пасля смерці Морыса Мэйра. Нашто прыстойнаму чалавеку разрываць заручыны, калі ён проста смуткуе пра смерць некага іншага? Значна больш натуральна было б звярнуцца па суцяшэнне да нявесты, але ў любым разе правілы прыстойнасці абавязвалі яго прайсці праз усё з годнасцю.

Генерал кусаў свае чорныя вусы, яго карыя вочы глядзелі вельмі засяроджана і нават трывожна, але ён не адказваў.

— Па-другое, — казаў айцец Браўн, пахмура гледзячы на стол, — Джэймс Мэйр заўсёды прасіў прыяцельку пацвердзіць, што яго кузэн Морыс — проста цуд і што жанчыны ад яго будуць у захапленні. Не ведаю, ці прыходзіла лэдзі думка, што такія пытанні могуць мець і іншую прычыну.

Генерал падняўся на ногі і пачаў хадзіць, тупаючы, па пакоі.

— Халера яго бяры, — сказаў ён, але зусім без варожасці.

— Па-трэцяе, — працягваў айцец Браўн, — цікавая ў Джэймса Мэйра манера сумаваць — знішчаць усе рэліквіі, усе партрэты і гэтак далей. Прызнаю, часам такое здараецца. Гэта можа быць знакам цяжкай страты дарагога чалавека. Але можа значыць і нешта іншае.

— Чорт бы вас узяў, — сказаў ягоны суразмоўца. — Калі вы ўжо скончыце?

— Чацвертая і пятая прычыны даволі пераканаўчыя, — спакойна адказаў святар, — асабліва калі зірнуць на іх разам. З аднаго боку, у Морыса Мэйра фактычна не было хаўтураў, і гэта пры тым, што ён быў малодшым сынам у вядомай сям'і. Яго, мусіць, пахавалі спехам, магчыма, таемна. І апошняя прычына — тое, што Джэймс Мэйр адразу ж знік у замежжы, па сутнасці, збег на край зямлі. Дык вось, — працягваў ён тым жа мяккім голасам, — калі вы пачняце чарніць маю рэлігію, каб прыхарашыць гісторыю чыстай і бездакорнай любові двух братоў, то мне здаецца...

— Досыць! — крык Аўтрэма прагучаў як пісталетны стрэл. — Я мушу расказаць вам рэшту, або вы надумаеце яшчэ горшае. Пачнем з таго, што я вам скажу адну рэч. Гэта быў сумленны бой.

— Ах, — вымавіў айцец Браўн і быццам гучна выдыхнуў.

— Гэта быў двубой, — сказаў генерал. — Мабыць, апошні двубой у Англіі, і мінула ўжо шмат часу.

— Гэта ўжо лепш, — сказаў айцец Браўн. — Дзякуй Богу, гэта значна лепш.

— Лепш за тыя брыдоты, што вы сабе надумалі, я так разумею? — хрыпла спытаў генерал. — Ну, ад вас гэтага можна было чакаць — здзекуецеся з чыстых і бездакор-

ных пачуццяў, але ўсё так і было. Джэймс Мэйр сапраўды быў адданы стрыечнаму брату, які гадаваўся разам з ім як родны. Старэйшыя браты і сёстры часам і праўда аддаюцца вось так дзіцяці, асабліва калі тое настолькі незвычайнае. Але Джэймс Мэйр быў адной з тых чыстых натураў, у якіх нават нянавісць па-свойму бескарыслівая. Я хачу сказаць, што нават калі пяшчота ў ім ператвараецца ў лютасць, то і яна застаецца аб'ектыўнай, скіраванай вонкі, ён не памятае пра сябе. Гаротны ж Морыс Мэйр быў поўнай супрацьлегласцю. Ён быў значна больш прыязны, і яго любілі, але праз гэты поспех ён жыў у доме з люстэркаў. Ніхто не мог зраўняцца з ім у спорце, мастацтве і іншых дасягненнях, ён амаль заўжды перамагаў і вельмі чароўна радаваўся перамозе. Але варта было яму хоць выпадкова прайграць, на яго наплываў не такі ўжо і чароўны цень: ён трохі зайздросціў. Няма патрэбы расказваць вам усю трагічную гісторыю таго, як ён трохі зайздросціў братавым заручынам, як не мог утрымацца ад бясконцых і мітуслівых спробаў умяшацца. Дастаткова сказаць, што адна з нямногіх рэчаў, у якіх Джэймс Мэйр значна яго пераўзыходзіў, было валоданне пісталетам. Так трагедыя і скончылася.

— Вы хацелі сказаць, пачалася, — адказаў святар.— Трагедыя таго, хто выжыў. Я думаю, ён стаў няшчасным і без дапамогі розных манахаў-крывасмокаў.

— Як на мяне, ён пакутуе больш, чым заслугоўвае, — прамовіў генерал. — Урэшце, як я ўжо сказаў, хоць гэта і жахлівая трагедыя, але паядынак быў сумленны. І Джыма моцна справакавалі.

— Адкуль вам гэта вядома? — спытаў святар.

— Мне гэта вядома, таму што я ўсё бачыў, — флегматычна адказаў Аўтрэм. — Я быў секундантам Джэймса Мэйра і на ўласныя вочы бачыў, як Морыс Мэйр ляжыць забіты на пяску.

— Як бы я хацеў, каб вы расказалі пра гэта падрабязней, — задумліва сказаў айцец Браўн. — Хто быў секундантам Морыса Мэйра?

— Той бок быў больш дасведчаны, — змрочна адказаў генерал. — Яго секундантам быў Х'юга Рамэйн, вялікі актор — вы ведаеце. Морыс тады шалеў ад акторскага майстэрства і ўзяўся за Рамэйна (чыя папулярнасць ужо расла, але яшчэ даводзілася цяжкавата), дапамагаў яму грашыма і спансаваў яго спробы, а наўзамен браў урокі ў прафесіянала, бо акторскае майстэрства было ягоным хобі. Думаю, Рамэйн на той час практычна залежаў ад свайго заможнага сябра, хоць цяпер ён багацейшы за любога арыстакрата. Таму тое, што ён быў секундантам, вельмі мала гаворыць, што ён сам думаў пра іх сварку. Яны біліся на англельскі манер, у кожнага па адным секунданту. Я хацеў, каб прысутнічаў хаця б хірург, але Морыс з крыкамі адмовіўся і сказаў, што чым менш людзей ведае, тым лепш, і ў найгоршым выпадку мы зможам неадкладна паклікаць дапамогу. «Доктар ёсць у вёсцы менш за паўмілі адсюль, — сказаў ён. — Мы знаёмыя, і ў яго самы шпаркі конь у краіне. Яго можна імгненна даставіць сюды, але няма патрэбы клікаць яго, пакуль нічога не вядома». Вось жа, мы ўсе разумелі, што Морыс рызыкаваў найбольш, бо пісталет быў не ягонай зброяй. Таму калі ён адмовіўся ад помачы, ніхто ўжо не хацеў яе прасіць. Паядынак адбываўся на роўным пясчаным участку на ўсходнім узбярэжжы Шатландыі. Доўгая сцяна пясчаных узгоркаў, аздобленых сям-там астраўкамі травы, хавала яго ад вачэй і вушэй жыхароў вёсак, што ляжалі далей ад берага. Гэта была, відаць, частка поля для гольфу, хоць у той час пра гольф не чуў яшчэ ніводзін англелец. У пагорках была адна глыбокая звілістая расколіна, праз якую мы выйшлі на пяскі. Я і цяпер нібыта бачу іх: спачатку шырокая мярцвяна-жоўтая паласа, а за ёй вузейшая, цёмна-чырвоная.

Цёмна-чырвоная, быццам крывавая справа ўжо пакінула па сабе доўгі цень.

— Самі падзеі, здавалася, развіваліся з жахлівай хуткасцю, быццам віхор урэзаўся ў пясок. Адначасова з трэскам стрэлу Морыс Мэйр перакруціўся, быццам турок, і тварам долу грымнуўся на зямлю, як кегля. І што дзіўна, я турбаваўся за яго да гэтага самага моманту, але варта было яму памерці, мне стала шкада таго, хто яго забіў. І дагэтуль шкада. Я ведаў, што разам з гэтым велізарны жахлівы ківач прыхільнасці, якую мой сябар пранёс праз усё жыццё, пачне рухацца ў адваротным напрамку. І якія б прычыны ні знаходзілі іншыя, каб дараваць яму, сам ён не даруе сабе давеку. Вось жа, чамусьці найярчэйшы ўспамін, сцэна, якая гарыць у маёй памяці і не дае пра сябе забыцца, — гэта не катастрофа, не дым, сполах і фігура, якая падае. Здавалася, што гэта ўсё мінула, як гук, які абуджае чалавека. Тое, што я ўбачыў, што я заўжды буду бачыць, — гэта гаротны Джым, які бяжыць да месца, дзе ўпала цела яго сябра і ворага. Яго карычневая барада здаецца чорнай на фоне страшэнна бледнага твару, цёмнае мора ззаду рэзка акрэслівае яго рысы. Жэсты, якімі ён апантана паказвае мне бегчы ў вёску за пагоркамі па хірурга. Пісталет ён выпусціў на бягу. У адной руцэ ў яго пальчатка, яе пустыя пальцы боўтаюцца, быццам прадаўжаючы руку, і падкрэсліваюць дзікую пантаміму, якой ён заклікаў бегчы па дапамогу. Вось карціна, якая сапраўды застаецца са мной. І на ёй няма нічога, акрамя пасаў пяску, мора і цемры на фоне, мёртвага цела, нерухомага, як камень, і цёмнай фігуры секунданта забітага, што змрочна замёр на гарызонце.

— Дык Рамэйн замёр? — спытаў святар. — Я думаў, ён пабег да цела яшчэ хутчэй.

— Можа, так і было, калі я сышоў, — адказаў генерал. — Я ўхапіў карціну ў адзін момант, а ў наступны

ўжо кінуўся прэч між пагоркаў, і ўсе схаваліся з майго поля зроку. Але ж гаротны Морыс выбраў добрага лекара. Хоць ён і прыбыў запозна, але прымчаўся хутчэй, чым я мог сабе ўявіць. Вясковы хірург быў выдатны чалавек, рыжы, запальчывы, але неверагодна жвавы і сабраны. Я бачыў яго не больш за адно імгненне, бо ён скочыў на каня і з тупатам памчаўся на месца смерці, пакінуўшы мяне далёка ззаду. Але ў той момант яго асоба так моцна мяне ўразіла, што я, далібог, хацеў бы, каб яго паклікалі перад пачаткам двубою, бо я ўсёй душой веру: ён бы неяк яго перадухіліў. Як бы там ні было, ён прыбраў сляды з неверагоднай хуткасцю. Задоўга да таго як я змог дабрацца да ўзбярэжжа, ён са сваёй бурлівай энергіяй паклапаціўся пра ўсё: цела часова пахавалі на пясчаным пагорку, а няшчаснага забойцу пераканалі зрабіць адзінае магчымае — ратаваць жыццё ўцёкамі. Ён праслізнуў уздоўж узбярэжжа, пакуль не дабраўся да порта і здолеў пакінуць краіну. Рэшту вы ведаеце: гаротны Джым шмат гадоў заставаўся за мяжой, а потым, калі ўсё сцішылася і забылася, вярнуўся ў свой пануры замак і аўтаматычна ўспадкаваў тытул. Я не бачыў яго з тых часоў і тым не менш ведаю, якія думкі нязгасна свецяцца ў самай глыбіні яго розуму.

— Я так разумею, — сказаў айцец Браўн, — што сёй-той з вас спрабаваў убачыцца з ім?

— Мая жонка ніколі не пакідала спробаў, — адказаў генерал. — Яна адмаўляецца пагаджацца, што такое злачынства мусіць назаўжды адрэзаць чалавека ад грамадства, і прызнаюся вам: я схільны думаць, што яна мае рацыю. Восемдзесят гадоў таму такое лічылі нормай, і шчыра кажучы, гэта ўсё ж не наўмыснае забойства. Мая жонка вельмі сябруе з той няшчаснай, што стала прычынай разладу, і лічыць, што калі б Джым пагадзіўся яшчэ раз сустрэцца з Віёлай Грэйсан і пачуць ад яе, што старыя сваркі засталіся ў мінулым, ён мог бы вяр-

нуцца ў здаровы розум. Калі не памыляюся, мая жонка склікае заўтра нешта накшталт сяброўскай нарады. Яна вельмі актыўная.

Айцец Браўн гуляўся са шпількамі, што ляжалі побач з генералавай мапай, і слухаў, здавалася, вельмі безуважна. Яго розум меў схільнасць бачыць усё выявамі. І выява, якая афарбавала нават празаічны розум прагматычнага салдата, яшчэ больш расквітнела значнасцю і злавеснасцю ў схільным да містыкі розуме святара. Ён бачыў цёмна-чырвоны пустэльны пясок, які дакладна паўтарае адценне пяску Акелдамы*, на ім цёмнай грудай ляжыць мёртвае цела, забойца, сагнуўшыся, бяжыць да яго і махае ў шалёным раскаянні пальчаткай, і раз за разам яго ўяўленне вярталася да трэцяй фігуры, якой ён пакуль не мог знайсці месца на чалавечай сцэне, — секундант забітага стаіць нерухома і таямніча, як цёмная статуя, пастаўленая ля самай вады. Хто-небудзь мог бы палічыць яе нязначнай дэталлю, але для яго менавіта гэтая застылая фігура прыцягвала да сябе ўвагу, як пытальнік.

Чаму Рамэйн не пабег адразу? Такой была б натуральная рэакцыя секунданта, нават проста з чалавечага пункту гледжання, не кажучы ўжо пра сяброўства. Нават калі тут замяшанае нейкае двурушніцтва, якога ён пакуль не разумее, або больш страшны матыў, такога варта было б чакаць хаця б дзеля прыстойнасці. Прынамсі, калі ўсё ўжо адбылося, секундант загінулага мусіў бы заварушыцца задоўга да таго, як другі схаваецца за пагоркам.

— Гэты Рамэйн заўсёды рухаецца марудна? — пацікавіўся ён.

— Дзіўна, што вы пытаеце, — адказаў Аўтрэм, кінуўшы на яго востры позірк. — Не, шчыра кажучы, калі ўжо ён рухаецца, то рухаецца вельмі хутка. Толькі што згадаў цікавую рэч: якраз сёння ўдзень я бачыў, як ён стаяў гэтаксама ў часе навальніцы, у сваёй накідцы са срэбнай

шпількай, абапіраючыся рукой на сцягно, дакладна і ва ўсім без выключэння паўтараючы сваю позу на тых крывавых пясках. Нас усіх маланка асляпіла, а ён і не міргнуў. Калі зноў стала цёмна, ён так і стаяў там.

— Спадзяюся, цяпер ён там не стаіць? — пацікавіўся айцец Браўн. — Я маю на ўвазе, урэшце ж ён заварушыўся.

— Так, калі загрымела, ён зарухаўся даволі рэзка, — адказаў генерал. — Ён быццам чакаў грому, бо потым дакладна назваў, колькі прайшло часу. А што?

— Я ўкалоўся вашай шпількай, — сказаў айцец Браўн. — Спадзяюся, што не сапсаваў яе, — тут яго вочы заплюшчыліся, і ён раптам змоўк.

— Вы не хворы? — спытаў генерал, узіраючыся ў яго.

— Не, — адказаў святар. — Проста ў мяне не такая вытрымка, як у вашага сябра Рамэйна. Заўсёды міргаю, калі бачу святло.

Ён пайшоў па капялюш з парасонам, але, дайшоўшы да дзвярэй, быццам нешта ўспомніў і вярнуўся. Падыходзячы бліжэй да Аўтрэма, ён даволі бездапаможна ўзіраўся яму ў твар, як рыбіна перад смерцю, і зрабіў жэст, быццам хоча ўхапіцца за яго камізэльку.

— Генерал, — амаль прашаптаў ён, — дзеля Бога, не дайце вашай жонцы і той другой жанчыне прабіцца да Марна. Не будзіце сабаку, які спіць, бо вы можаце абудзіць Цэрбера.

Генерал застаўся адзін, і калі ён зноў сеў гуляцца са шпількамі, у яго карых вачах чыталася здзіўленне.

Аднак яно зрабілася яшчэ большым, калі ён дазнаўся пра прагрэс у бескарыслівай змове генеральскай жонкі, якая сабрала сваю маленькую групу зычліўцаў на штурм замка мізантропа. Першая неспадзяванка, з якой яна сутыкнулася і якой не магла зразумець, — гэта адсутнасць аднаго з персанажаў гэтай старажытнай трагедыі. Калі яны, папярэдне дамовіўшыся, сабраліся ў ціхім гатэлі

даволі блізка ад замка, ад Х’юга Рамэйна не было ні знаку, пакуль адвакат не паведаміў спозненай тэлеграмай, што вялікі актор неспадзявана пакінуў краіну. Другая нечаканасць здарылася, калі яны пачалі сваю бамбардзіроўку, адправіўшы ў замак ліст з настойлівым патрабаваннем размовы: гэта была фігура, якая выйшла са змрочнай брамы прыняць дэлегацыю ад імя шляхетнага насельніка. Зусім не гэтую фігуру спадзяваліся яны сустрэць у панурых алеях, сярод амаль феадальных фармальнасцяў. Гэта быў не велічны аканом ці дварэцкі, нават не вытанчаны лёкай ці цыбаты расфуфыраны служка. Адзіным, што з’явілася ў дзвярах магільнага замка, была кароткая пацёртая фігура айца Браўна.

— Паслухайце, — сказаў ён у сваёй простай, усхваляванай манеры. — Я ж казаў вам, што яго лепш пакінуць у спакоі. Ён ведае, што робіць, і вы толькі прынесяце ўсім няшчасце.

Лэдзі Аўтрэм, якую суправаджала высокая сціпла апранутая жанчына, усё яшчэ вельмі прыгожая, відавочна, тая самая міс Грэйсан, паглядзела на маленькага святара з халоднай пагардай.

— Праўда ж, сэр, — сказала яна, — у нас вельмі прыватная справа, і я не разумею, што вам да яе.

— Каму, як не святару, сунуць нос у прыватныя справы, — гыркнуў сэр Джон Кокспэр. — Вы быццам не ведаеце, што яны шукаюць сабе пажывы за кулісамі падзеяў, як пацукі за ашалёўкай. Прагрызаюць сабе дарогу да самага асабістага, што ёсць у людзей. Паглядзіце, як ён ужо завалодаў бедным Марнам, — сэр Джон трохі сердаваў, бо шляхетныя сябры пераканалі яго не друкаваць сенсацыйны артыкул у абмен на права быць у самым эпіцэнтры таямніцы Таварыства. Яму нават да галавы не прыходзіла задацца пытаннем, ці не быў ён сам падобны да пацука за ашалёўкай.

— О, не хвалюйцеся, — сказаў айцец Браўн у нецярплівым узрушэнні. — Я абгаварыў гэта з маркізам і тым адзіным святаром, з якім ён мае хоць нейкія дачыненні. Яго клерыкальную прыхільнасць моцна перабольшваюць. Кажу вам: ён ведае, што робіць. І я сапраўды прашу вас усіх пакінуць яго ў спакоі.

— Вы хочаце сказаць, пакінуць яго зажыва пахаваным у гэтым напаўжывым, напаўмёртвым стане нуды і вар'яцтва сярод руін! — закрычала лэдзі Аўтрэм, і яе голас злёгку задрыжаў. — І ўсё праз тое, што ён меў няшчасце застрэліць кагось на двубоі больш за чвэрць стагоддзя таму! І гэта вы называеце хрысціянскай міласэрнасцю?

— Так, — флегматычна адказаў святар, — гэта я называю хрысціянскай міласэрнасцю.

— Вось і ўся хрысціянская міласэрнасць, якой можна дачакацца ад святароў! — з прыкрасцю пракрычаў Кокспэр. — Менавіта гэта яны і разумеюць пад дараваннем, на якое можа спадзявацца бядак, што ўчыніў бязглуздзіцу: яго замуруюць жыўцом і да смерці заморацЬ пастамі, пакаяннем і пагрозамі пякельнага агню. І ўсё таму, што куля вылецела не ў той бок.

— Праўда ж, айцец Браўн, — сказаў генерал Аўтрэм, — няўжо вы шчыра лічыце, што ён гэта заслужыў? У гэтым вашае хрысціянства?

— Канечне ж, сапраўднае хрысціянства, — больш далікатна пачала прасіць яго жонка, — тое, што ўсё ведае і ўсё даруе, любоў, якая ўмее памятаць — і ўмее забывацца.

— Айцец Браўн, — звярнуўся да яго Мэлаў, вельмі сур'ёзны, — звычайна я згодны з тым, што вы кажаце, але хай мяне павесяць, калі я разумею вас цяпер. Адзін стрэл на двубоі, у якім ён зараз жа раскаяўся, — не такое ўжо і жудаснае злачынства.

— Прызнаю, — невыразна сказаў айцец Браўн, — што мне яго злачынства ўяўляецца больш сур'ёзным, чым вам.

— Хай Бог змякчыць вашае сэрца, — упершыню загаварыла дзіўная лэдзі. — Я хачу пагаварыць са сваім старым сябрам.

Яе голас быццам абудзіў прывіда ў гэтым вялізным шэрым доме: нешта заварушылася ўсярэдзіне, і ў цёмным дзвярным праёме над вялізным пралётам каменных сходаў з'явілася фігура. На ёй была вопратка мёртвачорнага колеру, пасівелыя валасы рабілі твар нейкім дзікім, а бледныя рысы нечым нагадвалі пашкоджаную мармуровую статую.

Віёла Грэйсан пачала паволі ўзыходзіць па вялізных сходах, і Аўтрэм прамармытаў у густыя чорныя вусы:

— Думаю, яе ён не праігнаруе, як маю жонку ў свой час.

Айцец Браўн, які, здавалася, змарнеў у пакоры, кінуў на яго хуткі позірк.

— У гаротнага Марна і без таго даволі на сумленні, — сказаў ён. — Дык давайце пазбавім яго незаслужаных папрокаў. Ён, прынамсі, ніколі не ігнараваў вашай жонкі.

— Што вы хочаце сказаць?

— Ён яе ніколі не знаў.

Пакуль яны гаварылі, высокая лэдзі горда ўзышла па сходах і наблізілася да маркіза Марна. Яго вусны заварушыліся, але перш чым ён паспеў загаварыць, нешта здарылася.

У пустой прасторы прагучаў і рэхам адляцеў прэч уздоўж шэрых сцен крык. Нечаканы і надрыўны, гэта мог быць проста беззмястоўны лямант, што зляцеў з вуснаў жанчыны. Але гэта было выразнае слова, і ўсе з жахлівай дакладнасцю яго разабралі.

— Морыс!

— Што здарылася, мілая? — закрычала лэдзі Аўтрэм і пабегла ўверх па сходах, бо тая жанчына загойдалася, быццам зараз пакоціцца ўніз праз увесь каменны пралёт. Затым яна развярнулася і пачала спускацца, згорбленая, ссохлая і дрыготкая. «О, Божа мой, — паўтарала яна. — О, Божа мой, гэта зусім не Джым. Гэта Морыс!»

— Лэдзі Аўтрэм, я думаю, — сур'ёзна загаварыў святар, — вам з сябрамі лепш пайсці.

Яны развярнуліся, але з вяршыні лесвіцы на іх каменем упалі словы, прамоўленыя быццам з адкрытай магілы. Голас быў хрыплы і ненатуральны, як у людзей, што правялі доўгі час на бязлюдным востраве, населеным аднымі птушкамі. Гэта быў голас маркіза Марна. Ён пракрычаў: «Стойце!»

— Айцец Браўн, — казаў ён, — пакуль вашыя сябры не разышліся, я дазваляю вам расказаць ім усё, што расказаў вам я. Якімі б ні былі наступствы, я больш не буду ад іх бегчы.

— Вы робіце слушна, — адказаў святар, — і вам гэта залічыцца.

— Так, — ціха казаў айцец Браўн пазней у адказ на роспыты кампаніі. — Ён упаўнаважыў мяне гаварыць, але я раскажу ўсё не так, як пачуў, а як здагадаўся пра ўсё сам. Дык вось, ад самага пачатку я зразумеў, што шкодны ўплыў манахаў на маркіза — гэта ўсё бздуры, якіх вы панабраліся ў кніжках. Бадай, у пэўных выпадках нашыя людзі могуць заахвочваць людзей часцей наведваць манастыр, але дакладна не бавіць дзень і ноч у сярэднявечным замку. Таксама яны, вядома ж, не будуць у захапленні, калі той, хто манахам не з'яўляецца, пачне апранацца як манах. Але мне прыйшла ідэя, што ён сам мог захацець насіць манаскі капюшон ці нават маску. Спачатку яго называлі жалобнікам, потым — забойцам, але ў мяне ўжо былі цьмяныя падазрэнні, што

яго прычыны маглі хавацца не толькі ў тым, што ён учыніў, але і ў самой яго асобе.

Потым я пачуў вельмі яскравае апісанне паядынку, якое мне даў генерал, і самай яскравай у ім для мяне была фігура містэра Рамэйна на заднім фоне. Яна таму і вылучалася, што была на фоне. Чаму генерал пакінуў на пяску ахвяру, чый сябар стаяў за некалькіх ярдаў ад яго, бы пень ці камень? Затым я пачуў яшчэ нешта, чыстую дробязь, пра звычку Рамэйна застываць у нерухомасці, калі ён ведае, што зараз нешта мусіць адбыцца. Як ён чакаў, пакуль не загрымеў гром пасля маланкі. Вось гэтая машынальная манера ўсё і выдала. У той раз Х'юга Рамэйн таксама чагось чакаў.

— Але ўсё ж ужо скончылася, — запярэчыў генерал. — Чаго ён мог чакаць?

— Ён чакаў двубою, — адказаў айцец Браўн.

— Кажу ж вам, я бачыў двубой! — ускрыкнуў генерал.

— А я вам кажу, што двубою вы не бачылі, — адказаў святар.

— Вы што, звар'яцелі? — не сунімаўся генерал. — З чаго раптам вы вырашылі, што я сляпы?

— Бо вас спецыяльна асляпілі, каб вы нічога не ўбачылі, — сказаў святар. — Бо вы добры чалавек. Бог злітаваўся над вашай цнотай і адвярнуў вашае аблічча, каб вы не бачылі гэтага нечалавечага нападу. Ён узвёў сцяну пяску і цішыні між вамі і тым, што насамрэч адбывалася на жахлівым чырвоным узбярэжжы, захопленым ашалелымі духамі Іуды і Каіна.

— Раскажыце ж, што здарылася! — нецярпліва ахнула лэдзі.

— Я раскажу так, як усё сам зразумеў, — працягнуў святар.— Наступнае, пра што я даведаўся, — гэта што актор Рамэйн вучыў Морыса Мэйра прыёмам акторскага майстэрства. У мяне калісь быў сябар, што практыкаваў-

ся ў акторскім майстэрстве. Ён надта цікава расказваў, як увесь першы тыдзень навучання толькі і рабіў, што падаў. Вучыўся, як падаць плазам, не хістаючыся, як пры раптоўнай смерці.

— Госпадзе літасцівы! — усклікнуў генерал і ўхапіўся за ручкі крэсла, быццам хацеў устаць.

— Амін, — адказаў айцец Браўн. — Вы расказалі, што вас уразіла, як хутка ўсё адбылося. Насамрэч Морыс упаў яшчэ да таго, як вылецела куля, ляжаў і нерухома чакаў. А яго зламысны сябар і настаўнік таксама стаяў і чакаў збоку.

— Мы ўсе ў чаканні, — сказаў Кокспэр, — і я адчуваю, што чакаць ужо не маю сілы.

— Джэймс Мэйр, якім ужо авалодала раскаянне, кінуўся проста да чалавека на зямлі і схіліўся, каб падняць яго. Ён адкінуў пісталет, як нешта нячыстае, але пісталет Морыса, не разраджаны, ляжаў пад рукой. І вось калі старэйшы схіліўся над меншым, той узняўся на локаць і прастрэліў другога навылёт. Ён ведаў, што не дужа добра страляе, але з такой адлегласці пацэліць у сэрца зусім не цяжка.

Рэшта кампаніі ўзнялася і стаяла з бледнымі тварамі, узіраючыся ў апавядальніка.

— Вы ў гэтым упэўнены? — хрыплым голасам спытаў нарэшце сэр Джон.

— Я ў гэтым упэўнены, — сказаў айцец Браўн, — і цяпер я перадаю Морыса Мэйра, цяперашняга маркіза Марна, вашай хрысціянскай міласэрнасці. Сёння вы мне нешта казалі пра хрысціянскую міласэрнасць. Мне яна нават падалася ледзь не празмернай, але якое шчасце для такіх гаротных грэшнікаў, як гэты чалавек, што вы не знаеце меры ў міласці і гатовыя да прымірэння з усім чалавецтвам.

— Скулля яму! — выбухнуў генерал. — Калі вы думаеце, што я прымірuся з такой бруднай гадзінай, то я

вам скажу, што нават калі ў маіх сілах будзе выратаваць яго ад пекла, я і слова не вымаўлю. Я казаў, што магу выбачыць звычайны годны двубой, але ўсіх гэтых падступных забойцаў...

— Яго трэба лінчаваць! — узрушана закрычаў Кокспэр. — Яго трэба спаліць жыўцом, як чарнамазага ў Штатах! І калі ёсць недзе полымя, у якім можна гарэць вечна, то там яму самае...

— Я б і жардзінай да яго не дакрануўся, — сказаў Мэлаў.

— Ёсць мяжа чалавечай міласэрнасці, — дрыжучы ўсім целам, дадала лэдзі Аўтрэм.

— Ёсць, — суха адказаў айцец Браўн, — і ў гэтым палягае розніца паміж міласэрнасцю чалавечай і хрысціянскай. Дык даруйце ж, калі мяне сёння не надта ўразіла вашая пагарда да маёй неміласэрнасці або лекцыя пра дараванне любому грэшніку, якую вы мне прачыталі. Бо здаецца мне, што вы даруеце толькі тыя грахі, якія насамрэч і грахамі не лічыце. Вы даруеце злачынцам, толькі калі яны робяць тое, што вы лічыце не злачынствам, а хутчэй нормай. Вы мірыцеся з традыцыйным двубоем гэтак жа, як і з традыцыйным разводам. Вы даруеце, таму што тут няма чаго дараваць.

— Але, каб яго трасца, — закрычаў Мэлаў, — вы ж не спадзеяцеся, што мы зможам дараваць такую гідоту?

— Не, — адказаў святар, — але мы мусім дараваць і яе.

Ён рэзка ўстаў і азірнуўся наўкола.

— Мы мусім падыходзіць да такіх людзей, і не з жардзінай, а з блаславеннем, — сказаў ён. — Мы павінныя вымавіць словы, якія ўратуюць іх ад пекла. Мы адны можам выбавіць іх з роспачы, калі вашая чалавечая міласэрнасць іх пакіне. Каціцеся ж і надалей сваёй каляінай, выбачайце свае любімыя заганы і будзьце велікадушнымі да модных злачынстваў, а нам пакіньце

змрок і начных крывасмокаў. Дазвольце нам суцяшаць тых, хто сапраўды мае патрэбу ў суцяшэнні, хто сапраўды ўчыняе недаравальнае, такое, чаго не можа даравацць ні свет, ні яны самі, і не даруе ніхто, апрача святара. Пакіньце нас з людзьмі, якія чыняць злосныя, агідныя, сапраўдныя злачынствы, як Пётр, калі заспяваў певень, але світанак усё адно настаў.

— Світанак, — паўтарыў Мэлаў з сумневам. — Вы хочаце сказаць, надзея. Для яго?

— Так, — адказаў айцец Браўн. — Дазвольце задаць вам пытанне. Вы цудоўныя дамы і вялебныя паны, і вы ўпэўненыя ў сабе. Вы кажаце сабе, што ніколі не апусціцеся да такога бруду. Але адкажыце вось на што. Калі б усё ж апусціліся, то хто з вас праз шмат гадоў, ужо зрабіўшыся старым і багатым і знаходзячыся ў поўнай бяспецы, прыслухаўся б да сумлення ці духоўніка і расказаў бы пра сябе такое? Скажаце, вы на такое нізкае злачынства не пайшлі б. А ці змаглі б вы прызнацца ў такім нізкім злачынстве?

Усе збіралі рэчы і па двое, па трое маўкліва пакідалі пакой. Айцец Браўн таксама моўчкі накіраваўся ў тужлівы замак Марнаў.

*Пераклаў з ангельскай Павел Донаў*

# ЭРНСТ ТЭАДОР АМАДЭЙ ГОФМАН

# МАДЭМУАЗЭЛЬ ДЭ СКЮДЭРЫ

На вуліцы Сэн-Анарэ месціўся невялікі дамок, у якім з ласкі Людовіка XIV і маркізы дэ Мэнтэнон жыла Мадлен дэ Скюдэры, вядомая сваімі выкшталцонымі вершамі.

Аднае позняе ночы — была восень 1680 году — нехта рэзка і моцна пагрукаў у дзверы гэтага дома, так што гучнае рэха прайшло па калідоры. Батыст, які быў у маленькай гаспадарцы кухарам, лёкаем і швейцарам у адной асобе, паехаў з дазволу гаспадыні за горад, на вяселле сваёй сястры, таму сталася так, што ў цэлым доме яшчэ не спала толькі пакаёўка Марціньер. Яна пачула паўторныя ўдары, ёй прыйшло на памяць, што Батыст з'ехаў і яны з мадэмуазэль засталіся ў доме адны без якой-кольвечы аховы, прыгадаліся ўсе злачынствы кшталту рабаўніцтва, крадзяжу і забойства, якія толькі калі-небудзь здзяйснялі ў Парыжы. Яна яскрава ўявіла, што цэлы натоўп латрыгаў, ведаючы пра самотнасць гэтага дома, шалее там звонку і прагне трапіць усярэдзіну, каб учыніць нешта благое супраць яе гаспадыні. Таму Марціньер засталася ў сваім пакоі, дрыжучы, вагаючыся і праклінаючы Батыста разам з вяселлем ягонай сястры. Тым часам грукат не сціхаў, і ёй здалося, што паміж ударамі нейкі голас гукае: «Ну адчыніце ж нарэшце дзе-

ля Хрыста, толькі адчыніце!» Урэшце Марціньер, адчуваючы ўсё большы страх, схапіла падсвечнік і выскачыла ў калідор; там яна зусім выразна пачула голас начнога госця: «Дзеля Хрыста, адчыніце ж!»

«Сапраўды, — падумала Марціньер, — рабаўнік, мусіць, не стаў бы так казаць. Хто ведае, ці не шукае тут нехта ратунку ад небяспекі ў маёй гаспадыні, якая схільная да добрых учынкаў. Але ж трэба быць асцярожнай!»

Яна адчыніла акно і, гучна спытаўшыся, хто ж гэта там унізе позна ўночы шалее ля дзвярэй і будзіць усіх вакол, пастаралася наблізіць гучанне свайго нізкага голасу да мужчынскага. У мігценні месячных промняў, якія акурат прарваліся праз змрочныя аблокі, яна разгледзела высокую захінутую ў светла-шэры плашч постаць у шырокім капелюшы, насунутым на самыя вочы. Яна закрычала голасна, каб было чуваць там, унізе:

— Батыст, Клод, П'ер, падымайцеся ды зірніце, што за гіцаль хоча выламаць дзверы!

Але чалавек унізе прамовіў мякка, амаль жаласна:

— Ах, Марціньер, я ж ведаю, што гэта вы, мілая пані, як бы вы ні намагаліся змяніць свой голас. Ведаю я і тое, што Батыст паехаў за горад, і вы з гаспадыняй цяпер адны ў доме. Але ж адчыніце мне дзверы, нічога не бойцеся. Мне неабходна пагаварыць з вашай гаспадыняй, вось у гэтую самую хвіліну.

— Вы напраўду думаеце, — адказала Марціньер, — што мадэмуазэль захоча гаварыць з вамі пасярод ночы? Ці ж вы не ведаеце, што яна ўжо даўно спіць, а я нізавошта не стану перарываць першы найсаладзейшы сон, які так патрэбны ёй у яе веку?

— Я ведаю, — сказаў чалавек унізе, — ведаю, што вашая гаспадыня якраз адклала рукапіс свайго рамана, які завецца «Клелія» і над якім яна нястомна працуе, і цяпер яшчэ запісвае некаторыя вершы, мяркуючы заўтра прачытаць іх у маркізы дэ Мэнтэнон. Я заклі-

наю вас, шаноўная Марцíньер, майце літасць і адчыніце мне дзверы. Ведайце, што тут вядзецца пра ўратаванне няшчаснага ад магілы, ведайце, што гонар, воля, дый нават само жыццё чалавека залежаць ад гэтага моманту, таму я мушу гаварыць з вашай гаспадыняй. Падумайце аб тым, што гнеў вашай уладаркі вечна будзе на вас, калі яна даведаецца, што гэта вы бессардэчна прагналі нешчаслівца, які прыйшоў маліць аб дапамозе.

— Але чаму вы благаеце спачування маёй гаспадыні ў такі незвычайны час? Лепей прыходзьце заўтра раніцай, — адказала Марцíньер, а чалавек унізе запярэчыў:

— Ці зважае на час і гадзіну лёс, што б'е знішчальна, бы пошуг маланкі? Ці можна адкласці дапамогу, калі для магчымага ратунку застаецца апошняе імгненне? Адчыніце мне дзверы, не чакайце нічога страшнага ад гаротніка, які, безабаронны, гнаны, пакінуты ўсім светам, прыгнечаны жахлівым лёсам, хацеў бы маліць вашую гаспадыню аб паратунку ад блізкай небяспекі!

Марцíньер пачула, як пры гэтых словах чалавек унізе застагнаў і ўсхліпнуў ад прыхаванага болю. Прытым голас гэты належаў юнаку, і быў пяшчотны, і пранікаў глыбока ў сэрца. Яна ўсхвалявалася да глыбіні душы і, доўга не разважаючы, прынесла ключы.

Ледзь толькі дзверы адчыніліся, захутаная ў плашч фігура ўварвалася ў дом і, праляцеўшы міма Марцíньер углыб калідора, закрычала дзікім голасам:

— Вядзіце мяне да сваёй гаспадыні!

Марцíньер спалохана ўзняла вышэй падсвечнік, і водсвет упаў на смяротна-бледны, жахліва скажоны юнацкі твар. А калі чалавек расхінуў плашч і на грудзях яго блiснула дзяржальна стылета, Марцíньер мала што не села на падлогу ад страху. Чалавек зіркнуў на яе бліскучымі вачыма і зароў яшчэ больш шалёна:

— Вядзіце мяне да гаспадыні, кажу я вам!

І тут Марцíньер сцяміла, у якой сур'ёзнай небяспецы апынулася яе гаспадыня; уся любоў да мілай пані, ша-

наванай як дарагая, пабожная матухна, мацней разгарэлася ў яе грудзях, спарадзіўшы мужнасць, на якую яна яшчэ нядаўна не палічыла б сябе здольнай. Яна спрытна зачыніла разнасцежаныя дзверы ў свой пакой, стала перад імі і прамовіла цвёрда і ўпэўнена:

— Папраўдзе, вашыя вар'яцкія паводзіны тут, у доме, не надта адпавядаюць вашым жаласным словам, сказаным там, звонку. Як я цяпер добра разумею, яны не ў час абудзілі маё спачуванне. Мая гаспадыня не мусіць і не будзе зараз з вамі гаварыць. Калі ў вас няма злых намераў, вам не трэба баяцца дня, таму прыходзьце па сваёй справе заўтра! А цяпер вымятайцеся з дому!

Незнаёмец глуха ўздыхнуў, жудасным позіркам утаропіўся ў Марціньер і сціснуў стылет.

У думках Марціньер даверыла сваю душу Госпаду, але засталася на месцы і дзёрзка глядзела ў вочы начному госцю, пакрысе ўсё мацней прыціскаючыся да дзвярэй пакоя, праз які той мусіў прайсці, каб трапіць да мадэмуазэль Скюдэры.

— Пусціце мяне да сваёй гаспадыні, каму кажу! — яшчэ раз крыкнуў незнаёмец.

— Рабіце што заўгодна, — адказала Марціньер, — але я не скрануся з гэтага месца. Завяршайце ж пачатае злачынства, і вас таксама, як і вашых праклятых хаўруснікаў, чакае ганебны канец на Грэўскай плошчы.

— Уга! — выгукнуў незнаёмец. — Вы маеце рацыю, Марціньер! Я выглядаю і ўзброены як апошні злодзей і забойца, але мае хаўруснікі яшчэ не пакараныя... так, яшчэ не пакараныя.

І кінуўшы знішчальны позірк на спалоханую да смерці жанчыну, ён выцягнуў стылет.

— Божа мой! — усклікнула тая, чакаючы смяротнага ўдару, але тут з вуліцы данесліся бразгат зброі і цокат капытоў. — Варта! Варта! Памажыце! — закрычала Марціньер.

— Жахлівая кабета, ты хочаш маёй пагібелі! Ну вось і ўсё, вось і ўсё!.. Вазьмі, вазьмі, аддай гэта гаспадыні яшчэ сёння — ці заўтра, калі хочаш, — ціха мармычучы так, незнаёмец вырваў у Марціньер падсвечнік, патушыў свечкі і сунуў ёй у рукі нейкую скрыначку. — Дзеля ўратавання сваёй душы аддай гэта гаспадыні, — крыкнуў ён і выскачыў за парог.

Марціньер з цяжкасцю ўзнялася з падлогі і ў цемры пасунулася назад у свой пакой, дзе, цалкам знясіленая, не ў стане вымавіць ані слова, апусцілася на крэсла. І тут яна пачула бразгат ключоў, пакінутых у замку ўваходных дзвярэй. Нехта замкнуў дом і ціхімі няпэўнымі крокамі набліжаўся да пакоя. Скамянелая, не маючы сілы паварушыцца, яна чакала чагосьці страшнага. Якое ж было яе здзіўленне, калі дзверы адчыніліся, і ў святле начной лямпы яна з першага ж погляду пазнала добрага Батыста; ён быў збялелы, бы мярцвяк, і выглядаў зусім разгубленым.

— Дзеля ўсіх святых, — пачаў ён, — дзеля ўсіх святых, скажыце мне, пані Марціньер, што здарылася? Ах, які жах, які жах! Не ведаю, што гэта было, але нейкая сіла літаральна прагнала мяне прэч з вяселля ўчора ўвечары! І вось я ўваходжу на нашую вуліцу... У пані Марціньер, думаю я, чуйны сон, яна, пэўна, пачуе, калі я ціхенька і асцярожна пастукаю ў дзверы, і пусціць мяне ў дом. І тут перада мной з'яўляецца патруль, вершнікі і пешыя, узброеныя да зубоў, яны спыняюць мяне і не хочуць адпускаць. Але на шчасце, сярод іх апынуўся Дэгрэ, лейтэнант гвардыі, які мяне добра ведае. Ён і кажа, пакуль іншыя трымаюць мне пад носам ліхтар: «Гэй, Батыст, адкуль ідзеш сярод ночы? Ты ж мусіш заставацца ў доме і ахоўваць яго. Тут быць непамысна, мы разлічваем на добрую здабычу ў гэтую ноч». Вы не паверыце, пані Марціньер, як цяжка мне стала на сэрцы ад гэтых словаў. І вось я пераступаю наш парог, ажно нейкі

захутаны чалавек вылятае з дома, голы стылет у руцэ, і аббягае вакол мяне — дом адчынены, ключы тырчаць у замку... скажыце ж, што гэта ўсё мае значыць?

Марціньер, пазбыўшыся смяротнага страху, пра ўсё расказала. Абодва, яна і Батыст, выйшлі ў калідор і знайшлі на падлозе падсвечнік, які кінуў, збягаючы, чужынец.

— Відавочна, — прамовіў Батыст, — што нашую гаспадыню хацелі абрабаваць, а можа, нават і забіць. Той чалавек ведаў, як вы кажаце, што вы засталіся ўдзвюх з пані, і нават пра тое, што яна яшчэ сядзела над сваімі рукапісамі; напэўна ж гэта быў адзін з тых клятых прайдзісветаў і махляроў, якія пранікаюць у дом і хітра выведваюць усё, што можа паслужыць іхным д'ябальскім планам. А гэтую скрыначку, пані Марціньер, мне думаецца, лепей кінуць у Сену, туды, дзе найглыбей. Хто можа паручыцца, што нейкі гнюсны ліхадзей не імкнецца адабраць жыццё ў нашай добрай гаспадыні, што яна, адчыняючы скрыначку, не ўпадзе мёртвай, як стары маркіз дэ Турнэй, які ўскрыў ліст, атрыманы з рук невядомага!

Пасля доўгай нарады верныя слугі ўрэшце вырашылі нараніцу расказаць усё гаспадыні і перадаць ёй загадкавую скрыначку, якую, канечне ж, трэба адчыняць з належнай асцярожнасцю. Яны дэталёва абмеркавалі ўсе абставіны з'яўлення падазронага незнаёмца і прыйшлі да высновы, што тут напэўна не абышлося без нейкай таямніцы, якую яны не рызыкавалі раскрыць самавольна, а мусілі пакінуць гэта сваёй гаспадыні.

Для непакою Батыста былі ўсе падставы. Якраз у той час Парыж стаў месцам дзеяння найстрашнейшых злачынстваў, якраз тады пякельнае, д'ябальскае вынаходніцтва адкрывала самыя лёгкія шляхі для гэтага.

Глазер, аптэкар-немец, найлепшы хімік свайго часу, займаўся, як гэта нярэдка бывае з людзьмі яго роду дзей-

насці, алхімічнымі доследамі. Ён мерыўся знайсці філасофскі камень. Да яго далучыўся адзін італьянец на імя Экзілі. Але апошняму алхімія служыла адно для адводу вачэй. Толькі змешванню, гатаванню, сублімаванню атрутных рэчываў, у якіх Глазер спадзяваўся знайсці свае шчасце, хацеў ён навучыцца, і ўрэшце ў яго атрымалася вынайсці такую тонкую атруту, якая, не маючы ані паху, ані смаку, забівала альбо на месцы, альбо павольна, не пакідала якіх-кольвечы слядоў у чалавечым целе і ашуквала лекараў з усім іхным майстэрствам і вучонасцю, якія, не падазраючы смерці ад атруты, былі вымушаныя тлумачыць яе нейкай натуральнай прычынай. Як ні сцярогся Экзілі падчас сваіх заняткаў, яго ўсё адно запасочылі ў продажы атруты і кінулі ў Бастылію. У тую ж камеру неўзабаве пасадзілі і капітана Гадэна дэ Сэнт-Круа. Ён доўгі час жыў у пазашлюбнай сувязі з маркізай дэ Брэнвілье, ганьбячы тым гонар усёй сям'і, і нарэшце, паколькі маркіз не зважаў на бздуры сваёй жонкі, гэта прымусіла яе бацьку, Дрэ д'Абрэя, важнага чыноўніка Парыжскага суда, разлучыць злачынную парачку з дапамогаю ордэра на арышт, які быў здзейснены насуперак волі капітана. Для жарснага, бесхарактарнага, па-ханжаску пабожнага, але схільнага з юнацтва да ўсіх магчымых заганаў, раўнівага, помслівага да шаленства капітана нішто не магло быць больш дарэчы, чым д'ябальская таямніца Экзілі, што давала яму моц знішчыць усіх сваіх ворагаў. Ён стаў старанным вучнем Экзілі і ў хуткім часе ні ў чым не саступаў свайму настаўніку, так што пасля вызвалення з Бастыліі мог працягваць працу самастойна.

Дэ Брэнвілье і так была распусніцай, а праз сувязь з дэ Сэнт-Круа ўвогуле ператварылася ў пачвару. Той прымусіў яе атруціць спачатку ўласнага састарэлага бацьку, пры якім яна жыла, дагледаючы яго з рэдкай крывадушнасцю, пасля абодвух братоў і нарэшце сястру; бацьку — з помсты, астатніх — дзеля вялікай спад-

чыны. Гісторыі многіх атручальнікаў ёсць жудаснымі сведчаннямі таго, як гэтае злачынства робіцца непераадольнай жарсцю. Без ніякае мэты, толькі каб задаволіць сваю прагу, накшталт хіміка, што эксперыментуе дзеля забавы, атручальнікі часта забівалі людзей, жыццё і смерць якіх маглі быць ім цалкам абыякавыя. Раптоўны скон некалькіх беднякоў у шпіталі «Атэль-Д'ё» пазней абудзіў падазрэнні, што хлеб, які штотыдзень раздавала там дэ Брэнвільe, выстаўляючы сябе ўзорам пабожнасці і дабрачыннасці, быў атручаны. Але дакладна вядома, што яна труціла галубіныя пірагі і частавала імі запрошаных гасцей. Шэвалье дзю Ге і шэраг іншых асобаў сталі ахвярамі гэтых д'ябальскіх абедаў. Сэнт-Круа, яго памочнік ля Шасэ і сама Брэнвільe доўгі час паспяхова хавалі свае жахлівыя ўчынкі пад шчыльнай завесай таямнічасці, але як бы ні хітравалі гэтыя ліхадзеі, адвечная нябесная сіла вырашыла пакараць грэшнікаў ужо тут, на зямлі! Атрута, якую гатаваў Сэнт-Круа (парыжане называлі яе «спадчынным парашком»), была настолькі моцнай, што калі яна ляжала адкрытая, досыць было адзінага ўдыху, каб сканаць у той жа момант. Таму Сэнт-Круа праводзіў свае маніпуляцыі ў масцы з тонкага шкла. І вось аднойчы, калі ён якраз збіраўся засыпаць гатовы парашок у колбу, маска ўпала, і Сэнт-Круа, удыхнуўшы тонкі пылок атруты, імгненна аддаў Богу душу. Паколькі ён не пакінуў нашчадкаў, судовыя ўлады паспяшаліся ў ягоны дом, каб апячатаць спадчыну, і там натрапілі на замкнёную скрыню, дзе змяшчаўся ўвесь д'ябальскі атрутны арсенал, якім карыстаўся гнюсны Сэнт-Круа, а таксама знайшлі лісты дэ Брэнвільe, якія не пакідалі сумневу ў яе злачынствах. Яна збегла ў кляштар у Льежы. Наўздагон быў пасланы Дэгрэ, афіцэр жандармерыі. Пераапрануты святаром, ён з'явіўся ў кляштары, дзе хавалася жанчына. Дэгрэ здолеў завязаць з жахлівай кабетай любоўную інтрыжку

і завабіць яе на таемную сустрэчу ў закінутым садзе за горадам. Ледзь толькі яна ўвайшла ў сад, яе ўмомант абкружылі шпегі Дэгрэ, святар-каханак раптам ператварыўся ў афіцэра жандармерыі і прымусіў жанчыну сесці ў вазок, які ўжо стаяў напагатове і адразу ж накіраваўся ў Парыж. Ля Шасэ адсеклі галаву яшчэ раней, дэ Брэнвільe пакаралі гэтак жа, пасля чаго яе цела спалілі і развеялі попел у паветры.

Парыжане ўздыхнулі з палёгкай, калі монстр, здольны беспакарана выкарыстоўваць таемную знішчальную зброю супраць сваіх і чужых, знік са свету. Але неўзабаве высветлілася, што страшнае майстэрства праклятага Сэнт-Круа знайшло пераемнікаў. Як нябачная падступная здань, смерць праточвалася ў найцяснейшыя колы, якія толькі могуць утварыць сваяцтва, каханне і сяброўства, і ўпэўнена й хутка выхоплівала адтуль няшчасных ахвяраў. Той, каго сёння бачылі ў цудоўным здароўі, заўтра хістаўся ад хваробы і чэзнуў, і ніякае ўмельства лекараў не магло ўратаваць яго ад смерці. Багацце, прыбытковая пасада, прыгожая і, магчыма, занадта маладая жонка — гэтага было дастаткова, каб стаць мэтай смяротнага пераследу. Самы страшны недавер іраваў найсвяцейшыя повязі. Муж дрыжэў ад страху перад жонкай, бацька — перад сынам, сястра — перад братам. Некранутымі заставаліся стравы і віно на бяседных сталах, накрытых сябрамі для сяброў, і там, дзе звычайна панавалі жарты і весялосць, здзічэлыя позіркі высочвалі патаемных забойцаў. Можна было ўбачыць таго ці іншага бацьку сямейства, які спалохана набываў у аддаленых раёнах прадукты і сваімі рукамі гатаваў іх у якім-небудзь брудным шынку, баючыся д'ябальскай здрады ва ўласным доме. І ўсё-такі час ад часу нават найбольшая перасцярога аказвалася дарэмнай.

Каб даць рады бязладдзю, што ўсё больш ахоплівала горад, кароль прызначыў асобны трыбунал, які надзяліў

выключнымі паўнамоцтвамі па расследаванні і пакаранні таямнічых злачынстваў. Гэта была так званая Вогненная палата, якая засядала непадалёк ад Бастыліі пад старшынствам ля Рэны. Доўгі час намаганні апошняга, як бы ён ні высільваўся, не давалі плёну, але хітраму Дэгрэ было наканавана накрыць самае кубло злачынцаў.

У прадмесці Сэн-Жэрмэн жыла старая жанчына на імя ля Вуазэн, што займалася прадказаннямі і заклінаннем духаў і з дапамогаю сваіх чаляднікаў ле Сажа і ле Вігаро ўмела выклікаць страх і подзіў нават у тых, каго нельга было назваць слабым ці легкаверным. Але яна рабіла далёка не толькі гэта. Як і Сэнт-Круа, вучаніца Экзілі, яна гатавала паводле яго рэцэпту тонкую атруту, што не пакідала слядоў, і так дапамагала нягодным сынам хутчэй атрымаць спадчыну, а распусніцам — прыдбаць іншага, маладзейшага мужа. Дэгрэ раскрыў яе таямніцу, яна ва ўсім прызналася, была прысуджаная Вогненнай палатай да спалення і скончыла жыццё на Грэўскай плошчы. Пры ёй знайшлі спіс усіх, хто карыстаўся яе паслугамі, і гэта не толькі пацягнула шэраг смяротных пакаранняў, але і выклікала цяжкія падазрэнні нават у адрас высокапаважаных людзей. Так, казалі, што кардынал Банзі ўзяў у ля Вуазэн сродак, з дапамогай якога ўсе, каму ён мусіў плаціць пенсіі ў якасці арцыбіскупа Нарбоны, у хуткім часе пайшлі з жыцця. Так былі абвінавачаныя ў сувязі з клятай кабетай герцагіня Бульёнская і графіня Суасон, імёны якіх значыліся ў спісе, не пашкадавалі нават Франсуа Анры дэ Манмарансі-Будэбеля, герцага Люксембургскага, пэра і маршала Францыі. І на яго накінулася жудасная Вогненная палата. Ён сам з'явіўся ў турму Бастыліі, дзе праз нянавісць з боку дэ Лувуа і ля Рэны яго пасадзілі ў каморку даўжынёй шэсць футаў. Прайшлі месяцы, перш чым канчаткова высветлілася, што злачынства герцага ўвогуле не заслугоўвала кары: ён толькі аднойчы замовіў у ле Сажа гараскоп.

Відавочна, што сляпы імпэт штурхаў ля Рэны да гвалту і здзекаў. Трыбунал цалкам ператварыўся ў інквізіцыю: найдрабнейшага падазрэння было дастаткова для суровага ўвязнення, і часта доказ невінаватасці зняволеных аддаваўся на волю выпадку. Пры гэтым Рэны меў агідны твар і падступную натуру, так што хутка зрабіўся аб’ектам нянавісці тых, дзеля чыёй абароны ці помсты быў пакліканы. Герцагіня Бульёнская, якую ён спытаў падчас допыту, ці бачыла яна д’ябла, адказала: «Мне падаецца, я бачу яго якраз у гэты момант!»

У той час, калі на Грэўскай плошчы ручаямі цякла кроў вінаватых і падазраваных і загадкавыя атручанні здараліся ўсё радзей і радзей, з’явілася іншая бяда, што непакоіла ўсё больш народу. Нейкая банда рабаўнікоў нібыта пастанавіла сабе завалодаць усімі каштоўнасцямі ў Парыжы. Багатыя ўпрыгожанні знікалі незразумелым чынам, нягледзячы на любую ахову, ледзь толькі іх паспявалі набыць. Але яшчэ горшым было тое, што кожнага, хто насмельваўся надзець каштоўнасці, рабавалі пасярод вуліцы альбо ў цёмных дварах і нават забівалі. Ацалелыя ахвяры прыгадвалі, што нехта збіваў іх з ног моцным ударам па галаве, нібы бліскавіцай, а апрытомнеўшы, яны бачылі навокал зусім іншую мясцовасць, чым тая, дзе заспеў іх напад. Забітыя ж, целы якіх знаходзілі на вуліцах ці ў дамах амаль штодня, усе мелі аднолькавыя смяротныя раны. Удар кінжала ў сэрца, па сведчанні лекараў, забіваў так хутка і надзейна, што, атрымаўшы яго, чалавек без гуку валіўся долу. Хто з асобаў, блізкіх да пышнага двара Людовіка XIV, ублытаны ў любоўную інтрыгу, не спяшаўся крадком да каханкі, часам несучы салідны падарунак? Нібыта змовіўшыся з духамі, рабаўнікі дакладна ведалі, калі хтось мусіў мець пры сабе нешта падобнае. Пачасту нешчаслівец нават не паспяваў дасягнуць дома, дзе разлічваў на любошчы, нярэдка ён падаў мёртвы на парозе дый нават проста

перад дзвярыма ў пакой сваёй каханай, якая ў жаху знаходзіла акрываўленае цела.

Дарэмна начальнік паліцыі Аржансон загадваў хапаць у Парыжы кожнага, хто выклікаў хоць найменшае падазрэнне, дарэмна лютаваў ля Рэны, выбіваючы прызнанні, дарма ўзмацнялі патрулі і ахову — нішто не дапамагала натрапіць на след злачынцаў. Толькі асаблівыя перасцярогі, калі ўзбройваліся да зубоў і бралі з сабой чалавека з ліхтаром, давалі пэўны плён, але ўсё роўна здаралася, што слугу закідвалі камянямі, каб запалохаць, а гаспадара ў той жа момант забівалі і рабавалі.

Дзіўным было тое, што, нягледзячы на ўсе росшукі паўсюль, дзе толькі быў магчымы гандаль каштоўнасцямі, на вочы шпегам не трапілася нават найдрабнейшая са скрадзеных рэчаў, таму і тут не намацваўся след, якім можна было б рухацца далей.

Дэгрэ пырскаў пенай ад злосці, бо махляры патрапплялі абысці нават ягоную хітрасць. Той квартал горада, дзе знаходзіўся ён, ніхто не чапаў, а ў іншым раёне, дзе непрыемнасцяў не чакалі, смерць ад рукі рабаўніка падпільноўвала багатых ахвяраў.

Дэгрэ даўмеўся завесці некалькі двайнікоў, настолькі падобных паміж сабой хадою, паставай, моваю, фігурай і тварам, што нават шпегі не ведалі, хто ж з іх сапраўдны Дэгрэ. Ён жа тым часам, рызыкуючы жыццём, адзін высочваў па самых схаваных кутках і зводдаль суправаджаў таго, хто на яго загад меў пры сабе ўпрыгожанні. Але *той* заставаўся недасяжны; значыць, зламыснікам была вядомая і *гэтая* мера. Паліцэйскага ахопліваў адчай.

Аднойчы ранкам Дэгрэ з’явіўся да ля Рэны, белы, з перакошаным тварам, увесь сам не свой.

— Што ў вас? Якія навіны? Вы натрапілі на след? — выгукнуў ля Рэны, ідучы яму насустрач.

— Ах, мсье, — пачаў Дэгрэ, заікаючыся ад ярасці, — ах, мсье, учора ўночы пры мне блізу Луўра напалі на маркіза дэ ля Фара.

— Сілы нябесныя! — радасна загаласіў ля Рэны. — Яны ў нашых руках!

— Ды паслухайце ж вы, — перарваў яго Дэгрэ з горкай усмешкай. — Паслухайце спярша, як усё было. Дык вось, стаю я ля Луўра і падпільноўваю з цяжкім сэрцам гэтых чарцей, што кпяць з мяне. Тут нехта праходзіць няпэўным крокам, усцяж азіраючыся, зусім блізка ля мяне, але мяне не заўважае. У месячным мігценні я пазнаю маркіза дэ ля Фара. Я мог бы чакаць яго там, бо ведаў, куды ён выправіўся. Толькі ён аддаляецца на дзесяць-дванаццаць крокаў, як нібыта з-пад зямлі выскоквае нейкая фігура, цягне яго на зямлю і накідваецца зверху. Агаломшаны тым, што забойца амаль трапіўся мне ў рукі, я гучна крычу і збіраюся адным вялізным скачком дапяць да яго са свайго схову, але заблытваюся ва ўласным плашчы і падаю. Бачу, як гэты чалавек спяшаецца прэч нібы на крылах ветру, выпростваюся, кідаюся наўздагон, на бягу дзьму ў свой ражок — здаля адгукаюцца свісткі шпегаў. Робіцца горача — ляскат зброі, тупат капытоў з усіх бакоў. «Сюды, сюды, Дэгрэ, Дэгрэ!» — крычу я на ўсю вуліцу. Я ўсё яшчэ бачу чалавека перад сабою ў яркім месячным святле. Каб падмануць мяне, ён збочвае; мы трапляем на вуліцу Нікез, і падаецца, што сілы яго на зыходзе. Я ж падвойваю свае намаганні — адлегласць скарачаецца, цяпер яна не большая за пятнаццаць крокаў...

— Вы даганяеце яго, скручваеце, і тут падбягаюць шпегі! — закрычаў ля Рэны, бліскаючы вачыма і хапаючы Дэгрэ за руку, як быццам той і ёсць забойца-ўцякач.

— Пятнаццаць крокаў, — працягнуў Дэгрэ глухім голасам і цяжка дыхаючы. — За пятнаццаць крокаў ад мяне чалавек адскоквае ўбок, у цень, і знікае праз мур.

— Знікае? Праз мур?! Вы што, з глузду з'ехалі? — залямантаваў ля Рэны, адступаючы на два крокі назад і ўсплёскваючы рукамі.

— Можаце назваць мяне, мсье, — сказаў Дэгрэ, паціраючы лоб, быццам апанаваны благімі думкамі, — хоць бы й вар'ятам і дурным спірытыстам, але ўсё было менавіта так і не інакш, як я вам расказваю. У здранцвенні я стаю перад мурам, да мяне падбягаюць некалькі запыханых шпегаў; разам з імі — маркіз дэ ля Фар, раз'юшаны, з аголенай шпагай у руцэ. Мы запальваем факелы, аглядаем мур уздоўж і ўпоперак: ані следу дзвярэй, акна, наогул якой адтуліны. Гэта магутная каменная дваровая агароджа, што атачае дом, супраць жыхароў якога не можа паўстаць нат найменшага падазрэння. Сёння я яшчэ раз правёў дэталёвы агляд месца. — Мусіць, сам д'ябал цвеліцца з нас.

Гісторыя, што адбылася з Дэгрэ, разышлася па Парыжы. Усе толькі і думалі пра чараўніцтва, выклікі духаў, хаўрусы з чортам, Вуазэн, Вігаро, сумнавядомага пастара ле Сажа... А паколькі схільнасць да звышнатуральнага, дзівоснага ў нашай прыродзе пераважае любы здаровы сэнс, неўзабаве ўсе паверылі — ні больш ні менш — у тое, што, як у запале абмовіўся Дэгрэ, д'ябал напраўду ўласнаручна ахоўвае мярзотнікаў, якія прадалі яму свае душы. Можна ўявіць сабе, якімі дадатковымі маляўнічымі дэталямі была аздобленая гісторыя Дэгрэ. Разам з гравюрай з жахлівай фігуркай чорта, што знікае ў зямлю перад спужаным Дэгрэ, яна была надрукаваная і прадавалася на кожным кроку. І гэтага было досыць, каб запалохаць народ і дарэшты пазбавіць мужнасці нават шпегаў, якія цяпер блындаліся начнымі вуліцамі, дрыжучы ад страху, абвешаныя амулетамі і абпырсканыя святой вадой.

Аржансон адчуваў, што ўсе высілкі Вогненнай палаты пагражаюць скончыцца правалам, і звярнуўся да

караля з прапановай прызначыць для разбору новых злачынстваў трыбунал, які з яшчэ большымі паўнамоцтвамі высочваў бы злачынцаў і караў іх. Кароль, упэўнены, што і так даў Вогненнай палаце зашмат улады, і ўражаны жахам незлічоных пакаранняў, арганізаваных крыважэрным ля Рэны, катэгарычна адхіліў ініцыятыву.

Каб абудзіць цікавасць караля да сутнасці пытання, быў абраны іншы сродак.

У пакоях маркізы дэ Мэнтэнон, дзе кароль любіў бавіць час па абедзе і, напэўна, да позняй ночы працаваў са сваімі міністрамі, яму перадалі верш ад імя ўстрывожаных каханкаў, якія скардзіліся, што, калі галантнасць патрабавала ад іх прынесці каханай багаты падарунак, ім даводзілася ставіць дзеля гэтага на карту ўласнае жыццё. Натуральна, гаварылася ў вершы, гонар і радасць — праліць кроў дзеля каханай у рыцарскім баі, але зусім іншае — подлы напад забойцы, да якога немагчыма падрыхтавацца. Хай жа Людовік, ясная палярная зорка кахання і выкшталцонасці, разгоніць начны змрок сваім зыркім святлом і раскрые схаваную ў цемры чорную таямніцу. Боскі герой, што зрынуў дашчэнту ўсіх ворагаў, зараз зноўку выхапіць свой бліскучы пераможны меч і, нібы Геракл Лернейскую гідру, нібы Тэзей Мінатаўра, адолее пагрозлівую пачвару, якая нішчыць мілосць і ахінае радасць покрывам глыбокай пакуты і несуцешнага смутку.

Якой бы сур'ёзнай ні была гэтая справа, але ў вершы, асабліва ў апісанні таго, як калоцяцца ад страху каханкі на патаемных сцежках да сваіх палюбоўніц, як страх забівае ў зародку ўсю мілосць, усю пекнасць любоўных прыгодаў, не бракавала й дасціпна-жартаўлівых абаротаў. Да таго ж верш завяршаўся ўзнёслым панегірыкам Людовіку XIV, таму не было і сумневу, што кароль прачытаў яго з прыемнасцю. Скончыўшы чытанне,

ён, не адрываючы вачэй ад паперы, імкліва павярнуўся да Мэнтэнон, яшчэ раз гучна прадэкламаваў верш і тады спытаўся з прыязнай усмешкай, што яна думае пра жаданні каханкаў, якім пагражае небяспека. Мэнтэнон, што была заўжды верная свайму сур’ёзнаму розуму і вылучалася пэўнай цнатлівасцю, адказала, што патаемныя сцежкі якраз не варта асабліва абараняць, затое для вынішчэння жудасных злачынцаў было б вельмі дарэчы зрабіць адмысловыя захады. Кароль, незадаволены такім няпэўным адказам, згарнуў аркуш і хацеў быў вярнуцца да дзяржаўнага сакратара, які працаваў у іншым пакоі, але, кінуўшы вокам вакол сябе, заўважыў таксама прысутную тут Скюдэры, якая заняла месца паблізу Мэнтэнон на маленькім крэсле. Да мадэмуазэль Скюдэры ён і падышоў. Чароўная ўсмешка, што нядаўна трапятала на вуснах і шчоках і ўжо быццам бы знікла, вярнулася назад, і вось, стоячы побач з мадэмуазэль і зноў разгортваючы верш, кароль прамовіў:

— Маркіза робіць выгляд, што нічога не ведае пра любоўныя залёты нашых мілых мужчын, і ўхіляецца ад размоваў пра забароненыя сцежкі. А вы, мадэмуазэль... што вы мяркуеце наконт гэтага паэтычнага хадайніцтва?

Скюдэры пачціва прыўзнялася з крэсла, мімалётная чырвань кармазынам вечаровага неба легла на шчокі старой шаноўнай дамы, і яна прамовіла, крыху схіліўшыся і апусціўшы вочы:

Un amant, qui craint les voleurs,
n’est point digne d’amour[1].

Кароль, надзвычай уражаны рыцарскім духам гэтых словаў, якія зрынулі ў пыл цэлы верш з яго даўжэзнымі тырадамі, усклікнуў з бляскам у вачах:

— Клянуся святым Дыянісіем, вашая рацыя, мадэмуазэль! Далоў сляпыя правілы, што абараняюць баязлі-

[1] Каханак, што баіцца злодзеяў, // не варты кахання *(фр.)*.

васць, аднолькава губячы вінаватых і бязвінных; а Аржансон і ля Рэны хай робяць сваю справу!

Усе жахі, што дзеяліся навокал, найярчэйшымі фарбамі апісала Марціньер, калі наступным ранкам расказвала сваёй гаспадыні пра тое, што адбылося ўночы, пасля чаго перадала ёй, дрыжучы ад страху, загадкавую скрыначку. І яна, і Батыст, што, увесь збялелы, стаяў у кутку і мяў у руках начны каўпак, ад боязі й трывогі амаль страціўшы здольнасць гаварыць, надта жаласна malілі гаспадыню дзеля ўсіх святых адчыняць скрыначку з усёй магчымай асцярожнасцю. Мадэмуазэль Скюдэры, узважваючы ў руцэ замкнёную таямніцу, прамовіла смеючыся:

— Вам абодвум мрояцца нейкія здані! Тое, што я не багатая, што ў мяне няма каштоўнасцяў, дзеля якіх варта было б забіваць, не горш, чым вам і мне, вядома ўсім адпетым галаварэзам там, звонку, якія, як вы самі кажаце, выведваюць у дамах усе куточкі. Ці, можа, разлік на тое, каб пазбавіць мяне жыцця? Але каго і чым можа зацікавіць смерць сямідзесяцітрохгадовай жанчыны, якая ніколі не пераследавала нікога, апроч баламутаў і шыбенікаў ва ўласных раманах, якая піша пасрэдныя вершыкі, што не могуць выклікаць нічыёй зайздрасці, якая не пакіне па сабе нічога, акрамя ўрачыстага строю старой дамы, час ад часу клікanай да двара, і пары тузінаў добра пераплеценых кніг з пазалочаным абрэзам! А ты, Марціньер, можаш апісваць з'яўленне незнаёмца так вусцішна, як пажадаеш, але ж я не веру, што ён меў наўме нешта благое. Ну што ж!

Марціньер адскочыла на тры крокі, а Батыст ледзь не ўкленчыў з глухім уздыхам — ах! — калі мадэмуазэль націснула на цудоўную металічную кнопку, і накрыўка скрыначкі адкінулася з лёгкім шоргатам.

Якім жа было здзіўленне мадэмуазэль Скюдэры, калі са скрыначкі бліснула пара залатых, багата аздобленых

каштоўнымі камянямі бранзалетаў і такія самыя каралі. Яна дастала каралі, і пакуль з яе вуснаў гучалі кампліменты цудоўнай працы майстра, Марціньер пільна разглядала раскошныя бранзалеты і выгуквала раз-пораз, што такой прыгажосці, напэўна, няма нават у пыхлівай Мантэспан.

— Але што гэта ўсё мае значыць? — прамовіла Скюдэры і ў той жа момант заўважыла на дне скарбонкі маленькі складзены лісток паперы.

Зразумела, яна спадзявалася знайсці ў ім разгадку таямніцы. Аркуш, ледзь толькі яна прачытала напісанае на ім, выпаў з яе дрыготкіх рук. Яна ўмольна ўзняла вочы дагары і, амаль непрытомная, апусцілася на крэсла. Марціньер і Батыст спалохана кінуліся да яе.

— Ах! — усклікнула яна прыглушаным ад слёз голасам. — Ах, якая знявага, якая вялікая ганьба! Ці ж мусіла яшчэ й такое выпасці мне ў мае паважныя гады! Хіба ж я блюзнерыла ў дурной легкадумнасці, як юнае неразумнае стварэнне? Божа мілы, няўжо словы, кінутыя напаўжартам, можна трактаваць так жахліва! Ці ж можна вінаваціць мяне, тую, што, захоўваючы цноту і пабожнасць, з маленства паводзіла сябе бездакорна, як можа злачынец папракаць мяне ўдзелам у д'ябальскім хаўрусе?

Мадэмуазэль трымала насоўку перад вачыма і плакала ды галасіла так, што Марціньер і Батыст, дарэшты збянтэжаныя і ўстрывожаныя, не ведалі, як дапамагчы сваёй добрай гаспадыні суцешыць яе вялікі боль. Марціньер падняла з падлогі злашчасны аркуш. На ім было напісана:

Un amant, qui craint les voleurs,
n'est point digne d'amour.

Ваш дасціпны розум, вельмішаноўная пані, уратаваў ад вялікага пераследу нас, якія ўжываюць у дачыненні

да слабых і баязлівых права моцнага і прыўлашчваюць каштоўнасці, што былі б легкадумна прамантачаныя. Як доказ нашай удзячнасці ласкава прыміце гэтыя ўпрыгожанні. Яны — самае каштоўнае, што мы патрапілі прыдбаць за працяглы час, хоць вас, высакародная пані, мусілі б аздабляць нашмат прыгажэйшыя караліі, ніж гэтыя. Просім вас не адмовіць нам у вашым сяброўстве і прыязным успаміне.

*Нябачныя*

— Ці магчыма, — выгукнула мадэмуазэль Скюдэры, крыху апамятаўшыся, — ці магчыма так далёка зайсці ў бессаромным нахабстве, гнюсным глумленні?

Яркае сонечнае святло хлынула ў пакой праз гардзіны з пунсовага ядвабу, і дыяменты, што ляжалі на стале побач з адчыненай скарбонкай, заззялі чырванаватым водбліскам. Зірнуўшы на іх, Скюдэры абурана закрыла твар і загадала Марціньер зараз жа прыбраць жудасныя каралі, да якіх прыстала кроў забітых. Марціньер, спрытна схаваўшы каралі і бранзалеты ў скрыначку, выказалася ў тым сэнсе, што, мусіць, найбольш слушна было б перадаць каштоўнасці начальніку паліцыі, падрабязна расказаўшы яму пра застрашлівае з’яўленне маладога чалавека і абставіны ўручэння ім свайго падарунку.

Мадэмуазэль Скюдэры паднялася і пачала павольна хадзіць па пакоі, нібыта абдумваючы, што рабіць далей. Потым яна загадала Батысту падрыхтаваць партшэз, а Марціньер — апрануць яе, бо неадкладна захацела наведаць маркізу дэ Мэнтэнон.

Яна прыехала да маркізы якраз у той час, калі тая, як было вядома Скюдэры, была ў сваіх пакоях адна. Скрыначку з каштоўнасцямі мадэмуазэль захапіла з сабой.

Маркіза надзвычай здзівілася, пабачыўшы, што мадэмуазэль Скюдэры, якая заўжды ўвасабляла годнасць і нават, нягледзячы на паважны ўзрост, пекнасць і саму

ласкавасць, уваходзіць няпэўнымі крокамі са збялелым, скажоным тварам.

— Што, дзеля ўсіх святых, з вамі здарылася? — усклікнула маркіза, звяртаючыся да беднай спалоханай дамы, якая, нібыта не ў сабе і ледзьве ў стане трымацца роўна, прагнула толькі як найхутчэй апусціцца на крэсла, што пасунула ёй маркіза.

Калі мадэмуазэль урэшце змагла загаварыць, то расказала, якую глыбокую, невыносную крыўду прынёс ёй той неабдуманы жарт, што нарадзіўся ў адказ на петыцыю застрашаных каханкаў. Маркіза, выслухаўшы ўсю гісторыю ад пачатку да канца, выказала меркаванне, што мадэмуазэль Скюдэры прымае занадта блізка да сэрца гэтае недарэчнае здарэнне, што глумленне гнюснай набрыдзі ніколі не зможа зачапіць чыстае, высакароднае сэрца, і ўрэшце запатрабавала паказаць ёй каштоўнасці.

Мадэмуазэль Скюдэры падала ёй адчыненую скарбонку, і маркіза, пабачыўшы выкшталцоныя каралі, не змагла стрымаць гучнага воклічу здзіўлення. Яна дастала пацеркі і бранзалеты і падышла з імі да акна, дзе то назірала за пералівамі каменьчыкаў на сонцы, то падносіла вытанчаны залаты выраб зусім блізка да вачэй, каб добра разгледзець, з якім неверагодным майстэрствам быў выштукаваны кожны маленечкі гачак пераплеценых паміж сабою ланцужкоў.

Раптам маркіза рэзка павярнулася да мадэмуазэль і ўсклікнула:

— Вы напэўна ж ведаеце, шаноўная, што гэтыя бранзалеты і гэтыя каралі не мог стварыць ніхто, апроч Рэнэ Кардыльяка?

Рэнэ Кардыльяк быў тады найлепшым парыжскім ювелірам, адным з самых па-мастацку адораных і пры тым своеасаблівых людзей свайго часу. Хутчэй нізкі, чым высокі, але шыракаплечы і з моцным, мускулістым тулавам, Кардыльяк, які ўжо даўно размяняў шосты дзя-

сятак, яшчэ меў сілу і рухавасць юнака. Пра гэтую сілу, якую можна было назваць незвычайнай, сведчылі таксама густыя і кучаравыя рудаватыя валасы і прысадзістае спрытнае цела. Калі б увесь Парыж не ведаў Кардыльяка як найсумленнейшага чалавека гонару, бескарыслівага, адкрытага, без задняй думкі, заўсёды гатовага дапамагчы, то вельмі своеасаблівы позірк яго маленькіх, глыбока пасаджаных зыркіх зеленаватых вачэй мог бы навесці на думку пра таемную падступнасць і злосць. Як ужо згадвалася, Кардыльяк быў найвялікшым майстрам не толькі ў Парыжы, але, магчыма, у свеце ўвогуле. Глыбока абазнаны ў прыродзе каштоўных камянёў, ён меў здольнасць апрацоўваць і апраўляць іх так, што ўпрыгожанне, якое спачатку здавалася някідкім, выходзіла з майстэрні Кардыльяка ў бляску раскошы. Ён прымаў кожную замову з шалёнай прагнасцю і прызначаў цану, якая, здавалася, была настолькі нізкая, што аніяк не суадносілася з будучай працай. І тады новы твор не пакідаў яго ў спакоі, удзень і ўночы з майстэрні чуўся постук, а часта, калі праца была амаль скончаная, яму раптам магла не спадабацца форма, выклікала сумнеў зграбнасць аправы нейкага з камянёў, якога-небудзь маленькага гачка — і гэтага было дастаткова, каб кінуць плён працы ў плавільны тыгель і пачаць нанова. Так кожны выраб станавіўся чыстым, непараўнаным шэдэўрам, які ашаламляў замоўцу. Але ж атрымаць гатовы твор у майстра было амаль немагчыма. Ён знаходзіў тысячу падставаў, каб трымаць кліента ў няведанні тыдні і месяцы. Дарэмна яму прапаноўвалі за працу ўдвая больш — ён не хацеў ніводнага луідора звыш дамоўленага. Калі ж ён урэшце мусіў саступіць націску замоўцы і аддаць упрыгожанне, то не мог схаваць найглыбейшай прыкрасці, нават унутранай лютасці, якая віравала ў ім. Калі яму даводзілася аддаваць значны, асабліва багаты твор, што каштаваў, магчыма, многія тысячы, мярку-

ючы па дарагіх камянях і звыштонкай апрацоўцы, ён насіўся па пакоі, як вар'ят, праклінаючы сябе, сваю працу, усё навокал. Але як толькі нехта падбягаў да яго ззаду і гучна крычаў: «Рэнэ Кардыльяк, ці не хацелі б вы зрабіць прыгожыя каралі для маёй нявесты, бранзалеты для маёй каханай» і г. д., той раптам сцішваўся, бліскаў сваімі маленькімі вочкамі і пытаўся, паціраючы рукі: «Ну, што ў вас тут?» Тады чарговы замоўца выцягваў скарбонку і казаў: «Тут каменьчыкі, увогуле нічога асаблівага, звычайная рэч, але ж у вашых руках...»

Не даючы дагаварыць, Кардыльяк вырываў скрыначку з рук суразмоўцы, выцягваў камяні, і сапраўды не надта вартыя з выгляду, падносіў іх да святла і гукаў у захапленні: «Хо-хо, звычайная рэч? Так, ды не так! Прыгожыя каменьчыкі, цудоўныя каменьчыкі, толькі дайце мне волю! Калі ж вам не так важная жменька луідораў, я дадаў бы яшчэ пару каменьчыкаў, якія будуць іскрыцца ў вашых вачах, як само сонца». У адказ гучала: «Я ўсё давяраю вам, майстар Рэнэ, і заплачу колькі вам будзе заўгодна!»

Без розніцы, быў перад ім багаты буржуа ці шляхетны прыдворны, Кардыльяк палка кідаўся яму на шыю, ціскаў, і цалаваў, і гаварыў несупынна, што цяпер ён зноўку абсалютна шчаслівы і што аздоба будзе гатовая праз тыдзень. Ён стрымгалоў ляцеў дадому, зашываўся ў майстэрні, стукаў-грукаў, і праз тыдзень паўставаў шэдэўр. Але варта толькі было прыйсці замоўцу, які хацеў на радасцях заплаціць запатрабаваную невялікую суму і забраць гатовае ўпрыгожанне, як Кардыльяк рабіўся змрочным, грубым і наравістым. «Але майстар Кардыльяк, падумайце толькі, на заўтра прызначанае маё вяселле». — «Якая мне справа да вашага вяселля, падыдзіце праз два тыдні». — «Упрыгожанне гатовае, вось грошы, мне трэба яго атрымаць». — «А я кажу вам, што павінен яшчэ штосьці памяняць у вырабе і не магу

аддаць яго сёння». — «А я вам кажу, што калі вы падобраму не аддасце аздобы, за якую я вам, дарэчы, хачу заплаціць удвая больш, то хутка ўбачыце мяне ў суправаджэнні службоўцаў Аржансона». — «Ну, тады хай шатан катуе вас тысячай распаленых абцугоў і навесіць на каралі гіру ў тры цэнтнеры, каб яны задушылі вашую нявесту!»

З гэтымі словамі Кардыльяк запіхваў упрыгожанне жаніху ў нагрудную кішэнь, хапаў бедака за руку і выштурхваў яго з пакоя так, што той грукатаў па ўсіх прыступках, а пасля з д'ябальскім рогатам глядзеў праз акно, як небарака выходзіць з дому, кульгаючы і зацiскаючы хусцінкай акрываўлены нос. Зусім незразумела было і тое, што часта Кардыльяк, з энтузіязмам узяўшыся за справу, раптам з усімі прыкметамі глыбокага душэўнага хвалявання, самымі ўзрушанымі клятвамі, нават са слязьмі і ўсхліпамі, маліў замоўцу дзеля Панны Марыі і ўсіх святых вызваліць яго ад пачатай працы. Некаторыя вельмі шанаваныя каралём і народам асобы дарэмна прапаноўвалі вялікія грошы, каб атрымаць хоць найдрабнейшы выраб з рук Кардыльяка. Ён кідаўся ў ногі каралю і скуголіў акі сабака, просячы дазволу не працаваць для Яго Вялікасці. Гэтак жа ён адмаўляў у любой замове маркізе Мэнтэнон, а аднойчы з агідай і абурэннем адрынуў яе просьбу вырабіць маленькі ўпрыгожаны сімваламі мастацтва пярсцёнак, які мусіў атрымаць з яе рук Расін.

— Магу паспрачацца, — сказала Мэнтэнон, — што Кардыльяк, калі я і пашлю да яго чалавека, каб хаця б даведацца, для каго ён вырабіў гэтае ўпрыгожанне, адмовіцца прыйсці, бо ён напэўна баіцца магчымай замовы і зусім не хоча рабіць для мяне анічога. Хоць, праўду кажучы, апошнім часам здаецца, што яго непахісная ўпартасць крыху аслабела, бо я чула, што ён працуе цяпер больш увішна, чым калі, і аддае свае вырабы адразу ж,

адно што ўсё яшчэ з глыбокім засмучэннем і адвярнуўшы твар.

Мадэмуазэль Скюдэры, якой было вельмі важна, каб упрыгожанне, калі гэта магчыма, найхутчэй трапіла ў рукі законнага ўладальніка, сказала, што майстру-дзіваку можна адразу патлумачыць, што ад яго чакаюць не працы, а толькі меркавання пра каштоўнасці. Маркіза ўхваліла такі падыход. Паслалі па Кардыльяка, і той, нібыта ўжо сам быў па дарозе сюды, неўзабаве ўвайшоў у пакой.

Убачыўшы Скюдэры, ён, здаецца, збянтэжыўся і, як бывае з людзьмі, што, заспетыя нейкай неспадзяванкай, забываюцца на правілы прыстойнасці, якіх патрабуе сітуацыя, спярша нізка і з пашанай схіліўся перад гэтай зацнай дамай і толькі пасля павярнуўся да маркізы. Тая паспешліва спыталася, паказваючы на каралі, што зіхацелі на цёмна-зялёнай паверхні стала, ці не ягоных гэта рук справа. Ледзь кінуўшы вокам, Кардыльяк, утаропіўшыся маркізе ў твар, хутка сабраў бранзалеты і каралі ў скарбонку, якая стаяла побач, а потым рэзка адсунуў яе ад сябе. І тады загаварыў, а агідная ўсмешка не сыходзіла з яго чырвонага твару:

— Сапраўды, пані маркіза, трэба кепска ведаць працу Рэнэ Кардыльяка, каб хоць на момант паверыць, што нейкі іншы ювелір на свеце здольны змайстраваць такое ўпрыгожанне. Зразумела ж, гэта мая праца.

— Але скажыце тады, — працягвала маркіза, — для каго вы зрабілі яго?

— Выключна для сябе самога, — адказаў Кардыльяк. — Так, пані маркіза, — працягнуў ён, калі абедзве дамы, Мэнтэнон і Скюдэры, агаломшана зірнулі на яго, адна — з недаверам, другая — з нясмелым чаканнем. — Вам гэта можа падацца дзіўным, але гэта менавіта так. Проста каб вырабіць прыгожую рэч, я выбраў мае найлепшыя каменьчыкі і ад радасці шчыраваў

над імі больш дбайна і старанна, ніж зазвычай. Нядаўна ўпрыгожанне незразумела як знікла з маёй майстэрні.

— Хвала небу! — усклікнула Скюдэры, радасна бліскаючы вачыма, і хутка ды спрытна, як дзяўчынка, ускочыла са свайго крэсла, падышла да Кардыльяка і паклала рукі яму на плечы. — Прыміце назад, майстар Рэнэ, вашую ўласнасць, якую скралі ў вас гнюсныя нягоднікі.

І яна падрабязна расказала, як упрыгожанні трапілі ёй у рукі.

Кардыльяк слухаў моўчкі, апусціўшы вочы. Ён толькі раз-пораз кідаў невыразныя «гм», «так», «гэй», «уга» і то закладаў рукі за спіну, то ціха паціраў падбароддзе і шчокі. Калі ж Скюдэры скончыла, стварылася ўражанне, што Кардыльяк змагаецца з нейкімі думкамі, што наведалі яго падчас яе аповеду, і не можа прыняць якоесьці рашэнне. Ён цёр сабе лоб, уздыхаў, праводзіў даланёю па вачах, нібыта каб стрымаць гатовыя пырснуць слёзы. Нарэшце ён схапіў скрыначку з рук мадэмуазэль Скюдэры, павольна апусціўся на калена і прамовіў:

— Вам, высакародная пачцівая пані, гэтыя ўпрыгожанні прызначыў лёс. Так, я толькі цяпер разумею, што падчас працы над імі думаў пра вас, папросту працаваў для вас. Не адмоўцеся, прашу вас, прыняць і насіць гэтыя ўпрыгожанні як найлепшае, што зроблена мною, напэўна, за доўгія гады.

— Ах не, — адказала Скюдэры крыху гулліва, — ці вы мяркуеце, майстар Рэнэ, што мне ў маім веку пасуе так аздабляць сябе бліскучымі каменьчыкамі? І як вам толькі прыйшло да галавы так пышна мяне адорваць? Ідзіце, ідзіце, майстар Рэнэ. Калі б я была прыгожая, як маркіза дэ Фантанж, і такая ж заможная, я б не выпусціла каштоўнасці з рук, але нашто гэтым друзлым запясцям пыхлівая раскоша, навошта бліскучае ўбранне гэтай захутанай шыі?

Кардыльяк тым часам выпрастаўся і загаварыў як не ў сабе, бліскаючы вачыма і ўпарта працягваючы скарбонку Скюдэры:

— Злітуйцеся нада мной, мадэмуазэль, вазьміце ўпрыгожанні. Вы не паверыце, якую глыбокую пашану да вас за вашыя цноты, вашыя вялікія заслугі нашу я ў сваім сэрцы! Зразумейце ж мой сціплы падарунак толькі як імкненне выказаць вам мае самыя шчырыя пачуцці!

Паколькі Скюдэры ўсё яшчэ вагалася, Мэнтэнон узяла скрыначку з рук Кардыльяка, кажучы:

— Клянуся небам, мадэмуазэль, вы заўжды згадваеце свой немалады век, гаворыце, як няпроста нам, вам і мне, агораць свае гады і іх цяжар! Але ці не паводзіце вы сябе якраз цяпер як сарамлівая дзяўчынка, што з радасцю прыняла б прапанаваны салодкі плод, калі б толькі магла гэта зрабіць без дапамогі рукі і пальцаў? Не адмаўляйце ж слаўнаму майстру Рэнэ па сваёй волі прыняць у падарунак тое, што тысячы іншых людзей не могуць атрымаць ні за якае золата, ані за просьбы і маленні.

Мэнтэнон усунула скарбонку ў рукі Скюдэры, і тут Кардыльяк зноўку ўпаў на калена, пацалаваў Скюдэры край спадніцы, потым рукі — застагнаў, уздыхнуў, заплакаў, усхліпнуў, ускочыў і, як звар'яцелы, імкліва пабег прэч, перакульваючы сталы і крэслы, так што зазвінеў парцалянавы і шкляны посуд у шафах.

Скюдэры, зусім спалоханая, закрычала:

— Дзеля ўсіх святых, што гэта робіцца з чалавекам!

Але маркіза, відавочна, у асабліва вясёлым настроі, ажно да гарэзлівасці, звычайна ёй зусім не ўласцівай, ясна ўсміхнулася і сказала:

— Дык вось яно што, мадэмуазэль! Майстар Рэнэ смяротна закаханы ў вас і пачаў, па добрых, праверáных часам звычаях сапраўднай галантнасці, атакаваць вашае сэрца дарагімі падарункамі!

Мэнтэнон гарэзіла далей, перасцярогшы Скюдэры ад залішняй жорсткасці да роспачнага каханка, і тая, даючы волю прыроджанай весялосці, рынулася ў бурлівую плынь тысячаў дасціпных прыдумак. Яна выказала меркаванне, што, калі ўжо ўсё так паварочваецца, ёй, нарэшце пераможанай, напэўна наканавана стаць нечуваным у свеце прыкладам сямідзесяцітрохгадовай нявесты ювеліра з бездакорна арыстакратычным паходжаннем. Мэнтэнон вызвалася сплесці вясельны вянок для маладой і навучыць яе абавязкам добрай хатняй гаспадыні, пра якія такое малое дзяўчо, зразумела ж, ведае няшмат.

Калі Скюдэры нарэшце паднялася, каб развітацца з маркізай, то, нягледзячы на смех і жарты, зноўку стала вельмі сур'ёзнай, узяўшы ў рукі скарбонку з упрыгожаннямі. Яна сказала:

— І ўсё ж, шаноўная маркіза, я ніколі не змагу скарыстацца гэтымі каштоўнасцямі. Што б там ні казалі, яны аднойчы пабывалі ў руках тых слугаў д'ябла, якія з ягоным нахабствам ды, мусіць, і ў праклятым хаўрусе з ім рабуюць і забіваюць. Мяне страшыць кроў, сляды якой нібы бачныя на бліскучых каралях. Дый паводзіны Кардыльяка, мушу прызнацца, падаліся мне вусцішнымі і злавеснымі. Я ніяк не магу пазбавіцца цьмянага прадчування, што за ўсім гэтым хаваецца нейкая жахлівая, жудасная таямніца, і, прыгадваючы тую гісторыю цалкам, з усімі дэталямі, я, тым не менш, не магу сабе нават уявіць, дзе хаваецца гэтая таямніца і што ўвогуле сумленны, слаўны майстар Рэнэ, узор добрага, прыстойнага грамадзяніна, можа мець агульнага з чымсьці злым і заганным. Але прынамсі адно я ведаю дакладна: я ніколі не дазволю сабе надзець гэтыя ўпрыгожанні.

Маркіза выказалася ў тым духу, што гэта значыла б паддацца згрызотам сумлення, але калі Скюдэры папрасіла яе з усёй шчырасцю адказаць, што б яна рабіла на яе месцы, заявіла сур'ёзна і ўпэўнена: «Хутчэй бы ўжо

кінула ўпрыгожанні ў Сену, чым стала б іх калі-небудзь насіць».

Выпадак з майстрам Рэнэ натхніў Скюдэры на мілыя вершаваныя радкі, якія яна наступным вечарам у пакоях Мэнтэнон прачытала каралю. Цалкам верагодна, што ў яе атрымалася, не надта шкадуючы майстра і здалеўшы страх злавесных прадчуванняў, жывымі колерамі намаляваць забаўны вобраз сямідзесяцітрохгадовай нявесты ювеліра з бездакорна старадаўнім арыстакратычным паходжаннем. Гэтага хапіла, каб кароль пасмяяўся да глыбіні душы, пакляўшыся, што мадэмуазэль пераўзышла самога Нікаля Буало-Дэпрэо. І дзякуючы гэтаму верш Скюдэры пачаў лічыцца самым дасціпным творам з усяго напісанага ўвогуле.

Праз некалькі месяцаў лёсу было заўгодна, каб Скюдэры праехала ў карэце са шкельцамі герцагіні Мантансье па Новым мосце. Выкшталцоныя зашклёныя карэты вынайшлі яшчэ так нядаўна, што з'яўленне на вуліцах транспарту такога кшталту спараджала цісканіну цікаўнага люду. Вось і тым разам здарылася так, што натоўп разявакаў атачыў на Новым мосце карэту Мантансье, амаль што спыняючы рух коней. І тут Скюдэры нечакана пачула лаянку і праклёны і заўважыла нейкага чалавека, які, штурхаючыся і раздаючы кухталі, прабіраўся праз найшчыльнейшую чалавечую масу. Калі ён наблізіўся, Скюдэры працяў ліхаманкавы бляск вачэй на смяротна белым змучаным юнацкім твары. Малады чалавек не адрываў ад яе пагляду, локцямі і кулакамі энергічна вызваляючы сабе дарогу, ажно пакуль не дасягнуў дзверак карэты, якія расчыніў у шалёным парыве, кінуў Скюдэры ў прыпол паперку і, дорачы налева-направа ды прымаючы ў адказ удары, знік там жа, адкуль з'явіўся. Ледзь толькі незнаёмец паўстаў ля дзверак карэты, Марціньер, што сядзела побач са Скюдэры, з крыкам жаху павалілася на падушкі як нежывая. Да-

рэмна Скюдэры абрывала шнурок званочка і гукала фурмана — той, быццам апанаваны злым духам, насцёбваў коней, што, пырскаючы пенай, кідаліся, ускоквалі на дыбкі і нарэшце жвавай рыссю прагрукаталі па мосце. Скюдэры ліла на непрытомную служанку пахкую вадкасць са сваёй пляшачкі, пакуль Марціньер не расплюшчыла вочы на скажоным жудой белым твары і, дрыжучы і калоцячыся ўсім целам, сутаргава ўчапіўшыся ў гаспадыню, з цяжкасцю не прастагнала:

— Дзеля Найсвяцейшай Багародзіцы! Чаго хацеў гэты жахлівы чалавек? Ах! Гэта ж ён, гэта быў ён, той самы, што прынёс вам скарбонку ў тую страшную ноч!

Скюдэры суцешыла небараку, давёўшы ёй, што насамрэч нічога благога не здарылася і што галоўнае цяпер — даведацца, што ў лісце. Яна разгарнула паперку і ўбачыла такія словы:

«Ліхі лёс, які вы маглі адвярнуць, штурхае мяне ў бездань! Заклінаю вас, як сын сваю маці, якую ён не можа кінуць, ахоплены полымем дзіцячай любові, перадаць каралі і бранзалеты, што вы атрымалі праз мяне (хаця з якой нагоды... напрыклад, каб нешта ў іх паправіць), майстру Рэнэ Кардыльяку. Вашае здароўе, вашае жыццё залежаць ад гэтага. Калі вы не зробіце гэтага да паслязаўтра, я ўварвуся ў ваш дом і заб'ю сябе ў вас на вачах!»

— Ну вось, цяпер відавочна, — прамовіла Скюдэры, прачытаўшы, — што нават калі загадкавы малады чалавек сапраўды належыць да банды нягодных злодзеяў і забойцаў, ён не мае наўме нічога кепскага супраць мяне. Калі б у яго атрымалася пагаварыць са мной у тую ноч, хто ведае, якая таямніца адкрылася б, якая цьмянасць праяснілася б для мяне, што дарэмна шукае цяпер у душы хоць бы слабы намёк на разгадку. Але як бы ні разгортваліся далей падзеі, я зраблю тое, што мне прапанавана ў гэтай цыдулцы, хаця б дзеля таго, каб пазба-

віцца злашчасных упрыгожанняў, што здаюцца мне пякельным талісманам самога зла. Напэўна, Кардыльяк па сваёй старой звычцы ўжо так лёгка не выпусціць зноўку гэтыя каштоўнасці з рук.

Скюдэры мелася ўжо на наступны дзень выправіцца з упрыгожаннямі да ювеліра. Але сталася так, што ўсе найлепшыя розумы Парыжа нібы дамовіліся менавіта гэтым ранкам абрынуцца на мадэмуазэль са сваімі вершамі, п’есамі і анекдотамі. Толькі ля Шапэль дачытаў сцэну з новай трагедыі і хітравата запэўніў, што разлічвае атрымаць перамогу над Расінам, як той з’явіўся сам і адолеў суперніка патэтычнай прамовай нейкага караля, а пасля Буало асвятліў чорны трагічны небасхіл феерверкам сваёй дасціпнасці, каб толькі не слухаць вечных развагаў пра каланаду Луўра, архітэктар якой — доктар Перо — давёў яму сваю рацыю.

Было ўжо далёка за поўдзень, Скюдэры мусіла наведаць герцагіню Мантансье, і візіт да майстра Кардыльяка давялося адкласці да наступнай раніцы.

Скюдэры мучыла нейкая незвычайная трывога. Перад яе вачыма нязменна стаяў той юнак, і з самых глыбіняў свядомасці намагаўся прабіцца на паверхню цьмяны ўспамін — быццам яна ўжо дзесьці бачыла гэтае аблічча, гэтыя рысы твару. Лёгкую дрымоту перарывалі неспакойныя мроі, ёй здавалася, што яна неразважна, нават недаравальна ўпусціла шанец прыйсці на дапамогу няшчаснаму, які, падаючы ў бездань, умольна цягнуў да яе рукі, што ў яе сілах было супрацьстаяць нейкай блізкай фатальнай падзеі, гнюснаму злачынству! На самым золку яна загадала апрануць сябе і, захапіўшы скарбонку з упрыгожаннямі, рушыла да ювеліра.

На вуліцу Нікез, дзе жыў Кардыльяк, імкнуўся натоўп, збіраўся перад уваходнымі дзвярыма, гарлаў, віраваў, лютаваў, хацеў прабіцца ўсярэдзіну. Яго з цяжкасцю стрымлівалі гвардзейцы, што атачылі дом. У дзікім

няўцямным гомане чуліся раз'юшаныя галасы: «Раздзярыце, раструшчыце праклятага забойцу!» Нарэшце з'явіўся Дэгрэ на чале вялікай каманды, якая ўтварыла ў самай гушчы народу праход. Дзверы расчыніліся, з іх вывелі чалавека, закутага ў ланцугі, і павялі далей пад самыя жудасныя праклёны раз'юшанага натоўпу. У той момант, калі Скюдэры, ледзь жывая ад жаху і страшных прадчуванняў, назірала за тым, што адбываецца, вушы ёй працяў гучны лямант.

— Далей, далей наперад! — адчайна крыкнула яна фурману, які, спрытна зрабіўшы разварот, прабіўся праз людскую гушчу і спыніў карэту ля самых дзвярэй дома Кардыльяка.

Там перад вачыма Скюдэры паўстаў Дэгрэ і ля яго ног — юная дзяўчына, прыгожая, як ясны дзень, з распушчанымі валасамі, напалову раздзетая, на твары — шалёны страх і несуцешная роспач. Яна абхапіла калені рукамі і енчыла як ад найгоршага, нястрымнага, смяротнага болю: «Але ж ён невінаваты, ён невінаваты!» Дарэмна Дэгрэ і яго людзі намагаліся адчапіць яе, адарваць ад зямлі. Урэшце дужы камлюкаваты хлопец грубымі ручышчамі ўзяў яе пад пахі, гвалтам адарваў ад Дэгрэ, але раптам нязграбна спатыкнуўся і выпусціў яе з рук, так што дзяўчына скацілася па каменных прыступках і знерухомела — мёртва засталася ляжаць на вуліцы. Скюдэры не вытрымала:

— У імя Хрыста, што здарылася, што тут адбываецца? — крыкнула яна, рэзка адчыніла дзверку і выйшла.

Народ пачціва адступіў перад шляхетнай дамай, якая, бачачы, як некалькі спагадных кабет паднялі дзяўчыну, пасадзілі яе на прыступку і пачалі расціраць ёй скроні, наблізілася да Дэгрэ і запальчыва паўтарыла сваё пытанне.

— Здарылася страшнае, — адказаў Дэгрэ. — Рэнэ Кардыльяк быў сёння раніцай забіты ўдарам кінжала.

Забойца — яго вучань Аліўе Брусон. Яго якраз павялі ў турму.

— А дзяўчына? — усклікнула Скюдэры.

— Дзяўчына, — працягнуў Дэгрэ, — завецца Мадлон, яна дачка Кардыльяка. Той жудасны чалавек быў яе каханкам. І вось яна плача, галосіць і выкрыквае раз ад разу, што Аліўе невінаваты, зусім не вінаваты. Але ў любым выпадку яна нешта ведае пра злачынства, і я мушу яе таксама адправіць ў турму Кансьержэры.

З гэтымі словамі Дэгрэ кінуў на дзяўчыну хітравата-зласлівы позірк, які прымусіў Скюдэры здрыгануцца. Мадлон якраз пачала ціха дыхаць, але, не маючы змогі вымавіць ні гуку альбо паварушыцца, ляжала з заплюшчанымі вачыма, і ніхто не ведаў, што рабіць — аднесці яе ў дом ці яшчэ пастаяць побач, пакуль не апрытомнее. Глыбока ўзрушаная, Скюдэры са слязьмі на вачах глядзела на цнатлівага анёлка. Ёй было вусцішна ад выгляду Дэгрэ і яго памагатых. Тут пачуўся глухі грукат на лесвіцы — выносілі труп Кардыльяка. Імгненна прыняўшы рашэнне, Скюдэры гучна прамовіла:

— Я забіраю дзяўчынку з сабой, паклапаціцеся пра астатняе, Дэгрэ!

Па натоўпе пракаціўся глухі ўхвальны рокат. Жанчыны паднялі Мадлон, усё навокал заварушылася, сотні рук імкнуліся дапамагчы ім, і, быццам праплыўшы ў паветры, дзяўчо апынулася ў карэце, пры гэтым з вуснаў усіх злятаў блаславенні на адрас годнай дамы, якая ўратавала бязвінную ахвяру ад крывавага суда.

Дзякуючы высілкам Серона, самага вядомага лекара ў Парыжы, Мадлон, якая да гэтага некалькі гадзін нерухома праляжала ў бяспамяцтве, нарэшце апрытомнела. Скюдэры скончыла пачатую доктарам справу, цеплячы ў душы дзяўчыны ласкавыя промні надзеі, пакуль слёзы, што магутным патокам лінулі з вачэй, не прынеслі Мадлон палёгку і яна, пераадольваючы пранізлівы боль,

ад якога словы раз-пораз патаналі ў горкім усхліпе, расказала, што адбылося ў тую ноч.

Апоўначы Мадлон абудзіў ціхі стук у дзверы пакоя, і яна пачула голас Аліўе, які заклінаў яе зараз жа падняцца, бо бацька яе памірае. У жаху яна ўскочыла з ложка і адчыніла дзверы. Аліўе, белы і страшны з твару, заліты потам, трымаючы ў руцэ ліхтар, няпэўнымі крокамі пайшоў у майстэрню, а яна рушыла следам. Там ляжаў яе бацька з ашклянелымі вачыма і хрыпеў у перадсмяротнай агоніі. Яна загаласіла, кінулася яму на грудзі і толькі тады заўважыла крывавую пляму на кашулі. Аліўе, мякка адцягнуўшы дзяўчыну, пачаў прамываць і перавязваць рану на левым баку Кардыльяка. Тым часам бацька апрытомнеў, перастаў хрыпець, замілавана паглядзеў на дачку, потым на вучня, узяў яе руку, уклаў у руку Аліўе і моцна сціснуў абедзве. Яны разам укленчылі перад ложкам старога, які памкнуўся быў прыўзняцца з апошнім гукам на вуснах, але адразу ж абмяк і глыбока ўздыхнуў апошні раз.

Абое заплакалі ўголас. Аліўе расказаў, як падчас шпацыру, на які яго ўначы паклікаў Кардыльяк, майстар быў забіты ў яго на вачах і як яму давялося з вялізнымі намаганнямі цягнуць дадому цяжкога мужчыну, не цямячы, што той смяротна паранены. На золку гаспадары дому, устрывожаныя начным шумам, гучным плачам і лямантам, падняліся наверх і заспелі няўцешную Мадлон, што кленчыла ля цела бацькі. Тут пачуўся галас, уварваліся жандармы і пацягнулі Аліўе ў турму як забойцу ўласнага настаўніка. Мадлон найкранальна апісала цноты, рахманасць і вернасць каханага Аліўе, які шанаваў майстра як роднага бацьку, а той напоўніцу адказваў на яго любоў, прызнаўшы яго, хоць і беднага, сваім зяцем, бо ўмельства вучня спалучалася з надзейнасцю і чыстым сэрцам. Усё гэта Мадлон сказала цалкам шчыра і запэўніла, што нават калі б каханы пры ёй уда-

рыў яе бацьку кінжалам у грудзі, яна хутчэй палічыла б гэта д'ябальскім насланнём, чым паверыла, што Аліўе здольны на такое жудаснае, вусцішнае злачынства.

Скюдэры, да глыбіні душы кранутая нясцерпнымі пакутамі Мадлон і ўжо схільная прызнаць беднага Аліўе невінаватым, папытала людзей і атрымала пацверджанне словаў Мадлон пра ўзаемаадносіны майстра і вучня. Гаспадары дому і суседзі ў адзін голас хвалілі Аліўе як узор добрапрыстойных, лагодных, адданых, руплівых паводзінаў, ніхто не мог сказаць пра яго нічога благога. І ўсё ж, калі размова заходзіла пра жудасны ўчынак, усе паціскалі плячыма і мармыталі, што тут нешта незразумелае.

Як стала вядома Скюдэры, Аліўе, дапытаны ў Вогненнай палаце, з найвялікшай непахіснасцю, з найчысцейшым сумленнем адмаўляў абвінавачанне і сцвярджаў, што стаў сведкам нападу на свайго майстра з нажом проста на вуліцы, што прыцягнуў яго яшчэ жывога дадому, дзе той вельмі хутка памёр. І гэта таксама супадала з аповедам Мадлон.

Скюдэры зноў і зноў аднаўляла найдрабнейшыя дэталі жахлівага здарэння. Яна дакладна высвятляла, ці мелі калі-небудзь месца спрэчкі паміж майстрам і вучнем, ці быў Аліўе зусім пазбаўлены той запальчывасці, якая часта, як сляпое шаленства, нападае на самага добразычлівага чалавека і вядзе да ўчынкаў, што ўжо нібыта не залежаць ад яго волі. Але чым больш узрушана Мадлон казала пра спакойнае ўтульнае шчасце, у якім тры чалавекі жылі, злучаныя шчырай любоўю, тым хутчэй знікаў нават цень падазронасці да асуджанага на смерць Аліўе. Дакладна правяраючы ўсе абставіны, зыходзячы з дапушчэння, што Аліўе, нягледзячы на ўсё тое, што яўна сведчыла пра яго невінаватасць, усё ж быў забойцам Кардыльяка, Скюдэры не магла знайсці аніводнага

прымальнага матыву для жахлівага ўчынку, які ў любым выпадку мусіў разбурыць шчасце Аліўе.

«Ён бедны, але майстравіты. Яму шэнціць заслужыць прыхільнасць знакамітага ювеліра, ён кахае яго дачку, і майстар спрыяе гэтаму каханню, яго дабрабыт мае быць забяспечаны на ўсё далейшае жыццё! Ды нават калі ўявіць сабе, што Аліўе, Бог ведае чаму раздражнёны, ахоплены гневам, здзейсніў замах на свайго дабрадзея, свайго бацьку, якая д’ябальская крывадушнасць дазволіла б яму так трымацца пасля злачынства?» Цвёрда перакананая ў невінаватасці Аліўе, Скюдэры пастанавіла ўратаваць бязвіннага юнака, чаго б гэта ёй ні каштавала.

Ёй здавалася найбольш слушным, перш чым заклікаць да літасці самога караля, звярнуцца да ля Рэны, выклаўшы ўсе абставіны, што мусілі б сведчыць пра невінаватасць Аліўе, і, быць можа, абудзіць у душы старшыні Вогненнай палаты ўнутранае перакананне, спрыяльнае для падсуднага, якое затым дабратворна перадалося б суддзям.

Ля Рэны прыняў Скюдэры з глыбокай пашанай, на што годная дама, якую высока цаніў сам кароль, справядліва магла разлічваць. Ён спакойна выслухаў аповед пра жахлівае здарэнне, пра жыццё Аліўе і яго характар, і тонкая, амаль з’едлівая ўсмешка была адзінай прыкметай таго, што запэўненні і часта перарываныя слязьмі напаміны, што кожны суддзя не вораг падсуднаму, а мусіць браць пад увагу ўсе абставіны, якія сведчаць на яго карысць, увогуле даходзілі да вушэй суразмоўцы. Калі ж нарэшце цалкам знясіленая Скюдэры, выціраючы слёзы, змоўкла, ля Рэны вырашыў адказаць:

— Гэта ўласціва вашаму высакароднаму сэрцу, шаноўная пані: кранутая слязьмі юнай закаханай дзяўчыны, вы верыце кожнаму яе слову і нават дапусціць не можаце думкі пра жудаснае злачынства. Але зусім іншае — суддзя, які прызвычаіўся выкрываць нахабнае

прытворства. Думаю, маёй пасадзе не вельмі пасуе тлумачыць кожнаму, хто пытаецца, сутнасць крымінальнага працэсу. Мадэмуазэль, паверце, я толькі выконваю свой абавязак, мяне мала трывожыць суд гэтага свету. Усе ліхадзеі павінныя дрыжаць ад страху перад Вогненнай палатай, якая не ведае іншых пакаранняў, апрача крыві і агню. Але ў вашых вачах, вялебная пані, я не хачу выглядаць грубай і жахлівай пачварай, таму дазвольце мне ў некалькіх словах ясна сфармуляваць крывавую правіну маладога злачынца, якога, дзякаваць Небу, напаткала помста. Тады ваш востры розум сам адкіне прэч добразычлівасць, якая робіць гонар вам, але мне зусім не да твару. Дык вось. На золку Рэнэ Кардыльяка знаходзяць забітым ударам кінжала. Побач з ім няма нікога, апрача яго вучня Аліўе Брусона і дачкі. У пакоі Аліўе, апроч іншага, натрапляюць на кінжал, афарбаваны свежай крывёю, вастрыё якога дакладна паўтарае форму раны. «Кардыльяка, — кажа Аліўе, — зарэзалі ўначы на маіх вачах». — «Яго хацелі абрабаваць?» — «Не ведаю». — «Ты ішоў разам з ім і не здолеў абараніць ад забойцы, затрымаць яго, паклікаць на дапамогу?» — «Майстар ішоў за пятнаццаць ці, можа, дваццаць крокаў ад мяне, я рухаўся за ім». — «А чаму так далёка?» — «Так захацеў майстар». — «Што ўвогуле майстар Кардыльяк мог рабіць так позна на вуліцы?» — «Не магу сказаць». — «Але ж звычайна ён ніколі не выходзіў з дому пасля дзевяці гадзін вечара». І тут Аліўе бянтэжыцца, пачынае запінацца, цяжка ўздыхае, плача і клянецца ўсімі святымі, што Кардыльяк напраўду выходзіў з дому тае ночы і напаткаў сваю смерць. А цяпер, пані, падумайце вось пра што. Абсалютна дакладна высветлена, што ў тую ноч Кардыльяк не пакідаў дому, таму сцверджанне Аліўе пра тое, што ён выходзіў разам з гаспадаром, — дзёрзкая мана. На дзвярах вісіць цяжкі замок, які падчас адмыкання і замыкання пранізліва скрыгоча, а потым так агід-

на рыпяць і выюць завесы, што шум (гэта пацверджана неаднаразовымі спробамі) чуваць на апошнім паверсе. Унізе ж, то бок непасрэдна перад уваходнымі дзвярыма, жыве стары мэтр Клод Патру са сваёй пакаёўкай, асобай амаль васьмідзесяці гадоў, але ўсё яшчэ бадзёрай і рухавай. Яны абое чулі, як у той вечар Кардыльяк, паводле сваёй завядзёнкі, роўна а дзявятай спусціўся па лесвіцы, з вялікім шумам зачыніў і заваліў дзверы, пасля ізноў падняўся, гучна прачытаў вечаровую малітву і, як можна было меркаваць з грукату дзвярэй, пайшоў да сябе ў спальню. Мэтр Клод пакутуе на бяссонніцу, як гэта нярэдка здараецца са старымі, і ў тую ноч ён таксама не мог заплюшчыць вочы. Таму пакаёўка — была, мусіць, палова дзясятай — запаліла святло на кухні, куды яна трапляе праз агульны калідор, і прысела за стол да мэтра Клода са старой хронікай, з якой нешта чытала ўголас, пакуль гаспадар, занураны ў думкі, то сядаў у фатэль, то зноўку падымаўся і, каб нарэшце стаміцца і заснуць, пaціху хадзіў па пакоі туды-сюды. Усё было ціха і мірна да паўночы. І тут жанчына пачула наверсе хуткія крокі, потым удар, нібы нешта цяжкае павалілася на падлогу, і адразу за гэтым — глухі стогн. Абодва адчулі дзіўны страх і неспакой, трымценне ад толькі што здзейсненага жудаснага злачынства. З надыходам ранку праяснілася тое, што адбылося ў цемры.

— Але, — прамовіла Скюдэры, — дзеля ўсяго святога, ці можаце вы, з улікам акалічнасцяў, пра якія я вам так падрабязна расказала, прывесці хоць адзін матыў гэтага д’ябальскага ўчынку?

— Гм... — адказаў ля Рэны. — Кардыльяк быў нябедны чалавек, меў цудоўныя камяні.

— Ці ж не дачка атрымлівала ўсё ў спадчыну? — стаяла на сваім Скюдэры. — Не забывайцеся, што Аліўе мусіў стаць зяцем Кардыльяка.

— Імаверна, ён павінен быў дзяліцца ці ўвогуле забіваць толькі дзеля іншых, — выказаў здагадку ля Рэны.

— Дзяліцца? Забіваць дзеля іншых? — вельмі здзіўлена перапытала Скюдэры.

— Ведайце ж, — сказаў старшыня палаты, — ведайце, мая пані, што Аліўе ўжо даўно сплыў бы крывёю на Грэўскай плошчы, калі б яго ўчынак не меў сувязі з глыбока схаванай таямніцай, што дагэтуль трымала ў страху Парыж. Аліўе, мяркуючы з усяго, належыць да той сумнавядомай хеўры, якая, нібы цвелячыся з увагі, высілкаў і росшукаў судовых інстанцый, патрапляла чыніць свавольствы нахабна і беспакарана. З яго дапамогай мы высветлім — мусім высветліць — усё дарэшты. Рана Кардыльяка вельмі падобная да тых, што мелі на сабе ўсе забітыя і абрабаваныя на вуліцах і ў сваіх дамах. Але галоўнае ў тым, што з часу зняволення Аліўе Брусона забойствы і рабаванні спыніліся. Цяпер начныя вуліцы такія ж бяспечныя, як і ўдзень. Дастатковы доказ таго, што Аліўе, імаверна, стаяў на чале хеўры. Ён пакуль не хоча прызнавацца, але ёсць сродкі прымусіць яго гаварыць супраць волі.

— А як жа Мадлон? — ускрыкнула Скюдэры, — Мадлон, адданая, бязвінная галубка?

— О, — адказаў ля Рэны, з'едліва ўсміхаючыся, — ды хто паручыцца, што яна таксама не ўваходзіць у хеўру? Якая ёй справа да ўласнага бацькі, яна пралівае слёзы толькі па ягоным забойцу.

— Што вы такое кажаце! — абурылася Скюдэры. — Гэта проста немагчыма! Уласнага бацьку! Гэтае дзяўчо!

— Эге! — ля Рэны не збіраўся адступаць. — Прыгадайце Брэнвілье! Папрашу вас даравваць мне, калі ў хуткім часе я буду змушаны забраць ад вас вашую падапечную і кінуць яе ў турму Кансьержэры.

Ад такога вусцішнага падазрэння Скюдэры ахапіў жах. Ёй падалося, што для гэтага жудаснага чалавека не

існуе вернасці ці цноты, што ён быццам высочвае ў самых інтымных, самых патаемных думках прагу забойства і крыві. Яна ўстала.

— Будзьце чалавечным, — гэта было ўсё, што яна здолела пакутліва, цяжка дыхаючы, выціснуць у адказ.

Ужо пачаўшы спускацца лесвіцай, да якой старшыня палаты праводзіў яе з цырымоннай ветлівасцю, яна злавіла сябе на дзіўнаватай думцы, што невядома як прыйшла ёй у галаву.

— Ці не будзе мне ласкава дазволена пабачыць няшчаснага Аліўе Брусона? — спытала яна ў ля Рэны, рэзка павярнуўшыся да яго.

Той скептычна паглядзеў на жанчыну, і на яго твары з'явілася характэрная непрыемная ўсмешка.

— Зразумела, — сказаў ён, — што вы, шаноўная пані, больш давяраючы свайму пачуццю, свайму ўнутранаму голасу, чым таму, што дзеецца ў вас на вачах, хочаце асабіста вызначыць вінаватасць ці бязвіннасць Аліўе. Калі вас не палохае думка ўбачыць змрочны прыстанак злачынства, малюнкі маральнага заняпаду на ўсіх яго прыступках, для вас на дзве гадзіны адчыніцца брама Кансьержэры, і вас адвядуць да гэтага Аліўе, чый лёс выклікае ў вас такую спагаду.

Мадэмуазэль Скюдэры сапраўды не паверыла ў вінаватасць юнака. Так, усё сведчыла супраць яго, і ніводзін суддзя, маючы такія пераканаўчыя доказы, не змог бы дзейнічаць іначай, чым ля Рэны. Але карціна сямейнага шчасця, у самых жывых фарбах намаляваная Мадлон, пераўзыходзіла нядобрыя падазрэнні, таму Скюдэры хутчэй была гатовая пагадзіцца з нераскрытай таямніцай, чым паверыць у тое, супраць чаго пратэставалі ўсе яе пачуцці.

Яна разлічвала пачуць ад Аліўе аповед пра ўсё, што адбылося ў тую фатальную ноч, і, наколькі гэта будзе магчыма, заглыбіцца ў таямніцу, якая, імаверна, заста-

лася схаванай ад суддзяў, бо справа здавалася ім не вартай далейшых высілкаў.

Па прыездзе ў турму Кансьержэры мадэмуазэль Скюдэры суправадзілі ў вялікае светлае памяшканне. Неўзабаве да яе вушэй данёсся бразгат ланцугоў. Гэта вялі Аліўе Брусона. Як толькі ён з'явіўся ў праёме, Скюдэры самлела. Трошкі ачомаўшыся, яна ўбачыла, што Аліўе знік. Яна нецярпліва загадала адвесці сябе да карэты. Прэч, зараз жа прэч адтуль, дзе пануе злачынная подласць! Ах! Яна з першага погляду пазнала ў Аліўе юнака, які на Новым мосце шпурнуў ёй у карэту цыдулку і які прынёс скарбонку з упрыгожаннямі. Цяпер усе сумневы рассеяліся, а страшная здагадка ля Рэны цалкам пацвердзілася. Аліўе Брусон належыць да жудаснай хеўры забойцаў. Бясспрэчна, гэта ён пазбавіў жыцця майстра. А як жа Мадлон? Так горка, як ніколі раней, падманутая ўнутраным чуццём, ахопленая смяротным жахам перад сіламі пекла на зямлі, існаванню якіх яна не давала веры, Скюдэры адчула глыбокае расчараванне ў магчымасці праўды ў гэтым свеце. Яна дазволіла пратачыцца ў сваю свядомасць вусцішнаму падазрэнню, што Мадлон замяшаная ў змову і магла мець дачыненне да страшнага забойства. Як чалавечаму розуму ўласціва рупліва шукаць і знаходзіць новыя фарбы, каб усё ярчэй расквечваць аднойчы паўсталы малюнак, так і Скюдэры, наноў узважваючы кожную акалічнасць злачынства і найдрабнейшыя дэталі ў паводзінах Мадлон, знайшла багата падставаў для падазрэння, і многае з таго, што раней служыла доказам бязвіннасці і чысціні, зрабілася прыкметай злосці пад маскай умелага прытворства. Немыя енкі і крывавыя слёзы маглі, цалкам імаверна, быць спараджэннем смяротнага страху, але не ад таго, што давядзецца пабачыць крывавае пакаранне каханага, о не — ад таго, што ёй самой наканавана загінуць пад рукой ката.

Скюдэры выйшла з карэты з ужо прынятым рашэннем: неадкладна скінуць з шыі змяю, якую прыгрэла на грудзях! Але варта ёй было зайсці ў пакой, як Мадлон кінулася да яе ног. Падняўшы на мадэмуазэль нябесныя вочы, яснейшыя за анёльскія, усхвалявана склаўшы рукі на грудзях, дзяўчына лямантавала і голасна маліла аб дапамозе і спагадзе. З цяжкасцю трымаючы сябе ў руках, Скюдэры загаварыла, намагаючыся надаць голасу як мага больш строгасці і ўпэўненасці:

— Ідзі ўжо, ідзі, хай цябе суцешыць забойца, якога чакае справядлівая кара за ганебныя ўчынкі. І маліся святой Панне Марыі, каб на цябе саму не лёг цяжар віны за крывавае злачынства.

— Ах, гэта канец! — з адчайным воклічам Мадлон упала непрытомная.

Скюдэры загадала Марціньер паклапаціцца пра дзяўчыну і сышла ў іншы пакой.

Цалкам знявераная, у разладзе з усім зямным, Скюдэры не жадала больш жыць у свеце, поўным д'ябальскага ашуканства. Яна папракала свой лёс, які, нібы на горкі здзек, многія гады дазваляў ёй мацаваць веру ў цноты і сумленнасць, каб цяпер, у такім узросце, знішчыць прыўкрасны вобраз, што асвятляў яе жыццё.

Скюдэры пачула голас Мадлон, што ціхенька ўсхліпвала і жалілася, пакуль Марціньер выводзіла яе з пакоя:

— Ах, і яе, яе таксама ашукалі гэтыя жорсткія людзі. Гаротная мая доля, бедны, няшчасны Аліўе!

Гэтыя гукі трапілі Скюдэры ў самае сэрца, і з глыбіняў душы зноў узнялося прадчуванне нераскрытай таямніцы, вера ў невінаватасць Аліўе. Зняможаная пад націскам супярэчлівых пачуццяў, яна адчайна закрычала:

— Якая шатанская сіла ўблытала мяне ў жахлівую гісторыю, што можа каштаваць жыцця?!

У гэты момант увайшоў Батыст, бледны і спалоханы, з паведамленнем, што звонку чакае Дэгрэ. З часу змрочнага працэсу над ля Вуазэн з'яўленне Дэгрэ ў тым ці

іншым доме было прадвесцем прыкрага абвінавачання, таму Батыст і злякаўся. Гаспадыня з мяккай усмешкай спытала ў яго:

— Што з табою, Батыст? Хіба імя Скюдэры было ў спісе ля Вуазэн?

— Ах, дзеля Хрыста, — адказаў Батыст, калоцячыся ўсім целам, — як вы можаце казаць такое! Але гэты жудасны Дэгрэ трымаецца так загадкава, так нецярпліва! Здаецца, ён проста не можа дачакацца сустрэчы з вамі!

— Тады, Батыст, — сказала Скюдэры, — праводзьце яго хутчэй сюды. Чалавек, які наводзіць на вас такі жах, у мяне, прынамсі, не можа выклікаць трывогі.

— Ля Рэны, — пачаў Дэгрэ, зайшоўшы ў пакой, — паслаў мяне да вас, мая пані, з просьбай, на выкананне якой ён зусім не меў бы надзеі, калі б не ведаў вашых цнотаў, вашай мужнасці, калі б апошняя магчымасць раскрыць ліхое забойства не была ў вашых руках, калі б вы самі ўжо не ўзялі ўдзел у працэсе, які трымае ў напружанні Вогненную палату, нас усіх. Аліўе Брусон, пабачыўшы вас, бадай што ашалеў. Наколькі ён ужо быў схільны прызнацца, настолькі цяпер зноў клянецца Хрыстом і ўсімі святымі, што невінаваты ў забойстве Кардыльяка, хоць з радасцю прыме смерць, якую заслужыў. Заўважце, мадэмуазэль, што апошнія словы відавочна намякаюць на іншыя злачынствы, якія абцяжарваюць яго сумленне. Але мы марна спрабуем выцягнуць хаця б слова ў працяг, нават пагроза катаванняў не мела плёну. Ён моліць, ён заклінае нас даць яму магчымасць пагаварыць з вамі. Толькі вам, вам адной хоча ён ва ўсім прызнацца. Зрабіце ласку, вялебная пані, выслухайце прызнанне Брусона.

— Што?! — закрычала Скюдэры са шчырым абурэннем. — Цяпер я мушу паслужыць органам крывавага суда, злоўжыць даверам няшчаснага, каб адправіць яго на эшафот? О не, Дэгрэ! Хай Брусон і напраўду пракля-

ты забойца, але я ніколі не змагла б так па-махлярску ашукаць яго. Я не хачу ведаць ніводнай з яго таямніц, якія, нібы святая споведзь, засталіся б замкнёнымі ў маіх грудзях.

— Магчыма, — адказаў Дэгрэ з тонкай усмешкай, — магчыма, мая пані, вашае стаўленне зменіцца, калі вы выслухаеце Брусона. Ці ж вы самі не прасілі ля Рэны быць чалавечным? Ён і спрабуе, ідучы насустрач дзівацкім патрабаванням Брусона і выкарыстоўваючы апошні сродак, перш чым загадаць пачаць катаванні, да якіх даўно саспеў.

Скюдэры міжволі скаланулася.

— Разумееце, мілая пані, — працягваў Дэгрэ, — мы ні ў якім разе не прапануем вам яшчэ раз наведаць злавесныя пакоі, што напаўняюць вас жахам і агідай. Пад покрывам ночы Аліўе Брусона без шуму даставяць, нібы вольнага чалавека, у ваш дом. Без лішніх вушэй, але, безумоўна, пад аховай ён зможа нязмушана прызнацца вам ва ўсім. Вам асабіста гэты бядак нічым не пагражае, клянуся сваім жыццём. Ён згадвае вас з глыбокай пашанай і сцвярджае, што толькі змрочны лёс, які не дазволіў яму пабачыць вас раней, штурхае яго ў абдоймы смерці. Ну а потым з таго, што адкрые Брусон, вы зможаце расказаць роўна столькі, колькі палічыце патрэбным. Ці ж можна намовіць вас на большае?

Скюдэры сядзела ў глыбокім роздуме, апусціўшы вочы. Яна адчувала, што павінная падпарадкавацца вышэйшай сіле, якая вымагала ад яе раскрыцця страшнай таямніцы, што яна не можа выблытацца з незвычайнага суплёту, у які мімаволі трапіла. Прыняўшы рашэнне, яна з годнасцю прамовіла:

— Бог дасць мне вытрымкі і трываласці. Прывядзіце сюды Брусона, я пагавару з ім.

Як і тады, калі Брусон прынёс ёй скарбонку, апоўначы ў дзверы дома Скюдэры пастукалі. Батыст, папя-

рэджаны пра начны візіт, адчыніў. Нібыта мароз прайшоў па скуры мадэмуазэль Скюдэры, калі яна па ціхіх кроках і глухім мармытанні зразумела, што ахоўнікі, якія прывялі Брусона, размеркаваліся па калідорах.

Нарэшце дзверы пакоя ціха адчыніліся. Увайшоў Дэгрэ, а за ім Аліўе Брусон, без кайданоў, у прыстойным адзенні.

— Вось, — сказаў Дэгрэ, схіляючыся ў пачцівым паклоне, — гэта Брусон, вялебная пані! — і адразу ж выйшаў.

Брусон укленчыў перад Скюдэры, малітоўна выцягнуў складзеныя рукі, і слёзы цурком пабеглі з яго вачэй.

Збялелая, не ў стане вымавіць ні слова, Скюдэры глядзела на юнака. Нават праз скрыўленыя, скажоныя ад скрухі і невыноснага болю рысы яго аблічча свяцілася знутры праявай чыстай і сумленнай душы. Чым даўжэй Скюдэры ўзіралася ў твар Брусона, тым больш мацнела ў ёй згадка пра кагосьці вельмі любімага, каго, праўда, не атрымлівалася прыпомніць. Урэшце ўнутранае трымценне знікла, яна забылася, што перад ёй кленчыць забойца Кардыльяка, і загаварыла ва ўласцівым ёй тоне спакойнай прыхільнасці:

— Ну, Брусон, што вы маеце мне сказаць?

Апошні, усё яшчэ стоячы на каленях, уздыхнуў ад глыбокага, неспатольнага смутку і прамовіў:

— О высакародная пашанотная пані, няўжо ў вашым сэрцы не засталося і следу ад успаміну пра мяне?

Скюдэры, яшчэ ўважлівей агледзеўшы суразмоўцу, адказала, што сапраўды нібыта знайшла ў ягоных рысах падабенства да адной вельмі любімай ёю асобы і што толькі дзякуючы гэтаму падабенству яна пераадольвае шчырую агіду да забойцы і спакойна слухае яго. Брусон, моцна пакрыўджаны гэтымі словамі, парывіста ўзняўся і, змрочна ўтаропіўшыся ў падлогу, адступіў на крок. А потым глуха прамовіў:

— Хіба вы зусім забылі Анну Гіё? Яе сын Аліўе, хлопчык, якога вы часта гушкалі, стаіць цяпер перад вамі.

— Божа, памажы і ўратуй! — выгукнула Скюдэры і, закрыўшы твар далонямі, апусцілася на падушкі.

Яна мела ўсе падставы так спалохацца. Анна Гіё, дачка збяднелага месціча, з маленства жыла пад апекай мадэмуазэль Скюдэры, якая выхоўвала яе як уласнае дзіця і рупліва клапацілася пра яе, нібы родная маці. Калі дзяўчына падрасла, у яе жыцці з'явіўся прыгожы сціплы юнак Клод Брусон, які папрасіў яе рукі. Ён быў выдатным гадзіннікавым майстрам і мог разлічваць у Парыжы на добрую лусту хлеба, а Анна прасякнулася да яго гарачым каханнем, таму Скюдэры ні хвіліны не вагалася і дала згоду на шлюб прыёмнай дачкі. Маладыя людзі паціху ўладкаваліся, жылі мірна і шчасліва, а яшчэ больш змацавала іх саюз з'яўленне на свет цудоўнага хлопчыка, дакладнай копіі пекнай матулі.

Скюдэры багоміла маленькага Аліўе і на цэлыя дні забірала яго ў маці, каб лашчыць і песціць. Нядзіўна, што малы вельмі прывязаўся да яе і гэтак жа ахвотна бавіў з ёю час, як з роднай маці. Мінула тры гады, і чорная зайздрасць іншых майстроў прывяла да таго, што ў Брусона з кожным днём менела працы, і ўрэшце ён з цяжкасцю мог пракарміць аднаго сябе. Да гэтага далучылася ягоная туга па цудоўнай роднай Жэневе, і склалася так, што сям'я пераехала туды, не зважаючы на супраціў Скюдэры, якая абяцала любую магчымую падтрымку. Анна некалькі разоў напісала сваёй прыёмнай маці, а потым змоўкла, прымусіўшы тую паверыць, што шчаслівае жыццё на радзіме Брусона не пакідае месца ўспамінам аб ужо пражытых днях.

Споўнілася якраз дваццаць тры гады з таго часу, як Брусон разам з жонкай і дзіцем пакінуў Парыж і пасяліўся ў Жэневу.

— Жах! — ускрыкнула Скюдэры, крыху перавёўшы дух. — Які жах! Дык ты Аліўе? Сын маёй Анны? А цяпер...

— Напэўна, добрая пані, — прамовіў Аліўе спакойна і стрымана, — вы ніколі не маглі нават уявіць, што, стаўшы юнаком, хлопчык, якога вы песцілі як найласкавейшая матуля, якому, гушкаючы на каленях, клалі ў роцік ласунак за ласункам, якому давалі самыя ласкавыя імёны, будзе стаяць перад вамі, абвінавачаны ў жудасным забойстве! Так, я небеззаганны, Вогненная палата можа па праве паставіць мне ў віну злачынства, але, спадзеючыся ўратаваць сваю душу пасля смерці, хай нават яна прыйдзе ад рукі ката, клянуся, што на маім сумленні няма крыві, што не праз мяне загінуў бедны Кардыльяк!

З гэтымі словамі Аліўе задрыжэў і захістаўся. Скюдэры моўчкі паказала на маленькае крэсла, што стаяла поруч з ім. Хлопец павольна сеў.

— У мяне было досыць часу, — пачаў ён, — каб падрыхтавацца да размовы з вамі, якая для мяне ёсць апошняй ласкай спагаднага неба, і знайсці ў сабе столькі вытрымкі і спакою, колькі патрэбна, каб расказаць вам гісторыю маіх жахлівых, нечуваных бедаў. Майце літасць выслухаць мяне спакойна, як бы вас ні ўразіла, якой бы вусцішнай ні падалася раскрытая таямніца, сутнасць якой вы нават не можаце ўявіць. Ах, лепей бы мой бедны бацька ніколі не пакідаў Парыжа! Наколькі сягаюць мае ўспаміны пра Жэневу, я ўвесь час згадваю сябе ў слязах ад заўсёднага плачу несуцешных бацькоў, ад іх не зразумелых мне нараканняў. Пазней я ўсвядоміў і ясна адчуў найгнятлівейшую галечу, суцэльную нэндзу, у якой жылі мае бацькі. Мой бацька быў падмануты ва ўсіх сваіх спадзяваннях. Сагнуты, прыгнечаны бязмежнай тугой, ён памёр якраз тады, калі яму пашэнціла ўладкаваць мяне вучнем да ювеліра. Мая маці шмат казала пра вас... яна хацела была пажаліцца вам пра ўсё,

але потым яе ахапіла роспач, народжаная нястачай. Відаць, той самы ілжывы сорам, які часта точыць смяротна параненыя сэрцы, перашкодзіў ёй прыняць рашэнне. Праз некалькі месяцаў па смерці майго бацькі маці сышла ўслед за ім у магілу.

— Бедная Анна! Бедная Анна! — закрычала Скюдэры, не ў змозе стрываць унутраны боль.

— Хвала вечнай моцы нябёсаў, што яна ўжо на тым свеце і не ўбачыць, як яе любы сын упадзе знячлаўлены і пакараны рукой ката! — голасна ўскрыкнуў Аліўе, кінуўшы ўгару страшны шалёны позірк.

Звонку занепакоіліся, пачуліся ўстрывожаныя крокі.

— Ха! — горка ўсміхнуўся Аліўе. — Дэгрэ будзіць сваіх памагатых, нібыта я магу збегчы *адсюль*. Але рушым далей! Майстар трымаў мяне ў чорным целе, хоць я неўзабаве працаваў лепей за ўсіх і ўрэшце нават пераўзышоў яго самога. Сталася так, што аднойчы ў нашую майстэрню завітаў незнаёмец, каб набыць нейкія ўпрыгожанні. Варта было яму пабачыць пекныя пацеркі, зробленыя маімі рукамі, як ён прыязна пapляскаў мяне па плячы і, разглядаючы аздобу, сказаў: «Юны мой дружа, гэта проста выдатная праца! Я не ведаю, хто мог бы перасягнуць вас у майстэрстве, апроч Рэнэ Кардыльяка, найлепшага ювеліра на цэлым свеце. Вам добра было б пайсці да яго, ён з радасцю вас возьме, бо толькі вы можаце дапамагчы яму ў яго вытанчаным майстэрстве і толькі ад яго зможаце яшчэ чамусьці навучыцца».

Словы незнаёмца глыбока запалі мне ў душу. Я больш не меў спакою ў Жэневе, мяне гнала адтуль нязнаная сіла. Нарэшце я здолеў вызваліцца ад свайго майстра і прыехаў у Парыж. Рэнэ Кардыльяк сустрэў мяне халодна і груба. Я не адступаўся, і ён мусіў даць мне самую нязначную працу. Мне было даручана вырабіць маленькі пярсцёнак. Калі я прынёс гатовы выраб, Кардыльяк утаропіўся ў мяне агністымі вачыма, нібы хацеў зазірнуць у самае нутро. А потым прамовіў: «Ты старанны, сум-

ленны хлопец. Можаш пераехаць да мяне і дапамагаць мне ў майстэрні. Я буду добра плаціць, ты застанешся задаволены».

І ён стрымаў слова. Пражыўшы ў яго некалькі тыдняў, я яшчэ не бачыў Мадлон, якая ў той час, калі мяне не падводзіць памяць, гасцявала недзе ў вёсцы, у адной з яго цётак. Калі ж яна прыехала... сілы нябесныя! Што здарылася са мною, калі я ўбачыў гэты анёльскі твар! Ці кахаў калісь хоць адзін чалавек так, як я? Мадлон...

Ад засмучэння Аліўе не мог гаварыць далей. Ён закрыў твар далонямі і гучна ўсхліпнуў. Урэшце, перамогшы намаганнем волі нясцерпны боль, юнак працягнуў:

— Мадлон глядзела на мяне прыязна. Яна часцей і часцей прыходзіла ў майстэрню. Я з глыбокім узрушэннем адчуў, што і яна мяне кахае. Пад суворым наглядам бацькі нават таемны поціск рук здаваўся знакам заключанага хаўрусу. Кардыльяк нібыта нічога не заўважаў. Я збіраўся, здабыўшы яго прыхільнасць і атрымаўшы званне майстра, прасіць рукі Мадлон. Аднаго ранку, калі я хацеў прыступіць да працы, Кардыльяк падышоў да мяне. У яго змрочным позірку чыталіся гнеў і пагарда. «Я больш не маю патрэбы ў тваіх паслугах, — сказаў ён. — Зараз жа прэч з майго дому, і каб я цябе больш ніколі не бачыў. Думаю, не варта тлумачыць, чаму я больш не магу трываць цябе тут. Завысока для цябе, недарэкі, вісіць салодкі плод, якога ты прагнеш!» Я хацеў адказаць, але ён схапіў мяне магутнай ручышчай і выкінуў з дзвярэй, так што я паваліўся і моцна выцяўся галавой і рукой. Абураны, катаваны пякучым болем, я пакінуў гэты дом і пайшоў да спагаднага знаёмца, які прытуліў мяне ў сваім пакоі на паддашку, на самай ускраіне прадмесця Святога Марціна. Мне не было ні спакою, ні перадыху. Начамі я кружляў ля дома Кардыльяка, марачы, каб Мадлон пачула мае ўздыхі, мае наракання і патрапіла непрыкметна перамовіцца са мной праз акно. У маёй

галаве нараджаліся самыя розныя адчайныя планы, на здзяйсненне якіх я спадзяваўся яе намовіць. Да дома Кардыльяка на вуліцы Нікез прылягае высокі мур з нішамі і старымі напаўразбуранымі статуямі ў іх. І вось аднае ночы я стаяў блізу такой статуі і глядзеў угару, на вокны, што выходзяць у двор, агароджаны мурам. Раптам у майстэрні Кардыльяка я заўважыў святло. Была поўнач, Кардыльяк у такі час заўсёды спаў — ён меў звычку класціся ў ложак з дзявятым ударам гадзінніка. Сэрца маё затахкала ад цьмянага прадчування, я ўявіў сабе нейкае здарэнне, што, магчыма, дазволіць мне трапіць у дом. Але святло адразу згасла. Я прыхіліўся да статуі, але з жахам адхіснуўся, адчуўшы супрацьдзеянне, нібы камень нечакана ажыў. У прывідным начным паўзмроку я ўбачыў, як камень паволі павярнуўся, і з-за яго выслізнула цёмная постаць, якая бязгучна рушыла вуліцай. Я падскочыў да статуі — яна, як і раней, стаяла ўшчыльную да мура. Міжволі, быццам гнаны нейкай унутранай сілай, я крадком пакрочыў за дзіўнай постаццю. Якраз каля абраза Панны Марыі прывід азірнуўся, і яркае святло лямпы, што гарыць перад абразом, упала на яго твар. Гэта быў Кардыльяк! Незразумелы страх, няўцямная жуда абрынуліся на мяне. Нібы прывязаны да яго нейкім заклёнам, я рухаўся наперад за таямнічым самнамбулам — менавіта так я ўспрыняў майстра, хоць і не было поўні, у час якой гэтае насланнё находзіць на заснулых. Урэшце Кардыльяк знік у густым цені дзесьці ўбаку. Па ціхім, вельмі знаёмым пакерхванні я вызначыў, што ён зайшоў у браму аднаго з дамоў. «Што гэта значыць? Што ён збіраецца рабіць?» — здзіўлена пытаў я сам сябе, шчыльней прыціскаючыся да сцяны. Неўзабаве на вуліцы з'явіўся, спяваючы, насвістваючы і пазваньваючы шпорамі, мужчына з яркім плюмажам на капелюшы. Як тыгр на здабычу, кінуўся Кардыльяк са сваёй схованкі на мужчыну, які амаль адразу з хры-

пам апусціўся на зямлю. З крыкам жаху я выскачыў да Кардыльяка, які схіліўся над забітым:

— Майстар Кардыльяк, што вы робіце?!

— Пракляцце! — зароў Кардыльяк, вокамгненна праляцеў паўз мяне і знік. Агаломшаны, ледзь перастаўляючы ногі, я наблізіўся да цела, укленчыў перад ім, думаючы, што яго яшчэ можна ўратаваць, але марна. Ахоплены смяротным жахам, я не пачуў, што мяне атачылі жандармы.

— Яшчэ аднаго завалілі, чэрці! Хо-хо, юнача, а ты што тут робіш? Ці ты адзін з гэтай хеўры? Узяць яго! — і яны накінуліся на мяне.

Я ледзь здолеў прамармытаць, што ніяк не мог бы здзейсніць такое жахлівае злачынства, і папрасіў пакінуць мяне ў спакоі. Тады адзін з іх пасвяціў мне ў твар і, смеючыся, закрычаў:

— Дык гэта ж Аліўе Брусон, вучань ювеліра, які робіць у нашага слаўнага майстра Рэнэ Кардыльяка!

— Ага, не падобны ён да таго, хто забівае людзей пасярод вуліцы!

— Так, да таго ж гэтыя забойцы не лямантуюць над трупам, каб лягчэй было арыштаваць.

— Ну давай, расказвай, як гэта адбылося.

— Проста перада мной, — сказаў я, — нейкі чалавек раптоўна кінуўся на гэтага мужчыну, закалоў яго і вокамгненна збег пасля майго воклічу. А я толькі хацеў паглядзець, ці можна яшчэ дапамагчы ахвяры.

— Не, сынок, — гукнуў адзін з тых, што падымалі труп, — яму канец, клінок, як заўжды, прайшоў праз сэрца.

— Д'ябал! — сказаў другі жандарм, — мы ізноў спазніліся, як і заўчора.

З гэтымі словамі яны сышлі, несучы труп.

Я не магу перадаць сваіх адчуванняў... мне здавалася, што я бачу кепскі сон, што зараз я прачнуся і буду

дзівіцца, якая лухта мне прымроілася. Кардыльяк — бацька маёй Мадлон — бязлітасны забойца! Я знясілена прысеў на каменныя прыступкі нейкага дома. Паціху віднела, капялюш, багата ўпрыгожаны пер'ямі, ляжаў перада мной на бруку. Раптам перад маім унутраным зрокам яскрава паўстаў крывавы ўчынак Кардыльяка, здзейснены акурат на месцы, дзе я цяпер сядзеў. У жаху я паспяшаўся прэч.

Агаломшаны, амаль непрытомны, сядзеў я ў сваёй каморцы на паддашку, калі адчыніліся дзверы і ў пакой увайшоў Рэнэ Кардыльяк.

— Святая Марыя! Што вам трэба? — спалохана закрычаў я. Ён жа, не зважаючы на гэта, наблізіўся да мяне і ўсміхнуўся спакойна і прыветна, што толькі ўзмацніла маю агіду. Ён пасунуў стары лядашчы зэдлік і сеў побач, а я быў не ў стане адарвацца ад свайго саламянага ложка, на які паваліўся перад тым.

— Ну, Аліўе, як маешся, бедны хлопча? Я страшэнна пагарачыўся, калі прагнаў цябе з дому, мне вельмі цябе не хапае. Якраз цяпер я заняты адной аздобаю, якую ніяк не магу давесці да ладу без тваёй дапамогі. Як бы ты паглядзеў на прапанову ізноў працаваць у маёй майстэрні? Маўчыш? Я ведаю, што пакрыўдзіў цябе. Не буду хаваць, я раззлаваўся праз твае заляцанні да маёй Мадлон, але потым добра разважыў і вырашыў, што пры тваім умельстве, руплівасці і сумленнасці я не мог бы пажадаць сабе лепшага зяця. Карацей, хадзем са мной, паглядзім, як ажаніць цябе з дачкою.

Яго словы распалавінілі мне сэрца. Усё ўва мне віравала ад усведамлення ягонай заганнасці, але я не мог выціснуць ані слова.

— Ты вагаешся? — прамовіў ён ужо больш рэзка, свідруючы мяне бліскучымі вачыма. — Вагаешся? Відаць, ты не можаш сёння пайсці са мной, у цябе іншыя пільныя справы... Ты хацеў бы, магчыма, наведаць Дэгрэ

альбо ўвогуле папрасіцца на размову да Аржансона ці ля Рэны? Але сцеражыся, дружа, каб кіпцюры, якія ты хочаш скіраваць на згубу іншых, не ўхапілі і не разадралі цябе самога.

І тут я даў волю свайму глыбокаму абурэнню.

— Лепей вам самому — крыкнуў я, — вінаватаму ў страшным злачынстве, пайсці да тых, каго вы толькі што згадалі. Мне з імі няма пра што гаварыць.

— Па сутнасці, — казаў далей Кардыльяк, — для цябе будзе лепей зноў пачаць працаваць у мяне — найслыннейшага майстра свайго часу, шанаванага паўсюль за сумленнасць і прыстойнасць, так што кожны злы паклёп цяжка ўдарыць па галаве самога паклёпніка. Што да Мадлон, то мушу табе прызнацца, што за маю спагадлівасць ты мусіш дзякаваць ёй адной. Яна кахае цябе з такой сілаю, якое я зусім не чакаў ад пяшчотнага дзіцяці. Адразу ж па тваім сыходзе яна кінулася да маіх ног, ахапіла мне калені і са слязьмі на вачах прызналася, што не можа без цябе жыць. Я падумаў, што яна проста ўбіла сабе нешта ў галаву, як гэта звычайна здараецца з юнымі закаханымі паненкамі, гатовымі зараз жа памерці, варта ім толькі злавіць прыязны позірк нейкага маладзёна. Але мая Мадлон напраўду захварэла і пачала чэзнуць. А калі я паспрабаваў высветліць прычыну гэтага вар'яцтва, сто разоў паўтарыла тваё імя. Што мне было рабіць? Ці ж мог я пакінуць яе ў роспачы? Учора ўвечары я сказаў ёй, што згодны на ўсё і сёння ж прывяду цябе. За ноч яна расцвіла нібы тая ружа і цяпер не можа дачакацца, сама не свая ад жарсці.

Хай даруюць мне сілы нябесныя, але я сам не ведаю, як апынуўся ў доме Кардыльяка, а Мадлон, усклікнуўшы: «Аліўе! Мой Аліўе! Мой каханы! Мой нарачоны!» — кінулася да мяне, абхапіла абедзвюма рукамі і прыціснула да грудзей. І ў найвышэйшым захапленні я пакляўся Панне Марыі і ўсім святым ніколі, ніколі больш з ёю не разлучацца!

Узрушаны ўспамінам, Аліўе мусіў перапыніць аповед. Скюдэры, поўная жуды ад бясчынстваў чалавека, якога лічыла ўвасабленнем цноты і сумленнасці, усклікнула:

— Які жах! Рэнэ Кардыльяк належаў да хеўры забойцаў, што столькі часу рабілі з нашага добрага горада зладзейскі прытон?

— Што вы, пані, — адказаў Аліўе, — да якой хеўры? Ніякай хеўры ніколі не існавала. Кардыльяк быў адзіным, хто па ўсім горадзе ўтрапёна шукаў сабе ахвяраў. Якраз тое, што ён быў адзін, тлумачыць упэўненасць, з якою ён чыніў свае беззаконні, і непераадольныя цяжкасці ў пошуках следу забойцы. Але дазвольце мне працягнуць, каб раскрыць вам таямніцу найгнюснейшага і адначасова найняшчаснейшага з людзей. Можна лёгка ўявіць сабе становішча, у якім я апынуўся, вярнуўшыся да майстра. Крок быў зроблены, я ўжо не мог павярнуць назад. Часам мне здавалася, што я стаў хаўруснікам Кардыльяка, і толькі ў каханні да Мадлон я забываўся на пакуты, што раздзіралі маю душу, толькі з ёю мог сцерці ўсе вонкавыя праявы невыказнай нуды. Працуючы са старым у майстэрні, я не меў сілы нават зірнуць яму ў твар, не казаў амаль ні слова ад жаху, што працінаў мяне ў прысутнасці гэтага страшнага чалавека, які дэманстраваў усе якасці вернага, пяшчотнага бацькі, добрага грамадзяніна, у той час як ноч хавала ягоныя злачынствы. Мадлон, рахманае, анёльскай чысціні дзіця, хінулася да яго з бязмежнай любоўю. Маё сэрца аблівалася крывёю ад думкі, што калі адплата ўрэшце напаткае ліхадзея, ёй, падманутай пякельнай шатанскай хітрасцю, давядзецца перажыць найглыбейшы адчай. Адно гэта прымушала мяне маўчаць нават пад пагрозай ганебнай смерці. Хоць я дастаткова даведаўся з размовы жандармаў, учынкі Кардыльяка, яго матывы, спосаб дзеянняў заставаліся для мяне загадкай. Але разгадка не змусіла сябе доўга чакаць. Аднаго дня Кардыльяк, які меў звычку працаваць у найлепшым

настроі, з жартамі і смехам, абуджаючы тым маю агіду, падаўся мне вельмі сур'ёзным і заглыбленым у сябе. Раптам ён адшпурнуў каралі, над якімі шчыраваў, так што камяні і перлы разляцеліся навокал, рашуча падняўся і сказаў:

— Аліўе! Нашыя стасункі не могуць больш заставацца такімі, як ёсць, гэтае становішча невыноснае. Тое, што не патрапілі раскрыць Дэгрэ і яго памагатыя з іх выкшталцонай хітрасцю, воляю выпадку звалілася табе проста ў рукі. Ты пабачыў мяне за начною справай, да якой мяне прымушае мая злая зорка, і супрацьстаяць гэтаму немагчыма. А твая злая зорка скіравала цябе за мною наўздагон, ахутала цябе шчыльным вэлюмам, надала тваім крокам лёгкасці, дзякуючы якой ты рухаўся нібы найдрабнейшы звярок, і я, той, што бачыць вачыма тыгра ў самую цёмную ноч, што чуе самы нязначны шоргат, нават камарыны піск па ўсёй даўжыні вуліцы, цябе не заўважыў. Гэта твая злая зорка прывяла цябе, майго хаўрусніка, да мяне. Пра здраду, як ты бачыш, няма й гаворкі. Таму ты мусіш ведаць усё.

«Ніколі я не буду тваім хаўруснікам, крывадушны злодзей!» — хацеў быў крыкнуць я, але ўнутраны жах, што ахапіў мяне ад словаў Кардыльяка, замкнуў мне вусны. Замест словаў я змог выціснуць адно незразумелы гук. Кардыльяк сеў на крэсла і выцер пот з ілба. Здавалася, яму цяжка даліся ўспаміны пра мінулае і цяпер складана было авалодаць сабой. Нарэшце ён пачаў:

— Мудрыя людзі шмат кажуць пра дзіўныя ўражанні, на якія здольныя цяжарныя жанчыны, пра неверагоднае ўздзеянне такіх жывых міжвольных уражанняў на дзіця. Мне расказалі незвычайную гісторыю пра маю ўласную маці. Носячы мяне першы месяц, аднойчы яна разам з іншымі кабетамі была на пышным свяце, што ладзілася ў Трыяноне. І там яе позірк упаў на шэвалье ў гішпанскім строі з бліскучай нізкай каштоўных камя-

нёў на шыі, ад якой яна не магла адвесці вачэй. Усёй сваёй істотай яна прагнула зіхоткіх каменьчыкаў, што здаваліся ёй незямным блаславеннем. Гэты шэвалье за некалькі гадоў да таго, калі мая маці была яшчэ незамужняю, квапіўся на яе цноту, але быў з агідаю адрынуты. Маці пазнала яго, але цяпер ёй мроілася, што ў бляску асляпляльных дыяментаў перад ёю стаіць найвышэйшая істота, само ўвасабленне прыгажосці. Шэвалье заўважыў жарсныя і палкія позіркі маёй маці і вырашыў, што цяпер яму пашэнціць болей, чым мінулым разам. Ён здолеў наблізіцца да яе, больш за тое, завабіць яе далей ад сяброўак у зацішнае месца. Там ён горача абняў яе, мая маці ўхапілася за прыгожы ланцужок, але ў той жа момант мужчына асеў і пацягнуў яе з сабой на зямлю. Ці то яго напаткаў удар, ці то яшчэ што, але ён памёр. Дарэмна мая маці намагалася вызваліцца з рук мерцвяка, акасцянелых у смяротных сутаргах. Уперыўшыся ў яе пустымі патухлымі вачыма, нябожчык катаўся з ёю па зямлі. Нарэшце яе пранізлівыя крыкі даляцелі да далёкіх мінакоў, якія кінуліся на дапамогу і ўратавалі яе з рук жудаснага каханка. Перажыты страх надоўга прыкуў маці да ложка. Яе, дый мяне таксама, лічы, спісалі з рахунку, але яна акрыяла і нарадзіла лягчэй, чым можна было спадзявацца. Але жах таго вусцішнага моманту паланіў мяне. Мая злая зорка ўзышла і паслала іскрынку, што распаліла ўва мне адну з самых дзіўных і згубных жарсцяў. Ужо ў раннім маленстве бліскучыя дыяменты, залатыя пацеркі былі мне даражэйшыя за ўсё. Спярша гэта лічылі звычайнай дзіцячай схільнасцю, але не: ужо дзіцем я пачаў красці золата і каштоўныя камяні паўсюль дзе магчыма. Нібы самы дасведчаны знаўца, я інстынктыўна адрозніваў сапраўдныя каралі ад падробкі. Толькі першыя вабілі мяне, на фальшывыя ўпрыгожанні і фальшывыя залатыя манеты я не звяртаў увагі. Прыроджаную жарсць не

змаглі ўтаймаваць нават жорсткія пакаранні бацькі. Каб мець справу толькі з золатам і каштоўнымі камянямі, я абраў прафесію ювеліра. Я працаваў утрапёна і неўзабаве стаў першым майстрам у гэтай галіне. І вось прыйшоў час, калі прыроджаная схільнасць, якую я так доўга стрымліваў, бурліва вырвалася вонкі і пачала разрастацца, паглынаючы ўсё. Варта мне было вырабіць і прадаць каралі, як мяне апаноўвалі неспакой і маркота, што пазбаўлялі сну, здароўя і жыццёвае моцы. Перад вачыма дзень і ноч, нібы прывід, стаяў той, для каго я працаваў, упрыгожаны маімі каралямі, а нейкі голас няспынна нашэптваў: «Гэта тваё, тваё, дык забяры ж яго, нашто дыяменты мерцвяку!» І я пачаў авалодваць майстэрствам злодзея. Я меў доступ у дамы знатных асобаў і спрытна карыстаўся кожнай магчымасцю: ніводзін замок не мог супрацьстаяць майму ўмельству, і ў хуткім часе ўпрыгожанні, зробленыя маімі рукамі, ізноў апыналіся ў мяне. Але нават гэта не вяртала мне супакою. Той вусцішны голас не змаўкаў, ён кпіў з мяне і крычаў: «Ха-ха, твае каралі носіць мярцвяк!»

Я і сам не ведаю, як здарылася так, што я пачаў адчуваць невымоўную нянавісць да тых, хто заказваў у мяне ўпрыгожанні. Так! З самага нутра ўздымалася прага іхнай крыві, ад якой я скаланаўся. Менавіта ў той час я прыдбаў гэты дом. Мы ўдарылі па руках з уладальнікам... вось тут, у гэтым пакоі, сядзелі мы, усцешаныя ўдалым гешэфтам, і распівалі бутэльку віна. Надышла ноч, я хацеў быў ісці, але гаспадар сказаў: «Майстар Рэнэ, перш чым вы сыдзеце, я мушу адкрыць вам таямніцу гэтага дома». З гэтымі словамі ён адчыніў шафу ля сцяны, адсунуў заднюю сценку, зайшоў у маленькі пакойчык, нахіліўся, падняў апускныя дзверы. Мы спусціліся вузкай стромай лесвіцай да брамкі, адчыніўшы якую, выйшлі на двор. І тут мой прадавец падышоў да мура, націснуў на ледзь бачную клямку, і кавалак сцяны па-

вярнуўся, так што чалавек мог зручна праслізнуць у адтуліну і апынуцца на вуліцы. Варта як-небудзь паказаць табе гэты фокус, Аліўе. Мабыць, гэта загадалі зрабіць хітрыя манахі кляштара, што раней месціўся тут, каб непрыкметна знікаць і вяртацца. Гэта кавалак дрэва, атынкаваны і пабелены толькі звонку, у якім з таго боку замацаваная статуя, таксама драўляная, але з выгляду нібы каменная. Дрэва паварочваецца разам са статуяй на схаваных завесах. Змрочныя думкі спарадзіў ува мне позірк на тое прыстасаванне: падалося, што яно адмыслова падрыхтаванае для ўчынкаў, якія мне самому пакуль здаваліся таямніцай. Я якраз тады вырабіў і аддаў аднаму прыдворнаму багатыя ўпрыгожанні, што прызначаліся, як мне было вядома, нейкай балерыне. Смяротныя пакуты не прымусілі чакаць — прывід крочыў за мной, шатан нешта нашэптваў мне ў вушы! Я кінуўся ў дом. Мокры ад крывавага поту, у бяссонні круціўся я на ложку і раптам убачыў у думках, што чалавек гэты крадзецца да балерыны з маімі скарбамі. Раз’юшаны, я ўскочыў, накінуў паліто, спусціўся патаемнай лесвіцай і праз мур выбраўся на вуліцу Нікез. Чалавек з’явіўся, я наваліўся на яго, ён закрычаў, але я, моцна трымаючы яго ззаду, усадзіў яму кінжал у сэрца — і вось упрыгожанні ў маіх руках! Здзейсніўшы гэта, я адчуў у душы такі супакой, як ніколі дагэтуль. Прывід знік, д’ябальскі голас змоўк. Цяпер я ведаў, чаго хацела мая злая зорка, і мусіў скарыцца ёй альбо загінуць! Цяпер табе зразумелая сутнасць маіх дзеянняў, Аліўе. Але не думай, што праз тое, што я мушу рабіць і чаго не магу пазбавіцца, я выракся спагады і спачування, уласцівых чалавечай натуры. Ты ж ведаеш, як цяжка мне бывае аддаць замоўцу гатовае ўпрыгожанне. А для некаторых, чыёй смерці я не жадаю, я не працую ўвогуле. Адчуваючы, што назаўтра кроў мае прагнаць маіх зданяў, я ўжо сёння магу здаволіцца добрым ударам кулака, зваліўшы

з ног уладальніка маёй каштоўнасці і адабраўшы ў яго свой выраб.

Сказаўшы ўсё гэта, Кардыльяк адвёў мяне ў патаемны склеп і дазволіў зірнуць на сваю скарбніцу. Мусіць, сам кароль не мае багацейшай. Да кожнай рэчы быў прымацаваны цэтлік з дакладным пазначэннем, для каго яна была змайстраваная і калі адабраная праз крадзеж, рабунак ці забойства.

— У дзень твайго вяселля, — прамовіў Кардыльяк глуха і ўрачыста, — ты свята паклянешся мне на распяцці адразу ж па маёй смерціператварыць усе гэтыя багацці ў пыл з дапамогай сродку, які я табе адкрыю. Я не хачу, каб хоць якая чалавечая істота, а тым больш Мадлон і ты, сталі ўладальнікамі скарбу, набытага цаною чалавечай крыві.

Заблукалы ў лабірынце злачынства, раздзіраны каханнем і агідай, асалодай і жудой, я быў падобны да асуджанага на пакуты, якому зверху ласкава ўсміхаецца чароўны анёлак і якога ў той жа час моцна трымае пякучымі кіпцюрамі шатан, і мілосная ўсмешка рахманага анёла, у якой адбіваюцца ўсе дарункі вышняга свету, робіцца яму найгоршым катаваннем. Я думаў пра ўцёкі, нават пра самагубства — але ж Мадлон! Ганьце, ганьце мяне, вялебная пані, за тое, што я быў занадта слабы, каб адолець сваю жарсць, якая прыкула мяне да злачынства. Але ж ці не будзе належнай платай за гэта ганебная смерць, наканаваная мне?

Аднаго дня Кардыльяк прыйшоў дадому ў нязвыкла прыўзнятым настроі. Ён прылашчыў Мадлон, кінуў на мяне колькі найпрыязнейшых позіркаў, выпіў за сталом бутэльку добрага віна, што здаралася з ім толькі ў вялікія святы, потым спяваў і весяліўся. Мадлон сышла, я сабраўся ў майстэрню.

— Сядзі спакойна, хлопец, — крыкнуў Кардыльяк, — сёння больш ніякай працы, давай перакулім яшчэ па ад-

ной за здароўе самай высакароднай і прыўкраснай дамы ў Парыжы!

Мы чокнуліся, майстар спаражніў поўную шклянку і спытаў:

— А скажы мне, Аліўе, ці падабаюцца табе гэтыя радкі?

> Un amant, qui craint les voleurs,
> n'est point digne d'amour?

І ён расказаў пра гутарку, што адбылася ў пакоях Мэнтэнон паміж вамі і каралём, дадаўшы, што здаўна шануе вас як ніводнае чалавечае стварэнне, і што вы, надзеленая цнотамі, перад якімі бяссільна цьмянее ягоная злая зорка, нават носячы найпрыгажэйшую з ягоных каштоўнасцяў, ніколі не абудзілі б у ім ліхую здань і думкі пра забойства.

— Паслухай, Аліўе, што я вырашыў, — сказаў ён. — Ужо даўнавата я атрымаў замову вырабіць каралі і бранзалеты для Генрыеты Ангельскай з маіх уласных камянёў. Гэтая праца атрымалася ў мяне як ніколі добра, але сэрца маё разрывалася, калі я думаў, што мне давядзецца развітацца з упрыгожаннямі, якія сталі маім найдаражэйшым скарбам. Як ты, пэўна, ведаеш, прынцэса была падступна забітая. Я ж захаваў тыя ўпрыгожанні і цяпер хацеў бы аддаць іх мадэмуазэль дэ Скюдэры ад імені праследаванай хеўры — на знак маёй глыбокай пашаны і ўдзячнасці. Апроч таго, што Скюдэры атрымае выразнае сведчанне свайго трыюмфу, я змагу пакпіць з Дэгрэ і яго памагатых, як яны й заслугоўваюць. Ты мусіш аднесці ёй упрыгожанні.

Варта было Кардыльяку назваць вашае імя, мадэмуазэль, як чорная завеса зляцела з маіх вачэй, і светлыя прыўкрасныя малюнкі шчаслівага маленства ўваскрэслі ў маім уяўленні ў найярчэйшых зіхоткіх колерах. Душу маю напоўніла цудоўная ўцеха, у ёй заззяў прамень

надзеі, які прагнаў змрочныя думкі. Кардыльяк відавочна заўважыў, якое ўздзеянне зрабілі на мяне ягоныя словы, і трактаваў гэта на свой лад.

— Здаецца, — сказаў ён, — мой намер табе даспадобы. Прызнаюся табе, што ўнутраны голас, зусім адрозны ад таго, які патрабуе ад мяне крывавых ахвяраў, нібы ненажэрны драпежнік, загадаў мне гэта зрабіць. Часам у мяне бывае дзіўнае адчуванне... нейкі ўнутраны страх, боязь чагосьці жудаснага, чый подых далятае сюды з далёкага іншасвету, гвалтоўна захоплівае мяне. Тады мне нават падаецца, што справункі, распачатыя праз мяне злою зоркай, могуць пайсці на шкоду маёй несмяротнай душы, якая не мае да іх ніякага дачынення. У такім настроі я вырашыў змайстраваць прыгожы дыяментавы вянец для абраза Панны Марыі ў саборы Святога Яўстаха. Але нейкі няўцямны жах нападаў на мяне, як толькі я прыступаў да працы, таму ўрэшце я адступіўся ад гэтай задумы. І вось цяпер мне здаецца, што, даслаўшы Скюдэры найпякнейшае ўпрыгожанне з усіх калі-небудзь зробленых мною, я пакорліва прынясу ахвяру самой цноце і пабожнасці і вымалю для сябе моцнае заступніцтва.

Кардыльяк, мая пані, да драбніцаў ведаючы ваш лад жыцця, паведаміў мне спосаб і час, у які я мусіў даставіць вам каштоўнасці, замкнутыя ў вытанчанай скарбонцы. Я ўвесь трымцеў ад захаплення, бо само Неба паказала мне праз злачыннага Кардыльяка дарогу да паратунку з пекла, у якім гібеў я, нікчэмны грэшнік. Так я думаў. Насуперак волі Кардыльяка, я хацеў паказацца перад вашымі вачыма. Як сын Анны Брусон, як ваш выхаванец я хацеў кінуцца да вашых ног і расказаць пра сябе ўсё. Я верыў, што вы, кранутая невымоўным горам, якое пагражала беднай нявіннай Мадлон у выпадку выкрыцця, захаваеце таямніцу, але ваш востры розум напэўна знойдзе спосаб, не выдаючы сябе, пакласці канец

злому праклёну Кардыльяка. Не пытайце мяне, што гэта за спосаб, — я гэтага не ведаю, але ў тым, што вы ўратуеце Мадлон і мяне, я не сумняваўся, я верыў вам так, як веру ў літасцівую дапамогу Панны Марыі. Вы ведаеце, мадэмуазэль, што мой намер у тую ноч праваліўся. Але я не страчваў надзеі, што іншым разам мне пашэнціць больш. І аднойчы Кардыльяк раптам страціў увесь свой імпэт. Ён панура шлындаў паўсюль, невідушча глядзеў перад сабою, мармытаў незразумелыя словы, махаў рукамі, нібы абараняючыся ад чагосьці варожага. Здавалася, ягоны дух мучылі злыя думкі. Так доўжылася цэлы ранак. Урэшце ён сеў за варштат, тут жа нездаволена ўскочыў, зірнуў у акно і прамовіў сур'ёзна і змрочна: «А я ж хацеў, каб Генрыета Ангельская насіла мае ўпрыгожанні!» Гэтыя словы напоўнілі мяне жахам. Цяпер я ведаў, што ягоны хворы розум ізноў апанаваны зданню смерці, што голас шатана зноўку загучаў у яго вушах. Я адчуў небяспеку вашаму жыццю з боку праклятага забойцы. Калі б Кардыльяк атрымаў назад свае ўпрыгожанні, вы былі б ўратаваныя. Небяспека расла з кожнай хвілінай.

І тады мне пашчасціла сустрэць вас на Новым мосце, праціснуцца да вашай карэты і кінуць туды цыдулку, у якой я заклінаў вас найхутчэй вярнуць упрыгожанні Кардыльяку. Але вы не прыйшлі. Мой страх перарос у адчай, калі наступнага дня Кардыльяк толькі й казаў пра каштоўнасці, што прымроіліся яму ўначы. Я мог аднесці яго словы адно да вашых упрыгожанняў, і мне стала ясна, што ён думае пра забойства, якое відавочна мерыцца здзейсніць тае ж ночы. Я мусіў уратаваць вас нават цаною жыцця Кардыльяка. Калі пасля вечаровай малітвы Кардыльяк, як звычайна, замкнуўся ў сваім пакоі, я вылез праз акно ў двор, праслізнуў праз адтуліну ў муры і стаіўся непадалёк у глыбокім цені. Прайшло няшмат часу, пакуль Кардыльяк выйшаў і бязгучна ру-

шыў наперад. Я за ім. Ён рухаўся ў бок вуліцы Сэн-Анарэ. Сэрца маё калацілася. На нейкі момант Кардыльяк знік з маіх вачэй. Я вырашыў стаць каля вашых дзвярэй. І тут міма, не прыкмеціўшы мяне, прайшоў, напяваючы і насвістваючы, афіцэр — як тады, калі я воляй выпадку стаўся сведкам крывавага ўчынку Кардыльяка. У той жа момант з цемры выскачыла чорная постаць і кінулася да мінака. Гэта быў Кардыльяк. Прагнучы не дапусціць гэтае смерці, я з гучным крыкам у два-тры крокі дабег да іх, але не афіцэр — Кардыльяк, смяротна паранены, з хрыпам апусціўся на зямлю. Афіцэр выпусціў кінжал, выцягнуў з похваў шпагу і заняў баявую пазіцыю, палічыўшы мяне хаўруснікам забойцы, аднак хутка паспяшаўся прэч, пабачыўшы, што я, не зважаючы на яго, аглядаю цела. Кардыльяк быў яшчэ жывы. Захапіўшы кінжал, кінуты афіцэрам, я ўзваліў цела на плечы і з цяжкасцю пацягнуў яго дадому, дзе праз патаемны ход падняў у майстэрню. Астатняе вам вядома. Як бачыце, шаноўная пані, мая адзіная правіна ў тым, што я не выдаў бацьку Мадлон суду і не паклаў тым самым канец ягоным злачынствам. Крыві на мне няма. Аніякімі катаваннямі не вырваць з мяне таямніцу ўчынкаў Кардыльяка. Я не хачу, каб насуперак вечнай сіле, якая схавала ад дабрадзейнай дачкі жахлівыя справункі бацькі, на яе цяпер абрынулася смяротным цяжарам уся гаркота мінулага, усяго яе быцця, каб помста свету падняла труп з-пад зямлі, што накрыла яго, каб кат зганьбіў косткі, што парахнеюць. Не! Каханая сэрца майго аплача мяне як нявінна загінулага, час загоіць яе рану, але невыноснымі сталі б яе галашэнні праз пякельныя ўчынкі яе дарагога бацькі.

Аліўе змоўк, але раптам з яго вачэй патокам лінулі слёзы, ён кінуўся да ног Скюдэры і ўзмаліўся:

— Вы ж верыце, што на мне няма віны! Злітуйцеся нада мной, скажыце, як там Мадлон!

Скюдэры гукнула Марцiньер, і праз колькі імгненняў Мадлон ужо вісела на шыі ў Аліўе.

— Ну вось, усё добра, бо ты цяпер тут — я ведала, што шаноўная пані ўратуе цябе! — няспынна паўтарала Мадлон, і Аліўе забыўся на свой лёс, на ўсё, што яму пагражала — ён быў свабодны і шчаслівы. Абодва надзвычай кранальна дзяліліся перажытымі пакутамі, пасля ізноў абдымаліся і плакалі ад шчасця, што зноўку знайшлі адно аднаго.

Калі б Скюдэры дагэтуль не ўпэўнілася ў невінаватасці Аліўе, яна мусіла б паверыць у яе цяпер, назіраючы за маладымі людзьмі, якія ў асалодзе цеснага мілоснага яднання забыліся на цэлы свет, на свае беды і невымоўныя пакуты.

— Не, — усклікнула яна, — на такое блаславёнае забыццё здатнае толькі чыстае сэрца!

Ясныя промні світанку працялі аконныя шыбы. Дэгрэ ціха пастукаў у дзверы пакоя і нагадаў, што, каб адвезці Аліўе Брусона назад, не прыцягваючы лішняй увагі, трэба ісці цяпер, бо пазней гэта будзе немагчыма. Закаханым давялося разлучыцца.

Цьмяныя прадчуванні, што адольвалі Скюдэры з дня першага з'яўлення Брусона ў яе доме, увасобіліся ў жыцці самым жахлівым чынам. Яна бачыла, што сын яе любімай Анны, не маючы на душы віны, заблытаўся так, што ўратаваць яго ад ганебнай смерці здавалася амаль немагчымым. Яна паважала геройства юнака, які быў гатовы хутчэй памерці пад цяжарам абвінавачванняў, чым выдаць таямніцу, якая загубіла б каханую Мадлон. У сферы магчымага яна не знаходзіла аніводнага сродку вырваць бедака з рук вусцішнага суда. І ўсё ж у душы яе жыло перакананне, што ёй не варта баяцца любых ахвяр, абы толькі перадухіліць абуральную несправядлівасць, якая была ўжо блізка. Яна мучыла сябе размаітымі накідамі і планамі, па сутнасці, амаль авантурамі, што адкі-

даліся гэтак жа хутка, як і паўставалі. З кожным разам пробліск надзеі рабіўся ўсё меншы, і гэта прывяло яе на мяжу адчаю. Але безумоўны, цнатлівы дзіцячы давер Мадлон, светлае захапленне, з якім яна казала пра каханага, пра тое, што хутка абдыме яго, апраўданага судом, як свайго мужа, далі Скюдэры новыя сілы і зноў кранулі яе да глыбіні душы.

Каб нарэшце зрабіць хоць штосьці, Скюдэры напісала ля Рэны доўгі ліст, у якім паведаміла, што Аліўе Брусон давёў ёй сваю поўную невінаватасць у смерці Кардыльяка, што словам яго не паверыць немагчыма і што толькі мужнае рашэнне забраць з сабою ў магілу таямніцу, выкрыццё якой стала б згубным для нявіннасці і цноты, стрымлівае яго ад прызнання перад судом, якое вызваліла б яго ад жахлівага падазрэння не толькі ў забойстве Кардыльяка, але і ў прыналежнасці да хеўры бязлітасных галаварэзаў. Усё, на што здольныя палкі імпэт і разумнае красамоўства, скарыстала Скюдэры, каб змякчыць жорсткае сэрца ля Рэны. Праз некалькі гадзін той адказаў, што шчыра ўсцешаны поўным самаапраўданнем Аліўе Брусона перад яго высокай і шанаванай заступніцай. Што да гераічнага рашэння Аліўе забраць у магілу таямніцу, то ён просіць прабачыць, але Вогненная палата не можа ўзнагародзіць такі гераізм, а наадварот, пастараецца зламаць яго любымі сродкамі. Праз тры дні ён спадзяецца раскрыць дзіўны сакрэт, які можа праліць святло на ўсе дзівосы справы.

Скюдэры занадта добра ведала, што жахлівы ля Рэны меў на ўвазе пад сродкамі, якія мусяць зламаць гераізм Брусона. Стала ясна: над няшчасным навісла пагроза катаванняў. Смяротна спалоханая, Скюдэры нарэшце ўцяміла, што хаця б дзеля таго каб пацягнуць час, можа прыдацца парада правазнаўцы. На той час найвядомейшым адвакатам у Парыжы быў П’ер Арно д’Андыі. Яго справядлівасць і сумленнасць не саступалі яго ж глы-

бокай дасведчанасці і магутнаму розуму. Да яго і прыйшла Скюдэры, расказаўшы ўсё, што можна было расказаць, не раскрыўшы таямніцы Брусона. Яна чакала, што д'Андыі неадкладна зоймецца лёсам няшчаснага, але жорстка падманулася ў сваёй надзеі. Д'Андыі спакойна выслухаў усё, а тады з усмешкай адказаў словамі Буало: «Le vrai peut quelquefois n'être pas vraisemblable»[1]. Ён давёў Скюдэры, што супраць Брусона сведчаць найяскравейшыя доказы, што працэс, які вядзе ля Рэны, было б беспадстаўна называць жорсткім і паспешлівым, бо ён, наадварот, цалкам адпавядае патрабаванням закона, што нельга дзейнічаць іначай, выконваючы абавязкі суддзі. Ён сам, д'Андыі, не бярэцца нават пры самай дасканалай абароне пазбавіць Брусона катаванняў. Толькі сам Брусон здольны гэта зрабіць альбо праз шчырае прызнанне, альбо праз праўдзівы аповед пра абставіны забойства Кардыльяка, які даў бы, магчыма, падставу для новых росшукаў.

— У такім разе я кінуся да ног караля і буду маліць аб літасці, — прамовіла Скюдэры здушаным ад слёз голасам.

— Не рабіце гэтага! — усклікнуў д'Андыі. — Дзеля ўсяго святога, не рабіце гэтага, мая пані! Пакіньце ў запасе гэты апошні сродак, які ў выпадку няўдачы будзе для вас назаўжды страчаны. Кароль ніколі не змілуецца над злачынцам такога кшталту, бо пачуе самыя горкія папрокі ад незадаволенага народа. Магчыма, Брусон, ці адкрыўшы сваю таямніцу, ці яшчэ неяк сапраўды здолее зняць з сябе падазрэнне. Тады і надыдзе час прасіць літасці ў караля, які не будзе пытацца, што даказана перад судом, а што не, але прыслухаецца да ўнутранага пераканання.

Скюдэры мусіла міжволі згадзіцца са шматвопытным д'Андыі.

---

[1] І праўда можа быць да праўды не падобнай *(фр.)*.

Позна ўвечары Скюдэры ў глыбокай маркоце і бясконцых развагах, што, дзеля Панны Марыі і ўсіх святых, яна мусіць зрабіць, каб выратаваць няшчаснага Брусона, сядзела ў сваім пакоі, калі ўвайшла Марціньер і паведаміла, што граф Міясан, палкоўнік каралеўскай гвардыі, жадае неадкладна гаварыць з мадэмуазэль.

— Даруйце, — сказаў Міясан, пакланіўшыся з жаўнерскай гжэчнасцю, — даруйце мне, мая пані, што я ў такі позні, такі нязручны час наважыўся вас патурбаваць. Мы, жаўнеры, да гэтага звыклыя, да таго ж мяне выбачаць перад вамі некалькі словаў: я прыйшоў дзеля Аліўе Брусона.

Скюдэры, напружана чакаючы новых выпрабаванняў, выгукнула:

— Аліўе Брусон? Найняшчаснейшы з людзей? Што маеце вы да яго?

— Я так і падумаў, — з усмешкай сказаў Міясан, — што імені вашага пратэжэ будзе дастаткова, каб забраць вашую ўвагу. Усе перакананыя ў вінаватасці Брусона. Я ведаю, што вы прытрымліваецеся іншай думкі, якая, што праўда, грунтуецца адно на запэўненнях самога падсуднага. Са мной жа іншая гісторыя. Ніхто больш за мяне не можа быць упэўнены ў тым, што Брусон не датычны да забойства Кардыльяка.

— Кажыце ж, ах, кажыце! — усклікнула Скюдэры, і вочы яе заблішчэлі ад радасці.

— Я, — з націскам сказаў Міясан, — быў чалавекам, які закалоў старога ювеліра на вуліцы Сэн-Анарэ, непадалёк ад вашага дома.

— Святыя ўгоднікі! Вы? Вы?! — закрычала Скюдэры.

— І клянуся вам, мая пані, — дадаў Міясан, — я ганаруся сваім учынкам. Ведайце, што Кардыльяк быў самы жахлівы, самы двудушны ліхадзей на свеце. Гэта ён подла забіваў і рабаваў уначы і доўгі час пазбягаў усіх пастак. Я й сам не ведаю, як здарылася, што ўва мне

абудзілася ўнутранае падазрэнне да старога злыдня, калі ён, вонкава спакойны, прынёс упрыгожанні, замоўленыя мною, і калі выпытваў, каму яны прызначаныя, і калі хітра выцягнуў у майго камердынера час, у які я звычайна наведваю пэўную даму. Яшчэ задоўга да гэтага мне кінулася ў вочы тое, што няшчасныя ахвяры найгнюснейшай сквапнасці мелі аднолькавыя смяротныя раны. Мне было ясна, што забойца налаўчыўся наносіць удар, які забіваў імгненна, і цалкам разлічваў на яго. Калі б ён аднойчы прамахнуўся, барацьба пайшла б на роўных. Гэтая думка падказала мне меру засцярогі, настолькі простую, што я дзіўлюся, чаму да яе не звярнуліся раней і не ўратаваліся ад небяспечнага стварэння. Пад камізэльку я надзяваў лёгкі сталёвы нагруднік. Кардыльяк накінуўся на мяне ззаду. Ён абхапіў мяне надзвычай моцна, але ўпэўнена скіраваны клінок толькі слізгануў па жалезе. У той жа момант я вырваўся з ягоных рук і ўсадзіў яму пад рэбры кінжал, які трымаў напагатове.

— І вы маўчалі? — спытала Скюдэры. — Вы не паведамілі суддзям, што здарылася насамрэч?

— Дазвольце заўважыць, мая пані, — адказаў Міясан, — што такая заява калі б і не каштавала мне жыцця, то напэўна ўцягнула б мяне ў найагіднейшы судовы працэс. Ці паверыў бы ля Рэны, які паўсюль прадчувае злачынства, менавіта мне, калі б я абвінаваціў пачцівага Кардыльяка, узор цноты і рахманасці, у вусцішных забойствах? А што, калі б меч Феміды павярнуўся вастрыём да мяне самога?

— Але гэта немагчыма! — выгукнула Скюдэры. — З вашым паходжаннем! З вашым становішчам!

— Ах, — уздыхнуў Міясан, — вы толькі згадайце маршала Люксембургскага, якога ідэя замовіць сабе гараскоп у ле Сажа давяла да падазрэнняў у атручванні і да Бастыліі. Не, клянуся святым Дыянісіем, ні гадзіны

волі, ні свайго мезенца я не аддам шалёнаму ля Рэны, які нам усім ахвотна прыставіў бы лязо да горла.

— Але тады вы адпраўляеце на эшафот невінаватага Брусона, — перабіла Скюдэры.

— Невінаватага? — запярэчыў Міясан. — Пані мая, вы называеце невінаватым хаўрусніка гэтага жахлівага Кардыльяка? Таго, хто дапамагаў яму ў ягоных ліхадзействах? Хто тысячу разоў заслужыў смяротную кару? О не, ён сплыве крывёю па праве, а я адкрыў вам, вельмішаноўная пані, праўдзівую хаду падзей, каб вы, не выдаючы мяне Вогненнай палаце, усё ж знайшлі магчымасць павярнуць маю таямніцу на карысць свайму падапечнаму.

Скюдэры, да глыбіні душы ўзрадаваная тым, што яе перакананасць у невінаватасці Брусона знайшла такое сур'ёзнае пацверджанне, не вагаючыся расказала графу, які ведаў пра злачынствы Кардыльяка, усё, што ведала сама, і заклікала яго ісці разам з ёю да д'Андыі. Яму, на ўмовах сакрэтнасці, трэба было апавесці ўсё, каб ён параіў, што рабіць далей.

Д'Андыі, выслухаўшы надзвычай падрабязны аповед Скюдэры, яшчэ раз удакладніў найдрабнейшыя дэталі. Асабліва ўнікліва ён распытваў графа Міясана, ці напраўду той упэўнены, што Кардыльяк на яго напаў, і ці пазнаў бы ён Аліўе Брусона як таго, што цягнуў труп прэч.

— Апроч таго, — адказаў Міясан, — што ў святле поўні я дакладна пазнаў ювеліра, у ля Рэны я бачыў кінжал, якім забілі Кардыльяка. Ён належыць мне і пазнаецца па тонкай апрацоўцы дзяржальна. Стоячы за крок ад хлопца, у якога зваліўся капялюш, я добра разгледзеў яго твар і напэўна пазнаў бы яго.

Некалькі імгненняў д'Андыі моўчкі глядзеў перад сабой, а потым загаварыў:

— Звычайным спосабам Брусона аніяк нельга ўратаваць з рук юстыцыі. Дзеля Мадлон ён не хоча назваць Кардыльяка забойцам. Зрэшты, гэта не так істотна, бо нават калі б ён патрапіў даказаць гэты факт, паказаўшы патаемны выхад і нарабаваныя скарбы, яго ўсё адно напаткала б смерць як хаўрусніка. Нічога не зменіць і аповед графа Міясана аб праўдзівых абставінах здарэння з ювелірам. Адтэрміноўка — вось тое, да чаго насамрэч варта імкнуцца. Дапусцім, граф Міясан ідзе ў турму Кансьержэры, просіць паказаць яму Аліўе Брусона і пазнае ў ім таго, хто знёс з месца забойства труп Кардыльяка. Тады ён спяшаецца да ля Рэны і кажа: «На вуліцы Сэн-Анарэ я бачыў зарэзанага чалавека. Я стаяў вельмі блізка да цела, калі да яго падскочыў нехта, схіліўся над ім і, убачыўшы прыкметы жыцця, ускінуў яго на плечы і панёс прэч. У Аліўе Брусону я пазнаў таго незнаёмца». Гэтае сведчанне змушае паўторна дапытаць Брусона і зладзіць яго вочную стаўку з графам Міясанам. Гэтага досыць — катаванні адмяняюцца, і следства працягваецца. І вось тады надыходзіць час звярнуцца да караля. Зрабіць гэта як найтанчэй — справа вашага вострага розуму, пані. На маю думку, добра было б адкрыць каралю ўсю таямніцу. Сведчанні графа Міясана падмацуюць прызнанне Брусона. Той жа вынік, напэўна, дадуць і таемныя росшукі ў доме Кардыльяка. Усё гэта стане падставай не для судовага выраку, а для рашэння караля на аснове ўнутранага пачуцця, якое злітуецца там, дзе суддзя мусіць караць.

Граф Міясан акуратна выканаў парады д'Андыі, і ўсё сапраўды сталася так, як той прадбачыў.

Цяпер прыйшоў час звярнуцца да караля, і гэта быў самы складаны крок, бо той лічыў Брусона жахлівым забойцам, які так доўга сеяў па ўсім Парыжы страх і жуду, і меў да яго такую агіду, што найменшы напамін пра следства выклікаў у яго выбух абурэння. Мэнтэнон, верная

свайму правілу ніколі не казаць каралю непрыемнасцяў, адмовіла ў пасярэдніцтве, і лёс Брусона апынуўся цалкам у руках Скюдэры. Пасля доўгіх развагаў апошняя гэтак жа хутка прыняла рашэнне, як затым выканала яго. Яна надзела чорную вечаровую сукню з цяжкога шоўку, упрыгожылася каштоўнымі каралямі Кардыльяка, начапіла доўгі чорны вэлюм і ў такім выглядзе з'явілася ў пакоях Мэнтэнон у час, калі там быў кароль. Шляхетная постаць высакароднай пані ва ўрачыстым уборы выглядала велічна і мусіла выклікаць глыбокую пашану нават у шалапутнага люду, які прызвычаіўся таўчыся ў перадпакоях палаца, легкадумны і да ўсяго абыякавы. Усе пачціва расступіліся, калі яна ўвайшла, і нават сам кароль здзіўлена падняўся і рушыў ёй насустрач. Асляплены бляскам дарагіх дыяментаў, ён усклікнуў:

— Клянуся небам, гэта каралі Кардыльяка!

І, звяртаючыся да Мэнтэнон, дадаў з прыязнай усмешкай:

— Зірніце толькі, пані маркіза, як нашая чароўная нявеста тужыць па сваім жаніху!

— Ах, сір, — адгукнулася Скюдэры, нібыта падтрымліваючы жарт, — ці пасавалі б прыгнечанай горам нявесце такія пышныя аздобы? Не, я адраклася ад гэнага залатара і ўвогуле б не згадвала пра яго, калі б перад вачыма не ўзнікаў раз-пораз жахлівы малюнак, як яго, забітага, праносяць проста ля мяне.

— Як?! — здзівіўся кароль. — Вы бачылі яго, небараку?

Скюдэры каротка расказала, як выпадак (яна пакуль не згадвала пра ўмяшальніцтва Брусона) прывёў яе да дома Кардыльяка якраз тады, калі было адкрытае здзейсненае ўначы забойства. Яна апісала бязмежны боль Мадлон, глыбокае ўражанне, што зрабіла на яе гэтае анёльскае дзіця, спосаб, якім яна ўратавала няшчасную з рук Дэгрэ пад ухвальны галас натоўпу. Цікавасць кара-

ля ўзрасла, калі пайшло апісанне сцэн з удзелам Дэгрэ, ля Рэны і самога Брусона. Захоплены жывым і яркім аповедам Скюдэры, кароль забыў, што гаворка ідзе пра ненавісны працэс агіднага яму Брусона, і час ад часу выказваў воклічамі свае пачуцці. Не паспеў ён ачомацца, агаломшаны нечуванай гісторыяй, пра якую толькі што даведаўся, як Скюдэры кінулася яму ў ногі і папрасіла літасці да Аліўе Брусона.

— Што вы робіце?! — абурыўся кароль, схапіўшы яе за рукі і змусіўшы сесці ў фатэль. — Што вы робіце, пані?! Вы здзіўляеце мяне бязмежна. Жудасная гісторыя! Хто пацвердзіць, што фантастычны аповед Брусона — праўда?

— Сведчанні Міясана, росшукі ў доме Кардыльяка, унутранае перакананне і — ах! — цнатлівае сэрца Мадлон, што адчула тую ж цноту ў няшчасным Брусону! — адказала Скюдэры.

Кароль, які хацеў быў нешта адказаць, павярнуўся на шум, што даляцеў ад дзвярэй. Лувуа, які працаваў у суседнім пакоі, зазірнуў з заклапочаным выразам твару. Кароль падняўся і выйшаў следам за ім. Скюдэры і Мэнтэнон палічылі гэты перапынак небяспечным, бо, аднойчы заспеты знянацку, кароль мог потым засцерагчыся, каб другі раз не трапіць у пастаўленую пастку. Але праз некалькі хвілін кароль вярнуўся, некалькі разоў прайшоўся туды-сюды, урэшце спыніўся перад Скюдэры і, склаўшы рукі за спінай і не гледзячы на яе, напаўголаса прамовіў:

— Мне б хацелася зірнуць на вашую Мадлон.

— О, літасцівы пане, якую вялікую ласку зробіце вы беднаму, няшчаснаму дзіцяці! Ах, адзін толькі знак — і вы ўбачыце яе ля сваіх ног!

Сказаўшы гэта, Скюдэры так хутка, як дазваляў ёй цяжкі строй, падбегла да дзвярэй і крыкнула, што ка-

роль жадае бачыць Мадлон Кардыльяк, а потым вярнулася і заплакала ад радасці і ўзрушэння.

Скюдэры прадчувала такую міласць, таму прывяла з сабою Мадлон, якая чакала ў пакаёўкі маркізы з кароткім хадайніцтвам, складзеным для яе д'Андыі. Праз лічаныя імгненні яна ўжо ляжала ля ног караля, не ў стане вымавіць ні слова. Страх, збянтэжанасць, баязлівая пашана, каханне і боль усё хутчэй гналі гарачую кроў па яе жылах. Яе шчокі палалі, вочы блішчэлі празрыстымі перлінамі слёз, якія адна за адной падалі з шаўковых веяў на прыўкрасныя бялюткія грудзі. Кароль, здавалася, быў зачараваны пекнатой анёльскага дзіцяці. Ён мякка падняў дзяўчыну з падлогі і нібы памкнуўся пацалаваць яе руку, якую трымаў у сваёй. Адпусціўшы мілае дзіця, кароль глядзеў на Мадлон вільготнымі ад слёз вачыма, якія сведчылі пра глыбокую ўзрушанасць. Мэнтэнон ціха прашаптала Скюдэры:

— Вы не знаходзіце, што юнае стварэнне надзвычай падобнае да Лавальер, ну проста адзін твар? Кароль аддаўся салодкім успамінам. Вы выйгралі.

Як бы ціха ні казала Мэнтэнон, кароль, відаць, пачуў яе словы. Чырвань разлілася па ягоным твары, а позірк слізгануў міма маркізы. Ён прачытаў хадайніцтва, пададзенае Мадлон, і прамовіў мякка і прыхільна:

— Я ахвотна веру, што ты, мілае дзіця, упэўненая ў невінаватасці твайго каханага, але ж паслухаем, што скажа на гэты конт Вогненная палата!

Лёгкім рухам рукі ён даў зразумець дзяўчыне, гатовай расплакацца, што размова скончаная. Скюдэры з жахам уцяміла, што згадка пра Лавальер, якой бы дарэчнай яна ні здалася спачатку, змяніла настрой караля, калі Мэнтэнон назвала яе імя. Магчыма, на думку караля, яму не вельмі далікатна нагадалі пра тое, што ён схільны ахвяраваць суворым законам дзеля прыгажосці, альбо, быць можа, кароль адчуў сябе летуценнікам, гру-

ба вернутым да рэчаіснасці, калі адлятаюць прэч чароўныя малюнкі, якія ён хацеў быў ухапіць. А можа, ён ужо не бачыў перад сабою сваёй каханкі, а думаў пра сястру Луізу Міласэрную (такое імя атрымала Лавальер у кляштары кармелітак), якая назаляла яму сваёй пабожнасцю і цнотай. Цяпер не заставалася нічога іншага, як спакойна дачакацца каралеўскага рашэння.

Тым часам сведчанні графа Міясана перад Вогненнай палатай сталі вядомыя. Як часта бывае, народ змяніў адну скрайнасць на іншую, і той, каго праклінালі як жахлівага забойцу і пагражалі разарваць на часткі яшчэ да таго, як ён падымецца на эшафот, цяпер выклікаў усеагульнае спачуванне як нявінная ахвяра варварскай юстыцыі. Суседзі згадвалі пра яго цнатлівае жыццё, моцнае каханне да Мадлон, яго вернасць і адданасць душою і целам старому майстру. Цэлыя працэсіі часта з’яўляліся перад палацам ля Рэны, людзі пагрозліва крычалі: «Аддай нам Аліўе Брусона, ён невінаваты!» — і нават шпурлялі камяні ў вокны, так што ля Рэны быў змушаны прасіць у жандармерыі абараніць яго ад раз’юшанай чэрні.

Прайшло некалькі дзён, цягам якіх да Скюдэры даходзілі толькі нязначныя звесткі аб працэсе Аліўе Брусона. Зусім знявераная, яна скіравалася да Мэнтэнон, якая, аднак, запэўніла, што кароль не згадвае пра гэтую справу, і лепш яму нічога не гаварыць. Калі ж маркіза з дзіўнаватай усмешкай спытала, як маецца маленькая Лавальер, Скюдэры пераканалася, што ў глыбіні душы ганарыстая дама адчувае прыкрасць ад абставінаў, у якіх чуллівы кароль мог паддацца чарам, недаступным яе разуменню. На Мэнтэнон цяпер не было аніякай надзеі.

Урэшце Скюдэры з дапамогай д’Андыі патрапіла дазнацца, што кароль меў доўгую патаемную гутарку з графам Міясанам. Апроч таго, Бантан, камердынер і найбліжэйшая давераная асоба караля, наведаў Кансь-

ержэры і размаўляў з Брусонам. Нарэшце, выявілася, што аднае ночы той жа Бантан разам з нейкімі людзьмі з'явіўся ў доме Кардыльяка і прабыў там досыць доўга. Клод Парту, жыхар з першага паверха, сцвярджаў, што ў тую ноч над яго галавой нешта доўга грукатала і што там напэўна быў Аліўе, бо ён пазнаў ягоны голас. Было відавочна, што кароль вырашыў сам скласці ўражанне пра сапраўдную хаду падзеяў, але такое доўгае маруджанне з рашэннем заставалася незразумелым. Пэўна, ля Рэньі прыкладаў усе намаганні, каб утрымаць ахвяру ў пашчы. Гэта забівала любую надзею.

Мінуў амаль месяц, і аднойчы Мэнтэнон перадала Скюдэры, што кароль жадае бачыць іх увечары ў яе, Мэнтэнон, апартаментах.

Сэрца Скюдэры закалацілася: яна зразумела, што сёння справа Брусона вырашыцца. Яна паведаміла пра ўсё беднай Мадлон, якая апантана малілася да Панны Марыі і ўсіх святых, каб яны абудзілі ў каралю перакананне ў невінаватасці Брусона.

І ўсё ж здавалася, што кароль начыста забыўся на гэтую справу, бо, бавячы, як звычайна, час у прыязных размовах з Мэнтэнон і Скюдэры, ён нават словам не згадаў небараку Брусона. Нарэшце з'явіўся Бантан, наблізіўся да караля і прашаптаў некалькі словаў так ціха, што абедзве дамы не зразумелі анічога. У Скюдэры ўсё ўнутры скаланулася. Тады кароль падняўся, падышоў да яе і сказаў, бліскаючы вачыма:

— Віншую вас, мая пані! Ваш падапечны Аліўе Брусон вольны!

Скюдэры, у якой слёзы пырснулі з вачэй, не ў стане вымавіць ні слова, хацела кінуцца каралю ў ногі. Але ён спыніў яе, прыгаворваючы:

— Ідзіце ўжо, ідзіце! Вам варта было б стаць адвакатам у парламенце, пані, і абараняць мае справы, бо, клянуся святым Дыянісіем, перад вашым красамоўствам

не ўстаіць ніхто. Зрэшты, — дадаў ён ужо сур'ёзней, — таму, каго бярэ пад ахову сама цнота, не страшныя ні злыя папрокі, ні Вогненная палата, ні ўсе суды на свеце!

Скюдэры ўрэшце знайшла патрэбныя словы, якія выліліся ў найпалымянейшую падзяку. Але кароль перарваў яе, нагадаўшы, што ва ўласным доме яе чакае падзяка значна больш гарачая, чым мог бы патрабаваць ён, бо, імаверна, якраз у гэты момант шчаслівы Аліўе абдымае сваю Мадлон.

— Бантан, — сказаў кароль на развітанне, — выплаціць вам тысячу луідораў. Перадайце іх ад майго імя дзяўчыне на пасаг. Хай яна пабярэцца са сваім Брусонам, які, зрэшты, зусім не заслужыў такога шчасця. Але затым яны абодва мусяць пакінуць Парыж. Такая мая воля.

Дома насустрач Скюдэры паспяшалася Марціньер, за ёю — Батыст, абое з зіхоткімі ад радасці тварамі, захоплена гукаючы:

— Ён тут! Ён вольны! О, мілыя маладыя!

Шчаслівая пара кінулася ў ногі Скюдэры.

— Ах, я ведала, што вы, толькі вы, вы адна ўратуеце майго мужа! — усклікала Мадлон.

— Вера ў вас, маю маці, заўжды жыла ў маёй душы, — цвердзіў Аліўе, і абодва цалавалі рукі высакароднай дамы і пралівалі тысячы гарачых слёз. А потым яны зноў абняліся і, запэўніўшы, што незямное хараство гэтых імгненняў пераважае ўсе невымоўныя пакуты мінулых дзён, пакляліся не разлучацца да скону.

Праз колькі дзён яны пабраліся шлюбам і атрымалі благаславенне святара. Нават калі б на тое не было волі караля, Брусон усё адно не змог бы заставацца ў Парыжы, дзе ўсё нагадвала яму пра жудасныя часы, калі тут лютаваў Кардыльяк, дзе выпадкова магла раскрыцца і назаўсёды разбурыць яго мірнае жыццё злавесная таямніца, вядомая пакуль адзінкам. Адразу ж пасля вясел-

ля ён разам з маладой жонкай з блаславення Скюдэры пераехаў у Жэневу. Багата адораны праз пасаг Мадлон, надзіва ўмелы ў сваім рамястве, надзелены ўсімі цнотамі сумленнага грамадзяніна, ён вёў там шчаслівае і бесклапотнае жыццё. Для яго збыліся надзеі, што да самай магілы падманвалі ягонага бацьку.

Праз год пасля ад’езду Брусона выйшла афіцыйнае паведамленне за подпісамі Арлуа дэ Шавалона, арцыбіскупа Парыжа, і П’ера Арно д’Андыі, парламенцкага адваката, пра тое, што нейкі раскаяны грэшнік на ўмовах таямніцы споведзі перадаў у дар царкве нарабаваны скарб з каштоўнасцяў і аздобаў. Кожны, хто да канца 1680 году, пераважна праз узброены напад на вуліцы, пазбавіўся ўпрыгожанняў, мусіў з’явіцца да д’Андыі і атрымаць, пры супадзенні апісання з той ці іншай рэччу са збору і адсутнасці сумневаў у правамоцнасці прэтэнзіі, сваю каштоўнасць назад. Многія ахвяры Кардыльяка, што шчасліва пазбеглі смерці, толькі аглушаныя ўдарам кулака, адно за адным ішлі да парламенцкага адваката і, да немалога свайго здзіўлення, атрымлівалі адабраныя калісь скарбы. Рэшта ж дасталася царкве святога Яўстаха.

*Пераклаў з нямецкай Аляксей Жбанаў*

# ЭДГАР АЛАН ПО

# СКРАДЗЕНЫ ЛІСТ

Nil sapientiae odiosius acumine nimio[1].

*Сенека**

Адным ветраным парыжскім вечарам восенню 18** году, адразу пасля змяркання, я, седзячы разам са сваім сябрам С. Агюстам Дзюпэнам у яго маленькай цёмнай бібліятэцы, ці кабінеце, *au troisième, No. 33, Rue Dunôt, Faubourg St. Germain*[2], атрымліваў падвойную асалоду, якую могуць падарыць развагі і пенкавая люлька. Не менш чым гадзіну мы захоўвалі глыбокае маўчанне, і выпадковаму назіральніку магло падацца, што мы засяроджаныя выключна на мудрагелістых клубах дыму, якія рабілі атмасферу пакоя яшчэ змрачнейшай. Аднак я працягваў у думках аналізаваць пытанні, якія мы закранулі ў размове ў пачатку вечара — я маю на ўвазе падзеі на вуліцы Морг і таямніцу, звязаную з забойствам Мары Ражэ. А таму, калі дзверы пакоя расчыніліся і ўпусцілі нашага старога знаёмца мсье Г., прэфекта парыжскай паліцыі, гэта падалося мне чымсьці накшталт супадзення.

---

[1] Для мудрасці няма нічога ненавіснейшага за хітрасць *(лац.)*.

[2] На чацвертым паверсе дома № 33 па вуліцы Дзюно ў прадмесці Сэн-Жэрмэн *(фр.)*.

Мы прыязна павіталі госця, бо нікчэмныя якасці яго характару межавалі з забаўнымі, і да таго ж мы некалькі гадоў не бачыліся. Да яго візіту мы сядзелі ў цемры, і цяпер Дзюпэн падняўся, каб запаліць лямпу, але, не зрабіўшы гэтага, зноў прысеў, калі пачуў, што прэфект зазірнуў да нас параіцца, а дакладней, спытаць у майго сябра меркавання пра справу, якая прынесла яму шмат турботаў.

— Калі яна ў нейкім сэнсе патрабуе развагаў, — заначыў Дзюпэн, так і не запаліўшы кнот, — то мы лепш выслухаем вас у цемры.

— Вашая чарговая дзіўная ідэя! — сказаў прэфект, які меў звычку называць дзіўным усё вышэйшае за сваё разуменне, а таму жыў у атачэнні незлічоных легіёнаў рознага кшталту дзіваў.

— Несумненна, — пагадзіўся Дзюпэн, а потым забяспечыў госця люлькай і падсунуў яму зручнае крэсла.

— З якой цяжкасцю вы сутыкнуліся? — спытаў я. — Спадзяюся, гэтым разам не забойства?

— О не, нічога такога. Праблема насамрэч зусім лёгкая, і я не сумняюся, што мы паспяхова справімся з ёй самастойна. Але мне здаецца, што Дзюпэн захоча даведацца пра яе акалічнасці, бо яна надзвычай дзіўная.

— Простая і дзіўная, — падагульніў Дзюпэн.

— Ну, прыкладна так, але не зусім. Насамрэч усе мы вельмі збянтэжаныя, бо гэтая зусім простая справа збівае нас з панталыку.

— Магчыма, вас ставіць у тупік сама яе прастата, — сказаў мой сябар.

— Што за лухту вы кажаце! — усклікнуў прэфект і шчыра засмяяўся.

— Магчыма, разгадка крыху занадта празрыстая, — дадаў Дзюпэн.

— Божа мой, ніколі такога не чуў!

— Крыху занадта відавочная.

— Ха-ха-ха! Ха-ха-ха! Хо-хо-хо! — зарагатаў наш госць, ад душы развесяліўшыся. — Дальбог, Дзюпэн, аднойчы вы даведзяце мяне да труны!

— Дык што ў вас, урэшце, за справа? — спытаў я.

— Зараз раскажу, — адказаў прэфект і, уладкаваўшыся ў крэсле, зрабіў доўгую, раўнамерную і задуменную зацяжку. — Раскажу ў некалькіх словах, але перад гэтым дазвольце папярэдзіць, што справу трэба захоўваць у найглыбейшай таямніцы. Калі хтосьці даведаецца, што я даверыў яе чужым людзям, я, відаць, страчу сваю цяперашнюю пасаду.

— Працягвайце, — сказаў я.

— Ці не, — сказаў Дзюпэн.

— Значыць, так. З найвышэйшых колаў я атрымаў прыватную інфармацыю, што з каралеўскіх пакояў скрадзены адзін вельмі важны дакумент. Асоба выкрадальніка вядомая, у гэтым няма сумневаў: бачылі, як ён забіраў паперу. Таксама вядома, што дакумент дагэтуль у яго руках.

— Адкуль гэта вядома? — спытаў Дзюпэн.

— Пра гэта сведчыць, — адказаў прэфект, — сама прырода дакумента і адсутнасць тых вынікаў, якія пацягнула б за сабой пазбаўленне ад ліста, а дакладней, яго выкарыстанне, бо выкрадальнік раней ці пазней яго выкарыстае.

— Прашу гэта патлумачыць, — сказаў я.

— Ну, рызыкну сказаць, што папера дае свайму ўладальніку пэўную ўладу ў колах, дзе такая ўлада надзвычай цэніцца, — прэфект любіў загадкавую мову дыпламатыі.

— Я ўсё яшчэ не зусім разумею, — сказаў Дзюпэн.

— Не? Ну, калі дакумент атрымае трэцяя асоба, якую пакінем неназванай, гэта паставіць пад сумнеў рэпутацыю адной вельмі высокапастаўленай персоны, і таму той, у чыіх руках дакумент, мае ўладу над гэтай знака-

мітай персонай, чые рэпутацыя і спакой цяпер пад пагрозай.

— Але выкрадальнік атрымлівае такую ўладу толькі тады, — перарваў я прэфекта, — калі ён упэўнены, што абрабаваны ведае, хто выкрадальнік. Хто насмеліцца...

— Міністр Д., — адказаў прэфект, — ён выкрадальнік і ён насмеліцца на ўсё, што вартае, а таксама не вартае мужчыны. Спосаб, якім ён скраў дакумент, такі ж вынаходлівы, як і смелы. Абрабаваная асоба атрымала дакумент — а менавіта ліст, — калі сядзела адна ў каралеўскім будуары. Раптам чытанне было перарванае з'яўленнем іншай высокапастаўленай асобы, той самай, ад якой ліст трэба было хаваць. Пасля паспешлівай і марнай спробы засунуць ліст у шуфляду яна была вымушаная пакласці яго разгорнутым на стол. Аднак адрас апынуўся навідавоку, а змест — схаваным, таму ліст не забраў увагі. Раптам увайшоў міністр Д. Яго рысіны погляд тут жа выхоплівае ліст, міністр пазнае почырк, адзначае збянтэжанасць адрасаткі і разгадвае яе таямніцу. Пасля працоўнага дакладу, зробленага ў звычайнай хуткай манеры, ён выцягвае ліст, трохі падобны да таго, што на стале, разгортвае яго, робіць выгляд, што чытае, і потым кладзе побач з першым. Наступныя пятнаццаць хвілінаў ён вядзе размову пра грамадскія справы. Урэшце, сыходзячы, ён прыхоплівае са стала чужы ліст. Сапраўдная ўладальніца дакумента ўсё бачыць, але не насмельваецца прыцягнуць увагу да гэтай акалічнасці праз трэцюю асобу, што стаіць побач. Міністр знікае, пакінуўшы свой нязначны ліст на стале.

— І вось, — сказаў мне Дзюпэн, — пастаўленая вамі ўмова выкананая: выкрадальнік атрымлівае ўладу, бо ўпэўнены, што абрабаваны ведае, хто выкрадальнік.

— Але, — пагадзіўся прэфект. — Здабыўшы такім чынам уладу, выкрадальнік цягам апошніх месяцаў карыстаецца ёй дзеля дасягнення палітычных мэтаў і за-

ходзіць небяспечна далёка. Абрабаваная дзень пры дні ўсё больш упэўніваецца, што ліст трэба вярнуць. Але адкрыта гэтага зрабіць нельга. Карацей кажучы, даведзеная да адчаю, яна перадала справу мне.

— Павернік, — адзначыў Дзюпэн, патанаючы ў сапраўдных віхурах дыму, — больш праніклівага за якога нельга, мяркую, ні пажадаць, ні ўявіць.

— Вы ліслівіце, — адказаў прэфект, — але не выключана, што хтосьці можа з вамі пагадзіцца.

— Відавочна, вы маеце рацыю, і ліст усё яшчэ ў міністра, — сказаў я. — Менавіта валоданне лістом, а не яго выкарыстанне, дае ўладу. Калі ён выкарыстае ліст, улада знікне.

— Так і ёсць, — сказаў прэфект. — У адпаведнасці з гэтым я і дзейнічаў. Маім першым клопатам было старанна абшукаць дом міністра, і тут я сутыкнуўся з вялікай складанасцю: міністр не мусіў ведаць пра мае задумы. Больш за тое, мяне папярэдзілі, як небяспечна даваць яму падставу для падазрэнняў.

— Але ж вы добра разбіраецеся ў гэтым, — сказаў я. — Парыжская паліцыя займалася такімі рэчамі і раней.

— Безумоўна! Таму я і не страчваў надзеі. Да таго ж, звычкі міністра давалі мне добрыя магчымасці. Ён часта адсутнічаў дома цэлую ноч. Слуг у яго зусім няшмат, і яны спяць далёка ад пакоя гаспадара, а яшчэ амаль усе яны — неапалітанцы, таму заўсёды радыя выпіць. У мяне, як вы ведаеце, ёсць ключы, якімі я магу адамкнуць любы пакой ці шафу ў Парыжы. Цягам трох месяцаў не было ніводнай ночы, якую б я не прысвяціў прыватным расследаванням у доме міністра. Гэта справа гонару і, скажу па сакрэце, вялікіх грошай. А таму я не пакідаў сваіх спробаў, пакуль канчаткова не ўпэўніўся, што рабаўнік нашмат хітрэйшы за мяне. Думаю, я агледзеў кожны кут і закутак, дзе можна схаваць скрадзеную паперу.

— А ці магчыма, — задумаўся я, — што ліст дагэтуль застаецца ў міністра (а інача й і быць не можа), але схаваны не ў яго дома, а дзесьці яшчэ?

— Наўрад ці, — адказаў Дзюпэн. — Сённяшні стан справаў пры двары, і асабліва тыя інтрыгі, у якія, як вядома, уцягнуты міністр, патрабуюць, каб дакумент заўсёды быў побач: магчымасць у любы момант даць яму ход мае амаль такое самае значэнне, як і сам факт валодання ім.

— Магчымасць даць яму ход? — перапытаў я.

— А калі трэба, то знішчыць, — адказаў Дзюпэн.

— Значыць, — сказаў я, — папера дакладна ў доме. Няма сумневаў, што міністр не будзе ўвесь час насіць яе пры сабе.

— Безумоўна, — пагадзіўся прэфект. — Яго двойчы спынялі, нібыта каб абрабаваць, і пад маім уласным наглядам старанна абшуквалі.

— Маглі б так не напружвацца, — сказаў Дзюпэн. — Мне здаецца, міністр не зусім дурань, а значыць, прадбачыў магчымасць такіх нападаў і быў падрыхтаваны.

— Не зусім дурань, — прамовіў прэфект, — але ён паэт. Мне здаецца, ад паэта да дурня — адзін крок.

— Безумоўна, — сказаў Дзюпэн, зрабіўшы доўгую задуменную зацяжку, — хаця я і сам грашыў кепскімі вершыкамі.

— Можа, раскажаце пра свае пошукі падрабязней? — папрасіў я.

— Ну, рэч у тым, што мы мелі час і абшукалі ўсё. У мяне наконт такога вялікі досвед. Я агледзеў будынак пакой за пакоем, прысвяціўшы кожнаму ўсе ночы тыдня. Спачатку мы праверылі мэблю, адчынілі ўсе магчымыя шуфляды, і я гатовы сцвярджаць, што для правільна навучанага паліцэйскага проста не існуе ніякіх «таемных» шуфлядак. Такую штуку падчас росшукаў абміне толькі ідыёт. Гэта так проста! Кожная шафа

займае пэўны аб'ём, ці прастору, і гэта трэба ўлічваць. Астатняе зробяць нашыя дакладныя лінейкі. Вывучым усё да пяцісотай часткі цалі. Пасля шафаў мы ўзяліся за крэслы. Сядзенні мы правяралі доўгімі тонкімі іголкамі — вы бачылі, як я гэта раблю. Потым мы здымалі са сталоў стальніцы...

— Навошта?

— Часам для таго, каб нешта схаваць, чалавек здымае стальніцу ці нейкую іншую падобную да яе дэталь мэблі, робіць у ножцы выемку, куды хавае патрэбную рэч, і вяртае стальніцу на месца. З гэтымі ж мэтамі выкарыстоўваюцца слупкі ложкаў.

— Але хіба нельга знайсці поласць з дапамогай гуку? — пацікавіўся я.

— Ніяк, калі рэшту поласці забіць ватай. Да таго ж, у нашым выпадку патрабавалася цішыня.

— Але не маглі ж вы адсунуць... не маглі ж вы разабраць на часткі ўсю мэблю, у якой апісаным вамі спосабам можна зрабіць сховішча. Калі скруціць ліст у тонкую трубачку, таўшчынёй і аб'ёмам не нашмат большую за вялікую спіцу для вязання, яго можна ўкласці, напрыклад, у перакладзіну крэсла. Вы ж не разбіралі на часткі ўсе крэслы?

— Безумоўна, не, але мы зрабілі яшчэ лепш: мы старанна агледзелі перакладзіны ўсіх крэслаў у доме, як, дарэчы, і месцы злучэння ўсіх дэталяў мэблі, з дапамогай надзвычай моцнага мікраскопа. Калі б на драўніне былі хоць якія сляды нядаўніх пашкоджанняў, мы б іх нізашто не прапусцілі. Напрыклад, найдрабнейшая пылінка ад свярдзёлка была б бачная не горш за яблык. Любое парушэнне слою праклейкі, незвычайная шчылінка на месцы злучэння — і мы адразу ўсё знайшлі б.

— Мяркую, вы праверылі ўсе люстэркі ў месцах, дзе рама сутыкаецца са шклом, а таксама абмацалі ўсе ложкі і пасцельную бялізну, не забыўшыся на гардзіны і дываны.

— Безумоўна. А калі мы канчаткова разабраліся з усёй мэбляй, то ўзяліся за сам дом. Мы падзялілі ўсю яго плошчу на пранумараваныя ўчасткі так, каб ніводнай не пакінуць па-за ўвагай, і старанна даследавалі з мікраскопам кожную асобную квадратную цалю жылой плошчы, у тым ліку два суседнія дамы.

— Два суседнія дамы! — усклікнуў я. — Працы, відаць, было нямала.

— І не кажыце. Але нам паабяцалі неверагодную ўзнагароду.

— А што з участкам вакол дома?

— Ён увесь забрукаваны цэглай, а таму ў параўнанні з астатнім турботаў тут было няшмат. Мы разгледзелі мох паміж цаглінамі і зразумелі, што ён не пашкоджаны.

— Вы перагледзелі паперы міністра і кнігі ў яго бібліятэцы?

— Канечне, мы разгледзелі кожны пакунак і скрутак і не толькі праверылі ўсе тамы, але і прагарталі кожную старонку ў кожнай кнізе, не абмежаваўшыся звычайным перытрэсваннем, як гэта робяць некаторыя паліцэйскія. Апроч гэтага мы самым скрупулёзным чынам вымералі таўшчыню ўсіх кніжных вокладак і ўважліва разгледзелі кожную з іх у мікраскоп. Калі б хтосьці нядаўна чапаў хоць адзін з пераплётаў, гэты факт ні за што не абмінуў бы нашай увагі. Пяць ці шэсць фаліянтаў, якія нядаўна пабывалі ў руках пераплётчыкаў, мы асцярожна праверылі іголкамі.

— Аглядалі падлогу пад дыванамі?

— Несумненна. Мы адсунулі кожны дыван і вывучылі паркет з дапамогай мікраскопа.

— А шпалеры на сценах?

— Безумоўна.

— У сутарэнні зазірнулі?

— Вядома ж.

— Значыць, — сказаў я, — вы памыліліся ў разліках, і ліста ў доме няма.

— Баюся, тут вы маеце рацыю, — сказаў прэфект. — А цяпер, Дзюпэн, што вы мне параіце?

— Яшчэ раз старанна абшукаць дом.

— У гэтым няма ніякага сэнсу, — адказаў прэфект. — Я ўпэўнены, што ліст не там, нават больш, чым у тым, што дыхаю.

— Лепшай пароды ў мяне няма, — сказаў Дзюпэн. — У вас, безумоўна, ёсць падрабязнае апісанне ліста?

— Вядома!

Тут прэфект выцягнуў свой нататнік і прачытаў нам найдакладнейшае апісанне зніклага дакумента знутры і асабліва звонку. Хутка ён сышоў — такім прыгнечаным я яшчэ ніколі яго не бачыў.

Прыкладна праз месяц прэфект зноў зазірнуў да нас — мы былі занятыя тым жа, чым падчас мінулага візіту. Ён узяў люльку, сеў і завязаў самую звычайную гутарку ні пра што. Урэшце я не вытрымаў:

— А што з тым скрадзеным лістом? Я так разумею, вы ўсё ж прыйшлі да высновы, што перамагчы міністра немагчыма?

— Так і ёсць, чорт яго дзяры! Згодна з парадай Дзюпэна мы яшчэ раз абшукалі дом — але, як я і думаў, уся праца была марнай.

— А якую абяцаюць узнагароду? — пацікавіўся Дзюпэн.

— О, вельмі добрую, неверагодна, я б сказаў, шчодрую, але колькі дакладна — лепш памаўчу. Магу хіба што сказаць, што я не супраць выдаць свой уласны чэк на пяцьдзясят тысяч франкаў любому, хто дапаможа мне завалодаць лістом. Бо ведаеце, з кожным днём значэнне ліста расце, і абяцаная ўзнагарода была нядаўна падвоеная. Але калі яе нават патрояць, я ўсё адно не змагу зрабіць больш, чым ужо зрабіў.

— Што да мяне, мсье прэфект, — сказаў Дзюпэн паміж дзвюма зацяжкамі з пенкавай люлькі, — то мне здаецца, вы не аддаліся... гэтай справе напоўніцу... Думаю, варта было... зрабіць трошкі болей...

— Што зрабіць? Якім чынам?

— Ну... пых-пых... трэба было наняць спецыяліста... пых-пых... праўда? Помніце тую гісторыю пра Абернэці?*

— Ды ну яго, вашага Абернэці!

— І праўда, ну яго. Але слухайце. Аднойчы нейкі багаты скнара прыдумаў спосаб бясплатна выцягнуць з Абернэці медыцынскую параду. З гэтай мэтай скнара завязаў з ім на нейкім вечары звычайную размову і паступова пераказаў доктару ўсе свае сімптомы, прыпісаўшы іх уяўнаму суб'екту. «Дапусцім, — казаў скнара, — хвораму баліць тое і тое. Што б вы, доктар, яму прапісалі?» — «Безумоўна, добрага спецыяліста», — адказаў Абернэці.

— Але, — трошкі сумеўшыся, сказаў прэфект, — мне таксама вельмі патрэбны добры спецыяліст, і я гатовы яму заплаціць. Я і праўда дам пяцьдзясят тысяч франкаў таму, хто дапаможа мне з гэтай справай.

— У такім выпадку, — адказаў Дзюпэн, высоўваючы шуфляду і дастаючы адтуль чэкавую кніжку, — выпішыце мне чэк на згаданую суму, і калі вы паставіце на ім свой подпіс, я ўручу вам ліст.

Я быў агаломшаны, а прэфекта нібыта ўдарыла громам. Некалькі хвілінаў ён не мог ні варухнуцца, ні вымавіць хаця б слова, а толькі з разяўленым ротам недаверліва пазіраў на майго сябра. Здавалася, вочы паліцэйскага вось-вось вылезуць з арбітаў. Урэшце, неяк узяўшы сябе ў рукі, ён схапіў пяро і пасля некалькіх перапынкаў і пустых позіркаў навокал змог запоўніць чэк на пяцьдзясят тысяч франкаў і падпісаць яго, каб перадаць Дзюпэну праз стол. Той уважліва вывучыў чэк

і схаваў яго ў партманэт, а затым, адамкнуўшы сакрэтнік, дастаў адтуль аркуш і перадаў прэфекту. У сапраўдным параксізме радасці паліцэйскі схапіў ліст, дрыготкімі рукамі разгарнуў яго, хутка прагледзеў змест, потым, сабраўшы сілы, пацягнуўся да дзвярэй і ўрэшце бесцырымонна выскачыў з пакоя і з дому, не сказаўшы з таго моманту, як Дзюпэн запатрабаваў чэк, ані слова.

Калі ён сышоў, мой сябар пусціўся ў тлумачэнні.

— Парыжская паліцыя, — сказаў ён, — па-свойму вельмі здольная. Усе яны настойлівыя, вынаходлівыя, хітрыя і добра абазнаныя ў тых сферах, якія відавочна патрэбныя ў іх прафесіі. А таму, калі прэфект падрабязна апісаў мне, як ён абшукваў дом міністра, я цалкам упэўніўся, што сваю справу ён зрабіў выдатна — у межах абранага ім кірунку росшукаў.

— У межах абранага ім кірунку?

— Але, — пацвердзіў Дзюпэн. — Зробленыя ім захады былі не проста выключнымі — яны дасканала рэалізоўваліся. Калі б ліст схавалі гэткім жа чынам, хлопцы з паліцыі, несумненна, яго знайшлі б.

Я толькі рассмяяўся, але ён, здаецца, гаварыў сур'ёзна.

— Самі па сабе гэтыя захады, — прадоўжыў ён, — былі добрыя, як і самі росшукі. Іх недахоп палягаў у тым, што яны не адпавядалі ні нашай сітуацыі, ні нашаму злачынцу. Пэўны набор надзвычай вынаходлівых метадаў ператварыўся для прэфекта ў своеасаблівае пракрустава ложа, да якога ён гвалтоўна падладжвае свае планы. Прэфект увесь час памыляецца, занураючыся ў праблему то занадта глыбока, то занадта павярхоўна — многія школьнікі змогуць разважаць лепш за яго. Я ведаў аднаго васьмігадовага хлопчыка, чые поспехі ў гульні «цот і лішка» выклікалі ўсеагульнае захапленне. Для гэтай простай гульні патрэбныя толькі шарыкі. Адзін гулец заціскае ў далоні некалькі такіх шарыкаў, а другі му-

сіць адгадаць, цотная іх колькасць ці няцотная. Той, хто адгадаў, атрымлівае шарык, той, хто не адгадаў, — аддае. Хлопчык, пра якога я казаў, выйграў усе шарыкі ў школе. Безумоўна, у яго быў свой метад адгадвання, які палягаў усяго толькі ў назіранні за супернікам і вызначэннем узроўню яго хітрасці. Напрыклад, ягоны супернік — сапраўдны дурань — выцягвае сціснутую руку і пытае: «Цот ці лішка?» Наш хлопец адказвае: «Лішка», — і страчвае шарык, але другую спробу выйграе, разважыўшы так: «Гэты дурань загадаў першы раз цотную колькасць, і цяпер яго мазгоў хопіць толькі на тое, каб другі раз загадаць няцотную, а таму трэба зноў выбраць лішку». Ён адказвае: «Лішка», — і выйграе. Калі ж дурань трохі разумнейшы, наш хлопец разважае інакшай: «Супернік ведае, што першы раз я выбраў лішку, а таму для другой спробы ён спачатку захоча замяніць цот на лішку, як папярэдні дурань, але потым падумае, што гэта занадта проста, і ўрэшце зноў спыніцца на цотнай колькасці, а таму трэба выбраць цот». Адказвае: «Цот», — і выйграе. Вось такі метад выкарыстоўвае наш школьнік, якога сябры называюць лёсікам — і ў чым жа сутнасць гэтага метаду?

— Усяго толькі ў здольнасці атаясаміць свой інтэлект з інтэлектам суперніка, — сказаў я.

— Так і ёсць, — пацвердзіў Дзюпэн, — і калі я спытаў хлопчыка, якім чынам ён змог так цудоўна атаясамлівацца з супернікам і ўвесь час перамагаць, то атрымаў такі адказ: «Калі я хачу даведацца, наколькі хтосьці разумны, ці дурны, ці добры, ці дрэнны, альбо пра што ён у гэты момант думае, я спрабую з усёй магчымай дакладнасцю скапіяваць выраз яго твару і потым гляджу, якія ў маёй галаве з'яўляюцца думкі, а ў сэрцы — пачуцці ў адпаведнасці з такім выразам». У словах гэтага школьніка хаваецца самая сутнасць тых уяўных глыбіняў, якія прыпісваюцца Ларашфуко, Лабруеру, Мак'явэлі і Кампанэлу*.

— І атаясамленне розуму мысляра з розумам яго суперніка залежыць, калі я не памыляюся, ад таго, ці правільна ён гэты самы розум суперніка ацаніў, — спытаў я.

— З практычнага гледзішча ўсё так і ёсць, — адказаў Дзюпэн. — Прэфект і яго кагорта так часта церпяць паразу, па-першае, праз няздольнасць атаясамлівацца, а па-другое, праз памылковую ацэнку розуму таго, з кім маюць справу, ці, дакладней, праз адсутнасць такой ацэнкі. Яны бяруць да ўвагі толькі ўласнае ўяўленне пра вынаходлівасць і, шукаючы нешта схаванае, думаюць толькі пра тое, як бы яны самі гэта схавалі. У чымсьці яны маюць рацыю: іх уяўленне пра вынаходлівасць цалкам адпавядае ўяўленням большасці людзей, але калі нейкі злачынца вылучаецца вельмі асаблівай, не падобнай да іхнай, хітрасцю, гэта, безумоўна, збівае іх з панталыку. Так бывае заўсёды, калі злачынца разумнейшы за іх, і досыць часта — калі дурнейшы. Прынцыпы іх расследаванняў ніколі не пераглядаюцца — у найлепшым выпадку паліцэйскія, трапіўшы ў экстрэмальную сітуацыю (напрыклад, іх падганяе надзвычай высокая ўзнагарода), могуць пашырыць ці ўдасканаліць старыя метады працы, але яе прынцыпаў не змяняюць. Што, напрыклад, яны зрабілі ў справе з міністрам, каб разнастаіць свае метады? Чым ёсць усе іх свідраванні, праколы, прастукванні, даследаванні з дапамогай мікраскопа і раздзяленні прасторы на пранумараваныя квадратныя цалі? Не больш як пашыраным выкарыстаннем старога метаду ці сукупнасці метадаў для абшуквання, заснаванага на пэўным наборы ведаў пра чалавечую вынаходлівасць, да якой прэфект прыйшоў за доўгія гады руціннай працы. Бачыце, ён лічыць натуральным, што ўсе людзі схаваюць ліст калі не ў прасвідраванай у ножцы крэсла дзірцы, то прынамсі ў нейкім іншым цяжкадасягальным месцы, у схованцы, якую падкажа той самы кірунак думак, што прымусіць чалавека засунуць ліст у прасвідраваную

ў ножцы крэсла дзірку. Бачыце, такія вышуканыя тайнікі прыдатныя толькі для пасрэдных выпадкаў і прыйдуць толькі ў вельмі пасрэдную галаву. Бо ва ўсіх справах, калі даводзіцца шукаць схаванае, тайнік — асабліва такі вышуканы — у першую чаргу прыходзіць у галаву, а таму лёгка вызначальны, і яго пошукі залежаць не так ад кемлівасці, як ад простай уважлівасці, цярплівасці і настойлівасці тых, хто шукае. А калі вядзецца пра важную справу — ці пра істотную ўзнагароду, што ў вачах паліцэйскіх значыць тое самае, — згаданыя якасці ніколі не падводзяць. Цяпер вы разумееце, што я меў на ўвазе, кажучы, што калі б скрадзены ліст быў схаваны ў межах абранага прэфектам кірунку росшукаў — іншымі словамі, калі б прынцыпы яго хавання былі супастаўныя з прынцыпамі прэфекта, — паліцыя, без сумневу, змагла б знайсці прапажу. Аднак паліцэйскі зусім заблытаўся, і глыбінная прычына яго паразы палягае ў меркаванні, што міністр — дурань, бо мае славу паэта. Паводле адчуванняў прэфекта, усе дурні — паэты, і ён памыляецца хіба што ў *non distributio medii*[1], робячы з гэтага выснову, што ўсе паэты — дурні.

— А ён што, і праўда паэт? — спытаў я. — Наколькі я ведаю, іх двое братоў, і абодва маюць рэпутацыю пісьменнікаў. Але міністр, здаецца, піша навуковыя трактаты пра дыферэнцыйнае вылічэнне. Ён матэматык, а не паэт.

— Вы памыляецеся. Я ведаю яго: ён і тое, і другое. Як паэт і матэматык ён мусіць добра разважаць, а калі б ён быў проста матэматыкам, то ўвогуле не разважаў бы і адразу апынуўся б у руках прэфекта.

— Вы мяне здзіўляеце, — сказаў я. — Вашым меркаванням супярэчыць голас усяго свету. Вы не можаце грэбаваць уяўленнямі, што правераныя стагоддзямі! Ма-

[1] Неразмеркаванне сярэдняга* *(лац.)*.

тэматычны розум ужо даўно лічыцца розумам у найвышэйшай ступені.

— *Il y a à parier,* — адказаў Дзюпэн, цытуючы Шамфора*, — *que toute idée publique, toute convention reçue est une sottise, car elle a convenue au plus grand nombre*[1]. Згодны, матэматыкі зрабілі ўсё магчымае, каб пашырыць у свеце згаданую вамі памылковую думку, так, менавіта памылковую, хаця яе і распаўсюджваюць як праўдзівую. Напрыклад, яны з майстэрствам, вартым лепшага прымянення, хітра ўвялі ў алгебру тэрмін «аналіз». Гэтае махлярства — справа рук французаў, але калі тэрмін мае хоць нейкае значэнне, калі ў правільным ужыванні слоў ёсць хоць нейкі сэнс, то слова «аналіз» суадносіцца са словам «алгебра» не больш, чым лацінскае *«ambitus»*[2] звязанае з «амбіцыяй», а *«religio»*[3] — з «рэлігіяй».

— Ага, вы ўжо гатовы паспрачацца з некаторымі парыжскімі алгебраістамі, — сказаў я, — але працягвайце.

— Я стаўлю пад сумнеў прыдатнасць, а адпаведна, і каштоўнасць таго розуму, які развіваецца ў нейкай іншай форме, апроч абстрактна-лагічнай. У прыватнасці я стаўлю пад сумнеў розум, здабыты дзякуючы матэматычным штудыям. Матэматыка — гэта навука пра форму і колькасць, матэматычны розум — гэта звычайная логіка, якую выкарысталі для назірання за формай і колькасцю. Меркаванне, нібыта ісціны так званай *чыстай* алгебры з'яўляюцца ісцінамі абстрактнымі альбо ўніверсальнымі, — гэта вялікая памылка. Прычым такая відавочная, што я вельмі збянтэжаны тым, наколькі ўсе прымаюць яе за чыстую манету. Матэматычныя аксіёмы — гэта не аксіёмы ўніверсальнай ісціны. Тое, што ёсць ісцінай у дачыненні да *ўзаемасувязі* формы і коль-

---

[1] Можна пайсці ў заклад, што ўсялякая шырока распаўсюджаная думка, усялякая агульнапрынятая ўмоўнасць — дурасць, бо яна прынятая большасцю *(фр.)*.

[2] Кола, абход, контур *(лац.)*.

[3] Сумленнасць *(лац.)*.

касці, часта выяўляецца страшэннай памылкай у дачыненні да, напрыклад, этыкі. У гэтай апошняй галіне нярэдка сума частак зусім не роўная цэламу. Для хіміі гэтая аксіёма таксама непрымальная. Непрымальная яна і для знаходжання матываў, бо калі ёсць два матывы, кожны з якіх мае пэўнае значэнне, то сума гэтых двух матываў не абавязкова дасць суму іх значэнняў. Існуе безліч іншых матэматычных ісцінаў, якія застаюцца ісцінамі толькі ў межах *узаемасувязі* формы і колькасці. Але матэматык са сваіх *абмежаваных ісцінаў* звыкла робіць такія высновы, нібыта гэтыя ісціны маюць абсалютна ўніверсальнае дастасаванне — а свет напраўду лічыць, што так яно і ёсць. Браянт* у сваёй вельмі вучонай «Міфалогіі» згадвае аналагічную крыніцу памылак, кажучы, што «хаця ў паганскія казкі ніхто не верыць, мы ўвесь час забываемся і робім з іх высновы, як з фактаў рэчаіснасці». Што да алгебраістаў (а яны таксама паганцы), то ў іх «паганскія казкі» акурат *вераць* і робяць высновы не так з прычыны правалаў у памяці, як праз невытлумачальнае пратуханне мазгоў. Карацей кажучы, я ніколі не сутыкаўся хоць з якім матэматыкам, якому можна даверыць што-небудзь, апроч здабывання каранёў, ці які ўпотай не лічыў бы адным з пунктаў свае веры тое, што $x^2 + px$ нязменна і без агаворак роўнае $q$. У якасці эксперыменту скажыце, калі ў вас ёсць жаданне, аднаму з такіх спадароў, што вы верыце, нібыта могуць існаваць выпадкі, калі $x^2 + px$ не зусім роўнае $q$, і, давёўшы да яго гэтую думку, як мага хутчэй пакіньце зону дасягальнасці, бо няма сумневаў, што ён паспрабуе растрыбушыць вас разам з вашым меркаваннем.

— Я маю на ўвазе, — працягнуў Дзюпэн, бо на яго апошнюю заўвагу я толькі рассмяяўся, — што калі б міністр быў усяго толькі матэматыкам, прэфекту нізашто не давялося б выпісваць мне гэты чэк. Аднак я ведаў, што ён і матэматык, і паэт, а таму ацэньваў яго

з гледзішча ягоных здольнасцяў, памятаючы пра абставіны ўсёй справы. Я ведаў, што ён яшчэ і прыдворны, а таксама смелы інтрыган. Такі чалавек, падумаў я, не можа не здагадвацца пра метады шараговай паліцыі. Ён не можа не прадчуваць — і далейшыя падзеі цалкам гэта пацвердзілі, — якія пасткі яму рыхтуюць. Ён мусіў прадбачыць, падумаў я, таемнае абшукванне сваіх пакояў. Яго частую адсутнасць уначы, якую прэфект радасна палічыў у нейкай ступені прадвесцем поспеху, я адношу да звычайнай хітрасці, што давала паліцыі магчымасць абшукаць дом і ўрэшце прыйсці да высновы, да якой прэфект і праўда прыйшоў: што ліст знаходзіцца за межамі жытла выкрадальніка. Таксама я адчуваў, што ўвесь ланцуг думак, які я намагаюся цяпер перад вамі выкласці і які датычыць нязменных прынцыпаў паліцэйскага расследавання і пошукаў схаваных рэчаў... я адчуваў, што ўвесь гэты ланцуг думак абавязкова мусіў прайсці ў галаве міністра, і той без сумневу з пагардай адрынуў усе шараговыя тайнікі. Ён *не мог*, падумаў я, быць такім дурным і не ўбачыць, што да самых заблытаных і цяжкадасягальных схованак у яго жытле людзі прэфекта дабяруцца з дапамогай свярдзёлкаў, іголак і мікраскопаў хутчэй, чым да звычайных адчыненых шафаў. І таму я прадбачыў, што ўрэшце яму давядзецца абраць для схованкі *простае* месца, калі толькі ён не звярнуўся да гэтай ідэі з самага пачатку. Вы, магчыма, помніце, як зарагатаў прэфект, калі я падчас нашай першай размовы дапусціў, што разгадка гэтай таямніцы прыносіць яму столькі клопату выключна таму, што яна *занадта* празрыстая.

— Канечне, — сказаў я, — я цудоўна помню гэты рогат. Я нават падумаў, што прэфект зараз заб'ецца ў канвульсіях.

— У матэрыяльным свеце, — казаў далей Дзюпэн, — надзвычай шмат дакладных аналогіяў са светам нематэ-

рыяльным, і ёсць штосьці ад праўды ў рытарычнай догме, якая сцвярджае, нібыта метафару ці параўнанне можна выкарыстоўваць як дзеля таго, каб упрыгожыць апісанне, так і дзеля таго, каб узмацніць аргумент. Прынцып *vis inertiæ*[1], напрыклад, дзейнічае ў фізіцы і метафізіцы аднолькава. Калі для першай справядлівае сцверджанне, што вялікае цела больш складана прывесці ў рух, чым маленькае, і што *імпульс* будзе сувымерны з гэтай складанасцю, то і для другой не будзе памылковым, што розумы з вялікімі здольнасцямі, хаця яны і больш моцныя, устойлівыя і плённыя ў сваім руху, чым розумы драбнейшыя, тым не менш, цяжэй кранаюцца з месца і, робячы першыя крокі наперад, часцей бянтэжацца і вагаюцца. І яшчэ: вы заўважалі калі-небудзь, якія вулічныя шыльды над крамамі забіраюць больш увагі?

— Ніколі над гэтым не задумваўся, — адказаў я.

— Ёсць гульня, — прадоўжыў ён, — для якой патрэбная карта. Хтосьці выбірае слова — назву горада, ракі, краіны ці імперыі, карацей, любы надпіс з тых, якімі ўсыпаны ўвесь гэты стракаты аркуш, а іншы павінен яго знайсці. Пачаткоўцы звычайна спрабуюць заблытаць суперніка і загадваюць назвы, напісаныя самым дробным шрыфтам, знаўцы ж выбіраюць найбуйнейшыя словы, вялізныя літары якіх праходзяць праз усю карту. На такія словы, як і на вялікія шыльды і плакаты на вуліцах, мы не звяртаем увагі, бо яны надзвычай бачныя. Гэтая фізічная асаблівасць зроку дакладна адпавядае той псіхічнай няўважлівасці, з якой інтэлект звычайна пакідае за межамі ўспрыняцця надта навязлівыя і цалкам відавочныя акалічнасці. І менавіта гэтая асаблівасць, як выявілася, знаходзіцца трошкі вышэй ці ніжэй за разуменне прэфекта. Ён ні разу не палічыў магчымым ці верагодным, што міністр паклаў ліст на самым бачным месцы, каб ніхто не змог яго ўбачыць.

---

[1] Сіла інэрцыі *(лац.)*.

І чым больш я разважаў пра дзёрзкі, бясстрашны і праніклівы розум міністра, пра жорсткую неабходнасць заўсёды мець ліст *пад рукой*, каб выкарыстаць яго сабе на карысць, а таксама пра цвёрдую ўпэўненасць прэфекта, што ліст не схаваны ў межах звычайных паліцэйскіх росшукаў, тым больш я запэўніваўся, што міністр, каб схаваць гэты аркуш, скарыстаў самую правільную і дальнабачную хітрасць — ён гэты ліст увогуле не хаваў.

Захоплены такімі развагамі, я ўзброіўся парай зялёных акуляраў і адным цудоўным ранкам ледзь не выпадкова зазірнуў да міністра. Ён быў дома і, як звычайна, пазяхаў, гультаяваў і сноўдаўся без справы, удаючы скрайнюю форму хандры. Магчыма, ён самы энергічны чалавек на цэлым свеце, але толькі тады, калі яго ніхто не бачыць.

Узяўшы ягоны тон, я пажаліўся на слабы зрок і паплакаўся на неабходнасць насіць акуляры, пад якімі ў гэты час уважліва і старанна аглядаў яго пакой, хаця здавалася, што заняты я выключна гутаркай з гаспадаром.

Маю асаблівую ўвагу забраў вялікі пісьмовы стол, за якім ён сядзеў і на якім самыя розныя лісты і іншыя паперы неахайна ляжалі побач з адным ці двума музычнымі інструментамі і некалькімі кнігамі. Але цягам доўгага і вельмі пільнага агляду я не заўважыў там нічога, што ўзбудзіла б хоць нейкае падазрэнне.

Урэшце мой позірк, робячы чарговае кола па пакоі, спыніўся на кідкай філіграннай палічцы для візітовак, якая трымалася на невялікім медным выступе трохі ніжэй за цэнтр каміннай дошкі і была прывязаная бруднай сіняй стужкай. На гэтай палічцы, якая мела тры ці чатыры аддзяленні, ляжала пяць ці шэсць візітовак і адзін самотны ліст, моцна пакамечаны і запэцканы. Пасярэдзіне ён быў амаль разарваны на дзве часткі, нібыта пасля першага прагляду яго вырашылі парваць як непатрэбны,

а потым перадумалі і пакінулі. На ім была вялікая чорная пячатка з надзвычай выразнай манаграмай — літарай «Д», — а дробны жаночы почырк паведамляў, што яно адрасуецца «міністру Д. ва ўласныя рукі». Ліст быў неахайна і нават, здавалася, пагардліва закінуты ў адно з ніжніх аддзяленняў палічкі.

Як толькі я ўбачыў гэты ліст, то адразу вырашыў, што менавіта ён мне і патрэбны. Дакладней, ён па ўсіх прыкметах адрозніваўся ад таго, падрабязнае апісанне якога нам прачытаў прэфект. Тут пячатка была вялікая і чорная, з манаграмай «Д», там — маленькая і чырвоная, з гербам герцагскага роду С. На гэтым лісце імя адрасата было напісанае дробнымі жаночым почыркам, пасланне ж, прызначанае для нашай каралеўскай асобы, было падпісанае смелай і ўпэўненай рукой. Супадаў толькі памер ліста. Але менавіта *кардынальнасць* гэтых адрозненняў: брудная, пакамечаная і надарваная папера, якая так не адпавядала звычайнай ахайнасці міністра і вельмі яскрава сведчыла пра жаданне стварыць уражанне, што ліст не варты ніякае ўвагі, — менавіта гэтая кардынальнасць разам з надта бачным месцам захоўвання ліста, якое кідалася ў вочы любому наведніку, усё гэта, паўтаруся, магло толькі пацвердзіць падазрэнні таго, хто прыйшоў туды з намерам падазраваць.

Я зацягнуў візіт наколькі было магчыма і, падтрымліваючы з міністрам надзвычай гарачую спрэчку на тэму, якая, як я ведаў, яго заўсёды цікавіла і захапляла, усю сваю ўвагу засяродзіў на лісце. За гэты час я дакладна запомніў яго выгляд і размяшчэнне на палічцы, а таксама зрабіў адкрыццё, якое рассеяла б апошнія сумневы, калі б яны ў мяне яшчэ заставаліся. Пільна разглядаючы краі паперы, я заўважыў, што яны нашмат больш *разгладжаныя*, чым трэба, і выглядаюць *надломленымі* — так бывае, калі шчыльную паперу спачатку складуць і прыціснуць, а потым паспрабуюць выраў-

націь, згінаючы ў іншы бок па той самай складцы. Цяпер я быў упэўнены. Ліст відавочна вывернулі навыварат, як пальчатку, напісалі на ім новы адрас і паставілі новую пячатку. Я пажадаў міністру добрага дня і адразу ж сышоў, пакінуўшы на стале залатую табакерку.

Наступным ранкам я зазірнуў да яго, каб забраць табакерку, і мы з новым запалам працягнулі ўчарашнюю размову. Але раптам нас перарваў гучны стрэл, падобны да пісталетнага, які грымнуў пад самымі вокнамі, і адразу ж пачуліся жахлівыя крыкі і лямант натоўпу. Міністр кінуўся да акна, расчыніў яго і вызірнуў вонкі. У гэты момант я падскочыў да палічкі, узяў ліст, засунуў яго ў кішэнь, а на палічку паклаў копію (безумоўна, копію што да выгляду, а не да зместу), якую старанна падрыхтаваў дома, лёгка падрабіўшы пячатку з манаграмай з дапамогай хлебнага мякішу.

Гармідар на вуліцы быў выкліканы шалёным учынкам нейкага чалавека з мушкетам: ён стрэліў у натоўп жанчын і дзяцей. Але потым выявілася, што стрэл быў халасты, і ваяку адпусцілі на ўсе чатыры бакі, палічыўшы яго ці то вар'ятам, ці то п'яным. Калі ён знік, міністр адышоў ад акна, ля якога на той момант стаяў ужо і я, папярэдне схаваўшы сваю здабычу. Неўзабаве я развітаўся. Паслугі ўяўнага вар'ята аплаціў, безумоўна, я.

— Але навошта вы падмянілі ліст копіяй? — спытаў я. — Можа, лепш было падчас першага ж візіту адкрыта яго забраць і сысці?

— Міністр — чалавек адчайны і вельмі нервовы, — адказаў Дзюпэн. — Да таго ж яго слугі адданыя яго інтарэсам. Калі б я зрабіў так, як прапанавалі вы, то мог бы і не выбрацца з яго ўладанняў жывым. І тады добрыя парыжане больш нічога б пра мяне не чулі. Але былі і іншыя прычыны. Вы ведаеце пра мае палітычныя прыхільнасці. У гэтай справе я дзейнічаў на баку пакрыўджанай дамы. Паўтара году міністр трымаў яе ў сваёй уладзе.

А цяпер ён сам у яе руках: не ведаючы, што ліст ужо вернуты гаспадыні, міністр, як і раней, будзе нечага ў яе патрабаваць, і гэта непазбежна прывядзе яго да палітычнага краху. Яго падзенне будзе не толькі імклівым, але і непрыемным. Лёгка гаварыць, што *facilis descensus Averni*[1], але калі вядзецца пра пад'ёмы і спускі, то, як казала пра спеў Каталані*, ісці ўверх нашмат прасцей, чым уніз. І ў дадзеным выпадку я зусім не спачуваю, ці, прынамсі, не шкадую таго, хто мусіць упасці. Бо ён — сапраўдны *monstrum horrendum*[2], геній, пазбаўлены прынцыпаў. Аднак мушу прызнацца, што мне вельмі хацелася б даведацца, якія думкі прыйдуць у галаву міністра, калі яму адмовіць «вельмі высокапастаўленая персона», як называе яе прэфект, і яму давядзецца разгарнуць пакінутае мной на палічцы пасланне.

— Вы напісалі там штосьці асаблівае?

— Разумееце, я палічыў, што не маю права пакінуць унутраную частку ліста чыстай, бо гэта было б абразай. Калісьці ў Вене міністр вельмі кепска са мной абышоўся, і тады я весела сказаў яму, што не забуду гэтага. Я ўпэўнены, яму захочацца даведацца, хто змог яго перахітрыць, і было б шкада не пакінуць яму ключа да разгадкі. Мой почырк яму добра вядомы, і таму я проста напісаў у лісце некалькі слоў:

> ...Un dessein si funeste,
> S'il n'est digne d'Atrée, est digne de Thyeste[3].

Вы можаце знайсці іх у «Атрэі» Крэбіёна*.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

---

[1] Лёгкі спуск праз Аверн* *(лац.)*.

[2] Жахлівая пачвара* *(лац.)*.

[3] Бо згубны план такога зместу // Прысніцца мог як не Атрэю, дык Фіесту *(фр.)*.

# «ТЫ — ТОЙ ЧАЛАВЕК!»*

Я — Эдып, што разгадаў загадку Грукатаўна. Зараз я растлумачу вам — бо толькі я магу гэта зрабіць — таямніцу машынерыі, што спарадзіла грукатаўнскі цуд, унікальны, сапраўдны, няўхільны і няўмольны цуд, які паклаў пераможны канец нявер'ю грукатаўнцаў і навярнуў у старэчую праведнасць нават тых, хто раней думаў толькі пра плоць і выхваляўся сваім скептыцызмам.

Гэта здарылася (і мне варта выбачыцца за магчымую легкаважнасць тону) летам 18** году. Містэр Барнабас Таўкачыні, адзін з самых багатых і паважаных гараджанаў, некалькі дзён як знік, і абставіны знікнення прымушалі запасочыць злачынства. Містэр Таўкачыні конна выехаў з Грукатаўна ранняй суботняй раніцай, і гэта дазваляла меркаваць, што кіруецца ён у горад *** за пятнаццаць міляў адсюль і вернецца тым жа вечарам. Але праз дзве гадзіны пасля ягонага ад'езду конь вярнуўся без гаспадара і без седлавых сумак, прытарочаных на спіну ўранку. Конь быў увесь у брудзе, а на баку ў яго зеўрала рана. Усё гэта, натуральна, выклікала вялікую трывогу ў сяброў зніклага, і калі ў нядзелю раніцай той так і не з'явіўся, усе гуртам падняліся і выправіліся на пошукі цела.

Рэй у пошуках вёў неразлучны сябар містэра Таўкачыні — містэр Чарлз О'Міл, альбо, як яго называлі

ўсе без выключэння, «Чарлі О'Міл» альбо «мілы Чарлі О'Міл». Было гэта дзіўнае супадзенне альбо менавіта імя незаўважна паўплывала на характар уладальніка, я так і не зразумеў. Але бясспрэчна тое, што няма чалавека на імя Чарлз, які не быў бы чулым, смелым, праўдзівым, добрым і таварыскім хлопцам, чый звонкі крыштальны голас заўсёды прыемна слухаць і які ніколі не адвядзе вачэй, нібыта гаворачы: «У мяне чыстае сумленне, я не баюся нікога і абсалютна не здольны на подласць». Карацей, усіх гэтых прыязных і бесклапотных статыстаў жыццёвае сцэны заўсёды завуць Чарлзамі.

Дык вось, «мілы Чарлі О'Міл», хаця і прыехаў у Грукатаўн не больш як шэсць месяцаў таму ці штосьці каля гэтага, хаця ніхто нічога пра яго не ведаў да таго, як ён пасяліўся побач, — гэты самы Чарлі без цяжкасці перазнаёміўся з усімі паважанымі жыхарамі гарадка. Кожны з іх пазычыў бы яму ў любы момант хоць тысячу без усялякіх распісак. Што да жанчын, то не было нічога, што яны не зрабілі б, каб яму дагадзіць. А ўсё таму, што пры хрышчэнні ён атрымаў імя Чарлз і, адпаведна, адкрыты твар, які служыць, як той казаў, найлепшай рэкамендацыяй.

Як я ўжо згадваў, містэр Таўкачыні быў адным з самых паважаных і, бясспрэчна, самым багатым жыхаром Грукатаўна, а «мілы Чарлі О'Міл» сышоўся з ім так блізка, нібыта быў яго родным братам. Двое старых джэнтльменаў жылі ў суседніх дамах, і хаця містэр Таўкачыні рэдка бываў у доме «мілага Чарлі» (калі ўвогуле бываў) і ўжо тым больш і падумаць не мог, каб застацца там на абед, гэта зусім не перашкодзіла названым джэнтльменам вельмі цесна пасябраваць — зрэшты, пра гэта я ўжо гаварыў. А вось «мілы Чарлі» і дня не прапускаў, каб разы тры-чатыры не зазірнуць да суседа — спытаць, як той маецца. Ён вельмі часта заставаўся на сняданне альбо гарбату і амаль заўсёды — на абед, а колькасць віна,

угаворанага прыяцелямі на іх пасядзелках, вылічэнню наўрад ці паддаецца. «Мілы Чарлі» асабліва паважаў шато-марго, і містэр Таўкачыні проста расцвітаў, назіраючы, як сябрук высмоктвае далікатны напой кварту за квартай. І вось аднойчы, калі віно ўжо крыху пацясніла ў галаве здаровы сэнс, ён звярнуўся да прыяцеля, пляснуўшы яго па спіне:

— Вось што я табе скажу, мілы Чарлі: ты, далібог, наймілейшы хлопец, якога я толькі ведаў у жыцці. І калі табе ўжо так падабаецца заліваць глотку менавіта гэтым віном, то каб мяне чэрці парвалі, калі я табе не прывалаку вялізную скрыню шато-марго. Каб мяне трасца трэсла, — у містэра Таўкачыні была заганная схільнасць да моцнага слоўца, хаця ён рэдка заходзіў далей за «каб мне тры пагібелі і адна трасца» альбо «каб мне зарвала ды залажыла», — каб мяне трасца трэсла, — сказаў ён, — калі я сёння ж не пашлю ў горад па двайную скрыню найлепшага віна, што ў іх ёсць, і не ўвапру табе, далібог! І каб ні слова мне тут — я сказаў і дуды ў мех! Так што сачы — прыедзе ў адзін з гэтых пагодных дзянёчкаў, акурат тады, калі найменш чакаць будзеш.

Я адзначаю такі прыступ шчодрасці ў містэра Таўкачыні адзіна каб паказаць вам, якія блізкасць і згода панавалі ў сяброўскіх стасунках гэтых джэнтльменаў.

Таму, калі нядзельнай раніцай ні ў кога не засталося сумневаў, што містэр Таўкачыні стаў ахвяраю злачынства, не было чалавека больш занепакоенага, чым «мілы Чарлі О'Міл». Калі ён даведаўся, што конь вярнуўся без гаспадара (і без седлавых сумак гаспадара таксама), у крыві ад пісталетнай кулі, што наскрозь прабіла грудзі беднай жывёліне, ледзь яе не забіўшы, — ён пабялеў так, нібыта толькі што страціў бацьку альбо любімага брата, і затрымцеў, і задрыжаў усім целам, як у ліхаманцы.

Спачатку трывожная вестка так ашаламіла яго, што ён не мог нават зварухнуцца, не кажучы ўжо пра тое,

каб прапанаваць план дзеянняў, і таму доўга спрабаваў угаварыць астатніх сяброў містэра Таўкачыні не падымаць шуму, кажучы, што лепей крыху счакаць — хаця б тыдзень-другі, ну ці месяц-другі, пакуль усё само не высветліцца або пакуль містэр Таўкачыні сам не вернецца і не растлумачыць, чаго гэта ён адпусціў каня паперадзе сябе. Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што такое жаданне памарудзіць і пацягнуць час можна вельмі часта назіраць у людзей, прыгнечаных вялікай бядой. Іхны розум нібы дранцвее, і яны жахаюцца нават думкі пра дзеянне і ні пра што не мараць так, як пра тое, каб ціхамірна ляжаць у ложку і, як сказалі б дамы паважанага веку, «бяду-гора песціць» — гэта значыць абдумваць свае непрыемнасці.

Грукатаўнцы ж, усе да адзінага, былі такой высокай думкі пра мудрасць ды праніклівасць «мілага Чарлі», што большасць схілялася да таго, каб з ім згадзіцца і не падымаць шуму, пакуль «штосьці само не высветліцца», як выказаўся паважаны стары джэнтльмен. І я думаю, што так бы ўсе і зрабілі, калі б не вельмі падазронае ўмяшанне пляменніка містэра Таўкачыні, юнака вельмі несамавітых звычак і даволі сапсаванага нораву. Гэты самы пляменнік, прозвішча якога было Мак-Вісус, не захацеў слухаць ніякіх довадаў пра «ціхае ляжанне», а настойваў на тым, каб неадкладна распачаць пошукі «цела забітага». Так-так, менавіта гэта ён і сказаў, і містэр О'Міл не прамінуў заўважыць, што «словы гэтыя як найменш дзіўныя». Назіранне «мілага Чарлі» ашаламіла ўсіх, і нават чулі, як адзін з гараджанаў не пасаромеўся спытаць, «як гэта малады містэр Мак-Вісус настолькі падрабязна знаёмы з абставінамі, звязанымі са знікненнем яго заможнага дзядзечкі, што насмельваецца сцвярджаць, выразна і недвухсэнсоўна, што сваяк яго забіты?» Зараз жа пасля гэтага ў кампаніі ўспыхнула сварка папалам з лаянкай, у якой асабліва выдзяляліся

«мілы Чарлі» з містэрам Мак-Вісусам. Апошняе, зрэшты, нікога не здзівіла, бо паміж гэтымі двума вось ужо тры ці чатыры месяцы не было і намёку на прыязнасць, а аднойчы дайшло аж да таго, што містэр Мак-Вісус збіў з ног дзядзькавага сябрука — нібыта за празмерную вольнасць, якую той дазволіў сабе ў доме містэра Таўкачыні, дзе жыў і ягоны пляменнік. У адказ на гэта «мілы Чарлі», сцвярджалі грукатаўнцы, прадэманстраваў узорную цярплівасць і міласэрнасць сапраўднага хрысціяніна. Ён падняўся, прывёў у парадак адзенне і не выказаў нават памкнення адпомсціць, адно прамармытаў нешта наконт «хуткай адплаты пры першай зручнай магчымасці» — натуральная і цалкам даравальная ўспышка гневу, якая нічога не значыць і, несумненна, тут жа забываецца, даўшы выхад эмоцыям.

Як бы там ні было (бо гэтыя абставіны ўсё адно ніяк не датычаць нашага здарэння), вядома, што грукатаўнцы, збольшага ўпэўненыя містэрам Мак-Вісусам, вырашылі ўрэшце разысціся па ваколіцы, каб адшукаць зніклага містэра Таўкачыні. Дакладней, гэта яны спачатку хацелі так зрабіць. Калі ж канчаткова пастанавілі, што пошукам быць, усе, натуральна, хацелі разысціся ў розныя бакі, разбіўшыся на групы дзеля як мага больш грунтоўнага агляду мясцовасці. І я, шчыра кажучы, забыў, якімі такімі майстэрскімі развагамі «мілы Чарлі» ў выніку ўпэўніў зборню, што такі план дзеянняў — самы неразважлівы. Карацей, упэўніў ён усіх, апроч містэра Мак-Вісуса, і шукаць усё ж вырашылі разам — з «мілым Чарлі» на чале.

Што да апошняй дэталі, то лепшага правадыра, чым «мілы Чарлі», знайсці было немагчыма: усе ведалі, што ў яго вочы рысі. І хаця ён завёў грукатаўнцаў ва ўсе магчымыя глухія дзіры і куты, хаця ішоў сцежкамі, пра існаванне якіх зусім побач ніхто ніколі не падазраваў, хаця пошукі цягнуліся амаль тыдзень, не спыняючыся

ні ўдзень, ні ўначы, ніякіх слядоў містэра Таўкачыні гараджане знайсці не змаглі. Гм, хаця я сказаў «ніякіх слядоў», гэта не варта разумець літаральна, таму што сляды — у пэўным сэнсе — былі. Дарогу няшчаснага джэнтльмена грукатаўнцы прасачылі па слядах ад падковаў ягонага каня (з асаблівым кляймом) і прайшлі ад гарадка мілі тры на ўсход, апынуўшыся на дарозе, што вяла ў ***. Тут след паварочваў на бакавую сцежку, што бегла праз лес і зноў выводзіла на дарогу, скарачаючы маршрут на паўмілі. Ідучы па адбітках падковаў, гараджане набрылі на сажалку, напалову схаваную зарасцямі ажыны справа ад сцежкі, а на беразе сажалкі і так амаль нябачны след згубіўся зусім. Па мясцовасці было бачна, што тут адбывалася нейкая барацьба і хтосьці нібыта цягнуў сцежкаю нешта вялікае і цяжкое, нашмат большае і цяжэйшае за чалавечае цела, а затым утапіў гэта ў затоцы. Дно старанна прамацалі, але нічога не знайшлі. Засмучаныя няўдачай гараджане ўжо сабраліся былі сыходзіць, калі нейкая вышэйшая сіла падказала містэру О'Мілу ідэю адвесці з сажалкі ўсю ваду. Прапанову прынялі з ухвальнымі воклічамі, і не адзін адвесіў мноства кампліментаў кемнасці і праніклівасці «мілага Чарлі». Многія гараджане выправіліся на пошукі з рыдлёўкамі, думаючы, што давядзецца, магчыма, выкопваць труп, таму ваду адвялі лёгка і хутка. І як толькі пачало віднецца дно, роўненька пасярод глею ўсе заўважылі камізэльку з чорнага аксаміту, у якой ледзь не кожны вокамгненна пазнаў уласнасць містэра Мак-Вісуса. Камізэлька была ўся падраная і запэцканая крывёй, і сярод шаноўнага таварыства знайшлося некалькі чалавек, якія ясна прыгадалі, што яна была на гаспадару акурат той раніцай, калі містэр Таўкачыні ад'язджаў у ***. А потым знайшліся іншыя, гатовыя, калі спатрэбіцца, пад прысягай пацвердзіць, што рэшту ўсяго таго векапомнага дня названага прадмету адзення на містэру Мак-

Вісусу не было. І не знайшлося нікога, хто засведчыў бы, што містэр М. насіў гэтую камізэльку пасля знікнення містэра Таўкачыні.

Падзеі набылі вельмі непрыемны кірунак для містэра Мак-Вісуса, і падазрэнні ў дачыненні да яго перараслі ў непахісную ўпэўненасць, калі ён збялеў як палатно, а на пытанне, што ён можа сказаць у сваю абарону, так і не здолеў вымавіць ані слова. Адразу ж пасля гэтага тыя нешматлікія сябры, якіх не адштурхоўваў ягоны разгульны лад жыцця, умомант пакінулі яго ўсе да адзінага, а ў крыках з патрабаваннямі неадкладнага арышту містэра Мак-Вісуса пераўзышлі нават ягоных даўніх і зацятых ворагаў. А вось велікадушнасць містэра О'Міла заблішчала яшчэ ярчэй, і заіскрылася, і зазззяла на гэтым фоне. Ён з выключным красамоўствам і палкасцю абараняў містэра Мак-Вісуса, не раз нагадаўшы, што сам ён шчыра дараваў шалёнаму маладому джэнтльмену — «спадкаемцу шаноўнага містэра Таўкачыні» — тое, што ён (малады джэнтльмен), безумоўна, у гнеўным запале, палічыў магчымым абразіць яго (містэра О'Міла). «Ён дараваў яму гэта, — казаў «мілы Чарлі», — ад усяго свайго сэрца, і ён (містэр О'Міл), не схільны даводзіць да скрайнасці падазрэнні супраць містэра Мак-Вісуса, якія, на жаль, сапраўды вельмі сур'ёзныя, — са свайго боку прыкладзе любыя намаганні, выкарыстае ўвесь свой сціплы запас красамоўства, каб... каб... каб... улагодзіць (наколькі яму дазволіць сумленне) гэтую сапраўды цяжкую і неймаверна заблытаную справу.

У тым жа духу містэр О'Міл працягваў яшчэ з паўгадзіны, дэманструючы ўсю веліч як свайго розуму, так і сэрца. Але вы ж ведаеце гэтых мілых добрых хлопцаў: вельмі рэдка іх дзеянні супадаюць з іх намерамі, і яны заблытваюцца ў павуціне ўсіх магчымых хібаў, *недачасоў і недамесцаў*, ахопленыя гарачым жаданнем выратаваць сябра, — і таму самыя высакародныя ў свеце

парывы зазвычай прыносяць невымерна больш шкоды, чым карысці.

Так было і тут: рытарычнае майстэрства «мілага Чарлі», які з усяе сілы стараўся абяліць падазраванага, толькі пагоршыла становішча апошняга. Чамусьці так атрымлівалася, што кожнае слова, якое злятала з вуснаў аратара і відавочна, хоць і ненаўмысна, было скіраванае зусім не на тое, каб узвысіць гэтага самага аратара ў вачах слухачоў, — дык вось, кожнае слова толькі паглыбляла падазрэнні ў адрас таго, каго ён абараняў, і распальвала ярасць натоўпу.

Адной з самых невытлумачальных памылак адваката было згадванне падазраванага як «спадкаемцы старога заможнага джэнтльмена містэра Таўкачыні». Раней гараджане пра гэта нават не задумваліся. Яны памяталі, як год ці два таму дзядзька пагражаў пазбавіць спадчыны пляменніка, апроч якога ў яго не было сваякоў, і, натуральна, лічылі гэтую справу скончанай — такімі вось прастадушнымі стварэннямі былі грукатаўнцы. Але заўвага «мілага Чарлі» змусіла іх раптам задумацца, а потым і прыйсці да высновы, што пагрозы цалкам маглі застацца толькі пагрозамі. І тут паўстала натуральнае пытанне «Cui bono?» — пытанне, якое мацней, чым тая камізэлька, звязвала маладога чалавека з жудасным злачынствам. На гэтым месцы дазвольце мне, каб не ўзнікла непаразуменняў, крыху адхіліцца ад тэмы і заўважыць, што ўжытую мною лацінскую фразу, такую кароткую і простую, нязменна перакладаюць і тлумачаць няправільна. «Cui bono?» — гэтую фразу ва ўсіх выбітных і ўсялякіх іншых раманах (напрыклад, у раманах місіс Гор*, аўтаркі «Сесіла», якая прыводзіць цытаты на ўсіх магчымых мовах — ад халдэйскай да гаворкі племені чыкаса — і паслугуецца ў сваіх штудыях, «па меры неабходнасці» і паводле сістэматычнага плану, працамі містэра Бэкфарда) — ва ўсіх гэтых раманах, як я сказаў,

ад выбітных Булвер-Літана і Дыкенса да ўсялякіх іншых Булвер-Літана і Дыкенса і аж да розных там эйнсвартаў* і ганідаляраў, два кароткія лацінскія словы «cui bono» ператвараюцца ў «з якой мэтай?» альбо, нібыта гэта нейкае «quo bono», у «дзеля чыйго дабра». Сапраўднае ж значэнне гэтых словаў — «каму выгадна». *Cui* — каму, *bono* — на карысць. Гэта чыста юрыдычная формула, што ўжываецца акурат у такіх справах, як нашая, калі імаверны суб'ект дзеяння вызначаецца паводле імавернай выгады, якую ён атрымлівае ад імавернага выканання дзеяння. У нашым жа выпадку формула «cui bono?» вельмі недвухсэнсоўна выводзіла на містэра Мак-Вісуса. Ягоны дзядзька, склаўшы тэстамент на яго карысць, потым пагражаў яму пазбаўленнем спадчыны, але, відавочна, пагрозы сваёй не ажыццявіў і тэстамент не перапісаў. Калі б перапісаў, адзінай падставай для забойства магла б стаць звычайная прага адпомсціць, якую, несумненна, пагасіла б надзея на вяртанне дзядзькавай прыхільнасці. Але тэстамент ляжаў неперапісаны, пагрозы пераменаў віселі над пляменнікавай галавой, і тут ужо выплывае на паверхню наймацнейшы стымул учыніць расправу. Такую выснову і зрабілі шаноўныя жыхары Грукатаўна, выявіўшы пры гэтым найглыбейшую пранікліваўсць.

У выніку містэра Мак-Вісуса арыштавалі на месцы, і ўвесь натоўп, яшчэ крыху пакруціўшыся ў пошуках чаго-небудзь, рушыў дадому, ведучы віноўніка пад вартай. А па дарозе здарылася тое, што пацвердзіла ўсеагульныя падазрэнні. Містэр О'Міл, якога імпэт змушаў увесь час трымацца крыху паперадзе астатніх, раптам сарваўся з месца, прабег некалькі крокаў, нахіліўся і, відавочна, падабраў з травы нейкі невялікі прадмет. Ён хутка агледзеў знаходку і зрабіў нешта накшталт слабой спробы схаваць яе ў кішэню паліто, але пацярпеў няўдачу, бо яго заўважылі і, безумоўна, спынілі. Знаходка аказалася гішпанскім нажом, у якім з дзясятак чала-

век адразу ж пазналі ўласнасць містэра Мак-Вісуса. А на тронках былі выгравіяваныя ягоныя ініцыялы. Нож быў раскрыты, усё лязо — у крыві.

Цяпер ужо ў віне пляменніка не заставалася ніякіх сумневаў, і па прыбыцці ў Грукатаўн яго неадкладна адвялі на допыт да следчага.

Тут падзеі набылі яшчэ больш непрыемны паварот. Арыштаваны, калі ў яго спыталі, дзе ён быў раніцай, у якую знік містэр Таўкачыні, з неверагодным нахабствам паведаміў, што тае самае раніцы ён паляваў са стрэльбай на аленяў акурат каля сажалкі, дзе ягоную запэцканую крывёй камізэльку адшукалі дзякуючы кемлівасці містэра О'Міла.

Тут апошні выступіў наперад і са слязьмі на вачах папрасіў дазволу сведчыць. Ён паведаміў, што няўмольнае пачуццё абавязку як перад Творцам сваім, так і перад суграмадзянамі больш не дазваляе яму захоўваць маўчанне. Да гэтага моманту шчырая прыхільнасць да маладога чалавека (нягледзячы на кепскае абыходжанне апошняга з ім, містэрам О'Мілам) змушала яго прымаць любыя гіпотэзы, якія толькі магло падказаць уяўленне, у празе хоць неяк растлумачыць тое, што здавалася падазроным у абставінах, калі ўсё гаварыла супраць містэра Мак-Вісуса. Аднак адкрываюцца факты такія пераканаўчыя, такія выкрывальныя, што ён вымушаны адкінуць сумневы і расказаць усё, што ведае, хаця ягонае (містэра О'Міла) сэрца гатовае проста разарвацца на часткі ад скрухі. І містэр О'Міл заявіў, што напярэдадні ад'езду містэра Таўкачыні ў суседні горад шаноўны стары джэнтльмен у размове з пляменнікам, наколькі ён (містэр О'Міл) змог пачуць, спамянуў, што ў горад ён заўтра едзе, каб пакласці на рахунак у «Сельскагаспадарчым і прамысловым банку» вельмі вялікую суму, і што тут жа вышэйпамянёны містэр Таўкачыні адназначна паведаміў вышэйпамянёнаму пляменніку пра сваё кан-

чатковае рашэнне ануляваць напісаны раней тэстамент, не пакінуўшы містэру Мак-Вісусу ні шылінга. І тут ён (у сэнсе сведка) урачыста заклікаў абвінавачванага адказаць, праўдай ці няпраўдай ва ўсіх істотных дэталях ёсць тое, пра што ён (зноў жа сведка) толькі што заявіў. На вялікае здзіўленне ўсіх прысутных, містэр Мак-Вісус шчыра пацвердзіў праўдзівасць сказанага.

Следчы палічыў сваім абавязкам паслаць некалькі паліцэйскіх з тым, каб яны абшукалі пакой абвінавачванага ў доме ягонага дзядзькі. Тыя вярнуліся амаль адразу і прынеслі вядомы кожнаму грукатаўнцу чырвоны скураны партманэт з металічнай акантоўкай, з якім стары джэнтльмен не расставаўся ўжо шмат гадоў. Нічога каштоўнага там, аднак, не было, і следчы беспаспяхова спрабаваў выпытаць у арыштаванага, што сталася са змесцівам альбо дзе яно цяпер. Безумоўна, той упарта адмаўляў, што яму хоць нешта пра гэта вядома. А яшчэ паліцэйскія знайшлі пад матрацам няшчаснага кашулю і шыйную хустку, на абедзвюх — ініцыялы і жудасныя плямы крыві ахвяры.

У гэты момант прынеслі вестку, што конь забітага толькі што сканаў у стайні ад наступстваў атрыманай раны, і містэр О'Міл прапанаваў неадкладна правесці ўскрыццё жывёліны, каб адшукаць кулю, калі атрымаецца. Так і зрабілі, і вось нібыта для таго, каб зніклі апошнія падазрэнні ў вінаватасці містэра Мак-Вісуса, у грудзіне каня містэр О'Міл пасля старанных пошукаў урэшце адшукаў і выцягнуў кулю вельмі незвычайнага памеру, і яе калібр дакладна супаў з калібрам стрэльбы абвінавачванага, а такой не было больш ні ў кога ў горадзе і ваколіцах. Да ўсяго, на кулі выявілі драпіну ці насечку, што праходзіла пад прамым вуглом да звычайнага шва, а расследаванне паказала, што гэтая насечка ўтвараецца акурат ад выпадковага выступу ці няроўнасці ў ліцейных формах, якія, як прызнаў сам

абвінавачваны, належалі менавіта яму. Адразу пасля агляду кулі следчы адмовіўся слухаць далейшыя паказанні і тут жа прызначыў судовае разбіральніцтва. Ён рашуча адмовіўся выпускаць арыштаванага пад заклад, хаця містэр О'Міл вельмі кранальна пратэставаў супраць такой жорсткасці і абяцаў унесці любую суму, якую запатрабуюць. Гэта было так шчодра з боку «мілага Чарлі» і так адпавядала яго заўсёдным прыязным і рыцарскім паводзінам, якіх ён трымаўся ад самага свайго прыезду ў Грукатаўн! Шаноўным джэнтльменам цалкам завалодалі ўсёахопныя сардэчнасць і спагада, і ён, прапануючы заклад за свайго маладога сябра, здавалася, зусім забыўся, што ён (містэр О'Міл) сам не мае за душой ні даляра.

Далейшае развіццё падзеяў прадказаць няцяжка. Містэр Мак-Вісус пад гучныя праклёны ўсяго гарадка паўстаў перад крымінальным судом, і ланцужок ускосных доказаў (разарваць яго стала яшчэ цяжэй дзякуючы некаторым дадатковым выкрывальным фактам, утойваць якія ад суда містэру О'Мілу не дазволіла абвостранае пачуццё справядлівасці) выглядаў так бясспрэчна і абсалютна пераканаўча, што прысяжныя не сыходзячы з месца адразу ж агучылі вердыкт: «вінаваты ў забойстве з абцяжарвальнымі абставінамі». Неўзабаве няшчаснаму вынеслі смяротны прысуд і змясцілі ў акруговую турму, дзе ён мусіў чакаць няўмольнай кары закона.

А «мілы Чарлі О'Міл» сваімі высакароднымі паводзінамі заслужыў яшчэ большую прыязнасць добрапрыстойных грукатаўнцаў. Яго палюбілі мацней разоў у дзесяць, і натуральным вынікам гасціннасці, з якой яго ўсюль сустракалі, стала тое, што воляй-няволяй ён змушаны быў адступіць ад найстражэйшай эканоміі, якой трымаўся праз сваю беднасць, і пачаў часта збіраць у сябе невялікія кампаніі, дзе панавалі дасціпнасць і весялосць — безумоўна, крыху азмрочаныя выпадковымі згадкамі пра сумны і нешчаслівы лёс, які выпаў пля-

менніку незабыўнага сябра, якога страціў шчодры гаспадар дому.

Адным пагодным ранкам гэты высакародны стары джэнтльмен быў прыемна здзіўлены, атрымаўшы ліст наступнага зместу:

*Грукатаўн, Чарлзу О'Мілу, эсквайру*
*Шат.-марг. А. № 1*
*6 туз. бут. (1/2 гроса*)*
*ад Р., К., Б. і К°.*

Шаноўны сэр,

у адпаведнасці з даручэннем, дадзеным фірме два месяцы таму нашым паважаным кліентам, містэрам Барнабасам Таўкачыні, мы мелі гонар паслаць вам сёння раніцай двайную скрыню шатомарго маркі «Антылопа» з фіялетавай пячаткай. Нумар і маркіроўка скрыні ўказаныя на палях.

*З найлепш. пажад.,*
*Рохс, Квакс, Бульк і К°.*
*горад ***, 21 чэрвеня 18***

P. S. Скрыню даставяць фургонам на наступны дзень пасля атрымання вамі гэтага ліста. Просім засведчыць нашую павагу містэру Таўкачыні.

*Р., К., Б. і К°.*

Рэч у тым, што пасля смерці містэра Таўкачыні містэр О'Міл страціў усялякую надзею на абяцанае шато-марго і таму расцаніў яго атрыманне цяпер як боскай воляю спасланы яму своеасаблівы падарунак. Душа ягоная ўзвеселілася неймаверна, і ад радасці, што проста біла цераз край, містэр О'Міл надумаў зладзіць назаўтра *petit souper*[1] і запрасіў вялікую сябрыну, каб разам адкрыць падарунак «мілага добрага містэра Таўкачыні». Ну, не

[1] Тут: вячэра ў вузкім коле *(фр.)*.

тое каб ён спамянуў «мілага добрага містэра Таўкачыні», калі запрашаў гасцей. Шчыра кажучы, ён шмат думаў і вырашыў увогуле пра яго не згадваць. Калі мне не здраджвае памяць, ён нікому нават не заікнуўся, што атрымаў у падарунак шато-марго. Ён проста папрасіў сяброў прыйсці і дапамагчы яму распіць нешта гэтакае найвышэйшай якасці і з найбагацейшым букетам, якое ён пару месяцаў таму замовіў з горада і якое прыбудзе акурат заўтра. Я часта ламаў галаву, спрабуючы зразумець, чаму «мілы Чарлі» вырашыў нікому не казаць, што атрымаў віно ад свайго старога сябра, але так і не змог дакапацца да прычынаў яго маўчання, хаця не сумняюся, што падставы былі самыя высакародныя і вартыя найглыбейшай павагі.

Доўгачаканы наступны дзень прыйшоў у дом містэра О'Міла разам з вялікай і выключна рэспектабельнай кампаніяй. Сабралася як найменш палова гарадка (і я там быў), але, да немалой прыкрасці гаспадара, шато-марго прывезлі позна: да гэтага часу госці паспелі аддаць амаль усё належнае раскошнаму пачастунку «мілага Чарлі». Урэшце яна прыбыла — жудасна вялікая скрыня, скажу я вам. Кампанія ўжо была ў найлепшым з добрых настрояў, таму ўсцягнуць скрыню на стол і неадкладна яе растрыбушыць пастанавілі *nem. con*[1].

Сказана — зроблена. Я таксама прыклаў руку да дзейства, і праз імгненне скрыня ўжо стаяла на стале паміж бутэлькамі і шклянкамі, вельмі нямногія з якіх ацалелі ў няроўнай сутычцы з ёй. «Мілы Чарлі», які добра-такі наклюкаўся і празмерна расчырванеўся, з пацешнай фанабэрыяй сеў на галоўнае месца і ярасна закалаціў па стале графінам, заклікаючы кампанію да парадку «падчас цырымоніі ўскрыцця цела скарбу».

Пасля некалькіх гучных заклікаў суняцца госці ўрэшце паслухаліся, і, як часта здараецца ў такіх выпадках,

[1] Ад *лац.* nemine contradicente («аднагалосна»).

у пакоі запанавала абсалютная і шматзначная цішыня. Просьбе дапамагчыададраць вечка скрыні я падпарадкаваўся з найвялікшай ахвотай. Я ўставіў у шчыліну долата і некалькі разоў асцярожна стукнуў па ім малатком. Раптам вечка адляцела, і тварам да гаспадара дому, рэзка падскочыўшы, сеў акрываўлены, пакрыты ранамі і ўжо са слядамі гніення труп містэра Таўкачыні. Некалькі імгненняў ён маркотна ўзіраўся згаслымі напаўсатлелымі вачыма ў твар містэра О'Міла, а потым павольна, але выразна і ясна вымавіў: «Ты — той чалавек!», пасля чаго, нібы цалкам задаволены сказаным, пераваліўся праз край скрыні, раскідаўшы рукі па стале.

Тое, што адбылося потым, немагчыма апісаць. Цісканіна ля дзвярэй і вокнаў усчалася страшная, а многія моцныя хлопцы ад скрайняга жаху самлелі проста ў пакоі. Але пасля першага выбуху шалёнай панікі ўсе позіркі скіраваліся на містэра О'Міла. І хоць бы я пражыў тысячу гадоў, я ніколі не забуду таго выразу смяротнай агоніі на ягоным жахліва бледным твары, яшчэ хвіліну таму румяным ад віна і трыюмфу. Некалькі імгненняў ён сядзеў застылы, як мармуровая статуя, а яго жудасна пусты позірк, скіраваны ўнутр, здавалася, засяроджана сузіраў мізэрную і нікчэмную душу забойцы. Урэшце, нібыта вяртаючыся ў вонкавы свет, злачынца з раптоўным бляскам у вачах рэзка ўскочыў з крэсла і цяжка наваліўся на стол, так, што дакрануўся да трупа, і з ягоных вуснаў палілася блытаная і жарсная споведзь з усімі падрабязнасцямі жахлівага злачынства, за якое містэр Мак-Вісус быў увязнены і асуджаны на смерць.

А расказаў злачынца наступнае. За сваёй ахвярай ён ехаў амаль да самай сажалкі і там стрэліў у каня з рэвальвера, забіў вершніка ударам дзяржальна, забраў ягоны партманэт і, думаючы, што конь мёртвы, з вялікай цяжкасцю адцягнуў яго да зарасцяў ажыны ля сажалкі. Цела містэра Таўкачыні ён звёз на ўласным кані і закапаў яго ў зацішным месцы далёка ў глыбіні лесу.

Камізэльку, нож, партманэт і кулю ён падкінуў, каб адпомсціць містэру Мак-Вісусу, і зрабіў так, каб акрываўленыя кашулю і шыйную хустку містэра Таўкачыні знайшлі ў ягонага пляменніка.

Па меры заканчэння аповеду, ад якога халадзела кроў, забойца гаварыў усё больш перарывіста і глуха. І калі ўсе паказанні былі вычарпаныя, ён падняўся, адхіснуўшыся ад стала, і ўпаў мёртвы.

Спосаб, з дапамогай якога было вырванае гэтае своечасовае прызнанне, быў, нягледзячы на сваю дзейснасць, вельмі просты. Празмерная прыязнасць містэра О'Міла заўсёды выклікала ў мяне агіду, і падазраваць яго я пачаў адразу. Я прысутнічаў пры тым, як містэр Мак-Вісус яго ўдарыў, і выраз д'ябальскай злосці на ягоным твары, хоць і знік амаль адразу, упэўніў мяне, што пры першай жа магчымасці гэты чалавек бязлітасна адпомсціць. Таму я змог паглядзець на хітрыкі «мілага Чарлі» зусім пад іншым вуглом, чым добрыя грукатаўнцы. Я адразу заўважыў, што ўсе знойдзеныя выкрывальныя доказы так ці іначай былі звязаныя з ім. Але канчаткова зразумела мне ўсё стала пасля таго, як містэр О'Міл знайшоў кулю ў целе каня. У адрозненне ад грукатаўнцаў, я не забыў, што на жывёліне былі дзве раны: першая з'явілася, калі куля ўвайшла ў яе цела, другая — калі выйшла. Калі куля, якая прайшла навылёт, апынулася ўнутры трупа, то ясна, што яе падкінуў той, хто яе знайшоў. Акрываўленыя кашуля і шыйная хустка пацвердзілі падазрэнні, выкліканыя куляй (што да крыві, то яна па ўважлівым аглядзе аказалася не чым іншым, як цудоўным кларэтам). Калі я ўсё гэта абдумаў, ды яшчэ і заўважыў потым узрослую шчодрасць і гэтак жа ўзрослыя выдаткі містэра О'Міла, я ўпэўніўся ў сваіх падазрэннях, якія зусім не аслабелі ад таго, што я нікому пра іх не расказваў.

У той жа час я ў адзіночку старанна шукаў цела містэра Таўкачыні — шукаў, са зразумелых прычынаў,

у месцах, найбольш аддаленых ад тых, якімі вадзіў сваіх прыхільнікаў містэр О'Міл, і праз некалькі дзён натрапіў на стары высахлы калодзеж, амаль цалкам схаваны ажынавымі кустамі. На яго дне я і знайшоў тое, што шукаў.

А яшчэ выйшла так, што я падслухаў размову двух сябрукоў, у якой містэр О'Міл змудрыўся выдурыць у шчодрага гаспадара абяцанне падараваць яму скрыню шато-марго. Гэтым я і скарыстаўся. Я здабыў тугі кавалак кітовага вуса, запіхаў яго ў глотку трупа, а труп паклаў у старую скрыню з-пад віна, пастараўшыся сагнуць цела так, каб сагнуўся і кітовы вус. Такім чынам, мне давялося моцна націскаць на вечка, прыбіваючы яго цвікамі. Я ведаў, што варта толькі іх выцягнуць — і вечка адляціць, а цела выпрастаецца.

Падрыхтаваўшы скрыню, я яе падпісаў, пранумараваў і паслаў, пра што было расказана вышэй, а потым напісаў ліст ад імя вінагандляроў, чыім кліентам быў містэр Таўкачыні. Таксама я наказаў свайму служку падвезці скрыню да дзвярэй містэра О'Міла толькі пасля таго, як я падам яму знак. Што да словаў, якія мусіў вымавіць труп, то тут я быў упэўнены ў сваім таленце чэрававяшчальніка: з яго дапамогай я і разлічваў вырваць у забойцы прызнанне.

Здаецца, тлумачыць больш няма чаго. Містэр МакВісус быў вызвалены з вязніцы, атрымаў дзядзькаву спадчыну, зрабіў высновы з усяго, што здарылася, пачаў новае жыццё і пражыў яго спакойна й шчасліва.

*Пераклала з ангельскай Кацярына Мацієўская*

## ФРЭНК Р. СТОКТАН

# ПАННА ЦІ ТЫГР?

У старадаўнія часы жыў-быў адзін кароль-паўварвар, чые ўяўленні, хоць збольшага адшліфаваныя і адточаныя прагрэсіўнымі ідэямі далёкіх лацінскіх суседзяў, яшчэ былі велічнымі, пышнымі і неўтаймоўнымі, як яго варварская палова. Ён меў багатую фантазію і да таго ж уладу, неабмежаваную настолькі, што варта было яму захацець, як разнастайныя прыдумкі пачыналі спраўджвацца. Ён вельмі любіў раіцца сам з сабою і калі ўжо знаходзіў унутранае паразуменне — справа, лічы, была зробленая. Калі кожны з яго сямейнага ці палітычнага кола роўна рухаўся вызначаным яму курсам, кароль быў ветлівы і добры, але пры найменшым зруху, калі планеты ягонага космасу пачыналі адхіляцца ад сваіх арбітаў, ён рабіўся яшчэ больш ветлівым і добрым, ды толькі нішто не цешыла караля так моцна, як магчымасць выпрастаць крывое ды змяць няроўнае.

Сярод пазычаных ідэяў, дзякуючы якім ён зрабіўся варварам толькі напалову, была пабудова арэны, дзе з праявамі мужнай звярынай адвагі розум яго падначаленых акультурваўся і далікатнеў.

Але нават тут яго багатая варварская фантазія паказала сябе. Каралеўская арэна была збудаваная не для таго, каб людзі пачулі перадсмяротныя рапсодыі гладыятараў,

не для таго, каб сузіралі немінучае супрацьстаянне рэлігійных поглядаў і галодных зяпаў, а з намерам як мага больш пашырыць і развіць разумовыя здольнасці свайго народа. Велічэзны амфітэатр з галерэямі па перыметры, з таямнічымі склепамі і нябачнымі праходамі быў сродкам, каб чыніць дасканалую справядлівасць, што карала зло і адорвала дабром па законах бесстаронняга і непадкупнага выпадку.

Калі падданага вінавацілі ў злачынстве дастаткова цяжкім, каб зацікавіць караля, то публічна абвяшчалі, што ў вызначаны дзень яго лёс вырашыцца на каралеўскай арэне, якая цалкам заслужыла сваю назву, бо, хоць яе форму і план пазычылі здалёк, яе прызначэнне нарадзіла думка толькі гэтага чалавека, які, кароль да мозгу касцей, не меў над сабой большага закона, чым цешыць свае фантазіі, і які ўсім пазычаным здалёк думкам ці дзеянням прышчапляў мясістыя чаранкі свайго варварскага ідэалізму.

Калі ўсе рассаджваліся па галерэях і кароль у атачэнні світы займаў высокі трон у сваёй частцы арэны, ён падаваў сігнал. Дзверы ўнізе адчыняліся, і абвінавачаны ўваходзіў у амфітэатр. На супрацьлеглай сцяне арэны, замкнутай з усіх бакоў, былі двое дзвярэй, абсалютна аднолькавых. Абавязкам і прывілеем падсуднага было падысці да адных і адчыніць. Ён мог абраць любыя дзверы, якія захоча. Ніхто не падказваў і не ўплываў на яго рашэнне, толькі ўжо згаданы раней бесстаронні і непадкупны выпадак. Калі ён адчыняў адны дзверы, адтуль выскокваў галодны тыгр, самы жорсткі і люты, якога толькі маглі знайсці. Ён накідваўся на чалавека і разрываў на шматкі, караючы за злачынства. Як толькі справа злачынцы вырашалася такім чынам, раздаваліся жалобныя гукі жалезных званоў, ад краёў арэны падымалася галашэнне нанятых плакальшчыкаў, а шматлікія гледачы з паніклымі галовамі і цяжарам на душы павольна

крочылі дахаты, вельмі засмучаныя, што нехта такі малады і прыгожы або такі стары і паважны заслужыў гэты жудасны кон.

Але калі абвінавачаны абіраў іншыя дзверы, адтуль з'яўлялася панна, што як найлепш падыходзіла яму па ўзросце і становішчы, абраная Яго Вялікасцю сярод сваіх верных падданых. З гэтай паннай асуджанага тут жа жанілі, што было дарункам за яго нявіннасць. Няважна, была ў яго жонка і сям'я, меў ён прыхільнасць да тае панны ці не, — кароль не даваў такім другасным акалічнасцям парушаць яго вялікі план расплаты і ўзнагароды. Жаніцьба адбывалася тут жа, на арэне, як і ў першым выпадку. Унізе, пад тронам караля, адчыняліся дзверы, адтуль выходзіў святар, аточаны харыстамі і маладымі танцоркамі, што выдзьмувалі ў пазалочаныя горны радасныя мелодыі ды танчылі вясельныя танцы, набліжаўся да маладой пары і вянчаў іх хутка і бадзёра. Потым раздаваліся ўцешныя пераразвоны вясёлых медных званочкаў, людзі ўзрушана крычалі «ўра», а невінаваты, чыю дарогу дзеці асыпалі кветкамі, вёў нявесту ў свой дом.

Вось такім напаўварварскім метадам чыніў кароль правасуддзе. Яго надзвычайная справядлівасць — навідавоку. Злачынца не мог ведаць, з якіх дзвярэй з'явіцца панна; ён адчыняў любыя, якія хацеў, нават не здагадваючыся, з'ядуць яго ці ажэняць. Здаралася, тыгр выскокваў з адных дзвярэй, а здаралася — з другіх. Рашэнні гэтага суда былі не толькі справядлівымі — яны былі дакладна акрэсленыя: абвінавачанага тут жа каралі, калі ён прызнаваў сябе вінаватым, а калі быў невінаваты — тут жа атрымліваў сваю ўзнагароду, хацеў ён таго ці не. Пазбегнуць прысудаў каралеўскай арэны было немагчыма.

Такая сістэма была вельмі папулярнай. Калі людзі збіраліся разам у вялікія судныя дні, яны ніколі не ве-

далі загадзя, стануць яны сведкамі крывавай бойні або шумнага вяселля. Гэтая няпэўнасць дадавала такім падзеям цікаўнасці, якой іначай магло і не быць. Таму масы былі радасныя і задаволеныя, а інтэлігенцыя не магла назваць такі план несправядлівым, бо хіба ж лёс абвінавачанага не быў у яго руках?

У караля-напаўварвара была дачка, што квітнела, як яго самыя пышныя фантазіі, і мела сэрца гэткае ж палкае і ўладнае, як у бацькі. І, як здараецца ў такіх выпадках, была яна зрэнкай яго вока, і кароль любіў яе больш за ўсё чалавецтва. Сярод яго прыдворных быў юнак, чые гарачая кроў і нізкае паходжанне рабілі яго акурат такім героем любоўных раманаў, якія, як правіла, і кахаюць прынцэсаў. Прынцэсу яе каханак цалкам задавальняў, бо быў самым прыгожым і самым смелым ва ўсім каралеўстве, і яна кахала яго з жарсцю, поўнай таго варварства, што рабіла яе пачуцці моцнымі і гарачымі. Іх стасункі шчасліва працягваліся некалькі месяцаў, пакуль аднойчы пра іх не даведаўся кароль. Без сумневаў і ваганняў ён выканаў свой абавязак: юнака кінулі ў вязніцу і прызначылі дзень яго суда на каралеўскай арэне. Натуральна, гэта была надзвычай важная падзея для караля, і Яго Вялікасць разам з усім народам быў моцна зацікаўлены ў падрыхтоўцы і правядзенні рытуалу. Ніколі раней не здаралася нічога такога, ніколі раней падданы не наважваўся пакахаць дачку караля. Гэта потым ужо такія выпадкі сустракаліся ледзь не на кожным кроку, але ў той час яны былі з'явай надзвычай новай і ашаламляльнай.

Па ўсім каралеўстве абшукалі тыгравыя клеткі, збіраючы самых дзікіх і лютых звяроў, каб выбраць з іх тыгра для арэны. Па ўсёй краіне дасведчанае журы перагледзела шэрагі маладых і прыгожых дзяўчат, каб юнак займеў вартую яго нявесту, калі лёс не прызначыць яму іншага. Канечне, усе ведалі, што тое, у чым юнака ві-

навацяць, ён зрабіў. Ён кахаў прынцэсу, і ні ён, ні яна, ні нехта іншы не збіраліся гэты факт аспрэчваць. Але каралю і ў галаву не прыйшло б дазволіць такому выпадку, як гэты, парушыць працу суда, якой ён так цешыўся і насалоджваўся. Няважна, чым скончыцца справа: ад юнака ўсё роўна пазбавяцца, а кароль атрымае эстэтычнае задавальненне, назіраючы за ходам падзеяў, якія і вызначаць, добра ці кепска зрабіў юнак, дазволіўшы сабе пакахаць прынцэсу.

Прызначаны дзень надышоў. Адусюль збіраліся людзі і запаўнялі вялізныя галерэі арэны, а натоўп, няздольны трапіць усярэдзіну, гуртаваўся вакол сценаў. Кароль і світа занялі свае месцы насупраць дзвярэй-блізнюкоў, гэтых лёсавызначальных брамаў, так жудасна падобных.

Усё было гатова. Падалі сігнал. Дзверы пад тронам адчыніліся, і каханак прынцэсы выйшаў на арэну — высокі, прыгожы, ладны. Яго з'яўленне віталі прыглушаным гулам страху і захаплення. Палова прысутных і не здагадвалася, які прыгажун жыў побач з імі. Не дзіва, што прынцэса яго пакахала! Як жахліва, што цяпер ён тут!

Калі юнак прайшоў углыб арэны, ён павярнуўся, як патрабуе таго звычай, і пакланіўся каралю, але ні на секунду не задумаўся ён пра манаршую асобу. Яго вочы неадрыўна глядзелі на прынцэсу, што сядзела па правую руку ад бацькі. Калі б не парасткі варварства ў яе характары, відаць, панны б тут не было, але моцная і палкая душа не дазволіла ёй прапусціць падзею, настолькі ёй цікавую. З часу як загад пра тое, што яе каханак мусіць сустрэць свой лёс на каралеўскай арэне, уступіў у сілу, удзень і ўначы яна думала толькі пра гэты надзвычайны працэс і ўсё, што з ім было звязана. Надзеленая найвялікшай уладай, уплывам і сілай характару сярод тых, хто калі-небудзь цікавіўся развязкай такіх справаў, яна зрабіла тое, што ніколі нікому не ўдавалася: яна дазна-

лася таямніцу дзвярэй. Яна ведала, у якім з двух пакояў, што хаваліся за дзвярыма-блізнюкамі, стаяла адчыненая клетка з тыграм, а ў якім чакала панна. Праз гэтыя цяжкія дзверы, шчыльна завешаныя скурамі звонку, чалавек, вымушаны падняць засаўку на адных з іх, не мог пачуць ані гуку, ані падказкі. Але золата і сіла жаночай волі здабылі прынцэсе разгадку таямніцы.

Яна не толькі ведала, у якім з пакояў стаяла панна, гатовая з'явіцца, як толькі адчыняцца дзверы, радасная і расчырванелая, але ведала і тое, кім была тая панна — адна з самых прыгожых і мілых дзяўчат пры двары. Яе абралі ўзнагародзіць юнака, калі яго невінаватасць у злачынным імкненні да некага настолькі вышэйшага, чым ён сам, будзе даказаная. Прынцэса яе ненавідзела. Часцяком яна бачыла ці ўяўляла, што бачыць, як гэтая прыўкрасная істота кідае захопленыя позіркі на яе каханага, і часам ёй падавалася, што тыя позіркі прымалі і нават адорвалі ў адказ. Час ад часу прынцэса бачыла, як яны размаўлялі; было тое раз ці два, але так шмат можна сказаць і за імгненне... Магчыма, яны гаварылі пра дробязі, але адкуль ёй ведаць? Дзяўчына была прыгожай, але яна наважылася падняць вочы на каханка прынцэсы, і з усёй сілай дзікай крыві, што перадалася ёй ад доўгіх чародаў варварскіх яе продкаў, прынцэса ненавідзела жанчыну, якая чырванела і трымцела за нямымі дзвярыма.

Калі яе каханак павярнуўся і глянуў на яе, яго вочы сустрэліся з вачыма прынцэсы, што сядзела бялейшая і бляднейшая, чым хто-кольвек у гэтым шырачэзным акіяне ўстрывожаных твараў вакол яе, і ён імгненна заўважыў і зразумеў — з дапамогай той сілы, якой надзеленыя каханкі, калі іх душы сплеценыя ў адно, — што яна ведала, за якімі дзвярыма стаіўся тыгр, а за якімі стаяла панна. Ён і чакаў, што яна даведаецца. Ён разумеў яе натуру, у душы быў упэўнены, што яна не су-

пакоіцца, пакуль не вызнае таямніцу, схаваную ад усіх гледачоў, нават ад караля. Адзіная надзея, што абяцала юнаку хоць нейкую пэўнасць, была звязаная з поспехам прынцэсы разгадаць сакрэт дзвярэй. І калі ён глянуў на яе, то пераканаўся: ёй удалося, бо ў душы ён ведаў, што ўдасца.

А пасля хуткім і трывожным паглядам ён запытаўся: «Якія?» Пытанне было для яе такім зразумелым, нібыта ён выгукнуў яго з арэны. Нельга было траціць ні хвіліны. Пытанне прагучала імгненна. І наступнае імгненне вымагала адказу.

Яе правая рука ляжала на мяккім парапеце перад ёю. Яна падняла руку і зрабіла лёгкі і хуткі ўзмах управа. Ніхто, акрамя яе каханка, нічога не заўважыў. Усе пагляды, акрамя ягонага, былі прыкаваныя да чалавека на арэне.

Ён павярнуўся і цвёрдым упэўненым крокам пайшоў праз пустую арэну. Людскія сэрцы спыніліся, дыханне замерла, а пагляды неадрыўна сачылі за юнаком. Ні кроплі не вагаючыся, ён рушыў да правых дзвярэй і адчыніў іх.

Загадка гісторыі ў тым, хто быў за дзвярыма: тыгр ці панна?

Чым больш мы разважаем на гэтым пытаннем, тым цяжэй на яго адказаць. Яно вымагае даследавання чалавечай натуры, што вядзе нас блытанымі лабірынтамі жарсці, з якіх цяжка выбрацца. Падумай пра гэта, дарагі чытач, але не так, як калі б адказ залежаў ад цябе, а з пункту гледжання гэтай напаўварварскай прынцэсы, чыя кроў кіпіць у жылах, а душа распаляецца на вогнішчы з адчаю і рэўнасці. Яна страціла яго, але каму ён дастанецца?

Як часта пры святле дня і ў начных сваіх сненнях яе апаноўвала дзікая вусціш, і, закрыўшы твар рукамі, яна

ўяўляла, як каханак адчыняе дзверы, за якімі яго чакаюць лютыя іклы тыгра!

Але ж наколькі часцей яна бачыла яго ля другіх дзвярэй! Як яна скрыгатала зубамі і рвала на галаве валасы ад горкіх сваіх думак, уяўляючы захапленне і экстаз, з якімі адчыніць яе каханак дзверы перад паннай! І калі яна бачыла, што ён ірвецца да сустрэчы з той жанчынай, што яго шчокі гараць і вочы іскрацца трыюмфам, што калі ён выводзіць жанчыну на арэну, то ўвесь свеціцца радасцю, адораны наноў жыццём, калі яна чула радасныя крыкі натоўпу і зацятае дзінькание шчаслівых званоў, калі бачыла, як святар і яго ўсцешаныя памагатыя набліжаюцца да маладой пары і ператвараюць іх у мужа і жонку проста на яе вачах, калі бачыла, як крочаць яны разам па ўсыпанай кветкамі сцяжыне, гучныя воклічы вясёлага натоўпу нясуцца ім услед, а яе адчайны крык у ім губляецца і тоне, яе душа палала пакутамі!

Хіба не лепш для яго адразу згінуць і чакаць яе ў блаславёным выраі напаўварварскай будучыні?

Але ж гэты жудасны тыгр, яго рык і пырскі крыві!

Яе рашэнне нарадзілася ўмомант, але яно спела доўгімі днямі і начамі пакутлівых роздумаў. Яна адпачатку ведала, што ў яе папросяць адказу, і, вырашыўшы, якім ён будзе, без кроплі сумневу паказала рукой направа.

Пытанне яе выбару разгадаць няпроста, і я не вазьму на сябе смеласць лічыцца адзіным, хто ведае адказ. Таму я пакідаю яго вам. Дык хто з’явіўся з адчыненых дзвярэй — панна ці тыгр?

*Пераклала з ангельскай Юля Цімафеева*

ЭЛЕРЫ КУІН

# ВАР'ЯЦКАЕ ЧАЯВАННЕ

Высокі малады чалавек у шэра-карычневым плашчы раптам падумаў, што ніколі не бачыў такой залевы. Вада вывяргалася з чорнага неба бурным патокам, адсвечваючы шэрым у слабым жоўтым святле вакзальных ліхтароў. Прыгарадны цягнік з Ямайкі* растварыўся ў заходнім кірунку, апошні раз міргнуўшы чырвонымі хваставымі агнямі. Нягледзячы на няроўныя плямы святла, разлітага па невялікай чыгуначнай станцыі, было вельмі цёмна, а жахліва мокра было нягледзячы ні на што. Малады чалавек дрыжаў ад холаду пад навесам платформы і думаў, якое вар'яцтва занесла яго на ўзбярэжжа Лонг-Айлэнда ў такое паскуднае надвор'е. І дзе Оўэн, каб яго зямля не насіла?

Ён ужо маладушна вырашыў быў знайсці тэлефон, хуценька выбачыцца і наступным цягніком рвануць дадому, як тут з цемры, расплюхваючы лужыны і адфыркваючыся, вынырнуў седан, завішчаў тармазамі, і мужчына ў форме шафёра, які з яго выскачыў, кінуўся па жвіры пад схоў навеса.

— Містэр Элеры Куін? — задыхана спытаў ён, здзіраючы фуражку. Гэта быў светлавалосы юнак з румяным тварам і ўсходнім разрэзам вачэй.

— Я, — уздыхнуў Элеры.

Усё, позна.

— Я Мілан, шафёр містэра Оўэна, сэр, — сказаў юнак. — Містэр Оўэн выбачаецца, што не змог прыехаць сустрэць вас. У нас там госці... сюды, містэр Куін.

Ён падхапіў сумку Элеры, і мужчыны пабеглі да седана. Элеры рухнуў на махеравае сядзенне колеру індыга. Чорт бы ўзяў гэтага Оўэна з усімі ягонымі запрашэннямі! Так ён і ведаў. Ён жа яму і не вельмі блізкі знаёмы, калі разабрацца. Адзін з сумнеўных сяброў Джэй-Джэя*. Усе пастаянна кудысьці яго цягнуць. Робяць з яго нейкі экспанат, быццам цюленя ўпалявалі. Хадзі сюды, Рола! Глядзі, якая тут апетытная рыбка. Давай паслухаем дэтэктыўныя гісторыі і падрыжым крыху. Пачынаеш адчуваць сябе статуяй Свабоды. Ды хай яго, Элеры, чвартуюць, калі ён яшчэ хоць раз заікнецца пра якое злачынства!.. Але потым Оўэн сказаў, што ў яго будзе Эмі Ўілаўз, а Элеры даўно хацеў з ёй пазнаёміцца. Цікавая дзяўчына, кажуць. Дачка нейкага дыпламата арыстакратычнага паходжання, які пусціў жыццё пад адхон — у дадзеным выпадку на падмосткі. Усе яе сваячкі, мабыць, напышлівыя нікчэмнасці, акамянелыя перажыткі... Ёсць жа людзі, якія ўсё яшчэ жывуць у сярэднявеччы... Гм... Оўэн хацеў паказаць яму дом. Усяго месяц як пабудаваны. «Цудненькі», як ён казаў. Цудненькі! Скаціна...

Седан каціўся па лужынах, пярэднія фары выхаплівалі з цемры адно брудныя пырскі і выпадковыя дрэвы, дамы, агароджы...

Мілан адкашляўся.

— Паганае надвор’е, сэр. Вясна, называецца. Дождж і ўсё такое...

Ох ужо гэтыя балбатлівыя шафёры, падумаў Элеры, унутрана стогнучы.

— Памолімся за няшчасных матросаў, што ў моры такімі начамі, — з пабожнай дрыготкай у голасе сказаў ён.

— Ха-ха! — адгукнуўся Мілан. — Сапраўды. Вы ж крыху спазніліся, так, сэр? Было без дзесяці дванаццаць, а містэр Оўэн раніцай мне сказаў, што вы прыедзеце ў дзевяць дваццаць.

— Затрымалі, — прамармытаў Элеры, жадаючы яму смерці.

— Новая справа, сэр? — захоплена спытаў Мілан, акругляючы вузкія вочы.

«Божа, і гэты туды ж...»

— Ды не. У майго бацькі быў чарговы прыпадак слановай хваробы. Бедны тата! У самыя цяжкія моманты мы ўжо думалі, што ўсё.

Шафёр заміргаў. Потым адвярнуўся і засяродзіўся на размытай дажджом дарозе. Элеры з палёгкай заплюшчыў вочы.

Але Мілан так лёгка не здаваўся, і хвіліна блаславёнай цішыні скончылася хутка. Шафёр усміхнуўся, адкрыта, але крыху няўпэўнена, і сказаў:

— Сёння ў містэра Оўэна шмат клопату, сэр. Разумееце, містэр Джонатан...

— Гм, — выдаў Элеры, ледзь заўважна здрыгануўшыся. Містэр Джонатан?.. Элеры ўспомніў бліскучыя вочы худога хлапчука няпэўнага ўзросту (ад сямі да дзесяці), які па-д'ябальску вынаходліва ўмеў рабіць жыццё невыносным. Элеры зноў здрыгануўся, але гэтым разам ад кепскага прадчування: ён зусім забыў пра юнага містэра Джонатана.

— Так, сэр, у Джонатана заўтра вечарынка ў гонар дня нараджэння — дзевяць яму, ці колькі, — і містэр з місіс Оўэн рыхтуюць нешта незвычайнае. — Мілан зноў усміхнуўся — цяпер загадкава. — Нешта *вельмі* незвычайнае, сэр. Толькі гэта ж сакрэт. Містэр Джонатан пакуль нічога не ведае. Во сюрпрыз будзе!

— Сумняюся, — прабурчаў Элеры і занурыўся ў панылае маўчанне, якое не змаглі перарваць нават ліслівыя хітрыкі шафёра.

* * *

«Цудненькі» дом Рычарда Оўэна аказаўся вялізнай спарудай з раскіданымі там-сям франтонамі і прыбудовамі, бязладна натыканымі каляровымі камянямі і бліскучымі аканіцамі. Да яго вяла звілістая пад’язная алея, па абодва бакі якой па-салдацку пашыхтаваліся дрэвы. Дом залівала святло, а ўваходныя дзверы былі прачыненыя.

— Прыехалі, містэр Куін! — радасна абвясціў Мілан, выскокваючы з машыны і прытрымліваючы дзверцы. — Пераскокніце на ганак, сэр, не трэба ногі мачыць.

Элеры вылез і паслухмяна пераскокнуў. Мілан выцягнуў з машыны ягоную сумку і панёсся па лесвіцы.

— Дзверы ўсюды адчыненыя, — весела паведаміў ён. — Слугі, мабыць, пастаноўку глядзяць.

— Пастаноўку? — спалохаўся Элеры, адчуўшы слабы боль дзесьці ў глыбіні страўніка.

Мілан шырока расчыніў дзверы.

— Заходзьце-заходзьце, містэр Куін. Пайду пашукаю містэра Оўэна... У іх, знаеце, рэпетыцыя. Калі Джонатан тут, рабіць нічога нельга, так што яны пачынаюць, як толькі ён ідзе спаць. Гэта для заўтрашняй вечарынкі. А ён жа такі недаверлівы, таму жывем як на парахавой бочцы...

— Ахвотна веру, — прамармытаў Элеры. Чорт бы ўзяў гэтага Джонатана разам з усім яго сямействам!

Ён стаяў у невялікім вестыбюлі, гледзячы ў бок ажыўленай прасторнай гасцёўні, што вабіла цяплом.

— П’есу, значыць, ставяць... Гм... Не турбуйся, Мілан, я тут пачакаю, пакуль яны скончаць. Хто я такі, каб спыняць кола Драмы?

— Добра, сэр, — неяк расчаравана адгукнуўся Мілан. Ён паставіў сумку, казырнуў Элеры і знік у цемры. Гук зачыненых дзвярэй падаўся дзіўным фінальным акордам, і ноч з дажджом засталіся недзе далёка.

Элеры неахвотна скінуў прамоклы плашч і капялюш, пакорліва павесіў іх у шафу ў вестыбюлі, закінуў сумку ў кут і паплёўся да гасцёўні, каб адагрэць рукі над благаславёным агнём. Ён стаяў перад камінам, адчуваючы, як па целе разліваецца цяпло, а да свядомасці як праз туман далятаў абрыўкі размоваў ад нейкай з дзвюх расчыненых дзвярэй побач.

Пачуўся жаночы голас з дзіўнымі дзіцячымі інтанацыямі:

— О не, калі ласка, працягвайце! Я больш не буду перабіваць. Магчыма, недзе і ёсць адзін такі калодзеж.

«Эмі, — падумаў Элеры. Туман у свядомасці рассеяўся ўмомант. — Што гэта тут адбываецца?» Ён падышоў да першых дзвярэй і прыхіліўся да вушака.

Вачам адкрылася незвычайнае відовішча. Наколькі мог меркаваць Элеры, тут знаходзіліся ўсе насельнікі дома. Пакой, відавочна, быў бібліятэкай — прасторнае памяшканне з кнігамі, па-сучаснаму абстаўленае. Дальні кут быў расчышчаны, і самаробная заслона з накрухмаленых прасцінаў і блока дзяліла пакой на дзве часткі. Яна была расхінутая, а «сцэну» займаў доўгі стол з белым абрусам, на якім стаялі кубкі, сподачкі і ўсялякае іншае. На крэсле ў галаве стала сядзела Эмі Ўілаўз, уся такая кранальна-дзявочая ў сваім фартушку. Яе залаціста-каштанавыя валасы струменіліся па спіне, а стройныя ножкі былі абцягнутыя белымі панчохамі і абутыя ў чорныя балеткі. Каля яе сядзела немаведама што — трусападобная істота ростам з чалавека, чые велізарныя вушы стаялі на галаве тарчма, на пухнатай шыі быў павязаны гальштук-матылёк, а рот фантома са скрыгатам раскрываўся і закрываўся, выдаючы чалавечыя гукі. Побач з зайцам сядзела яшчэ адно кашмарнае стварэнне з дабрадушнай пыскай грызуна, якое час ад часу рабіла лянівыя вялыя рухі. А каля гэтай малечы, што

выглядала рыхтык як Мыш-Соня, сядзеў самы дзівосны з усёй чацверкі — дзівак з кусцістымі бровамі, які нечым нагадваў Джорджа Арліса*, у гальштуку-матыльку ў крапінкі, апрануты «пад віктарыянца» ў старамодны камзол. На галаве яго красаваўся высачэзны капялюш з тканіны, стужка якога прытрымлівала цэтлік з надпісам «10 шылінгаў 6 пенсаў за мадэль».

За дзействам назіралі двое — дама ў гадах з беласнежнымі валасамі і звыкла саладжавым выразам твару, пад якім часцей за ўсё хаваецца хранічная чэрствасць, і прывабная рудавалосая маладая жанчына з даволі прыкметным бюстам і зялёнымі вачыма. Яшчэ Элеры заўважыў дзвюх служанак, што высунулі галовы з іншых дзвярэй, здзіўлена гледзячы на гаспадароў і стрымана хіхікаючы.

«Вар’яцкае чаяванне, — падумаў Элеры, усміхаючыся, — мог бы і здагадацца, раз ужо Эмі тут. Маленькі паганец гэтага не заслугоўвае».

— Яны вучыліся маляваць, — гаварыла Мыш-Соня тоненькім галаском, пазяхаючы і праціраючы вочы, — і малявалі ўсялякае featured рознае, напрыклад, тое, што пачынаецца на М.

— Чаму на М? — спытала жанчына-дзіця.

— А чаму не? — праскрыгатаў Заяц, абурана памахваючы вушамі.

Соня між тым задрамала, але яе раптоўна ўшчыкнуў джэнтльмен у цыліндры, ды так моцна, што яна з піскам прачнулася і адразу працягнула:

— ...усё, што пачынаецца на М, напрыклад, мышалоўкі, месяц, мары, мноства... Ты вось казала, што бачыла мноства малюнкаў... А ты калі-небудзь бачыла, як малююць мноства?

— Ну-у... — адказала зусім збянтэжаная дзяўчына, — не ведаю...

— А не ведаеш — дык маўчы, — з’едліва прамовіў Капялюшнік.

Дзяўчынка пачырванела ад абурэння і пайшла прэч, мільгаючы белымі панчошкамі. Соня зноў заснула, а Заяц і Капялюшнік ухапілі яе за галаву і пачалі старанна запіхваць у носік аграменнага чайніка, што стаяў на стале.

А дзяўчынка ўсклікнула, тупнуўшы правай нагой:

— Прынамсі *сюды* я больш ніколі не вярнуся! Самае дурацкае чаяванне ў маім жыцці!

І знікла за заслонай. Праз імгненне прасціны ўскалыхнуліся і апусціліся, бо дзяўчынка пацягнула за вяроўку.

— А-ша-лам-ляльна, — працягнуў Элеры, узнагароджваючы актораў апладысментамі. — *Brava*, Аліса. І парачка *bravi* вось гэтым жывёлападобным істотам — шаноўнай Соні, Марцоваму Зайцу. А пра майго добрага сябра — Шалёнага Капялюшніка — і казаць няма чаго.

Капялюшнік утаропіўся ў яго, потым сарваў з галавы цыліндр і пабег да дзвярэй. Пад яго рэзкім грымам адгадваўся адначасова дабрадушны і хітры твар. Гэта быў паўнаваты мужчына ў самым росквіце сілаў, жорсткасці і цынізму.

— Куін! Калі ты, чорт дзяры, прыехаў? Я ж пра цябе забыць паспеў, зараза! Дзе ты быў?!

— Сямейныя праблемы. Мілан пабыў за гаспадара. Оўэн, клянуся, касцюмчык табе пасуе. І чаго ты штаны на біржы праціраеш, не разумею. Ты ж народжаны Капялюшнікам!

— Думаеш? — хіхікнуў задаволены Оўэн. — Мяне ўсё жыццё неяк цягнула на сцэну. Таму я і папрасіў Эмі прыехаць і зноў сыграць Алісу. А цяпер пазнаёмся з усёй кампаніяй. Мама, — звярнуўся ён да белавалосай пажылой лэдзі, — дазвольце прадставіць вам містэра Элеры Куіна. Гэта маці Лоры, Куін, — місіс Мэнсфілд.

Пажылая лэдзі выціснула з сябе немагчыма салодкую ўсмешку, але яе вочы заставаліся жорсткімі.

— Місіс Гарднэр, — працягваў Оўэн, прадстаўляючы паўнагрудую маладую жанчыну з зялёнымі вачыма і рудымі валасамі. — Не паверыш, але яна жонка вунь таго зайца-малайца, хі-хі-хі!

Было штосьці агіднае ў гэтым смеху. Элеры кіўнуў прыгажуні і паспешліва спытаў:

— Гарднэр? А вы не жонка архітэктара Пола Гарднэра?

— Папаўся, — замагільным голасам прамовіў Марцовы Заяц, здымаючы маску, з-пад якой паказаўся худы твар з бліскучымі вачыма. — Вітаю, Куін. Здаецца, мы не бачыліся пасля суда, дзе я сведчыў па справе Шульца, якую расследаваў ваш бацька.

Яны пацiснулі адзін аднаму рукі.

— Якая нечаканасць, — сказаў Элеры. — Але прыемная. Місіс Гарднэр, у вас вельмі разумны муж. Пасля ягонага экспертнага заключэння адвакат зразумеў, што не бачыць ім апраўдальнага вердыкту як сваіх вушэй.

— О, я заўжды казала, што Пол — геній, — усміхнулася рудавалосая жанчына. Голас у яе быў дзіўнаваты, хрыплы. — Але ён мне не верыць. Думае, што я адзіная ў свеце не ведаю яму цаны.

— Ну Кэралайн! — са смехам запратэставаў Гарднэр, але вочы яго бліснулі, і ён чамусьці зірнуў на Рычарда Оўэна.

— Памятаеш Лору? — бесцырымонна схапіўшы Элеры за руку, прагудзеў Оўэн. — Гэта Мыш-Соня. Чароўны ж бурундук, праўда?

З твару місіс Мэнсфілд на кароткае імгненне спаўзла ўся саладжавасць — зрэшты, на вельмі кароткае імгненне. А як паставілася Мыш-Соня да таго, што ўласны муж публічна назваў яе хоць і чароўным, але грызуном, схавала касматая маска мілага звяркі, а скінуўшы яе, Мыш-Соня ўсміхалася. Гэта была тонкая кволая жан-

чына, чые вочы глядзелі стомлена, а шчокі ўжо кранула бляклась.

— А гэта, — з выглядам селекцыянера, што дэманструе на выставе дойную карову, урачыста прамовіў Оўэн, — адзіная і непаўторная Эмі! Эмі, гэта містэр Куін, той самы хлопец з нюхам на забойствы, пра якога я табе расказваў. Куін, міс Ўілаўз.

— Як бачыце, містэр Куін, — прашчабятала акторка, — мы тут пакуль у сцэнічных касцюмах. Спадзяюся, вас сюды прывяла не справа? Бо калі так, мы неадкладна пераапранемся ў цывільнае, і вы зможаце пачаць. У мяне, дарэчы, страшэнна злачынная натура: мне б спатрэбіліся ўсе дзевяць жыццяў Чэшырскага ката, каб адбыць пакаранне за забойствы, якія я здзейсніла ў думках. Гэтыя клятыя крытыкі...

— Касцюм у вас неймаверна чароўны, — сказаў Элеры, спрабуючы не глядзець на яе ногі. — І мне вы больш падабаецеся як Аліса, не трэба катоў.

Аліса з яе атрымалася цудоўная — гнуткая, як чарацінка... і гэтая тонкасць — напалову дзявочая, напалову хлапечая...

— І чыя была ідэя? — апамятаўся Элеры.

— Ды ты, здаецца, думаеш, што мы тут усе дурні ці шызікі, — рагатнуў Оўэн. — Ладна, сядай сюды, Куін. Мод! — загарлаў ён. — Кактэйль містэру Куіну! Намяшай там яму паболей!

Спалоханы твар служанкі знік з праёму.

— У нас тут генеральная рэпетыцыя да дня нараджэння Джоні, — працягваў Оўэн. — Вечарынка заўтра, мы запрасілі ўсіх суседскіх дзяцей. Гэта ўсё Эмі. Яна і прынесла касцюмы з тэатра. Ты ж ведаеш, што ў суботу мы закрыліся?

— Не чуў. Я думаў, на «Алісу» проста ломяцца.

— Так і было, але дамова арэнды з «Адэонам» скончылася, і пакуль мы проста вандроўныя артысты. У наступную сераду адкрываемся ў Бостане.

Стройныя ножкі Мод бегалі нядоўга, і хутка яна паставіла перад Элеры вадкае ружаватае месіва, якое ён павольна пацягваў, даволі паспяхова ўстрымліваючыся ад грымасаў.

— Выбачаюся, але нам з Кэралайн час ісці, — сказаў Пол Гарднэр, сцягваючы свой касцюм. — Дарога паскудная, а заўтра ўвогуле ўсё размые.

— Ах як шкада, — ветліва сказаў Элеры, ставячы на стол амаль поўную шклянку.

— Чуць пра гэта не хачу, — адклікнулася Лора Оўэн. З паўнаватым жывоцікам Мышы-Соні яна выглядала маленькаю, кароценькай і бясполай. — Як можна ехаць дадому ў такую буру! Кэралайн, вам з Полам варта застацца нанач.

— Ды тут усяго чатыры мілі, — прамармытала місіс Гарднэр.

— Лухта якая! У такую ноч яны на ўсе сорак пацягнуць, — загуў Оўэн. — Яго шчокі чамусьці пабялелі, і праз грым на іх выступіў пот. — Вырашана! У нас месца больш чым трэба, Пол сам гэта казаў, калі праектаваў дом.

— Вось дзе нязручнасць блізкага знаёмства з архітэктарам, — з грымаскай працягнула Эмі Ўілаўз, бухаючыся ў крэсла і падціскаючы пад сябе ножкі. — Немагчыма зманіць пра колькасць вольных гасцявых.

— Не зважайце на Эмі! — ухмыльнуўся Оўэн. — Яна ў нас усіх голых каралёў шоў-бізнэсу выкрывае. Ладна-ладна, усё цудоўна. Вып'еш, Пол?

— Не, дзякую.

— А вы вып'еце, Кэралайн? *Вы* ж мне не адмовіце, праўда?

Элеры, гатовы пад зямлю праваліцца, зразумеў: гаспадар дому паскудна п'яны, што да пары да часу лакіравала жыццярадасная чырвань твару.

Жанчына павольна падняла зялёныя вочы на Оўэна.

— Не адмоўлю, Дзік.

З невымоўнай прагаю яны ўтаропіліся адно ў аднаго. Місіс Оўэн нечакана ўсміхнулася і адышла, блытаючыся ў сваім нязручным касцюме. Місіс Мэнсфілд — таксама нечакана — пачырванела, прадэманстравала ўсім сваю непераканаўчую саладжавую ўсмешку і мядовым голасам праспявала, не звяртаючыся ні да кога канкрэтна:

— Вымушаная з усімі развітацца. Дзень быў багаты на выпрабаванні, прабачце старую жанчыну… Лора, дарагая…

Яна падышла да дачкі і пацалавала яе ў схілены, пакрыты зморшчынамі лоб.

Да ўсеагульнага ветлівага мармытання далучыўся Элеры. Ён адчуваў, што галава баліць, што вантробы ахоплівае ружаватае полымя, а ўсю ягоную істоту — непераадольнае жаданне апынуцца як мага далей адсюль.

* * *

Містэр Элеры Куін прачнуўся раптоўна і са стогнам. Ён варочаўся ў ложку, адчуваючы сябе вельмі агідна. З гадзіны ночы ён неспакойна драмаў, а дождж, што барабаніў у вокны, хутчэй раздражняў, чым супакойваў. Сну чамусьці не засталося ні ў адным воку, і на містэра Куіна абрынулася даволі нечаканая бяссонніца. Ён сеў і пацягнуўся па наручны гадзіннік, які ўвесь гэты час аглушальна цікаў на начным століку каля ложка. Стрэлкі свяціліся, паслужліва паказваючы пяць хвілін на трэцюю.

Ён бухнуўся назад, сплёўшы пальцы на патыліцы, і ўтаропіўся ў паўзмрок. Матрац быў мяккім і зручным, чаго і варта было чакаць ад матраца плутакрата, але стомленых касцей містэра Куіна супакоіць не мог. Ён не адчуваў сябе ўтульна ў гэтым прыемным доме. Уважлівая, але да няёмкасці змрочная гаспадыня… буйны і неўтаймаваны, як бура, гаспадар… госці… сапенне юнага

Джонатана ў юначым ложку — Элеры быў упэўнены, што юны Джонатан сапе...

Праз дзесяць хвілін ён кінуў змагацца, падняўся і, уключыўшы святло, надзеў халат і тапкі. Ні на начным століку, ні ўнутры яго, як Элеры паспеў заўважыць, кладучыся спаць, не было ні кнігі, ні хоць якога часопіса. Ашаламляльная гасціннасць! Уздыхнуўшы, Элеры адчыніў дзверы пакоя і высунуўся вонкі. Маленькая начная лямпа цьмяна свяцілася каля лесвіцы, што спускалася з калідора ў гасцёўню. Стаяла поўная цішыня.

І раптам ён адчуў абсалютна невытлумачальны страх. Яму начыста расхацелася выходзіць са спальні.

Прааналізаваўшы гэтае мімалётнае пачуццё і не знайшоўшы яму прычынаў, Элеры абазваў сябе ўражлівым ідыётам і выйшаў з пакоя. Ён не лічыў сябе ні камком нерваў, ні тэлепатам, таму спісаў зніжэнне псіхалагічнай устойлівасці на стомленасць і недахоп сну. Гэта ж цудоўны дом, і людзі тут цудоўныя... Я падобны да чалавека, які паўтарае «харо-о-ошы сабачка» жахліваму монстру са слінявай пашчай... У гэтай жанчыны вочы зялёныя, як мора... як гора... як гарох... Няма месца! Няма месца!.. Месца колькі заўгодна, абурылася Аліса... А ўсмешка місіс Мэнсфілд проста-такі кідае ў дрыжыкі...

Чыхвосцячы сябе за няўчасны разгул фантазіі, містэр Куін спусціўся пакрытымі дыванам прыступкамі ў гасцёўню. Там панаваў непраглядны змрок, а выключальнік быў чорт ведае дзе. Спатыкнуўшыся аб пуф, Элеры ўдарыў палец на назе і бязгучна вылаяўся. Бібліятэка, здаецца, была насупраць лесвіцы, побач з камінам, у якім ужо дагарэлі апошнія вугольчыкі. Асцярожна ступаючы, ён урэшце дабраўся да сцяны з камінам і, блукаючы ў запырсканай дажджом цішыні, пачаў шукаць дзверы бібліятэкі. Яго рука намацала халодную ручку, з заўважным скрыгатам павярнула яе, і дзверы адчыні-

ліся. Вочы ўжо прывыклі да змроку, і позірк выхопліваў з туманнага покрыва ночы няясныя абрысы прадметаў.

І ўсё ж цемра па той бок дзвярэй абрынулася на яго як удар. Цямнейшая там была цемра, ці што... Ён пераступіў парог і застыў. Нейкі не той гэта быў пакой... Зусім не бібліятэка. Ён не мог бы сказаць, як гэта зразумеў, але быў упэўнены, што адкрыў дзверы іншага пакоя. Мабыць, занадта адхіліўся ўправа. Заблукалыя ў цёмным лесе... Элеры ўважліва паглядзеў у густую непраглядную цемру і з уздыхам адступіў. Зноў скрыгатнуўшы, дзверы зачыніліся.

Ён навобмацак рушыў уздоўж сцяны налева. Пара крокаў... Вось яны! Наступныя ж дзверы. Ён спыніўся, прыслухоўваючыся да адчуванняў... Ды не, усё добра. З'едліва ўсміхнуўшыся, ён пхнуў дзверы, адважна ўвайшоў, намацаў на найбліжэйшай сцяне выключальнік і націснуў. Святло пераможна затапіла бібліятэку.

Зашморгнутыя шторы, беспарадак — усё было як тады, калі гаспадар дому праводзіў Элеры наверх.

Скіраваўшыся да ўбудаваных кніжных шафаў, ён агледзеў некалькі паліцаў, павагаўся паміж дзвюма кнігамі, потым усё ж вырашыў, што «Гекльберы Фін» будзе прыдатным чытвом для гэтай суворай ночы, выключыў святло і вобмацкам рушыў праз гасцёўню да лесвіцы. Трымаючы кнігу падпахай, ён пачаў уздымацца па прыступках. Зверху пачуліся крокі, і Элеры ўскінуў галаву. У цьмяным святле лямпы вымалёўваліся абрысы фігуры.

— Оўэн? — няўпэўнена прашаптаў мужчынскі голас.

Элеры засмяяўся.

— Гэта Куін, Гарднэр. Вам таксама не спіцца?

Мужчына наверсе з палёгкаю ўздыхнуў.

— Ну так. Я акурат ішоў узяць якую кнігу. Кэралайн... жонка мая... спіць, здаецца, у суседнім пакоі. Як яна можа спаць!.. Атмасфера сёння нейкая... не такая...

— Ну альбо вы выпілі звыш нормы, — весела сказаў Элеры, караскаючыся ўверх.

Гарднэр быў у піжаме і халаце, з ускудлачанымі валасамі.

— Ды колькасць мною выпітага і згадваць не варта. Мабыць, усё праз гэты кляты дождж. Настрой скача.

— Штосьці такое, ага. Гардзі, зрэшты, у законы «Паэтыкі» верыў*... Калі вам не спіцца, можам пайсці да мяне пакурыць.

— Вы ўпэўнены, што я не...

— Перашкодзіце? Не кажыце лухты. Адзінай прычынай, з якой я спусціўся і ўзяў кнігу, было жаданне заняць галаву хоць чым-небудзь. Размова непараўнальна лепшая за прыгоды Гека Фіна, хоць часам і ён дапамагае. Хадзем.

Яны падняліся да Элеры, дзе гаспадар выклаў цыгарэты. Яны расслаблена разваліліся ў фатэлях і, курачы, з прыемнасцю прабалбаталі, пакуль праз шчыльныя шэрыя патокі дажджу не пачаў прабівацца світанак. Гарднэр, пазяхаючы, пайшоў да сябе, а Элеры праваліўся ў цяжкі неспакойны сон.

* * *

...Ён вісеў на нейкім слупе ў прасторнай катавальні Інквізіцыі, а ягоная левая рука была выбітая з плечавога суставу. Боль быў амаль прыемны.

А потым ён прачнуўся і ўбачыў перад сабою румяны твар Мілана ў нясцерпным дзённым святле. Валасы шафёра былі трагічна растрапаныя, і ён з усяе сілы трос Элеры за руку.

— Містэр Куін! — крычаў ён. — Містэр Куін, Богам малю, прачніцеся!

Уздрыгнуўшы, Элеры рэзка сеў.

— Што здарылася?

— Містэр Оўэн... ён... ён знік!

Элеры падскочыў на ложку.

— Хлопец, ты што нясеш?

— Знік, містэр Куін! Мы... мы знайсці яго не можам! Проста выпарыўся! Місіс Оўэн у поўнай...

— Мілан, ідзі ўніз, — спакойна сказаў Элеры, скідваючы піжамную кашулю, — і налі сабе чаго выпіць. Калі ласка, перадай місіс Оўэн, каб не рабіла нічога, пакуль я не спушчуся. І каб ніхто не думаў выходзіць з дому або куды-небудзь званіць. Зразумеў?

— Так, сэр! — прашаптаў Мілан і, спатыкаючыся, выбег.

Элеры апрануўся з хуткасцю пажарнага, апаласнуў твар, паправіў гальштук і рынуўся ўніз. На канапе рыдала Лора Оўэн у памятым халаце. Місіс Мэнсфілд гладзіла дачку па плячы. Юны Джонатан Оўэн кідаў на бабулю злосныя позіркі. Эмі Ўілаўз моўчкі курыла. Збялелыя Гарднэры ціха стаялі каля вокнаў, зацягнутых шэрай дымкаю.

— Містэр Куін! — жвава загаварыла акторка. — Гэта проста абуральна не ўпісваецца ў сцэнар. Прынамсі, так думае Лора Оўэн. Вы можаце сказаць ёй, што яе паніка, магчыма, і шэлега не вартая?

— Не магу, — усміхнуўся ёй Элеры, — пакуль не вывучу факты. Оўэн знік? Як? Калі?

— Ох, містэр Куін, — здушана прашаптала місіс Оўэн, падымаючы заліты слязьмі твар, — здарылася нешта жахлівае! У мяне было адчуванне... памятаеце, мінулы вечар, калі Рычард паказваў вам ваш пакой?

— Так.

— Дык вось, потым ён вярнуўся ўніз, у сваю каморку — нешта яму трэба было яшчэ зрабіць да панядзелка, — а мне сказаў ісці спаць. Усе астатнія да таго часу падняліся наверх, слугі таксама. Я папрасіла яго доўга не заседжвацца і пайшла. Я... я вельмі стамілася, таму заснула амаль адразу...

— Вы з мужам спіце ў адным пакоі, місіс Оўэн?

— Так. Я заснула і прачнулася толькі паўгадзіны таму. І тады... тад-ды ўбачыла...

Яна ўздрыгнула і зарыдала зноў. Яе маці раздражнёна і бездапаможна агледзелася вакол.

— Ягоны ложак неразабраны, містэр Куін. З адзення было толькі тое, што ён пакінуў на крэсле, калі пераапранаўся ў касцюм. Я спалохалася і пабегла ўніз, а яго няма...

— Вось як, — дзіўным тонам працягнуў Элеры, — дык значыць, ён да гэтага часу ў касцюме Капялюшніка? Вы зазіралі ў ягоную шафу? Што-небудзь з яго паўсядзённага адзення не знікла?

— Не-не, усё на месцы. О Божа, ён памёр! Я ведаю, ён памёр!..

— Лора, мілая, супакойся, — строгі голас місіс Мэнсфілд дрыжаў.

— Мама, гэта так жахліва!..

— Ну-ну, — сказаў Элеры, — давайце без істэрык. У яго былі прычыны хвалявацца? Якія-небудзь справы, напрыклад?

— Я ўпэўненая, што не. Да таго ж, акурат учора ён сказаў, што на справы жаліцца грэх. Ды і ўвогуле ён не з тых, хто схільны турбавацца.

— Магчыма, страта памяці? Ці не давялося яму нядаўна перажыць шок?

— О не.

— Калі забыць пра касцюм, ён не мог паехаць на працу?

— Не. У суботы ён там ніколі не паказваўся.

Юны Джонатан сціснуў кулакі ў кішэнях кароткай чорнай курткі і злосна прабурчаў:

— Ды надраўся ён зноў, дакладна вам кажу. А мама праз яго плача. Спадзяюся, ён ніколі не вернецца.

— Джонатан! — завішчала місіс Мэнсфілд. — Зараз жа пайшоў у свой пакой! Чуеш мяне? Зараз жа, невыноснае ты чучала!

Ніхто не азваўся ні словам. Місіс Оўэн забылася ў рыданнях, таму юны Джонатан надзьмуўся, з непрыхаванай агідай паглядзеў на бабулю і патупаў наверх.

— Дзе вы бачылі мужа апошні раз, місіс Оўэн? — нахмурыўшыся, спытаў Элеры. — Тут?

— У ягонай каморцы, — з цяжкасцю вымавіла жанчына. — Ён туды зайшоў, калі я падымалася па лесвіцы. Вунь у тыя дзверы.

Яна паказала на дзверы справа ад бібліятэкі. Элеры застыў. Гэта быў той самы пакой, куды ён забрыў мінулай ноччу ў пошуках бібліятэкі.

— Вы думаеце... — хрыпла загаварыла Кэралайн Гарднэр і асеклася. Яе вусны неяк патанчэлі, і ў шэрым дзённым святле яе валасы ўжо не здаваліся такімі ярка-рудымі, а вочы — такімі зялёнымі. Яна зрабілася бледнаю копіяй сябе самой, нібыта тое, што здарылася, высмактала з яе ўсю жыццёвую сілу.

— Не лезь, Кэралайн! — рэзка сказаў Пол Гарднэр. Ягоныя вочы пачырванелі ад бяссоння.

— Ціха, ціха, — прабурчаў Элеры. — Магчыма, міс Ўілаўз мае рацыю, і мы тут дарма падымаем шум. Прашу мяне прабачыць... я пайду зірну на кабінецік.

Ён зайшоў у «каморку» Рычарда Оўэна, зачыніў за сабою дзверы і стаў спінаю роўна насупраць іх. Гэта быў маленькі пакой, непараўнальна большы ў даўжыню, чым у шырыню. Мінімум мэблі, як на працоўным месцы. Акуратная строгасць абстаноўкі адпавядала простаму і жорсткаму характару Рычарда Оўэна. Тут панаваў парадак, як у аперацыйнай, і ўявіць гэты пакой месцам злачынства было нават неяк смешна. Не ўяўлялася.

Элеры ўглядаўся доўга і ўважліва. Наколькі ён мог меркаваць, усё было на сваім месцы — і нічога, што мож-

на хаця б з нацяжкаю назваць дзіўным. І тут яго позірк уперся ў тое, што стаяла проста перад носам. Вось яно.

Прыхіліўшыся да дзвярэй, ён глядзеў проста ў вялізнае зіхоткае люстэрка, што займала ўсю супрацьлеглую сцяну ад падлогі да столі, — дзіўны дадатак да абстаноўкі пакоя. Худая фігура Элеры, дзверы за яго спінай — усё выразна адбівалася ў бліскучым шкле. А там, наверсе... У люстры над адбіткам дзвярэй, да якіх ён прыхіліўся, Элеры ўбачыў адбітак сучаснага электрычнага гадзінніка. У бляклым святле шэрага дня яго цыферблат выглядаў неяк... нязвыкла ярка. Элеры адышоў ад дзвярэй, павярнуўся і ўскінуў галаву. Гадзіннік быў зроблены з хрому і оніксу і меў каля фута ў дыяметры. Просты, круглы, бліскучы.

Элеры адчыніў дзверы і гукнуў Мілана, які ўжо далучыўся да маўклівай кампаніі ў гасцёўні.

— Гэй! У вас драбінкі ёсць?

Мілан прыцягнуў што трэба было. Элеры ўсміхнуўся яму, надзейна замкнуў дзверы, залез на драбінкі і агледзеў гадзіннік. Разетка была ззаду, усё падключана. Гадзіннік ішоў і час паказваў амаль дакладна — Элеры зверыўся са сваім. Ён склаў далоні казырком і наблізіў твар да гадзінніка. Як ён і меркаваў, стрэлкі і цыферблат былі пакрытыя радыем і слаба свяціліся.

Ён злез, адамкнуў дзверы, аддаў драбінкі ў клапатлівыя рукі Мілана і ўрачыста праплыў у гасцёўню. Усе даверліва ўтаропіліся яму ў твар.

— Ну, — сказала Эмі Ўілаўз, злёгку пацепнуўшы плячыма, — містэр Мегамозг знайшоў Самы Галоўны Доказ? Толькі не кажыце нам, што мілы Дзікі Оўэн пагнаў гуляць у гольф на блаславёных палях Мідаўбрука ў касцюме Шалёнага Капялюшніка.

— Ну што там, містэр Куін? — з трывогай спытала місіс Оўэн.

Элеры бухнуўся на крэсла і закурыў.

— Там нешта вельмі цікавае. Місіс Оўэн, вам гэты дом дастаўся з мэбляй?

— Мэбляй? — здзіўлена перапытала Лора Оўэн. — О не, купіўшы яго, мы перавезлі сюды ўсе свае рэчы.

— Значыць, электрычны гадзіннік над дзвярыма ў кабінеце ваш?

— Гадзіннік? — шырока раскрыла вочы місіс Оўэн. — Ну безумоўна. А ў чым...

— Гм, — сказаў Элеры, — гэты гадзіннік, знаеце, умее знікаць, нібыта Чэшырскі кот. Нешта зноў кэралаўскім духам пахне, праўда, міс Ўілаўз?

— Але як звязаны гадзіннік са знікненнем Рычарда? — раздражнёна спытала місіс Мэнсфілд.

Элеры пацiснуў плячыма.

— *Je n'sais*[1]. Рэч у тым, што каля дзвюх гадзінаў ночы, не ў змозе заснуць, я прагуляўся ўніз, каб узяць якую кнігу. У цемры я пераблытаў гэтую самую каморку з бібліятэкай і сунуўся туды. І ведаеце, я там нічога не ўбачыў.

— Але як там можна было штосьці ўбачыць, містэр Куін? — ціха спытала Кэралайн Гарднэр. — Цёмна ж было.

— У тым і штука, — павольна вымавіў Элеры. — Сёетое я павінен быў убачыць менавіта таму, што было цёмна, місіс Гарднэр.

— А...

— Гадзіннік над дзвярыма.

— Хто-небудзь разумее, пра што ён? — нахмурылася Эмі Ўілаўз. — Пра сябе такога сказаць не магу. Гадзіннік?..

— Там насупраць дзвярэй люстра, — спакойна растлумачыў Элеры. — І тое, што я ў цемры нічога не ўба-

[1] Не ведаю *(фр.)*.

чыў, вельмі паказальна. Таму што лічбы і стрэлкі гэтага гадзінніка свецяцца, і іх адбітае люстрам свячэнне я мусіў бачыць вельмі выразна нават у той непрагляднай цемры. Але я не ўбачыў нічога. Без перабольшанняў: увогуле нічога.

Збянтэжаныя, усе маўчалі. Потым Гарднэр прамармытаў:

— Я ўсё адно не разумею... Вы хочаце сказаць, штосьці... хтосьці стаяў перад люстэркам, засланяючы адлюстраванне гадзінніка?

— Ды не. Гадзіннік жа вісіць на дзвярыма, там добрыя сем футаў ад падлогі, люстэрка да столі дастае. У пакоі няма ніводнага прадмету мэблі вышынёй сем футаў, і думку пра нязванага госця сямі футаў росту ці вышэйшага можна таксама без ваганняў выкінуць з галавы. Не, Гарднэр, хутчэй гадзінніка ўвогуле не было над дзвярыма, калі я туды зазірнуў.

— А вы ўпэўнены, малады чалавек, — праскрыгатала місіс Мэнсфілд, — што ўвогуле ведаеце, пра што гаворыце? Мне здавалася, мы абмяркоўвалі знікненне майго зяця. І як, скажыце вы мне, там не магло быць гадзінніка?

Элеры прыкрыў вочы.

— Элементарна. Яго адтуль прыбралі. Яго там не было, калі я адчыніў дзверы. А калі я сышоў, вярнулі.

— А цяпер мне скажыце, — прамовіла акторка, — навошта камусьці прыбіраць гадзіннік са сцяны, містэр Куін? Гэта ж практычна абсурд з Краіны цудаў.

— Гэтае пытанне я сабе і задаю, — адказаў Элеры. — Шчыра кажучы, адказ мне невядомы. — Ён расплюшчыў вочы. — Дарэчы, хто-небудзь бачыў Капялюшнікаў капялюш?

Місіс Оўэн уздрыгнула.

— Н-не. Ён... ён таксама знік.

— Вы шукалі?

— Так. Калі вы хочаце...

— О не, я паверу вам на слова, місіс Оўэн. Добра. У вашага мужа ёсць ворагі? Разумееце, гэта звыклае пытанне, — усміхнуўся Элеры. — Баюся, я не змагу пазбавіць вас усіх непрыемнасцяў руціннага расследавання.

— Ворагі? Ды не, — дрыготкім голасам сказала місіс Оўэн. — Рычард быў... н-ну, ён грубаваты і... часам даволі рэзкі і фанабэрысты, але я ўпэўненая: ніхто не ненавідзеў яго настолькі, каб... каб забіць.

Яна зноў уздрыгнула і лепей захуталася ў халат.

— Не кажы так, Лора! — рэзка азвалася місіс Мэнсфілд. — Ну вы як дзеці нейкія! Гэтаму мусіць знайсціся самае простае тлумачэнне!

— Цалкам магчыма, — бадзёра адказаў Элеры. — Думаю, ва ўсім магнітныя буры вінаватыя... О! Там, здаецца, дождж скончыўся.

Усе вяла глянулі ў акно. Дажджу сапраўды не было, і неба пасвятлела.

— Безумоўна, ёсць некалькі магчымых версіяў, — працягваў Элеры. — Імаверна... я сказаў «імаверна», місіс Оўэн... вашага мужа... ну... выкралі. Аяй, ды не трэба так палохацца, гэта ўсяго толькі версія. Нам вядома, што ён знік проста ў касцюме, і гэта наводзіць на думку, што знікненне было нечаканым і — цалкам магчыма — гвалтоўным. Вы ніякага такога паведамлення не атрымлівалі? У паштовай скрыні нічога? Што там з ранішняй поштай?..

— Выкралі... — знясілена прашаптала місіс Оўэн.

— Выкралі?.. — выдыхнула місіс Гарднэр і закусіла губу. Але вочы яе прасвятлелі, як неба за вокнамі.

— Ні паведамленняў, ні лістоў! — рыкнула місіс Мэнсфілд. — Як на мяне, гэта проста смешна! Лора, гэта, безумоўна, твой дом, але думаю, што мой абавязак... Адно з двух. Альбо ўспрыняць гэта сур'ёзна і выклікаць

*сапраўдную* паліцыю, альбо пра ўсё забыць. Асабіста я схіляюся да таго, што Рычард набраўся — ён усё ж вельмі шмат учора выпіў, мілая, — і цяпер бадзяецца недзе п'яны. Вось убачыш, ён праспіцца і вернецца, а самым цяжкім наступствам усяго гэтага будзе моцная прастуда.

— Цудоўная прапанова, — вымавіў Элеры, ледзь не пазяхаючы. — Усё ў ёй цудоўна, апроч патрабаванняў *сапраўднай* паліцыі. Насмелюся заверыць, што ў мяне ёсць… гм… адпаведная кваліфікацыя. Давайце зробім выгляд, што паліцыя ўжо тут. Калі раптам з'явіцца хоць найменшая падстава яе выклікаць, я сам гэта зраблю. Тым часам давайце паспрабуем забыць непрыемнасці і крыху пачакаць. Калі да змяркання містэр Оўэн не вернецца, мы параімся і вырашым, што рабіць. Згода?

— Гучыць слушна, — змрочна прамовіў Гарднэр. — Куін, а мне можна, — ён збянтэжана ўсміхнуўся і пацiснуў плячыма, — на працу пазваніць?

— Ды безумоўна званіце!

Місіс Оўэн раптам гучна ўскрыкнула, ускочыла і пачыкільгала да лесвіцы.

— Сёння ж дзень нараджэння Джонатана! І вечарынка! Я пра ўсё забыла! Што ж я скажу ўсім дзецям, якіх ён назапрашаў?

— Прапаную сказаць, — сумна ўздыхнуў Элеры, — што юны Джонатан захварэў, місіс Оўэн. Жорстка, так, але неабходна. Вам варта абзваніць усіх запрошаных на вар'яцкае чаяванне і выбачыцца.

Элеры ўстаў і скіраваўся ў бібліятэку.

* * *

Дзень атрымаўся бязрадасным, нягледзячы на асляпляльнае сонца ў паяснелым небе. Раніца мінула, і нічога не адбылося. Місіс Мэнсфілд праявіла настойлівасць, змусіла дачку легчы ў ложак, глынуць люміналу з вялі-

кай бутлі ў аптэчцы і заставалася пры ёй, пакуль місіс Оўэн знясілена не правалілася ў сон. Потым пажылая лэдзі абзваніла запрошаных і ад імя ўсіх Оўэнаў выбачылася, што вось так выйшла: у Джонатана напэўна ліхаманка пачалася.

Згаданы юны джэнтльмен, даведаўшыся ад бабулі пра адмену вечарынкі, усчаў такі пранізлівы лямант і прадэманстраваў такую моц надзіва здаровых лёгкіх, што Элеры, які шнырыў унізе па бібліятэцы, кінула ў халодны пот. Сумеснымі высілкамі Мілану, місіс Мэнсфілд і служанцы з кухаркаю ўдалося ўтаймаваць надзею сям'і Оўэнаў, а кантрыбуцыя ў пяць даляраў канчаткова наладзіла міжнародныя адносіны.

Эмі Ўілаўз цэлы дзень ціхамірна чытала. Гарднэры вяла гулялі ў брыдж.

Абед прайшоў змрочна. Размаўлялі за сталом каротка і сцісла, і над усім павісла цяжкая гнятлівая атмасфера.

Удзень усе бадзяліся па доме, нібы прывіды, што не знаходзяць спакою. Нават акторка пачала выяўляць прыкметы хвалявання, знішчыўшы незлічоную колькасць цыгарэтаў і кактэйляў і занурыўшыся ў амаль злавеснае маўчанне. Ніякіх вестак не прыходзіла. Тэлефон зазваніў толькі аднойчы, і тое гэта быў кандытар, абураны адмененым заказам на марозіва. Элеры тым часам шаманіў то ў кабінеце, то ў бібліятэцы. Чаго ён шукаў, ніхто так і не даведаўся. А пятай гадзіне ён выйшаў у гасцёўню, даволі-такі шэры з твару. Паміж бровамі ў яго залягла глыбокая складка. Ён выйшаў на ганак і абаперся аб парэнчы, цалкам занурыўшыся ў думкі. Гравій на пад'язной алеі ўжо высах — сонца хутка расправілася з дажджом.

Калі Элеры вярнуўся ў дом, ужо цямнела, і з кожнаю хвілінаю ўсё бліжэй падступала ноч.

Унізе было пуста: прыгнечаныя насельнікі дома разбрыліся па сваіх пакоях. Элеры адшукаў крэсла, закрыў твар далонямі і доўга сядзеў так, не варушачыся.

Нарэшце, вырашыўшы нешта, ён падняўся, наблізіўся да лесвіцы і прыслухаўся. Ні гуку. Тады ён на дыбачках падышоў да тэлефона, зняў трубку і наступныя пятнаццаць хвілінаў ціха і сур'ёзна размаўляў з кімсьці ў Нью-Ёрку, а потым падняўся да сябе.

Праз гадзіну, калі ўнізе ўсе сабраліся на вячэру, Элеры, не заўважаны нават кухаркаю, выслізнуў праз чорны ход і на пэўны час схаваўся ў густой цемрадзі саду.

* * *

Як гэта здарылася, Элеры не зразумеў. Ён адчуў, што нешта не так, неўзабаве пасля вячэры. Пазней, перабіраючы ў памяці падзеі, ён згадаў, што і астатнія выглядалі нейкімі вялымі прыкладна ў той самы час. Вячэру падалі халоднаю і пазней, чым звычайна: знікненне Оўэна кепска паўплывала на арганізаванасць прыслугі. Такім чынам, крыху пасля васьмі тая самая служанка са стройнымі ножкамі падала каву — Элеры пазней упэўніўся, што гэта была менавіта кава. Праз паўгадзіны на яго напала дрымота. Яны сядзелі ў гасцёўні, вяла перакідваючыся пустымі рэплікамі. Бледная і маўклівая місіс Оўэн прагна піла каву — здаецца, ужо другі кубак. І толькі місіс Мэнсфілд прасякнулася баявым духам і цвёрда збіралася выклікаць вартавых парадку: яна непахісна верыла ў паліцэйскіх Лонг-Айлэнда і асабліва ў іх начальніка, прэфекта Нотана. Элеры ж яна ясна дала зразумець, што не сумняецца ў ягонай некампетэнтнасці. Гарднэр з выразам трывогі і нейкай незадаволенасці на твары корпаўся з піяніна ў нішы. Эмі Ўілаўз зусім прыціхла і, нібыта закрыўшыся ў сабе, час ад часу пазірала вакол прымружанымі вачыма. Місіс Гарднэр нервавалася. Джонатана са скандалам загналі спаць.

І тут усе адчуванні нібы накрыла мяккаю і падступнаю снежнай коўдрай. Навалілася прыемная дрымота. У пакоі было вельмі цёпла, і Элеры ў паўсне адчуваў, як па ілбе сцякаюць бісерынкі поту. Ён ужо амаль адключыўся, калі ў пацяжэлай галаве загарэўся сігнал трывогі. У паніцы спрабуючы ўстаць, прымусіць сябе рухацца, ён усё больш правальваўся ў сон, свядомасць пакідала яго, а цела цяжэла і рабілася далёкім, быццам Вега. Пакой закруціўся перад вачыма, усіх, хто там быў, Элеры пабачыў як праз туман, і апошняю асэнсаванай думкаю было: «Нас атруцілі».

...Галавакружэнне знікла гэтак жа раптоўна, як з'явілася. Перад закрытымі вачыма танчыла мноства кропачак, а ў скроні хтосьці нахабна грукаў малаточкамі. Зірнуўшы на белы свет, Элеры ўбачыў сонца, што свяціла проста ў твар. Божа, цэлая ноч прайшла...

Ён са стогнам сеў і ўзяўся за галаву. Вакол, цяжка дыхаючы, у нязграбных позах разваліліся ўсе насельнікі дома. Побач хтосьці паварушыўся і ўздыхнуў — знясілены мозг доўга адмаўляўся пазнаваць Эмі Ўілаўз. Элеры ўстаў. Спатыкаючыся, ён скіраваўся да хатняга бара і наліў сабе конскую дозу шатландскага віскі. Апёкшы пойлам горла і адчуўшы сябе непараўнальна лепей, ён падышоў да акторкі і мякка патрос яе за плячо. Яна раскрыла вочы і з няўцямнай трывогаю паглядзела на яго.

— Што... дзе...

— Усыпілі, — прахрыпеў Элеры. — Усю кампанію. Паспрабуйце ажывіць гэтых людзей, міс Ўілаўз, а я тут крыху агледжуся. І паглядзіце, калі ласка, ці не сімулюе хто.

Крыху хістаючыся, Элеры мужна скіраваў ступы свае ў службовыя памяшканні і навобмацак дайшоў да кухні. Служанка Мод, Мілан і кухарка, непрытомныя, абмяк-

лі ў крэслах вакол стала над кубкамі з астылай кавай. Элеры вярнуўся ў гасцёўню, кіўнуў Эмі, што завіхалася над Гарднэрам каля піяніна, і папоўз наверх. Пасля кароткіх росшукаў ён натрапіў на пакой юнага Джонатана. Хлопчык спаў глыбокім натуральным сном, пра што сведчыла здаровае сапенне. Святыя нябёсы, ён і праўда соп! Стогнучы, Элеры зайшоў у прыбіральню побач з пакоем, а неўзабаве спусціўся і прайшоў у кабінет Оўэна. Літаральна праз імгненне ён выскачыў адтуль з абсалютна ашалелымі вачыма, садраў з вешалкі свой капялюш і кінуўся вонкі пад промні цёплага сонца. Чвэрць гадзіны ён вывучаў мясцовасць. Дом Оўэна стаяў на ўзлеску і здаваўся адасобленым, нібы каўбойскае ранча.

Калі Элеры, змрочны і засмучаны, вярнуўся ў дом, усе ўжо ачомаліся і нават спрабавалі выдаваць нейкія гукі. На яго спалохана ўскінуліся некалькі параў вачэй.

— Куін, якога чорта... — прахрыпеў Гарднэр.

— Хто б гэта ні быў, ён выкарыстаў люмінал, які забраў у прыбіральні наверсе, — сказаў Элеры, кідаючы капялюш і крывячыся ад раптоўнага болю ў галаве. Той самы, які місіс Мэнсфілд дала ўчора місіс Оўэн. Бутэлька пустая. Выключнае снатворнае! А цяпер уладкуйцеся зручней, а я правяду невялічкае расследаванне на кухні. Думаю, гэта была кава.

Вярнуўся ён з незадаволенай грымасай.

— Не выйшла. Па ўсім відаць, *madame la cuisinière*[1] адзін раз адлучалася ў прыбіральню, Мілан быў з машынамі ў гаражы, а Мод была незразумела дзе, але відавочна прыхарошвалася. Выснова: у нашага сябра-люмінальніка была магчымасць высыпаць увесь парашок з бутлі ў кафейнік. Д'ябал!

— Я. Выклікаю. Паліцыю! — істэрычна закрычала місіс Мэнсфілд, паспрабаваўшы ўскочыць з крэсла. Нас

[1] Мадам кухарка *(фр.)*.

усіх заб'юць ва ўласных ложках, вось што будзе! Лора, я катэгарычна настойваю...

— Ціха, ціха, місіс Мэнсфілд, — стомлена прамовіў Элеры. — Давайце без пафасу. Вы зробіце нашмат карыснейшую справу, калі ўтаймуеце бунт, што спее на кухні. Магу паклясціся, жанчыны ўжо валізы пакуюць.

Місіс Мэнсфілд падціснула вусны і вылецела прэч. Праз момант усе пачулі яе саладжавы голас, які ўгаворваў і ўпрошваў.

— Куін! — запратэставаў Гарднэр. — Як можна адмаўляцца ад аховы?

— А я вось эгаістычна хацела б даведацца, — павольна вымавіла Эмі Ўілаўз пабялелымі вуснамі, — хто і навошта гэта зрабіў. Бутэлька наверсе бессаромна ўказвае на аднаго з нас, так?

Місіс Гарднэр ускрыкнула. Місіс Оўэн упала назад на крэсла.

— Аднаго з нас? — прашаптала рудавалосая жанчына.

Элеры нявесела ўсміхнуўся. Раптам ён павярнуў галаву да вестыбюля, і ўсмешкі як не было.

— Што гэта? — рэзка спытаў ён.

Перапалоханыя, усе паглядзелі туды, але нічога не ўбачылі. Элеры кінуўся да дзвярэй.

— Што там зноў, Божа ж ты мой?.. — прамямліла місіс Оўэн.

— Мне падалося, я нешта чую, — Элеры разнасцежыў дзверы.

Вестыбюль затапіла сонечнае святло. Усе ўбачылі, як Элеры нахіліўся і падабраў штосьці з ганку. Потым ускочыў, хутка агледзеў двор, але пахітаў галавою і пайшоў назад, замкнуўшы дзверы.

— Пакет нейкі, — панура сказаў ён. — Значыць, не падалося.

Ён уважліва агледзеў скрутак, загорнуты ў карычневую паперу.

— Пакет? — спытала місіс Оўэн. Яе твар прасвятлеў. — Гэта ж ад Рычарда! — І тут жа радасць змянілася жахлівай бледнасцю. — О Божа! Вы думаеце...

— Адрасавана вам, місіс Оўэн, — павольна сказаў Элеры. — Марак няма, штампу няма, напісана алоўкам, дурацкімі друкаванымі літарамі. Я вазьму на сябе смеласць яго ўскрыць.

Ён зняў тонкі шпагат і разарваў неахайны скрутак. А потым нахмурыўся яшчэ больш: у пакеце была толькі пара мужчынскіх туфляў са зношанымі падэшвамі — спартыўныя бела-карычневыя «оксфарды».

Вочы місіс Оўэн закаціліся, а ноздры задрыжалі нібы ад агіды.

— Гэта Рычарда! — выдыхнула яна і амаль непрытомная ўпала на крэсла.

— Праўда? — прамармытаў Элеры. — Як цікава. Безумоўна, не тыя, што былі на ім у пятніцу. Вы ўпэўненыя, што гэта ягоныя, місіс Оўэн?

— Божа, яго і праўда выкралі! — прапішчала місіс Мэнсфілд ад дзвярэй кухні. — А т-там няма запіскі ці... ці... кр-рыві?..

— Толькі туфлі. Але мне ўжо нешта не верыцца ў выкраданне, місіс Мэнсфілд. Гэта не тыя туфлі, што былі на ім у пятніцу, місіс Оўэн. Калі вы бачылі іх апошні раз?

— У ягонай шафе наверсе... учора ўдзень. О-о... — прастагнала жанчына.

— Ага-а! — бадзёра адгукнуўся Элеры. — Усе зразумелі? Магчыма, іх скралі з шафы, акурат калі мы ўсе валяліся без прытомнасці ўчора вечарам. А цяпер вярнулі так вось... эфектна. Пакуль, як бачыце, нікому шкоды не прынеслі, але баюся, — сувора сказаў ён, — мы прыгрэлі змяю на грудзях.

Ніхто не засмяяўся. Міс Ўілаўз разгублена прамовіла:

— Вельмі дзіўна. Нават абсурдна. Містэр Куін, я не бачу ва ўсім гэтым ні намёку на нейкую мэту.

— Я пакуль таксама. Альбо хтосьці так мярзотна забаўляецца, альбо адточвае на ўсім гэтым свой д'ябальскі розум.

Элеры адшукаў капялюш і рушыў да дзвярэй.

— Вы куды? — з трывогай вымавіла місіс Гарднэр.

— Пайду крыху падумаю пад боскім сінім купалам. Але майце на ўвазе, — сур'ёзна дадаў ён, — што прывілей гэты падараваны толькі дэтэктывам. Нават нос вонкі высоўваць не смейце.

Элеры вярнуўся праз гадзіну і нічога нікому не патлумачыў.

* * *

Другі пакет яны знайшлі апоўдні — амаль квадратны, загорнуты ў такую ж карычневую паперу. Унутры аказалася кардонная скрынка, а ў ёй — два цудоўныя цацачныя караблікі, запакаваныя ў пакамечаную папіросную паперу. Дзеці вельмі любяць пускаць такія па стаўках. Адрасаваная пасылка была міс Ўілаўз.

— Гэта ўжо неяк жудасна, — сакавітыя вусны місіс Гарднэр задрыжалі. — Проста мурашкі па скуры.

— Не каб які акрываўлены кінжал прыслаць, — прабурчала міс Ўілаўз. — Цацачныя караблікі! — яна адступіла назад і прыжмурыла вочы. — Значыць так, людзі добрыя, я таксама забаўкі люблю, але жарт мусіць заставацца жартам, а гэты мне нешта надакучыў. Чыіх свавольных ручак гэта фокусы?

— Жарт?! — рыкнуў Гарднэр, бледны як смерць. — Гэта ж выбрыкі нейкага шаленца, гатовы паклясціся!

— Ну-ну, — прабурчаў Элеры, разглядаючы салатавыя караблікі. — Так мы і з месца не зрушымся. Місіс Оўэн, вы іх калі-небудзь раней бачылі?

Місіс Оўэн, гатовая проста тут і цяпер грымнуцца без прытомнасці, прамармытала:

— О Божа літасцівы, містэр Куін, я нават не... чакайце, дык гэта... гэта ж Джонатана!

Элеры міргнуў. Потым падышоў да лесвіцы і загарлаў:

— Джоні! А хадзі ты сюды на хвілінку!

Надзьмуты юны Джонатан ляніва спусціўся і ледзяным тонам спытаў:

— Чаго трэба?

— Падыдзі, сынок.

Хлопчык наблізіўся, ледзь цягнучы ногі.

— Скажы, дзе ты апошні раз бачыў свае караблікі?

— Караблікі?! — падскочыў юны Джонатан, імгненна вяртаючыся да жыцця. Ён учапіўся за цацкі і пацягнуў іх на сябе, свідруючы Элеры позіркам. — Мае караблікі! Не, ну абалдзець! Ты іх сцягнуў!

— Ціха, ціха, — сказаў Элеры, чырванеючы, — будзь харошым хлопчыкам. Калі ты іх бачыў апошні раз?

— Учора! У скрыні маёй з-пад цацак! Маё! Аддай, гад! — прашыпеў юны Джонатан і кінуўся наверх, прыціскаючы караблікі да худых грудзей.

— Скрадзеныя ў той самы час, — бездапаможна развёў рукамі Элеры. — Каб мяне! Міс Ўілаўз, я ўжо амаль з вамі згодны. Дарэчы, місіс Оўэн, а хто падараваў вашаму сыну караблікі?

— Яго б-бацька.

— Д'ябал! — вылаяўся Элеры другі раз за гэтую бязбожную нядзелю і адправіў усіх шукаць, ці не знікла з дому што яшчэ. Аднак марна — ніхто нічога не знайшоў.

* * *

Калі ўсе спусціліся ўніз, то ўбачылі, што Элеры збянтэжана разглядае невялікі белы канверт.

— Што яшчэ? — раз’юшана спытаў Гарднэр.

— Падсунулі пад дзверы, — задуменна азваўся Элеры. — Я яго раней не заўважыў. Лухта нейкая...

Гэта быў раскошны папяровы выраб, запячатаны блакітным сургучом, з алоўкавым надпісам тымі ж нязграбнымі друкаванымі літарамі. Гэтым разам адрасатам была місіс Мэнсфілд.

Пажылая лэдзі, схапіўшыся за сэрца, упала на найбліжэйшае крэсла, анямеўшы ад жаху.

— Ладна, — хрыпла сказала місіс Гарднэр, — адкрывайце.

Элеры разарваў канверт. Бровы яго ссунуліся на пераноссі.

— Гм, — прамармытаў ён, — тут нічога няма.

Гарднэр адвярнуўся, грызучы пазногці і мармычучы нешта няўцямнае. Місіс Гарднэр патрэсла галавою, як баксёр пасля накдаўна, і пяты раз за дзень папляласся да бара. Твар Эмі Ўілаўз пацямнеў, як неба перад бураю.

— А ведаеце, — амаль спакойна сказала місіс Оўэн, — гэта маёй маці канверт.

Павісла цішыня.

Элеры прамармытаў:

— Усё цікавосцей і цікавосцей. Мне трэба прывесці гэта ў сістэму... Туфлі — намёк на фокусніка?.. Караблікі можна інтэрпрэтаваць як падарунак... учора быў дзень нараджэння Джонатана... цацкі ягоныя... дурны перакручаны жарт, — ён патрос галавой. — Не, гэта ні ў якія вароты... Цяпер канверт... можа, важны сам канверт?.. Але ён належыць місіс Мэнсфілд. Што тут яшчэ... ах, сургуч!

Ён уважліва агледзеў гладкі блакітны сургуч без ніякага адбітку ці кляйма.

— Гэта, здаецца, таксама наш сургуч, — безжыццёва прамовіла місіс Оўэн. — З бібліятэкі.

Элеры сарваўся з месца і памчаў у бібліятэку. Усе, зляканыя, пабеглі за ім.

Місіс Оўэн падышла да стала і адкрыла верхнюю шуфляду.

— Ён ляжаў тут? — хутка спытаў Элеры.

— Так, — кіўнула жанчына, і голас яе задрыжаў. — Я яго брала ў пятніцу, калі пісала ліст. О Божа...

Сургучу ўнутры не было.

Яны ашалела глядзелі ў шуфляду. І тут у дзверы пазванілі.

* * *

Гэтым разам на ганку стаяў нявінны рынкавы кошык, у якім утульна зелянелі дзве хрумсткія галоўкі капусты.

Элеры клікнуў Гарднэра з Міланам і, узначаліўшы імправізаваны атрад, кінуўся ўніз па прыступках. Раздзяліўшыся, яны паспешліва абшнарылі хмызы і лес, што атачаў дом, але не знайшлі нічога. Ні следу чалавека, які пазваніў у дзверы, ні следу фантома, што пакінуў на ганку свой чацверты дзіўны падарунак — кошык з капустаю. Хіба што ён быў з дыму і матэрыялізаваўся адно на імгненне, каб дакрануцца да званка бясплотным пальцам.

У доме жанчыны з пабялелымі вуснамі забіліся ў кут. Місіс Мэнсфілд, дрыжучы як асінавы ліст, набірала нумар мясцовага паліцэйскага ўчастка. Элеры хацеў запярэчыць, але пацікнуў плячыма і моўчкі схіліўся над кошыкам.

Да ручкі быў прымацаваны шматок паперы. Такі самы неахайны надпіс алоўкам: «Містэру Полу Гарднэру».

— Падобна да таго, — прамармытаў Элеры, — што гэтым разам выбралі вас, дружа.

Гарднэр утаропіўся ў кошык, нібыта вачам не верачы.

— Капуста!

— Выбачайце, — адрывіста кінуў Элеры і выйшаў. Вярнуўся, паціскаючы плячыма.

— Кухарка сказала, яны з гароднiннай скрыні ў кладоўцы. Яна і не падумала праверыць, ці не знікла *гароднiна*, сказала мадам... пагардліва так.

Місіс Мэнсфілд нешта ўзрушана мармытала ў тэлефон цалкам збянтэжанаму дзяжурнаму паліцэйскаму. Паклаўшы трубку, яна выглядала так, нібыта наноў нарадзілася.

— Хопіць з нас гэтай дурасці, містэр Куін! — выкрыкнула яна, упаўшы на крэсла. Потым выбухнула істэрычным смехам і завішчала: — Так, Лора, ты зрабіла найвялікшую памылку ў сваім жыцці, выйшаўшы за гэтую скаціну! — і зноў захіхікала як вар'ятка.

Праз чвэрць гадзіны пад гукі сірэны і ў суправаджэнні маладога цыбатага памочніка прыбыла паліцыя ў асобе каржакаватага афіцэра з квадратным тварам. На ім была форма прэфекта.

— Я Нотан, — лаканічна прадставіўся ён. — Што тут у вас здарылася?

— А, прэфект Нотан, — сказаў Элеры. — Я сын Куіна... інспектара Рычарда Куіна з Галоўнай паліцэйскай управы Нью-Ёрка. Прыемна пазнаёміцца.

— Гм, — азваўся Нотан і павярнуўся да місіс Мэнсфілд. — Чаму вы не сказалі, што тут містэр Куін? Ці ж вы не ведаеце, што...

— Ох, як вы мне ўсе дадзелі! — закрычала пажылая лэдзі. — Суцэльны абсурд, абсурд, абсурд усе гэтыя два дні! Спачатку гэтая жахлівая акторка ў сваёй сукенцы караценькай, з-пад якой усё бачна, і ногі, і ўсё! А цяпер яшчэ і... гэта...

Нотан пацёр падбароддзе.

— Містэр Куін, хадземце адсюль туды, дзе можна пагаварыць па-чалавечы. Што ў вас, чорт дзяры, здарылася?

Элеры ўздыхнуў і пачаў расказваць. Па меры аповеду твар прэфекта чырванеў усё больш.

— Вы гэта сур’ёзна? — урэшце прaракатаў ён. — Як на мяне, суцэльны ідыятызм. Ды Оўэн з глузду з’ехаў і цяпер жартачкамі бавіцца. Дзеля ўсяго святога, ну нельга ж да гэтага ўсур’ёз ставіцца!

— Баюся, давядзецца, — ціха сказаў Элеры. — Што там? Клянуся, калі гэта зноў наш гуллівы фантом...

Ён кінуўся да дзвярэй і, пакуль Нотан ашалела глядзеў на яго, шырока іх расчыніў. У пакой уварвалася воблака пылу.

А на ганку ляжаў пяты скрутак, гэтым разам вельмі маленькі. Двое паліцэйскіх пабеглі на двор з моцнымі ліхтарамі. Элеры прагна схапіў пакет, які ўжо знаёмая рука адрасавала місіс Кэралайн Гарднэр. Усярэдзіне былі дзве аднолькавыя шахматныя фігуркі — чорны кароль і белы.

— Хто ў вас гуляе ў шахматы? — пасля паўзы спытаў Элеры.

Росшукі паказалі, што два каралі зніклі з шахматнай скрынкі Рычарда Оўэна.

* * *

Паліцэйскія вярнуліся бледныя і задыханыя. Яны нікога не знайшлі. Элеры моўчкі разглядаў фігуркі.

— Ну што? — грозна спытаў Нотан.

— Ну што, — спакойна сказаў Элеры, — у мяне з’явілася цудоўная ідэя, Нотан. Адыдзем на хвілінку.

Ён адвёў Нотана ўбок і хуткім шэптам пачаў яму нешта тлумачыць. Астатнія нервова тапталіся побач. Ніхто больш не спрабаваў прыкінуцца, што валодае сабою. Над усім маячыў прывід Рычарда Оўэна...

Прэфект прыжмурыўся і кіўнуў.

— Вы ўсе, — адрывіста загадаў ён, павярнуўшыся, — ідзіце ў бібліятэку.

На яго скіраваліся ашалелыя позіркі.

— Я сур'ёзна! Давайце! Гэтае блазенства трэба скончыць зараз жа.

— Але Нотан, — прашаптала місіс Мэнсфілд, — ніхто з нас не мог падкінуць гэта ўсё. Містэр Куін можа пацвердзіць, што не спускаў з нас вачэй цэлы дзень...

— Рабіце як я сказаў, місіс Мэнсфілд, — адрэзаў прэфект.

Разгубленыя, усе пацягнуліся ў бібліятэку. Адзін з паліцэйскіх збегаў і прывёў Мілана і служанку з кухаркай. Ніхто ні на кога не глядзеў і не казаў ні слова. Прайшло некалькі хвілін... паўгадзіны... гадзіна. Навокал стаяла магільная цішыня. Яны напружвалі слых...

А палове восьмай дзверы рэзка расчыніліся, і ў праёме ўзніклі сярдзітыя Элеры з прэфектам.

— Усе на выхад, — загадаў Нотан. — Давайце-давайце, ну!

— На выхад? — прашаптала місіс Оўэн. — Куды? Дзе Рычард? Што...

Паліцэйскі ўсіх выгнаў, а Элеры зайшоў у кабінет Оўэна, пакінуўшы дзверы адчыненымі, уключыў святло і стаў збоку.

— Будзьце ласкавыя, зайдзіце і сядзьце тут, — суха сказаў ён. На яго знясіленым твары чыталася напружанасць.

Яны моўчкі, як у тумане, падпарадкаваліся. Паліцэйскі прыцягнуў яшчэ некалькі крэслаў з гасцёўні. Усе селі. Нотан зашмаргнуў шторы. Паліцэйскі зачыніў дзверы і прыхіліўся да іх спінаю.

— У пэўным сэнсе гэта адна з самых надзвычайных справаў, з якімі я сутыкаўся, — безуважна загаварыў Элеры. — Нестандартная, з якога боку ні падыдзі, яна разбурае ўсе шаблоны. Мяркую, міс Ўілаўз, жаданне, выказанае вамі ў пятніцу, збылося. Вы хацелі хоць адным вокам зірнуць на тое, як працуе вынаходлівы злачынны розум.

— Злач... — вусны місіс Гарднэр задрыжалі. — Вы хочаце сказаць... тут адбылося злачынства?

— Спакойна! — кінуў Нотан.

— Так, — мякка адказаў Элеры. — Тут адбылося злачынства, і я мушу сказаць... мне вельмі шкада, місіс Оўэн... самае цяжкае злачынства.

— Рычард... ён...

— Мне вельмі шкада.

Павісла маўчанне. Місіс Оўэн не заплакала — здавалася, боль высушыў усе яе слёзы. Урэшце Элеры зноў загаварыў, уздыхнуўшы:

— Тут усё выглядае фантастычна, але галоўнай загадкаю быў гадзіннік. Гадзіннік, Якога Не Было На Сваім Месцы, гадзіннік з нябачным цыферблатам. Памятаеце, я казаў, што раз я не ўбачыў у люстры адбітку стрэлак, якія свяціліся, значыць, гадзіннік прыбралі? Гэта была праўдападобная версія. Але толькі версія.

— Рычард памёр, — здзіўлена прамовіла місіс Оўэн.

— Містэр Гарднэр, — паспешліва працягнуў Элеры, — дапусціў, што гадзіннік усё ж вісеў над дзвярыма, але штосьці — або хтосьці — магло засланяць люстэрка. Я тлумачыў вам, чаму гэта немагчыма. Але, — і Элеры падышоў да высачэзнага люстэрка, — ёсць яшчэ адна версія, якая тлумачыць, чаму я не бачыў адбітку стрэлак: калі я адчыніў дзверы і, паглядзеўшы ў цемру, не ўбачыў нічога, гадзіннік быў на сваім месцы. Не было люстэрка.

Эмі Ўілаўз надзіва суха азвалася:

— Але гэтага не можа быць, містэр Куін. Гэта... бязглуздзіца.

— Нішто не бязглузда, пакуль не даведзена адваротнае, мая мілая. Я спытаў у сябе: як магло стацца так, што ў той момант люстэрка на месцы не было? А што, калі яно ўбудаванае ў сцяну пакоя?

У вачах Эмі штосьці бліснула. Місіс Мэнсфілд утаропілася проста перад сабой, сутаргава счапіўшы рукі на каленях. Застылы позірк місіс Оўэн, якая нічога не чула і не бачыла, спыніўся на Элеры.

— А потым, — зноў уздыхнуўшы, казаў далей Элеры, — на нас, нібыта манна нябесная, пачалі падаць дзіўныя пасланні. Я ўжо сказаў, што справа фантастычная. Безумоўна, вы здагадаліся, што хтосьці адчайна спрабуе даць нам ключ да разгадкі злачынства.

— Ключ?.. — нахмурыўся Гарднэр.

— Менавіта. Місіс Оўэн, — мякка сказаў Элеры, — першы пакет быў адрасаваны вам. Што ў ім было?

Яна няўцямна паглядзела на яго. Гэта было жахлівае маўчанне. Раптам місіс Мэнсфілд патрэсла яе, нібыта дзіця. Лора Оўэн ачомалася і слаба ўсміхнулася. Элеры паўтарыў пытанне. І яна адказала амаль радасна:

— Пара спартыўных «оксфардаў» Рычарда!

Элеры паморшчыўся.

— Адным словам, *туфлі*. Міс Ўілаўз, — нягледзячы на валоданне сабою, акторка крыху напружылася, — вам быў адрасаваны другі пакет. Што ў ім было?

— Цацачныя караблікі Джонатана, — адказала яна.

— Зноў жа, адным словам, *караблі*. Місіс Мэнсфілд, трэці пакет быў для вас. Што было ў ім? Толькі дакладна.

— Нічога! — ускінула галаву жанчына. — Я паранейшаму ўпэўненая, што ўсё гэта — несусветная лухта! Няўжо вы не бачыце, што праз вас мая дачка зараз звар'яцее, а за ёю і мы? Нотан, вы дазволіце гэтаму фарсу працягвацца? Калі вы ведаеце, што сталася з Рычардам, дзеля ўсяго святога, проста скажыце!

— Адказвайце на пытанне, — сярдзіта прамовіў Нотан.

— Ладна, — задзірліва адказала яна. — Дурацкі пусты канверт, запячатаны нашым уласным сургучом.

— І зноў адным словам — *сургуч*, — расцягваючы словы, сказаў Элеры. Гарднэр, цяпер вы. На вас зваліўся сапраўды незвычайны намёк. Гэта была...

— Капуста, — адказаў Гарднэр, спрабуючы ўсміхнуцца.

— Правільна, дружа, *капуста*. І нарэшце місіс Гарднэр. Вы атрымалі...

— Дзве шахматныя фігуркі, — прашаптала яна.

— Не-не, не проста дзве фігуркі, місіс Гарднэр. Двух *каралёў*! — шэрыя вочы Элеры заблішчэлі. — І цяпер, калі па парадку назваць падарункі, якімі нас бамбардавалі... — ён замаўчаў, а потым ціха працягнуў. — *«Пра туфлі, караблі, сургуч, капусту й каралёў»*.

Павісла ашаломленае маўчанне. Потым Эмі Ўілаўз прашаптала:

— Морж і Цесля. «Аліса ў Краіне цудаў»...

— Міс Ўілаўз, я за вас зараз пачырванею. У *якой* частцы кэралаўскай дылогіі Гу-ля-ля чытаў верш пра Маржа і Цеслю?

Жывы твар Эмі проста засвяціўся.

— «Скрозь Люстэрка»!

— «Скрозь Люстэрка», — паўтарыў Элеры ў нібыта наэлектрызаванай цішыні. — А далей? Другая частка назвы — «І што ўбачыла там Аліса».

Яна амаль малітоўна паўтарыла:

— «І што ўбачыла там Аліса»...

— Цудоўная дэкламацыя, міс Ўілаўз. Значыць, нам загадвалі прайсці праз люстэрка і, відавочна, знайсці з таго боку нешта, звязанае са смерцю Рычарда Оўэна. Вычварная ідэя, праўда? — ён нахіліўся і адрывіста сказаў: — Дазвольце мне вярнуцца да першапачатковага ланцужка разважанняў. Паводле маёй версіі, люстэрка не адбівала святла ад стрэлак, таму што люстэрка не было. Але калі сцяна суцэльная, то рухомым мусіла быць

люстэрка. Як такое магчыма? Учора я дзве гадзіны шукаў сакрэт гэтага люстэрка.

Позіркі ўсіх прысутных у жаху скіраваліся на высокае люстра ў сцяне, што падміргвала ім у святле лямпачак.

— А знайшоўшы гэты сакрэт, я паглядзеў *скрозь люстэрка*... і што ж я — непаслухмяная я Аліса! — там убачыў?

Ніхто не адказаў. Элеры хутка падышоў да люстра, устаў на дыбачкі, нешта намацаў — і раптам люстра, нібыта на шарнірах, высунулася наперад. Элеры засунуў руку ў шчыліну і пацягнуў. Люстэрка павярнулася, нібыта дзверы, адкрываючы позіркам цесную нішу.

Жанчыны ў адзін голас ускрыкнулі і заплюшчылі вочы.

У нішы нерухома стаяў Шалёны Капялюшнік, у якім усе беспамылкова пазналі Рычарда Оўэна, і глядзеў на іх вострым позіркам — мёртвым, жудасным, злавесным.

Пол Гарднэр ускочыў, задыхаючыся і торгаючы свой каўнер.

— О-о-оўэн! — правыў ён. — Ён... ён *не можа* быць тут! Я ж с-сам з-закапаў яго пад каменем на ўзлеску! О Божа літасцівы!

Жахлівая ўсмешка з’явілася на ягоным твары, вочы закаціліся, і ён непрытомны грымнуўся на падлогу.

Элеры ўздыхнуў.

— Цудоўна, Дэ Вэр.

Шалёны Капялюшнік варухнуўся і нібыта па ўзмаху чароўнай палачкі перастаў нагадваць Рычарда Оўэна.

— Можаце ісці. Па-майстэрску сыграны спектакль. І ён спрацаваў, як я і думаў. Забойца ваш, містэр Нотан. Спадзяюся, місіс Гарднэр не будзе адпірацца, што была каханкаю Рычарда Оўэна. Гарднэр даведаўся пра гэта і забіў яго. Асцярожна, ёй таксама кепска!

* * *

— Чаго я не разумею, — пасля доўгага маўчання сказала Эмі Ўілаўз, седзячы побач з містэрам Куінам спачатку ў цягніку да Ямайкі, потым у экспрэсе, што імчаў на Пенсільванскі вакзал, — дык гэта... — яна запнулася. — Зрэшты, я шмат чаго не разумею.

— Усё досыць проста, — стомлена сказаў Элеры, сочачы, як за акном імкліва праносяцца пейзажы.

— А хто такі гэты Дэ Вэр?

— Мой знаёмы, часова «вольны мастак». Ён актор, грае на сцэне эпізадычныя ролі — вы хутчэй за ўсё яго не ведаеце. Калі развагі прывялі мяне на той бок люстэрка, і я, адшукаўшы спружыну, урэшце адкрыў яго, то знайшоў там труп Оўэна ў касцюме Капялюшніка...

Эмі здрыганулася.

— Занадта рэалістычная п’еса, як на мой густ. Чаму вы адразу не абвясцілі пра сваю знаходку?

— А сэнс? Супраць забойцы не было аніякіх доказаў. Мне патрэбен быў час. Я мусіў прыдумаць, што зрабіць, каб ён сам прызнаўся. Таму я пакінуў цела там.

— Вы хочаце сказаць, што ўвесь час, пакуль мы там сядзелі, вы ведалі, што гэта зрабіў Гарднэр? — даволі недаверліва спытала Эмі.

Элеры пацiснуў плячыма.

— Канечне. Оўэны ў тым доме ўсяго месяц жылі. Ніша за люстрам схаваная так добра, што калі не ведаць пра яе існаванне і не шукаць спецыяльна, то не знойдзеш ніколі. І я ўспомніў: у пятніцу Оўэн сам сказаў, што дом праектаваў Гарднэр. Тады я і здагадаўся. Каму, як не архітэктару, ведаць такія патаемныя месцейкі? Навошта ён спраектаваў і ўбудаваў гэтую сакрэтную панэль, я не ведаю. Думаю, гэта творчая прыхамаць. Як бачыце, гэта мог быць толькі Гарднэр, — Элеры задуменна паглядзеў уверх на пыльную столь. — Узнавіць карціну забойства было досыць проста. Пасля таго як у пятніцу ўсе пай-

шлі спаць, Гарднэр спусціўся, каб высветліць з Оўэнам усё наконт Кэралайн — юрлівая ж дзеўка, аднак... Яны пасварыліся, і Гарднэр забіў Оўэна. Гэта было яўна ненаўмыснае забойства. Ягоным першым памкненнем было схаваць труп. У такую дажджлівую ноч ён не змог бы гэтага зрабіць, не пакінуўшы слядоў на адзенні. І тут ён успамінае пра нішу за люстэркам. Цела ў бяспецы паляжыць там, разважае ён, пакуль дождж не перастане і зямля не высахне, а тады ўжо я яго схаваю надзейна — магілу выкапаю ці яшчэ што... Ён акурат засоўваў цела ў нішу, калі я адчыніў дзверы. Вось чаму я не ўбачыў адбітку гадзінніка. Пакуль я быў у бібліятэцы, ён зачыніў люстэрка-дзверы і праслізнуў наверх. Я хутка выйшаў, і ён вырашыў узяць нахабствам: нават прыкінуўся, што прыняў мяне за Оўэна, які падымаецца наверх.

У суботу ўвечары ён усіх нас усыпіў, вынес цела, пахаваў яго і, вярнуўшыся ў дом, таксама прыняў снатворнае, каб усё выглядала як мага натуральней. Ён жа не ведаў, што я знайшоў цела за люстрам яшчэ днём. Калі ў нядзелю раніцай я ўбачыў, што труп знік, я тут жа зразумеў, чаму нас усыпілі.

Пахаваўшы цела ў месцы, вядомым яму аднаму, не пакінуўшы — як ён думаў — ніводнага доказу таго, што забойства было ўвогуле, — Гарднэр натуральным чынам знішчыў адну з найважнейшых падстаў крымінальнай справы — *corpus delicti*[1]. Ну, я сазваніўся з Дэ Вэрам і расказаў яму, што трэба рабіць. Ён дзесьці адкапаў касцюм Капялюшніка, выцыганіў у нейкай тэатральнай канторы фота Оўэна і прыехаў... Мы запхнулі яго ў нішу, пакуль паліцэйскі трымаў усіх вас у бібліятэцы. Як бачыце, я мусіў нагнятаць трывожнасць, расхістваючы Гарднэру нервы і падштурхоўваючы яго да прызнання. Яго неабходна было прымусіць расказаць, дзе ён пахаваў цела, бо ён адзіны, хто гэта ведаў. Як бачыце, спрацавала.

[1] Склад злачынства *(лац.)*.

Па ім лёгка слізгануў позірк разумных вачэй акторкі. Элеры панура ўздыхнуў, спрабуючы не глядзець на яе стройныя ножкі, выцягнутыя да сядзення насупраць.

— Але самая вялікая загадка, — сказала яна, міла нахмурыўшыся, — гэта тыя фантастычныя, д'ябальскія пасланні. Хто іх адпраўляў, скажыце вы мне ўрэшце?

Элеры доўга не адказваў. А потым ціхім голасам, ледзь чутным у перастуку колаў, выціснуў:

— Ну… шчыра кажучы, вы.

— Я?! — ад здзіўлення яна адкрыла рот.

— У пэўным сэнсе, — прамармытаў Элеры, закрываючы вочы. — Вашая ідэя разыграць сцэнку вар'яцкага чаявання для юнага Джонатана. Над усёй сцэнай проста лунаў дух вялебнага Доджсана, і гэта нарадзіла, як бачыце, шэраг асацыяцый у маёй галаве. Проста адчыніць люстра і паказаць цела Оўэна ці нават папрасіць Дэ Вэра яго сыграць было б недастаткова. Я мусіў спачатку падрыхтаваць Гарднэра псіхалагічна, засыпаць яго загадкамі, даць яму пасля пакутлівых ваганняў зразумець, куды вядуць усе гэтыя ключы… Нават памучыць яго, я б сказаў. Гэта мая слабасць. Я стэлефанаваўся з бацькам, і ён адправіў да нас добрага сяржанта Велі, якому я ціхенька перадаў усю капусту з каралямі, што сцягнуў з дому. Ну, а ён зрабіў астатняе — запакаваў і ўсё такое.

Яна выпрасталася і змерыла яго суворым позіркам.

— Дык вось чым бавіцца эліта дэтэктыўных колаў?

— У мяне не было выйсця, — сонна ўсміхнуўся Элеры. — Драма як яна ёсць, міс Ўілаўз. Вы з тых, хто здольны гэта зразумець. Атачыць забойцу таямніцамі, якія ён не ў стане патлумачыць, заблытаць яго, агаломшыць, а потым раптоўна нанесці сакрушальны ўдар… Мушу прызнаць, тут я па-д'ябальску хітра прыдумаў, ага.

Доўга глядзела яна на яго ў поўным маўчанні. Яе хлапечая фігурка выгнулася так спакушальна, што ён нес-

пакойна варухнуўся, адчуваючы, як да шчок прылівае кроў.

— Дазвольце спытаць, — весела прамовіў Элеры, — адкуль гэты... ммм... несумненна распусны выраз на вашым мілым тварыку, мая дарагая? Ён, знаеце, не для дзяцей з Неверляндыі. Усё добра? Ды што з вамі, дзеля ўсяго святога? Як вы сябе адчуваеце?

— Як сказала б Аліса, — прашаптала яна, нахіляючыся над ім, — усё цікавосцей і цікавосцей.

*Пераклала з ангельскай Кацярына Маціеўская*

## КАРЭЛ ЧАПЭК

# ЗЛАЧЫНСТВА НА ПОШЦЕ

— Справядлівасць, спадару... — казаў жандарскі вахмістр Брэйха. — Хацеў бы я ведаць, што гэта на карцінах за кабеціна з павязкаю на вачах ды з шалямі, быццам яна перац прадае. Я думаю, што Справядлівасць выглядае як жандар. Вы б не паверылі, якія справы мы, жандары, вырашаем без суддзяў, без шаляў ды іншых цырымоніяў. У нейкіх няважных выпадках проста дамо ў морду, у важнейшых здымем папругу: у дзевяноста выпадках са ста гэта і ёсць справядлівасць. Вось я вам раскажу, спадару, як я надоечы сам выкрыў двух забойцаў, сам ім прысудзіў справядлівае пакаранне і сам гэтае пакаранне выканаў. І пры гэтым ані слоўца нікому не сказаў. Дык слухайце, зараз я вам раскажу.

Ці памятаеце вы, спадару, дзяўчыну, што два гады таму працавала тут у вёсцы на пошце? Ага, Гэленай яе звалі, такая добрая і мілая дзяўчына, прыгожая, як лялька. Яшчэ б вы яе не памяталі. Дык гэтая Гэля, спадару, летась утапілася: скочыла ў сажалку ды йшла метраў пяцьдзясят, пакуль не дайшла да віроў. Толькі праз два дні і выплыла. А ведаеце, чаго яна гэта зрабіла? У той дзень, калі яна ўтапілася, з Прагі раптам прыбыла рэвізія і высветліла, што ў Гэлі ў касе не стае двухсот крон. Няшчасныя дзве сотні, разумееце?! Рэвізор-ёлуп ёй і ка-

жа, што павінен будзе пра гэта паведаміць вышэй і што гэта будзе расследавацца як крадзеж. У той самы вечар, спадару, Гэля з ганьбы і ўтапілася.

Калі яе выцягнулі на грэблю, я мусіў застацца пры ёй, пакуль не прыедзе камісія. У ёй, гаротніцы, не засталося ўжо нічога прыгожага, але я так і бачыў, як яна смяецца за тым акенцам на пошце. Карацей, усе мы добра яе зналі, гэта праўда, і ўсе любілі. Чорт, кажу я тады сабе, гэтае дзяўчо не магло скрасці дзве сотні: папершае, я проста не магу ў гэта паверыць, а па-другое, навошта ёй было красці: у яе таты там, на другім баку, млын, і яна пайшла на пошту проста так, з жаночага самалюбства, бо сама хацела зарабляць на хлеб. Тату я добра ведаў, спадару, гэта быў нейкі пісар, да таго ж яшчэ евангеліст, а я вам скажу, што гэныя евангелісты ды спірытысты ў нас ніколі не крадуць. Калі тых дзвюх соцень на пошце няма, іх мусіў скрасці хтось іншы. Тады я і паабяцаў мёртвай дзяўчыне, што так гэтага не пакіну.

А тым часам на пошту часова прыслалі нейкага маладзёна з Прагі, ягонае прозвішча было Філіпэк, такі спрытны й зубасты хлапец. Дык да гэтага Філіпэка я на пошту і пайшоў, каб хоць штосьці разнюхаць. Там, ведаеце, усё, як і паўсюль на малых поштах: ля акна столік, а ў гэтым століку ў шуфлядзе грошы і маркі. У паштара за спінай гэтакі стэлаж, а на ім розныя тарыфныя каталогі, паперы і шалі, каб важыць пасылкі і ўсё такое.

— Спадару Філіпэк, — кажу я яму, — будзьце ласкавы, гляньце ў вашых тарыфах, колькі б каштавала, скажам, тэлеграма ў Буэнас-Айрэс?

— Тры кроны за слова, — кажа гэны Філіпэк зусім сабе спакойна.

— А колькі б каштавала экспрэс-тэлеграма ў Ганконг? — зноў пытаюся я.

— Трэба пашукаць, — кажа Філіпэк, падымаецца і паварочваецца да стэлажа. І пакуль ён гартае старонкі з тымі сваімі тарыфамі, стоячы да стала спінай, я працiскваюся плячыма праз акенца, дацягваюся рукой да шуфляды з грашыма і адчыняю яе. Трэба сказаць, адчынілася яна досыць лёгка і ціха.

Ага, думаю, дзякуй, гэта мы спраўдзілі: значыцца, вось як усё магло адбыцца. Уявім, што Гэля нешта шукала ў тым стэлажы, а тым часам хтосьці мог сцягнуць тыя дзве сотні з шуфляды.

— А ці не маглі б вы, спадару Філіпэк, паглядзець, хто ў апошнія дні адсюль дасылаў тэлеграму або пасылку?

Філіпэк пачухаў галаву і кажа:

— Спадару вахмістр, так не пойдзе. Ведаеце, у нас тут ёсць штосьці накшталт паштовай таямніцы, хіба толькі вам гэта трэба ў імя закона, але тады я б мусіў паведаміць вышэй, што тут быўператрус.

— Чакайце, — кажу я яму. — Я не хачу ўчыняць вам ператрус. Разумееце, спадару Філіпэк, вось калі б вы самі... ну, з нудоты ці яшчэ чагось... зазірнулі ў тыя паперы, хто за апошнія дні адсюль штосьці пасылаў, ну быццам калі б Гэля адвярнулася спінаю да стала...

— Спадару вахмістр, — кажа гэны Філіпэк, — калі ўжо так, бланкі адасланых тэлеграм тут знойдуцца, але пра заказныя лісты і пасылкі ў нас толькі запісваецца, каму яны адрасаваныя, але не хто дасылаў. Добра, я выпішу вам усе імёны, якія знайду; так нельга, але для вас я ўжо гэта зраблю. Хоць папраўдзе я думаю, што гэта вам ні халеры не дапаможа.

І гэны Філіпэк, спадару, меў рацыю: прынёс мне пад трыццаць імёнаў, ведаеце, на вясковай пошце пасылаюць няшмат, хіба якую пасылку хлопцу ў войска, але тыя імёны мне не сказалі нічога. І куды б я ні ішоў, я

паўсюль думаў пра гэта: так мяне прыгнятала, што я не стрымаю сваё абяцанне перад памерлай дзяўчынай.

Дык вось аднойчы, было тое ўжо недзе праз тыдзень, іду я зноў на пошту. Гэны Філіпэк шчэрыць зубы ды кажа:

— Спадару жандар, пагуляць у жмуркі болей не ўдасца, бо я ўжо пакуюся. Заўтра сюды прыедзе новая работніца, з пошты ў Пардубіцах.

— Глянь ты, — кажу я. — Пэўна, дысцыплінарнае пакаранне, калі яе з горада пераводзяць на пошту ў такую глуш.

— Ды не, — кажа Філіпэк і ўсё глядзіць на мяне неяк асабліва. — Яе сюды скіравалі на яе жаданне, спадару жандар.

— Дзіўна, — кажу, — вы ж ведаеце, якія яны, гэтыя кабеты.

— Але, — кажа Філіпэк і ўсё глядзіць на мяне, — яшчэ больш дзіўна тое, што тая ананімка, пасля якой на гэтую пошту імгненна прыслалі рэвізію, таксама была з Пардубіц.

Я прысвіснуў і, здаецца, паглядзеў на Філіпэка гэтаксама, як ён на мяне. І раптам лістанош Угар, які там перакладаў лісты, кажа:

— Пардубіцы... Туды ледзь не штодня аканом з фальварка лісты шле, нейкай дзяўчыне з тамтэйшай пошты. Пэўна, мілку сабе там знайшоў.

— Слухайце, дзядзька, — кажа Філіпэк, — а ці не ведаеце, як тую дзяўчыну завуць?

— Ды нешта накшталт Юлія Тоўф ці Тоўфар.

— Таўфэрава, — кажа Філіпэк. — Гэта яна, тая, што мае сюды прыехаць.

— Гэтаму спадару Гоўдэку, ну, аканому, — кажа тады лістанош, — таксама штодня з Пардубіц лісты прыходзяць. Я яму заўсёды кажу: спадару Гоўдэк, вам зноў пакет ад нявесты. А ён увесь час ходзіць насустрач, каб

мне не так далёка хадзіць было. Вось і сёння для яго пасылка, але з Прагі. Глянь ты, гэта ж вернутая. «Адрасат невядомы». Гэны аканом, пэўна, адрас паблытаў. Ну што ж, занясу яму назад.

— Пакажыце, — кажа Філіпэк. — Адрасавана нейкаму Новаку, Прага, вуліца Спаленая. Два кіло масла. Пячатка чатырнаццатага ліпеня.

— Тады тут яшчэ спадарыня Гэля была, — адказвае лістанош.

— Пакажыце сюды, — кажу тады Філіпэку і нюхаю тую пасылку. — Спадару Філіпэк, нешта мне дзіўна: масла дзесяць дзён у дарозе, а не смярдзіць. Ведаеце, дзядзька, пакіньце нам тут гэтую пасылку і бяжыце разносіць пошту.

Ледзь толькі лістанош адышоў, Філіпэк мне і кажа:

— Спадару вахмістр, так, вядома, нельга, але вось вам долата.

І пайшоў, нібыта нічога не бачыў.

Я, спадару, тады тую пасылку ўзламаў, а ў ёй — дзве кілі зямлі насыпаныя. Пайшоў я тады да Філіпэка ды кажу яму:

— Такая штука, братка, дык вы пра гэта нікому ні слоўца, разумееце? Я ўжо сам усё ўладжу.

Ясная рэч, я сабраўся ды пайшоў да гэтага аканома Гоўдэка ў фальварак. Ён сядзеў там на бярвёнах і глядзеў у дол.

— Спадару Гоўдэк, — кажу яму, — тут у нас нейкі канфуз на пошце: ці не прыгадаеце, на які адрас вы дасылалі дзесяць або дванаццаць дзён таму вось гэтую пасылку?

Той Гоўдэк крыху збялеў ды кажа:

— Якая розніца, я ўжо сам не ведаю, для каго яна была.

— Спадару Гоўдэк, — кажу, — а што там было за масла?

Тады ён як падскочыць — і збялееў, як палатно.

— Што гэта ўсё значыць? — крычыць. — Што вы да мяне з гэтым чапляецеся?

— Спадару Гоўдэк, — кажу я яму. — Значыць гэта тое, што вы забілі Гэлену з пошты. Вы занеслі туды пасылку з фальшывым адрасам, каб яна яе ўзважыла на шалях, а пакуль яна ўзважвала, вы нахіліліся праз акенца і скралі з шуфляды дзвесце крон. А потым праз тыя дзве сотні Гэля ўтапілася. Вось што гэта значыць.

Спадар Гоўдэк тросся як асінавы ліст.

— Гэта хлусня, — крычаў ён, — чаго мне было красці дзве сотні?

— Бо вы хацелі, каб на мясцовую пошту перавялі спадарыню Таўфэраву, вашую нявесту. Яна напісала ананімку, што ў Гэлі ў касе не стае грошай. У выніку вы разам увагналі Гэлю ў сажалку. Вы разам забілі яе. На вашым сумленні злачынства, спадару Гоўдэк.

Гоўдэк паваліўся на тыя бярвёны і закрыў рукамі твар. Колькі жыву, ніколі не бачыў, каб мужык так плакаў.

— Божа, — стагнаў ён, — я не мог ведаць, што яна ўтопіцца! Я толькі думаў, што яе звольняць... і яна пойдзе сабе дамоў! Спадару вахмістр, я толькі хацеў ажаніцца з Юляй, але тады аднаму з нас давялося б сысці з пасады, калі б некаму трэба было пераязджаць... і нам не хапіла б на пражыццё... Таму я так хацеў, каб Юля перавялася сюды на пошту! Мы ўжо пяць гадоў гэтага чакаем... Спадару вахмістр, я так моцна яе кахаю!

Не буду вам расказваць далей, спадару: была ўжо ноч, той чалавек перада мной кленчыў, а я... я рыдаў над усім гэтым, як старая курва: над Гэляй і над усім астатнім.

— Так, досыць, — сказаў я яму нарэшце, — я ўжо сыты па горла. Давайце сюды тыя дзвесце крон. Так. А цяпер вось што: калі вы надумаеце пайсці да спадарыні Таўфэравай раней, чым я ўладжу справу, то я напішу на

вас рапарт аб крадзяжы, разумееце? А калі застрэліцеся ці нешта накшталт таго, то скажу, чаму вы гэта зрабілі. Вось так.

Тую ноч, спадару, я прасядзеў пад зорамі, судзячы тых дваіх: я пытаўся ў Бога, як я павінен іх пакараць, і разумеў і горыч, і радасць, якія ёсць у справядлівасці. Калі б я напісаў на іх рапарт, то Гоўдэк атрымаў бы пару тыдняў турмы ўмоўна, зрэшты, не факт, што й на гэта хапіла б доказаў. Гоўдэк забіў тую дзяўчыну, але ён не быў злосны злачынца. Кожнае пакаранне падавалася мне празмерна вялікім і ў той самы час празмерна малым. І таму я судзіў і караў іх сам.

Раніцой пасля той ночы я пайшоў на пошту. Там за акенцам сядзела такая бледная высокая дзяўчына з вострымі вачыма.

— Спадарыня Таўфэрава, — кажу я ёй, — вось тут у мяне заказны ліст, — і падаю ёй ліст з адрасам Паштовага кіраўніцтва ў Празе. Яна паглядзела на мяне і прыляпіла на ліст марку.

— Адзін момант, спадарыня, — кажу я. — У гэтым лісце — рапарт на таго, хто скраў дзвесце крон у вашай папярэдніцы. Колькі будзе каштаваць перасылка?

Скажу я вам, спадару, у гэтай дзяўчыны была вялізная сіла волі, але і яна ўсё ж збялела як снег ды скамянела.

— Тры кроны пяцьдзясят, — выдыхнула яна.

Я адлічыў тры пяцьдзясят і кажу:

— Калі ласка, спадарыня. Але ведаеце што, калі раптам вось гэтыя дзве сотні, — кажу і кладу ёй на столік дзве скрадзеныя банкноты, — калі гэтыя дзве сотні знойдуцца недзе тут, быццам іх проста згубілі або кудысьці паклалі, разумееце?.. Ну, каб было зразумела, што нябожчыца Гэля не крала... тады я свой ліст забяру назад. Дык што?

Яна не сказала ні слоўца, толькі гэтак востра і нерухома глядзела немавед куды.

— Праз пяць хвілін тут будзе лістанош, спадарыня, — кажу я. — Дык што, мне забраць свой ліст?

Яна хутка так кіўнула. Я ўзяў свой ліст і хаджу сабе перад поштай. Ведаеце, спадару, у мяне ногі ніколі не былі такія нягнуткія. Праз дваццаць хвілін выбягае стары лістанош Угар ды крычыць:

— Спадару вахмістр, спадару вахмістр, знайшліся тыя дзвесце крон, што зніклі ў спадарыні Гэлены! Новая паштарка знайшла іх у адным з тарыфных каталогаў!

— Дык бяжыце, — кажу я яму, — і хутчэй усім раскажыце, што яны знайшліся. Каб кожны ведаў, што нябожчыца Гэля не крала. І памагай вам Бог!

Першая справа была зробленая. Тады я пайшоў да старога памешчыка. Вы яго й не ведаеце: гэта граф, трохі такі вар'ят і вельмі добры чалавек.

— Спадару граф, — кажу я яму, — толькі ні пра што ў мяне не пытайцеся, але гаворка пра такую справу, у якой мы, людзі, мусім быць заадно. Паклічце, калі ласка, аканома Гоўдэка і скажыце яму, што яшчэ сёння ён мусіць паехаць у ваш фальварак у Маравіі, а калі ён запярэчыць, то звольніце яго тут жа.

Стары граф узняў бровы і з хвіліну пазіраў на мяне: у мяне, спадару, мусіў быць такі сур'ёзны выгляд, які сабе мала хто можа ўявіць.

— Добра, — сказаў граф, — я ў вас не буду нічога пытацца.

І загадаў паклікаць таго Гоўдэка. Гоўдэк прыйшоў, а калі пабачыў мяне побач з графам, збялеў. І стаў як слуп.

— Гоўдэк, — кажа граф, — запрагайце брычку і едзьце на цягнік, з сённяшняга вечара вы пераходзіце ў мой фальварак ля Гуліна. Я дашлю тэлеграму, каб вас там чакалі. Вам зразумела?

— Так, — ціха сказаў Гоўдэк і ўперыў у мяне вочы: ведаеце, гэта былі вочы чалавека, што трапіў у пекла.

— Ці маеце нейкія прэтэнзіі? — запытаўся граф.

— Не, — хрыпла адказаў Гоўдэк, не спускаючы з мяне вачэй. Мне, спадару, ад гэтых вачэй было жудасна.

— Тады можаце ісці, — сказаў граф, і так і сталася. Праз хвіліну я ўбачыў, як Гоўдэка адвозяць у брычцы: ён сядзеў там як драўляная лялька.

Вось і ўсё. Калі пойдзеце на пошту, звярніце ўвагу на тую бледную дзяўчыну. Яна злосная, злосная на ўсіх, і ў яе пачалі з'яўляцца такія злосныя старэчыя зморшчыны. А я гляджу на яе ды кажу сабе: Справядлівасць існуе.

Я толькі жандар, спадару, але вось што я вам скажу са свайго досведу: я не ведаю, ці ёсць нейкі ўсёведны і ўсёмагутны Бог, а калі б і быў, дык нас гэта зусім не датычыць; але я вам вось што скажу: напэўна ёсць Хтосьці найсправядлівейшы. Гэта пэўна, спадару. Мы можам толькі караць, але мусіць быць нехта, хто б і дараваў. І вось яшчэ што я вам скажу: сапраўдная і найвышэйшая справядлівасць — гэта штосьці такое ж дзіўнае, як і каханне.

*Пераклала з чэшскай Надзея Кахновіч*

# ДАНІЭЛЬ КЛУГЕР

# ЦАНА ЛЮБОВІ

«Слава Усявышняму, мой побыт у Гамельсдорфе блізіцца да канца. Я б ужо выехаў з гэтага горада, а дакладней, з аўгустынскага кляштара, што прытуліў мяне, калі б не дужа цікавыя рукапісы справаздачаў у архіве абата. Дужа, паўтараю, цікавыя і да таго ж яны могуць стацца карыснымі, бо датычаць некаторых шчыгулаў працэсаў над вядзьмаркамі і ерэтыкамі, каторыя мелі месца ў Гамельсдорфе семдзесят і болей гадоў таму, за часамі светлай памяці брата Дамінікуса, інквізітара княства Рольдэнс. Значыць, мне давядзецца яшчэ затрымацца тут, і таму я пішу гэты кароткі ліст вам, святы ойча і настаўніча мой, для таго, абы вы папрасілі за мяне прабачэння ў Яго Правялебнасці. Што да самое прычыны маёй затрымкі, то я найпадрабязна выкладу ўсё ў справаздачы і, спадзяюся, прадстаўлю яе асабіста, па вяртанні да Рыма. Маю дадаць толькі, што, дзякуй Пану, і манахі кляштара, і свецкія Гамельсдорфа захавуюць вернасць Касцёлу і ў цяперашні неспакойны час, выказваюць велькую трываласць спакусе д’ябальскай, якую ў свет явіў Марцін Лютэр (дарэчы, тэж у прошласці манах-аўгустынец). Астаюся адданым

сынам Маці-Царквы і вашэці верным і недастойным слугою.

*Пакорны брат ордэна*
*Св. Дамініка Леангард,*
*надзвычайны камісар Святога Судзілішча*
*ў месце Гамельсдорфскім.*

*Пісана ў месяцы марцы 1523 року*
*ад Нараджэння Хрыстовага».*

Айцец Леангард адклаў пяро і перачытаў ліст. Для гэтага давялося паднесці аркуш амаль да самых вачэй: святло ў келлю трапляла толькі скрозь акенца пад самымі скляпеннямі, а свечку ён адразу запаліць не здагадаўся. Цяпер жа гэта не мела сэнсу. Айцец Леангард перасыпаў напісанае пяском з маленькай скарбонкі, пачакаў, пакуль прасохне атрамант, і запячатаў ліст васковай пячаткай. Надпісаў: «Рым, канцылярыя Яго Святабліваснасці, Яго Правялебнасці кардыналу Джавані Мантэрозэ».

У келлі зрабілася зусім цёмна, вузкі прастакутнік акна-байніцы амаль не быў бачны — нават ягонаму звыкламу да цемры воку.

Айцец Леангард адышоў ад стала, наблізіўся да вузкага дашчанага тапчана, пакрытага старой суконнай гунькай. Сеў і моцна задумаўся. Апошнім часам яго непакоіла пэўная дваістасць становішча. Назваўшыся ў лісце кардыналу Мантэрозэ надзвычайным камісарам Святога Судзілішча, айцец Леангард крыху зграшыў супраць ісціны: абавязкі інквізітара ён па ўласнай волі склаў з сябе больш за год таму — са згоды Вялікага Інквізітара. Аднак вярнуўшыся да спакойнага ранейшага жыцця духоўніка Дамініканскага ордэна, ён дзіўным чынам адчуў нездаволенасць. Яму не ставала дзейнасці і актыўнасці следчага інквізіцыі. У той жа час, айцец Леангард ніяк не хацеў ізноў засядаць у трыбуналах,

удзельнічаць у допытах. Патаемным жаданнем ягоным было абагуліць больш як дзесяцігадовы досвед свайго перабывання ў інквізіцыі ў адну вялікую кнігу, што мусіла дапамагчы сотням дамініканскіх і францысканскіх братоў у іхным бясконцым змаганні з сатанінскімі падступствамі. Цяпер жа выявілася, што яго мазгі маюць патрэбу ў пастаянных лагічных практыкаваннях, якіх з лішкам прапаноўвала яму нядаўняе турботнае жыццё. Ён звярнуўся да Вялікага Інквізітара з новым прашэннем і атрымаў усеміласцівейшы дазвол сабраць і вывучыць архівы судоў над ерэтыкамі, што праводзіліся ў розны час у гарадах паўднёвай Нямеччыны і захоўваліся часткова ў гродскіх судах, часткова ў манастырах. Менавіта гэтая праца і прывяла яго колькі месяцаў таму ў аўгустынскі кляштар Святой Барбары. Аўгустынцы прынялі яго гасцінна; нягледзячы на фармальны адыход айца Леангарда ад следчай чыннасці, браты-манахі паранейшаму называлі яго не іначай як «айцец-інквізітар» і выказвалі ўсялякае шанаванне. Можна было няспешна паглыбляцца ў бясконцыя справаздачы па працэсах, аналізаваць іх. Можна было, але жыццё ўпарта не хацела адпускаць яго ў кніжную працу. Такіх аўтарытэтных і паважаных інквізітараў, якім лічыўся айцец Леангард, не так і многа было ў германскіх княствах, дый ва ўсёй Святой Рымскай імперыі. Сам ён, зрэшты, так не меркаваў і багоміў вялікіх інквізітараў мінулага — Якаба Шэнглера і Гайнрыха Інстыторыюса. Тайком айцец Леангард спадзяваўся калі-небудзь стварыць працу, што не саступала б напісанай імі кнізе.

На стале побач з тапчанам, зрэшты, ляжала іншая кніга — таўшчэзны том, куды айцец Леангард з вечара запісваў тэкст казані. Новы абат аўгустынскага кляштара, на адрозненне ад старога Ганорыя, які два месяцы таму памёр, яшчэ ні разу не звяртаўся да яго з просьбай правесці набажэнства. Але манах-дамініканец па звыч-

цы пісаў казані, так што з іх, напэўна, ужо можна было ўкласці цэлы рукапіс. Быць можа, калі-небудзь ён так і зробіць. Раней, за айцом Ганорыем, ён выступаў з прапаведзямі ў кляштарскай царкве Святога Якуба і ў горадзе, у царкве Святой Барбары, ці не кожную нядзелю.

Айцец Леангард крыху збянтэжана падумаў, што ў ім гаворыць грэх славалюбства, але тут жа сам сабе запярэчыў: хіба гэта славалюбства — імкненне навярнуць на шлях ісціны як мага больш заблукалых? А сярод свецкіх, на жаль, амаль усе былі ў той ці іншай ступені пад уладай спакусаў. Хто-ніхто з манахаў таксама. У такім разе варта было лічыць славалюбствам і паводзіны многіх вялікіх і святых прапаведнікаў прошласці. Не, не пыха і славалюбства рухалі ягонай рукой, а цалкам натуральнае для багаслова імкненне да маральнага паляпшэння навакольных.

Ён памаліўся напаўголасу. Закончыўшы малітву, падышоў да стала. Пад чыстым кавалкам палатна стаяў кубак вады і ляжала луста сухога шэрага хлеба. Сеўшы за стол, айцец Леангард хутка прачытаў «Ойча наш» і без вялікай ахвоты адламаў хлеба. Не, есці яму зусім не хацелася. Ён адклаў хлеб, падсунуў бліжэй кнігу, пяро і чарніліцу.

Асцярожнае пастукванне ў дзверы адцягнула айца Леангарда ад развагаў. Дамініканец незадаволена насупіўся. Тутэйшыя браты былі блізкія да беззаганнасці, калі не лічыць празмернай — як для манахаў — цікаўнасці да чужых справаў.

Пастукванне паўтарылася, і нехта асцярожна сказаў:

— Ойча Леангардзе, вы не занятыя? Айцец абат чакае вас да сябе.

* * *

— Прашу вас, святы ойча.

Айцец Леангард зайшоў у келлю новага абата і спыніўся ля дзвярэй, непрыемна здзіўлены. Ён бываў тут

і раней, калі абатам кляштара быў спачылы Ганорый, і цудоўна памятаў, што келля абата вылучалася сярод звычайных манаскіх хіба што трохі большым памерам.

Цяпер жа памяшканне больш нагадвала жаночы будуар, чым сціплае жытло ўбогага манаха. Шыкоўны ложак пад балдахінам, разьбяны столік, аздоблены пазалотай, начная пасудзіна, распісаная арнаментам на мяжы прыстойнасці. І на заканчэнне, там, дзе ў Ганорыя вісела старая цёмная карціна і ў строгай манеры апавядала пра мучэнні святога Себастыяна, цяпер быў яркі жаночы партрэт. Толькі прыгледзеўшыя пільней, інквізітар убачыў над галавою жанчыны ледзь прыкметнае падабенства німба і скеміў, што партрэт выяўляе Святую Барбару, заступніцу Гамельсдорфа. Тым не менш, ён паспешна адвёў вочы і прамямліў:

— Не варта вешаць у келлі карціну ў пазалочанай раме з такой выкшталцонай разьбой...

Абат азадачана паглядзеў на карціну, перавёў позірк на дамініканца.

— Праўда? — крыху разгублена вымавіў ён. — Я неяк не думаў пра гэта.

Новы абат выглядаў адпаведна ўласнаму жытлу. Ён быў высокі і шырокі ў плячах. Зграбнасці ягоных рухаў не хавала манаскае адзенне. Да таго ж, рыза ягоная толькі пакроем нагадвала манаскую, але пашытая была з тонкай і, па ўсім відаць дарагой тканіны, з-пад рызы вызіралі фарсістыя чаравікі.

— Прашу вас, ойча Леангардзе, — зычным голасам, якім захапляліся міране падчас казані, сказаў айцец Якаб. — Заходзьце, сядайце.

Айцец Леангард моўчкі падпарадкаваўся, агледзеўся, выбраў самую сціплую лаву. Робячы выгляд, што не заўважае ягонай разгубленасці і незадаволенасці, айцец Якаб шчыра ўсміхнуўся і сеў насупраць. Яго авяваў водар фларэнтыйскай парфумы. Інквізітару падалося на-

ват, што ён адчуў лёгкі пах дарагога віна. Карацей, новы абат падаўся айцу Леангарду вельмі напышлівым і самазадаволеным і, мажліва, сапраўды не заўважаў асуджэння.

— Хочаце віна? — запытаў ён.

— Дзякую, — суха адказаў айцец Леангард. — Я п’ю толькі ваду.

Адчувалася, што абат ізноў крыху збянтэжыўся — як пасля заўвагі наконт карціны. Потым дабрадушна сказаў:

— Я ведаю, што вы, дамініканцы, вылучаецеся больш строгімі правіламі, чым нашыя браты-аўгустынцы.

Інквізітар змаўчаў. Айцец Якаб уздыхнуў, пасур’ёзнеў.

— Сёння нас наведаў гродскі суддзя Гамельсдорфа, — сказаў ён. — Вы з ім знаёмыя?

— Знаёмы, — тым жа сухім тонам адказаў дамініканец. — Мэтр Зэльцэр — вельмі шаноўны чалавек, верны сын Касцёла.

— Я гэта зразумеў з першай жа сустрэчы, — кіўнуў абат. — Дык вось, ноччу там здарылася жудаснае, — яго перасмыкнула. — Напраўду жудаснае. Думаю, неабходнае ўмяшанне Святога Трыбунала, ойча Леангард. Спадзяюся, што вы, калі ўжо спыніліся ў нашым кляштары, не адмовіце ў дапамозе. Нягледзячы на тое, што вы зрабіліся ўсяго толькі сумленным архіварыюсам Святога Судзілішча...

— Вы думаеце? — перапытаў інквізітар. — Ці суддзя?

— І ён, і я. Ды кожны на нашым месцы палічыў бы гэта неабходным.

— Што ж менавіта здарылася ў Гамельсдорфе? — спытаў інквізітар, імгненна адвёўшы ўвагу ад аглядання сумнеўнага жытла.

— Забойства, жахлівае забойства, ойча Леангардзе, — сказаў айцец Якаб, змрачнеючы з кожным словам. — Най-

жорсткім чынам быў забіты малады шляхціч, Рыхард фон Рэеншталь. Вы зналі яго?

— Думаю, не, — адказаў айцец Леангард. — Маладыя шляхцічы рэдка наведваюць кляштар, а я рэдка з'яўляюся за ягонымі мурамі.

— Ясна... дык вось, самае страшнае ў гэтым забойстве тое, што труп маладога чалавека быў знойдзены абяскроўленым.

Інквізітар пасунуўся наперад. Упершыню ў ягоным позірку з'явілася цікавасць.

— Як вы сказалі? Абяскроўлены труп? Што гэта значыць? — хутка запытаўся ён.

Абат, наадварот, адхіліўся на высокую спінку крэсла, больш падобнага да княскага трона, і патлумачыў:

— Яго ўдарылі нейкай вострай прыладай у грудзі, пасля чаго страшэнным чынам сабралі выцеклую кроў і забралі з сабой. Думаю, для д'ябальскіх мэтаў... ну, гэта вам мусіць быць вядома лепей, чым мне.

— Вы нічога не пераблыталі? — недаверліва спытаў айцец Леангард. — Ці, дакладней, суддзя нічога не пераблытаў?

— Суддзя цвердзіць, што калі было адшуканае цела, вакол яго не знайшлі ніводнай кроплі крыві. А разрэз на грудзях быў даволі шырокім, і сам выгляд мёртвага цела наводзіў на думку пра абяскроўленне, — абат сціснуў губы і сцішыўся. Відаць, яго абразіла недаверлівасць інквізітара.

Айцец Леангард задумаўся.

— Што ж, — сказаў ён. — Гэта магчыма. Бывае, што д'ябалапаклоннікі ўжываюць хрысціянскую кроў для розных зелляў. Часам яны п'юць яе на сваіх шабашах. Часам прыносяць у ахвяру свайму гаспадару. Пра гэта гавораць многія аўтарытэтныя служыцелі Касцёла.

На твары абата выявілася прыкметная агіда.

— Магчыма, мы маем справу з нейкай новай ерассю, — быццам не заўважаючы гэтага, працягваў айцец Леангард. — Хаця, наколькі мне вядома, у Гамельсдорфе не бывала ерасяў. У кожным разе, у часе майго тут перабывання.

— Н-ну так… — з ноткай сумневу ў голасе працягнуў абат. Ён падняўся, марудна прайшоўся па келлі. Спыніўся побач з інквізітарам.

— Але ж у горадзе вялікая габрэйская абшчына, хіба не? — запытаў ён.

— Слушна, — інквізітар насупіўся. — Я таксама толькі што пра гэта падумаў.

— Блізіцца пачатак юдэйскай пасхі, — сказаў айцец Якаб пасля паўзы, зноў сядаючы на сваё месца. — Не мне вам расказваць, ойча Леангард, якія агідныя звычаі суправаджаюць гэтае свята ў юдэяў. Думаю, вам даводзілася сутыкацца ў сваёй цяжкой службе з падобным.

— Так, я чуў, — хмурачыся, адказаў айцец Леангард і пералжагнаўся. Абат зрабіў тое ж. — І нямала чытаў пра гэткія рэчы. На шчасце, Госпад не даў мне самому быць сведкам мярзоты юдэйскай. Вы маеце на ўвазе выкарыстанне крыві хрысціян пры гатаванні габрэямі пасхальных праснакоў, якія яны называюць мацой?

Абат кіўнуў на знак згоды.

— Іменна. Не ведаю нічога больш жудаснага за гэты д’ябальскі звычай.

— І вы маеце рацыю, гэта сапраўды д’ябальскі звычай.

Абодва манахі пералжагналіся.

— Дык вось, — зніжаючы голас, сказаў абат, — цела няшчаснага фон Рээнштале было знойдзенае паважаным жыхаром Гамельсдорфа — панам Міхелем Кіршам.

Айцец Леангард выпрастаўся. Ён адчуў нейкую дрыготку і штосьці блізкае да паляўнічага газарду. Відаць,

гэта адбілася на ягоным твары, бо абат з нейкім здзіўленнем утаропіўся на інквізітара.

— Нешта не так, ойча Леангард? — спытаў ён заклапочана. — Прабачце, але вы пачырванелі. Хочаце вады?

Інквізітар адмоўна пахітаў галавой.

— Хто ён, гэты чалавек? — запытаў ён. — Паважаны месціч, які знайшоў забітага? — нецярпліва ўдакладніў дамініканец. — І пры якіх акалічнасцях ён знайшоў цела?

— Я не ведаю падрабязнасцяў, — адказаў абат. — Суддзя паведаміў мне толькі тое, пра што я ўжо расказваў. Адзінае, што ён яшчэ дадаў, дык гэта што цела было знойдзенае раніцай на вуліцы Далакопаў, недалёка ад мяняльнай крамкі Міхеля Кірша, за некалькі сотняў крокаў ад жыдоўскага квартала.

— Я павінен сустрэцца з ім, — сказаў інквізітар.

— Яго могуць накіраваць у кляштар, — адзначыў айцец Якаб. — Досыць паслаць каго-кольвек з брацкі ў суд.

— Не, не трэба. Я сам яго наведаю. А дзе цела няшчаснага?

— У горадзе, у касцёле Святой Барбары. Мяркую, там жа пройдзе адпяванне.

— Добра, — айцец Леангард устаў. — Дзякую вам за тое, што так хутка далі мне знаць.

— Чакайце, — сказаў абат і таксама ўстаў. — Я павінен вам сказаць наступнае. Абываталі Гамельсдорфа ўжо ведаюць пра здарэнне.

— Ну і што з таго? Гэта натуральна. Места невялікае.

— Суддзя цвердзіць, што яны поўныя праведнага гневу і гатовыя разграміць габрэйскі квартал, каб тым раз і назаўсёды адбіць ахвоту да д'ябальскіх звычаяў.

Інквізітар паціснуў плячыма.

— І гэта натуральна, — вымавіў ён безуважна. — Праўда, мне хацелася б уперад правесці следства. Але — на ўсё воля Божая. Pax vobiscum, pater.

— Pax vobiscum, pater... — паўтарыў абат. І сказаў, калі айцец Леангард рушыў да выхаду: — Суддзя, як і астатнія натаблі, баяцца падобных дзеянняў натоўпу, і я іх разумею. Гэта праведны гнеў, але, не будучы здаволеным, ён можа стаць іншым. І на каго перакінецца? Словам, ён арыштаваў рабіна, кіраўніка габрэйскай абшчыны старога Абрагама, сына Леві. Я наказаў, каб яго таксама даставілі сюды ў кляштар. Думаю, вы лепей зможаце правесці допыт, святы ойча, чымся гродскія суддзі.

* * *

Вярнуўшыся да сябе ў келлю, айцец Леангард сеў за стол і глыбока задумаўся. Паляўнічае ўзрушэнне, якое раптам ахапіла яго ў абата, знікла гэтаксама раптоўна. Ён выпіў трохі вады з кубка, які стаяў на стале. Вада была цёплай, з непрыемным прысмакам.

Няўжо ён меў рацыю, калі бачыў у пастаянным адкладанні свайго ад'езду з Гамельсдорфа руку Божую? Вось цяпер гэтае жахлівае злачынства, якое яму належыць раскрыць... Хіба не прымножаць яго расследаванне і суд славу Святой Маці-Царквы?

Айцец Леангард безуважна падсунуў да сябе рукапіс, перагарнуў некалькі старонак, гэтаксама рассеяна адсунуў яе. Тэкст казані ўжо здаваўся яму не такім важным, як наконадні. Нашмат важнейшай рабілася новая справа. Ён асцярожна абмакнуў пяро ў чарніліцу, напісаў пасярэдзіне чыстай старонкі:

*«Аб справядлівасці звінавачання жыдоў*
*у рытуальным выкарыстанні крыві»*

О так, вельмі часта чуў айцец Леангард такія абвінавачанні. Ён цалкам разумеў, што несправядлівымі сцверджанні аўтарытэтаў Царквы і Святой Інквізіцыі быць проста не могуць. Ніякага сумневу не выклікалі ў ім дыспуты на гэтыя тэмы. Хаця яму не выпадала са-

мому чытаць Талмуд, але ён удзельнічаў ва ўрачыстых спаленнях брыдкай Богу кнігі, бо ж менавіта ў ёй, на думку сарбонскіх прафесараў, былі таемныя ўказанні на рытуальныя ахвярапрынашэнні хрысціян.

З іншага боку, будучы вучоным багасловам і маючы востры, схільны да логікі розум, айцец Леангард не мог не шкадаваць аб тым, што ні разу не выпала магчымасці адразу ж правесці расследаванне. Бо ж гэта надзвычай важна! Якімі каштоўнымі могуць аказацца вынікі! Удасца нарэшце паказаць усяму свету, як менавіта, якімі д'ябальскімі рытуаламі і заклёнамі суправаджаюць габрэі свае агідныя антычалавечыя і антыбоскія абрады. І многія інквізітары, што выпальваюць ерась з твару хрысціянскага свету, будуць удзячныя яму, сціпламу дамініканцу айцу Леангарду. Ён выявіць усе прыкметы, па якіх можна будзе распазнаць ахвяру крывавага рытуалу. Ён сарве покрыва таямнічасці з юдэйскай псеўдарэлігіі.

Дамініканец падняўся, падышоў да дзвярэй. Нельга было губляць ні хвіліны. Шкада, што ўжо так позна. Начны агляд не дасць яму неабходных дэталяў.

Дамініканец падышоў да тапчана, над якім вісеў счарнелы ад часу крыж з распяццем, апусціўся на калені. Цяпер, у сваёй прасторнай рызе, ён быў падобны да дзіўнага вялікага птаха.

Перш чым пачаць малітву, інквізітар падняў галаву і пільна паглядзеў у скажонае смяротнай пакутай аблічча Збаўцы. Дрыготкае полымя свечкі клалася на прыгожую разьбу безыменнага майстра-манаха і рабіла рысы Ісуса жывымі.

— Пане, — прашаптаў ён, — дай мне сілы здзейсніць годную справу. Дай мне здзейсніць подзвіг веры ў імя Тваё...

Памаліўшыся, айцец Леангард згасіў свечку, лёг ніцма і заплюшчыў вочы.

* * *

Пасля ранішняй службы айцец Леангард выправіўся ў горад, прыхапіўшы з сабой маладога паслушніка Ганса, які час ад часу дапамагаў інквізітару. Сам юнак вельмі ганарыўся гэтым — дапамога, якую ён аказваў айцу Леангарду, надавала яму нейкі неафіцыйны, але маўкліва прызнаны астатнімі манахамі статус.

Ганс рабіў у садзе пад кіраўніцтвам Гільдэбранта, кляштарнага садоўніка. Брат Гільдэбрант, у мінулым просты селянін, любіў корпацца ў зямлі і ахвотна адпусціў Ганса па просьбе дамініканца.

— Я вам патрэбны, ойча Леангард? — радасна спытаў манастырскі служка.

— Як заўсёды, Ганс, — ласкава сказаў інквізітар. — Ты ўжо чуў пра здарэнне ў горадзе?

— Пра забойства фон Рээншталя? — дзелавіта ўдакладніў паслушнік. — Канечне, ойча Леангард, усе толькі пра гэта і гавораць.

— А што менавіта гавораць?

— Ну… што жыды прынеслі фон Рээншталя ў ахвяру, — патлумачыў Ганс. — Што ў іх набліжаецца свята, якое для здзеку з нас яны таксама называюць пасхай, і што ў ім ёсць звычай класці ў праснакі кроў хрысціяніна. Правільна?

— Агулам правільна, — айцец Леангард кіўнуў. — І мы з табой высвятлім, як яны гэта робяць. Для гэтага нам трэба выправіцца ў места і апытаць усіх сведак, а апроч таго агледзець нябожчыка, пакуль яго не адпелі і не пахавалі. А што гэта значыць?

— Што мы мусім выпраўляцца зараз жа! — выгукнуў Ганс.

Айцец Леангард любіў бываць у горадзе, хаця пакідаць кляштар яму выпадала рэдка. Гамельсдорф лічыўся багатым местам і таму чыстым і ахайным. Амаль усе яго вуліцы, на адрозненне ад вуліцаў многіх іншых гарадоў,

бачаных дамініканцам, былі брукаваныя часаным каменем.

Прайшоўшы гарадскую браму — тут іх ледзь не збілі вазы навакольных сялян — Ганс і дамініканец скіравалі на плошчу перад ратушай, дзе месціўся касцёл Святой Барбары. Праз нейкі час айцец Леангард звярнуў увагу, што немалая колькасць гараджан рушыць у той жа бок. Неўзабаве яны апынуліся ў самым натоўпе, што плыў да брамы касцёла.

На памосце, збудаваным перад царквой, стаяў чалавек. Ён актыўна жэстыкуляваў і выкрыкваў нешта ў натоўп. Айцец Леангард прыслухаўся.

— І няма чаго чакаць, покуль улады разбяруцца! — крычаў чалавек. — Клянуся Святой Дзевай, жыды за гэты час паспеюць іх падкупіць, як яны ўжо не раз падкуплялі бурмістраў, і суддзяў, і нават ксяндзоў — у іншых месцах! Самі расправімся з гэтымі вырадкамі! А там...

Ён не паспеў дагаварыць, таму што яго сцягнулі з памоста два вартаўнікі, якія быццам з-пад зямлі выраслі.

Айцец Леангард агледзеўся. Дзіўна, але на тварах вакол была ў найлепшым выпадку цікаўнасць, у найгоршым — абыякавасць. Відаць, чалавек на памосце на паспеў распаліць месцічаў.

Яны неяк прапхнуліся скрозь тлум і зайшлі ў царкву. Тут, як ні дзіўна, было амаль пуста, калі не лічыць святара і двух служак. Заўважыўшы інквізітара з суправаджэннем, ксёндз — айцец Міхаэль — паспяшаў насустрач.

Абмяняўшыся з ім прывітаннямі, айцец Леангард папрасіў правесці яго да цела забітага. Жалобна схіліўшы галаву, айцец Міхаэль жэстам запрасіў гасцей з кляштара ісці за ім.

Цела, пакрытае белым шаўковым покрывам да самага завостранага падбароддзя, ляжала на стальніцы перад алтаром.

— Вось, айцы-інквізітары, — сказаў ксёндз. — Вось няшчасны фон Рэеншталь.

Айцец Леангард кіўнуў.

— Скажыце, айцец Міхаэль, вы не заўважылі нічога дзіўнага, калі забітага прынеслі ў царкву? — спытаў ён. — Я маю на ўвазе... можа, нейкая асаблівасць у ране... у становішчы канцавін... у адзежы?..

Ксёндз задумаўся.

— Не, — сказаў ён нарэшце. — Нічога адметнага не было.

— Зразумела, — інквізітар кіўнуў. — А скажыце, ойча Міхаэль, як вам падалося, нябожчык перад смерцю зазнаў мучэнні? Нейкія катаванні?

— Ну-у... — айцец Міхаэль крыху разгубіўся. — Думаю, зазнаў. Гэтая жахлівая рана на грудзях... Прынамсі, ён зазнаў душэўныя пакуты — без сумневу. Ягоны твар быў скрыўлены мучэннямі.

— А ці не было якіх-колечы асаблівасцяў у адзенні? — працягваў пытаць інквізітар. — Можа, нейкія знакі? Магічныя пісьмёны?

Святар моўчкі пахітаў галавой. Ён не вельмі ўтульна сябе адчуваў — можа, ад халоднага пільнага інквізітарскага погляду.

— Якія-небудзь пахі? — на адставаў інквізітар.

— Пахі? — здзіўлена перапытаў ксёндз. Ганс таксама быў здзіўлены пытаннем, але прамаўчаў.

— Ну так, што тут такога? — у сваю чаргу запытаўся айцец Леангард. — Фон Рэеншталь, — ён кіўнуў у бок забітага, — безумоўна, быў фізічна моцным чалавекам, гэта бачна нават цяпер. Забойцам трэба было абясшкодзіць яго нейкім адмысловым чынам, каб здзейсніць свае намеры. Якім гэта чынам? Хітрасць, дуротнае пітво, чорная магія? Ці не так?

Святар паспешліва перахрысціўся на ўкрыжаванне, што вісела над алтаром.

— Зразумеўшы гэта, — працягваў інквізітар, — мы, магчыма, здолеем папярэдзіць іншых хрысціян, дапаможам ім пазбегнуць юдэйскіх пастак...

Ксёндз са шкадаваннем развёў рукамі.

— Добра, — сказаў айцец Леангард, — я б хацеў агледзець цела. Але спачатку мне трэба бачыць адзенне і абутак забітага. Тое, у чым яго знайшлі. Спадзяюся вы захавалі ўсё гэта?

Ксёндз азірнуўся.

— Браце кашталян, — сказаў ён, падзываючы жэстам манаха, які стаяў у куце.

Айцец Леангард пазнаў у гэтай каржакаватай постаці кашталяна Аўгустынскага кляштара брата Амбражэя і здзівіўся, што Амбражэй тут, а не ў манастыры. Але толькі паўтарыў пытанне, адрасаванае раней айцу Міхаэлю.

— Вядома, я захаваў адзенне няшчаснага, — сказаў той высокім голасам, які так не адпавядаў поўнай фігуры.

— Цудоўна, браце Амбражэй. Гэта вельмі важна, вельмі, — адзначыў інквізітар.

— Я таксама думаю, што не варта аддаваць яе жабракам, — працягваў кашталян скорагаворкай. — Сукня рыцара мае большую каштоўнасць, чым гэта можа падацца на першы погляд. Я думаю, ты, як прадстаўнік Найсвяцейшага Трыбунала, разумееш, пра што гаворка. Я хацеў сказаць пра гэта айцу абату, але ён не стаў мяне слухаць...

— Вялікую каштоўнасць? — заняты сваімі думкамі, інквізітар не адразу скеміў, пра што ідзецца. — Якую каштоўнасць, брат?

— Ну як жа! — у сваю чаргу здзівіўся Амбражэй. — Калі нябожчык прыняў пакутніцкую смерць ад ворагаў Хрыста і нашай Святой Маці-Царквы — а аб тым, што габрэі — ворагі Хрыста і Касцёла, усе ведаюць, — то

гэтыя рэчы, як рэчы пакутніка нашай Царквы, ператвараюцца ў каштоўныя рэліквіі. Не варта раздаваць іх проста так. Нашаму кляштару бракуе рэліквіяў...

— Думаю, ты спяшаешся, браце кашталяне, — суха заўважыў дамініканец. — Найперш трэба звярнуцца да Святога Прастолу... — яго крыху абурылі меркантыльныя развагі кашталяна-аўгустынца, хаця ён і не мог асуджаць жаданне манастыроў мець больш святых рэліквіяў. — Пакуль што пакажы мне адзежу спачылага.

Кашталян моўчкі праводзіў інквізітара ў прыбудову, на хвілю знік у нейкай нішы і праз імгненне вынырнуў адтуль з купай адзення ў руках.

— Гэта ўсё? — спытаў айцец Леангард.

Кашталян кіўнуў.

Паклаўшы рэчы забітага на столік каля нішы, інквізітар пачаў агляд. Кашталян стаяў побач, трымаючы на твары ўсё той жа незадаволены выраз. Айцец Леангард доўга разглядаў камзол, разрэзаны на грудзях, мяў яго, нават нюхаў. Яшчэ даўжэй ён разглядаў боты, асабліва падэшвы.

Скончыўшы агляд, інквізітар глыбока задумаўся.

— Учора ішоў дождж? — спытаў ён.

— Канечне, ойча Леангард, ды яшчэ які! З самай раніцы. Перастаў незадоўга да вячэрні.

Айцец Леангард кіўнуў.

— Я ўчора днём не выходзіў з келлі, — прамармытаў ён. — Зразумела...

Рэшта прадметаў не прыцягнула асаблівай увагі.

— Я больш не патрэбны табе, браце? — спытаў Амбражэй.

— Што?.. Не, відаць, не патрэбны, хаця... — інквізітар трасянуў галавой. — Прашу цябе, захавай вопратку. Хаця б да паслязаўтра. Калі ласка, не мый яе і не чысці.

Настрой кашталяна трохі палепшыўся. Напэўна, ён вырашыў, што інквізітар пагадзіўся з ягонымі аргумен-

тамі. Айцец Леангард не стаў яго расчароўваць. Да таго ж яго цяпер мала цікавілі меркаванні брата Амбражэя. Чакала самая важная і непрыемная частка.

Ён пачаў агляд. Перад тым як адкінуць беласнежнае покрыва, ён уважліва паглядзеў у скрыўлены перадсмяротнай сутаргай твар Рыхарда фон Рэеншталя, затым схіліўся над грудзямі нябожчыка. Смяротны ўдар забойца нанёс роўна ў сэрца. Рана была шырокай, трохвугольнай формы. Шырыня раны, безумоўна, паслужыла прычынай страты вялікай колькасці крыві.

Інквізітар сабраўся ізноў накрыць цела белым палотнішчам, але тут позірк ягоны ўпаў на аголенае левае сцягно забітага.

— А гэта яшчэ што?.. — прамармытаў ён. Ганс тут жа азваўся:

— Вы нешта сказалі, святы ойча?

— Яго, падобна што, сапраўды мучылі, — змрочна адказаў Леангард. — Або катавалі. У кожным разе, смяротная рана далёка не адзіная. На руцэ яшчэ адна, а тут, — ён паказаў на левае сцягно, — яшчэ. І нанесеныя гэтыя дзве раны іншай зброяй, не той, што ён быў забіты. Бачыш, Ганс?

— Вас што-небудзь здзівіла, святы айцец? — спытаў Ганс, уважліва за ім назіраючы.

— Пакуль не ведаю, — задуменна адказаў дамініканец. — У кожным разе, час пагаварыць з тымі, хто знайшоў забітага. Ты ведаеш, дзе знаходзіцца мяняльная крамка Міхеля Кірша?

— А то ж.

— Вельмі добра. Хадзем туды.

Рассеяна развітаўшыся са святаром, айцец Леангард хутка выйшаў з царквы. Натоўп на вуліцы ўжо разышоўся.

* * *

— Вось тут, — сказаў Ганс, паказваючы на мяняльную краму. — Гэта крама Кірша. А вунь там, — ён павярнуўся да гета, — Кірш знайшоў забітага.

Інквізітар нейкі час стаяў моўчкі, гледзячы ва ўказаны Гансам бок.

— Зразумела... — сказаў нарэшце айцец Леангард. — Мы яшчэ агледзім тое месца. Давай для пачатку зойдзем у краму і паразмаўляем з панам Кіршам. І няхай ён сам нам пакажа, дзе ляжаў няшчасны хлопец. Ты не супраць?

Ганс шырока ўсміхнуўся. Як заўжды, дапамагаючы айцу Леангарду, ён атрымліваў вялікае задавальненне.

— Мір табе, сын мой, — сказаў дамініканец, калі яны зайшлі ў краму мянялы Кірша. — У імя Айца, і Сына, і Святога Духа.

— Амэн, — сказаў Кірш, пабожна схіліўшы галаву.

Айцец Леангард уважліва агледзеў памяшканне крамы, потым такім жа пільным позіркам акінуў сухую цыбатую фігуру гаспадара. Зрэшты, айцец Леангард і раней колькі разоў сустракаўся з Міхелем Кіршам. Маўчанне трохі зацягнулася, мяняла разгублена зірнуў на жонку.

— Мы прыйшлі пагаварыць з табой, — твар дамініканца быў такі самы халодны, як і голас. — Раскажы, сын мой, як ты знайшоў забітага. Калі гэта адбылося?

— Зранку, — паспешліва адказаў мяняла, — раніцай, святы ойча.

— А ці не памятаеш дакладна, а якой гадзіне?

— Ды зразу, як толькі развіднела. Па справах... Ну, вось. І акурат ля Жыдоўскай брамы натыкнуўся на нябожчыка. Падышоў. От як ёсць, забіты. Рыхард фон Рэеншталь.

— Вы яго ведалі? — хутка спытаў айцец Леангард. — Ён пазычаў у вас грошы?

— Не, святы ойча, ён ніколі ў мяне не пазычаў, — спужана адказаў мяняла. — Я і кнігу магу паказаць, калі хочаце. Вось ягоны сябар, барон фон Ротэн, — не хаваю, пазычаў. Ён праз два тыдні мусіць у горад прыехаць, я акурат рыхтую яму кругленькую суму. А нябожчык — не, ні разу.

— Ясна... Што ж, сын мой, хадзем. Пакажаш, дзе ляжаў забіты. Табе ёсць на каго краму пакінуць?

— Ханна! — крыкнуў пан Кірш. — Стань за стойку. Мне трэба ненадоўга адысціся са святымі айцамі... Гэта мая жонка, — сказаў ён, звяртаючыся да манахаў. — Яна часам памагае мне.

— Выдатна, — інквізітар кіўнуў. — Няхай блаславіць цябе Госпад, дачка мая, — сказаў ён кабеце. — Ну што, слухаем цябе, — ён зноўку звярнуўся да мянялы. — Ты не прыкмеціў — краты былі апушчаныя?

— Вядома ж, — адказаў мяняла. — Габрэі заўсёды закрываюць свой квартал з надыходам цемры. І адчыняюць раніцай, а тады яшчэ толькі развіднелася.

— Вось яно як... — інквізітар задумаўся. — Скажы, сын мой, ты ж позна паклаўся спаць учора?

— Пазнавата, святы ойча. Я доўга сядзеў з рахунковымі кнігамі, сёння ад мяне паехаў пасыльны да старэйшага кумпаньёна, пана Шумахера, у Кёльн. Ужо поўнач на вежы прабіла, а я шчэ не спаў.

— Ты нічога не чуў? Нічога такога, што нагадвала б шум падняцця й апускання кратаў?

— Не, святы ойча, нічога такога я не чуў.

— Вельмі добра. Вельмі добра... — прабурчэў айцец Леангард. — Гэта тут?

— Ага, мы прыйшлі. Вось тут ён ляжаў, — Кірш паказаў пальцам.

Айцец Леангард апусціўся на кукішкі. Ганс зрабіў тое самае.

— Што вы шукаеце, святы ойча? — шэптам запытаўся ён.

Не адказваючы, манах звярнуўся да Кірша:

— Пане Кіршу, ці не было каля трупа якіх-небудзь рэчаў? Любой драбязы, пусцяковіны якой-колечы?

Мяняла пачырванеў:

— Вы думаеце, святы ойча, што я абшукваў мерцвяка? Як толькі я праверыў, што ён памёр, я тут жа клікнуў варту!

— І што далей?

Кірш пацiснуў плячыма.

— Нічога. Вартаўнікі адвезлі забітага. А я пайшоў па сваіх справах.

— І ніякіх слядоў крыві побач з трупам ты не бачыў?

— Аніякіх.

— Ці не падкажаш, што вось гэта? — і інквізітар паказаў на плямы, у якіх паслушнік адразу ж пазнаў застылыя кроплі воску.

Мяняла апусціў галаву.

— Што з табой, сын мой? — з падазрэннем спытаў інквізітар.

Міхель Кірш не адказаў. Цяпер ужо Ганс прысеў на кукішкі, уважліва разглядаючы плямы.

— Ды гэта фарбаваны воск! — ускрыкнуў ён.

— Так, — пацвердзіў інквізітар. — Такія плямы ёсць на вопратцы забітага. Значыць, нехта аглядаў яго ў цемры. У цябе ж на стале, сыне мой, — зноў звярнуўся ён да мянялы, — стаіць свечка з такога самага воску. І згарэла яна больш за дзве іншыя. Значыць, ты бачыў забітага не раніцай, а ноччу. Праўда? Ты падыходзіў са свечкай. Чаму ты схлусіў?

— Я пабаяўся ноччу клікаць варту. Пабаяўся, што мяне звінавацяць. Ну вось. І надумаў: як раніцою будзе, так, значыць, Госпад і распарадзіўся. Ну і... — мяняла зноў замаўчаў.

— Ты нічога падазронага не прыкмеціў?

— Нічога, святы ойча.

— Ці не было тут ноччу нейкіх слядоў, якія ранкам зніклі?

— Не, святы ойча. Ды вы і самі бачыце. Дажджу ж не было, сляды б асталіся.

— Гэта правільна... — прамармытаў дамініканец. — Што ж, дзякуй, сыне мой, ідзі. І не спрабуй уперад падманваць служыцеляў царкоўных. Адпускаю табе гэты грэх.

* * *

Допыт арыштаванага Абрагама Бэн-Леві нічога не даў — пры тым, што інквізітар загадаў ужыць катаванні да абвінавачанага. Рабін быў немалады, так што хутка проста страціў прытомнасць, і айцец Леангард наказаў адвесці яго ў адну з падземных келляў. Ён і сам адчуваў сябе не найлепшым чынам. Ужываючы ў працэсе следства катаванні — перадусім калі справа датычыла яўных ерэтыкоў і паклоннікаў д'ябла, — інквізітар, тым не менш, хаця і лічыў гэта неабходным, зазнаваў амаль фізічны боль ад таго, што мучыў бліжніх, няхай нават і заблукалых.

Калі Ганс прыйшоў увечары, айцец Леангард употай узрадаваўся магчымасці развявацць уголас. Ён адклаў свой Opus Magnum і паказаў Гансу на зэдаль у куце. Паслушнік сеў.

— Ну, ладна, — прабурчэў айцец Леангард. — Гляджу, я проста стаміўся... паспрабуем зразумець, што ж адбывалася з моманту, калі знайшлі цела. Што нам стала вядома, сыне мой? — інквізітар няўважліва падкідваў на далоні маленькі бліскучы прадмет, знойдзены ім каля кратаў габрэйскага квартала. — Раскажы мне ўсё па парадку.

— Адразу пасля поўначы фон Рэеншталь быў мёртвы. Другая варта, якая праходзіла каля дванаццаці, нічога не заўважыла, а ўжо праз чвэрць гадзіны — ці каля таго — цела ляжала там, дзе яго знайшоў мяняла.

— Верна. Што яшчэ? Што ты можаш сказаць пра краты габрэйскага квартала? — спытаў інквізітар.

— Краты квартала закрываюцца з заходам сонца. У гэты момант ні вартаўнікі, ні прахожыя не бачылі забітага на гэтым месцы.

— Але габрэі маглі выйсці з квартала пазней, з надыходам цемры, забіць няшчаснага і потым спакойна схавацца за мурамі свайго квартала, — падказаў дамініканец. — Хіба не так, сыне мой?

Ганс крыху падумаў.

— Не, — упэўнена адказаў ён. — Гэта немагчыма. Зрушыць краты не пад сілу аднаму чалавеку. І апроч таго, іх нельга зрушыць бязгучна. А Міхель Кірш, крама каторага знаходзіцца паблізу, не чуў ніякага падазронага шуму ці грукату пасля поўначы.

— Верна, Ганс. І гэта вельмі мяне бянтэжыць, таму што ёсць і іншыя дзівоты, — прамармытаў айцец Леангард. — Але пра іх трохі пазней... што да кратаў і часу забойства, то хутчэй за ўсё зло было ўчыненае па-за межамі жыдоўскага квартала.

Ганс насупіў бровы і маўчаў. Заўважыўшы гэта, інквізітар запытаўся:

— Што цябе бянтэжыць, сын мой?

— Не разумею, навошта яны тады прынеслі цела да межаў гета, — сказаў паслушнік. — Гэта ж адразу наводзіць падазрэнне на іх.

— Ты маеш на ўвазе габрэяў?

— Каго ж яшчэ... па-мойму, нашмат больш бяспечна было пакінуць забітага на месцы забойства.

— Ты, безумоўна, маеш рацыю, — сказаў інквізітар. — І тлумачэнняў тут можа быць не так і многа.

Давай разгледзім іх па парадку. Першае: выстаўленне цела няшчаснага, чыя кроў злачынна выкарыстаная, ёсць часткай д'ябальскага рытуалу. Магчыма такое?

Ганс з гатоўнасцю падтакнуў.

— Мы не ведаем, якія асаблівасці ўсяго гэтага дзейства. Уласна, расследаванне нашае і мае за мэту раскрыць гэтыя асаблівасці. Але калі такія патрабаванні рытуалу, яны маглі іх выканаць, нават рызыкуючы выклікаць падазрэнні. Карацей: габрэі хітрасцю, сілай або магіяй заваблівають хрысціяніна ў патаемнае месца, забіваюць яго, збіраюць кроў, што льецца з шырокага разрэзу, пасля чаго адносяць цела да брамы гета і кідаюць яго там.

— А другое? — спытаў Ганс. — Ёсць другое тлумачэнне?

— Ёсць, вядома, — адказаў айцец Леангард. — Другое: рытуал не патрабуе іменна такіх дзеяў. Што ж, тады злачынцаў маглі проста спужнуць, калі яны збіраліся перанесці цела некуды падалей...

— Краты, — ціхенька падказаў Ганс.

— Так, краты. Краты не падымаліся. Значыць, у другім выпадку забойства адбывалася па-за мурамі жыдоўскага квартала. І, натуральна, мы павінныя адшукаць месца злачынства. Мажліва, там удасца знайсці яшчэ што-небудзь... — айцец Леангард апусціў галаву і занурыўся ў развагі. Ганс таксама маўчаў, баючыся парушыць ход думак свайго настаўніка.

— Скажы мне, калі ласка, што можа ўяўляць сабой зброя з лязом трохвугольнага сячэння, даўжынёй прыкладна з маю далонь, і пры гэтым мець цяжкую круглую гарду з выемкай — запытаўся інквізітар.

Цяпер прыйшла чарга задумацца Гансу.

— З выемкай... З выемкай і даўжынёй з далонь... — раптам ён засвяціўся. — Ды вы самі ведаеце, святы ойча! Гэтак проста правяраеце мяне, праўда? Гэта ж дуэльны кінжал, святы ойча. Рыхтык як вы апісалі: даўжынёй

з даланю, трохвугольнае сячэнне, з круглай абарончай гардай. Правільна? Ці... Чаму вы маўчыце, айцец Леангард?

— Ты толькі што назваў сродак забойства, — павольна прагаварыў інквізітар. — І гэта яшчэ адна загадка. Не выключана, зрэшты, што рытуальны габрэйскі кінжал выглядае дакладна як дуэльны.

— Але як вы здагадаліся?

— Гэта не я, гэта ты, хлопча, здагадаўся.

— Не, але... — Ганс глыбока ўздыхнуў, ягоны твар пасвятлеў. — Зразумела. Па выглядзе і глыбіні раны вы вызначылі памер ляза. А гарда?

— Забойца з такой сілай ударыў няшчаснага, што па краі раны ўтварыўся агромністы кровападцёк. Яго форма адпавядала форме і памеру гарды, — нехаця патлумачыў айцец Леангард. — Ты расчараваны прастатой тлумачэння? Табе хацелася б, каб Панскі анёл падказваў нам? Але хіба мала таго, што Бог надзяліў нас розумам, здольным рабіць высновы? І, дарэчы...

Ён рэзка замаўчаў, на твары ягоным з’явіўся дзіўны выраз.

— Што з вамі, святы айцец? — заклапочана пацікавіўся паслушнік.

— Рыхард фон Рэеншталь атрымаў не толькі смяротную рану ў сэрца, але і колатыя раны — у сцягно і руку, — марудна вымавіў айцец Леангард. — Што могуць значыць гэтыя раны?

— Катаванні, — напаўголасу падказаў паслушнік. — Сцягно і рука... можа быць, у габрэяў гэтыя раны сімвалізуюць насмешку над Святым укрыжаваннем? — ён перажагнаўся, але зрабіў гэта нядбайна, яго больш цікавілі здагадкі інквізітара. — Ногі і рукі Пана.

— Тады былі б praткнутыя галёнка і перадплеччa, — запярэчыў дамініканец. — Хаця не выключана, што такая неадпаведнасць і мае нейкі прыхаваны сэнс.

Быць можа, насмешку і здзек з нашых святыняў. Дарэчы, паслядоўнасць нанясення гэтых ранаў таксама незвычайная. Вакол раны ў сцягне ёсць сляды застыглай крыві. Вакол раны ў руцэ такіх слядоў няма. Што гэта значыць? Акрамя таго, канечне, што мае вочы ўжо саслаблі, і я мог проста не разгледзець гэтых слядоў.

— Думаю, другую рану нанеслі пасля смерці, калі кроў загусцела, — адказаў паслушнік.

— Магчыма, — рассеяна пагадзіўся айцец Леангард. — Магчыма... А што ты можаш сказаць пра месца злачынства? Мы ж ужо ўпэўніліся, што яно было здзейсненае за межамі жыдоўскага квартала.

— Але не за горадам, — дадаў Ганс. — Іначай вартаўнікі пры браме абавязкова прыкмецілі б людзей з цяжкой ношай, што спрабуюць прабрацца ў Гамельсдорф.

— Неабавязкова, — запярэчыў айцец Леангард. — Варта не заўсёды бывае пільнай. Але паколькі гаворка ідзе пра вечаровы або начны час, то твая праўда. Дык і што нам вядома пра месца, дзе было ўчыненае забойства? Акрамя таго, што яно ў горадзе?

— Зацішнае месца.

— Ёсць яшчэ адна адметнасць, — задумліва вымавіў айцец Леангард. — Пустыр або лужок, парослы густой сакавітай травой. Ты ведаеш такое месца ў Гамельсдорфе?

Ганс пастараўся прыгадаць. Айцец Леангард чакаў. Твар паслушніка і гэтым разам пасвятлеў.

— Ведаю, святы ойча, — сказаў ён і тут жа занепакоена дадаў: — Але, святы айцец, гэтае месца любяць дуэлянты. Не думаю, што габрэі рызыкнулі б з’явіцца там з будучай ахвярай.

— Заўтра пасля ранішняй казані адвядзеш мяне туды. Паглядзім, — сказаў інквізітар.

— Добра, ойча.

— А цяпер ідзі. Я хачу памаліцца.

Падышоўшы да дзвярэй, Ганс спыніўся і запытаў:

— А чаму вы думаеце, што месца злачынства мусіць быць парослым сакавітай і густой травой?

Інквізітар адказаў:

— Мы, убогія манахі, ходзім і зімой, і летам басанож. Міране ж любяць насіць боты або чаравікі. Ты ведаеш, я агледзеў сёння адзенне і абутак няшчаснага. Гэтыя рэчы мне тое-сёе расказалі, я хачу праверыць, — ён весела ўсміхнуўся. — Знаеш, сын мой, часцяком рэчы нашмат праўдзівейшыя за людзей.

* * *

Пустыр, пра які ўспомніў Ганс, уяўляў сабой вялікі, няправільнай формы квадрат, парослы зялёнай травой. Ён падыходзіў амаль ушчыльную да дамоў Ганчарнай вуліцы — з тыльнага боку. Але густыя зарасці шыпшыны хавалі тое, што на ім адбывалася, ад старонніх вачэй.

— Вельмі зручна... — прамармытаў інквізітар, кіруючыся ў дальні кут прыроднай пляцоўкі. — І недалёка ад дамоў, і ў той жа час ніхто не бачыць. Як думаеш, Ганс, тут часта бываюць візітэры?

— Я ўжо сказаў: апрача дуэлянтаў, гэтае месца ніхто не наведвае, — адказаў паслушнік.

— Вось як?.. — айцец Леангард прысеў на кукішкі. — Ну-тка, ходзь сюды! — гукнуў ён Гансу. І калі той нахіліўся, спытаў: — Як ты мяркуеш, што гэта за плямы?

Ганс уважліва агледзеў бурыя плямы на маладой траве.

— Кроў... — разгублена сказаў ён. — Вы лічыце...

— А вось гэта што такое? — дамініканец выпрастаўся і падышоў да высокага куста шыпшыны, які рос на ўскрайку пустыра.

— Нітка, — сказаў Ганс. — Ну і што?

— Параўнай, — манах-дамініканец дастаў з каліты для ахвяраванняў другую нітку. Ганс уважліва разгледзеў абедзве.

— Па-мойму, яны абсалютна аднолькавыя, — сказаў ён.

— Я таксама так думаю, — айцец Леангард схаваў у каліту абедзве ніткі. — Другую нітку я выцягнуў учора з плашча забітага. Якія высновы мы зробім?

— Забойства было ўчынена тут, — сказаў Ганс.

— З чаго гэта вынікае? — спытаўся інквізітар.

— Трава прымятая і запэцканая крывёй, — Ганс паказаў пальцам на бурыя плямы.

— І крыві было дастаткова, — дадаў інквізітар.

— Іменна так, святы айцец.

— Але ці можам мы быць пэўныя ў тым, што тут быў забіты менавіта Рыхард фон Рэеншталь?

Ганс зноў задумаўся.

— Думаю, пацверджаннем гэтага служыць... нітка?.. — паслушнік запытальна паглядзеў на інквізітара.

— Слушна, але не толькі. Я ўжо гаварыў табе, што рэчы часта нашмат праўдзівейшыя за людзей.

— Я памятаю.

— На падэшвах ботаў фон Рэеншталя засталося некалькі травінак. Такіх, як на гэтым лужку.

— Гэта можа значыць толькі, што ён быў тут. Але ці тут ён загінуў? — Ганс пахітаў галавой. — Баюся, што пацверджанняў мала.

— Ягоны камзол са спіны густа выпацканы зелянінай. Я ж не дарма запытаў, ці сакавітая тут трава. Наколькі я памятаю, вуліца каля жыдоўскага квартала брукаваная. Ніякіх слядоў зеляніны. Што ты цяпер скажаш?

Ганс разгублена зірнуў на пустыр.

— Цябе нешта бянтэжыць? — спытаў інквізітар, які ўважліва сачыў за рэакцыямі юнака.

— Шчыра кажучы, — прамовіў той задуменна, — карціна падаецца мне не падобнай да рытуальнага ахвярапрынашэння. У кожным разе, я ўяўляў гэта крыху інакш.

— Я таксама, — айцец Леангард прысеў на карачкі, сарваў некалькі травінак, павольна расцёр іх на далоні. Панюхаў. — Дарэчы, вось і яшчэ адзін доказ, — ён падняўся, працягнуў руку Гансу. — Адчуваеш? Мята.

— Так, мята. Ну і што?

— Камзол забітага пахне гэтак жа, — адзначыў інквізітар. — Што, дарэчы, ускосна паведамляе нам яшчэ пра адно: цела не адразу пасля смерці было перанесенае адсюль туды. Што да карціны забойства... — ён паціснуў плячыма. — Да чаго больш падобна тое, што ты бачыш у сваім уяўленні?

Ганс яшчэ раз агледзеўся.

— Падобна да двубою, — сказаў ён. І адным з дуэлянтаў быў Рыхард фон Рэеншталь.

— Двубой мог адбыцца раней.

— Не, я так не думаю, — запярэчыў Ганс. — Калі б дуэль адбылася раней за ўчорашні вечар, нейкія чуткі пра яе ўжо з'явіліся б.

— Што ж... — інквізітар выглядаў змрочна. — У гэтым ёсць рацыя. Гэтым можна патлумачыць наяўнасць ранення ў сцягно. Я адразу не мог зразумець, што гэта за рана, маленькая і акуратная. Магчыма, ад удару шпагі. Праціўнік параніў фон Рэеншталя ў сцягно, а калі той упаў — дабіў яго ўдарам дуэльнага кінжала...

— Так не бывае, святы ойча, — заявіў Ганс. — Прабачце, што я стаўлю пад сумнеў вашыя словы, але калі б вам калі-небудзь даводзілася ўважліва сачыць за двубоем на шпагах і кінжалах, вы ўпэўніліся б, што дуэльным кінжалам вельмі складана забіць праціўніка, асабліва калі ў руках таго доўгая шпага і ён лёгка паранены. А вы апісалі лёгкую рану. Кінжалам можна толькі парыраваць удары. Іншая рэч... — раптам ён змоўк.

— Што — іншая рэч? — інквізітар падышоў да хлопца. — Кажы.

— Іншая рэч — пасля двубою... — цяжка вымавіў Ганс. — Дабіць праціўніка, калі ён не чакае гэтага... Але ж гэта немагчыма...

— Мяркуеш? — інквізітар нявесела ўсміхнуўся. — Го-хо-хо, сыне мой, ты ў двубоях разбіраешся лепей, чым у людзях... Адкажы мне, што б здарылася, калі б габрэі, забіўшы фон Рэеншталя на гэтым лужку, тут жа пакінулі і цела?

— Я думаю, іх ніхто б не западозрыў, — упэўнена адказаў Ганс. — Двубоі тут бываюць часта.

— А яны замест гэтага цягнуць труп да свайго квартала, беручы на сябе сур'ёзную небяспеку. Ці не так?

— Так, — Ганс кіўнуў галавой на знак згоды.

— З гэтага можна зрабіць выснову: яны, магчыма, забілі. Але аднеслі не яны.

Ганс адмоўна пахітаў галавой.

— Не, — сказаў ён. — Хто забіў, той і аднёс. Па-мойму, гэта ясна. Інакш у горадзе ўжо было б вядома. Хаця б што-небудзь.

— Але, як я ўжо сказаў, занеслі труп да брамы ў гета дакладна не яны. Значыць...

Ганс мімаволі адступіў на крок.

— Значыць... і забілі... таксама не жыды... — ледзьве чутным шэптам сказаў ён.

— Нам вядомае месца злачынства, — дзелавым тонам сказаў інквізітар. — У кожным разе, аб гэтым можна гаварыць з абсалютнай пэўнасцю.

— Можна, але мы так і не высвятлілі, хто ж забойца, — паныла дадаў Ганс. — Калі вы сказалі, што спадзеяцеся знайсці на гэтым пляцы важныя рэчы, я думаў... — ён замоўк.

— Для гэтага мы павінныя дазнацца імёны ўдзельнікаў двубою, — адказаў айцец Леангард.

— Значыць, і вы ўжо думаеце, што тут быў двубой?

— У кожным разе, гэта тлумачыць многае. Хаця і не ўсё. Застаецца загадка, другая рана, — заўважыў інквізітар. — Нанесеная ўжо мёртваму, у руку. Я не магу сказаць пакуль, што забойства было вынікам двубою. Але, прынамсі, адно папярэднічала другому. Не выключана, што нейкі габрэй сачыў за двубоем, а пасля скарыстаўся бездапаможнасцю Рыхарда фон Рэеншталя. Хаця гэта дужа непраўдападобна гучыць, — дадаў ён пасля паўзы. — Словам, паўтаруся, неабходна выясніць імёны ўдзельнікаў двубою.

— Удзельніка, — паправіў яго Ганс. — Суперніка фон Рэеншталя.

— Не, — інквізітар пахітаў галавой. — Удзельнікаў. Тых траіх, што затапталі гэтую паляну, быццам статак быкоў.

— Траіх?

— Ты не бачыш? Іхныя сляды значна розняцца адны ад адных. Але нават без гэтага ясна: калі тут быў двубой, прысутнічалі чацвёра — фон Рэеншталь, ягоны праціўнік і два секунданты. Фон Рэеншталь забіты, што да астатніх, то мне пакуль не зразумела, чаму яны маўчаць, калі ўвесь Гамельсдорф толькі і гаворыць пра забойства.

— Адно з двух: або яны ўсе ўдзельнічалі ў гэтым... — павольна прагаварыў Ганс.

— Або прынамсі двух з іх няма ў горадзе, — скончыў дамініканец.

— Але гэта толькі ўскладняе задачу! — выгукнуў Ганс.

— Хто знае? Можа, наадварот, аблягчае. Бо ж злачынца ў Гамельсдорфе.

Пакідаючы лужок за вуліцай Ганчарнай, айцец Леангард раптам сказаў:

— Ты згадваў нейкую піўніцу, што непадалёк адсюль.

— Так, святы айцец. Я гаварыў пра склеп Клаўса Бехера. Ён на Ганчарнай.

— Як ты глядзіш на тое, каб зайсціся туды?

— Вы хочаце выпіць, святы ойча? — уражана запытаў Ганс.

— Што ты, хлопча! Пакуль што нам няма за што піць... Не, сыне мой, я хачу тое-сёе выясніць. Тое, што здарылася тут дзень таму, вельмі нагадвае заканчэнне сваркі ў шынку, табе не здаецца?

Ганс моўчкі пацісну плячыма.

— Ну, як жа! Калі б двубой быў прызначаны раней, мы б што-небудзь пра яго ведалі. У кожным разе, такая імавернасць ёсць, ты не згодны?

— Няхай так, — сказаў паслушнік. — Але ж гэтая сварка, як вы кажаце, магла адбыцца дзе-кольвек, і ніякіх няма гарантыяў, што нам раскажуць пра яе тут, у склепе Клаўса Бехера.

Інквізітар паволі пахітаў галавой.

— Думаю, што ты не маеш рацыі, Ганс, — сказаў ён. — Калі б яны пасварыліся ў іншым месцы — сталі б яны ісці сюды, каб вырашыць сваю спрэчку?

— У горадзе не так многа прыдатных для гэтага месцін, — нагадаў Ганс. — Таму мы і знайшлі яго.

— Верна... — айцец Леангард крыху падумаў. — У кожным разе, тады б іх нехта ўбачыў, і мы б сёння пра гэта дазналіся. Не, больш лагічна падумаць, што сварка здарылася ў найбліжэйшай піўніцы, і праціўнікі, да таго ж распаленыя віном і півам, выйшлі сюды выясніць адносіны.

У склепе Клаўса Бехера наведнікаў не было, таму як толькі манах і паслушнік селі за вялікі стол, збіты з шырокіх, гладка абгабляваных дошак, да іх выбег гаспадар, высачэзнага росту мужчына ў скураных штанах і куртцы, з белым палатняным хвартухом.

— Святыя айцы жадаюць чаго-небудзь?

— Прынясі-тка нам халоднай вады, сын мой. — папрасіў інквізітар.

На твары Бехера вырысавалася глыбокае расчараванне.

— І ўсё? — ён чамусь абцёр анучай і без таго чысты стол. — У мяне ёсць выдатнае віно, а што да піва, дык такога, шчыра кажучы, вы ні ў кога ў Гамельсдорфе не знойдзеце.

— Я не сумняюся ў гэтым, дарагі Клаўс, — мякка сказаў айцец Леангард. — Але мы прыйшлі да цябе не па гэта.

— Не па гэта? — Клаўс Бехер пакруціў галавой. — А навошта яшчэ я магу спатрэбіцца манахам?

— Я — следчы Святой Інквізіцыі, мяне завуць айцец Леангард, — сказаў дамініканец. — А гэта мой памочнік, паслушнік манастыра аўгустынцаў Ганс. І мы хочам задаць табе колькі пытанняў.

Пачуўшы, што яго наведаў інквізітар, Бехер пабялеў.

— Інквізіцыя? — збянтэжана прамямліў ён. — Але... клянуся вам, святыя айцы, я...

— Табе няма чаго баяцца, — цярпліва сказаў інквізітар. — У Святога Трыбунала няма да цябе ніякіх прэтэнзій. Мяркую, ты вядзеш жыццё, цалкам вартае добрага абывателя і вернага сына Касцёла.

— Іменна так, святы ойча, — затараторыў гаспадар піўніцы. — У царкву я кожную нядзелю... і да споведзі, і да сакрамэнту...

— Ну вось бачыш, я ведаў, што на цябе можна разлічваць, і ты раскажаш мне аб усім, што можа цікавіць Святую Інквізіцыю.

— Пытайцеся, святы ойча, пытайцеся.

— Сядай.

— Не-не-не, святы ойча, я не смею.

— Сядай, мне цяжка гаварыць з табой, задраўшы галаву, дужа ж ты вялікі ростам.

Бехер асцярожна сеў на край лавы насупраць манахаў.

— Скажы, дружа, ці добра ты памятаеш учорашні дзень?

— Учорашні дзень? — Бехер задумаўся. — Канечне, помню. Што іменна вас цікавіць, ойча Леангардзе?

— Ну, напрыклад, ці многа людзей у цябе было ўчора, бліжэй да вечара?

— Бліжэй да вечара?.. Ну, не тое каб дужа. З дзясятак, напэўна.

— Ты ўсіх іх запомніў?

— А то ж мне не знаць маіх пастаянных гасцей! — гаспадар склепу засмяяўся.

— Цудоўна. Я ўпэўнены, што ў цябе выдатная памяць.

— Проста ў цэль, святы айцец. Выдатная памяць. І ўвогуле я на здароўе не наракаю.

— Я буду маліцца, каб і надалей у цябе ўсё было добра, — сур'ёзна сказаў інквізітар. — А ці не назваў бы ты, хто менавіта быў у цябе?

Бехер задумаўся.

— Я дапамагу табе, — сказаў айцец Леангард. — Ці быў у цябе злосна забіты Рыхард фон Рэеншталь?

— Вядома ж, святы ойча.

— Ён быў не адзін?

— Не, з ім было яшчэ трое паноў.

Дамініканец кінуў на Ганса шматзначны позірк. Хлопец, што ўважліва слухаў, не прыкмеціў гэтага.

— І хто былі гэтыя паны? — спытаў інквізітар.

— Зараз падумаю... — Клаўс Бехер на імгненне зажмурыўся. — Ну, так... Па-першае — сябар пана фон Рэеншталя, пан Гуга фон Зольген. Па-другое — барон Вольфганг фон Ротэн... — Бехер нетаропка загінаў кароткія тоўстыя пальцы на левай руцэ. — А па-трэцяе — таварыш пана барона, пан Ота фон Бользэн... — ён уважліва паглядзеў

на сваю руку з трыма загнутымі пальцамі. — Ну і, вядома, сам пан фон Рэеншталь, царства яму нябеснае, — Бехер расціснуў руку і хутка перажагнаўся.

— Яны пайшлі разам? — запытаў інквізітар.

— От так і ёсць, святы айцец, разам. Здаецца мне, што здарылася тут у іх невялікая сварка.

— Вось як? — дамініканец ізноў глянуў на паслушніка. — А з чаго?

Бехер пахітаў галавой.

— Вось гэтага я не ведаю, не чуў... а можа быць, мне гэта толькі падалося. Знаеце, калі людзі многа вып'юць, яны проста іншым разам размаўляюць грамчэй, як звычайна, а са стараны — бытта сварацца...

— Бывае... — абыякава сказаў інквізітар. — А дзе цяпер гэтыя паны?

— Ды дзе ж ім быць... Пан барон і ягоны прыяцель, пэўне, вярнуліся ў замак пана барона — яны ніколі не застаюцца ў Гамельсдорфе.

— Далёка замак?

— Не, тры гадзіны ходу ад гарадской брамы... А пан фон Зольген хіба што дома ў сябе, на Броварнай вуліцы.

— Ці ёсць у цябе, сын мой, атрамант і пяро?

— Ёсць, як не быць... — Бехер адышоў і зараз жа вярнуўся з патрэбнымі рэчамі. — Што-небудзь яшчэ, ойча Леангардзе?

— Не, дзякую, дружа, ты нам вельмі дапамог сёння. Можаш вярнуцца да сваіх справаў.

Клаўс Бехер з яўнай палёгкай на твары вярнуўся за стойку, а айцец Леангард дастаў з-за пазухі некалькі прыхаваных раней аркушаў пергаміну.

— Што вы збіраецеся рабіць, айцец Леангард? — азадачана запытаў Ганс.

— Пісаць лісты, сын мой. А яшчэ папрашу цябе сёння ж даставіць іх, — адказаў інквізітар, уважліва разглядаючы кончык пяра на прасвет.

— Ці магу я ведаць, каму вы пішаце?

— Натуральна, — дамініканец усміхнуўся. — Ты ж будзеш іх разносіць, так што сам усё пабачыш. А зараз памаўчы, зрабі ласку, ты мне перашкаджаеш.

Напісаўшы чатыры кароткія лісты, ён запячатаў іх пячаткай Святога Трыбунала і ўручыў паслушніку.

— Вось, — сказаў ён. — І я папрашу цябе выканаць усё гэта без адкладу.

— А вы, святы ойча?

— А я пастараюся знайсці апошні доказ.

Ганс умольна паглядзеў на яго:

— Айцец Леангард, дазвольце мне суправаджаць вас!

Айцец Леангард пахітаў галавой.

— Не, сын мой. Ты павінен аднесці гэтыя лісты, — сказаў ён. — Гэта таксама вельмі важна.

Ганс узяў пісьмы і падняўся з лавы.

— Слухаю, святы ойча, — сказаў ён. — Але ці магу я хацяб дазнацца, дзе вы хочаце шукаць гэты апошні доказ?

— Можаш, — айцец Леангард таксама ўстаў. — Ты можаш нават праводзіць мяне туды, гэта па дарозе. Я збіраюся наведаць габрэйскі квартал.

* * *

Таварыства, што сабралася вечарам наступнага дня ў касцёле Святой Барбары, у Аўгустынскім манастыры, было не вельмі шматлікім. Гродскі суддзя, які быў у ліку іншых, неўразумела азіраўся, пакуль не ўбачыў айца абата.

— Патлумачце, святы ойча, што тут будзе адбывацца. Я атрымаў дзіўны ліст з пячаткай Святога Трыбунала. Я, вядома ж, выканаў патрабаванні інквізіцыі, але што яны значаць — не разумею.

— І што ж ад вас запатрабавалі? — спытаў абат.

Суддзя панізіў голас:

— Каб я прыйшоў у царкву, прычым не адзін, а ў суправаджэнні варты. Каб са мною разам прыйшлі чальцы рады места і бурмістр. Каб я паставіў вартаўнікоў на выхадзе і нікога не выпускаў, пакуль не будзе на тое асобнага наказу. І каб нікому аб гэтым не гаварыў.

— А хто вам прынёс ліст?

— Малады паслушнік. Уручыў і, не прамовіўшы ні слова, пайшоў... Вось гэты, па-мойму, — дадаў ён, заўважыўшы сярод манахаў, якія заходзілі ў капліцу, Ганса.

— А, вельмі добра, — прамармытаў айцец Якаб. — Не хвалюйцеся, пане суддзя, вы ўсё зрабілі слушна, — усміхнуўшыся суддзю, ён адышоў ад яго і скіраваўся да інквізітара, які сціпла стаяў у дальнім, кепска асветленым куце капліцы.

— Што ўсё гэта значыць, ойча Леангард? — спытаў абат з дрэнна прыхаваным раздражненнем.

— Я хачу, каб забойца сам прызнаўся ў сваёй віне і быў пакараны, — суха адказаў інквізітар.

— Думаеце, забойца не наважыцца адмаўляць сваю віну ў прысутнасці ахвяры? — айцец Якаб не хаваў іроніі.

— Думаю, ахвяра выкрые злачынцу.

Абат азірнуўся на міранаў.

— Для чаго патрэбныя суддзя і варта, я разумею, — сказаў ён тым самым тонам. — Гарадскія радцы і бурмістр Херст... ну, ладна. А навошта гэтыя паны? Фон Зольген? Сын бурмістра Ёган? Астатнія? — ён паказаў на групу багата ўбраных маладых спадароў, якія гучна размаўлялі і смяяліся. Іх ніколечкі не бянтэжыла, што яны былі ў капліцы.

— Мне патрэбная прысутнасць усіх шаноўных абываталяў Гамельсдорфа, — адказаў айцец Леангард спакойна. — Выкрыццё злачынцы будзе для іх карысным і павучальным.

Абат пакачаў галавой і адышоў.

Айцец Леангард пастаяў яшчэ нейкі час, потым павольна рушыў да кафедры, побач з якой на стальніцы ляжала пакрытае белай тканінай цела Рыхарда фон Рээншталя.

— Вы здзіўленыя, што я сабраў вас тут, у гэтым касцёле, каля цела няшчаснага, забітага толькі дзень таму пры загадкавых акалічнасцях? Але я хачу, каб зараз, у вашай прысутнасці і на вашых вачах, быў выкрыты забойца і высвеленыя прычыны страшнага ўчынку.

— Але я не бачу арыштаванага! — гучна сказаў айцец Якаб. — Вы ж хацелі выкрыць яго ў абэцнасці ахвяры!

— Арыштаванага? Зусім не. Ён не вінаваты, — стрымана адказаў інквізітар. — Але забойца будзе раскрыты. Бо ён — тут.

Па царкве прайшоў лёгкі гул. Дачакаўшыся цішыні, айцец Леангард працягнуў:

— Пачнем з таго, што нам удалося выявіць: Рыхард фон Рээншталь быў забіты зусім не там, дзе яго знайшоў шаноўны Міхель Кірш. А на пустыры, за Ганчарнай вуліцай. Сляды травы на ягонай адзежы і ботах расказалі пра гэта.

— Правільна, — сказаў Кірш. — На нашай вуліцы ані травінкі.

— Правільна, — ва ўнісон яму сказаў царкоўны служка. — Усё адзенне пакутніка было зялёным ад травянога соку.

— І, як вынікае, ніяк не жыхары габрэйскага квартала яго забілі, — рэзюмаваў айцец Леангард. — Пра тое ж, дарэчы, сведчаць і сляды крыві на пустыры, дзе ён насамрэч быў забіты.

— Ну, гэта як сказаць... — падаў голас Клаўс Бехер. — Гэтыя д’ябальскія вырадкі маглі забіць яго і на пустыры.

— Не, пане Бехер, — цвёрда сказаў інквізітар. — Калі б яны і маглі гэта зрабіць, то толькі днём. А паколькі

цела было знойдзенае побач з іхным кварталам, застаецца меркаваць, што яны самі перанеслі яго туды. Але ж ніхто іх там не бачыў.

— А чаму яны не маглі перанесці познім вечарам, проці ночы? — спытаў Кірш.

— Таму што краты габрэйскага квартала не падымаліся пасля заходу сонца. Вы самі паведамілі нам пра гэта.

— Я?

— Канечне. Вы ж сказалі, што не чулі ніякіх гукаў са сваёй крамы.

— Не чуў, верна... — мяняла задумаўся.

Інквізітар спусціўся з кафедры і марудна наблізіўся да групы свецкіх. Спыніўся.

— Пане фон Зольген, — сказаў ён.

— Што?.. — малады чалавек выглядаў крыху збянтэжаным.

— Спадар Бехер толькі што ўспомніў нейкі пустыр. Надоечы там адбыўся двубой. Быць можа, вы трохі апаведзяце нам пра яго?

— Д-двубой?.. — фон Зольген яўна не быў гатовы да такога пытання. — Уласна, я магу, вядома ж, апавесці, але... — ён аблізнуў засмяглыя губы. — Дык, Рыхард... у той вечар зацяўся з баронам фон Ротэнам.

— З чаго?

— Мы гулялі ў косці, і барон падумаў, што Рыхард махлюе. Барон даў яму поўху, і Рыхард выклікаў яго...

— Вы былі секундантам фон Рэеншталя?

— Так.

— Калі і дзе адбыўся двубой?

— Адразу ж пасля сваркі. На пустыры за Ганчарнай вуліцай.

— То бок там, дзе, як мы толькі што выявілі, і быў забіты фон Рэеншталь?

— Што? Малады фон Рэеншталь забіты? — з гэтымі словамі ў капліцу зайшлі новыя госці — двое багата апра-

нутых спадароў, крыху старэйшых за Гуга фон Зольгена. Пабачыўшы іх, фон Зольген, і без таго бледны, зрабіўся падобны да мерцвяка.

— Барон фон Ротэн... — прашаптаў ён. — Больззн... О Божа...

— Гэта вы даслалі мне ліст, святы ойча? — звярнуўся барон да айца Леангарда. Той моўчкі кіўнуў.

— Шчыра кажучы, я зусім не збіраўся ехаць, праўда, Ота? — ён павярнуўся да свайго спадарожніка па пацверджанне. — Прыязджаю і раптам дазнаюся, што фон Рэеншталь забіты.

— А вы не ведалі пра гэта? — запытаўся інквізітар.

— Ну вядома ж, не! — выгукнуў барон. — Тры дні таму мы пакінулі яго жывым, амаль здаровым, калі не лічыць маленькай дзіркі ў левым сцягне, якую я яму акуратненька зрабіў, каб даць урок. Але ад такой раны не паміраюць, да таго ж пад наглядам блізкага сябра, Гуга фон Зольгена. Дык і як ён памёр?

— Яго ўдарылі кінжалам проста ў сэрца, — сказаў айцец Леангард. — Дуэльным кінжалам.

У капліцы павісла густая цішыня.

— Але ж...— сказаў нарэшце барон, — калі мы сыходзілі... ягоны кінжал заставаўся ў руках фон Зольгена...

— Іменна так я і меркаваў, — інквізітар задаволена ўсміхнуўся.

— Не! Я не забіваў яго!!!

Гэта крычаў фон Зольген.

Дамініканец рэзка павярнуўся да яго.

— Так, — сказаў ён ціха, але ў цішыні пасля выкрыку фон Зольгена было чуваць кожнае ягонае слова. — Забіў, Гуга. Ты забіў свайго сябра. Ты дачакаўся, пакуль барон і пан фон Больззн пойдуць, а потым усадзіў яму ў сэрца ягоны ж кінжал. Табе былі патрэбныя грошы,

Гуга. Ты быў вінен ладную суму. Я яшчэ скажу, каму іменна. І ты думаў пажывіцца кашалём фон Рэеншталя. Але каліта аказалася пустой, да таго ж табе трэба было схаваць канцы ў ваду. І ў галаве тваёй саспеў план напраўду д'ябальскі. Прычакаўшы цемры, ты перанёс цела забітага да кратаў габрэйскага квартала...

На знак суддзі вартаўнікі, што стаялі пры дзвярах, падышлі да знямелага ад жаху фон Зольгена і сталі абапал яго. Запанавала глыбокая ціша.

— Ён хацеў, каб у забойстве былі абвінавачаныя габрэі Гамельсдорфа. Магчыма, ён нават сам распальваў гэтыя настроі сярод чэрні, — роўным голасам працягнуў дамініканец. — Ён ведаў, што барон фон Ротэн не з'явіцца ў Гамельсдорфе раней, чым праз два тыдні — як барон дамовіўся з мянялам Міхелем Кіршам. А пан фон Зольген пяць тысяч гульдэнаў вінен габрэю на імя Абрагам Бэн-Леві. Рабіну абшчыны. Таму самаму, якога сёння вінавацяць у забойстве. Ён разлічваў на тое, што ў часе пакарання абвінавачанага габрэя здарацца беспарадкі, якія перарастуць у пагром, а пры пагроме загіне і сам Абрагам, і ўся ягоная сям'я. Такім чынам ён пазбавіўся б ад свайго доўгу і...

— Хлусня! — надарваным голасам ускрыкнуў фон Зольген.

Айцец Леангард выразна паціснуў плячыма і прамаўчаў.

— Сапраўды, ойча інквізітар... — прамовіў айцец Якаб. Голас ягоны крыху дрыжаў, твар пацямнеў ад незадаволенасці, якую той відавочна стрымліваў. — Сапраўды, адкуль вам вядома пра доўг?

— Я прачытаў аб ім у рахунковай кнізе самога Абрагама, — адказаў дамініканец. — Вы таксама можаце азнаёміцца з гэтым запісам... Пане суддзя, я ўжо бачыў, што вы выканалі маю просьбу і прыбылі сюды ў супра-

ваджэнні варты. Удзячны вам. Вам, прадстаўніку свецкай улады, я перадаю злачынца. Рабіце з ім што палічыце патрэбным.

У цішыні, якая павісла пасля гэтых словаў, да інквізітара наблізіўся айцец Якаб. Ягоны твар быў халодны. Такі ж халодны быў і голас, калі ён сказаў:

— Гратулюю вас, ойча Леангардзе. Вы выканалі сваё абяцанне. Цяпер я настойліва раю вам адправіцца ў келлю і як мае быць выспацца перад далёкай дарогай...

І, убачыўшы непаразуменне на абліччы інквізітара, патлумачыў:

— Заўтра раніцой вы мусіце рушыць у Рым. Мне трэба даставіць у канцылярыю Яго Святаблівасці важныя паперы. Нікому, апроч вас, я не магу іх даверыць.

Айцец Леангард здзіўлена падняў бровы.

— Але я яшчэ не скончыў! — сказаў ён. — Я толькі збіраюся ўзяцца за заканчэнне следства.

— Айцец Леангард, — сказаў раптам айцец Якаб. — Можа быць, мы прадоўжым размову ў маёй келлі?

Інквізітар паглядзеў па баках. Абат зразумеў гэты погляд і зрабіўся яшчэ больш панурым. Тым не менш голас ягоны, калі ён загаварыў ізноў, падаваўся спакойным і зычным, як і дагэтуль.

— Дзеці мае, — звярнуўся ён да прыхаджанаў, павысіўшы голас, — я хачу абараніць вас, дзеці мае, ад аблуды, што можа прывесці да цяжкіх наступстваў. Разыходзьцеся па дамах з мірам. Падзякуйце Пану за тое, што вінаваты ў злачынстве выкрыты і будзе пакараны, — ён замоўк.

— Чакайце! — сказаў бурмістр. — Вы сказалі, святы ойча, што хочаце закончыць расследаванне. Ды заканчвайце яго пры нас! Тут, цяпер. І няхай усе пачуюць, што здарылася насампраўдзе.

Астатнія падтрымалі яго ўхвальным гулам. Айцец Леангард паглядзеў на абата і развёў рукамі.

— Ну што рабіць, — сказаў ён. — Я выканаю абяцанне. Айцец абат, настрой натоўпу пераменлівы.

Айцец Якаб маўчаў. Інквізітар падняўся на кафедру, паглядзеў на суддзю.

— Вы гэтага хочаце? Добра, пане бурмістру, — прамовіў ён гучна. — У такім разе мне неабходна прынесці адну рэч з келлі айца абата. Ганс, — сказаў ён, павысіўшы голас, — ідзі да брата Амбражэя. Няхай ён прынясе з келлі айца абата карціну...

— Што?! З маёй келлі?! Я пракляну кожнага, хто наважыцца пераступіць парог майго жытла! — гнеўна сказаў абат. — Імем Госпада я забараняю вам гэта рабіць!

— А чаму, уласна? — спытаў інквізітар. — Што такога страшнага хаваецца ў вашай келлі, ойча Якаб? О, безумоўна, я ведаю: вашая келля мала падобная да манаскага жытла. Вас непакоіць, што скажуць прыхаджане, што падумаюць свецкія, калі зойдуць туды? Дываны... пуховыя пярыны... падшываныя падушкі і падушачкі... дарагія віны... Дык аб гэтым і так усім вядома. Да таго ж, цяпер нас усё гэта не цікавіць. Я ж наказаў прынесці сюды карціну.

— Не! — выкрыкнуў абат.

— Але ж гэтая карціна выяўляе Святую Барбару, заступніцу Гамельсдорфа, — сказаў айцец Леангард з удаваным здзіўленнем. — Ці не так? Што ж страшнага здарыцца, калі карціну прынясуць у царкву? Думаю, што нічога, — ён звярнуўся да тых, хто сабраўся і слухаў яго з напятай увагай. — Я спадзяюся, што да карціны вы паставіцеся з належным шанаваннем?

— Без аніякіх сумненняў, — адказаў за ўсіх суддзя, гледзячы з падазрэннем на айца Якаба. — Як жа ж інакш?

— Цудоўна. У такім выпадку пачакаем трохі, — айцец Леангард скоса зірнуў на абата. Айцец Якаб адышоў убок і абаперся рукой на кафедру. Ягоны твар быў бледны, на ілбе выступіў пот.

У касцёле вісела напружаная цішыня. І нават калі з'явіўся нарэшце Ганс у суправаджэнні кашталяна брата Амбражэя, толькі кароткі ўздых прайшоўся па радах, і зноўку ўсё заціхла.

— Айцец абат! — яшчэ ад дзвярэй крыкнуў кашталян. — Ганс сказаў, што вам патрэбная карціна для Хрэснага ходу. Я не хацеў даваць, але ён патрабаваў... — азірнуўшыся па баках, брат Амбражэй разгублена змоўк.

— Усё верна, браце Амбражэй, — прыветна сказаў дамініканец. — Я дзякую вам за дапамогу. Ганс, пастаў, калі ласка, карціну вось сюды.

Цяпер карціна, што выяўляла Святую Барбару, апынулася акурат насупраць злачынца. Айцец Леангард доўга разглядаў яе, потым запытаў айца Якаба:

— Хто яна?

— Што? Што вы спыталі?

— Я спытаў, як звалі жанчыну, намаляваную на гэтай карціне.

— Не разумею вашага пытання, — суха вымавіў абат. — Гэта выява Святой Барбары, заступніцы Гамельсдорфа.

— Не, хто паслужыў прыкладам для мастака? Вы ж прывезлі гэтую карціну з сабой, ці не так, ойча Якаб?

— Так, я прывёз яе, калі прыбыў у кляштар. А чаму вас гэта так цікавіць, айцец Леангард? — абат стаяў нерухома. Галава ягоная была апушчаная. Не адказваючы, інквізітар спусціўся з кафедры. Спыніўся перад карцінай і зноў звярнуўся да абата.

— Айцец Якаб, вам не падалося дзіўным, што такая вынаходлівая думка аб утойванні злачынства прыйшла ў галаву такому, скажам проста, не дужа кемліваму чалавеку, як малады шляхціч Гуга фон Зольген?

— Не бачу нічога дзіўнага, — адказаў абат абыякава. — Паколькі думкі аб злачынстве — роўна як і аб утойванні апошняга — чалавеку ўнушаюцца д'яблам, то

варта гаворку весці не пра кемлівасць або някемлівасць злачынца, але пра вынаходлівасць д’ябла.

— Так, д’ябал... — інквізітар кіўнуў на знак згоды. — Але ён заўсёды ўкладае вычварныя і вынаходлівыя думкі ў гэткі ж розум. Прастадушнаму ён нашэптвае штонебудзь простае. Хіба не лагічна меркаваць іменна так?

— Быць можа. Думаю, тэолагі з цікавасцю паставіліся б да такой дыскусіі. Мой просты розум бяссільны што да развагаў такога кшталту.

— Прабачце, айцец інквізітар, — умяшаўся бурмістр. — Якое дачыненне гэта мае да...

— Да гэтай жудаснай гісторыі? — падказаў айцец Леангард. — На вялікі жаль, наўпростае, — ён зноў падышоў да карціны. — Ганс, — сказаў ён, — зрабі ласку, паднясі карціну вось сюды, — ён паказаў на месца побач з Гуга фон Зольгенам.

Ганс падпарадкаваўся.

— Звярніце ўвагу, пане бурмістр, і вы, пане суддзя, — дамініканец павысіў голас. — Вы нічога не прыкмячаеце?

Бурмістр і суддзя перазірнуліся і адначасова неўразумела ўтаропіліся ў інквізітара.

— Не прыкмячаем? — спытаў суддзя. Што мы павінныя заўважыць?

— Будзьце ўважлівыя, — настойліва сказаў інквізітар і зноў звярнуўся да абата. — Разумееце, айцец Якаб, я ж адразу падумаў, што твар маладога шляхціча Гуга фон Зольгена мне знаёмы. Але толькі цяпер я ўспомніў канчаткова: вось каго нагадваў мне Гуга фон Зольген.

Абат апусціў галаву.

— Сапраўды! — выгукнуў суддзя. — Яны вельмі падобныя, — ён звярнуўся да бурмістра. Той заківаў. — Яны падобныя! Што гэта значыць, айцец Леангард?

— Толькі адно, — адказаў інквізітар. — Гэта была ягоная маці.

— Айцец Якаб, — разгублена запытаў суддзя, — вы пацвярджаеце словы айца інквізітара?

У цішыні выразна прагучаў адказ абата.

— Так, — вымавіў ён напаўголасу. — Гэта была ягоная маці.

— Вашая каханка, — не пытаючыся, а сцвярджаючы, сказаў айцец Леангард. І, не даючы апамятацца знямелым ад здзіўлення гараджанам Гамельсдорфа, гучна дадаў: — Вы хацелі ўратаваць сына. Гэта так натуральна для бацькі: паспрабаваць выратаваць сына. Нават цаною дзясяткаў іншых жыццяў. Можаце мне не адказваць, абат, я і так ведаю: гэта да вас ён прыбег пасля паядынку. Гэта вы ведалі пра ягоныя даўгі габрэю-ліхвяру. І гэта вы намовілі яго аднесці цела памерлага да кратаў жыдоўскага квартала. І вы падбухторвалі месцічаў напасці на гета. Думаю, вас наведала гэтая жудасная думка, калі вы пабачылі, колькі крыві страціў няшчасны.

Абат паглядзеў на Гуга фон Зольгена.

— Увядзіце... — прашаптаў ён. — Увядзіце яго...

— Варта! — паспешліва крыкнуў пан Зэльцэр. — Вывесці!

Пакуль вартаўнікі выконвалі загад суддзі, інквізітар не зводзіў погляду з пабялелага твару абата. Айцец Якаб таксама глядзеў на яго, але быццам не бачыў. Ягоныя губы ледзь заўважна варушыліся. Айцец Леангард падышоў бліжэй і ціха сказаў:

— Цяпер мне зразумелае вашае жаданне спрыяць жыдоўскаму пагрому. Яно, прынамсі, не мае каранёў у невуцтве. Прадыктаванае цалкам матэрыяльнымі прычынамі.

— Што?.. — абат нібы апрытомнеў. Рысы ягонага ўраз змарнелага твару сказіў гнеў. — А, гэта ты, інквізітар. Твая праўда, я хацеў выратаваць сына. Усяго толькі. А ты загубіў яго. Праклінаю цябе, старэча!.. Ты забіў

майго сына. І мяне разам з ім... — айцец Якаб быццам задыхнуўся ад нянавісці, якая перапаўняла яго.

Айцец Леангард пакачаў галавой.

— Вы аслеплены гневам, ойча Якаб, — сказаў ён. — Няўжо вас не пужала, што жыццё вашага сына будзе купленае цаной жыцця некалькіх дзясяткаў невінаватых?

— Яны мне абыякавыя, — адказаў абат нечакана спакойным голасам. — Габрэі, хрысціяне. Ні адзін з іх не варты майго сына. Ні адзін, інквізітар. Ты не зразумееш мяне... — голас ягоны апусціўся да шэпту. — Таму што ты сам ніколі не любіў.

*Пераклаў з рускай Уладзь Лянкевіч*

ВОЛЬГА ТАКАРЧУК

# ПРАЧЫНАЙСЯ, ТЫ ЗАБІТЫ

С. не ведала, чаго хоча. Не ведала, чаго шукае на паліцах мясцовай бібліятэкі і ў кнігарнях. Калі б яна захацела пра гэта дакладна апавесці, то, мабыць, закаціла б вочы ўгору, выцягнула б вусны, як для пацалунку, і бездапаможна развяла б рукамі. С. шукала больш натуральных герояў і больш праўдападобных злачынстваў. Больш складаных матываў і такіх доказаў, на якія следчы ніколі не зверне ўвагі. Не, гаворка ішла не пра кроў і мяса, не пра бойню, не пра жахі. Гэтага яна дастаткова бачыла і па тэлевізары. С. хацелася чагосьці нетыповага, не да канца зразумелага — чагосьці, што толькі зрэдчасу высоўвалася б на паверхню, каб нагадаць пра сябе. А яшчэ С. хацела такога, што яе закранала б, чапляла за жывое, не давала спаць. Гэта цяжка было растлумачыць бібліятэкарцы ці прадавачцы.

— Сама не ведаю, — казала яна, круцячы з недаверам кніжку, але ўрэшце яе брала. Чытанне дэтэктываў было справай прыемнай з усіх бакоў. Яно нагадвала прыбіранне, раскладанне па шуфлядах — пакрысе хаос ператвараўся ў парадак. Але часам і парадак надакучвае.

С. прыносіла з мясцовай бібліятэкі цэлыя валізкі кніжак. Чытала іх запоем на кухні ды ў метро. Дзве-тры на тыдзень. Брала таксама дэтэктывы менш вядомых аўта-

раў, былі сярод іх добрыя, былі й зусім ніякія. С. пакаштавала дэтэктываў з прэтэнзіяй на літаратуру, з глыбокім падтэкстам, не заўсёды ёй зразумелым; асвойталася з дэтэктывамі дзіўнаватымі, быццам нейкія гібрыдныя расліны, пасмакавала дэтэктываў-галаваломак, дэтэктываў-паэмаў, разабрала на часткі дэтэктывы-«матрункі», дзе кожны наступны раздзел адкрываў ужо нейкі іншы сэнс, іншую гісторыю, з выгляду не звязаную з сюжэтам; прадзіралася праз дэтэктывы-трактаты, поўныя інтэлектуальных выкрунтасаў, алюзіяў, якія яна мусіла разумець, але не разумела; змагалася з такімі, што прыкідваліся не дэтэктывамі, а даследаваннямі пра спазнанне ці маральнасць. Былі сярод іх і злачынныя аповесці, якія на вачах у чытача руйнавалі жанравыя прынцыпы, рабілі з іх нейкі агідны фарш і — што найгорш — называлі забойцу, абмінаючы ўвесь святарны абрад следства. Альбо такія, што цешыліся з кожнага сказа, адсоўвалі злачынства на задні план, закаханыя ў свой эстэтызм, бы красуня — у сваё адлюстраванне. Альбо, напрыклад, такія — ад адной думкі пра гэта сківіцы сціскаліся ад гневу і абурэння, — якія апісвалі злачынства ў найдрабнейшых дэталях, а пасля пакідалі яго нявыкрытым. Вычварэнцы! У кнігарнях з'яўлялася ўсё больш такіх дэтэктыўных «кентаўраў» — нейкія тэхнадэтэктывы, дэтэктывы навукова-папулярныя, мілосныя дэтэктывы. С. чытала ўсё, прынамсі, цярпела гэта. Яшчэ не здаралася такога, каб яна пачала чытаць і кінула. Прачытаць першы сказ для яе азначала тое самае, што падпісаць кантракт ці ўзяць шлюб, які будзе доўжыцца да канца. І не было ўжо дарогі назад. Пакуль выкрыццё забойцы не разлучыць яе з кнігай.

Едучы ў метро дадому, С. прачытала першыя старонкі і з прыемнасцю адзначыла, што раман пачынаецца як трэба. Тут было ўсё, што яна любіла: рэалістычна і дакладна акрэсленае месца дзеяння, рэчы, апісаныя з ува-

гаю да дэталяў, яскравыя характарыстыкі персанажаў. С. адчула ўдзячнасць да аўтара за клопат пра чыюсьці лысіну ці пакамечаныя штроксавыя нагавіцы, бо ўжо з гэтых штрыхоў ёй у цёмных мігатлівых шыбах вагона малявалася ўся карціна.

Апавядалася пра тое, што ў нейкім невялічкім, але прыгожа размешчаным палацыку ў Фландрыі адбывалася сустрэча майстроў дэтэктыўнага жанру. Уладаркаю сядзібы ды ініцыятаркай гэтага незвычайнага з'езду была каралева дэтэктыву, вельмі старая, гадоў за восемдзесят, Ульрыка.

С. па некалькіх фразах даволі падрабязных апісанняў уявіла яе шчуплай, да касцей высахлай бабулькаю з доўгімі кашчавымі пальцамі. Яна была падобная да Барбары Картлэнд, можа, таму, што таксама напісала колькі дзясяткаў кніг, якія прынеслі ёй славу. Блакітны ядваб сукенак Ульрыкі і празмерная колькасць залатых бразготак білі ў вочы. С. падумала, што яна, пэўна, пахне сенам, якое мае самы крохкі водар у свеце.

Ульрыка была фламандка, палацык спрадвеку належаў яе сям'і, але пасля бітвы пад Іпрам страціў сваю прывабнасць — мабыць, таму, што сама зямля тут смярдзела трупамі. С. зірнула на свайго суседа, які на каленях вёз у кошыку кацяня, і падумала, што трэба ўдакладніць, пра якія падзеі гаворка. Пра Першую сусветную ды іпрыт? Пэўна, так.

Знакамітая Ульрыка пастанавіла ў тэстаменце, што пасля яе смерці палацык у каштанавым парку стане асяродкам творчай працы, прытулкам для аўтараў дэтэктыўных раманаў. Унізе, адразу ля ўваходу, адна зала будзе прысвечаная ёй самой — жыццю і творчасці. Фотаздымкі, вітрына з рукапісамі, калекцыя шматмоўных выданняў. Сваю бібліятэку, парк, прыгожанькі «рэно», а таксама сваю найлепшую фламандскую кухарку (доўгага ёй жыцця!) яна аддасць у распараджэнне гасцей.

Пакоі на першым паверсе, што месціліся ў цесным калідоры адзін пры адным, як каморкі, малыя і цёмныя, будуць служыць наступным пакаленням аўтараў на славу дэтэктыву.

Да свайго жалю, С. мусіла адкласці кнігу якраз тады, калі з найбліжэйшага да Баена вакзала сустракалі першага прыбылага. Ёй спадабалася, што па яго прыехаў аўтамабіль з палаца. Менавіта згаданы сіні «рэно». Першым госцем быў той самы лысы мужчына ў пацёртых штроксавых нагавіцах.

С. паднялася з сеткамі на чацверты паверх і дацягнулася да сваёй кватэры. Адчыніла акно, і ў дом уляцеў яшчэ слабы й невыразны пах вясны. Мімаходзь С. заўважыла некалькі малых мушак на лістах кардону, што перанёс зіму амаль без пашкоджанняў. Пасля С. накарміла ката, паставіла ваду для макароны і, чакаючы, пакуль закіпіць, прысела на зэдліку ў кухні чытаць далей.

Мужчына зваўся Лангфэла і быў знакамітым ангельскім аўтарам дэтэктываў. Зmoраны далёкай дарогай, ён думаў толькі, каб перад сумеснай вячэрай хвілінку падрамаць. Аднак усё-ткі з цікавасцю глядзеў на маркотны імглісты краявід паўночнай Францыі, які, як яму здавалася, хутчэй паспрыяў бы напісанню сентыментальных трылераў.

— А праўда, што паблізу ёсць вялікія брытанскія вайсковыя могілкі? — запытаў ён у мажнога кіроўцы, які перад гэтым на станцыі дапамог яму пагрузіць дзве вялікія валізы, а цяпер прыязна ківаў, паварочваючыся ўсім целам да пасажыра. Машына рызыкоўна праехалася правымі коламі па ўзбочыне, і Лангфэла ўскрыкнуў.

Кіроўца выбачыўся і больш не сказаў ані слова. Таксама моўчкі занёс валізы наверх і паказаў яму пакой.

Калі Лангфэла дабраўся да свайго пакоя, вада для макароны закіпела, і С. занялася абедам. А потым не было ўжо й размовы пра чытанне: вярнуліся са школы дзеці,

пазапальвалі ўсюды святло, уключылі тэлевізар, пасля з'явіўся муж С. — як звычайна, з кіслай, незадаволенай мінай. С. памыла посуд, а пасля дастала прасавальную дошку і за гэтай найнуднейшай у свеце працай правяла цэлы вечар. За кніжку яна ўзялася толькі позна ўначы, калі муж ужо спаў, жаласна пахропваючы, як малы хлопчык, якому ўзвалілі на плечы цэлы свет.

Лангфэла замовіў сабе гарбаты ў пакой, а пасля распакаваў рэчы і ўважліва агледзеўся. Пакой быў абсталяваны з нейкай паўночнай суровасцю: вялікі двухспальны ложак, стол для працы і прыгожая старая шафа. Акно глядзела ў парк, які цяпер, на змярканні, патанаў у фіялетавым сяйве. Аранжава свяцілася пажоўклае лісце каштанаў. Лангфэла незадаволена адзначыў, што ў пакоі няма лазенкі, і давядзецца ісці ў канец доўгага калідора. Да гарбаты падалі смятанкавы саладжэнік — як мае быць, на парцалянавым сподачку.

С. нядоўга думаючы ўстала і ўпоцемку пайшла на кухню. Вядома, яна не знайшла ў буфеце смятанкавых саладжэнікаў. Аднак ёй хапіла і пары падсохлых коржыкаў. Тым часам Лангфэла марыў пра шкляначку віскі, але вырашыў да вячэры ўніз не спускацца.

Другой у палацык тым вечарам прыбыла Ан-Мары дзю Лак. Нягледзячы на тое, што яе рукі прамерзлі да касцей, яна спрытна падвяла свой адкрыты аўтамабіль да пад'язной пляцоўкі. Пакуль С. даведалася пра яе няшмат. У кніжках дзю Лак дэтэктывамі заўсёды былі жанчыны і сваёй пранiклівасцю пераўзыходзілі калегаў-мужчын. Ан-Мары курыла люльку і ніколі не здымала вычварнага галаўнога ўбору. Часам гэта быў просты фетравы капялок, а часам — незвычайнае канацье з рафіі ды птушыных пёраў. З-пад яго выглядалі прамыя пасмачкі сівых валасоў. Падавалася, яна была адной з найразумнейшых жанчын у краіне. Героі яе кніг уражвалі бліскучымі дыялогамі. Як адзіная жанчына сярод запроша-

ных гасцей яна атрымала пакой з лазенкаю. Уяўляючы сабе гэты светлы жаночы пакой з крэмавымі шпалерамі, С. заснула. Апошнім вобразам, які яна яшчэ бачыла, былі доўгія пальцы францужанкі, што адкручвалі металічныя краны ў выглядзе рыбіных галовак.

Раніцай не атрымалася прачытаць ні старонкі. С. ехала на працу ў метро ў такой цісканіне, што ёй зрабілася млосна. Натоўп вынес яе проста пад ранішні веснавы дождж. С. бегла праз бліскучае цэнтральнае скрыжаванне горада да канторы і ўжо думала толькі пра тое, што трэба сёння зрабіць. Ад беганіны па мокрай слізкай вуліцы ў яе расхістаўся абцас, і даводзілася ступаць асцярожней, каб ён, чаго добрага, не адваліўся зусім. А пасля — шамаценне папераў, беспаспяховае рэгуляванне батарэяў, боль у галаве, якая ў душным паветры высыхае, нібы кукурузная кіёўка. Прэзентацыя новай крэдытнай праграмы, белая віскозная блузка, прыліплая да ўзмакрэлага цела. Згадаўшы халодны блакіт шаўкоў Ульрыкі, С. засумавала па Фландрыі. Не, не пачытаць ёй сёння спакойна, бо ўвечары яны з мужам ідуць на ўлазіны да знаёмых. У перапынку на ланч, калі ўсе сышлі ў бар альбо моўчкі елі па кутах свае канапкі, С. выцягнула з сумачкі кніжку, зачынілася ў дамскай прыбіральні і пачала чытаць.

Вячэра была а восьмай. Усе ўжо сабраліся — Ульрыка ў блакітным строі з неймавернай даўжыні муштуком, сівая і ўся ў паблісках золата. Упэўненая, уладная, іранічная і вострая, бы лязо. У некалькіх фразах, што апісвалі Ульрыку, між радкоў чыталіся намёкі на яе жорсткасць. Але, можа, С. так толькі здалося. Лангфэла, яшчэ крыху заспаны, разгублены, ні стары, ні малады, як і ўсе ангельцы, у штроксавым пінжаку з нашытымі на локцях скуранымі лапікамі. Ан-Мары, экспансіўная (ах, як С. любіла гэтае слова, хаця і не зусім ведала, што яно дакладна азначае), зграбная і гнуткая, у доўгай плісаванай

белай спадніцы й белым пуловеры, цёпла прывіталася з гаспадыняй, не раўнуючы дачка з матуляй ці нават унучка з бабуляй. Яе бліскучая ўсмешка, якая без сарамлівасці адкрывала ўсе тайніцы яе ротавай поласці, здавалася, прамаўляла: «Глядзіце, мне няма чаго хаваць!» І яшчэ пан Фрухт — дробны, несіметрычны, нязграбны. Гледзячы на такога, міжволі шукаеш сляды нейкага прыхаванага калецтва, а пасля расчаравана ўпэўніваешся, што з ім усё ў парадку. І на закуску — а як жа без яго! — цемнаскуры малады амерыканец, станісты і прыгожы. Блізарукі Лангфэла ледзь не прыняў яго за лёкая. Гэты Лу Як-там-яго (С. не вельмі добра ведала замежныя мовы, а таму заўсёды мела складанасці з ангельскімі прозвішчамі) быў новым знаёмым Ульрыкі. Яна сцвярджала, што Лу піша найлепшыя дэтэктывы ў Амерыцы і за ім будучыня. Прынагодна Ульрыка ў пары словаў пераказала яго апошні раман «Божыя дрэвы»: бабулька ў інваліднай калясцы, найстарэйшая ў родзе, вынаходліва забівае непатрэбных ёй нашчадкаў з дапамогай соку канваліі, які раз-пораз дадае ў традыцыйную гарбату. Малады чалавек задаволена ўсміхаўся, слухаючы кампліменты. Падалі халодную закуску з печанай гародніны. А да яе — віно, марка якога нічога С. не казала. Старая гаспадыня вяла рэй у размове. Здавалася, яна трымала ўсіх у руцэ, як пачак сурвэтак.

А яшчэ за сталом прысутнічала маўклівая панна Шацкі, якая была для Ульрыкі кампаньёнкай, сакратаркай, пакаёўкай і, безумоўна, дзяўчынкай для біцця. Жанчына за сорак, пульхная, нібы прысыпаная попелам, яна нагадвала бісквіт у цукровай пудры. Вялікі карункавы каўнерык адцягваў увагу ад яе па-мацярынску заклапочанага твару. Калі да панны Шацкі звярталіся, яна чырванела, зарумяньвалася, нібы скарынка, прамянілася ружовым колерам малінавага жэле, але праз імгненне зноў бляклa. Ульрыка была да яе больш чым жорсткай.

Едучы ў метро дадому і ўвесь час згадваючы пра абцас, С. даведалася пра гульню ў Забойцу. Яе трохі здзівіла, што замест таго каб весці сур'ёзную размову пра мэту прыезду, будучыню дэтэктыўнага жанру ў свеце ці, напрыклад, пра нядобрасумленнасць выдаўцоў і залішняе нахабства агентаў, яны проста расселіся на канапах у гасцёўні і пачалі гуляць. Відавочна, каб чытач мог бліжэй да іх прыгледзецца. Інтрыга ўжо мусіла завязацца. Ужо мусілі з'явіцца першыя асцярожныя падказкі. Цяпер С. пачала чытаць вельмі ўважліва. Калі б абедзве яе рукі былі свабодныя, С. пацерла б імі ад задавальнення: ну, пачынаецца. Але яны былі занятыя. У левай — кніжка, а правая падтрымлівала торбы з пакупкамі. Краем вока С. заўважыла, што на суседняе сядзенне сеў мужчына ў скуранцы з даберманам на кароткім павадку. Сабака паглядаў на яе непрыязна.

Сэнс гульні быў у тым, што ўсе мусілі заплюшчыць вочы, быццам спяць, а ў гэты час Вядоўца, ходзячы вакол гульцоў, дотыкам пальца вызначаў Забойцу. Потым Забойца паказваў вачыма на Ахвяру, якую бачыў, вядома ж, толькі Вядоўца. Ён абвяшчаў уголас імя, і ўсе прачыналіся — расплюшчвалі вочы. Цяпер пачыналася галоўная частка гульні — следства.

Трэба было паміж сабой вызначыць, хто Забойца. Калі гульцы памыляцца, Забойца забівае наступнага. Калі адгадаюць, Вядоўца выбірае новага Забойцу.

Спачатку С. не зусім разабралася ў правілах, і ўсё, шчыра кажучы, здалося ёй досыць дзіўным. Але хутка яна зразумела задуму апавядальніка: чытач мусіў атрымаць адпаведную порцыю інфармацыі пра герояў і стасункі паміж імі. С. прыняла гэтыя правілы за добры знак. Хай гуляюць.

Першай ахвярай быў Фрухт, вяла, вядома ж, Ульрыка.

— Прачынайся, Фрухт, — сказала яна, — ты забіты. Фрухт быў непрыемна здзіўлены тым, што яго забілі першага. Ён надзьмуўся і каўтнуў ладную порцыю каньяку.

— Ну, пачнем, — прыспешыла іх гаспадыня. — У каго з вас была падстава забіць спадара Фрухта?

— Можа, не будзем казаць «забіць»? — раптам ажывіўся Лу. — Можа, скажам «выключыць», ці «нейтралізаваць», ці як-небудзь яшчэ? «Забіць» гучыць нядобра. Бо, заўважце, ніхто, калі забівае, не думае, што забівае, майце гэта на ўвазе. Прынамсі я не хачу быць «забітым».

— Але ж гэта толькі словы, — няголасна заўважыў Лангфэла. — Крыху пачуцця гумару, калега!

Астатнія таксама праігнаравалі заўвагу Лу, а ў дужках было напісана, што Ан-Мары падумала пра яго: «Неўротык», — а ўголас дадала:

— Спадара Фрухта забіў Джон, Джон Лангфэла, бо ў таго пакой лепшы за ягоны. Бліжэйшы да лазенкі.

Лангфэла ў ролі падазраванага захаваў узорна каменны выраз твару, а Ульрыка ўсміхнулася:

— Нішто сабе для пачатку, але хацелася б нейкіх больш пераканаўчых матываў.

— Зайздрасць, — няўпэўнена прамармытала панна Шацкі і адразу ж пачырванела.

— Ці магу я абараняцца? — спытаў Лангфэла. Ульрыка падтакнула:

— Вядома ж, абараняйся. У гэтым і сэнс. Абараняйся, нават калі вінаваты, уводзь нас у зман, замятай сляды. Інакш будзе нудна.

— Не думаю, што матыў зайздрасці можна ўспрымаць сур'ёзна, — пачаў англелец. — Што такога мае спадар Фрухт, апроч лазенкі, каб яму зайздросціць? У Францыі дэтэктыў ніколі не будзе карыстацца такім попытам і павагаю, як у мяне на радзіме. З гэтага вынікае і павага, якой карыстаюцца аўтары. Я напісаў дваццаць чатыры

кнігі, у мяне рэпутацыя, мае кнігі перакладзеныя на шмат моваў, мяне называюць класікам дэтэктыву.

Фрухт перапыніў яго на паўслове:

— Я не пішу дэтэктываў. Я пішу раманы, выкарыстоўваю прыёмы гульні, напрыклад, моўнай, звяртаюся да эрудыцыі чытача, апелюю пераважна да міфалагічных матываў. Я карыстаюся магчымасцямі гэтага жанру для літаратурнай гульні з чытачом. Гэта не банальныя дэтэктывы, як у... — тут ён прыкусіў язык і ўтаропіўся ў дно кілішка. Ульрыка заклікала яго да парадку:

— Ахвяра маўчыць. Такія правілы.

На жаль, у гэты момант С. мусіла перарвацца, каб выйсці на сваёй станцыі. Па дарозе дахаты яна хацела пачытаць ідучы, але вырашыла, што з расхістаным абцасам гэта будзе небяспечна. Гульня ёй спадабалася. Калі гуляць усур'ёз, яна магла б зрабіцца чымсьці накшталт групавой псіхатэрапіі. С. падумала, што можна прапанаваць яе хатнім. Муж перакідваўся з імі, можа, пяццю словамі на дзень, старэйшы сын амаль не бываў дома, а дачка зачынялася ў пакоі і слухала нудную бразгатлівую музыку. Нават кот цэлымі днямі праседжваў на балконе, з нейкай жывёльнай меланхоліяй углядаючыся ў суседнія шматпавярховікі. Хто з іх забіў бы ката?

С. хутка зрабіла на абед лазанню з паўфабрыкату і адпрасавала сабе выходную сукенку. Пасля яна доўга шукала любімую кашулю мужа і ўрэшце знайшла яе, брудную, запхнутую за батарэю ў лазенцы.

— Я чытаю цікавую кніжку, — сказала яна мужу ў таксоўцы, але той пачаў размаўляць з кіроўцам пра перавагу газавага паліва над бензінам.

Новы дом знаёмых аказаўся такі прыгожы, што С. нават сумна зрабілася. Гаспадыня вадзіла іх пакоямі, яшчэ поўнымі паху свежай фарбы і дрэва, паказвала абедзве лазенкі. У большай з іх была вялізная двухмясцовая ванна, і С. раптам страшна захацелася выкупацца ў та-

кой. Наліць пеністай вадкасці для ваннаў і ляжаць сабе, чытаючы, цэлымі вечарамі. З келіхам шампанскага на гладкім кафлевым краі.

Гаспадар дому ганарліва распаліў навюткі камін. На імгненне зрабілася дымна, але ўжо адчынілі вокны ў сад, і крамяны подых веснавога, з пахам зямлі, вечара ўліўся ў пакой. С. дапамагала гаспадыні насіць салаткі і ўкладваць печыва ў кошыку. Мужчыны стаялі на тэрасе і курылі, разважаючы пра разнавіднасці дахавых пакрыццяў. Выпіўшы колькі бутэлек віна, яны з разрумяненымі тварамі сядзелі каля каміна і пляткарылі пра знаёмых. С. прыйшло ў галаву, што цяпер можна было б згуляць у Забойцу. Яна прапанавала ім гэта і пераказала ўмовы гульні. Усе згадзіліся, хоць і неахвотна. Спачатку вяла С. Яна кальнула ў спіну гаспадара, даючы яму ролю Забойцы. Ён тут жа забіў сваю жонку. Гульня не атрымалася, бо ўсе адразу дружна адкрылі праўду.

— Дурная гульня, — сказаў муж С. — Пагуляйма ў амбасадара.

— Чаму мы павінныя ў нешта гуляць? — запратэставала гаспадыня дому. — Мы так рэдка бачымся, шкада часу на гульню.

Яны адкаркавалі яшчэ бутэлечку віна і з келіхамі ў руках аглядалі свежапасаджаныя кусты рададэндранаў і фарзіцыі.

Вярнуліся дадому за поўнач. С. узяла ў ложак кнігу, але паспела прачытаць толькі пра тое, што пісьменнікі гулялі далей. Гэтым разам ахвярай была панна Шацкі, а Лангфэла быў пад падазрэннем у Лу. Забіў з помсты. «Гэта было б вельмі проста», — падумала С. Але ў яе кружылася галава, таму яна паклала кнігу на падлогу каля ложка і заснула.

Прачнулася С. з непрыемным пачуццём, што праспала на працу, але з палёгкай успомніла, што сёння субота. Палоска сонечнага святла бязлітасна паказвала

ўсе плямы на шэрым дывановым пакрыцці ў спальні. «Трэба яго калі-небудзь вымыць», — сонна падумала С. Ідучы зварыць сабе кавы, яна ўбачыла ката, які нерухома сядзеў на балконе. Дзверы былі зачыненыя. С. тут жа пусціла яго ў кватэру, той спакойна ўвайшоў — ані знаку эмоцыяў з прычыны халоднага начлегу. Як дзеці маглі забыць пра ката? Нельга разлічваць нават на сваіх дзяцей. С. зрабіла два кубкі кавы і занесла іх у спальню. Каву для мужа паставіла з яго боку — у найгоршым выпадку вып'е халодную. Абаперлася на падушку і, п'ючы маленькімі глыточкамі гарачую каву, пачала чытаць. Менавіта так С. магла б правесці рэшту жыцця — не вылазячы з ложка і чытаючы дэтэктывы.

Кампанія ў кнізе працягвала гуляць. Вадзіў Фрухт, забілі Лу. С. спрабавала прасачыць за прыхаванымі матывамі. Яна была ўпэўненая, што апавядальнік наводзіць на нейкія сляды, але не магла скеміць, на якія. Ці трэба гэтую гульню ўспрымаць усур'ёз? Бо калі яна так падрабязна апісваецца, то мусіць мець нейкі сэнс для сюжэту. «Што за дзіўная кніжка», — думала С. з усё большай нецярплівасцю.

Выявілася, што Лу забіла Ульрыка (гэта адкрыў апавядальнік). Гульцы не здагадаліся, і Ульрыка засталася непакаранай. Прапанавалі пакараць Лангфэла («Яны разважалі гэтаксама, як я», — заўважыла С. і ўсцешылася ўласнай кемлівасці). Вядома, нікому і ў галаву не прыйшло, што Ульрыка магла забіць свайго маладога ўлюбёнца з Амерыкі. А вось жа.

С. трохі разгубілася. Бо ў кніжцы пачаўся наступны дзень, а нічога яшчэ не здарылася. У Агаты Крысці ўжо быў бы труп, а тут гаспадыня маёнтка запрасіла ўсіх на шпацыр, і яны аглядалі клумбы з восеньскімі крэмавымі ружамі, гулялі па алеях, збіраючы цудоўныя зіхоткія каштаны. Пасля ланчу быў вольны час. Ан-Мары паехала на машыне па цыгарэты ў Баен. Ангелец выправіўся

да вайсковых могілак. Ульрыка спала. Панна Шацкі працавала з карэспандэнцыяй. Лу... Што рабіў Лу? Некуды паехаў на ровары. Сустрэліся разам яны адно за гарбатай і зноў пачалі гуляць у Забойцу.

Як вынікала з багатага досведу чытання С. дэтэктываў, у гэтым месцы прыблізна ў кожнай трэцяй кніжцы пасля знаёмства з героямі мусіла адбыцца злачынства. «Можа, яно будзе пасля вячэры?» — падумала С. Цяпер яна чытала вельмі ўважліва, усведамляючы, што кожная падрабязнасць можа быць істотнай. Кожнае, нават дробнае, выказванне, кожны намёк. Але й пасля вячэры кампанія нявінна гуляла. Другі раз быў забіты Лу, але яго твар заставаўся непранікальным, пэўна, пра нешта сам сабе думаў. Неўзабаве па вегетатыўнай прыкмеце (румянец!) высветлілі, што яго забіла панна Шацкі. Зрэшты, здавалася, што ёй увогуле няважна, ці выкрыюць яе. Пасля забілі Ан-Мары, якая не прамінула зазначыць. што гэта змова супраць жанчын. С. заўважыла, што ва ўсіх гэтых магчымых камбінацыях (Вядоўца — Забойца — Ахвяра) у ролі ахвяры не бывае Ульрыкі. Яе абмінаюць — нібыта таму, што забіваць гаспадыню і славутую пісьменніцу, хай сабе ў гульні, лічыцца нязветлівым.

Пасля ўсе размаўлялі ў гасцёўні пра літаратуру і незвычайныя спосабы забівання. Усім спадабаліся атручаныя маркі Лангфэла. Паштовая чыноўніца ў маленькім гарадку ў Ёркшыры такім чынам прыбірае магчымых пакупнікоў свайго дома, выстаўленага на аўкцыён. Пасля ўсе пайшлі спаць, і С. была ўпэўненая, што менавіта гэтай ноччу адбудзецца тое, што мае адбыцца. Цікава, хто каго заб’е? І чаму? У гэтую самую хвіліну прачнуўся муж, пацягнуў за коўдру, і С. праліла палову кубка на пасцель. Раззлаваная, яна пайшла наліць ванну. Мабыць, шум пабудзіў дзяцей, бо яны пачалі стукацца ў дзверы.

С. закруціла краны і ўладкавалася за маленькім столікам на кухні. Ёй карцела зазірнуць на апошнюю старонку (яна не рабіла гэтага ніколі-ніколі!). Уся гэтая кампанія паволі пачынала яе раздражняць. Раніца была такая ж, як і ўчора. Толькі яны (без Ульрыкі і панны Шацкі) вырашылі пакатацца на аўтамабілях. У Іпры выпілі салодкага фламандскага піва і з'елі бліноў (С. падумала, што даўно не рабіла бліноў). На гэтым шпацыры выявілася, што Ан-Мары й Лангфэла добра ведаюць адно аднаго. Прынамсі, яны далі зразумець, што пазнаёміліся і пасябравалі некалькі гадоў таму. Фрухт нават пачаў падазраваць іх у нечым большым і прызнаўся ў гэтым Лу. Лу сказаў, што гэта іх не датычыць. Пасля Фрухт аддзяліўся ад групы, і ўсе яго чакалі, пакуль ён не вярнуўся, просячы прабачэння. Ён не сказаў, што рабіў. Паехалі дадому на гарбату, пасля сядзелі ў сваіх пакоях, а Лу заняў лазенку на добрыя дзве гадзіны. Чакаючы чаргі ў лазенку, С. зрабіла яшчэ кавы. Усе ўжо былі на нагах. Грукалі пры складанні канапы-ложкі, шумеў душ, жухаў цяжка напяты мужавы эспандэр. С. вырашыла чытаць далей, што б ні здарылася. Яна падумала, што хаця б у суботу мае на нешта права.

Гэтым вечарам зноў гулялі, і нехта забіў Ульрыку, быццам адчуўшы незадаволенасць С. Хто — ведаў толькі Вядоўца Лу, але астатнія не здагадаліся, і гэта засталося нявысветленым. Ульрыка была заўважна ўзрадаваная. Пасля загінулі Лангфэла і панна Шацкі. Забівалі Ульрыка і Ан-Мары. Фрухт здаваўся хворым і раней за ўсіх пайшоў спаць.

Раніцай усе прачнуліся жывыя і абсалютна здаровыя. С. расчаравана пераканалася ў гэтым, праверыўшы, хто прыйшоў на сняданак.

З гэтай кніжкай было штосьці не так. С. дайшла ўжо да паловы, але ніводная калізія дагэтуль не завязалася. Нічога не адбывалася. «Гэта немагчыма», — падумала С.

і яшчэ раз уважліва прагледзела вокладку, прачытала ззаду фрагмент рэцэнзіі, у якой тлустымі літарамі былі выдзеленыя словы «незабыўныя перажыванні» і «трымае ў напружанні да канца». С. нічога не разумела. Гэта нейкая чухня. Яна ўжо была гатовая зазірнуць на апошнюю старонку. Дасведчаныя чытачкі дэтэктываў ведаюць, якое гэта злачынства. Гэта як выліць ваду разам з немаўлём, ссекчы сук, на якім сядзіш, выкапаць яму і самому туды ўваліцца. Пазбавіць сябе прыемнасці паступовага адкрыцця — значыць спляжыць сэнс аўтарскай працы, пасмяяцца з яго, напляваць на яго высілкі. С. была правільная чытачка, падпарадкоўвалася законам жанру і чым большую мела спакусу, тым больш супраціўлялася. Але калі ўсе госці Ульрыкі ў поўным здароўі дажылі да вячэры, С. не на жарт узлавалася. Яна пакінула кніжку на буфеце вокладкай дагары і ўзялася выконваць абрады сямейнай суботы. Яна папрасіла сына дапамагчы спячы бліны і здолела нават крыху з ім пагутарыць. Дачку адправіла ў цукерню па цеста, і пасля абеду яны ўчатырох папілі гарбаткі. Пасля ўсе разам глядзелі нейкі амерыканскі серыял, але, праўду кажучы, С. не магла на ім засяродзіцца. Яна думала пра тых, замкнёных у фламандскім замку. Думала пра панну Шацкі, пра тое, што яна прысвяціла Ульрыцы ўсё сваё жыццё. Ці напраўду Лангфэла і Ан-Мары маглі б быць разам? І дзе хадзіў Фрухт? Не любіла С. гэтага Фрухта. Здалёк было відаць, што ён штосьці задумаў.

С. ведала, што нехта некага заб’е, і таму непакоілася. Урэшце гэта мусіла адбыцца, бо яна ж дэтэктыў набыла. С. ціхенька выйшла на кухню і зноў прысела ля стала, застаўленага гатовымі блінамі (засталося толькі намазаць іх салодкім сырам). Прачытала некалькі старонак, але таварыства зноў размаўляла ды шпацыравала. С. перагарнула некалькі старонак і, наперакор сабе, прачытала адзін сказ:

«Сёння ўвечары я хацеў бы быць Вядоўцам, — сказаў Лангфэла і абвёў усіх позіркам».

С. хутка закрыла кніжку з невыразным пачуццём віны, злая на сябе, расчараваная.

Увесь пасляпаўдзённы час С. праглядала газеты мінулага тыдня, потым узялася праць. Дзеці незаўважна ўпырхнулі, муж патануў у шклістым святле тэлевізара. Неўзабаве настаў вечар — доўгі, пусты, быццам ён выпаў з часу і распасцёрся па-над горадам у неспакойным чаканні. С. цьмяна адчула, што павінная нешта зрабіць, вырашыць нешта вельмі істотнае. Утульна ўладкаваўшыся на засцеленым ложку, яна думала. Праз нейкі момант усё падалося ёй вельмі простым. Яна надзела плашч і абулася. Да гасцёўні, што ўнізе, ёй удалося дабрацца без цяжкасцяў. Планіроўку С. ведала добра. На стале стаялі пустыя кілішкі з-пад каньяку і попельніца, поўная недакуркаў. Лесвіца была пакрытая мяккім дыванам, таму С. бязгучна паднялася наверх. Яна прайшла праз другі паверх, акінуўшы вокам шэраг замкнёных дзвярэй, ледзь бачных у цемры. С. дакладна не ведала, які з двух пакояў наверсе належаў Ульрыцы. Яна рызыкнула. Дзверы, калі С. іх адчыняла, лёгенька зарыпелі. Як толькі яе вочы крыху прызвычаіліся да цёмна-сіняй цемры (звонку, у парку, увесь час гарэлі ліхтары), С. убачыла маленькі калідорчык, пасля — бібліятэку з велізарным пісьмовым сталом пасярэдзіне, цёмнай чырванню цепліўся камін. Двайныя рассоўныя дзверы, мабыць, вялі ў спальню. Яны былі прачыненыя настолькі, што С. толькі ледзь іх кранула. Яна ўбачыла сумную карціну: бабулька спала, шырока разявіўшы бяззубы рот. Яна была амаль лысая. Яе цела нагадвала С. пачарнелую скурку ад банана. На начным століку ў шклянцы плавалі зубы, што аптымістычна паблісквалі ў святле паркавых ліхтароў. Праўду кажучы, толькі яны і здаваліся жывымі. Над імі трыюм-

фальна раскашаваў сівы парык са старанна ўкладзенымі, пэўна, паннай Шацкі, пасмамі. С. агледзелася, але тут нічога прыдатнага не было, таму яна вярнулася ў бібліятэку і падышла да стала. Яе позірк упаў на нешта доўгае і вострае — нож для разразання паперы, невялікі, зручны, з аздобленым дзяржальнам, С. адчула ў далоні пукатасць разьбы і акруглую, прыемную на дотык паверхню дарагіх упрыгожанняў. «Біруза», — падумала яна.

С. вярнулася ў спальню і асцярожна села на край ложка. Калі яна заносіла нож, Ульрыка ў невытлумачальным парыве інстынкту самазахавання прачнулася, прынамсі, расплюшчыла вочы.

«Што?» — непрытомна спытала яна, і тады С., адвярнуўшыся, нанесла ўдар.

С. здзівілася, што гэта было так проста. Нож на імгненне затрымаўся на нечым цвёрдым, а пасля ўвайшоў глыбей. Ульрыка ўздыхнула, так і не дачакаўшыся адказу на сваё пытанне.

С. ужо больш не хацела мець з гэтым нічога агульнага: яна адчувала агіду да гэтага мёртвага цела, да гэтага дома, да сябе. Жэстам, падгледжаным у дэтэктыўных фільмах, С. выцерла дзяржальна нажа аб пасцель і выйшла. Яна яшчэ чула водгалас вады ў нейкай з лазенак, калі зачыняла за сабой вялікія зашклёныя дзверы.

Прачнуўшыся наступнага ранку, С. адразу ж зрабіла сабе кубак добрай духмянай кавы, стоячы з'ела халодны блінок і з асалодаю пасунула падушкі да ўзгалоўя. Муж яшчэ спаў. Зрэшты, была нядзеля. С. пачала чытаць.

— Немагчыма, — сказала Ан-Мары. — Гэта нейкі жах.

Панна Шацкі бязгучна ўсхліпвала, цалкам закрыўшы твар вільготнай хусцінкай.

— Ведаеш, што мне прыйшло ў галаву? — пачаў Лангфэла, больш не дбаючы пра этыкет і кажучы ёй «ты». — Ведаеш, што гэта значыць? Гэта нехта з нас.

— Вы, пэўна, звар'яцелі, — азваўся Фрухт, а яго голас небяспечна балансаваў на мяжы істэрыі. — Усе ж спалі...

— Уласна, пра тое й гаворка, спадар Фрухт, — ніхто з нас не мае алібі. Усе спалі ў сваіх пакоях, ніхто нікога не бачыў, нічога нельга сказаць пра гэтую ноч.

— Гэта мог быць нехта звонку... так, гэта відавочна, — Фрухт нават падскочыў ад хвалявання. — А прыслуга, тая дзіўная панурая фламандская пара?

— У іх быў выходны, — зарыдала панна Шацкі.

— Маглі і вярнуцца. Ульрыка добра да іх ставілася? Можа, не плаціла ім? Можа, здзекавалася з іх службы, а яны ўжо колькі гадоў хавалі крыўду, але гэтай ноччу перапоўнілася мера цярпення, не маглі больш трываць прыніжэння, не маглі...

— Ну, досыць ужо, досыць, спадар Фрухт, гэта патыхае кічам, — працадзіла скрозь зубы Ан-Мары. — Мы збіраем факты, а не домыслы. А вы, вы чаго маўчыце? — звярнулася яна да Лу.

Лу падняўся, запаліў цыгарэту і паціснуў плячыма.

— Гэта нейкі фарс, — прамовіў ён спакойна і флегматычна. — Яна сама гэта прыдумала. Гэта жарт, не разумееце? Яна, можа, цяпер падслухоўвае зверху і памірае са смеху.

Панна Шацкі зайшлася плачам:

— Яе забілі, забілі! Закалолі, як жывёлу!

Лангфэла крыху скрывіўся ад такога параўнання.

С. паднялася і, працягваючы чытаць, пайшла на кухню па яшчэ адзін блінец. Па дарозе зазірнула ў пакой сына. Той спаў апрануты.

— Панна Шацкі, вы ўжо тэлефанавалі ў паліцыю? — спытала Ан-Мары і падала ёй кілішак каньяку.

Зубы сакратаркі непрыемна застукалі па шкле.

— Не, спадар Лангфэла...

— Я думаў, што мы спачатку ўсё, што магчыма, высветлім самі, — сказаў Лангфэла і пачаў хадзіць па гас-

цёўні ўзад і ўперад. — Урэшце, усе мы цывілізаваныя людзі. Думаю, мы павінныя аднавіць сабе гэтую ноч. Папершае, хто апошні бачыў Ульрыку?

— Я! — панна Шацкі ўзняла руку, як дзіця ў школе. — Я дапамагала ёй пакласціся і пасля яшчэ пэўны час прычэсвала… прычэсвала парык.

— Які парык? — спытаў Фрухт.

— Яна насіла парык. Вы гэтага не заўважылі? — злосна азвалася Ан-Мары.

— А мусіў?

— Вы пісьменнік, таму мусіце звяртаць увагу на такія рэчы.

— Як стасуецца пісанне з парыком? Вы несяце лухту.

Муж С. неспакойна паварушыўся і пацягнуў за коўдру. Яна паспела ў апошнюю хвіліну падхапіць кубак. Кававая пляма тужліва бранзавела на белай пасцелі. С. даведалася, што пасля ўчорашняй гульні ў Забойцу амаль усе адначасова пайшлі да сябе наверх. Толькі Фрухт яшчэ запарваў сабе вербену, але і ён адразу ж пайшоў у пакой. Нічога незвычайнага ён не заўважыў.

— Памятаю, што на стале засталіся недакуркі, але я падумаў, што не я павінен тут прыбіраць.

— Кожны з нас мог устаць сярод ночы й пайсці на трэці паверх, каб зрабіць гэта. Кожны, — сказала Ан-Мары. — І гэта агаломшвае.

— Можна пайсці на яе паглядзець? — раптам спытаў Лу. — Не веру, што яна нежывая. Яна была дужа спрытнай, каб даць сябе забіць ва ўласным ложку. Яна занадта разумная для такога.

Не чакаючы адказу, ён рушыў да сходаў. Усе падняліся й пайшлі за ім.

— Можа, нейкія ідэі ўзнікнуць на месцы забойства, — сказаў Фрухт. — Сачыце, каб нічога не кранали.

— Гэта не ваш дэтэктыў, — зласлівым шэптам сказала Ан-Мары.

С. адставіла пусты кубак і, расчырванеўшыся, чытала далей.

Лу схіліўся над памерлай і прыклаў вуха да яе пляскатых грудзей.

— У яе на галаве парык, — з дакорам сказаў Лангфэла. — Раней яго не было.

— Гэта я надзела. Яна ніколі не выходзіла без парыка, — растлумачыла панна Шацкі.

Лангфэла глядзеў на яе з непрыхаванай злосцю.

— Вы не павінны былі тут нічога кранаць.

— Я больш нічога не кранала. Нічога.

Жанчына аж паклала рукі на грудзі. Лу праз хустачку ўзяў нож для разразання кніг, які ляжаў на пасцелі, і агледзеў яго.

— Прыгожая рэч.

— Ну што, цяпер вы верыце? — крыху з'едліва спытала Ан-Мары.

Лу не адказаў, уважліва разглядаючы сродак забойства. Вакол дзяржальна абвівалася змяя, багата інкруставаная бірузою.

— Яна набыла яго ў Егіпце. Цікавілася археалогіяй.

— Звярніце ўвагу на рукі. Правая рука свабодная, а левая ляжыць на жываце. Панна Шацкі, яна была ляўшой?

— Пра што вы падумалі, пане Лу? — са спакойнай зацікаўленасцю спытаў Лангфэла.

— Я падумаў, што гэта магло быць самазабойства.

С. пацерла рукі ад задавальнення. Выцягнула з мужавага пінжака цыгарэты і пайшла на кухню. Праз хвіліну там з'явіўся яе заспаны сын.

— Прывітанне, мама, — сказаў ён і дастаў з лядоўні сок.

— Калі ты вярнуўся? — спытала С. непрыветна, але падумала, што ўвогуле гэта яе не датычыць. Сын быў ужо зусім дарослы.

— Мама, я ўжо дарослы чалавек.

Яна хацела сказаць, што калі ўжо яны жывуць разам, трэба прыстасоўвацца да пэўных чалавечых нормаў, але адно набрала паветра ў лёгкія ды змоўчала. Сын узяў шклянку й пакет з сокам і пайшоў у свой пакой. Ізноў запанавала цішыня.

Лангфэла не верыў у самазабойства. Ён сцвярджаў, што Ульрыка была для гэтага занадта слабая. У фізічным сэнсе.

— Гэта вымагае моцы. Нож, здаецца, увайшоў па самае дзяржальна.

— Ці значыць гэта, што са спісу падазраваных належыць выключыць жанчын? — спытала панна Шацкі і тут жа залілася чырвоным румянцам.

Усе падазрона паглядзелі на яе.

— Вы апошняй бачылі яе, — азваўся Фрухт. — Паводле правілаў, вы падазраяцеся першай, — дадаў ён задаволена.

— Дарагі мсье Пуаро, гэта, мусіць, заўчасная выснова, — сказаў Лангфэла й халаднавата зірнуў на яго, а пасля адышоў, каб агледзець вокны ў спальні й бібліятэцы. Абодва былі зачыненыя знутры.

Было зразумела, што забойца мусіў увайсці праз дзверы на першым паверсе (і тады гэта быў нехта з іх) альбо звонку (і тады гэта быў хтосьці іншы, каго яны ўвогуле маглі не ведаць). На гэтым усё і спынялася.

— Дзе жыве гэтая сямейная пара? — спытаў Лу, спускаючыся па сходах у гасцёўню. — Чаму іх яшчэ няма? Ужо час снедаць.

— У іх у нядзелю выходны. Яны меліся паехаць да дачкі ў Баен, — адказала панна Шацкі.

— Тады хто б нам падаў сняданак, калі б з Ульрыкай было... калі б нічога не здарылася?

Панна Шацкі нахмурылася:

— Далібог, не ведаю. Ульрыка ўчора гаварыла з імі. Напэўна, яны пакінулі халоднае мяса. Мы б самі сябе абслужылі.

— Не палічыце дзіўным, — Фрухт накіраваўся на кухню. — Сапраўды прыгатаваныя дзве талеркі і хлеб, і нават гарбата насыпаная ў імбрык, — азваўся ён адтуль.

— Так, быццам яна ведала. Быццам падрыхтавала гэта. Гэта сведчыць на карысць самагубства, спадарства, — заўважыў Лу.

— Бадай, няма чаго цягнуць, трэба тэлефанаваць у паліцыю, — сказала Ан-Мары.

Лангфэла схапіў яе за руку.

— Пачакай. Паліцыя нікуды не падзенецца.

— Доказы могуць выпарыцца, — нясмела сказала панна Шацкі, — я маю на ўвазе пах забойцы ці нейкія іншыя сляды.

Лангфэла праігнараваў яе заўвагу. Ён прапанаваў спачатку ўсім паснедаць і выпіць кавы. Можа, нешта яшчэ прыйдзе ў галаву.

— Я смяротна галодны, — сказаў муж С., з'яўляючыся ў дзвярах кухні. На ім была старая паласатая піжама, у якой ён выглядаў як пастаялец дома састарэлых. С. ненавідзела гэтыя палінялыя палоскі.

— Ты пайшла ўчора спаць да вячэры, і я нічога не еў.

С. акінула яго ледзяным позіркам.

— Калі б можна было забіць вачамі, я быў бы ўжо мёртвы, — сказаў муж, а пасля абняў яе і пацалаваў. — А што са сняданкам? Сёння нядзеля.

С. вырашыла, што не дазволіць сабе кінуць чытанне.

— Дапусцім, гэта нехта з нас, — пачаў Лангфэла з поўным ротам. — Хм, прабачце, зараз пройдзе. Што гэта нехта з нас. Вы можаце аднавіць ход нашых гульняў? Хто найчасцей забіваў Ульрыку і з якіх падстаў? Памятаеце?

— Здаецца, кожны яе забіў прынамсі раз, — сказала Ан-Мары.

Панна Шацкі аж ускочыла з месца.

— Я — не, я не забіла яе ні разу!

— А чаму? — падцяў яе Фрухт, і панна Шацкі адразу ж зачырванелася, як півоня.

— Я не насмелілася б. Колькі ўжо гадоў яна давала мне працу.

С. пачынала траціць цярпенне. Яны хадзілі па коле. Як яны маглі есці ў такі момант? Проста банда ідыётаў. С. адклала кніжку й загадала мужу рэзаць карэйку. Праз імгненне прыемны пах нядзельнай яечні разбудзіў дзяцей. «Карміць, даваць есці, харчаваць, гатаваць — палова майго жыцця круціцца вакол ежы. Калі б я жыла адна, я б і яйка сабе не зварыла», — думала С. За сняданкам не ўдалося пазбегнуць невялікай сутычкі з прычыны позняга вяртання дадому. Скончылася тым, што сын пакінуў недаедзеную яечню і зачыніўся ў сваім пакоі. Праз хвіліну яны пачулі адтуль манатонную механічную музыку.

— Гаўнюк, — сказаў муж і выйшаў з кухні. Дачка, як нічога ніякага, папрасіла пафарбаваць ёй валасы ў чырвонае. С. адказала, што добра, згода, але калі тая прыбярэ пасля снядання. А сама зачынілася ў лазенцы й чытала далей.

— Вам не здаецца, што гэта проста дзіўная сітуацыя? Што ўсе мы аўтары дэтэктываў, але калі з намі здарылася тое, што ў нашых кнігах, усе мы аказаліся бездапаможнымі, абсалютна бездапаможнымі, — азваўся Лу.

— Цікавае назіранне, — падсумаваў Фрухт.

— У нас мала дадзеных, сітуацыя незвычайная, ніхто з нас не мае алібі, цяжка акрэсліць матывы... — пачаў Лангфэла.

Ан-Мары паклала сабе яшчэ скібачку карэйкі.

— Адна думка, што сярод нас ёсць забойца... Неяк гэта ўсё дзіўна.

— Добры дэтэктыў узяў бы нас нечым псіхалагічным. Як мяркуеце? — сказаў Лангфэла. — Яшчэ гарбаты?

Панна Шацкі, як належыць, паклала сталовы прыбор на пустую талерку.

— Думаю, трэба патэлефанаваць у паліцыю. — Лангфэла грукнуў рукой па стале і падняўся, быццам гэтая рэпліка раптам падштурхнула яго да дзеяння.

— Слухайце, — сказаў ён, — дамо сабе яшчэ адзін шанец. Пашукаем слядоў, сфармулюем, што маем. Прапаную выйсці і ўсё агледзець.

— Што вы задумалі? — падазрона спытаў Фрухт.

— Калі гэта быў хтосьці звонку, ён павінен быў пакінуць нейкія сляды, праўда ж? След бота, недакурак і гэтак далей. Калі нічога не знойдзем, паклічам паліцыю.

Пэўна, было ў яго энтузіязме нешта інтрыгоўнае, бо ўсе падхапіліся з-за стала. Але толькі не Лу.

— Мы ўсё затопчам, калі выйдзем такой гурмою, — сказаў ён, разглядаючы свае пазногці.

— Мы будзем хадзіць асцярожна, — кінуў Лангфэла ўжо з дзвярэй.

«Не, гэта немагчыма чытаць», — падумала С.

У дзверы лазенкі асцярожна пастукала дачка і сказала, што ўжо распусціла фарбу.

— Іду, — адказала С.

Яна зайшла ў спальню Ульрыкі, спрабуючы не глядзець на цела, што ляжала на ложку. Не атрымалася. Ульрыка ў дзённым святле выглядала нашмат горш, яе не ратаваў нават парык. Кволыя кашчавыя пальцы на коўдры нагадвалі сукаватае вецце нейкага экзатычнага дрэва. Злёгку разяўлены рот быў як дзірка ў зямлі ў нейкія сутарэнні, цёмныя і вільготныя. Аднак у С. складалася ўражанне, што гэтае цела аніяк не звязанае са смерцю. Яно хутчэй нагадвала рэалістычную скульптуру, васковую фігуру, драматычную, але не страшную. С. далікатна ўзяла нож, які ўсё яшчэ ляжаў на пасцелі, і сцерла з яго засохлую

кроў. На дыбачках спусцілася ўніз і праз прачыненыя дзверы на тэрасу выйшла ў парк. І адразу ж адскочыла, бо ўбачыла здалёк Лангфэла і Ан-Мары — яны чагосьці шукалі пад рададэндранамі. Убачыла яна і панну Шацкі — тая засяроджана корпалася каля каштанавай алеі. Удалечыні на пачарнелых ад сонца й дажджу арэлях гушкаўся Лу, курачы цыгарэту. Ён нешта крыкнуў Лангфэла і Ан-Мары. С. павярнула і выйшла на вуліцу праз парадныя дзверы. Яна адразу пачула шамаценне — гэта Фрухт калупаўся прутком у засохлым лісці тут жа, пад вокнамі спальні Ульрыкі. С. ад яго аддзяляла некалькі крокаў. Моцна сціснуўшы нож, яна па-кашэчаму падкралася да яго. С. нават узрадавалася, што гэта будзе Фрухт: не любіла яна яго.

— Прачынайся, ты забіты, — сказала яму С., а ён здрыгануўся і павярнуўся да яе.

Тады С. нанесла ўдар. Ягоныя вочы пашырыліся, а пасля позірк застыў і ўтаропіўся ў неба. Фрухт асеў на зямлю, не гледзячы на яе, заняты сваім сконам. Яна не чакала. Вярнулася ў дом, абрусам выцерла нож і паклала яго на стол у гасцёўні.

Лангфэла спатнеў. Вялікія кроплі поту сцякалі па ягоным твары. Падбароддзе дрыжала.

Панна Шацкі, гэтым разам вапнава-белая, набірала нумар паліцыі.

— Чакайце, калі ласка, — азвалася ўладным голасам Ан-Мары. — Цяпер справа праяснілася. Лу, гэта ты. Ты быў бліжэй за ўсіх ад дома.

— Не выдурняйся. Я быў гэтаксама далёка, як і вы. Паглядзі, дзе арэлі.

— Ты мог прабегчы гэтую адлегласць за 20 секундаў, нанесці ўдар і вярнуцца. Ты быў з Фрухтам на пяньку.

— Ты ашалела! Паводзіш сябе так, быццам мы высвятляем, хто з'еў саладжэнік з кладоўкі. Тут людзі паміраюць.

— Калі ласка, паклічам паліцыю. Я баюся, баюся, — шаптала панна Шацкі.

— Забойца шнырыць па доме. Яна не памерла, толькі нас забівае. Вам не прыходзіла ў галаву, што яна вампір? — сказаў раптам Лу і абаперся галавою аб сцяну. — Едзем адсюль.

Ан-Мары наліла ўсім па шклянцы віскі.

— Лу, мы цывілізаваныя людзі. Я не хачу слухаць гэтых прымітыўных бздураў, — сказаў Лангфэла і адным духам глынуў змесціва шклянкі, не чакаючы лёду. Лу глядзеў на яго дзіўным позіркам, быццам са схаванай нянавісцю.

С. выйшла з лазенкі, на ўсялякі выпадак спусціла ваду, каб апраўдаць доўгую затрымку. Дачка сядзела з расплеценымі валасамі задам да дзвярэй. С. апускала старую зубную шчотку ў фарбу і накладала яе на доўгія светлыя валасы.

— Ты ўпэўненая, што гэты колер табе пасуе? — спытала яна. — Руды старыць.

— Гэта добра, буду выглядаць на дваццаць.

С. уздыхнула. Фарба крывавіла валасы пасмамі густой чырвані. Ёй была прыемная гэтая гульня з колерам. Яна падумала, ці не змяніць ёй таксама колер валасоў — са светла-попельных перайсці на чырвоныя. Але ёсць у чырвані нешта вульгарнае, нешта вельмі кічавае. «Буду выглядаць як дворнічыха».

Раптам ёй захацелася некуды выйсці, вырвацца з нядзельнай задухі. Яна весела прапанавала ўсім паабедаць у рэстарацыі. Так, хадзем у індыйскую, тую, каля гандлёвага цэнтра, так, там нядорага і даюць вялікія порцыі.

— Я ўжо дамовіўся, — крыкнуў сын са свайго пакоя.

— Нічога, пойдзем утрох.

— Назад — ты за рулём, — абвясціў муж — як заўжды, калі меў ахвоту на піва.

С. падумала, што калі ён захоча, то ў яго добрая рэакцыя, але згадзілася. «Мы ўсё ж цывілізаваныя людзі!» — сказала яна сама сабе, пераймаючы Лангфэла.

Пакуль С. чакала дачку, якая мусіла вымыць і высушыць свае новыя зырка-рудыя валасы, ёй удалося прачытаць яшчэ два раздзелы.

Паліцыя прыехала ў час ланчу: камісар Фантанэ ў цывільным — у доўгім плашчы і капелюшы, ягоны асістэнт Як-там-яго ў форме, тры службоўцы і два крыміналісты — адзін з фотаапаратам, другі з валізай. Праз гадзіну прыехаў доўгі чорны аўтамабіль і забраў цела Ульрыкі. Яшчэ праз гадзіну — цела Фрухта. Пісьменнікі і панна Шацкі скупіліся на кухні, як статак спужаных авечак. Лу паведаміў пра свой ад’езд, але сутыкнуўся з рашучым пратэстам камісара Фантанэ.

— Бесчалавечна загадваць нам заставацца тут да заўтра, — сказаў Лу. — Так ці іначай, а спаць у гэтым доме я не буду. Калі ласка, зарэзервуйце мне гатэль у Баене.

Фантанэ па адным запрашаў іх у пакой у бібліятэцы, наспех падрыхтаваны да допыту, і задаваў слушныя пытанні. Разам яны згадалі, што пытаўся ён у іх пра адно і тое ж, нават у той самай паслядоўнасці. Якія стасункі звязвалі вас з Ульрыкай, як доўга вы адно аднаго ведалі, як часта бачыліся, што рабілі ў ноч забойства — момант за момантам, як вы лічыце, ці магло падчас вашага тут знаходжання здарыцца нешта такое, што б паслужыла непасрэднай прычынай злачынства, ці ведаеце вы і наколькі блізка ведаеце астатніх гасцей. Пасля абеду прыехаў яшчэ цэлы атрад паліцэйскіх, якія сістэматычна прачасалі парк і ваколіцы палацыка. Паслалі таксама па прыслугу. Яны прыбылі вечарам у стане, блізкім да сардэчнага прыступу.

— Вы каго-небудзь падазраяце, камісар? — спытаў яго потым Лангфэла.

У гэтым пытанні прагучалі ноткі фамільярнасці, быццам Лангфэла хацеў падкрэсліць, што размаўляе як роўны з роўным.

— Нават калі б падазраваў, то вам не сказаў бы. Вы мусіце гэта ведаць. Вы не просты падазраваны. Вы — аўтар дэтэктыўных раманаў. У вашай прысутнасці кожнае злачынства мусіць здавацца больш вытанчаным, чым яно напраўду ёсць.

Пасля камісар папрасіў аўтограф у нататнік.

— Калі ласка, напішыце: «Для камісара Фантанэ», — дадаў ён.

Падчас гарбаты па Лу прыехала таксоўка. Ён развітаўся з усімі, нікому не гледзячы ў вочы. А потым Лангфэла сказаў Ан-Мары:

— Гэта ён. Галаву даю, што гэта ён. Адкуль яна яго выцягнула? Ведаеш якую-небудзь з ягоных кніжак?

— Вядома, ведаю, — адказала Ан-Мары з абурэннем. — Ён — найбольшая надзея дэтэктыўнага рамана ў Амерыцы. Часам тваё невуцтва і зацыкленасць на сабе мяне ўражваюць, Джон. Ты ўвогуле чытаеш штонебудзь, акрамя свайго?

— Ён быў нейкі дзіўны…

— Ён быў агаломшаны і не хаваў гэтага, як ты.

Лангфэла дастаў з кішэні насоўку і выцер лоб.

— Я не хаваю. Проста я не цярплю істэрычнасці. Я спрабую зразумець. Ты ўпэўненая, што… ён — гэта ён? Ты бачыла яго раней? Можа, нехта падрабіўся пад яго? — Джон Лангфэла ўжо складаў насоўку роўным квадратам. — Выхаду няма: альбо ён, альбо панна Шацкі.

Тут у кухню зайшоў асістэнт і загадаў ім ісці ў свае пакоі.

— А курыць можна? — зласліва спытаў Лангфэла, і было відаць, што ён пакрысе прыходзіць у сябе.

Іх папрасілі пачакаць. Яны замовілі нейкія вострыя стравы з ягняціны, а дачка-вегетарыянка — грыбы ў шпінаце і брокалі з сырам. І яшчэ вялікія лусты хлеба з часнаком. Яны больш прыглядаліся да людзей вакол сябе, чым размаўлялі. Калі ўжо аплацілі рахунак, С. выйшла ў прыбіральню і, мыючы рукі, паглядзела на сябе ў люстэрка. С. здзівілася, якая яна звычайная. Ніколі раней яна гэтага не заўважала. Калі б яна не была сабою, а кім-небудзь іншым, яна б ніколі не звярнула на сябе ўвагі. Звычайная жанчына сярэдняга веку, якая хавае сівізну пад светла-попельнымі валасамі. І апранаецца як чыноўніца. Але ж яна й была чыноўніцай. Гэтыя блузкі і жакеты, гэтыя сціплыя завушніцы. Гадзіннік на бранзалетцы. Колер памады, які ні з чым не стасуецца, уласна, цень колеру, цень памады. Вочы, якія відочна блякнуць, робяцца абы-якімі, невыразнымі. Цела ні надта тоўстае, ні надта худое, маленькі жывоцік — у яе веку рэч дазволеная. Тонкія залацістыя акуляры для чытання. Хадзячая ніякасць. Спадарыня Ніхто.

С. з прыемнасцю выйшла з прыбіральні проста ў хол гатэля. Упэўнена прайшла міма рэцэпцыі, дзе Лу, нахіліўшыся, запаўняў бланк. На драўлянай бірцы ключа С. заўважыла нумар яго пакоя — пяцьсот нейкі, пяты паверх. Падымаючыся так высока, яна задыхалася. І яшчэ гэты халерны абцас — зусім разбоўтаўся. Па дарозе С. шукала патрэбны прадмет, але ўбачыла толькі даволі вялікі цяжкі гліняны вазон на пляцоўцы паміж паверхамі. Не спыняючыся, яна выліла з яго ваду на дыван, а кветкі выкінула некуды ў цемру калідора. Вазон ёй удалося ўціснуць у сумку. С. зрабіла выгляд, быццам адчыняе нейкія дзверы, калі з'явіўся Лу з прыслугаю і валізамі. Яны не звярнулі на яе ўвагі. Вельмі добра. С. пачакала, пакуль хлопец выйдзе, і смела рушыла, выцягваючы з торбы цяжкі вазон. Але ён быў непатрэбны. Лу, як і ўсе гатэльныя госці, найперш падышоў да акна

балкона і шырока яго расчыніў. С. подбегам кінулася да Лу. Заспеты знянацку, ён не паспеў нават азірнуцца.

С. выцягнула з торбачкі збан і асцярожна паставіла яго на столік, пасля паправіла валасы перад люстэркам і вярнулася ў залу.

— Колькі можна сядзець у туалеце? — рытарычна спытаў муж.

Калі сям'я вярнулася дадому, ужо сцямнела.

З пачуццём цяжкасці ад пераядання С. уселася ў фатэль і зноў пачала чытаць.

Слухаўку падняў Лангфэла. Яны ўтраіх сядзелі ўнізе ў гасцёўні і пілі віно. Фламандка на хуткую руку зрабіла ім нейкую вячэру, але амаль ніхто нічога не з'еў.

— Лу загінуў, — сказаў Лангфэла і апусціўся на канапу. — Выкінуўся з акна. Званіў Фантанэ.

На доўгую хвіліну запанавала напружаная цішыня.

— Ты меў рацыю, гэта ясна. Ён забіў спачатку Ульрыку, а Фрухт відавочна нешта ведаў, таму Лу пазбавіўся ад яго. Цяпер забіў сябе. Сумленне не вытрымала, — Ан-Мары асушыла кілішак.

— Я ўражаная вашай праніклівасцю, — загаварыла панна Шацкі, палымнеючы ад эмоцыяў, як цыкламен. — Тады гэта канец кашмару… хаця Лу быў такі мілы, не падобны да забойцы…

— Забойцы ніколі не падобныя да забойцаў, гэта старое правіла ў напісанні дэтэктываў. Найбольш падазроны той, хто выглядае найнявіннейшым. Дзе такое бывае, каб дзіця забівала? — француржанка замоўкла, але тут жа сама сабе адказала: — Вядома, у Агаты Крысці.

— Можа, пагуляем у Забойцу? — раптам прапанаваў Лангфэла зласліва-задаволеным тонам.

Было заўважна, што ён крыху нападпітку.

— Нас вельмі мала, — сказала панна Шацкі.

На жаль, у яе не было пачуцця гумару.

Тут зноў зазваніў тэлефон. Слухаўку ўзяла Ан-Мары.

— Камісар Фантанэ будзе тут праз лічаныя хвіліны. У яго ёсць нейкія неадкладныя пытанні.

Лангфэла напоўніў кілішкі і пайшоў на кухню па чарговую бутэльку віна. Там ён шукаў па шуфлядах гляйсар, бо фламандка сышла, заплаканая, дадому адразу пасля таго як падала ім вячэру. Чакаючы камісара, яны размаўлялі пра тэстамент Ульрыкі. Панна Шацкі патлумачыла ім, што амаль усё адыходзіць да Фонду, і, уласна, з учарашняга дня палацык зрабіўся асяродкам творчай працы пісьменнікаў дэтэктыўнага жанру.

— Гэта гучыць як жарт Усявышняга. Як Божы смех. Камічны абсурд, — Лангфэла бавіўся кілішкам. — Але так, тут будзе добра пісацца. Ідэальнае месца!

С. прапанавала мужу адкаркаваць бутэльку віна. У барчыку быў адно нейкі «эгрыбікавэр»*, але ёй, шчыра кажучы, было ўсё адно. Стукнуліся кілішкамі, і яна вярнулася да чытання, а ён — да тэлевізара.

Фантанэ быў непрыемна здзіўлены іх добрым настроем. Тым не менш, ён дазволіў напоўніць сабе кілішак і адразу ж паведаміў, што мае ўсе падставы падазраваць: смерць Лу не была самагубствам. Усе ўмомант працверазелі. Камісар расказаў пра таямнічае з’яўленне вазона для кветак («быццам нехта спачатку хацеў яго ўдарыць гэтым тупым прадметам»), а пасля выцягнуў з кішэні нешта доўгае і бліскучае.

— Абцас! — машынальна ўскрыкнула Ан-Мары.

— Не-не, вы па-за падазрэннем. Немагчыма было выбрацца адсюль непрыкметна, прыехаць хутчэй за Лу ў Баен і вярнуцца. Зрэшты, вы ж былі адно ў аднаго на вачах, праўда? — спытаў камісар і сарамліва кінуў позірк на абутак абедзвюх жанчын. Тады панна Шацкі, ізноў белая як сцяна, сказала яму пра меркаванне Лу. Што Ульрыка не памерла, а калі памерла, то забівае ўсіх з таго свету.

— Перастаньце, панна Шацкі, слухаць гэтага не магу, — забурчаў Лангфэла. — Пане камісар, вы не думалі,

што з нейкіх прычынаў, напрыклад, ад нерваў, Лу мог сам узяць гэты вазон, а абцас належыць... ну, скажам, пакаёўцы ці ранейшаму пастаяльцу? Ведаеце, мабыць, вам гэта падасца нахабствам, але мы ўжо ўсё высветлілі. З нейкіх дагэтуль нам невядомых прычынаў (мы можам пра іх толькі здагадвацца) Лу забіў Ульрыку. Можа, усё было ў нейкім запісе, у нейкіх абавязаннях...

— Можа, ён баяўся яе расчараваць, — задуменна дадала Ан-Мары.

— ...гэтага мы дакладна не ведаем. Так ці інакш, Фрухт быў сведкам чагосьці, нешта ведаў альбо пра нешта здагадваўся, таму Лу быў вымушаны ад яго пазбавіцца. Ён рабіў выгляд, што гайдаецца, а насамрэч чакаў толькі моманту, каб нанесці ўдар. Калі мы шукалі доказаў, ён падбег да Фрухта і забіў яго тым самым нажом для разразання старонак, якім раней — Ульрыку...

— ...аднак не вытрымаў згрызотаў сумлення, — падхапіла яго словы Ан-Мары. — Не мог вынесці таго, што зрабіў. Таму і з'ехаў ад нас. Бо насамрэч шукаў магчымасці самагубства.

Фантанэ ўздыхнуў і сказаў, што гэта ўсё вельмі пераканаўча. Аднак пасля, замест таго каб паддацца трыумфальнаму настрою, пачаў распытваць іх зусім пра іншае. Напрыклад, ці ведаюць яны, колькі ў іх чытачоў.

— Як гэта — колькі чытачоў? — здзівілася Ан-Мары. — Вы пытаецеся пра наклады?

Фантанэ запісваў на сурвэтцы прыблізныя лічбы.

— Калі кніга ў публічнай бібліятэцы, яе чытаюць некалькі чалавек, гэта таксама трэба ўлічыць, — патрабаваў дакладнасці Лангфэла.

— Магчыма, гэта сотні тысячаў чалавек, — азваўся камісар і здзіўлена прысвіснуў. — А ці ведаеце вы, што гэта за людзі?

— Пераважна жанчыны. Жанчыны чытаюць больш, — не без прыемнасці адзначыла Ан-Мары.

Лангфэла думаў даўжэй.

— У пэўным сэнсе яны павінныя нечым нагадваць нас. Мусіць быць нешта агульнае паміж намі, інакш мы не паразумеліся б. На гэты конт у мяне свая тэорыя: чытанне дэтэктываў мае характар чыста тэрапеўтычнай кампенсацыі. Вазьміце пад увагу гэтыя, — Лангфэла кінуў позірк на аркуш з вылічэннямі камісара, — колькі сотняў тысячаў чытачоў. Калі б яны не чыталі дэтэктываў, то з пэўнасцю зрабіліся б забойцамі, — зарагатаў ён.

Камісар Фантанэ абвёў кругам папярэдні вынік і ўздыхнуў. С. неспакойна паварушылася. Зірнула на мужа — той драмаў перад тэлевізарам. «А ён пастарэў», — падумала яна.

Ан-Мары няпэўнымі крокамі накіравалася наверх, зрабіўшы рукой знак, маўляў, «зараз вярнуся». Панна Шацкі дробнымі глыточкамі піла сваё віно. Вочы яе блішчалі. Мужчыны размаўлялі пра сутнасць пісьменніцтва. Фантанэ задаў Лангфэла адвечнае пытанне, якое задаюць аўтарам: адкуль ён бярэ ідэі?

— Напраўду не ведаю, адкуль. Я проста ўважліва назіраю за рэчаіснасцю. Фантазія — рэч другасная, — Лангфэла казаў гэта так, быццам перад ім была вялікая аўдыторыя. — Дзевяноста працэнтаў поспеху — гэта працавітасць. Мне проста брыдка бачыць людзей, што трацяць час на розную лухту. Напісаць раман мог бы кожны. Я паходжу з сям'і, дзе цэняць уменне арганізоўваць час і творчую працу. А перадусім — лагічнае мысленне. Рэчаіснасць нашмат больш лагічная, чым мы пра яе думаем. Бо...

— Мне трэба выйсці, — раптам сказала С. — Нешта я пераела. Гэтая перчаная ягняціна паліць мне страўнік.

Муж уздрыгнуў, яго рассеяны позірк прабег па ёй і беспамылкова трапіў ізноў у тэлевізар.

Муж кіўнуў галавой, а С. абула чаравікі і ўзяла плашч. Потым падумала, што ён не спатрэбіцца, і зноў

павесіла яго на вешалку. Праз чвэрць гадзіны, а можа, і меней, С. вярнулася. Муж не змяніў позы.

— Лепей? — спытаў ён.

— Лепей, — адказала С.

— ...усё рана ці позна можна высветліць рацыянальным чынам, — дагаварыў Лангфэла.

Фантанэ пагадзіўся.

— Інакш я не працаваў бы ў паліцыі. Але вы мусіце прызнаць, што сустракаюцца невырашальныя справы. У нашым архіве іх цэлая паліца.

— Ах, як цікава! Я з прыемнасцю пазнаёміўся б з такімі прыкладамі. Можа, нарадзілася б якая кніжка.

Камісар сабраўся сыходзіць і ўжо ў дзвярах нерашуча сказаў:

— Ведаеце, я не такі дэтэктыў, як у вашых кнігах, калі такія, як у вас, увогуле ёсць...

— Што вы маеце на ўвазе?

— Што ў жыцці ўсё выглядае інакш. У вас злачынства нейкае мізэрнае, убогае, зведзенае да звычайнай справы, пазбаўленае сапраўднага жаху. У вашых кнігах галоўнае — знайсці матывы й выкрыць злачынцу, быццам гэта ўсё паправіць. Шэраг ірацыянальных дзеянняў і вельмі рацыянальны вынік. Вы самі ў гэта верыце? Вас гэта не расчароўвае?

— Расчароўвае? Але ж мы імкнемся да праўдзівасці!

— Ба! А што гэта такое — праўда? — Фантанэ пацёр лоб, як бездапаможнае дзіця. — Мяне больш цікавіць механізм, тое, як усё гэта робіцца. Галоўнае — зразумець механізм.

— Як? — пафасна выкрыкнуў Лангфэла.

— А калі не высвятляць, а зацямняць? Не спрашчаць, а ўскладняць? Што вы думаеце пра такі метад?

— Што, халера бяры, вы хочаце сказаць?

— Што, напрыклад, рацыянальныя падзеі можна спасцігнуць толькі ірацыянальна...

— Вы мяне ўражваеце, пане камісар, — раптам сказала панна Шацкі. — Вы маеце на ўвазе дух Ульрыкі?

— Ах, не, вы не зразумелі. Прашу развітацца за мяне са спадарыняй дзю Лак. Зрэшты, заўтра ўсё адно пабачымся.

Фантанэ пайшоў да выхаду. Лангфэла жэстам затрымаў яго.

— Я схаджу па яе, — сказаў ён і рушыў наверх.

— Што цяпер са мной будзе? — спытала панна Шацкі, як малая дзяўчынка.

Фантанэ задумаўся, але не паспеў адказаць, бо зверху пачуўся грукат і спалоханы крык Лангфэла.

Панна Шацкі кінулася на шыю камісару Фантанэ і зарыдала ў істэрыцы:

— Яе ж забілі, забілі, так?! Яе таксама забілі! Нас усіх заб'юць!

Камісар гладзіў яе па галаве, спрабуючы супакоіць.

— Вам нічога не пагражае. Вы ж не пішаце кніжак, праўда?

Пасля ён спакойна падышоў да тэлефона і набраў нумар паліцыі. Цэлую гадзіну Фантанэ адчуваў на сабе нечы дзіўны, засяроджаны, уладны позірк.

С. адклала кніжку, хоць да канца засталася ўсяго старонка. Яна пацягнулася і пайшла на кухню распусціць сабе таблетку ад пякоткі. Ёй ужо не хацелася дачытваць. Потым С. села ля мужа, і яны да поўначы глядзелі нейкі амерыканскі фільм, поўны пагоняў і страляніны.

Раніцай, калі С. выпускала ката на балкон, яна ўбачыла, як да яе дома пад'ехаў паліцэйскі аўтамабіль. Убачыла, як з яго выйшлі трое мужчынаў і накіраваліся проста да яе лесвічнай пляцоўкі. Адзін з іх быў у плашчы і смешным нямодным капелюшы. Ёй падалося, што яна яго ведае.

*Пераклала з польскай Ганна Пазюк*

# МАЎРЫЦЫЁ БЛІНІ

## ДЖУЛІЯ

Гаманкія супрацоўнікі агенцтва па арганізацыі пераезду не прымусілі доўга сябе чакаць. Званок у дзверы прагучаў праз некалькі хвілін пасля таго, як у акне сталоўкі ўзнікла велізарная лесвіца з верхняй пляцоўкай. З далікатнасцю слана ўвайшоў сіньёр Пінэ і закрычаў: «Сіньёра, мы гатовыя! Можам пачынаць?»

Пагрузка пачалася, мэбля, скрыні і карціны з дапамогай рухомай пляцоўкі рушылі праз тры паверхі ўніз найкарацейшай дарогай. Я тужліва паглядзеў у акно і ўбачыў знаёмую гарадскую вуліцу, поўную машынаў, шуму і пахаў вялікага горада.

Мы вырашылі пераехаць у сельскую мясцовасць. Мае бацькі, усё жыццё пражыўшы ў Турыне, зрабілі нарэшце свой выбар. «Ты што будзеш рабіць? Паедзеш з намі ці хочаш жыць адзін?» — паставіў пытанне рубам бацька.

Мне споўнілася трыццаць, я атрымаў юрыдычны дыплом і працаваў у паліцыі. Ужо некалькі гадоў я быў інспектарам аддзела забойстваў і захапляўся сваёй працай. На душы ў мяне было ясна, хоць пакуль я не сустрэў кахання (ці, прынамсі, такога кахання, якое прыводзіць да сумеснага жыцця ці непазбежнага шлюбу). Я ладзіў з бацькамі і малодшай сястрой і таму ніколі не шукаў свабоды і незалежнасці, дзеля якіх шмат маіх

сяброў і калегаў пакінулі бацькоўскі дом. Урэшце, мне было добра, хоць я ўжо і не быў хлапчуком. Рашэнне пераехаць насамрэч не турбавала мяне. Мы перасяляліся ў гарадок у правінцыі Асці менш чым за гадзіну язды ад Турына. Увогуле, нічога страшнага, былі нават станоўчыя моманты. Свае трыццаць гадоў я пражыў у квартале Лучэнта, які першапачаткова знаходзіўся на ўскраіне Турына, але неўзабаве быў захоплены метраполіяй і з часам страціў класічныя рысы прадмесця. Але час мінае, і мы ўсе былі перакананыя, што зможам значна палепшыць якасць жыцця.

Я падышоў да свайго пакоя і паспрабаваў прывесці думкі ў парадак. Амаль усё было гатова. Засталося толькі некалькі рэчаў у шуфлядах стала, праз імгненне закрыецца апошняя скрыня. І менавіта выграбаючы іх змесціва, я знайшоў шкляны слоічак са скамечаным лістком паперы.

Адразу ж прыгадаліся мінулыя часы.

Як і кожны дзень, мы са смехам выйшлі з тралейбуса, вяртаючыся са школы. Я, Лука і Франка вучыліся на першым курсе геадэзічнага тэхнікума і жартам штурхаліся па дарозе дадому. Мы праходзілі па вуліцы П'янеца, калі ўсяго за некалькі метраў ад нас з акна падвальнага памяшкання вылецеў на ходнік шарык скамечанай паперы. Мы адразу ж пачалі падбіваць яго нагамі і, імітуючы рухі нашых футбольных ідалаў, дафутбалілі да майго дома. Толькі тады я ўзяў яго ў рукі і паспрабаваў разгарнуць. Маю цікаўнасць спыніў Лука. «Не, не раскрывай яго... Пойдзем у заклад!» Прапанова ўсім спадабалася. Гэта быў перыяд закладаў — ставілі на ўсё запар. І вось кожны з нас выказаў сваю здагадку: «Я лічу, што гэта любоўны верш ад чалавека, які не наважыўся яго адправіць...» «Я лічу, што гэта рахунак выдаткаў, якія перавысілі запланаваныя...» «А я лічу, што раз ён прыляцеў з падвала, то гэты ліст — быццам запіска ў бу-

тэльцы, кінутай у мора...» Апошняя гіпотэза так усім спадабалася, што выклікала найбольш здагадак.

— Гэта будзе нашай таямніцай. Давайце схаваем ліст, а праз некаторы час разгарнем і паглядзім, хто перамог, — падскочыў узбуджаны Франка.

— Правільна, чаму б не, разгарнем яго роўна праз год!

— Не, давайце пазней, — не пагадзіўся я. — Калі гэта наш сакрэт, то будзем захоўваць яго як мага даўжэй... ну, скажам, да выпускных... Як лічыце?

На гэтым і пагадзіліся. Шарык паклалі ў шкляны слоічак, які схавалі на дне шуфляды ў маім стале, і больш пра яго не згадвалі.

У той вечар я патэлефанаваў Лука і Франка і прапанаваў ім выпіць разам піва.

Франка, які зрабіўся паспяховым архітэктарам, год таму ажаніўся з журналісткай і пераехаў у пентхаўс у гістарычным цэнтры горада, а Лука, пасля таго як усе яго спробы стаць зоркай валейбола аказаліся марнымі, набыў газетны кіёск у тым жа Лучэнта.

Праз некалькі хвілін, якія мы прабавілі за нязмушанай балбатнёй і першымі глыткамі цёмнага піва, я тэатральным жэстам паставіў у цэнтр стала знаёмы слоічак.

Запанавала зацікаўленае маўчанне, якое перарваў гучны рогат Лукі: «Не магу ў гэта паверыць!.. Наш сакрэт!..» З часам некаторыя ўспаміны юнацтва крыху пабляклі, але не гэты. Усё адразу ж вярнулася, ахінаючы нас лёгкім сумам. Мы забыліся пра спрэчку, і толькі выпадковы пераезд змусіў уваскрэснуць і слоічак, і нашае мінулае.

— Добра, — сказаў я, — сёння вечарам даведаемся, хто перамог!

Мы не хавалі цікаўнасці: у той дзень лёс паклікаў нас, і мы былі гатовыя.

Я павольна адкруціў накрыўку слоічка і акуратна выцягнуў усё яшчэ скамечаны ліст, асцярожна разгарнуў яго, і мову мне заняло.

Чымсьці вельмі падобным да памады там было напісана: «Дапамажыце мне, прашу вас! Джулія Барата».

Ліст пераходзіў з рук у рукі, якія нервова трымцелі. Кожны з нас быў уражаны гэтай фразай.

Джулія Барата, дзяўчына, трохі маладзейшая за нас, акурат у той час была выкрадзеная, і ніхто пра яе больш нічога не ведаў.

Гэта, відавочна, быў ліст з адчайнай просьбай аб дапамозе, сапраўдны ліст, а не жарт…

У пошуках адказу мы перадавалі паперчыну адзін аднаму, агаломшаныя, а ледзяная цішыня ўжо запаўняла наш вечар. Можа, Джулія была ў адным з тых сутарэнняў, можа, ёй такім чынам удалося паведаміць пра сваю адчайную патрэбу ў дапамозе… Калі б мы прачыталі яго адразу, замест таго каб весяліцца, як неразумныя падлеткі… Магчыма… Хто ведае…

Я перарваў пакутлівыя сумненні:

— Хлопцы, супакойцеся: нам трэба спачатку ўдакладніць факты. Урэшце, прайшло шаснаццаць гадоў. Магчыма, яе знайшлі, а мы пра гэта і не ведаем… Сустрэнемся тут заўтра ўвечары. Я папрацую ў архівах… Вы таксама пашукайце якія звесткі.

Пасля неспакойнай ночы я не марудзячы патэлефанаваў старэйшаму калегу, галоўнаму інспектару Меучы, які апошнія трыццаць гадоў працаваў у аддзеле забойстваў турынскага аддзялення паліцыі і добра ведаў жыццё, смерць і ўсе дзівосы своеасаблівага і прыцягальнага цёмнага свету. Спатрэбілася няшмат часу, каб даведацца, што справа Джуліі Барата ўсё яшчэ нераскрытая і застаецца адной з многіх таямніцаў Італіі. Дзяўчыну выкралі ў лістападзе шаснаццаць гадоў таму і ўжо не выпусцілі, нягледзячы на даволі важкі выкуп, заплачаны сям'ёй. Газетная хроніка тых часоў пісала пра маньяка, які не пакінуў ніякіх слядоў. Ніякіх прыкметаў… Яна знікла раніцай па дарозе ў школу. Растварылася ў паветры. Ніякіх сведкаў.

Я расказаў Алесандра Меучы ўсё як ёсць, і, нягледзячы на відавочныя сумненні, мая гісторыя яго вельмі зацікавіла.

У той вечар мы абмеркавалі сітуацыю, якая рабілася ўсё больш драматычнай праз цяжар велізарнай адказнасці, які мы адчулі. Неасцярожная гульня магла ператварыцца ў абсурдную трагедыю.

Лука прынёс гарадскія газеты тых часоў, сведчанні пра дзяўчыну, тапаграфічныя карты мясцовасці. Мы ажыўлена спрачаліся, спрабуючы пазбавіцца страшнага пачуцця віны, якая павольна ўпаўзала ў нас. Мы падбівалі папяровы шарык на ходніку перад будынкам, прылеглым да старой дывановай фабрыкі, даўно ўжо закінутай. Дакладна згадаць акенца, з якога вылецеў ліст, мы не змаглі, таму вырашылі дапамагчы памяці і ў той жа вечар, а дакладней апоўначы, наведаць месца.

Ноч была ціхая, з недалёкіх прыгарадаў выпаўзаў туман. Стаяла звычайнае для гэтай пары году золкае надвор'е, і я крыху дрыжаў у пухавіку ультрамарынавага колеру. Мы ступілі на пустынны ходнік на вуліцы П'янеца. Вулічныя ліхтары ляніва асвятлялі дарогу. Мы пайшлі — асцярожна, як і трэба на сапраўдным месцы злачынства. Раён вельмі змяніўся: тут былі зруйнаваныя цэлыя будынкі, каб вызваліць месца для новых забудоваў. Нам пашанцавала. Тыя сто метраў ад старога прыпынку тралейбуса да закінутай цяпер фабрыкі засталіся некранутымі. Мы павольна ішлі, нібыта ўзнаўляючы той дзіўны дзень шаснаццацігадовай даўніны. Калі мы адначасова спыніліся, крокі разляцеліся змрочным рэхам.

Гэта адбылося тут.

Акенца, што выходзіла на вуліцу, было ўмацаванае тонкімі іржавымі кратамі. За імі былі відаць сценкі з фанеры, таксама ў даволі дрэнным стане.

Франка відавочна напружыўся і шукаў спакою ў поглядзе Меучы, які безуважна жаваў лакрыцу.

Я папрасіў яго супакоіцца. Па-першае, мы зусім не ўпэўненыя ў тым, што гэта не жарт, хай сабе дурны і недарэчны, па-другое, нават калі там і была Джулія, з таго часу мінула шаснаццаць гадоў... Ці можа быць так, каб ніхто не чуў і не бачыў нічога дзіўнага?

— Мы павінныя спачатку праверыць... Спакойна...

Я ўзяў ліхтарык і падышоў да ўваходнай брамы, якая аддзяляла будынак ад старой фабрыкі. Яна не была замкнёная і адкрылася ад лёгкага штуршка. Як рабаўнікі, мы пранiклі ў змрочнае памяшканне. Нібы старыя мёртвыя жывёлы, сярод рознага ламачча і бітага шкла стаялі дабітыя станкі, кожны са сваёй гісторыяй.

Прамень святла спыніўся між трубаў і кабеляў, што небяспечна звісалі з высокай столі. Месца было маркотнае, і кожны гук узмацняла і скажала рэха. Франка як добры архітэктар паспрабаваў вывесці нас да найбольш верагоднага месцазнаходжання акенца. Мы ішлі па перыметры мура, які акаляў будынак, але не знаходзілі праходу нават ва ўнутраны двор. Менавіта тады Франка вырашыў спусціцца ўніз і даследаваць падвал і сумежныя памяшканні. Мы не былі ўпэўненыя ў неабходнасці працягваць пошукі, але нас ахапіла цікаўнасць. У крыві падскочыў адрэналін, а ўзбуджэнне, якое выклікала такая парадаксальная сітуацыя, суцішвала і перамагала нашыя страхі.

Падвальныя памяшканні былі запоўненыя густым, як смоль, змрокам, і часткова падтопленыя. Рулоны бракаваных дываноў ляжалі гнілыя і бездапаможныя, патыхаючы жудасным смуродам, а добра адкормленыя і нікім не турбаваныя пацукі спакойна шныпарылі навокал, не звяртаючы на нас увагі. Мы дайшлі да папярочнага мура. Там, дзе мусіў быць пераход да камораў, мы ўбачылі велізарны праём. Навясныя краты закрывалі агляд, але праз іх можна было досыць добра разгледзець кароткі калідор з дзясяткам драўляных дзвярэй. Трапіць туды

было нескладана, але мы вырашылі зрабіць гэта наступнае ночы, як заўсёды, апоўначы.

Увесь дзень мой розум не знаходзіў спакою. Што спадзяваўся я адшукаць у адной з гэтых камораў? Падказкі, доказы, сляды... праз шаснаццаць гадоў? Нават калі нехта паверыць у нашую гісторыю, што мы высветлім? А калі б мы выявілі сляды ўладальніка каморы?.. Але хто ж будзе трымаць выкрадзенага ва ўласнай каморы? Пытанні накладаліся адно на адно і блыталіся. Можа, трэба знайсці імёны арандатараў будынка... Але што далей?

Час праляцеў хутка, і ў тую ноч, узброіўшыся рабаўніцкім інструментарыем, мы рушылі насустрач лёсу. Лука здабыў вялізны ліхтар, накшталт тых, якія выкарыстоўваюцца на чыгунках, а Франка падрыхтаваў будаўнічыя прылады, прыдатныя для ўзлому. Зняць краты было лёгка. Мы ўвайшлі ў калідор і пачалі выбіваць дзверы першых камораў. Вонкава ўсе яны здаваліся звычайнымі. Віно, алей, розныя кансервы, пара ровараў, пара скрыняў.

Мы зайшлі ва ўсе склепы і не заўважылі нічога незвычайнага. Паспрабавалі знайсці той, патрэбны, адмераўшы адлегласць крокамі. Праверылі яго — безвынікова.

— Але ён меншы за іншыя! — раптам закрычаў Лука. — Скрыні, зваленыя ў глыбіні, увялі нас у зман!

Ні хвіліны не марудзячы, мы пачалі расчышчаць памяшканне. Вынеслі ўсё ў калідор і моцным промнем асвятлілі заднюю сцяну. Яна адрознівалася ад іншых, бо кладка была пазнейшая, а сцяна — новая. Мы зразумелі, чаму акенца, якое выходзіла на вуліцу, не было відаць. Мы глядзелі адзін на аднаго, і на нашых ілбах праступаў пот. Надзвычай сур'ёзны Меучы здаваўся недаверлівым і збянтэжаным. Я ўзяў кірку і, не зважаючы на шум, пачаў разбіваць сцяну з чырвонай цэглы. Яна хутка паддалася.

Калі ў нос ударылі ванітныя пахі, мы ўсё зразумелі.

Магутны прамень святла пранік у гэтую нішу, прыкладна метр на два, і адкрыў нашым вачам карціну, што ледзяніла душу. На нас расчаравана глядзела змуміфікаванае цела Джуліі, прыкаванае ланцугом. Акенца, што выходзіла на вуліцу, было заштукаванае сіліконам. Адчуваючы, што страчваю прытомнасць, я глядзеў на іншых і не казаў ні слова. Цішыня панавала некалькі хвілін. «Выклікай крыміналістаў», — амаль прашаптаў Меучы.

Усе першыя палосы газетаў былі прысвечаныя гэтай навіне. Закладніца загінула ў руках ката. Цяпер чакалі вынікаў ускрыцця трупа, а тым часам следства было аднаўленае.

Нашая дзіўная спрэчка, нечаканы выпадак, інтуіцыя, жаданне згуляць з лёсам дапамаглі праз шаснаццаць гадоў раскрыць адну з многіх таямніцаў Італіі, аднак горыч, якая ахапіла нас пасля гэтага, не давала спакою. Нас пераследавалі згрызоты сумлення.

У той фатальны дзень шаснаццаць гадоў таму магло здарыцца ўсё што заўгодна: мы маглі нават не зірнуць на гэты ліст, маглі далёка закінуць яго, падбіваючы нагамі па вуліцы, выкінуць у першую ж сметніцу або адразу ж прачытаць, і, верагодна, Джулія была б жывая і сёння...

Хто ведае?

Вечарам за півам мы апошні раз спрачаліся пра тое, што было б, «калі б мы»... і не знаходзілі змякчальных акалічнасцяў, якія маглі б суцішыць наш боль. Кожны несвядома абвінавачваў іншых...

У той вечар мы развіталіся апоўначы, каб больш не сустракацца.

Кожны самотна знік у цемры, ахоплены тысячамі думак, у атачэнні зданяў, якія ніколі нас не пакінуць.

*Пераклала з італьянскай Аксана Данільчык*

## БРЭТ ГАРТ

# СКРАДЗЕНЫ ПАРТСІГАР

Я застаў Хэмлака Джонса ў яго старым жытле на Брук-стрыт, дзе той задуменна сядзеў ля каміна. З нязмушанасцю даўняга сябра я адразу ж заваліўся на сваё любімае месца ля яго ног і пяшчотна пагладзіў яго чаравік. Зрабіў я гэта з дзвюх прычынаў: па-першае, так апушчаны і засяроджаны твар майго сябра быў лепш бачны, па-другое, хацелася неяк абазначыць сваю павагу да яго звышчалавечай праніклівасці. Але шукаючы нейкі таямнічы ключ, ён настолькі занурыўся ў развагі, што я падумаў: ён мяне не заўважае. І тут я памыліўся — зрэшты, як заўсёды, калі я спрабую спасцігнуць гэты магутны розум.

— Ідзе дождж, — адзначыў ён, не падымаючы галавы.

— Вы што, выходзілі? — тут жа спытаў я.

— Не, але я бачу, што ваш парасон мокры, а на вашым паліто кроплі вады.

Яго пільнасць мяне ўразіла. Трохі памаўчаўшы, ён бестурботна, нібы закрываючы пытанне, дадаў:

— І яшчэ я чую, як дождж барабаніць у акно. Прыслухайцеся.

Прыслухаўшыся, я з цяжкасцю паверыў сваім вушам, але ў шыбы і праўда мякка грукалі кроплі! Адразу відаць: гэтага чалавека не падманеш!

— Чым вы апошнім часам заняты? — спытаў я, мяняючы тэму. — Якая новая справа, закрытая Скотланд-Ярдам як неспасцігальная, займае цяпер ваш гіганцкі інтэлект?

Ён трошкі адсунуў нагу і відавочна вагаўся, ці вярнаць яе на ранейшае месца. Потым стомлена адказаў:

— Адны дробязі, нічога вартага ўвагі. Зазіраў прынц Купалі, раіўся адносна знікнення некалькіх рубінаў з Крамля. Пуцібадскі раджа, абезгаловіўшы, прычым дарэмна, усю ахову, быў вымушаны шукаць маёй дапамогі ў пошуках каштоўнага мяча. Вялікая герцагіня Прэцэль-Браўгцвігская прагне даведацца, дзе яе муж правёў ноч на 14 лютага, а мінулым вечарам, — тут ён крыху панізіў голас, — адзін з жыхароў гэтага дома, якога я сустрэў на лесвіцы, хацеў ведаць, чаго яму так доўга не адчынялі.

Я не мог стрымаць усмешкі, але тут убачыў, што яго загадкавыя бровы насупіліся.

— Прашу не забываць, — халодна сказаў ён, — што менавіта дзякуючы такім банальным на першы погляд рэчам я здолеў разабрацца са справай «Чаму Пол Ферал забіў сваю жонку»*, а таксама «Што здарылася з Джонсам»!*

Я тут жа праглынуў язык. Ён хвілінку счакаў, а затым раптам вярнуўся да сваёй звычайнай бязлітасна-аналітычнай манеры:

— Калі я сказаў, што гэта адны дробязі, то меў на ўвазе, што яны падаюцца такімі ў параўнанні з маёй цяперашняй справай. Было здзейсненае злачынства, і яно, як ні дзіўна, скіраванае супраць мяне. Вы скалануліся, — адзначыў ён, — вы дзівіцеся, хто мог на такое адважыцца. Дзіўлюся і я, і тым не менш злачынства здзейсненае. Мяне абрабавалі.

— Абрабавалі *вас*?! Вас, Хэмлака Джонса, Пагрозу Злодзеяў? — ледзь не задыхаючыся ад здзіўлення, я ўскочыў і сутаргава схапіўся за край стала.

— Але, мяне. Слухайце. Нікому іншаму я б у гэтым не прызнаўся. Але вам, які сачыў за маімі поспехамі і які ведае мае метады, вам, перад якім я часткова прыўзняў покрыва, што хавае мае планы ад вачэй простых смяротных, вам, які цягам доўгіх гадоў з жарсцю выслухоўваў мае развагі, глыбока захапляўся маімі суджэннямі і высновамі, падпарадкоўваўся кожнаму майму слову і кіўку, зрабіўся маім рабом, поўзаў ля маіх ног, закінуў сваю практыку, за выключэннем некалькіх непрыбытковых пацыентаў, колькасць якіх хутка скарачаецца і якім вы, засяроджаны на маіх праблемах, часам прапісваеце стрыхнін замест хініну і мыш'як замест ангельскай солі, вам, які ахвяраваў дзеля мяне ўсім і ўсімі — вам і толькі вам даверу я сваю таямніцу!

Я ўскочыў і горача яго абняў, аднак ён ужо так заглыбіўся ў думкі, што механічна пацягнуўся да гадзіннікавага ланцужка, быццам хацеў зверыць час.

— Сядайце, — сказаў ён. — Хочаце цыгару?

— Я больш не куру цыгараў, — адказаў я.

— Чаму? — пацікавіўся ён.

Я завагаўся і, відаць, пачырванеў. Праўду кажучы, я кінуў іх курыць, бо праз скарачэнне практыкі не мог дазволіць сабе такой раскошы. Хапала толькі на люльку.

— Люлька мне больш падабаецца, — адказаў я са смехам. — Але раскажыце пра злачынства. Што ў вас скралі?

Ён падняўся, засунуўшы пальцы за фалды фрака, стаў ля каміна і хвілінку задуменна глядзеў на мяне зверху ўніз.

— Памятаеце партсігар, падораны мне турэцкім паслом за тое, што я пазнаў збеглую фаварытку вялікага візіра ў пятай дзяўчыне з хору тэатра «Бадзёрасць»? Знік менавіта ён. Я маю на ўвазе партсігар. Ён быў увесь інкруставаны дыяментамі.

— І самы вялікі з іх быў фальшывы, — прыгадаў я.

— Ах, — сказаў ён, задумліва ўсміхнуўшыся, — вы ведаеце?

— Вы самі казалі. Помню, я тады палічыў гэта чарговым доказам вашай надзвычайнай праніклівасці. Божа мой, вы што, назаўсёды страцілі яго?

Ён хвілінку памаўчаў.

— Не, яго скралі, гэта праўда, але я вярну яго. Сам вярну! Калі адзін з прадстаўнікоў вашай прафесіі, мой сябра, моцна захворвае, ён не лечыцца сам, а запрашае калегу. У нас усё іначай. За сваю справу я вазьмуся сам.

— Ды хто зможа ўзяцца за яе лепш? — пагадзіўся я з энтузіязмам. — Думаю, партсігар ужо амаль знойдзены.

— Пазней я нагадаю вам гэтыя словы, — весела сказаў ён. — А цяпер я хачу прадэманстраваць вам свой давер і, нягледзячы на рашэнне заняцца справай самастойна, выслухаць вашыя парады.

Тут ён дастаў з кішэні нататнік і са змрочнай усмешкай узяўся за аловак.

Я не мог паверыць сваім вачам і вушам. Ён, вялікі Хэмлак Джонс, просіць парады ў такога нікчэмнага чалавека, як я! Я пачціва пацалаваў яго руку і радасна пачаў:

— Перш за ўсё я даў бы аб'яву, абяцаючы ўзнагароду. Я расклеіў бы абвесткі ў пабах і кандытарскіх. Пасля наведаўся б да ліхвяроў і паведаміў у паліцыю. Распытаў бы слуг. Старанна абшукаў бы дом і кішэні. Я маю на ўвазе, — са смехам дадаў я, — вашыя ўласныя кішэні.

Ён змрочна занатаваў мае парады.

— Магчыма, — дадаў я, — усё гэта вы ўжо зрабілі.

— Магчыма, — загадкава адказаў ён, паклаў нататнік назад у кішэню, падняўся і працягнуў. — А цяпер, мой дарагі сябра, прабачце, я ненадоўга знікну. А пакуль адчувайце сябе як дома. Можа, штосьці-небудзь з гэтага, — тут

ён паказаў на забітыя самымі рознымі рэчамі паліцы, — вас зацікавіць і дапаможа прабавіць час. Люлькі і тытунь у тым куце.

Кіўнуўшы мне з усё тым жа невытлумачальным выразам твару, ён пакінуў пакой. Я даўно прызвычаіўся да яго метадаў, а таму не палічыў такі сыход бесцырымонным, упэўнены, што ён выправіўся на пошукі ключа да разгадкі, якую нечакана падказаў яму ягоны нястомны мозг.

Пакінуты самому сабе, я прабегся вачыма па паліцах. Там стаяла мноства маленькіх слоікаў з сумесямі зямлістага колеру — цэтлікі сведчылі, што гэта «Смецце з Ходнікаў і Дарог» галоўных вуліц і прыгарадаў Лондана, прызначанае «для вызначэння слядоў». Было шмат іншых слоікаў з цэтлікамі «Ворс з Сядзенняў Омнібусаў і Аўтамабіляў», «Абрыўкі Какосавых і Іншых Нітак з Дыванкоў у Грамадскіх Месцах», «Недакуркі і Недапалкі з Падлогі тэатра «Палас», шэраг А, месцы ад 1 да 50». Паўсюль стаялі сведчанні цудоўнай сістэмнасці і праніклівасці гэтага чалавека.

Заняты такім чынам, я пачуў раптам лёгкае парыпванне дзвярэй. Калі незнаёмец увайшоў, я азірнуўся. Гэта быў грубага выгляду чалавек у зношаным паліто і яшчэ больш сумнеўным шаліку, які хаваў шыю і ніжнюю частку твару. Моцна ўстрывожаны такім уварваннем, я рэзка павярнуўся да яго. Незнаёмец невыразна буркатліва выбачыўся, патлумачыўшы, што ён пераблытаў пакой, і, шоргаючы нагамі, выйшаў. Я кінуўся за ім на лесвічную пляцоўку і ўбачыў, як ён спусціўся па лесвіцы і знік. Мой мозг быў заняты думкамі пра абрабаванага сябра, а таму гэты выпадак зрабіў на мяне моцнае ўражанне. Я ведаў пра звычку Джонса імкліва вылятаць з пакоя, калі яго захоплівала новая ідэя, і здаралася, што калі яго магутны інтэлект і выбітны геній праніклівасці канцэнтраваліся на адной праблеме, мой сябар

зусім забываў пра бяспеку сваёй маёмасці і пагарджаў звычайнымі мерамі засцярогі, напрыклад, не замыкаў шуфлядаў. Я праверыў адну ці дзве і зразумеў, што маю рацыю, хаця з нейкай прычыны выцягнуць адну з іх да канца не змог. Ручка гэтай шуфляды была слізкая, нібыта хтосьці адчыняў яе бруднымі рукамі. Ведаючы пра маніякальную ахайнасць Хэмлака, я вырашыў паведаміць яму пра новую акалічнасць, але, на жаль, забыў пра яе да таго, як... — але не буду забягаць наперад.

Яго адсутнасць надзіва зацягнулася. Урэшце я сеў ля каміна і амаль заснуў, супакоены цяплом і дажджом, што барабаніў у вокны. Мне, відаць, штосьці снілася, бо праз дрымоту я невыразна адчуў, як нечыя рукі асцярожна шнараць па маіх кішэнях, — сон, безумоўна, натхнёны гісторыяй пра злачынства. Калі я цалкам прыйшоў у сябе, то ўбачыў Хэмлака Джонса, які сядзеў з іншага боку каміна і засяроджана глядзеў у агонь.

— Вам так утульна спалася, што я не наважыўся вас пабудзіць, — з усмешкай сказаў ён.

Я працёр вочы.

— Ну што, ёсць навіны? Як вашыя поспехі?

— Лепш, чым я чакаў, — адказаў ён і, выцягваючы нататнік, дадаў: — І шмат у чым дзякуючы вам.

Глыбока задаволены, я чакаў працягу. Але марна: варта было згадаць, што ў такім стане Хэмлак Джонс — сама стрыманасць. Я расказаў пра дзіўнага наведніка, але ён толькі рассмяяўся.

Пазней, калі я сабраўся сыходзіць, ён гулліва зірнуў на мяне і сказаў:

— Калі б вы былі жанатым чалавекам, я параіў бы вам спачатку пачысціць рукавы і толькі потым ісці дадому. Вам на рукаво наліпла некалькі кароткіх валаскоў, відаць, ад коцікавага футра. Вы, відаць, моцна абдымалі кагосьці ў такім футры!

— Тут вы памыліліся! — пераможна сказаў я. — Гэта, як вы можаце заўважыць, мае валасы. Я сёння стрыгся ў цырульніка і, відаць, высунуў з-пад накідкі руку.

Ён злёгку нахмурыўся, але ўсё ж цёпла абняў мяне на развітанне — рэдкі выпадак для такога ледзянога чалавека. Ён нават падаў мне паліто і патузаў, а потым прыгладзіў клапаны маіх кішэняў. Асабліва старанна ён дапамог мне праціснуць руку ў рукаво і прайшоўся ўмелымі пальцамі ад проймы да закаўраша.

— Заходзьце яшчэ! — сказаў ён, ляпаючы мяне па спіне.

— У любы час, — радасна падхапіў я. — Мне трэба толькі двойчы ў дзень па дзесяць хвілінаў на тое, каб згрызці ў сваім кабінеце сухарык, і чатыры гадзіны на сон. Астатні мой час, як вы ведаеце, цалкам належыць вам.

— Я ведаю, — адказаў ён з неспасцігальнай усмешкай.

Тым не менш, калі я наступным разам зазірнуў да сябра, кватэра была пустой. Аднаго дня я сустрэў яго ля свайго дома. Ён быў у адным з улюбёных вобразаў, апрануты ў сіні фрак з доўгімі фалдамі, у паласатых баваўняных нагавіцах, з вялікім адкладным каўняром, белым капелюшом на галаве і пафарбаваным у чорны колер тварам. У руках ён трымаў бубен. Для іншых людзей ён быў выдатна замаскаваны, але я ведаў гэты касцюм і таму згодна з нашай даўняй дамовай абмінуў сябра, не звяртаючы на яго ўвагі і спадзеючыся на пазнейшае тлумачэнне. Іншым разам, наведваючы з медыцынскімі мэтамі жонку аднаго карчмара ў Іст-Эндзе, я ўбачыў сябра ў вобразе збяднелага рамесніка, які зазіраў у акно суседняга ламбарда. Я ўзрадаваўся, што ён і праўда трымаецца маёй парады, і ад шчасця нават насмеліўся яму падміргнуць. Ён рассеяна падміргнуў мне ў адказ.

Праз два дні я атрымаў цыдулку, у якой ён прызначаў мне сустрэчу вечарам у яго кватэры. Але сустрэча гэтая, на жаль, зрабілася самай незабыўнай і сумнай у маім жыцці, маёй апошняй сустрэчай з Хэмлакам Джонсам! Паспрабую апісаць яе як мага спакайней, хаця ад згадак пра яе сэрца амаль выскоквае з грудзей.

Калі я зайшоў, ён стаяў ля каміна з такім выразам твару, які я бачыў дагэтуль усяго раз ці два — з выразам, які я магу патлумачыць абсалютнай канцэнтрацыяй яго індуктыўных і дэдуктыўных здольнасцяў і які пазбаўлены ўсіх чалавечых пачуццяў, любой далікатнасці і спагады. Гэта быў проста ледзяны алгебраічны сімвал! Ён увесь падабраўся так, што адзенне свабодна вісела на яго фігуры, а галава настолькі паменшылася ад разумовага ціску, што капялюш схаваў лоб і трымаўся літаральна на адтапыраных вушах.

Калі я ўвайшоў, ён замкнуў дзверы, зачыніў вокны і нават заставіў крэслам камін. Пакуль я з усёпаглынальнай цікавасцю сачыў за гэтымі надзвычайнымі засцярогамі, ён раптоўна выхапіў рэвальвер і, прыставіўшы яго да маёй скроні, ціхім ледзяным тонам сказаў:

— Аддавайце партсігар!

Нягледзячы на збянтэжанасць, я адказаў адразу ж, шчыра і не задумваючыся:

— У мяне яго няма.

Ён горка ўсміхнуўся і апусціў рэвальвер.

— Гэтага я і чакаў! Але зараз я ўжыву нешта больш моцнае, забойчае, бязлітаснае і пераканаўчае, чым гэтая звычайная смертаносная зброя — я ўжыву страшэнна індуктыўныя і дэдуктыўныя доказы вашай віны! — з гэтымі словамі ён дастаў з кішэні скрутак паперы і нататнік.

— Няма сумневу, — ледзь не задыхнуўся я, — што вы жартуеце! Не можаце ж вы і праўда хоць на хвіліну паверыць...

— Маўчаць! Сядзьце!

Я падпарадкаваўся.

— Вы самі сябе выдалі, — бязлітасна сказаў ён. — Выдалі падчас майго расследавання, метады якога вы добра ведаеце, перад якім схіляеце галаву, якое ўражвае вас шмат гадоў! Вернемся ў той момант, калі вы ўпершыню ўбачылі мой партсігар. Вы сказалі тады наступнае, — тут ён зазірнуў у свае нататкі; голас гучаў халодна і размерана. — «Якая прыгажосць! Вось бы мне такі!» Гэта быў ваш першы крок да злачынства — і першы доказ. Відавочна, ад думкі «Вось бы мне такі!» вы перайшлі да «У мяне такі будзе!», а потым і да «Як бы такі здабыць?» Маўчаць! Але мае метады патрабуюць неадольнай цягі да злачынства, вашага ганебнага захаплення гэтай бязглуздзіцай тут недастаткова. Вы курыце цыгары.

— Але я казаў вам, — выбухнуў я, — што кінуў курыць цыгары!

— Дурань! — халодна прамовіў ён. — Гэта вашая другая памылка. Безумоўна, вы казалі! Хіба гэтая падрыхтаваная загадзя і няпрошаная фраза — не найлепшы спосаб адвесці ад сябе падазрэнне? Але як я адзначыў раней, нават гэтай вартай жалю спробы схаваць канцы ў ваду недастаткова. Трэба было знайсці ваш неадольны рухальны матыў, які падштурхнуў бы такога чалавека, як вы. І я адшукаў гэты, відаць, наймацнейшы з чалавечых імпульсаў — Каханне, як вы яго называеце, — і горка дадаў: — Прынамсі, называлі той ноччу. Вы прынеслі на сваім рукаве самыя пераканаўчыя доказы.

— Але... — я ледзь не крычаў.

— Маўчаць! — прагрымеў ён. — Я ведаю, што вы скажаце. Вы скажаце, што нават калі вы абдымалі нейкую маладую асобу ў коцікавым футры, гэта зусім не звязана з крадзяжом? Дазвольце тады адзначыць, што коцікавае футра выдае якасць і характар вашай фатальнай прыхільнасці! Вы аддалі за яе свой гонар — скрадзены партсігар дапамог вам набыць само гэтае коцікавае футра!

Маўчаць! Дакладна вызначыўшы ваш матыў, я вярнуўся да самога злачынства. Звычайныя людзі з гэтага і пачалі б, паспрабаваўшы вызначыць месцазнаходжанне страчанай рэчы. Але гэта не мой метад.

Сіла яго думкі была такой неадольнай, што, нават ведаючы пра сваю невінаватасць, я прагна аблізнуўся, чакаючы яркай гісторыі раскрыцця майго злачынства.

— Вы ўчынілі крадзеж тым вечарам, калі я паказаў вам партсігар і пасля легкадумна закінуў яго ў гэтую шуфляду. Вы сядзелі ў тым фатэлі, і я падняўся дастаць штосьці з вунь той паліцы. У той жа момант вы ўзялі здабычу, нават не ўстаючы. Маўчаць! Памятаеце, як іншым вечарам я падаў вам паліто? Тады я асабліва старанна дапамог вам з рукавом. У гэты час я паспеў памераць вашую руку ад пляча да закаўраша рулеткай. Пазнейшы візіт да вашага краўца пацвердзіў мае дадзеныя. Выявілася, што даўжыня вашай рукі ЦАЛКАМ АДПАВЯДАЕ АДЛЕГЛАСЦІ ПАМІЖ ФАТЭЛЕМ І ШУФЛЯДАЙ!

Я быў агаломшаны.

— Астатнія дэталі толькі падмацавалі маю выснову. Я зноў заспеў вас, калі вы шнарылі ў маёй шуфлядзе. Не здзіўляйцеся. Незнаёмцам з шалікам, што выпадкова зайшоў у пакой, быў я! Больш за тое, перад сыходам я намазаў ручку шуфляды мылам. Калі я на развітанне пацiснуў вам руку, яна была ў мыле. Калі вы спалі, я на ўсялякі выпадак мякка абмацаў вашыя кішэні. Калі вы сыходзілі, абняў вас — хацеў праверыць, ці не схавалі вы пад адзеннем партсігар ці штосьці яшчэ. Гэта ўмацавала маю ўпэўненасць, што вы пазбавіліся каштоўнасці, выкарыстаўшы яе з апісанай трохі раней мэтай. Я ўсё яшчэ верыў у вашую здольнасць раскаяцца і прызнаць віну, а таму двойчы паказваў, што бяру ваш след: першы раз у касцюме вандроўнага негра-музыкі, другі раз у вобразе рамесніка, што зазірае ў ламбард, куды вы здалі сваю здабычу.

— Але калі б вы спыталі ў ліхвяра, — ускрыкнуў я, — вы зразумелі б, як несправядліва...

— Дурань! — сыкнуў ён. — Шукаць ліхвяроў — вашая парада. Няўжо вы думаеце, што я паслухаюся вашай парады, парады злодзея? Яны, наадварот, паказалі, чаго рабіць не варта.

— Мяркую, вы нават не абшукалі сваю шуфляду, — горка адзначыў я.

— Не, — спакойна сказаў ён.

Тут я ўпершыню па-сапраўднаму абурыўся. Я падскочыў да найбліжэйшай шуфляды і рэзка яе выцягнуў. Як і раней, яна высоўвалася не да канца. Трохі з ёй пакорпаўшыся, я зразумеў, што мне перашкаджае нейкі прадмет, што захрас у шуфлядзе і цяпер трымае яе. Я засунуў туды руку і выцягнуў перашкоду. Гэта быў згублены партсігар! Радасна ўсклікнуўшы, я павярнуўся да сябра.

Але ўбачыўшы яго твар, я разгубіўся. У яго крытычным, пранізлівым поглядзе з'явілася пагарда.

— Я памыліўся, — марудна сказаў ён. — Я не ўлічыў вашую слабасць і баязлівасць. Я занадта добра думаў пра вас нават як пра злачынцу! Але цяпер я разумею, навошта вы той ноччу палезлі ў шуфляду. Нейкім неспасцігальным чынам, магчыма, дзякуючы іншаму крадзяжу, вы забралі партсігар у ліхвяра і як пабіты сабака, бязвольна, няўклюдна вярнулі мне каштоўнасць. Вы думалі падмануць мяне, Хэмлака Джонса! Больш за тое, вы хацелі знішчыць маю рэпутацыю. Ідзіце! Я даю вам свабоду. Я не буду клікаць трох паліцэйскіх, што чакаюць у суседнім пакоі, але прэч з маіх вачэй назаўсёды!

Агаломшаны і скамянелы, я не мог зрушыцца з месца, а таму ён цвёрда ўзяў мяне за вуха, вывеў у вітальню і зачыніў дзверы. Потым адчыніў іх зноў, роўна настолькі, каб выкінуць мой капялюш, паліто, парасон і галёшы, і зачыніў іх перада мной назаўсёды.

Больш я ніколі яго не бачыў. Мушу прызнацца, што з гэтага часу справы мае пайшлі ўгару, я вярнуў многіх былых пацыентаў, а некаторым з іх нават вярнуў здароўе. Я разбагацеў. Разжыўся экіпажам і домам у Вест-Эндзе. Але я часта задумваюся, згадваючы пра надзвычайную праніклівасць і здагадлівасць гэтага чалавека: можа, у нейкім несвядомым стане я і праўда скраў яго партсігар?

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

## РЭКС СТАЎТ

# ЎОТСАН БЫЎ ЖАНЧЫНАЙ?

### Прамова

Вы прабачыце мне адмову далучыцца да вашага тосту ў памяць пра «другую місіс Ўотсан», калі даведаецеся, што гэта было справай сумлення. Я не магу прымусіць сябе зрабіцца суўдзельнікам містыфікацыі. Бо ў свеце ніколі не існавала не толькі другой місіс Ўотсан, але і першай місіс Ўотсан, дый самога доктара Ўотсана.

Калі ласка, не ўскоквайце з крэслаў.

Як усе сапраўдныя адэпты, я рэгулярна заглыбляюся ў Святое Пісьмо (невукі называюць яго гісторыямі пра Шэрлака Холмса), каб асвяжыць іх успрыняцце, і не так даўно я перачытаў яго ад пачатку да канца і быў уражаны фактам, які нагадаў мне пра сабаку ўначы*. Пытанне наконт сабакі ўначы палягае, як мы ўсе ведаем, на тым, што яна не брэша, пытанне наконт Холмса ўначы — на тым, што мы не бачым, як ён кладзецца спаць. Апавядальнік гэтых гісторыяў, нехта Ўотсан, зноў і зноў у дэталях апісвае ўсё, што датычыць жыхароў знакамітай кватэры: іх вячэры, сняданкі, мэблю, дажджлівыя вечары, праведзеныя дома, — але нам ніколі не паказваюць,

як Холмс ці Ўотсан ідуць у ложак. Цікава, чаму? Дзеля чаго такая ўпартая, ненатуральная стрыманасць, такая забарона, такая засакрэчанасць у дачыненні да такога хіба што не самага прыемнага моманту штодзённага быту?

У мяне нарадзіліся падазрэнні.

Найгоршыя з тлумачэнняў, якія адразу прыйшлі ў галаву, — тое, што ў Холмса ўстаўная сківіца ці што Ўотсан насіў парык, — я адкінуў як бязглуздзіцу. Яны былі занадта відавочныя і зусім, так бы мовіць, не зласесныя. Але гульня пачалася, і я ўзяў след у адзіным даступным для мяне месцы — у Святым Пісьме. І вось што я адразу ж, на дзявятай старонцы «Эцюда ў пунсовых тонах», знайшоў:

«Ён рэдка клаўся спаць у дзесяць вечара і заўсёды снедаў і сыходзіў яшчэ да майго абуджэння».

Я быў нечувана здзіўлены. Як маглі мільёны чытачоў столькі гадоў абмінаць такі відавочны ключ? Так пра мужчыну гаварыла, так магла гаварыць толькі жанчына! Зірнем уважлівей. Гэта ж словы самай сапраўднай жонкі, якая расказвае пра мужа... але стоп! Я не збіраюся патураць пустым здагадкам, а хачу знайсці доказы, якія пацвердзяць факт. Няма сумневу, што гэта была жанчына, якая гаворыць пра мужчыну, але гэта жонка расказвае пра мужа ці каханка пра каханка?.. Прызнаюся, я пачырванеў. Я пачырванеў за Шэрлака Холмса і закрыў кнігу. Але агонь цікаўнасці ўжо разгарэўся, і я хутка разгарнуў яе на той самай старонцы, каб у наступным абзацы прачытаць:

«Чытач можа палічыць, што перад ім назола чыстай вады, калі я прызнаюся, як узбудзіў гэты чалавек маю цікаўнасць і як часта мне хацелася прарвацца праз яго стрыманасць, якую ён дэманстраваў у дачыненні да ўсяго, што яго датычыла».

Хацелася, не сумнявайцеся! Ой як хацелася! Бедны Шэрлак Холмс! Яна не патурбавалася выкарыстаць хаця

б які збіты эўфемізм накшталт: «Мне хацелася яго зразумець» ці «Я прагнула раздзяліць з ім усё». З жорсткай безапеляцыйнасцю яна сцвярджала, што ёй «хацелася прарвацца праз яго стрыманасць». Мяне скаланула: першы раз у жыцці я адчуў, што Шэрлак Холмс быў не богам, а чалавекам, чалавекам, які таксама пакутаваў. З гэтай жа старонкі пытанне пра пол Ўотсана было для мяне канчаткова вырашанае. Безумоўна, гэта была жанчына. Але жонка ці каханка? Я рушыў далей. Праз дзве старонкі натрапіў на такі пасаж:

«Яго ўменне граць на скрыпцы... на маю просьбу ён сыграў штосьці з «Песняў» Мендэльсона...»*

Уявіце мужчыну, які папрасіў іншага мужчыну сыграць якую-небудзь з «Песняў» Мендэльсона на скрыпцы!

А на наступнай старонцы:

«Устаўшы аднойчы раней, чым звычайна, і ўбачыўшы, што Шэрлак Холмс яшчэ не скончыў снедаць... я бачу, што маёй талеркі няма і кава для мяне не прыгатаваная. Я... раздражнёна званю ў званок... і рэзка паведамляю, што час несці сняданак. Схапіўшы са стала нейкі часопіс, я баўлю час, гартаючы яго, пакуль мой сужыхар маўкліва чвякае тостам».

Што за жахлівая карціна, і мы з вамі цудоўна ведаем, колькі ў ёй горкай рэалістычнасці! Змяніце стыль — і перад намі амаль фельетон Рынга Ларднэра* пра каханне. Цяжка праглынуць навіну пра тое, што Шэрлак Холмс, як і многія іншыя мужчыны, снедае ў такім таварыстве, але факт застаецца фактам. Гэты ўрывак не толькі пацвярджае нашыя здагадкі, што Ўотсан — гэта лэдзі, то бок жанчына, але і дае нам надзею, што ўсе тыя доўгія гады Холмс не жыў у граху. Мужчына не чвякае маўкліва тостам, калі снедае з каханкай, а калі і чвякае, значыць, хутка ў яго будзе новая. Але Холмс прывязаўся да яе — ці яна да яго — на больш чым чвэрць стагоддзя. Вось некалькі цытатаў пазнейшых гадоў:

«Шэрлак Холмс стаяў, усміхаючыся мне... Мне заставалася хіба што ўскочыць і здзіўлена ўглядацца ў яго некалькі секунд — і, як выявілася пасля, страціць прытомнасць...» («Пусты дом», старонка 4).

«Думаю, сярод усіх смяротных мне выпалі самыя доўгія пакуты» (частка «Бэрлстанская трагедыя» з аповесці «Даліна страху», старонка 1).

«У тыя дні паміж намі завязаліся незвычайныя стасункі. Ён быў чалавекам звычак, вельмі пэўных і вельмі трывалых, і адной з іх выпала зрабіцца мне. Быць чымсьці накшталт скрыпкі, моцнага тытуню, старой чорнай люлькі, картатэкі і іншых, менш даравальных рэчаў» («Чалавек на карачках», старонка 1).

І мы павінныя верыць, што ўсё гэта напісаў мужчына? Гэтае шчырае і бесклапотнае прызнанне пра страчаную прытомнасць, калі Холмс вярнуўся пасля расстання? «Сярод усіх смяротных мне выпалі самыя доўгія пакуты» — самае старажытнае ў свеце жаночае клішэ, якое ўжываў яшчэ Эсхіл. Няма сумневу, што ад яго рыпелі зубы ўжо ў пячорных людзей. І гэтая добра нам вядомая жальба: «Быць чымсьці накшталт старой чорнай люлькі!»

Вядома ж, яна была яго жонкай! І старая чорная люлька — вырашальны аргумент на карысць такой версіі. Вось урывак са старонкі 16 аповесці «Сабака Баскервіляў»:

«...Каб да вечара не вяртацца на Бэйкер-стрыт і адчыніць дзверы нашай гасцёўні каля дзевяці гадзінаў.

Спачатку мне падалося, што ў пакоі пажар: гасцёўня так задымілася, што святло лямпы на стале падавалася невыразнай плямай. Аднак хутка ўсе страхі зніклі: едкі пах табакі нізкага гатунку ўдарыў мне ў нос і прымусіў закашляцца. У тумане праглядаўся невыразны сілуэт апранутага ў халат Холмса, які сядзеў у фатэлі і пых-

каў чорнай глінянай люлькай. Вакол яго ляжалі нейкія скруткі.

— Што, Ўотсан, прастуда? — спытаў ён.

— Не, атрутная атмасфера.

— Маеце рацыю, трохі чадзіць.

— Трохі?! Хутчэй невыносна!

— Тады можна адчыніць акно».

Яны муж і жонка, вось што я вам скажу. Пасля прачытання гэтай да болю банальнай сцэны хіба могуць у кагосьці застацца сумневы? Ці патрэбныя яшчэ нейкія доказы?

Але для самых безнадзейных скептыкаў ёсць яшчэ доказы, і іх шмат. Спробы вызваліць Холмса ад какаінавай залежнасці, згаданыя ў многіх месцах Святога Пісьма, выкрываюць тыповую жонку — аматарку змяняць мужа — у дзеянні, асабліва калі яна ў канцы святкуе сваю перамогу. Больш заблытаным, але не менш пераканаўчым доказам можна назваць невытлумачальнае апісанне знакамітага знікнення Холмса ў «Апошняй справе», якое выклікае шмат пытанняў, а таксама прычыны гэтага знікнення, згаданыя ў «Пустым доме». Нельга паверыць, што гэты пачварны падман не быў даўно выкрыты.

Холмс і Ўотсан разам падняліся далінай Роны, потым павярнулі на Лэйк, мінулі перавал Жэмі і адтуль праз Інтэрлакен скіраваліся да Майрынгена. Калі яны ля гэтай вёскі блукалі вузкай сцежкай над страшэннай безданню, Ўотсан(а) хітрасцю заманілі назад у гатэль, перадаўшы фальшывую цыдулку. Зразумеўшы, што пасланне было падробкай, яна (ён) паімчала (ці паімчаў) да сцежкі, каб убачыць, што Холмс знік. Няма Холмса. Ад яго застаўся толькі ветлівы і поўны спачування развітальны ліст, які ляжаў на скале, прыціснуты, нібы прэс-пап'е, партабакам, і ў якім паведамлялася, што з'явіўся прафесар Марыярці і збіраецца скінуць яго ў бездань.

Такі аповед падаецца досыць прастадушным. Але пяройдзем да «Пустога дома». Мінула тры гады, Шэрлак Холмс раптоўна і зусім нечакана вяртаецца ў Лондан, прымушаючы тым самым Ўотсан(а) страціць прытомнасць. Яго тлумачэнні пра доўгую адсутнасць проста фантастычныя. Ён кажа, што змагаўся з прафесарам Марыярці на вузкай сцяжынцы і штурхануў яго ў прорву. Каб атрымаць перавагу перад небяспечным Себасцьянам Моранам, ён вырашае інсцэніраваць уласнае падзенне і таму, каб не пакінуць слядоў, якія вядуць ад прорвы, ён спрабуе ўзняцца на вышэйшую скалу. Пакуль ён лез, над ім з’явіўся сам Себасцьян Моран і пачаў кідаць у яго камяні. Толькі неймаверна напружыўшыся, Холмс здолеў уратавацца і збегчы ў горы. Наступныя тры гады ён бадзяўся па Персіі, Тыбеце і Францыі, не стасуючыся ні з кім, апроч брата Майкрафта, каб Себасцьян Моран упэўніўся, што вораг памёр. Хаця з яго ж уласнага аповеду вынікала, што Моран ведаў, мусіў ведаць, што Холмс уратаваўся!

Так, сцвярджае Ўотсан, Холмс патлумачыў сваю адсутнасць. Але ў гэтую бязглуздзіцу не паверыць нават вясковы дурань! Хіба можна ўявіць, што Шэрлак Холмс хаця б паспрабуе падсунуць такую версію любому разумнаму чалавеку? Хіба можна паверыць, што ён так абразіць свой інтэлект, прапануючы гэтую версію хай сабе нават ідыёту? Верыць у такое я адмаўляюся. Не сумняюся, што калі Ўотсан палепшала, адзіныя сказаныя Холмсам словы гучалі так: «Дарагая, давай паспрабуем пачаць наноў», — ён жа далікатны! І ніхто, апроч Ўотсан, не мог зляпаць такога тлумачэння, ператварыўшы яго ў жахлівую дурасць.

Хто тады хаваецца пад псеўданімам «доктар Ўотсан»? Адкуль яна ўзялася? Як выглядала? Якое прозвішча насіла, перш чым сцапала Холмса?

Давайце выкарыстаем метады самога Холмса і паспрабуем даведацца хаця б яе імя. Ўотсан напісала несмяротныя гісторыі, а таму калі і пакінула які намёк на сябе, то толькі ў гэтых гісторыях. Але мы шукаем не яе апісанне і не факты яе жыцця — мы шукаем яе імя, слова, якое, так бы мовіць, яе называе, а таму давайце пройдземся па назвах апавяданняў і аповесцяў.

Іх напісана шэсцьдзесят. Першы наш крок — размясціць іх у храналагічным парадку і пранумараваць ад 1 да 60. Так, з чаго пачнем? Відавочна, каб схаваць сваё імя сярод усіх гэтых назваў, Ўотсан прыдумала сапраўдную містыфікацыю, а таму варта пачаць з самай містычнай лічбы, а менавіта з лічбы 3. А каб зрабіць лічбу яшчэ больш дзейснай, трэба перамножыць яе на саму сябе — атрымаецца 9. Цудоўна. Бярэм дзявятае апавяданне з дзявятага выдання (а гэта, як вядома, зборнік «Архіў Шэрлака Холмса») — і атрымліваем «Ільвіную грыву».

Яшчэ адно цікавае назіранне: Ўотсан увесь час спрабуе нас упэўніць, што рэальныя падзеі цалкам адпавядаюць яе аповедам, і хавае ўсё, што датычыць іх з Шэрлакам Холмсам сям'і. Выдатна. У сімволіцы лічбаў сям'і адпавядае 7. Складаем 7 з нашай ключавой лічбай 3 і дадаем першую 9. Атрымліваецца 19. Гісторыя з гэтым нумарам называецца «Рытуал дому Масгрэйваў».

Пераходзім да метаду выключэння. Які з фактараў, што дапамагаюць звычайнаму чалавеку дабіцца поспеху, Холмс нязменна адмаўляў ці выключаў? Удачу. А калі чалавеку спадарожнічае ўдача, кім ён робіцца? Першым сярод роўных. Вось і нашая наступная лічба — 1, і гісторыя пад гэтым нумарам называецца «Эцюд у пунсовых тонах».

Далей. У якім узросце Холмс пераехаў на Бэйкер-стрыт? У 27. Дваццаць сёмая гісторыя — «Норвудскі будаўнік». Прасцейшага не прыдумаеш. Гэта звычайны спосаб расшыфроўкі, і калі Холмс змог з яго дапамогай узяць след

у справе пра танцы маляваных чалавечкаў, значыць, і вы самі, зрабіўшы правільную выбарку, можаце дасягнуць таго ж выніку. Безумоўна, ён будзе такім жа, як і мой:

**І**львіная грыва
**Р**ытуал дому Масгрэйваў
**Э**цюд у пунсовых тонах
**Н**орвудскі будаўнік

**Ў**істэрыя-лодж
**О**рдэн рудых
**Т**аямніца Баскомбскай даліны
**С**кандал у Багеміі
**А**пошняя справа Холмса
**Н**ага д'ябла

Прачытаўшы першыя літары згодна з прынцыпам акраверша, мы знаходзім добра схаваны ключ да таямніцы. Яе звалі Ірэн Ўотсан.

Але пачакайце. Ці магчыма гэта праверыць? Даведацца яе імя іншым спосабам, так бы мовіць, апрыёры? Чаму ж не паспрабаваць? Мы высветлілі, што гісторыі пра Шэрлака Холмса напісала жанчына, і гэтая жанчына была яго жонкай. Ці не з'яўляецца ў нейкай гісторыі жанчына, якой Холмс захапіўся? Да якой ён напраўду прывязаўся? Безумоўна, з'яўляецца. «Скандал у Багеміі» пачынаецца наступнымі словамі:

«Для Шэрлака Холмса яна заўсёды заставалася «гэтай жанчынай»... У яго вачах яна перасягнула і засланіла ўсіх прадстаўніц свайго полу».

І як звалі гэтую жанчыну? Ірэн!

Але ж не Ірэн Ўотсан, скажаце вы, а Ірэн Адлер. Безумоўна, Ўотсан ад пачатку да канца трымаецца мэты збіць нас з панталыку і падмануць адносна сваёй сапраўднай сутнасці. Што такое «adler» ці, як гэтае слова звычайна пішуць па-ангельску, «addler»? Гэта той ці тое, што спрабуе заблытаць. Збіць з тропу. Падмануць.

Прызнаюся, такі прыём мне падабаецца — ён варты самога Холмса. Заблытваючы і падманваючы нас, яна смела выкарыстоўвае прозвішча, якое з усім нахабствам выдае яе мэту.

Адна забаўная дэталь толькі ўзмацняе нашае падазрэнне наконт Ірэн — «гэтай жанчыны» для Холмса, калі верыць апавядальніку «Скандалу ў Багеміі»: Холмс прысутнічае на яе вяселлі ў царкве святой Монікі на Эджвер-роўд. Яго прысутнасць тлумачыцца тым, што ён быў сведкам, але гэта проста дурасць. Холмс расказвае: «Мяне амаль пацягнулі да алтара, і, не паспеўшы ачомацца, я заўважыў, што мармычу адказы...» Не, гэта не словы абыякавага сведкі, гэта словы мужчыны, якога сілай зацягнулі ў пастку і запалохалі, — карацей кажучы, словы жаніха. І на ўсіх 1323 старонках Святога Пісьма гэта адзіны паказаны нам шлюб, адзінае, як нам кажуць, вяселле, якое Холмс ушанаваў сваёй прысутнасцю.

Прызнаю, усё гэта вельмі павярхоўна. У дадзены момант я збіраю матэрыял для дэталёвага даследавання, каб цалкам выкласці доказы і зрабіць непазбежную выснову. Мая праца будзе складацца з двух тамоў, другі з якіх будзе ўлучаць некаторыя развагі на тэму канкрэтных вынікаў гэтага доўгатэрміновага і, на жаль, баюся, не вельмі шчаслівага саюзу. Напрыклад, хто бацькі лорда Пітэра Ўімсі*, які нарадзіўся, здаецца, дзесьці на мяжы стагоддзяў — прыкладна ў час выхаду апавядання «Другая пляма»? У гэтым пытанні варта разабрацца.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

ДАНІЭЛА КАПІТАНЯВА

# ЗАБОЙСТВА Ў ЖЛУКТАВЕ

* * *

Надпіс на візітоўцы выглядаў так:

*С. л. п.*
*Ё. Вінтэрмантэль*
*Рашэнні*

Аднак ніхто не ведаў, адкуль гэты чалавек, хто яго запрасіў і нават што значыць скарачэнне «с. л. п.» перад ягоным імем. Пра яго было вядома толькі адно: рашэнні спадара Вінтэрмантэля заўжды геніяльныя.

Цяпер ён стаяў у неправетранай «канферэнц-зале» местачковай управы ў Жлуктаве. Неадрыўна пазіраючы на сваіх гасцей, што сядзелі вакол ссунутых сталоў, пазычаных для такой мэты са школьнай сталоўкі, ён пачаў сваю прамову:

— Вельмішаноўныя дамы, вельмішаноўныя джэнтльмены! На жаль, трагічную каўзу «Праўда» дагэтуль не ўдалося вырашыць. Адзіная добрая навіна — што старэйшыя паліцэйскія чыны прызналі сваё бяссілле і нарэшце пагадзіліся запрасіць спецыяліста.

Спадар Вінтэрмантэль з годнасцю пакланіўся, даючы тым самым зразумець, якога спецыяліста ён мае на ўвазе.

— А я вырашыў запрасіць вас — найвялікшых дэтэктыўных геніяў усіх часоў. Кожны з вас паабяцаў сваю дапамогу і прыехаў. Кожны з вас паабяцаў адшукаць забойцу, скарыстаўшыся сваім унікальным метадам. Шаноўныя дамы, шаноўныя джэнтльмены, вітаю вас у Славакіі!

Спадар Вінтэрмантэль вытрымаў драматычную паўзу, дачакаўшыся, пакуль маленькі пляшывы мужычок з вялізнымі, закручанымі ўгору вусамі выгукнуў з выразным французскім акцэнтам: «Брава!». Да гэтага радаснага воклічу, аднак, ніхто не далучыўся; больш за тое, мужчына з капелюшом на галаве нават дастаў новую жуйку. *У памяшканні, з капелюшом на галаве і з жуйкай у роце!* — з агідай падумаў пра таго тыпа спадар Вінтэрмантэль, а ўголас працягваў:

— Вітаю вас на месцы злачынства — у мястэчку Жлуктаў, якое ўжо сваёй назвай блізкае сэрцу кожнага славака. Перш чым я падагульню факты каўзы «Праўда», дазвольце мне асабіста прывітаць і прадставіць кожнага з вас паасобку, хоць я і разумею, што прадстаўленні тут лішнія, бо кожны з вас сам сабою даўно легенда.

— Правільна! — азваўся гэтым разам спадар у форме. (*Таварыш*, — паправіў сам сябе спадар Вінтэрмантэль.) Гэты госць не быў з ліку геніяльных рашэнняў спадара Вінтэрмантэля; але што заставалася, калі з айчынных спецыялістаў нікога іншага пад рукой не знайшлося?! Вочы спадара Вінтэрмантэля ўперыліся ў наступную праблему, у *Таго чалавека*, што сядзеў у куце. Прынамсі, за яго ён не нёс адказнасці. *Той чалавек* бесперастанку ёрзаў і ўздыхаў.

Спадар Вінтэрмантэль пакланіўся і пачаў:

— Вітаю сярод нас першую лэдзі дэтэктыву, **міс Марпл** з мястэчка Сэнт-Мэры-Мід у Англіі.

Далікатная дама паважных гадоў з парцалянава-блакітнымі вачыма пачырванела і сказала:

— Але ж я зусім не дэтэктыў, даражэнькі спадар Вінтэрмантэль, я проста штораз апынаюся там, дзе нешта адбываецца. Сама не ведаю чаму, — яна прыязна ўсміхнулася і вінавата паказала на вязальныя спіцы і ружовую воўну. — Спадзяюся, вам не будзе перашкаджаць, калі я давяжу гэтую шапачку. Бо чаго ж дарэмна сядзець склаўшы рукі, праўда?

Яе сусед утаропіўся на незапаленую цыгарэту, якую трымаў у руках, потым паклаў яе перад сабой, а рукі вінавата засунуў у кішэні зношанага плашча. Спадар Вінтэрмантэль перайшоў да яго:

— **Лейтэнант Каломба**, крымінальная паліцыя ЗША.

Немалады мужчына, з адным вокам, якое не мігаючы пазірала скрозь твары прысутных, у старым балоневым плашчы (*тут нават бяздомныя так не апранаюцца! А яшчэ лейтэнант*, — непрыкметна сам сабе пакруціў галавой спадар Вінтэрмантэль), трошкі прыўстаў з крэсла і сказаў:

— Лейтэнант... — ён нязграбна зачапіў цыгарэту, скінуўшы яе на падлогу, сагнуўся па яе і ў такім становішчы, з-пад стала, скончыў фразу: — ...Каломба. Прабачце, у мяне ўпала... — лейтэнант Каломба выпрастаўся. — Я ведаю, мне не варта курыць, місіс Каломба мне ўвесь час нагадвае, што гэта шкодна...

Спадар Вінтэрмантэль адважыўся кашлянуць. Лейтэнант перапрашальна падняў руку, змоўк і ўставіў незапаленую цыгарэту ў рот.

— Вітаю сярод нас, — паспешліва прамовіў геніяльны спецыяліст, — гера **Штэфана Дэрыка** з Германіі. — Высокі важны мужчына ўстаў.

— Я крымінальны камісар Штэфан Дэрык. Гэта мой асістэнт Гары Кляйн.

Асістэнт таксама падняўся і, усіх збянтэжыўшы, сказаў:

— Гэта крымінальны камісар Штэфан Дэрык, а я — яго асістэнт Гары Кляйн. (*Дык вось што такое нямецкі перфекцыянізм*, — усміхнуўся сам сабе спадар Вінтэрмантэль.)

Мужчына сярэдніх гадоў з капелюшом на галаве выцягнуў з рота жуйку і без запрашэння прадставіўся сам:

— **Філ Марлоў**, прыватны дэтэктыў, Каліфорнія, заходняе ўзбярэжжа, Злучаныя Штаты. Якая ў вас тут стаўка на дзень?

Апошняя фраза выклікала непадробную цікавасць усіх дэтэктываў, аднак спадар Вінтэрмантэль дазволіў сабе прапусціць яе міма вушэй, і містэр Марлоў з прыкрасцю сеў на месца. Ягоны твар не прамяніўся энтузіязмам. Уласна, энтузіязму не было заўважна ні ў кога.

Спадар Вінтэрмантэль працягваў як нічога ніякага:

— З 87-га пастарунку да нас прыехаў дэтэктыў першай катэгорыі містэр **Стыў Карэла**.

Саракагадовы мужчына атлетычнай паставы кіўнуў і выцягнуў нататнік і асадку. Ён не вымавіў ані слова. (*Прафесіянал, сапраўдны прафесіянал! І пра ганарар нават не пытаецца*, — з захапленнем падумаў спадар Вінтэрмантэль.)

— Гэтая сімпатычная пара... — спадар Вінтэрмантэль галантна ўсміхнуўся, паказаўшы на жанчыну і мужчыну, што сядзелі побач з маўклівым прафесіяналам.

Маладая дама яго бескампрамісна перапыніла.

— Мы ніякая не пара! Мяне завуць **Мэйкпіс**, я сяржант лонданскай паліцыі. Гэта **лейтэнант Дэмпсі**, мой *калега* з нью-ёркскай паліцыі.

Малады мужчына нявінна паўтарыў:

— Лейтэнант Дэмпсі, *калега*. З нью-ёркскай паліцыі.

Спадар Вінтэрмантэль усміхнуўся з разуменнем і насталгіяй. Ён быў перакананы, што гэтыя двое разбяруцца і самі, а таму звярнуўся да наступнага госця. Ён загадзя падрыхтаваў некалькі палкіх фразаў пра Францыю, Па-

рыж і кавярні на Сене, але, пабачыўшы насуплены твар сталага поўнага мужчыны, прамовіў толькі:

— Галоўны **камісар Мегрэ**, парыжская паліцыя.

Мсье Мегрэ паківаў галавой і нешта прамармытаў да люлькі, якая, незапаленая, ляжала перад ім. Ён толькі падняў і апусціў плечы. І таму як было відавочна, што з ягонага боку больш не выпадае чакаць аніякіх рухаў ці словаў, спадар Вінтэрмантэль звярнуўся да наступнага дэтэктыва.

— З Нью-Ёрка прыбылі містэр Нэра Вулф і ягоны прыяцель містэр Гудвін.

Містэр **Нэра Вулф**, які безмаль дзевяць пудоў сваёй вагі спрабаваў уладкаваць на нязручным крэсле, ледзь прыкметна схіліў галаву. Містэр Гудвін — малады чалавек у элегантным і дарагім гарнітуры, як адзначыў сабе спадар Вінтэрмантэль, — устаў і сказаў:

— Я толькі асістэнт містэра Вулфа. Сваіх прыяцеляў ён выбірае выключна з шэрагаў кухараў і гадоўцаў архідэяў. Таму, спадарства, калі нехта з вас раптам...

— Арчы! — перапыніў яго містэр Вулф. — Досыць.

Містэр Арчы Гудвін ухмыльнуўся і сеў. Свайму працадаўцу ён шапнуў:

— Я думаў, вы спіце, і хацеў, калі прачняцеся, пацешыць вас некалькімі новымі сябрамі...

— Арчы!

Асістэнт містэра Вулфа змоўк, але ўхмыляцца не перастаў.

Маладыя жанчына і мужчына, якія былі на чарзе, усталі адначасова.

— **Агент Скалі**, ФБР.

— **Агент Малдэр**, ФБР.

Яны адначасова выцягнулі пасведчанні і паказалі іх усім вакол. Адначасова селі і выцягнулі лэптопы. Ані слова больш.

Спадар Вінтэрмантэль прымаў такую сухую дакладнасць, але ў прысутнасці гэтых агентаў пачуваўся неяк скавана. Ён уздыхнуў, а калі зразумеў, што чакае яго цяпер, уздыхнуў яшчэ раз, значна цяжэй. А чакала яго самая нежаданая задача. Спадар (*таварыш*, — ажно завыў сам сабе спецыяліст) у зялёнай форме з маёрскімі пагонамі і чырвоным тварам устаў, грэбліва адсунуўся ад агентаў ФБР і камандным голасам выгукнуў:

— **Маёр Зэман**, Дзяржбяспека. Служу сацыялістычнай айчыне!

Усе здранцвелі. Малы мужычок з вялікімі вусамі знерухомеў. Містэр Нэра Вулф расплюшчыў вочы. У містэра Каломба зноў з рота выпала цыгарэта. Міс Марпл перастала вязаць. Містэр Марлоў свіснуў і насунуў капялюш на лоб. Міс Мэйкпіс нахмурылася, глянула на містэра Дэмпсі, а той толькі здзіўлена пахітаў галавой. Адзіны, каго гэта не здзівіла, быў *Той чалавек* у куце пакоя. Ён нават сказаў нешта, што прагучала накшталт «Здраўжлаютварышмаёр».

Вочы ўсіх уперыліся ў спадара Вінтэрмантэля.

— Гэта, — сказаў спадар Вінтэрмантэль, намагаючыся надаць свайму тону цвёрдасці, — гэта наш нацыянальны звычай: пакідаць на сваіх пасадах былых высокіх функцыянераў. Такія ў нас традыцыі.

Дэтэктыў першай катэгорыі Стыў Карэла запісаў у сваім нататніку адзінае слова і паставіў пасля яго некалькі клічнікаў. Містэр Нэра Вулф адзначыў:

— Звычаі ў вашай краіне напраўду містэрыёзныя.

Калі ўсе змоўклі, спадар Вінтэрмантэль з палёгкай перайшоў да перадапошняга дэтэктыва.

— Спадарства, **Эркюль Пуаро**!

Малы мужычок з вялікімі вусамі ўскочыў. Ён пачаў кланяцца на розныя бакі.

— Так, гэта я ўласнай персонай, — мсье Эркюль Пуаро зрабіў рэверанс. — Мэдам і мсье! Я, Эркюль Пуаро, прыехаў! Я, Эркюль Пуаро, тут!

Спадар Вінтэрмантэль заўважыў, што містэр Марлоў збіраецца сказаць нешта мала падобнае да кампліментa. Таму ён тут жа ўмяшаўся:

— А цяпер... мне выпаў гонар прывітаць джэнтльменаў, без якіх дэтэктыў ніколі не быў бы тым, чым ёсць. Містэр **Шэрлак Холмс** і ягоны кампаньён доктар Ўотсан!

Містэр Холмс сказаў:

— Няма такіх словаў, якія б выказалі тое, што я адчуваю. Магчыма, гэта здолее зрабіць музыка.

З футляра, які ляжаў у яго пад крэслам, ён дастаў скрыпку, прыклаў яе да пляча і зайграў некалькі чыстых чароўных тонаў. Доктар Ўотсан адвярнуўся ўбок, каб выцерці слязу расчуленасці.

— А цяпер... — прамовіў таксама расчулены спадар Вінтэрмантэль. З кута пакоя азвалася пакашліванне, пачуўшы якое, спадар Вінтэрмантэль нахмурыўся і паказаў на *Таго чалавека*.

— Гэта... эгм... спадар... стараста Жлуктава.

— Я б гэта... у сэнсе... калі б... тут такая штука... — мармытаў *Той чалавек*, што сядзеў у куце канферэнцзалы.

Спадар Вінтэрмантэль пагрозліва набраў паветра. *Той чалавек* тут жа змоўк і апусціў вочы на свае чорныя тэсілавыя штаны, пасля чаго спадар Вінтэрмантэль быццам перастаў яго заўважаць.

— Шаноўныя дамы, шаноўныя джэнтльмены, а цяпер дазвольце мне перайсці да самога злачынства, дзеля якога я наважыўся запрасіць вас ажно сюды, у Жлуктаў. Напачатку...

## Незвычайны знак

— Напачатку было злачынства. У мястэчку Жлуктаў быў забіты, — перад наступным словам спадар Вінтэрмантэль ледзь заўважна запнуўся, — *знакаміты* пісьменнік Павал Праўда. У спадара Праўды тут быў другі дом, у які ён прыязджаў, калі яму было неабходна адпачыць або, наадварот, засяродзіцца на працы. Павал Праўда быў падступна заколаты ў сэрца ўласным нажом, на тронках якога — іроніяй лёсу — было выгравіявана «Праўда пераможа». На тронках знайшліся толькі адбіткі Праўды.

Каб вы ўявілі сабе месца злачынства, — спадар Вінтэрмантэль выцягнуў уласнаручна зробленую мапу паважных памераў і чатырма кнопкамі прымацаваў яе да школьнай дошкі з мясцовай аднакласнай школы, — дом спадара пісьменніка знаходзіцца на хутары за мястэчкам, у невялікай даліне пад назвай Кінчар, абкружанай лясамі. Там толькі тры дамы. Калі ехаць з боку галоўнай шашы, пазначанай на мапе чорным колерам, то трэба павярнуць направа на невялікую дарожку, якая з кіламетр вядзе да Кінчара і там заканчваецца. Урочышча Кінчар я, з вашага дазволу, заштрыхаваў светла-жоўтым колерам. Як бачыце, усе тры дамы ў Кінчары стаяць з правага боку ад дарогі, з левага — невялікі луг, за якім ужо пачынаюцца пагоркі. Як падыходзім, першы дом — дэпутата Нотбурга, гэта пышная віла. Палітычную прыналежнасць дэпутата я не буду абмалёўваць, скажу толькі, што ён належыць да сацыяльна арыентаваных палітыкаў.

— Правільна, — энергічна падтрымаў маёр Зэман, на што лейтэнант Дэмпсі засмяяўся.

Спадар Вінтэрмантэль адкашляўся і вярнуўся да мапы.

— Практычна праз плот ад дэпутата Нотбурга жыў Павал Праўда. Прыблізна праз дваццаць метраў далей па дарозе стаіць дом, дзе жыве сям'я Хвалаў. Да ўсіх жыхароў Кінчара мы яшчэ, безумоўна, вернемся падрабязней. Спадар Праўда даведаўся пра дом у Кінчары дзякуючы знаёмству з дэпутатам Нотбургам, з якім аднойчы падзяліўся жаданнем таксама набыць дом на хутары. Дэпутат Нотбург тут жа расказаў яму пра пусты дом у Кінчары, апошні ўладальнік якога, па імені Людусь Прыгнанец, памёр колькі гадоў таму ад цырозу печані.

На гэтых словах містэр Шэрлак Холмс устаў, падышоў да акна і ўважліва паглядзеў на двор. Насупраць стаяў мясцовы шынок з пабляклай шыльдай *«Карчма»*, у якой нечая рука перапраўіла адзіную літару, так што цяпер там было напісана: *«Тарчма»*. Вялікі дэтэктыў дастаў з кішэні аловак і нешта занатаваў сабе на манжэце. Спадар Вінтэрмантэль ветліва пачакаў, пакуль Шэрлак Холмс вернецца да доктара Ўотсана, і толькі потым скончыў:

— Спадару Праўду дом спадабаўся, і ён яго купіў. З таго часу ён жыў то ў Брацiславе, дзе ў яго была кватэра, то ў Кінчары, дзе быў дом.

Спадар Вінтэрмантэль прымацаваў да школьнай дошкі вялікі фотаздымак немаладога мужчыны ў гарнітуры. Мужчына сядзеў у нейкім парку на лавачцы. Спадар Вінтэрмантэль паказаў на яго:

— Вось ён. Пісьменнік Павал Праўда. Яму было 54 гады, дзясяты год ён быў удаўцом, бяздзетны. Пра яго казалі, што ён любіў з'яўляцца ў таварыстве маладых прывабных жанчын, але ні пра якія сталыя сувязі нам не вядома. — Адна зубная шчотка ў ваннай і ніякай жаночай касметыкі, як канстатавалі паліцэйскія следчыя.

Павал Праўда працаваў рэпарцёрам на адну замежную газету, ад яе ж меў і рэгулярны заробак. Ганарары за кнігі былі толькі дадаткам. Непасрэднай фінансавай

выгады ад ягонай смерці не мог мець ніхто, бо браціслаўскую кватэру і ўсё абсталяванне ён яшчэ раней адпісаў фонду, які сам заснаваў і прызначыў на дапамогу аўтарам-пачаткоўцам.

За дзень да смерці — і тут мы падыходзім да першага значнага факта — ён зняў са свайго бягучага рахунку ўсе грошы, каля 150 тысяч крон. Банкаўскі работнік запомніў незвычайную фразу, якую спадар Праўда пры гэтым прамовіў. Гэта былі словы: «Хоць аблегчу сваё сумленне». З банка Праўда пайшоў проста ў Кінчар, аднак грошы з банка не знайшліся, і што яшчэ горш, не знайшлося нават намёку на тое, як і дзе ён мог іх патраціць.

Аднак вернемся да месца здарэння. У трох дамах жыло агулам сем чалавек. Дэпутат Ян Нотбург з жонкай і дачкой, далей спадар Праўда і, нарэшце, сям'я Хвалаў, то бок муж і жонка Хвалы і іх адзіны сын Пэтэр, якога тут называюць Петраком.

— Але ж гэта вельмі сумна, праўда? — прамовіла міс Марпл і засмучана пакруціла галавой.

Спадар Вінтэрмантэль, які не ўлавіў сэнсу гэтай заўвагі, працягваў:

— Спадар Нотбург — не толькі дэпутат, але і паспяховы прадпрымальнік. Дома ён практычна не затрымліваецца, большасць часу праводзіць у Браціславе. Ягоная жонка... эгм... хатняя гаспадыня. Я не ўпэўнены, ці гэты выраз падыходзіць найлепей, бо спадарыня Нотбургава — прывабная жанчына бальзакаўскага ўзросту, створаная хутчэй для прыёмаў, чым для хатняй працы. Іх адзінай дачцэ Зузане дваццаць гадоў, нядаўна, пасля працяглага знаходжання ў Лондане, дзе яна вывучала мову, яна вярнулася дадому.

Спадар Хвала, другі сусед, працуе начным вартаўніком у гатэльным гаражы ў суседнім горадзе. Уначы працуе, удзень адпачывае. Ягоная жонка клапоціцца пра гаспадарку і сям'ю. Ужо некалькі гадоў яна амаль глу-

хая і без слыхавога апарату нічога не чуе. У іх таксама толькі адно дзіця, ужо згаданы студэнт Пэтэр. Хвалы дапамагалі спадару Праўду, спадарыня Хвалава яму гатавала, а яе муж даглядаў дом. Трэба сказаць, што пісьменнік быў надзвычай непрактычным чалавекам.

У той вечар у Кінчары былі ўсе. Людзей было нават значна больш, бо спадар Нотбург адзначаў імяніны і запрасіў гасцей, якія пачалі збірацца каля шостай вечара. Усе да аднаго сцвярджаюць, што за ўвесь час з дому ніхто не выходзіў, бо ўсе сядзелі ў зале, з якой цудоўна праглядаюцца ўваходныя дзверы, і прайсці незаўважана ніхто б не змог. Нотбург з гасцямі дамовіліся ўначы пайсці на паляванне, і таму каля паловы адзінаццатай вечара спадар Нотбург пазваніў з мабільнага тэлефона спадару Праўду і спытаў, ці не хоча той пайсці з імі. Праўда, маўляў, быў нейкі стрыманы, сказаў толькі, што працуе, і паклаў слухаўку. Размова сапраўды доўжылася крыху больш за хвіліну, гэта пацвярджае раздрукоўка тэлефонных размоваў. Потым госці сабраліся і пайшлі на паляванне. Дарэчы, згодна з прагнозам надвор’я, меўся быць дождж, таму ўсе досыць доўга чакалі, але не ўпала ні кроплі. Дома засталася толькі спадарыня Нотбургава з дачкой і, як сцвярджаюць абедзве, неўзабаве яны ляглі спаць і не заўважылі нічога асаблівага. Нотбург вярнуўся каля чацвертай раніцы адзін. Ягонай увагі таксама нічога не прыцягнула.

Спадар Хвала, як заўжды, сыходзячы ўвечары на дзяжурства ў гатэльным гаражы, прыйшоў папытацца ў спадара Праўды, ці не трэба яму чаго і а якой гадзіне яму прынесці сняданак. Пісьменнік сказаў, што не, не трэба, і што сняданак ён просіць, як звычайна, на сёмую. Са словаў Хвалы, спадар Праўда быў неспакойны і нейкі быццам безуважны.

Спадарыня Хвалава ўвечары са спецыяльнымі навушнікамі глядзела тэлевізар і пайшла спаць каля поўначы.

Сын Пэтэр увесь вечар быў у сваім пакоі. Недзе пасля дзясятай ён заўважыў, што ў спадара Праўды гарыць святло. Калі ён пайшоў спаць (гэта было пасля адзінаццатай), у Праўды было ўжо цёмна. І спадарыня Хвалава, і Пэтэр маглі выбрацца з дома так, каб другі не прыкмеціў. Аднак няма ані найменшага доказу, каб у іх з пісьменнікам былі нейкія супярэчнасці.

Спадар Вінтэрмантэль зрабіў паўзу і з задавальненнем адзначыў для сябе засяроджаную ўвагу, з якой ягоныя госці за ім назіраюць. Акрамя *Таго чалавека*, які выглядаў, быццам ніяк не можа знайсці сабе месца. Спадар Вінтэрмантэль узнагародзіў яго адзіным кароткім поглядам, і *Той чалавек* знерухомеў, як на загад. Спадар Вінтэрмантэль мог працягваць:

— На наступны дзень каля сёмай гадзіны спадарыня Хвалава панесла сняданак. Яна знайшла адчыненыя дзверы, а на падлозе — забітага пісьменніка. Яна выбегла па мужа, які акурат вярнуўся з начной змены, і той выклікаў паліцыю. Цяпер мы набліжаемся да самай загадкавай акалічнасці ўсёй справы. У правай руцэ нежывы спадар Праўда трымаў кавалак крэйды, якім на падлозе, каля самай яго рукі, быў намаляваны спецыфічны знак.

Спадар Вінтэрмантэль пусціў па коле фотаздымак са спецыфічным знакам.

— Як бачыце, гэта паўкруг, з правага боку карацейшы. Карацейшы бок наверсе перакрэслены кароткай рысай. Нагадвае няскончанае шырокае U, з правага боку коратка коса перакрэсленае. Тое, што ў спадара Праўды ў руцэ была крэйда, у прынцыпе, можна патлумачыць, бо ў яго на сцяне вісела маленькая школьная дошка, на якой ён пакідаў свае просьбы ці запіскі Хвалам, калі мусіў сысці. Дошка зранку была выцертая.

Наступная асаблівасць справы палягае на тым, што рукапіс вялікага рамана, які спадар Праўда акурат скон-

чыў, нідзе не знайшоўся. Падкрэсліваю: Праўда карыстаўся кампутарам, які стаяў у браціслаўскай кватэры, але мы ведаем, што тэкст быў раздрукаваны прынамсі ў адным асобніку. Ён паказваў яго, падшыты ў папцы, Пэтэру Хвалу, і гэта быў адзіны раз, калі аўтар пра яго некаму нешта сказаў. Як сцвярджае Пэтэр Хвала, спадар Праўда адзначыў, што гэта найлепшае, што ён у сваім жыцці напісаў. Калі Хвала спытаў, пра што раман, той адказаў толькі, што ён «пра святых». Якіх «святых» меў на ўвазе аўтар, мы не ведаем.

Апошняя важная акалічнасць — паказанні бяздомнага, які ўлетку жыве ў халупе на гары над Кінчарам. Маўляў, на світанні перад домам спадара Праўды ён бачыў нейкую постаць. Больш ён не змог нічога прыгадаць. Не змог вызначыць, была постаць мужчынская або жаночая. Судмедэксперт вызначыў час смерці Праўды паміж паловай дзявятай і паловай дванаццатай.

Пан Вінтэрмантэль падняў руку:

— Шаноўныя дамы, шаноўныя джэнтльмены, месца здарэння, сведкі, копіі ўсіх паліцэйскіх рапартаў у вашым распараджэнні.

У памяшканні панавала засяроджаная цішыня. Спадар Вінтэрмантэль перад кожным паклаў важкі канверт з копіямі рапартаў. Маючы адчуванне добра выкананай працы, ён з палёгкай выдыхнуў, аднак *(зноў!)* у гэты момант азваўся *Той чалавек*.

— Я б... калі б вы... калі дазволіце...

Як толькі ягоны погляд сустрэўся з поглядам спадара Вінтэрмантэля, ён аціх.

Шэрлак Холмс пачасаў худыя рукі і сказаў:

— Думаю, гэтую нескладаную загадку я неўзабаве вырашу. Хадземце, Ўотсан, мне як божы дзень ясна, што...

## Забойства як пераймание

*Рашэнне паводле Шэрлака Холмса*

*Вось справаздача пра ход расследавання забойства ў Жлуктаве, якую для нас падрыхтаваў доктар Ўотсан і — з ласкавай згоды Шэрлака Холмса — прадставіў у нашае распараджэнне. Мы публікуем яе без скарачэнняў і рэдактарскіх зменаў.*

Мяне завуць Джон Ўотсан, я доктар медыцыны, а таксама шматгадовы супрацоўнік і, смею спадзявацца, сябра самага славутага дэтэктыва ўсіх часоў Шэрлака Холмса. Свой аповед я пачну з фразы, якую ў таямнічым мястэчку Жлуктаве прамовіў мой сябра і якая выклікала непадробнае здумленне на тварах астатніх дэтэктываў:

— Думаю, гэтую нескладаную загадку я неўзабаве вырашу. Хадземце, Ўотсан, — кіўнуў мне Шэрлак Холмс і ўвайшоў у малы пакойчык, які нам выдзелілі на час расследавання. Я прыгадаў здумленне ягоных калег і міжволі ўсміхнуўся. І тут жа пасур'ёзнеў. Бо ці не перабольшаная ягоная самаўпэўненасць? Я пералічыў сабе ўсё, што нам было пра справу вядома, але не знайшоў аніводнай зачэпкі.

— Але яна там, дарагі Ўотсан, яна там, — перапыніў мае думкі Холмс.

— Прашу прабачэння?!

— Я кажу, што зачэпка там ёсць, я нават бачу дзве выразныя зачэпкі. А вы хіба не?

Я змог адно выціснуць з сябе:

— Дзеля ўсіх святых, Холмс, вы што, умееце чытаць думкі?

Сябра шчыра зарагатаў:

— Усё, што я ўмею, дарагі Ўотсан, гэта назіраць: вы заўважылі погляды астатніх калег і ўсміхнуліся, калі дазволіце, з лёгкай злараднасцю. Аднак неўзабаве вашая

ўсмешка знікла. Чаму? Вядома ж, таму, што вы пачалі разважаць пра справу. Вы пасур'ёзнелі, бязрадна пакруцілі галавой і паглядзелі на мяне з асцярогай. Ніякай зачэпкі, за якую я мог бы ўхапіцца, вы не бачылі.

— Холмс, у вашых вуснах усё гучыць так, быццам гэта самая банальная рэч у свеце! Але зачэпак я ўсё адно не бачу. Аніводнай.

— Перадусім, той спецыфічны знак. Ён вам нічога не нагадвае?

Я прызнаўся, што не. Холмс працягваў:

— Далей — паказанні бяздомнага.

Я запярэчыў:

— Але ж ён нічога не памятае!

Холмс кіўнуў:

— То ж бо то, Ўотсан, то ж бо то.

Я нецярпліва азваўся:

— Ці не час нам ужо адведаць месца здарэння?

Сябра весела адказаў:

— Навошта гнацца за нечым, што нам само звалілася ў рукі?

Ён паляпаў па пульхным канверце, які атрымаў ад спадара Вінтэрмантэля.

— Урэшце, хто ведае, як бы на нас, чужынцаў, зрэагаваў гэты своеасаблівы люд?

Ён разгарнуў дакументы і пачаў іх вывучаць.

— Ўотсан, — сказаў ён адразу, — здаецца, мы на добрым шляху. Але спачатку паглядзіце вось на гэта.

Ён падаў мне фотаздымак прыблізна пяцідзесяцігадовага барадатага мужчыны з сур'ёзным поглядам.

— Гэта ж спадар Праўда! Але з ім нешта не так, вам не здаецца?

Холмс кіўнуў.

— Ягоны апошні здымак. Звярніце ўвагу на рашучы выраз твару і ў той жа час кругі пад вачыма! Гэта вельмі цікава.

Не мінула і дзесяці хвілін, як Холмс выгукнуў:

— Ўотсан, вось яно! Пісьменнік Праўда казаў, што піша кнігу пра нейкіх святых, аднак рукапіс нідзе не знайшоўся. Усё супадае! — Холмс ускочыў. — Ўотсан, вы мелі рацыю, хадземце на месца здарэння.

Калі мы дабраліся да ўрочышча, называнага Кінчар, Холмс, не затрымаўшыся каля дамоў, павёў мяне праз луг у бок лесу. На мой недаўменны погляд ён адказаў з сур'ёзным тварам:

— Мы ідзем не на месца, дзе здарылася злачынства, а на месца, дзе яно *магло б здарыцца*.

Кіруючыся схемай, мы лёгка знайшлі пад гарой убогую халупу бяздомнага, а перад ёй яшчэ гарачы агмень. Холмс крыкнуў хрыплым голасам:

— Гэй, выходзьце, мы вам тут нешта прынеслі!

На маё здзіўленне, валацуга сапраўды з'явіўся. Ён быў абарваны, з доўгімі бруднымі валасамі і неверагодна смярдзеў. Холмс яму прыязна сказаў:

— Братка, вам, пэўна, жывецца нясоладка, дык мы вам тут трохі прынеслі.

Ён выцягнуў некалькі банкнотаў і паклаў іх на камень. Бяздомны кінуўся да іх, але, убачыўшы, што іх вартасць зусім невялікая, раз'юшыўся. Ён пнуў нагой у прысак. Холмс шматзначна крыкнуў яму:

— Будзьце асцярожны, будзьце вельмі асцярожны, вы можаце абпаліцца.

Мужчына з агідай сплюнуў. Холмс пацiснуў плячыма, і мы павярнуліся, збіраючыся ісці прочкі.

— Я вас папярэдзіў, — ужо стражэй дадаў Холмс.

Калі мы вярталіся праз Кінчар, Холмс без асаблівай цікаўнасці агледзеў звонку Праўдаў дом, які ніяк не выглядаў напышліва, аднак тым большую ўвагу мой сябра надаў віду з яго.

У местачковай управе таго адметнага мястэчка мы знайшлі спадара Вінтэрмантэля, які падаўся мне залішне заклапочаным. Холмс суцяшальна паляпаў яго па плячы і спытаў:

— Сэр, ад вашага адказу, магчыма, залежыць, як хутка я вырашу ўсю справу. Скажыце, ці не надараліся апошнім часам у вашым краі крадзяжы ў кватэрах вядомых дзеячаў культуры?

Здзіўлены спадар Вінтэрмантэль кіўнуў.

— Дзеля бога, містэр Холмс, як вы маглі ведаць? Так, гэта пачалося прыблізна год таму, і паліцыя дагэтуль не знайшла злачынцаў. Мушу падкрэсліць, што грамадскасць гэтым надзвычай занепакоеная.

Холмс радасна пацёр рукі і ягоныя вочы заіскрыліся натхненнем. Ён зноў папляскаў спадара Вінтэрмантэля па плячы і сказаў:

— Гэта выдатная навіна, сэр.

З Холмсам не заўжды было лёгка пагадзіцца, і спадар Вінтэрмантэль, мяркуючы з выразу ягонага твару, быў у гэтым са мной салідарны.

Усе дэтэктывы ўжо былі на сваіх месцах, і Холмс папрасіў слова:

— Шаноўныя калегі, — пачаў ён, — мне дадзена было раскрыць гэтае злачынства за такі рэкордна кароткі тэрмін, бо яно было перайманнем. Арыгінал адбыўся больш як сто гадоў таму ў Лондане. Пэўны адукаваны і славалюбны, аднак бедны паэт па імені Голімэн прыдумаў, як разбагацець. Бываючы на вечарынках у прыватных салонах, ён прыкмячаў, дзе ў гаспадара дома захоўваюцца каштоўнасці. Потым досыць было ўпільнаваць, калі дом пусцеў, і ўзяць пару найбольш дарагіх экзэмпляраў. Часта праміналі дні і тыдні, пакуль страту заўважалі, і гэта надзвычай ускладняла расследаванне. Містэр Голімэн разбагацеў і не меў ужо ахвоты рабіць усё самастойна. Ён знайшоў юнака, фінансавае становішча

якога было безнадзейным і які адпачатку быў гатовы супрацоўнічаць. Голімэн працягваў наведваць салоны і разглядацца ў іх, а потым толькі тлумачыў маладому чалавеку, што трэба скрасці. Нейкі час усё ішло як на мазаных колах. Аднак калі юнак даведаўся, што адзіны падазраваны ў справах тых крадзяжоў — ён, а супраць Голімэна ніхто нічога не зможа даказаць, ён вырашыў скончыць з тым злачынным прадпрыемствам і ўсё расказаць паліцыі. Голімэн пра тое дазнаўся і юнака забіў. Побач з трупам ён намаляваў знак — такі самы, які быў і побач з целам спадара Праўды. З моманту, калі я той знак убачыў, я павёў расследаванне ў гэтым кірунку. Год таму пачалася серыя ўварванняў у кватэры вядомых асобаў, і акурат тады спадар Праўда настолькі палепшыў сваё фінансавае становішча, што купіў дом у Кінчары. Я дапусціў, што нехта ўхапіўся за даўнюю лонданскую ідэю, і спадар Праўда служыў як інфарматар. Як і ягоны папярэднік, ён таксама зразумеў, што выстаўляе сябе завялікай небяспецы, спалохаўся і вырашыў з усім скончыць. На яго апошнім прыжыццёвым здымку мы бачым заклапочанага чалавека, які наважыўся дзейнічаць. Ён ведаў, што будзе няпроста вырвацца з рук злачынцаў. Ён зняў грошы і запрасіў змоўнікаў. У тэлефоннай размове ён быў такі стрыманы, бо напружана чакаў гасцей. Калі яны прыйшлі, Праўда ім паведаміў, што больш на іх працаваць не будзе. Ён вярнуў грошы, якія ад іх атрымаў, «каб аблегчыць сваё сумленне», і прыгразіў, што, калі яны не пакінуць яго ў спакоі, ён апублікуе ўсё, што пра іх хеўру ведае. Гэта былі не пустыя пагрозы, бо, як памятаеце, Праўда напісаў «кнігу пра святых». Пад тымі святымі ён разумеў навачаснага Голімэна: як вы, безумоўна, ведаеце, па-ангельску «holy» азначае «святы». Мяркую, ён ім нават паказаў рукапіс. Але ж пралічыўся: тое, што яму мелася паслужыць абаронай, паслужыла прычынай для забойства. Злачынцам трэба было па-

збавіцца ад Праўды і не даць хады рукапісу. Небараку забілі.

Ва ўсёй гісторыі мяне больш за ўсё зацікавілі паказанні бяздомнага. Прыгадайце ягоныя словы, што ён некага бачыў, але падрабязнасцяў не можа ўспомніць. Ён не хацеў паказаць, што аднойчы памяць можа да яго вярнуцца. Той вар'ят, які ў рэчаіснасці сапраўды не ведае, каго бачыў, вырашыў, што за маўчанне запатрабуе плату. І вось, замест таго, каб ні ўва што не ўмешвацца, як зрабіў бы ўсякі бяздомны паўсюль у свеце, ён даў паказанні ў паліцыі і дагэтуль чакае ў сваёй халупе. Я наведаў яго і даў яму нейкія грошы. Ён кінуўся на іх, быццам яны заўсёды былі ягоныя. Але ўбачыўшы, што сума зусім невялікая, ён літаральна раз'юшыўся. Наіўны вар'ят!

Напружанне ў памяшканні дасягнула апагею. Холмс павярнуўся да спадара Вінтэрмантэля:

— Калі паліцыя хоча злавіць забойцаў, хай пільнуе бяздомнага. Злачынцы мусяць ад яго пазбавіцца. Яны не ведаюць, колькі ён насамрэч ведае. Бандытам не ўласціва сумнявацца.

Спадар Вінтэрмантэль захоплена выгукнуў:

— Геніяльна! Сапраўды ге-ні-яль-на! Толькі адна дробязь... тое папярэджанне... што значыць той знак каля трупа?

— А, той... — лёгка ўсміхнуўся Холмс. — Гэта літара С. Яе пісалі рымскія суддзі на дошцы для галасавання, калі прымалі рашэнне наконт вінаватасці абвінавачанага. Значыць яна «condemmo» — «асуджаю». Я вам казаў, што Голімэн быў чалавекам адукаваным, як і наш забойца. Гэты знак — папярэджанне ўсім, хто б у будучыні наважыўся раскрыць злачынную банду.

Спадар Вінтэрмантэль захоплена кіўнуў і ў той жа момант заўважыў, што *Той чалавек* у куце залы збіраец-

ца нешта сказаць. На шчасце, яго апярэдзіў лейтэнант у зношаным балоневым плашчы, які нясмела прамовіў:

— Прабачце… мне вельмі няёмка… сапраўды прабачце, але я не ўпэўнены, ці вы не памыляецеся. Бо забойца ж… — інспектар Каломба вінавата ўсміхнуўся…

## ПапарацЬ, што завяла ад смутку
*Рашэнне паводле інспектара Каломба*

— Прабачце… мне вельмі няёмка… сапраўды прабачце, але я не ўпэўнены, ці вы не памыляецеся. Бо забойца ж… — інспектар Каломба вінавата ўсміхнуўся.

Лейтэнант Каломба ведаў, хто забойца. А таму сказаў дэтэктывам:

— Калегі, дазвольце мне зараз вярнуцца на пачатак свайго расследавання. Калі я спыніўся перад домам сям'і Хвалаў…

Лейтэнант Каломба спыніўся перад домам Хвалаў і пазваніў. Яму адчыніла круглатварая жанчына ў выцягнутай майцы з малюнкам стодаляравых купюраў, якія падаюць з неба. У лейтэнанта прамільгнула ў галаве, што спадарыня Хвалава намнога маладзейшая, чым ён чакаў. Яна прыладжвала за вухам слыхавы апарат.

— Кажыце мне на гэты бок, інакш я не пачую.

— Я лейтэнант Каломба. Расследую…

Яна перапыніла яго:

— Я ведаю. Хадземце ў наш парадны пакой.

Яна ўвяла яго ў пакой, у якім не было аніводнага доказу прысутнасці жыцця, акрамя звялай расліны пад акном. Сцягнула накідкі з мяккай мэблі і паказала на фатэль, у якім, падобна, ніколі ніхто не сядзеў.

— Сядайце, я б яго толькі запэцкала.

Каломба дастаў цыгарэту, але, пабачыўшы занепакоены погляд спадарыні Хвалавай, зноў паклаў яе назад. Ён

прыгадаў пра свой пакамечаны балоневы плашч, у чысціні якога не быў упэўнены, і хутка гучна спытаў:

— Ці не маглі б вы мне апісаць вечар перад забойствам?

Яна кіўнула.

— Калі муж сыходзіў на начную змену, ён пайшоў спытаць у спадара Праўды, ці не трэба яму чаго і ў колькі мне яму прынесці сняданак. Я заўсёды гатавала спадару Праўду. Сняданак ён папрасіў, як заўжды, на сёмую, і яму нічога не было трэба. Сын увесь вечар прасядзеў у сваім пакоі. Я глядзела тэлевізар... ведаеце, муж зрабіў мне ўзмацняльнік на навушнікі, інакш бы я не чула. Каля дзясятай я заўважыла, што ў спадара Праўды гарыць святло. Лягла я пад поўнач, тады паўсюль ужо было цёмна.

— А зранку?

— Я панесла сняданак, дзверы былі адчыненыя, спадар Праўда ляжаў на падлозе, а вакол была кроў. Ён быў страшэнна халодны, — яна перажагналася. — Я не ведала, што нябожчыкі могуць быць такія халодныя.

— Вы паклікалі мужа?

Яна кіўнула.

— Ён нахіліўся над спадаром Праўдам, і я бачыла, як ён затросся. Толькі тады я ўбачыла той нож. Муж загадаў мне прынесці мабільны тэлефон, каб выклікаць паліцыю. І хоць ён увесь тросся, але застаўся каля яго. А я... я не магла.

— А ці заўважылі вы той знак, намаляваны каля нябожчыка?

Яна нарэшце села. Выпаліла:

— Гэтым ён хацеў нам сказаць, каб мы паклапаціліся пра папараць.

У яе голасе была незвычайная настойлівасць:

— Спадар Праўда быў вельмі добры чалавек, кожнаму дапамагаў, хоць і быў багаты і слаўны. У яго былі ску-

раныя фатэлі і кліматызацыя нават у прыбіральні, яму нават на працу не трэба было хадзіць, — у спадарыні Хвалавай быў летуценны выраз.

Лейтэнант адкашляўся:

— Дык што са знакам, мэм?

— Гэта была стрэлка, якая паказвала на папараць. Паглядзіце, спадар дэтэктыў, — яна падвяла яго да завялай расліны пад акном. — Незадоўга да смерці спадар Праўда прынёс гэтую папараць, — яна пяшчотна правяла пальцамі па сцяблінах. — Калі спадар Праўда памёр, зранку расліна завяла, напэўна, ад смутку. І той знак паказваў на яе. Што, калі гэта было апошняе жаданне спадара Праўды, каб мы пра папараць паклапаціліся? Спадар Праўда быў вельмі добры чалавек, хоць і быў багаты і слаўны.

Лейтэнант Каломба ўражана паглядзеў на расліну.

«Няўжо магчыма, каб?..» — падумаў ён і ўзяў вазон у рукі.

— Мэм, ці не маглі б вы мне дакладна паказаць, дзе гэтая расліна стаяла?

На падлозе ўсё яшчэ быў відаць намаляваны крэйдай выразны абрыс трупа, а побач той знак — няскончаны паўкруг. Спадарыня Хвалава паставіла расліну на столік ля школьнай дошкі.

— Вось тут, — сказала яна.

Лейтэнант стаў на карачкі. Выцягнуты бок паўкруга сапраўды быў скіраваны да папараці. Спадарыня Хвалава ўзяла расліну і прыціснула яе да грудзей са стодаляравымі банкнотамі. Каломба спытаў:

— Чаму спадар Праўда забраў грошы з банка?

Яна адказала рэзка:

— Нам іх ён не даваў. Мы хацелі ў яго пазычыць, але потым муж яму сказаў, што мы дамо рады і самі. Мне ўжо трэба ісці, — сказала яна і развярнулася да свайго дома.

Праз пару крокаў Каломба спыніў яе запытаннем:

— Скажыце, мэм, як вы пачулі званок, калі апарат вы надзелі толькі ў дзвярах?

Яна адказала з гонарам:

— Калі звоніць званок, загараецца чырвоная лямпачка. Муж у мяне на ўсе рукі майстар. Некалі ён быў шафёрам у старшыні суда! Тады... тады мы былі багатыя і паважаныя.

Яе погляд з горыччу спыніўся на віле Нотбургаў.

Далей лейтэнант Каломба скіраваўся ў гатэльны гараж да мужа спадарыні Хвалавай.

Ва ўсім гаражы быў толькі гатэльны мікрааўтобус і адна легкавая машына. Хвала сядзеў у зашклёнай будцы. Ён адчыніў акенца, і лейтэнант паказаў пасведчанне.

— Наконт забойства спадара Праўды? Што вас цяпер цікавіць?

Каломба спытаў пра расліну, якая завяла, напэўна, ад смутку. Хвала выглядаў трохі прысаромлена.

— І вам пра гэта расказала? Яна добрая жанчына, але замнога сядзіць адна. Тая папарадь і цяпер такая самая, як была, яна заўжды выглядала прывялай.

— Вашая жонка сказала, што ў Праўды была кліматызацыя нават у прыбіральні...

Спадар Хвала рассмяяўся.

— Я ведаю, скураныя фатэлі і кліматызацыя. Так яна вам сказала? Улетку пару дзён стаяла спёка, дык я яму яе ўсталяваў. Яна яшчэ не была падключаная.

Ён задумаўся і паўтарыў:

— Яна добрая жанчына, толькі ўвесь час адна.

Лейтэнант пайшоў быў да выхаду, але ад дзвярэй вярнуўся.

— Ва ўсім гаражы толькі адна машына?

Хвала кіўнуў.

— Калі так пойдзе і далей, я пазбаўлюся і гэтай працы.

— Калегі, — лейтэнант Каломба зноў звярнуўся да дэтэктываў, — жыццё на самоце цяжкае і аднастайнае і мае нязменныя правілы. Аднак год таму ў гэтых мясцінах пасяліўся чалавек, які ўсё перавярнуў дагары нагамі, чалавек, якому «нават на працу не трэба было хадзіць», і тым не менш, ён меў скураныя фатэлі і загадаў усталяваць сабе кліматызацыю, бо пару дзён улетку бывае спякотна! Думаю, што акурат гэта быў той момант, калі Хвала вырашыў Праўду забіць! Вядома, дзеля грошай і, вядома, праз адвечную нянавісць бедных да багатых. Ён папрасіў у Праўды пазыку і забяспечыў сабе дасканалае алібі. Сачыце за мной. А сёмай ён, як заўжды, ідзе да Праўды. Усаджвае яму ў сэрца нож, Праўда падае. Хвала ўсё прадумаў. Ён уключае кліматызацыю на самую нізкую тэмпературу, падключае рэле вытрымкі часу, бярэ грошы, рукапіс і Праўдаў мабільны тэлефон. Сыходзіць, замыкае дзверы. Уначы тэлефануе Нотбург, Хвала змяняе голас і мармыча ў слухаўку некалькі слоў — адсюль той стрыманы тон. На досвітку ён бярэ гатэльны мікрааўтобус (ён жа быў шафёрам, потым зможа перакруціць тахометр) і едзе да Праўды. Забірае рэле, выключае кліматызацыю, вяртае мабільны тэлефон, пакідае адчыненыя дзверы і вяртаецца ў гараж. Зранку ён дома, як звычайна. Жонка нясе сняданак, з жахам прыбягае назад, усё ідзе як задумана. Хвала нахіляецца над мёртвым Праўдам… і яго ахопліваюць дрыжыкі. Не, Хвала гэта не граў. Проста ён заўважыў тое, чаго не мог убачыць уначы ў цемры: Праўда спрабаваў нешта напісаць. Што? Імя забойцы. Ён пачаў пісаць «Х», але, не маючы сілы, зрабіў прынамсі стрэлку. Вось толькі паказвала яна не на расліну, як думала спадарыня Хвалава, а на дом Хвалаў. Усё алібі Хвалы было заснаванае на меркаваным часе смерці. Стаялі вельмі цёплыя, душныя

ночы. Ён адладзіў кліматызацыю, пра якую сцвярджаў, што яна не працуе, і пакуль сам чакаў у Праўды паліцыю, зрабіў так, каб яна сапраўды не працавала. Ён знізіў тэмпературу настолькі, што ўвёў у зман нават паталагаанатама. Меркаваны час забойства пасунуўся на пару гадзін. Прыгадайце, як спадарыня Хвалава сказала: ніколі не думала, што труп можа быць такі халодны. Перадусім з гэтай прычыны Хвала пад раніцу мусіў вярнуцца. Каб адчыніць дзверы і выраўнаваць тэмпературу ў доме з тэмпературай знадворку. Калі б яго нехта ўбачыў — а яго насамрэч убачыў бяздомны, — ён мог выдумаць мноства прычынаў, што ён рабіў уначы ў Кінчары, і пры гэтым пазбегнуць абвінавачання ў забойстве, бо Праўда ўжо нібыта некалькі гадзінаў як быў мёртвы. Рэле вытрымкі часу было патрэбнае для таго, каб уключаць і выключаць у доме святло і тым самым выклікаць уражанне, што ў ім нехта ёсць. Усё было прадумана выдатна, акрамя пары дробязяў. Хвала не ўлічыў, што з нажом у сэрцы нехта можа яшчэ пражыць столькі, каб паспець пакінуць запіску. Ён не ўзяў пад увагу расліну, якая не вытрымала колькігадзіннага холаду. А перадусім ён не ўлічыў прымхлівасці сваёй жонкі, якая не дазволіла прыбраць гэтага адзінага сведку забойства. Спадарства, у мяне ўсё.

*Той чалавек* зноў хацеў нешта запярэчыць. Спадар Вінтэрмантэль захоплена выгукнуў:

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на, але што меў на ўвазе спадар Праўда, калі казаў пра палёгку свайму сумленню? І чаму Хвала ўзяў рукапіс?

— Праўда адчуваў, што зрабіў з Хвалаў слуг, а таму меў згрызоты сумлення і хацеў Хвалам тыя грошы пазычыць. Ён бачыў, што яны ім патрэбныя, хоць тыя і сцвярджалі, што перадумалі. А рукапіс Хвала забраў дзеля грошай. Вось пабачыце, неўзабаве ён усім раскажа чуллівую гісторыю, як вялікі пісьменнік пакінуў у спад-

чыну рукапіс сваім верным сябрам Хвалам, а значыць, частка ганарараў таксама належыць ім...

— Усё не так! — раптам запярэчыў Філ Марлоў. — Вы забылі пра...

## Дом з клоўнам

*Рашэнне паводле прыватнага дэтэктыва Філа Марлоў*

Я стаяў перад домам, які выглядаў як увасобленая мара дзяўчынкі з запалкамі. Ён быў бледна-ружовы, двухпавярховы, з вежачкай, абгароджаны жываплотам. Праз кованую браму праглядаўся басейн з вадой далікатна-блакітнага колеру, цяпер ён быў пусты.

На браме замест званка расплываўся ва ўсмешцы твар клоўна. Таксама кованы. На ягоны нос паказвала стрэлка, над якой красаваў надпіс: *«Націскаць тут. Нотбургі»*.

Я націснуў. Азваўся магнітафонны мужчынскі смех, да якога праз хвілю дадалося рэальнае жаночае хіхіканне. Яго ўладальніца падышла да брамы. Ёй было каля сарака, на ёй быў лазурны купальнік, у руцэ келіх з празрыстай вадкасцю. Не магло быць сумневаў, што гэта спадарыня Нотбургава.

— Я прыватны дэтэктыў Філ Марлоў, і я б хацеў вам задаць...

Яна налягла ўсім целам на браму.

— О так, задайце мне.

Я ветліва працягнуў:

— ...усяго некалькі пытанняў.

Яна зноў захіхікала. З-за дрэваў за мной пачуўся прыглушаны гук — і там нехта не здолеў стрымаць выбух смеху. Я разважаў, ці не націснуць мне зноў на нос клоўна, каб весялосць давесці да максімуму.

— Я не магу вам адчыніць, у мяне забралі ключы, мабыць, каб я не ўцякла. Бачыце, мае дарагушы мяне так любяць, — сказала яна. Мяркуючы з не зусім выразнага вымаўлення, у келіху была не вада. Яна прасунула скрозь краты брамы руку і пхнула мяне ў грудзі.

— Вы расследуеце смерць Праўды, праўда?

З такой дасціпнасці яна зноў рассмяялася і ўжо не здолела перастаць. У яе цяклі слёзы, яна хапала ротам паветра, але келіх не выпусціла. Сціскала яго, як смяротнік крыж. Я спадзяваўся, што яе дачка таксама дома, таму яшчэ раз націснуў на клоўнскі нос. Яна прыбегла праз імгненне, занадта маладая для тых вакханалій, што адбываліся ў яе на вачах. Яна без словаў адвяла ў дом маці, якая не магла спыніць істэрычнага смеху. Не выглядала, каб сітуацыя была для яе новай. Я застаўся сам-насам з клоўнам. Калі не лічыць таго, за дрэвамі.

Калі ён пабачыў, што я падыходжу, то пачаў бесклапотна пастукваць абцасам. Не ставала толькі, каб пачаў насвістваць. Яму было крыху за дваццаць, хутчэй невысокі, поўны, з нячыстай скурай, абсыпанай зеленкаватым рабаціннем.

— Вы некага шукаеце? — спытаў ён, і ў ягоным голасе мне зноў пачуўся той не да канца стрыманы смех.

— А вы?

Ён ужо назбіраў крыху куражу, і таму прадэманстраваў яго:

— А я, ведаеце, тут дома.

Я кіўнуў:

— Ведаю. Хвала-малодшы. Пятрок.

Ён пакасіўся на мяне.

— Ці можам мы недзе спакойна паразмаўляць?

Ён змераў мяне поглядам, быццам яму было дзіўна, што я хаджу на дзвюх нагах і выдаю зразумелыя гукі, і пацісну́ў плячыма:

— Ну хадземце.

Ён завёў мяне на супрацьлеглы схіл. На тое, колькі ён важыў, рухаўся ён увішна. Дарогай ён мне ў розных варыяцыях тройчы паўтарыў, што вывучае літаратуразнаўства. Магчыма, ён лічыў, што гэта робіць яго асабліва прывабным для дзяўчат.

Мы селі на складзеныя абсечаныя камлі. Проста пад намі быў басейн Нотбургаў. Стратэгічная пазіцыя, нічога не скажаш. Я спытаў:

— Як даўно п’е спадарыня Нотбургава?

Ён вырваў травіну.

— Ці бачылі вы калі хату з земляной падлогай? Вось тут, — ён паказаў на вілу пад намі, — такая некалі і стаяла. Ён жыў там з бацькамі, тыя пілі, як лілі ў бочку. Людзі ў вёсцы называлі іх не Нотбургі, а Нотбухі. З такой мянушкай ён і рос.

Маладзён разарваў травіну. Хто ведае, з якой мянушкай рос ён.

— Нотбург з’ехаў адсюль, а праз дваццаць гадоў вярнуўся вядомым чалавекам — дэпутатам. Тыя самыя, хто з яго смяяўся, цяпер ліжуць яму… вы разумееце, што я маю на ўвазе.

Апошнюю фразу ён сказаў тонам, які ўжо не адпавядаў лекцыі на тэму «Антагенэз насельнікаў славацкай вёскі». У яго даўно ўжо, напэўна, складзены спіс тых, хто аднойчы будзе лізаць і яму. Ён працягваў:

— Ён пабудаваў замак, абнёс яго плотам, прывёз жонку і дачку. Фактычна, Нотбург тут не жыве. Некалі тут на земляной падлозе залівалася алкаголем ягоная маці, сёння тут на паліраваным паркеце заліваецца ягоная жонка.

Хоць аповед быў залішне літаратурны, але каліва праўды ў ім, мусіць, было. Ён паказаў на дом пад намі:

— Яна там адна. Раз на тыдзень ходзіць у краму, раз на месяц гатуе кактэйлі для ягоных гасцей. Спачат-

ку... — раптам ён змоўк, быццам яго абсекла. На газон пад намі выйшла дзяўчына. Пазбірала келіхі і вярнулася ў дом.

— Як з гэтым стасуецца пісьменнік Праўда?

Ён рэзка павярнуўся да мяне.

— А так стасуецца, што гэта была ідэя Нотбурга, гэта ён яго сюды прыцягнуў. Я ведаю, што ён даў Праўду нейкія грошы, каб той тут трохі звысакародніў усё ці як бы гэта сказаць. Спадар Праўда быў Нотбургавым хабарам уласнай жонцы, каб тая магла гуляць у шчаслівую каралеву. Ён купіў ёй не сабачку, а пісьменніка! Гэта падзейнічала. Яна перастала піць, зацікавілася літаратурай, так доўжылася амаль год. Потым нешта здарылася. З вясны спадарыня Нотбургава зноў амаль не прасыхала. Зузана, яе дачка, акурат тады вярнулася з Лондана, — гэтае слова ён прамовіў, быццам праглынуў смаўжа, — і з таго часу яна з маці. Клапоціцца пра яе.

Я спытаў:

— Як ставілася Зузана да Праўды?

Маладзён сарваў наступную травіну і засяроджана яе вывучаў.

— Пару тыдняў таму я ішоў да яго, акурат калі Зузана ў раз’юшанасці выбегла з ягонага дома. Спадар Праўда спытаў у мяне, ці знойдзецца ў нас у хляве месца для адной старой тоўстай свінні. Ён смяяўся, але быў невясёлы. Думаю, зразумела, што яна пра яго думала.

Я ўстаў, падаў яму руку. Ягоная рука была малая, мясістая, халодная і спатнелая. Выбраўшыся з поля ягонага зроку, я выцер далонь аб штаны.

Клоўн ужо чакаў мяне разам са сваім магнітафонным смехам. Да брамы падышла Зузана, апранутая ў шэрае, як манашка. Было не падобна, каб яна збіралася мне адчыніць. Я спытаў, калі яна апошні раз бачыла Праўду жывым. Яна адказала імгненна:

— У тую апошнюю суботу ўвечары. Бацька адзначаў імяніны, і спадар Праўда прынёс нейкія часопісы... — яна не дагаварыла.

Я спытаў:

— Якія ў яго былі дачыненні з вашай маці?

Яна паглядзела на мяне, быццам я сказаў нешта непрыстойнае.

— Я пайду, — сказала яна.

— Вам тут не самотна?

Яе смех быў колкі, як чартапалох.

— Самотна? Тут? З такой колькасцю анёлаў-ахоўнікаў?

Яна паглядзела на супрацьлеглы схіл. Магчыма, літаратуразнаўца на сваіх абсечаных камлях нават не хаваўся.

Яна вярнулася ў дом, а я ў затхлае памяшканне местачковай управы ў Жлуктаве.

— Гэтая гісторыя, — пачаў Філ Марлоў, азіраючы дэтэктываў, — пачалася з таго, што бедны хлопец з беднага хутара разбагацеў і пабудаваў сабе вялікі дом. Прывёз да сябе жонку з дачкой і хацеў ад іх толькі аднаго: каб яны ў тым доме ўсміхаліся. На самоце з суседам, які ўвесь час толькі спіць, з яго глухой жонкай і чараватым сынам гэта было нерэальна. Жонка пачала піць. Дачка з'ехала за мяжу.

Нотбург мусіў нешта зрабіць, і, як сказаў малады Пэтэр Хвала, ён купіў жонцы замест сабачкі пісьменніка. Гэта была дробная інвестыцыя, але спадарыня Нотбургава сапраўды закахалася. Так, як можа закахацца самотная жанчына. Праўду, безумоўна, цешыла яе ўвага, бо спадарыня Нотбургава і цяпер выглядае вельмі прывабна.

Потым раптам «нешта здарылася». То бок вярнулася Зузана, і цяпер закахаўся Праўда. Так, як толькі можа

закахацца немалады мужчына, апынуўшыся твар у твар з маладосцю і прыгажосцю. Але ж безадказна. Спадарыня Нотбургава вярнулася да алкаголю, а Зузана пачувалася за гэта адказнай і вінаватай. Уласна, яна так пачуваецца і дагэтуль.

Надвячоркам той апошняй суботы Праўда вырашыў вярнуць Нотбургу грошы, за якія ён прадаўся, то бок «аблегчыць сваё сумленне», а таксама паведаміць, што з'язджае, прычым назаўжды. Гэта было адзінае рашэнне, якое магло б вярнуць яму пачуццё ўласнай годнасці. Ён пачуваўся вінаватым перад маці, а ад палкай страсці да дачкі хацеў уцячы. Яму адчыніла Зузана. Ён сказаў ёй пра сваё рашэнне, яна прасіла яго трохі з ім пачакаць, паабяцала, што калі госці раз'едуцца, яна да яго прыйдзе. Яна хацела зрабіць усё дзеля таго, каб маці зноў перастала піць, а яна магла б вярнуцца ў Лондан. Каб усё было як перад тым. Праўду яе настойлівасць здзівіла, і ён патлумачыў яе сабе няслушна, падумаў, што яна ад яго нешта хоча, і наперад запатрабаваў ад Зузаны плату... натурай. У кожным разе, ён пралічыўся, і гэта каштавала яму жыцця. Забойства Праўды не было ані прадуманым, ані падрыхтаваным загадзя. Гэта было забойства пераляканай дзяўчыны ў самаабароне. Калі б Зузана адразу прызналася ў здзейсненым, яе, бадай, апраўдалі б. Але ж яна, спалохаўшыся, сышла. Потым на сцэне з'явіўся малады Хвала. Я не сумняюся, што з таго часу, як Зузана вярнулася з Лондана, ён сачыў за кожным яе крокам, як адданы рыцар. У той вечар, седзячы на камлях пад гарой, ён бачыў досыць, каб, як адданы рыцар, адразу пачаць дзейнічаць. Ён бачыў, як спачатку Зузана крадком увайшла да Праўды, а неўзабаве з жахам выбегла, пакінуўшы дзверы наросхрыст. Ён пайшоў паглядзець, што здарылася, і знайшоў Праўду з нажом у сэрцы. Тады ён перадусім выцер Зузаніны адбіткі і панаставіў цэлую кучу Праўдавых. Потым забраў

рукапіс, бо баяўся, што ў ім магла быць нейкая згадка пра стасункі з насельнікамі Кінчара. На падлозе намаляваў «таямнічы знак», магчыма, каб заблытаць, а можа, ён, як кожны творца, хацеў пад сваім творам падпісацца. Гэта сапраўды была нясконачаная літара Х — Хвала.

Філ Марлоў сумна ўсміхнуўся:

— Або таксама магчыма, што гэта былі ўчынкі зусім не закаханага рыцара, а самаўпэўненага маладзёна, якому лёс падкінуў магчымасць маніпуляваць прыгожай дзяўчынай. Ён расказаў мне ўсё гэта, бо Зузана ўжо занадта доўга была па-за падазрэннямі, і ўкладзены ім капітал, такім чынам, не прыносіў дывідэндаў. Яна не была яму дастаткова ўдзячная. А тое нясконачанае Х, не выключана, было не толькі подпісам, але і папярэджаннем, што ён пра ўсё ведае. Што да мяне, я б лепш апынуўся ў руках паліцыі, чым у вільготных далонях маладога Хвалы.

Кожны маўчаў, толькі *Той чалавек* адкашляўся і нясмела падняў руку. Перш чым ён паспеў хоць нешта сказаць, спадар Вінтэрмантэль энергічна ўмяшаўся:

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на! Але дзе грошы?

— А вы як думаеце, хто мог іх забраць? Сапраўдны творца ніколі не пагрэбуе ганарарам.

Дэтэктывы нават не паспелі выдыхнуць, як азваўся разважлівы голас інспектара Дэрыка:

— Шаноўнае спадарства, Зузана Нотбургава не вінаватая ані ў наўмысным, ані ў ненаўмысным забойстве. Зараз я вам раскажу, як мы, мой асістэнт і я, прыйшлі да такой высновы.

## Аднаасобнае забойства
*Рашэнне паводле інспектара*
*Штэфана Дэрыка*

— Шаноўнае спадарства, — містэра Марлоў перапыніў разважлівы голас інспектара Дэрыка. — Зузана Нотбургава не вінаватая ані ў наўмысным, ані ў ненаўмысным забойстве. Зараз я вам раскажу, як мы, мой асістэнт і я, прыйшлі да такой высновы.

Абодва сядзелі ў няўтульным пакоі, які ім выдзелілі, і маўчалі. Інспектар Дэрык зноў і зноў гартаў матэрыялы справы, якія выдаў ім спадар Вінтэрмантэль, а ягоны асістэнт Гары Кляйн гатаваў каву.

— Гары, — звярнуўся інспектар да асістэнта, — усе высвятляюць, хто што рабіў у тую лёсавызначальную ноч у Кінчары, але мы не ведаем... — ён пстрыкнуў пальцамі і ўстаў. — Як я адразу не здагадаўся... Хадзем!

— Куды? — спытаў Гары, якога рашучасць шэфа зусім не здзівіла.

— Дазнаемся, што па-за Кінчарам рабіў сам Праўда.

— А кава? — спытаў Гары з усмешкай.

— Пачакае, — сур’ёзна адказаў Дэрык.

Утульная брацiслаўская кватэра спадара Праўды месцілася ў ціхім завулку ў цэнтры. Хоць яна і была забітая кніжкамі, паўсюль быў узорны парадак, пры поглядзе на які інспектар задуменна спытаў:

— Думаеш, ён тут сам прыбіраўся?

Гары яму адразу выдаў:

— Прыбіралася спадарыня Шуйкава з першага паверха, гэта было ў адным з рапартаў.

Інспектар кіўнуў, і ягоны асістэнт без словаў пайшоў па спадарыню Шуйкаву. Гэта была высокая хударлявая кабета сталага веку, з глыбока пасаджанымі вачыма,

апранутая ў чорнае. Калі яны разам вярнуліся ў кватэру пісьменніка, яна аўтаматычна скіравалася ў кухню і нясмела прысела да стала.

— Фраў Шуйкава, — звярнуўся да яе інспектар, — вы даглядалі кватэру спадара Праўды?

— Так. З таго часу, як ён аўдавеў, я даглядаю ягоную кватэру. Уласна, даглядала.

Інспектар Дэрык спачувальна кіўнуў.

— Як ён паводзіўся апошнім часам?

— Скардзіўся, што ў яго нічога не выходзіць. Быў вельмі раздражнёны. Бывалі дні, калі ён зусім не еў, а толькі… — яна апусціла вочы.

Інспектар зразумеў:

— Толькі піў?

Спадарыня Шуйкава ўздыхнула:

— Часам ён зачыняўся адзін на дзень-два. Тады піў. Незадоўга да смерці ўсё змянілася, быццам да яго вярнуўся смак да жыцця. Ён быў радасны, бесперастанку жартаваў. Усё сам папрыбіраў, вычысціў, выкінуў усе бутэлькі. У мяне было адчуванне, — спадарыня Шуйкава сцішыла голас, — што ён збіраецца сюды некага прывесці. Урэшце і прывёў… смерць. — Яна пражагналася.

Інспектар спытаў:

— А ці ведаеце вы нешта пра раман, які ён пісаў?

— Ведаю, што ён яго скончыў, — упэўнена сказала спадарыня Шуйкава. Інспектар з асістэнтам пераглянуліся. Дэрык з націскам спытаў:

— Фраў Шуйкава, ці вы пэўныя, што ён кнігу скончыў?

Яна зусім не вагалася:

— Ён сказаў мне, што раман гатовы і што пра гэтую кнігу будуць гаварыць больш, чым пра ўсе іншыя, якія

ён калі напісаў. Гэта было якраз тады, калі да яго вярнуўся добры настрой.

Гэтым разам спытаў Гары Кляйн:

— А вы не ведаеце выпадкова, дзе цяпер той рукапіс?

Спадарыня Шуйкава адказала, што, на жаль, яна ніколі не бачыла з яго ані старонкі і не ўяўляе, куды ён мог падзявацца.

Калі Дэрык і Кляйн засталіся адны, Гары шматзначна абвясціў:

— Гэта рукапіс!

— Так, гэта рукапіс, Гары, — кіўнуў Дэрык.

Сімона Саліцылава, дырэктарка выдавецтва «С.», дзе Павал Праўда выдаваў свае кнігі, была імпазантная маладая дама. Яна ўжо іх чакала.

— Так, — сказала яна, калі яны расказалі ёй, з якой нагоды да яе прыйшлі, — вакол таго рукапісу Праўда рабіў надзвычайную таямніцу. Ён не хацеў мне сказаць пра раман нічога, нават паказаць урывак. Ён раздражняўся ледзь не да істэрыкі і ўвесь час пасоўваў тэрмін. Апошнія тры гады ён нічога не друкаваў, і я ўжо баялася, што ён перастаў пісаць. Часам такое здараецца; пісьменніку проста перастае пісацца. Але я памылялася. За пару тыдняў да смерці ён мне нарэшце пазваніў і сказаў, што рукапіс гатовы, але дзяліцца падрабязнасцямі адмовіўся, сказаў толькі, што пра яго будуць пісаць на першых старонках. — Яна паківала галавой. — У гэтым ён меў рацыю, усе загалоўкі былі пра яго забойства.

Гары спытаў:

— А дзе цяпер рукапіс?

— Гэта і я хацела б ведаць. Вы можаце сабе ўявіць, якія б цяпер у яго былі продажы? Як бы там ні было, я так і не ўбачыла з яго ні радка. На жаль.

Інспектар Дэрык змяніў тэму:

— Ці былі ў гера Праўды праблемы з алкаголем?

Дырэктарка пасур’ёзнела:

— Мне чамусьці заўжды здавалася, што ён п’е, хоць я і не магу патлумачыць, адкуль у мяне бралася такое адчуванне, бо за цэлыя восем гадоў я ні разу не бачыла яго п’яным. Магчыма, я памылялася.

Інспектар спытаў:

— А ці не заўважылі вы перад ягонай смерцю нейкай змены ў паводзінах?

Яна задумалася і старанна выбірала словы:

— Ён здаваўся мне больш сур’ёзным, больш засяроджаным. Ведаеце, спадар Праўда быў страшэнна адчувальны да любых выказванняў у свой адрас. Магчыма, ён збіраў сілы на вялікі бой з крытыкамі. Бо ён жа напісаў твор свайго жыцця, прынамсі, так ён яго ўспрымаў.

Дэрык задумаўся і пасля доўгай паўзы сказаў:

— Вы нам вельмі дапамаглі, фраў Саліцылава.

— Фройляйн, — паправіла яна і ўсміхнулася, паглядзеўшы на асістэнта Кляйна.

Інспектар таксама ўсміхнуўся, і яны развіталіся.

— Куды цяпер? — спытаў асістэнт, калі яны апынуліся на двары.

Дэрык дазволіў сабе адну са сваіх выключных ухмылак:

— У Жлуктаў. Усё зразумела.

Гары запытальна ссунуў бровы.

Зноў абодва сядзелі ў няўтульным кабінеце, Гары зноў гатаваў каву, а інспектар Дэрык зноў гартаў паліцэйскія рапарты. Гары сказаў:

— Як на мяне, абедзвюм сведкам можна верыць. І разам з тым, кожная кажа ледзь не адваротнае. У адной ён быў радасны, у другой сур’ёзны. У адной засяроджана рыхтаваўся да бою, у другой, шчаслівы, чакаў будучыні. Нехта з іх памыляецца.

Інспектар Дэрык нарэшце прамовіў:

— Гары, ёсць і трэці варыянт.

— Які? — здзіўлена спытаў Кляйн.

— Што і адна, і другая кажуць праўду. Хадзем, гэтая кава таксама пачакае.

— Шаноўныя, — звярнуўся да дэтэктываў інспектар Дэрык, — ніхто з вас не сумняецца, што здарылася забойства. Яго ахвярай стаўся пісьменнік, які пасля трох гадоў працы абвясціў, што скончыў свой найлепшы раман. Аднак рукапіс згубіўся. Насамрэч яго ніхто і не бачыў. Малады Пэтэр Хвала бачыў толькі папку нібыта з рукапісам. Адначасова з завяршэннем кнігі адбылася і змена ў паводзінах пісьменніка: замест напружання прыйшла эйфарыя. Здавалася, быццам ён «збіраецца да сябе некага прывесці». То ён робіць уражанне жыццярадаснага чалавека, які перажывае другую маладосць, то паўстае як сур’ёзны творца, які збірае сілы на бой за свой найноўшы і найлепшы раман.

Усё сведчыць пра тое, што ягоная смерць сталася наступствам або таго, што ў яго быў гатовы рукапіс, або таго, што ён сабраўся пачаць новае пачуццёвае жыццё. Можа быць, нехта хацеў прыўлашчыць вынік яго трохгадовай працы? Або ў тым рамане было нешта такое, што для некага ўяўляла пагрозу? Або наадварот: можа быць, нехта забіў Праўду таму, што быў супраць, каб Праўда некага да сябе прыводзіў, а рукапіс скраў, каб адвесці ўвагу?

Я прапаную вам абсалютна іншую версію. Яе гісторыя мае толькі аднаго персанажа, самога Паўла Праўду. Тры гады вядомы пісьменнік піша свой новы раман. За гэты час ніхто не бачыў з рамана ані радка. Чаму? Таму што — і ў гэтым уся соль гісторыі — ніякага рамана ніколі не існавала. Тры гады ён спрабуе, але ў яго нічога не выходзіць. Яму, як кажа ягоная рэдактарка, ужо не пішацца. Ён пачынае піць. З’яўляюцца меркаванні, што

ён ужо выпісаўся. Але гер Праўда хваравіта ганарысты. Настолькі, што хавае не толькі сваю няздатнасць напісаць раман, але і схільнасць да выпіўкі. Прыгадайце, на публіцы яго п'яным ніколі не бачылі. Ён часта раздражнёны, ажно да істэрыі. Ён падумвае пра самагубства. Але не звычайнае, а такое, якое выкліча сенсацыю, якая назаве яго пакутнікам. Ягоным імем будуць стракацець першыя палосы газет! І ён прыдумвае забойства Паўла Праўды. Ад гэтага ён прыходзіць у стан эйфарыі. Пачынае хваліцца, што раман скончаны, што гэта твор яго жыцця, нават быццам паказвае яго Пэтэру Хвалу. Бо калі рукапіс не знойдзецца — значыць, яго, хутчэй за ўсё, нехта скраў, і тады ён будзе яшчэ большым пакутнікам. Ён рыхтуе сваю кватэру для будучага прыходу паліцыі і журналістаў. Хоча выглядаць ахайным цвярознікам. Ён ужо адпісаў кватэру літаратурнаму фонду, і дазволю сабе выказаць здагадку, што на падобную дабрачыннасць ён аддаў і ўсе свае знятыя з рахунку ашчаджэнні. Выключна добрыя ўчынкі. Аднак магчыма, што ён сапраўды хацеў аблегчыць сваё сумленне. Само «забойства» таксама выдуманае. Чаму ў Кінчары? Бо яму хочацца мець публіку. Ён пачакаў, пакуль там збярэцца як найбольш гледачоў, і тады ўсё зрабіў. Намаляваў «таямнічы знак», лёг на зямлю і ўсадзіў сабе ў сэрца нож. Той знак мусіў кожнага пераканаць, што гаворка ідзе пра забойства. Магчыма, аднак, што ён нешта і значыў. Напрыклад, літару С. С як Саліцылава. Праўда не любіў яе, бо яна бачыла яго наскрозь. Не выключаю, што ён хацеў уцягнуць яе ў сваё «забойства».

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на, — выгукнуў спадар Вінтэрмантэль, — але каго ж тады бачыў бяздомны?

— Ды дэпутата Нотбурга, які вяртаўся з палявання. Гэта была частка спектакля. Праўда пакінуў прачыненыя дзверы, бо хацеў, каб ягонае цела знайшоў сусед-дэпутат, тады ягонае забойства мела б яшчэ большы рэзананс.

Адно што якраз гэтая яго задума ў жыццё не ўвасобілася: дэпутату ўдалося непрыкметна прайсці міма. Але ў астатнім Праўда ўсіх абвёў вакол пальца. І нездарма ж ён скарыстаў нож з надпісам «Праўда пераможа».

*Той чалавек* падняўся. Але раней, чым спадар Вінтэрмантэль паспеў пасадзіць яго на месца, азваўся дэтэктыў Стыў Карэла, і *Той чалавек* зноў так і не паспеў раскрыць рота.

— Усё было інакш і значна больш празаічна.

## Правіла Маера
*Рашэнне паводле дэтэктыва Стыва Карэлы*

— Усё было інакш і значна больш празаічна, — сказаў дэтэктыў першай катэгорыі Стыў Карэла і пачаў аповед ад пачатку свайго расследавання.

Стыву Карэлу не хацелася нічога расследаваць. Але ж дэтэктыў першай катэгорыі Стыў Карэла з 87-га пастарунку справу ўзяў і таму адразу пачаў кіравацца правілам Маера. У калегі Карэлы дэтэктыва Маера была тэорыя, што чым менш справай будзеце займацца вы, тым хутчэй справа пачне займацца вамі.

На практыцы гэта выглядала так, што Карэла паставіў крэсла перад парогам дома пісьменніка Праўды і сеў на яго. Ён паглядзеў на гадзіннік: 11.11. Ухмыльнуўся:

— Што ж, пабачым, як хутка правіла Маера пачне дзейнічаць.

Дзейнічаць правіла Маера пачало ў 11.20 дзякуючы спадару Нотбургу асабіста. Гэта быў упэўнены ў сабе мужчына гадоў пяцідзесяці. Ён нёс дзве бутэлькі піва і адкаркоўнік.

Падышоўшы да Карэлы, ён спытаў:

— На службе?

Яны прадставіліся адзін аднаму. Нотбург падаў Карэлу бутэльку і сеў побач на траву. Карэлу мучыла смага і цікаўнасць, а піва было халоднае і добрае.

Нотбург спытаў:

— Што новага?

Карэла іранічна працытаваў бульварную прэсу:

— Забойцу злавіць ніяк не ўдаецца.

— Па вялікім рахунку, мне да гэтага справы няма, — сказаў Нотбург, не заўважаючы іроніі, — мяне трывожыць іншыя рэчы.

Ён глядзеў на дэтэктыва, быццам чакаў, што той спытае ў яго, якія.

— Якія? — спытаў Карэла.

— Што я ў той вечар не пераканаў яго пайсці з намі на паляванне, хоць ён і абяцаў. А яшчэ горш тое, што, каб не я, Праўда ніколі ў Кінчар не прыехаў бы.

— А навошта ён вам тут быў патрэбны?

— Мая жонка з цяжкасцю пераносіла самоту. Вось навошта.

— Дапамагло?

Нотбург рассмяяўся.

— Хоць ён і не мог прамінуць ніводнай спадніцы, але пры гэтым ён быў, па сутнасці, толькі няшкодным тэарэтыкам. Я ж не вар'ят, — ягоны смех быў досыць непрыемны.

— Ён пасябраваў з вашай жонкай?

— Так, і добра на яе ўплываў.

— У чым?

— Праўда з кожнай жанчынай размаўляў інакш, чым яны былі прызвычаеныя. Ён даваў ім адчуванне, што кожная фраза, якую яны прамовяць, вартая таго, каб яе запомніць. Так яны пачыналі зважаць на тое, што кажуць, — Нотбург трохі адпіў з бутэлькі і дадаў: — І як паводзяцца.

— А на вашую дачку спадар Праўда меў добры ўплыў?

Той зноў адпіў. Гэтым разам намнога больш.

— Яны вельмі зблізіліся. Дачка вярнулася з Лондана поўная ўражанняў, і ёй хацелася імі дзяліцца.

На двор Хвалаў выйшаў Пэтэр. На ім была светла-шэрая майка, якая сягала каленяў. Ён выглядаў як спатнелы тоўсты анёл. Пры поглядзе на двух мужчын ён збянтэжыўся. Нотбург яму кіўнуў, Пэтэр кіўнуў у адказ і не спускаў погляду з Карэлы. Гэта быў ацэначны погляд. Тады Хвала развярнуўся і ўвайшоў назад у дом. Карэла вырашыў, што той так прыцэньваўся да чарговага мужчынскага канкурэнта ў Кінчары. Ён спытаў у Нотбурга:

— Ці ёсць у вашай дачкі хлопец?

— Яна кажа, што ў Лондане нехта ёсць.

— А вы ўпэўнены, што дачыненні спадара Праўды і вашай дачкі былі наскрозь нявінныя?

Нотбург устаў і паўтарыў рэзка, ужо зусім без смеху:

— Я ж не вар'ят! Яшчэ піва будзеце?

Карэла сказаў, што не, і Нотбург сышоў. Тут жа за агароджай у Хвалаў зноў паказаўся Пэтэр. Ён пераапрануўся. Зрабіўшы пару крокаў, крыкнуў:

— Ці не хочаце зайсці на каву? Мама вас запрашае.

— З радасцю, — сказаў Стыў Карэла.

Стол быў накрыты, быццам яго чакалі ад раніцы. Спадарыня Хвалава глядзела на Карэлу тым засяроджана-ўважлівым позіркам, які ён цудоўна ведаў. Ягоная жонка Тэдзі жыла ў сваім глуханямым свеце ад нараджэння.

Карэла звярнуўся да спадарыні Хвалавай на мове жэстаў:

— Дзякую за запрашэнне. Я дэтэктыў Стыў...

Яна яго перапыніла.

— З апаратам я сяк-так чую. Частуйцеся, калі ласка.

Яны прыселі, і Карэла пачаставаўся.

Пэтэр патлумачыў:

— Праўда ёй раз прынёс...

— Спадар Праўда, — падкрэслена паправіла яго маці.

— Спадар Праўда раз прынёс ёй падручнік мовы жэстаў. Уважлівы да чорцікаў, — іроніі ў Пэтэра было за дваіх.

Спадарыня Хвалава на імгненне знерухомела. Дэтэктыў спытаў:

— Якім у апошнім часе быў спадар Праўда?

Адказаў Пэтэр:

— Больш самастойны. Я нават пачаў быў думаць, што ён ужо ў стане самастойна намазаць сабе масла на хлеб.

— Пэтэр! — спадарыня Хвалава хмурылася. — Проста яму падабалася, як я гатавала. Ён казаў, што я выдатна гатую.

— Ну мама, але ж у яго насамрэч у апошнім часе не было столькі капрызных жаданняў, як перад тым.

— Якіх, напрыклад? — спытаў Карэла.

Спадарыня Хвалава напружана варочала галавой ад аднаго да другога. Пэтэр пачаў пералічваць. Слухаючы яго, можна было падумаць, што маці ўсе гэтыя стравы літаральна выцягнула ў яго з рота:

— Брынзавыя варэнікі са шкваркамі, налеснікі з клубнічным джэмам, запечаная фаршаваная курыца...

Спадарыня Хвалава звярнулася да Карэлы:

— Частуйцеся, калі ласка.

Карэла адпіў кавы. Потым спытаў у Пэтэра:

— Калі вы бачылі рукапіс новай Праўдавай кнігі?

— Тыдні за два да забойства. Я нёс яму падвячорак, — ён паглядзеў на маці і дадаў: — Чарнічны калач. Ён сядзеў за сталом, перад ім ляжала разгорнутая папка з паперамі. Калі ён мяне заўважыў, то папку хутка згарнуў. Потым сказаў: «Вось і мой новы раман гатовы». Я спытаў, ці мог бы яго прачытаць, на што ён рэзка адказаў, што не, і дадаў, што раман пра святых. Нічога больш я з яго не вывудзіў.

Спадарыня Хвалава сказала:

— Спадар Праўда быў вельмі добры чалавек, яго ўсе любілі.

«Асабліва ваш сын», — сам сабе падумаў Карэла. Потым падзякаваў і развітаўся.

Ён паглядзеў на гадзіннік. 11.55. Не забыць потым сказаць Маеру час, бо дэтэктыў Карэла ўжо ведаў, хто забойца.

Дэтэктывы, седзячы ў местачковай управе ў Жлуктаве, слухалі аповед Карэлы:

— Гэта гісторыя пра жанчыну, гадамі адрэзаную ад свету самотай і глухатой. І тут, нібы цудам, з'яўляецца выратавальнік. Няважна, што ён толькі «няшкодны тэарэтык», важна тое, што ён даваў ёй неспазнаную датуль увагу і пачуццё самапавагі. Ён нават купіў ёй падручнік мовы жэстаў, быў з ёй ласкавы, хваліў яе кулінарнае майстэрства. Спадарыня Хвалава Праўду літаральна абагаўляла. Аднак для яго гэта была толькі двухбакова выгадная ўгода: я буду да цябе гжэчны і ўважлівы, а ты мне будзеш гатаваць. Ніхто нікому не будзе нічога вінны. Спадарыня Хвалава, натуральна, ведала, што Праўда зносіцца і з іншымі жанчынамі, але з вясковай мудрасцю разумела, што без іх ён зможа абысціся, а без яе запечаных фаршаваных курыц — не.

З вяртаннем Зузаны атмасфера змянілася. Праўда сентыментальна любіў моладзь і нават заснаваў фонд у падтрымку маладых аўтараў, яму было добра ў іх кампаніі. Калі толькі было магчыма, ён аддаваў перавагу таварыству Зузаны, а не спадарыні Хвалавай. Раптам ён нават навучыўся намазваць хлеб маслам, як сказаў Пэтэр, што азначае, што Хвалава яму была патрэбная ўжо менш. У яе пачаліся душэўныя пакуты. Што робіцца? Што змянілася? Ад сына яна даведалася, што Праўда скончыў раман, і ёй прыйшло да галавы, што, можа, у ім яна знойдзе

адказ. Спадарыня Хвалава не хацела нічога іншага — толькі прачытаць рукапіс. Адно што не ведала, як да яго дабрацца.

У тую суботу Нотбург з кампаніяй збіраўся пайсці на начное паляванне. Спадарыня Хвалава ведала пра гэта і меркавала, што Праўда пойдзе таксама. Яна не магла здагадвацца, што ён не пайшоў, у яго ж нават не гарэла святло. Яна пачакала, пакуль сын засне, і выслізнула да Праўды. Тады яе пабачыў бяздомны. Праўда прачнуўся ад нейкага шуму і прыспеў спадарыню Хвалаву, калі тая корпалася ў ягоных рэчах. Ёй не заставалася нічога іншага, як забіць яго. Яе боства злавіла яе пры злачынстве; цяпер яе боства ад яе канчаткова адвернецца, а можа, нават дапусціць, каб яна села ў турму. Гэтага яна не вынесла. Пасля забойства яна сышла разам з рукапісам.

Што да грошай, гэтага мы цвёрда не ведаем. Праўдападобна, ён сапраўды хацеў пазычыць іх Хвалам. Яму было з чаго мець згрызоты сумлення ў дачыненні да суседзяў. Відаць, грошы ён паклаў у папку з рукапісам — людзям уласціва складаць свае каштоўнасці ў адно месца. Я не думаю, што спадарыня Хвалава ўзяла іх свядома. Яна іх проста знайшла.

Зранку спадарыня Хвалава, як заўжды, ішла са сняданкам. Яна ўбачыла расчыненыя дзверы і перапалохалася. Яна не памятала, ці зачыніла іх уначы. Таму, пабачыўшы, што Праўда здолеў з апошніх сіл напісаць, яна не адважылася гэта сцерці, бо баялася, што да яе ў доме ўжо нехта паспеў пабываць. Відавочна, Праўда спрабаваў напісаць, што забойца — *спадарыня Хвалава.*

— Тое, што ён намаляваў на падлозе, — гэта не С, не Х і не стрэлка. Гэта агульнапрынятае абазначэнне глухіх: перакрэсленае вуха.

У памяшканні стаяла цішыня. Праз нейкі час *Той чалавек* адкашляўся, быццам маючы намер нешта сказаць.

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на! — паспяшаўся апярэдзіць яго спадар Вінтэрмантэль, бо *Той чалавек* падняўся і ўжо раскрываў рот. — Толькі я не магу зразумець, як у Праўды ў руках апынулася крэйда, калі вы кажаце, што ён толькі прачнуўся.

— Спадарыня Хвалава шукала рукапіс у цемры. Глухі чалавек не чуе ніякіх гукаў. Магчыма, яна зачапіла крэйду, і яна ўпала на падлогу. А Праўда ў апошнія імгненні жыцця сабраў апошнія сілы і дацягнуўся да яе. Ён любой цаной хацеў пакінуць паведамленне. Урэшце, ён быў пісьменнік...

— Містэр, — азваўся Нэра Вулф, — вам робіць гонар, што вы адным з першых здагадаліся, што знак — гэта не літара. Вось толькі...

## Прыгорблены дуб

*Рашэнне прыватнага дэтэктыва Нэра Вулфа, расказанае яго асістэнтам Арчы Гудвінам*

— Містэр, — азваўся Нэра Вулф, — вам робіць гонар, што вы адным з першых здагадаліся, што знак — гэта не літара. Вось толькі... — ён памаўчаў. — Арчы, — ён паглядзеў на свайго асістэнта, — апішыце сітуацыю, калі ласка.

Вулф стаяў у кабінеце местачковай управы з выглядам пакутніка.

— Арчы, забярыце мяне адсюль! Я паводзіўся як чысты дурань, калі пагадзіўся сюды прыехаць. Ведаеце, што яны далі мне на сняданак? Кансерву з назвай «Пячонкавы паштэт»!

Я спытаў:

— А чаму б вам не прысесці?

Нэра Вулф паказаў на зэдлік:

— Прысесці вось на *гэта*?! Я зараз жа хачу вярнуцца дадому!

— Вядома, містэр. Скажыце толькі адно імя: хто забіў Праўду?

Вулф узняў рукі.

— Натуральна ж, я ведаю, хто забіў, і гэта ведалі б і вы, калі б не чыталі адны коміксы. Я ведаю, хто забойца, але не ведаю, чаму ён забіў. Высветліце гэта! Прынясіце мне ўсё, што напісаў Праўда. Але спачатку забярыце мяне адсюль прэч!

Гатэль «Маладзік» выглядаў пашарпана, але гэта быў адзіны гатэль, які я знайшоў. У ім і працаваў спадар Хвала. Магчыма, ён дасць нам зніжку. Я паставіў машыну ў гатэльны гараж, але яшчэ перад тым раздабыў усё, што Праўда напісаў. Я папрасіў аднесці ў пакой Вулфа самы вялікі фатэль, які быў у гатэлі, каб яму было на чым уладкаваць свае амаль дзевяць пудоў вагі. Урэшце я зноў з'явіўся перад спадаром Хвалам і пачаў з анкетнага пытання: *«Калі б вам давялося ахарактарызаваць спадара Праўду толькі адным словам, як бы вы яго назвалі?»*

Хвала-старэйшы паглядзеў у кут гаража.

— Недалужны.

— Я хутчэй меў на ўвазе духоўныя якасці.

— Дык і я таксама, — сказаў ён і зноў утаропіўся ў кут.

Натуральна, зніжкі ён нам не даў.

Вулф сказаў, што пытанне трэба задаць усім. Таму я ўключыў у спіс і бяздомнага. Той сядзеў на пні і пляваў у згаслы агмень. Каля яго стаяла амаль пустая бутэлька з-пад віна. Нават не паглядзеўшы на мяне, ён прабурчэў:

— Чаго табе трэба?

— Што вы думаеце пра спадара Праўду?

— Дай дваццатку, братан. На хлеб, разумееш. — Але ён не ўтрымаўся і слізнуў поглядам на бутэльку.

Я даў яму пару манет. Ён сунуў іх у кішэню і нават не падзякаваў. Я паўтарыў:

— Дык што вы думаеце пра спадара Праўду?

— Пайшоў ты...

Тое, куды ён мяне паслаў, не было геаграфічнай назвай.

Хвала-юніёр вёў ровар. Я абагнаў яго на машыне па дарозе ў Кінчар. Хто ведае, чаму ён на ровар не сеў. Магчыма, для яго гэта было б нейкае рызыкоўнае спартовае дасягненне. Я прадставіўся і задаў яму пытанне. Ён сказаў:

— Гэта будзе характарыстыка не адным словам, а двума, згода?

Я велікадушна дазволіў.

— Распусная свіння, — сказаў ён. Выглядаў ён пры гэтым як артыст кабарэ, які расказаў анекдот.

Танны артыст кабарэ, які расказаў танны анекдот.

Спадарыня Хвалава прыладзіла апарат і сказала, што яна спяшаецца, бо пячэ бруснічны калач. Я задаў пытанне і ёй:

— Спадар Праўда быў вельмі добры чалавек. Яго ўсе любілі. Навошта вам гэта?

— Ды каб ведаць, якім ён быў.

— Спадар Праўда быў вельмі добры чалавек. Яго ўсе любілі.

Я сышоў, не чакаючы, калі яна паўторыць гэта трэці раз.

Я націснуў на нос клоўна, то бок на званок дома Нотбургаў, і тут жа азваўся дурнаваты мужчынскі смех. Мне спатрэбілася некалькі секундаў, перш чым я зразумеў,

што гэта званок. Адчыніла прыбірачка; мокрыя рукі яна выцірала аб працоўны халат. Мне карцела спытаць наконт характарыстыкі Праўды і яе, але замест гэтага я прадставіўся і паведаміў, што хацеў бы пагаварыць са спадарыняй Нотбургавай.

— Я Нотбургава.

У яе голасе была чуваць дзіцячая радасць, што яна мяне аблапошыла. Яна запрасіла мяне ў залу, і мы селі сярод сродкаў для мыцця і чысткі ўсіх магчымых марак. Яна сказала так, быццам яе саму гэта здзівіла:

— Не выношу бруду.

Я пахваліў яе гігіенічныя прынцыпы і задаў анкетнае пытанне. Яна зымітавала высокі пісклявы тон спадарыні Хвалавай.

— Спадар Праўда быў вельмі добры чалавек.

Я нацягнуў на твар усмешку і спытаў:

— А хіба не быў?

— Вядома ж быў.

Такая інтанацыя была б у мышы, калі б у яе спыталі, ці быў кот добрым суседам. Аднак я вярнуўся да таго, дзеля чаго прыйшоў:

— Такім чынам, ягоная характарыстыка?

Яна паклала палец на вусны. Быццам хацела перашкодзіць адкрыццю страшнай таямніцы. Але не ўтрымала яе:

— Крывадушнік.

Яна ўстала, чым паказала, што аўдыенцыя скончаная. Я спытаў пра мужа і дачку. Сказала, што муж неўзабаве мае вярнуцца, а дачка сядзіць у сваім пакоі наверсе і я магу да яе зайсці.

На лесвіцы я павярнуў галаву. Цяпер на яе вуснах была цэлая далонь.

Кут Зузанінага пакоя ўтвараў акруглую нішу, і я зразумеў, што гэта адна з вежачак на фасаднай частцы. Па-

кой быў завалены плюшавымі цацкамі, а сама Зузана рабіла ўражанне, быццам яе забылі ў дзяцінстве. Я задаў абавязковае пытанне, і яна заглядзелася некуды ўдалеч:

— Ён быў вельмі мілы, уважлівы, але...

Я нічога не казаў. Праз імгненне яна дадала:

— Ён баяўся.

— Каго або чаго?

— Не ведаю, але баяўся, і чым далей, тым болей і болей.

— У яго былі праблемы? Працоўныя? Фінансавыя?

— Фінансавых дакладна не было, ён сам прапанаваў пазычыць мне грошы на Лондан. Я хацела вярнуцца, але бацька не пагаджаўся.

— Ён даў вам грошы?

Яна пакруціла галавой.

— Не. Але я і так не змагла б з'ехаць.

Не ведаю, ці баялася і яна, але вясёлай яна не выглядала. Я развітаўся і выйшаў на двор. Гаспадара замка я вырашыў пачакаць перад каванай брамай.

Калі б я быў курцом, я сказаў бы, што ён з'явіўся прыблізна пасля трох цыгарэт. Яму я таксама задаў пытанне з цыркуляра. Дэпутат Нотбург адказаў імгненна, але без якой-колечы цікавасці.

— Ён быў джэнтльмен.

Затым фармальна падаў мне руку і пайшоў у дом.

Для пэўнасці я спытаў і ў каванага клоўна, што ён думае пра Праўду. Таму як той маўчаў, як і належыць адданаму слугу, я паляпаў яго па жалезным твары і памылкова націснуў на нос зноў. Я паспяшаўся знікнуць раней, чым дагучаў смех, каб мяне, быццам хлопчыка, які забаўляецца, звонячы ў брамы, не падлавілі.

Але Вулфу пра гэта я не сказаў. Ён і без таго быў парадкам раззлаваны.

Калі я ўвайшоў у гатэльны нумар, ён нават не адарваў погляду ад разгорнутых кніг, толькі спытаў:

— Вы елі?

Я сказаў, што адкаркаваў выдатны пячоначны паштэт.

Ён толькі фыркнуў.

Я коратка пераказаў яму, што прынёс нам дзень. Спытаў, чым займаўся ён.

Ён працытаваў:

Прыгорблены дуб
на тонкую гляне ляшчыну,
яшчэ затрымціць.

— Прабачце?

— Гэта ягоны верш. Вельмі цікавы. А яшчэ цікавейшае — прысвячэнне: *Дзяўчыне з сярпом*.

— Гэта некалі быў іх камуністычны сімвал, так?

Ён паглядзеў на мяне з такой агідай, быццам я прымушаў яго есці катлету ў вакзальным буфеце, але потым толькі ўздыхнуў і расказаў мне пра кнігі, якія ўжо прачытаў. Я запомніў іх назвы: «Васьміног-нелегал», «Неверагодныя жыццяпісы святых» або «Няпраўда». Апошняя мне спадабалася найбольш. Але таму як Вулфа відавочна не цікавіла, якая з іх мне падабаецца і чаму, я ветліва спытаў, ці ведае ён ужо, чаму забойца забіваў. Ён не адказаў. Я спытаў, што мне рабіць далей. Ён сказаў, каб я пайшоў паесці. Я настойваў на тым, што мы павінныя нешта зрабіць. Ён сказаў, што падумае. Заплюшчыў вочы. Расплюшчыў вочы. Сказаў:

— Мне трэба ведаць толькі адно: рэцэпт бруснічнага калача спадарыні Хвалавай.

У Вулфа ніколі не ведаеш, калі ён кажа сур'ёзна. Я пайшоў.

— Шаноўнае спадарства, — прамовіў Нэра Вулф да дэтэктываў, якія сядзелі ў месттачковай управе ў Жлуктаве, — я перакананы, што называнне нейкай *з'явы* насамрэч ёсць называннем *нашага стаўлення* да яе. Як

інакш патлумачыць, што нехта адначасова можа быць распусным, шляхетным, крывадушным, добрым, недалужным і палахлівым? Калі мы зайздросцім чыімсьці поспехам у каханні, то ён «распусная свіння», калі кімсьці захапляемся, то «добры чалавек», калі некім пагарджаем, то «недалужны». Калі ён пазбягае канфліктаў, то ён джэнтльмен. А калі ён выклікаў у нас пэўныя чаканні і не апраўдаў іх, то ён крывадушнік. Але як сюды дапасаваць фразу, што «ён усё больш і больш баяўся»? Зузана Нотбургава, нават таго не ўсведамляючы, падала такое ж суб'ектыўнае апісанне, як і кожны іншы. Тое, што ў спадару Праўду яна найбольш адчувала, быў ягоны страх. Заўважце, што, акрамя яе, перапалоханым яго не лічыў ніхто. Бо спадар Праўда, — Вулф зрабіў драматычную паўзу, — баяўся *толькі ў яе прысутнасці.* Каго ён баяўся? Сябе. Працытуем верш, які ён напісаў некалькі гадоў таму:

Прыгорблены дуб
на тонкую гляне ляшчыну,
яшчэ затрымціць.

Гэта неадцэнзураваны перапіс ягонага стаўлення да жанчын, дакладней, да дзяўчат. Калі яго правільна патлумачыць, а я лічу, што ў ім няма загадак, мы ўсё зразумеем. Так, спадара Праўду прыцягвалі маладзенькія дзяўчаты, і мы ведаем, што Зузана робіць ураджанне дзіцяці. Ягоныя дачыненні з дарослымі жанчынамі былі платанічныя. Дачыненні з маладзейшымі ён маскаваў як толькі мог. Напрыклад, ён заснаваў фонд для маладых літаратараў. Аднак Зузана выклікала ў ім такую жарсць, якой ён сам жахаўся. Як ён прызнаваў, ён хацеў аблегчыць сваё сумленне. Ён вырашыў заплаціць за яе пражыванне ў Лондане. Ён усведамляў, што «прыгорблены дуб яшчэ трымціць».

Вось толькі нехта не дазволіў сябе падмануць; гэта асоба, якая доўга дэманстравала сваю прыхільнасць, і ўсё безвынікова. Я кажу пра спадарыню Нотбургаву. Яна не магла не заўважыць, як спадар Праўда глядзіць на яе дачку. У выніку яе каханне і захапленне ператварыліся ў пагарду і нянавісць. «Я не люблю бруду», — гэта яе ўласныя словы. Так, вядомага пісьменніка яна лічыла брудам.

Гэта было не забойства, гэта было смяротнае пакаранне. У тую ноч яна пайшла да Праўды — яе бачыў бяздомны — і зарэзала яго. Надпіс на тронках кажа ясна: праўда пераможа! Але яна не заўважыла, што спадар Праўда паспеў пакінуць апошняе паведамленне: імя забойцы. Яна шукала рукапіс і знайшла яго разам з грашыма. Забрала і адно, і другое. Грошы — каб стварыць уражанне разбойнага нападу, а рукапіс — каб яго знішчыць. Яна даведалася, што гэта меўся быць найлепшы Праўдаў твор, і не вынесла, каб «крывадушнік» здабыў славу яшчэ і пасля смерці.

Вулф звярнуўся да спадара Вінтэрмантэля:

— Вы, вядома, хочаце ведаць, што азначае той знак. Гэта ані С, ані Х, ані стрэлка і нават не перакрэсленае вуха. Гэта серп. Спадар Праўда — аўтар жыццяпісаў святых. Сярод іх, іранічным збегам акалічнасцяў, ёсць і патронка хатняй працы. Яе знак — *серп* і вядомая яна як *святая Нотбурга*. Не забывайце, што *дзяўчыне з сярпом*, то бок *Зузане Нотбургавай*, ён прысвяціў свой сумны верш.

Спадарства, у мяне ўсё.

Спадар Вінтэрмантэль натхнёна выгукнуў:

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на, але… навошта вам, дзеля бога, быў рэцэпт брусьнічнага калача?

Вулф адказаў проста:

— Бо я люблю брусьнічны калач.

*Той чалавек* устаў. На шчасце, у гэтае ж імгненне азваўся і містэр Дэмпсі.

— Словы, словы, словы. Я вам адразу скажу, хто забойца. Гэта...

## Розніца паміж шапкай і галавой

*Рашэнне паводле сяржанта Гарыет Мэйкпіс і лейтэнанта Джэймса Дэмпсі*

— Словы, словы, словы, — адрэагаваў на прамову Нэра Вулфа лейтэнант Дэмпсі. — Я вам адразу скажу, хто забойца. Гэта аўстрыйскі грамадзянін па імені Хуга Чэрвень.

Настала цішыня. Калі галоўны персанаж ужо ў першым сказе выдае імя забойцы, то не выпадае дзівіцца з таго, што творыцца ў цяперашніх дэтэктыўных гісторыях, з жахам падумаў спадар Вінтэрмантэль. Міс Гарыет Мэйкпіс прамовіла:

— Усё пачалося з машыны, якую мы толькі дарэмна сюды...

Яны стаялі перад мястэчковай управай. Мэйкпіс паказала на іх машыну і з’едліва нагадала:

— Калі ўжо мы дарэмна прыцягнулі сюды гэтую калымагу...

— Гэты *аўтамабіль* тут не дарэмна, Мэйкпіс, — адрэзаў Дэмпсі.

— Калі ўжо мы *дарэмна* прыцягнулі сюды гэтую калымагу ажно з Лондана, то патлумачце мне, навошта?

— Тут дэтэктываў — як у паліцэйскай акадэміі. Сведкі свае паказанні ўжо на памяць вывучылі. Таму будзем выдаваць сябе за маёмасных турыстаў.

— Турысты ў Кінчары! Фальшывую бараду вы сабе таксама начэпіце? Гэтую справу дапаможа вырашыць толькі псіхалогія.

— Гэтую справу дапаможа вырашыць толькі аўтамабіль.

Мэйкпіс зрабіла галантны жэст:

— Як сабе хочаце. Я звярнуся да псіхалогіі. Шчасліва заставацца.

Яна пакінула яго там. Разам з аўтамабілем.

Дэмпсі ведаў, што адзіным месцам, куды мела сэнс ехаць на машыне, быў гараж гатэля «Маладзік», дзе працаваў Хвала. Туды ён і скіраваўся.

Хвала выглядаў моцна здзіўленым, што да яго з'явіўся кліент. Ён завучана паўтарыў:

— Вітаю вас у гатэлі «Маладзік».

— О, значыць, тут дакладна не будзе лунатыкаў.

— Што, прабачце?

— Ну, бо лунатыкі пры маладзіку спяць спакойна.

Выглядала, што Хвала напружана спрабуе асэнсаваць пачутае.

— Вітаю вас у гатэлі «Маладзік», — паўтарыў ён.

Пабачыўшы бессэнсоўнасць спробы завязаць жартаўлівую размову, Дэмпсі проста спытаў, дзе можна запаркавацца.

— Дзе хочаце, — сказаў Хвала і паказаў на пусты гараж. Вартаўнік па-ранейшаму выглядаў здзіўленым.

Пэтэр Хвала, які стаяў перад брамай іх дома, у адной руцэ трымаў ключы, быццам яму патрэбная была дадатковая гарантыя, што ён у кожны момант можа сысці. Ягоны погляд пераходзіў з твару Мэйкпіс на яе дэкальтэ і назад; Хвала гэтага зусім не маскаваў. Гарыет прадставілася журналісткай. Сказала, што пачула пра яго як пра знаўцу псіхалогіі, літаратуры і тых мясцінаў, дзе адбылося злачынства. Яна спытала:

— Пэтэр, ці не напісалі б вы для нас артыкул пра спадара Праўду?

Пэтэр Хвала моўчкі ківаў. Потым ён да яе нахіліўся і з бляскам у вачох спытаў:

— А што мне за гэта будзе?

Мэйкпіс выдала з сябе найбольшую лічбу, якая ёй здавалася яшчэ рэальнай.

Ён усміхнуўся і пакруціў галавой:

— Я меў на ўвазе не фунты, ягадка.

Мэйкпіс ён нагадваў другараднага актора-аматара, якому загадалі граць зводніка. Яна якраз разважала, як зрэагаваць, калі ўбачыла, як пад'язджае аўтамабіль. Яна б ніколі гэтага не прызнала, але яна была ўдзячная, што можа без тлумачэнняў пакінуць гэтага маладзёна. Так яна і зрабіла. Нават не развітаўшыся з Пэтэрам Хвалам, яна падсела да Дэмпсі ў машыну, і заставалася зусім няшмат, каб яна яму ўсміхнулася.

Дэмпсі сказаў:

— Паглядзіце на мяне, Мэйкпіс. Як я выглядаю?

Яна ўхмыльнулася:

— Як *шараговы* гангстэр.

Ён ударыў кулаком па стырне.

— У гэтым і ўся справа.

— У чым?

— Што я выглядаю як гангстэр. Вы нешта даведаліся?

— Малады Хвала хацеў бы больш мяне, чым тысячу фунтаў.

Цяпер ухмыльнуўся Дэмпсі:

— Ён мяне здзівіў.

Гарыет хвіліну памаўчала, потым ціха спытала:

— Як вы думаеце, колькі мусіць працаваць ягоны бацька, каб зарабіць тысячу фунтаў?

Дэмпсі таксама пасур'ёзнеў і сказаў:

— Зараз мы зробім вось што: вы паедзеце да...

Гарыет Мэйкпіс заехала на машыне ў гараж гатэля «Маладзік». Яна апусціла акенца, і Хвала-старэйшы падышоў да яе. Мэйкпіс выпаліла:

— Хвіліну таму адбылася памылка. Гэта я мусіла прывезці машыну.

— І што? — спытаў Хвала падазрона.

— Ці не хочаце вы мне нешта даць?

Мэйкпіс паказала на мабільны тэлефон, які ў таго вісеў за поясам, быццам зброя, і па-змоўніцку старанна прамовіла па складах:

— Па-зва-ні-це сабе.

Яна падміргнула яму і дала задні ход, каб выехаць з гаража.

Хвала на яе вылупіўся. За той час Дэмпсі незаўважна пранік у гараж і схаваўся там.

Мэйкпіс зайшла на рэцэпцыю «Маладзіка» і прадставілася рэдактаркай прыватнага тэлеканала, якая хацела б даведацца, якія знакамітасці за апошнія гады ў іх спыняліся. Даведаўшыся некалькі імёнаў, яна папрасіла гасцявую кнігу, каб спраўдзіць звесткі, і ў адказ без праблем атрымала выпіску з кампутара. Яна пайшла храналагічным шляхам: адшукала дзень забойства і паступова пайшла назад. Выпісала сабе імёны і дні знаходжання. Звесткі папаўняліся. Дык значыць, гэта не выпадковасць. Выдатна!

Дэмпсі ўжо чакаў яе ў аўтамабілі. Ён кіўнуў:

— Як мы і меркавалі, ён пазваніў адразу ж, як толькі вы выехалі з гаража. З ягоных словаў я толькі разабраў, што з яго ўжо досыць. Што ў вас?

Мэйкпіс дастала паперу.

— У дзень забойства і амаль без выключэння штомесяц у гэтым гатэлі спыняўся гер Хуга Чэрвень з Аўстрыі. Але галоўная знаходка — што за тыдзень да забойства ў ім на адну ноч пасяліўся і сам Праўда.

Дэмпсі прысвіснуў.

— Усё дапасоўваецца, як гэтыя іх матрошкі.

Мэйкпіс паправіла:

— Матрошкі робяць у Расіі, а не тут.

— Якая розніца, — адказаў Дэмпсі. — Звяжыцеся з Інтэрполам. Магчыма, яны змогуць нам нешта раска-

заць пра жыццё гера Чэрвеня. А я пайду зірну на таго франта, які дзеля вас адмовіўся б ад старых добрых фунтаў стэрлінгаў.

— Некаторыя ўмеюць ацаніць якасць.

— Або колькасць, — і ён раздражнёна паказаў на яе дэкальтэ.

Дэмпсі знайшоў Пэтэра Хвалу ў момант, калі той размаўляў з Зузанай Нотбургавай. Яны сядзелі на лаўцы перад домам Хвалаў.

Ён прысеў побач.

— Я лейтэнант Дэмпсі, і ў мяне толькі адно пытанне.

Зузана ўсміхнулася. У Пэтэра быў знуджаны выгляд.

— Калі вы першы раз заўважылі, што Праўда баіцца?

Пэтэр абурыўся:

— Ён не баяўся!

Зузана яго паправіла:

— Незадоўга да забойства. Ён сказаў, што нехта думае, быццам рызыкуе шапкай, а пры гэтым рызыкуе галавой. Мне ён падаўся перапалоханым.

— Мне ён такога ніколі не казаў, — пакрыўджана адрэзаў Пэтэр.

Дэмпсі паспеў заўважыць, што ў Зузаны не толькі прыгожыя шэрыя вочы, але і прыгожая пастава. Зусім не шэрая.

— Шаноўнае спадарства, — звярнулася Мэйкпіс да дэтэктываў, якія сядзелі ў мястэчковай управе ў Жлуктаве, — ад Інтэрполу мы даведаліся, што гер Чэрвень — комівояжор. А таксама, што ён ужо быў асуджаны за захоўванне наркотыкаў. Цяпер самы час рэканструяваць усю гісторыю.

— Шляхі перавозкі і збыту наркотыкаў, — падхапіў Дэмпсі, — мусяць быць натуральныя. Скажам, праз наведнікаў, якія паркуюцца ў гатэльным гаражы. Задача

спадара Хвалы была простая. Ён атрымліваў пакунак і на дамоўлены знак — адпаведны адказ на зварот «Вітаю вас у гатэлі «Маладзік» — перадаваў яго далей. З ім за гэта рэгулярна разлічваліся. Калі б яго раптам падлавілі, ён мог бы бараніцца тым, што не здагадваўся пра змест таго пакунку, маўляў, «нехта» з гасцей папрасіў яго «нешта» «некаму» перадаць. З чаго б яму было адмаўляць? Гер Чэрвень кіраваў акцыяй і забіраў пакункі. Усё ішло як на мазаных колах. Датуль, пакуль Праўда не пачаў нешта падазраваць. Ён ужо год жыў у Кінчары і назіраў за Хваламі. Ён не верыў, што з нізкага заробку можна не проста пракармiцца, але і аплачваць навучанне сыну, і нават дапусціць, каб той прывык жыць на шырокую нагу. Напрыклад, адмовіўшыся ад тысячы фунтаў стэрлінгаў, каб толькі пагуляць у фраера. У Праўды было падазрэнне, што нешта нячыстае адбываецца менавіта ў гатэлі, таму ён вырашыў гэта спраўдзіць і зняў там сабе нумар. Граючы ролю дэтэктыва, ён быў залішне цікаўны.

Слова перахапіла Мэйкпіс:

— Фразу пра аблягчэнне сумлення ён сказаў, бо інвеставаў у гульню ўласныя грошы, каб быць упэўненым, перш чым са справай разабрацца. Праўдападобна, яшчэ перад тым ён сказаў Хвалу, што і ён хоча «ўключыцца ў гульню» і гатовы заплаціць «уступны ўнёсак». Мяркую, што так ён хацеў знайсці доказы і з імі пайсці да Нотбурга як да дэпутата. Хвала ўсё перадаў Чэрвеню, той тут жа прыехаў і праз Хвалу паведаміў Праўду, што ўначы прыйдзе ў Кінчар і каб ён чакаў яго ўпоцемках. Таму Праўда адмовіўся ісці на начное паляванне. Бяздомны ўначы бачыў гера Чэрвеня.

Дэмпсі працягваў:

— Вы ўсе ведаеце, як добра крымінальнікі ўсё прыкмячаюць. Як яны адразу распазнаюць паліцыянта. А таксама, на жаль, і перапалоханага аматара, які гуляе

ў дэтэктыва. Калі Чэрвень убачыў, што спадар Праўда дзейнічае з уласнай ініцыятывы, ён не стаў рызыкаваць раскрыццём усёй сеткі. Ён яго забіў.

Хвала пра забойства не ведаў. Таму зранку ён так перапалохаўся, калі знайшоў цела. Ён не быў непасрэдным забойцам, але нёс за злачынства адказнасць. Ён убачыў рукапіс. Праўда трымаў яго ў вялікім сакрэце, і Хвала падумаў, што там магла б быць згадка пра наркотыкі. Ён паслаў жонку па мабільны тэлефон, а сам тым часам схаваў рукапіс.

Мэйкпіс працягвала:

— Пасля Праўдавай смерці аперацыі з наркотыкамі вядома, прыпыніліся. Таму Хвала і быў так збянтэжаны, калі ў гараж заехаў лейтэнант Дэмпсі, які *сапраўды* выглядае як гангстэр. Хвала для пэўнасці паўтарыў пароль. Дэмпсі не рэагаваў, і Хвала выкінуў гэта з галавы. Аднак потым прыехала я, і Хвала страціў разважлівасць. Ён адразу пазваніў Чэрвеню, які яго запэўніў, што мясцовая наркатраса прыпыненая і нашыя візіты могуць быць толькі выпадковасцю.

Дэмпсі скончыў:

— Праўда, сабраўшы апошнія сілы, здолеў пакінуць паведамленне. Ён хацеў расказаць, хто забойца, а таму як не ведаў, як таго завуць, то прынамсі напісаў, дзе яго шукаць. Той знак — гэта не С, не Х, не стрэлка, не вуха і нават не серп, гэта намаляваны *маладзік*.

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на, — выгукнуў спадар Вінтэрмантэль, — але як забойца мог спадзявацца, што ў цемры знойдзе нож?

— Ён пра яго не ведаў. Наіўны Праўда падрыхтаваў яго для магчымай самаабароны. Ён ужо адчуваў, што рызыкуе галавой, а не шапкай... Для Чэрвеня гэта быў дар з нябёсаў. Яму не давялося скарыстацца сваёй зброяй. Ён не рызыкаваў. Бо ён прафесіянал.

Цішыню, акурат у момант, калі *Той чалавек* зноў збіраўся раскрыць рот, трывожным голасам перапыніла міс Марпл:

— Але ж гэта жахліва, што ў маладой спадарыні Зузаны шэрыя вочы, вам не здаецца?

## Тры злачынствы ў адным
*Рашэнне паводле міс Джэйн Марпл*

— Але ж гэта жахліва, што ў маладой спадарыні Зузаны шэрыя вочы, вам не здаецца? — трывожным голасам прамовіла міс Марпл. — Мне гэта нагадвае маленькую Флору Эшлі, якую сёстры не хацелі ўзяць у кіно, і таму яна ім у школьныя партфелі закінула сырыя яйкі.

Запанавала цішыня. (*Небарака, вось і дажылася да старэчага маразму*, са шкадаваннем падумаў спадар Вінтэрмантэль.)

Міс Марпл устала.

— Я зараз вярнуся. Калі б жаба ці чарніла... ну вы разумееце...

Спадар Вінтэрмантэль не разумеў і падазраваў, што не разумее ніхто з прысутных.

Пры поглядзе на сад Хвалаў, засаджаны без якой-колечы фантазіі, міс Марпл сумна паківала галавой і націснула на кнопку званка. У яе думкі пракралася дзіцячая песенька, і яна ніяк не магла ад яе пазбавіцца.

Калі спадарыня Хвалава адчыніла, міс Марпл, павітаўшыся, сказала, што яна з ініцыятывы на дапамогу маламаёмасным студэнтам, і спытала, ці не жадала б спадарыня Хвалава паўдзельнічаць, ахвяраваўшы рэцэпт — гаспадыня дома выдыхнула з прыкметнай палёгкай — свайго славутага бруснічнага калача?

— Мы таксама маламаёмасныя, — раздражнёна сказала спадарыня Хвалава, — і пры гэтым наш Пятрок вучыцца ва ўніверсітэце. Некаторыя і мелі б на гэта грошы, але... — не скончыўшы фразы, яна ўважліва паглядзела на госцю. Перад ёй стаяла ўвасабленне віктарыянскай цноты. Спадарыня Хвалава не магла далей стрымлівацца:

— Паглядзіце, я вырасла ў гэтым доме ў Кінчары. У нас была сядзіба і двое коней. І ведаеце, хто ў нас быў пахолкам? Стары Нотбург! А гэтыя вось тут, — яна з агідай паказала ў бок двухпавярховага дома з вежачкай, — робяць выгляд, быццам яны паны. Гэта пры тым, што ягоны бацька чысціў коней у *нас*! У нас!

У дзвярах з'явіўся Пэтэр. У яго быў прысаромлены выгляд. Ён адвёў маці ў дом, а калі вярнуўся, міс Марпл пачала яму, быццам апраўдваючыся, тлумачыць:

— Гэта не звычайны збор ахвяраванняў. Мы збіраем, а потым прадаем ідэі, як, скажам, рэцэпт вашай маці. Ці не паўдзельнічалі б і вы з нечым?

— Я ж не кухар! — пакрыўджана адказаў Пэтэр.

— Не, я не гэта мела на ўвазе. Вашая спецыяльнасць — літаратура. Можа, вы маглі б ахвяраваць...

— Я не пісьменнік, — перапыніў яе, ужо больш прыязна, Пэтэр.

— ...кароткія ўспаміны пра спадара Праўду?

На гэта Пэтэр адказаў, што падумае. Міс Марпл залетуценіла:

— А калі б удалося адшукаць страчаны рукапіс ягонага рамана, гэта прынесла б прыстойную суму...

Пэтэр паблажліва ўсміхнуўся:

— Кожны пісьменнік страхуецца, робячы копіі. Асабліва калі гэты твор — найлепшы. Не знойдзецца рукапіс — знойдуцца копіі. Пытанне толькі — калі?

Спадарыня Хвалава вярнулася з рэцэптам, і міс Марпл развіталася.

— Я мусіла здагадацца, — казала яна сабе.

Зузана ў дабрачыннай акцыі паабяцала дапамагчы. Міс Марпл спытала, ці не магла б яна ахвяраваць нейкую кнігу ад спадара Праўды.

— Прабачце, — сказала Зузана, — але яны ўсе мне дарагія. Кожную сваю кнігу ён мне падпісаў асабіста. Увогуле, я ніколі дагэтуль не чула, каб нехта гаварыў пра кнігі так, як ён. Мне яго вельмі не стае.

— Ахвотна веру, мая дарагая, — адказала міс Марпл, — вам тут, пэўна, вельмі сумна. Кінчар не робіць уражання месца, прыдатнага для юнай дамы.

— Кінчар не прыдатны ні для кога! Я б хацела вярнуцца ў Лондан, у мяне там… сябры, — прамовіла яна роспачна. — Але ж бацька мне на гэта не дасць грошай, ён хоча, каб я засталася дома. Спадар Праўда мне іх пазычыў бы, але гэта было б *няправільна*. А вам ніколі не хацелася стаць пісьменніцай?

Міс Марпл шчыра прызналася, што ніколі, і спытала:

— А вам, значыць, так?

Зузана рассмяялася.

— Толькі апошнім часам. Але спадар Праўда мне прызнаўся, што гэта жахліва. — У Зузаны на вочы нагарнуліся слёзы:

— Мне яго вельмі не стае.

— Дык вось яно што, — падумала міс Марпл і пяшчотна пагладзіла яе па валасах.

— Даражэнькія мае, — звярнулася міс Марпл да дэтэктываў, — вы ўсе ведаеце прыклады вырабаў, называных «тры ў адным». Купіш сабе крэм для загару, а ён яшчэ й служыць як парфума ды адганяе камароў.

У мяне з першай хвіліны было адчуванне, што ў Кінчары адбыліся гэткія «тры злачынствы ў адным». Праўда мусіў памерці як чалавек, мусіла памерці памяць пра

яго, і злачынца ў дадатак хацеў з гэтага пазабаўляцца. Апошняе — хоць і не злачынства, але таксама гідкае. Калі мы правільна адкажам на пытанні *як, калі, дзе і чаму*, то мы зразумеем, што за *як* хаваецца забойства чалавека, за *дзе* — насмешка з ягонай памяці, а тым *калі* забойца хацеў пазабавіцца. За *чаму* хаваецца ён сам.

Адказ на пытанне *як* вельмі просты. Спадар Праўда быў забіты элементарна. Забойца да яго прыйшоў, узяў нож, які ляжаў у спадара Праўды на стале, і ўдарыў ім пісьменніка ў сэрца. Ужо выбар нажа з надпісам «Праўда пераможа» — дэманстрацыя надзвычайнага здзеку. Спадар Праўда ляжаў на падлозе мёртвы, забойца прысеў да яго, намаляваў «асаблівы знак» і сунуў крэйду ў пальцы нябожчыка. У гэты момант зазваніў мабільны тэлефон спадара Праўды, і высвецілася імя таго, хто званіў: Нотбург. Забойца разважае: калі Праўда не адгукнецца, нехта можа надумаць прыйсці сюды і паглядзець. Таму ён рызыкуе. Ён імітуе голас спадара Праўды і хутка кладзе слухаўку. Спадар Нотбург святкуе, ён у гуморы, ён нават не засумняваўся, з кім размаўляў. Пасля званка забойца гасіць святло, замыкаецца і сядзіць унутры са сваёй ахвярай. Ён не адважваецца пакінуць дом, бо бачыць, што госці ад Нотбургаў акурат выходзяць. Ён вычэквае, пакуль усё аціхне, выслізгвае на двор і пакідае *адчыненыя дзверы*. Тады забойцу і пабачыў бяздомны.

Другое пытанне, *дзе*, больш складанае. Тым, што забойства адбылося ў Кінчары, мусіла быць высмеяная рэпутацыя пісьменніка. *Дзе* цесна звязанае з «таемным знакам», які забойца так клапатліва намаляваў. Але да яго я яшчэ вярнуся.

Я сказала, што за *калі* схаваны асаблівы смак аматара пазабаўляцца. Бо забойства адбылося *на Купалу*. Не забывайце, што, паводле метэаролагаў, *чакаўся дождж*, і забойца пакінуў *адчыненыя дзверы*. Усё таму, што ў Зузаны Нотбургавай *шэрыя вочы*, а галоўнае, таму, што яе

завуць *Зузачка*. Магчыма, вы ведаеце вось гэтую песню... — і міс Марпл, крыху пачырванеўшы, чыстым голасам праспявала:

Ой, у ночку на Яна  
будзе дожджык да рана.  
Ты мне дзверы адчыні  
і да сэрца прыхіні.

Як я йшоў да Зузачкі,  
яна сплятала стужачкі.  
Шэры вочкі плакалі,  
белы слёзкі капалі.

Святы Яне, памажы,  
шлях да шчасця пакажы.  
Каб мне з Зузачкаю мілай  
векаваць аж да магілы.

— Ведаеце, — сказала яна, — забойца скарыстаў вядомую купалку, каб з дапамогай таго жаху, якім ёсць забойства, пазабавіцца. А заадно каб, так бы мовіць, падпісацца.

Так, Пэтэр Хвала не думаў нікому саступаць «мілую Зузачку». Ён вельмі хваравіта ставіўся да Праўдавага ўплыву на Зузану і пачуваўся прыніжаным. Таму Праўда мусіў быць забіты і высмеяны, а Пэтэр Хвала хацеў гэтым і пазабавіцца. Мае даражэнькія, — уздыхнула міс Марпл, — гэта быў чын з катэгорыі «тры ў адным». Таму мне гэта так нагадала маленькую Флору, якая хацела сёстрам адначасова адпомсціць, паздзекавацца з іх і пазабавіцца тым, што яны не могуць разляпіць старонкі сшыткаў.

Пэтэр Хвала рос у злапамятным асяроддзі. Ён сам не вылучаецца сімпатычнасцю, і мы ведаем, якімі жорсткімі могуць быць дзеці. Ён замкнуўся ў свеце кніг і ўрэшце заняўся вывучэннем літаратуры прафесійна. Ён хацеў зрабіцца «кімсьці», каб Зузана магла яго паважаць.

Спадар Праўда ў Кінчары Пэтэру не перашкаджаў, хутчэй яго цешыла, што ў яго ёсць аднадумца. Але ўвесну вярнулася Зузана, і чаго Пэтэру не ўдалося дасягнуць за доўгія гады, спадару Праўду ўдалося за некалькі тыдняў. Зузана была зачараваная і ім, і літаратурай, і нават паспрабавала нешта пісаць. Спадар Праўда скраў у Пэтэра адзіную глебу, на якой той пачуваўся ўпэўнена, і адзіную істоту, якую ён любіў. За гэта пісьменнік мусіў паплаціцца.

Спадар Праўда аднойчы па сакрэце расказаў Пэтэру, што скончыў раман. Пэтэр забіў яго, каб скрасці рукапіс. Чаму? Каб праз нейкі час знайсці яго самому. Але замест «найлепшага рамана» спадара Праўды знайшлася б жахлівая, нечытэльная тарабаршчына. Да такога перараджэння спрычыніўся б Пэтэр. Так ён хацеў адпомсціць, а адначасова зняважыць памяць пісьменніка. Аднак ён мусіў пачакаць, ці не з'явіцца недзе раптам копія. А галоўнае, ён мусіў лагічна патлумачыць, як змог адшукаць рукапіс пасля такога працяглага часу. Таму ён прымаляваў каля мерцвяка той знак. А ведаеце, што ён значыць? У тым і ўся геніяльнасць, што *нічога*. Дакладней, *пакуль што* не значыць нічога. Калі «перараджэнне» рамана скончыцца, Пэтэр Хвала тут жа, на здзіўленне чытачоў, рукапіс знойдзе, бо той знак правільна прачытае. Ён мусіў выдумаць сімвал, які дае магчымасць дзясяткаў прачытанняў. Ён павінен даведацца, куды паліцыя нават праз месяц не зазірне, і туды рукапіс і засуне. Напрыклад, *пад* падлогу на месцы таго знаку.

Дазволю сабе дапусціць, што Пэтэр сапсуе раман, разгадае знак як «С» і перагляне кружэлкі спадара Праўды, — міс Марпл трохі пачырванела. — Я маю на ўвазе тыя сучасныя, якія абазначаюцца літарамі CD і на якія пісьменнікі запісваюць копіі. Тое, што рукапіс быў у папцы, мы ведаем толькі ад Пэтэра. Таму я ў гэта не веру.

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на, — натхнёна выгукнуў спадар Вінтэрмантэль, — але што грошы?

— Грошы спадар Праўда зняў, бо хацеў даць іх Зузане. Яго мучылі згрызоты сумлення, што ён адабраў у яе надзею стаць пісьменніцай. А забраў грошы Пэтэр. Ён сапраўды з маламаёмаснай сям'і, але галоўнае — ён не хацеў дапусціць, каб яны трапілі да Зузаны і яна ад яго зноў з'ехала. Гэта ўсё, мае даражэнькія.

*Той чалавек* энергічна ўстаў, але ў той самы момант азваўся камісар Мегрэ:

— З вашага дазволу, я запалю. Мой аповед зойме не больш часу, чым трэба, каб выкурыць адну люльку. Ён — пра чалавека, які...

## Бяздомны назіральнік

*Рашэнне паводле камісара паліцыі Жуля Мегрэ*

— З вашага дазволу, я запалю. Мой аповед зойме не больш часу, чым трэба, каб выкурыць адну люльку. Ён — пра чалавека, які назіраў.

Было такое ўражанне, быццам камісар Мегрэ нават не ведае, з чаго пачаць. Ён толькі пабадзяўся вакол халупы бяздомнага; зусім не хаваючыся, пастаяў крыху каля вогнішча, пагрэў рукі над полымем, як меў у звычцы рабіць дома, у сваёй канцылярыі, перад камінам. Ён нават пару разоў запаліў у агні галінку, каб ад яе прыпаліць люльку. Бяздомны на яго не зважаў, хадзіў сабе на свае абходы, з якіх прыносіў набітыя нечым цэлафанавыя пакеты, гатаваў сабе ежу і еў. Паеўшы, бяздомны сядаў у «тэатральную ложу», як Мегрэ назваў той закутак, — на малы каменны выступ, прыкрыты кустамі, з якога Кінчар быў відаць як на далоні.

Ад раніцы Мегрэ назіраў разам з ім.

Дзень спадарыні Хвалавай пачынаўся ўжо на світанні. Яна выходзіла на двор у начной кашулі, набірала вады з калодзежа, закасвала рукавы і паволі ўмывалася. На твары бяздомнага з'яўляўся шчасны выраз, які, аднак, знікаў, як толькі спадарыня Хвалава зноў заходзіла ў дом. Потым яны бачылі яе перад акном, як яна вызірае, чакаючы мужа з начной змены.

Хвала-старэйшы ступаў цяжкім крокам задуменнага ці стомленага чалавека, уваходзіў у дом, і Мегрэ ўяўляў, як ён мые рукі, сядае перад кубкам кавы, намазвае на хлеб масла, есць лыжкай гарачую яечню. Цікава, ці ківае ён час ад часу галавой, каб паказаць, што яму смачна, або ён такі стомлены, што ледзь усведамляе, што есць на сняданак?

Пэтэр Хвала з'яўляўся на сцэне каля адзінаццатай, яшчэ ў піжаме. Ён пастойваў на двары, чухаўся і азіраўся наўкола, быццам шукаючы прычыну, чаму ён тут. Мегрэ ніколі не бачыў яго за працай.

У Нотбургаў дзень пачынала гаспадыня. Яна выходзіла да кавалай брамы і глядзела праз краты, як асуджаная. Камісара здзіўляла, з якім імпэтам яна бралася за любую хатнюю працу, адчыняла вокны, каб праветрыць на іх падушкі, падмятала ходнікі перад домам. Мегрэ гатовы быў прысягнуць, што ажно да іх на гару вецер часам даносіў пах выдатных страваў. Клапатлівая гаспадыня, якая мусіла несці крыж жонкі багатыра. Але ўжо пасля абеду было відаць, як яна з кілішкам туляецца па вялікім ружовым будынку.

Зузана адзіная з усіх хадзіла гуляць у вакольныя лясы. Малады Хвала тады караскаўся на супрацьлеглы схіл і назіраў за ёй. Ён не падазраваў, што сядзіць недалёка ад камісара. Мегрэ сам сабе ўсміхаўся: тут кожны назірае за кожным.

Той раніцай Мегрэ падняўся, калі яшчэ й на дзень не займала, каб як найраней заняць месца ў «тэатральнай ложы». Дарогай ён купіў бутэльку віна. Ён паспеў выгодна ўладкавацца, калі прыйшоў бяздомны — дакладна на ранішняе ўмыванне спадарыні Хвалавай. Валацуга гучна падсеў да Мегрэ, быццам паказваючы прыярытэтнае права карэннага жыхара. Яны назіралі разам: без словаў і без адзінага ўзаемнага погляду, але з нейкім напружаным чаканнем, хто ж з іх першым парушыць маўчанне.

Спачатку з Кінчара выйшла Зузана, пасля, як ейны цень, Пэтэр, потым спадарыня Хвалава з торбамі пашыбавала ў краму. Нарэшце камісар пабачыў, як дэпутат Нотбург з мабільным тэлефонам, прыціснутым плячом да вуха, спешна выбягае з дома, сядае ў машыну і заводзіць яе, кажучы ў тэлефон адрывістыя фразы. Важная асоба, якая ў спешцы нават не мае часу азірнуцца на тых, хто застаецца.

Мегрэ толькі ўсміхнуўся, калі неўзабаве пабачыў спадарыню Нотбургаву, як тая спяшаецца да Хвалаў і нешта тлумачыць соннаму Хвалу. Праз імгненне яны ўжо разам скіроўваліся ў Нотбургаву сядзібу. У Хвалы ў руцэ была скрынка з інструментамі, як у слесара. Камісару гэта нагадала показку пра жонку, якая не магла даць рады з водаправодам.

Бяздомны заплюшчыў вочы.

— Як цябе завуць? — нарэшце прамовіў камісар Мегрэ.

Бяздомны прамармытаў:

— Дзёрка.

— Ты ўсё бачыў, так? — спытаў камісар.

Бяздомны паглядзеў на віно. Мегрэ кіўнуў, выцягнуў з кішэні штопар і працягнуў суседу. Той адкаркаваў бутэльку і ласа прыклаўся да рыльца. Гэта быў стары добры трук, як адбіць у другога жаданне піць. Мегрэ давялося прыкласці намаганне, каб не засмяяцца.

Рамонт водаправоду цягнуўся гадзіну. Хвала крочыў дадому з гонарам, як мужчына, які заслужыў прызнанне.

— Якая найбольш бегала за мужыкамі?

— Усе аднолькавыя.

— Але Хвалава іншая, хіба не?

Бяздомны ўсміхнуўся, а камісар спытаў:

— А той у машыне?

Валацуга сплюнуў.

— Той — багацей.

З крамы акурат вярталася спадарыня Хвалава з поўнымі торбамі. Бяздомны не спускаў з яе вачэй. Мегрэ мякка сказаў:

— Дзёрка, але ж і багацей можа быць добрым чалавекам.

— Такія могуць усё.

— Што ўсё?

— Усё.

Голас Мегрэ па-ранейшаму быў мяккі:

— Яны сустракаліся ў Праўды, так?

Бяздомны пацягнуўся па бутэльку. Яна была ўжо пустая, але ён усё адно паспрабаваў выцадзіць з яе ўсё да апошняй кроплі. Потым раздражнёна адкінуў яе ўбок.

Мегрэ паўтарыў:

— Яны сустракаліся, і нехта пра гэта даведаўся. Хто гэта быў?

Было відаць, што бяздомны перапалохаўся:

— Я нічога не бачыў, было цёмна.

— Я ведаю, Дзёрка, я ведаю.

Бяздомны ўстаў і пакандыбаў у халупу. Ён нават не азірнуўся.

Мегрэ паклаў у «тэатральнай ложы» пару банкнотаў і прыціснуў іх каменем.

— Спадарства, — звярнуўся камісар Мегрэ да дэтэктываў. — На пустой выспе, званай Кінчар, жывуць двое

няшчасных людзей — самотная спадарыня Нотбургава са сваім знакамітым мужам і самотны спадар Хвала са сваёй недаткнёнай жонкай. Тое, што ўзнікла паміж гэтымі двума самотнымі людзьмі, пачалося як флірт з безвыходнасці, але перарасло ў нешта нашмат важнейшае.

На любых выселках кожны назірае за кожным. На гэтых — тым больш. Пакуль Зузана была ў Лондане, у распараджэнні нашай пары была ўся ружовая віла, але калі дзяўчына вярнулася, то яны мусілі прыдумаць нешта іншае. Ім пашанцавала, што Хвала даглядаў дом Праўды, у яго былі ад дома ключы, таму яны пачалі сустракацца ў ім. Часам Хвала мяняўся зменай з калегамі, каб правесці ноч з каханкай. Калі Зузана засынала, яе маці выслізгвала з дому і бегла да Хвалы. А спадарыня Хвалава і так нічога не чуе, досыць было не запальваць святла.

Ці ведаў пра гэта Праўда? Папросту немагчыма было *не заўважыць*, што ў ягоным доме нехта *жыве*. Яму, натуральна, было няёмка перад тымі, каго гэтыя двое падманвалі. І ён нават быў гатовы пазычыць каханкам уласныя грошы, толькі каб яны знайшлі іншае месца для любошчаў. Таму ён зняў з рахунку грошы.

У той вечар ён адмовіўся ісці на паляванне, каб сустрэцца са спадарыняй Нотбургавай і пагаварыць з ёй. Ці ён ёй пагражаў? Не ведаю... Яна прыйшла ўпотайкі, каб ніхто не бачыў — гэта адвечны дэвіз усяго Кінчара. Таму з Праўдам яны сустрэліся ў цемры. Пра што яны дамовіліся — невядома. Спадарыня Нотбургава, натуральна, усё паабяцала, іншага ёй не заставалася. Візіт цягнуўся нядоўга.

Аднак на каханкаў з Кінчара можна паглядзець і інакш: вачыма па-рабску пачцівай, вернай, працавітай жанчыны, глыбока перакананай, што гэтыя чалавечыя рысы правільныя, а таму мусяць быць узнагароджаныя. Спадарыня Нотбургава, прыцягальная і багатая, наўрад ці магла быць такой узнагародай, і ўсё ж яна была неяк

прысутная, і спадарыня Хвалава гэта бачыла. Ці верыла яна таму, што бачыла? Безумоўна, прамінула нямала часу, пакуль яна паверыла, што такое прынамсі магчыма, а датуль яна, мабыць, за кожную падобную думку бегала спавядацца. Аднак аднаго дня яна ўсё ж дазволіла сабе паверыць у такую магчымасць. Яна глухая, але ж не сляпая! Яна клапацілася пра спадара Праўду і знайшла ў яго дома нямала прыкметаў здрады, хоць і ніводнага доказу. Доказ з'явіўся б, калі б яна прыспела каханкаў проста in flagranti ў іх гняздзечку.

У той вечар у яе з'явілася такая нагода. Яна вырашыла, што спадар Праўда пойдзе на паляванне. Калі Нотбург з кампаніяй сыходзілі, у Праўды пагасла святло. Значыць, дом пусты. Яна сядзела ля акна, гэтаксама як калі зранку чакала мужа, і заўважыла спадарыню Нотбургаву, як тая ўпотайкі перабягала да Праўды. Яна бачыла і як тая сыходзіла! Яна раздумвала, пакутуючы ад сумневаў. Што, калі спадарыня Нотбургава пайшла туды дзеля нечага іншага? Але чаму ў цемры? Ці вернецца яшчэ? Ці чакае там яе муж сваю каханку? Або яна ўсё надумала, і ў доме нікога няма?

Спадарыня Хвалава не стрывала чакаць даўжэй. Спадар Праўда ляжаў у ложку ў цемры, калі яна без грукату адчыніла дзверы і ўвайшла. Зразумейце, яна разважала толькі ў дзвюх катэгорыях: або дом пусты, або ў ім ейны няверны муж. Яна і сапраўды ўбачыла абрысы мужа. Напэўна, спадар Праўда пытаўся ў яе, не могучы зразумець, што яна там робіць, але яна яго не пачула. У часе, калі яе муж павінен быць на працы, яна бачыць яго ў чужым ложку. Яна схапіла нож і ўсадзіла яго мужу ў сэрца. На жаль, яна позна зразумела, што ўчыніла трагічную памылку. Але спадар Праўда быў ужо нежывы.

Што яна рабіла пасля? Пакорліва села перад домам Праўды і чакала, што здарыцца. Безумоўна, у злачынстве яна хацела прызнацца.

Так на світанні яе знайшоў спадар Нотбург. Яна расказала яму, што ўчыніла і чаму хацела, каб ён зрабіў што трэба, бо ён жа дасведчаны «гарадскі» чалавек. Нотбург імгненна зразумеў: з гэтага будзе скандал, які знішчыць ягоную рэпутацыю. Яго няверная жонка — прычына забойства вядомага пісьменніка! Зрэшты, заставалася яшчэ слабая надзея, што нічога не ўсплыве. Ён палітык, умее правільна падбіраць словы. Ён пачаў супакойваць спадарыню Хвалаву, даводзячы, што назад ужо ўсё адно нічога не вернеш, але трэба ж думаць пра будучыню іх дзяцей. Ён навучыў яе, што трэба рабіць. Яна, звыклая слухацца, усё зрабіла па-ягонаму. Выцерла нож, зрабіла на ім Праўдавы адбіткі, узяла рукапіс і грошы. Схаваўшы рукапіс, быццам забойства адбылося дзеля яго, Нотбург хацеў пусціць следства падманным следам. Грошы ён прымусіў забраць спадарыню Хвалаву; у выпадку неабходнасці гэта будзе доказ супраць яе. Урэшце ён загадаў спадарыні Хвалавай намаляваць «таемны знак». Ён хацеў, каб паліцыя марнавала час разгадваннем яго значэння і не заглыблялася ў міжасабовыя дачыненні ў Кінчары. А магчыма, ён хацеў, каб у доме застаўся відавочны доказ яе віны.

На гэтых словах Мегрэ выбіў попел з дапаленай люлькі.

— Бяздомны Дзёрка, як заўсёды на світанні, прыйшоў пацешыцца на спадарыню Хвалаву пры ранішнім умыванні. Замест гэтага ён убачыў занадта шмат, каб сумнявацца, што спадарыня Хвалава замяшаная ў забойстве. Калі да яго прыйшла паліцыя, ён зразумеў, што, выдаўшы спадарыню Хвалаву, ён пазбавіцца адзінай штодзённай радасці. Таму ён хацеў выгарадзіць гэтую жанчыну, адвесці ўвагу са світання, сказаўшы, што бачыў *нейкую постаць уначы*.

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на! — спадар Вінтэрмантэль не хаваў свайго захаплення. — Але гэта значыць, што ўначы бяздомны нікога не бачыў?

Камісар Мегрэ ўсміхнуўся:

— Ведаеце, уначы, а тым больш *у цемры* ён сапраўды нікога пабачыць не мог.

— Спадарства, — азваўся агент ФБР Фокс Малдэр, — чаму вы ўсе забываеце пра...

## Знак рака

*Рашэнне паводле спецыяльных агентаў ФБР Фокса Малдэра і Даны Скалі*

— Спадарства, — азваўся агент ФБР Фокс Малдэр, — чаму вы ўсе забываеце пра значэнне *дня*, у які адбылося забойства? Гэта ж было 23 чэрвеня, пярэдадзень святога Яна, дзень, у які Сонца ўваходзіць у сузор'е Рака і стымулюе фантазію, а перадусім, — Малдэр сцішыў голас, — ноч залатых скарбаў.

Агент Дана Скалі шматзначна дадала:

— Пры *пэўных* акалічнасцях можна ўбачыць скарб нават праз камень.

Скалі нешта клацала на лэптопе.

— Што робіш? — спытаў Малдэр.

— Гуляюся з перакладнымі слоўнікамі, — у яе на твары з'явілася ўсмешка, — а ты, як бачу, з нейкай тэорыяй.

Адказ Малдэра пацвердзіў яе здагадку:

— Пры якіх акалічнасцях ты можаш бачыць праз камень?

— Тваё пытанне звязанае з забойствам?

— Не ведаю, ці з забойствам, але з днём забойства напэўна, з папараццю, якая ў Праўды завяла, і з крэйдай, якая была ў ягонай руцэ. Гэта не можа не быць звязана. Паводле мясцовых вераванняў, у купальскую ноч расчыняюцца залатыя скарбы ў зямлі, а калі ў чаравік паклас-

ці папарацьˌ то месяц пакажа на іх месцазнаходжанне. Пры гэтым дарогу трэба пазначаць асвечанай крэйдай, інакш скарбам завалодаюць нячыстыя сілы.

— Думаеш, Праўда шукаў скарбы?

— Не сумняюся. Яшчэ б ведаць, *дзе*.

Скалі закрыла лэптоп і сказала:

— А што скажаш наконт таго, што па-вугорску «*kincstár*» значыць «скарбонка»? Ён шукаў тут. Добрая праца, Малдэр.

Фокс Малдэр усміхнуўся:

— Добрая праца, Скалі.

— Што ты меў на ўвазе, пытаючыся пра камень, праз які можна бачыць? — пацікавілася Скалі дарогай у Кінчар. Малдэр набраў паветра:

— На ўсёй Зямлі ўздоўж 50-й паралелі пашыраныя легенды пра скарбы ў зямлі, якія *пры пэўных акалічнасцях* можна ўбачыць. Усе гэтыя легенды маюць нешта агульнае: час, то бок перыяд летняга сонцавароту, далей — месяцовая ноч, наяўнасць цудадзейнай матэрыі і, нарэшце, знаходка золата. А цяпер паспрабуй перавесці гэта ў навуковыя тэрміны.

Скалі засмяялася:

— *Палярызаванае месяцовае святло, якое падае пад пэўным вуглом, можа настолькі ўзмацніцца, што пройдзе нават праз непразрысты слой.*

Малдэр кіўнуў:

— Дэтэктар на золата. Застаецца толькі высветліць, дзе ён гэтае золата ў Кінчары хацеў знайсці.

Дэпутата Яна Нотбурга пытанне развесяліла.

— Мясцовыя назвы? Што, і вы крыжаванкі складаеце?

Агенты навастрылі вушы.

— Небарака Праўда гэтым быў апантаны. Хацеў ведаць назву ледзь не кожнага пня ў наваколлі.

Скалі спытала:

— Навошта яму гэта было трэба?

— Не маю ўяўлення. Ён толькі казаў, што з дапамогай іх складзе ўнікальную крыжаванку.

— А ці не ведаеце, — умяшаўся Малдэр, — якія назвы яго найбольш цікавілі?

— Гэта ведаю дакладна, — ухмыльнуўся Нотбург. — Усе.

Была зноў чарга Скалі:

— Як называюцца найбліжэйшыя мясціны?

Нотбург паказваў пальцам:

— Вунь тую гару мясцовыя называюць Шчэпня, пад ёй Бабскі Луг, а вось гэтая гара над намі называецца Святаянная. Хлопцам я ўяўляў, што яна мая. У мяне там быў нават свой трон.

Малдэр спытаў:

— Там, дзе халупа бяздомнага?

Нотбург кіўнуў:

— Так, толькі крыху вышэй. У той халупе некалі жылі дрывасекі. Я, бывала, сядзеў на тым сваім троне і кідаў у іх шышкі.

Дэпутат Нотбург голасна рассмяяўся.

Яны развіталіся.

Ужо адыходзячы, яны пачулі за сабой дзявочы голас:

— Я чула, пра што вы гаварылі з бацькам. Я Зузана.

Яны кіўнулі.

— Калі хочаце, я адвяду вас да таго бацькавага трона.

Яны пагадзіліся і рушылі разам з ёй. Было відаць, што Зузана не наважваецца пра нешта спытаць. Нарэшце асмелілася:

— Чаму вы пыталіся ў бацькі пра назвы ў ваколіцах?

Скалі адказала проста:

— Мы думаем, што па назвах спадар Праўда спрабаваў адшукаць след закапанага скарбу.

Зузана паглядзела на іх са здзіўленнем. Яны пераглянуліся, і Малдэр мякка спытаў:

— Вам гэта нешта нагадвае?

— Спадар Праўда напісаў апавяданне пра чалавека, які, даведаўшыся назву гары, знайшоў радовішча каштоўных камянёў.

— А ці ёсць нейкае радовішча тут?

— Наколькі я ведаю, не. — Праз імгненне яна дадала: — Адзіная цікавостка ў Кінчары — гэта халупа, у якую бацька кідаў шышкі.

«Яна тут няшчасная», — падумаў Малдэр.

Халупа бяздомнага была пустая. Яны падняліся вышэй, і Зузана прывяла іх да трона. Гэта была вялікая плоская скала ў форме правільнага круга, каля якой сталі высокія валуны проста насупраць адзін аднаго. Як вартаўнікі.

Зузана сказала:

— З Пэтэрам мы спрабавалі высветліць, куды скіроўваюцца падоўжаныя восі, калі іх працягнуць з цэнтра праз гэтыя бакавыя камяні.

Скалі з цікаўнасцю паглядзела:

— І куды яны вядуць?

— Нікуды, — сказа Зузана. — З Кінчара нічога нікуды не вядзе.

І пайшла прочкі.

— Яна тут няшчасная, — сказала Скалі.

Яны ўзяліся даследаваць трон. І сподні камень, і «вартаўнікі» былі гранітныя.

Малдэр сагнуўся і выгукнуў:

— Глядзі!

Каля самага краю пад адным з камянёў была раскапаная глеба.

— Думаеш, нехта спрабаваў падкапацца пад валун?

— Думаю, я ведаю, пра што яшчэ трэба даведацца. Хадзем.

— Куды?

— Праўда быў непрактычны чалавек. Што б ён рабіў, калі б у яго ўзнікла тэхнічная праблема?

Скалі выпаліла:

— Хвала-старэйшы!

Праз паўгадзіны яны былі ў гатэльным гаражы.

Спадар Хвала не выглядаў здзіўленым. Малдэр зразумеў: гэтыя людзі ўжо звыклі да пытанняў дэтэктываў.

— Вы маеце рацыю, ён сапраўды нядаўна ў мяне пытаўся, як даставіць у лес цяжкую тэхніку.

— І?

— Як і здаўна, найлепшая тэхніка ў гарах — гэта конь. Калі вам трэба нешта мацнейшае, то гэта нятаннае задавальненне.

Калі яны селі ў машыну, Скалі засмяялася.

— Гэта было адно з самых хуткіх нашых расследаванняў.

— І нават магчыма, што яно не адносіцца да сакрэтных матэрыялаў, — падкрэсліў Малдэр.

— Спадарства, — звярнулася да дэтэктываў агент Скалі, — пры пэўных акалічнасцях можна ўбачыць скарб і праз камень. Мы мяркуем, што спадар Праўда хацеў дамагчыся прызнання, якога, як лічыў, заслужыў як шукальнік-аматар. Пошукам скарбаў ён зацікавіўся даўно, нават напісаў пра гэта апавяданне. Ён трапіў у *Kincstár* і зразумеў, што ён у *Скарбонцы*. Заставалася зразумець, у якой.

Фокс Малдэр падхапіў:

— Самым шанаваным месцам у ваколіцах была Святаянная гара, на якой ёсць асаблівае, магчыма, мегалітычнае ўтварэнне, называнае «трон». Ён прыцягвае з першага погляду і стымулюе фантазію. Стымуляваў ён і фантазію Праўды. Ён па-аматарску спрабаваў даследаваць тое месца. Ён нават паспрабаваў памераць таўшчыню споднягa каменя, каб ведаць, якая тэхніка спатрэбіцца, каб яго падняць. Гэта было «нятаннае задавальненне», як сказаў спадар Хвала, таму Праўда зняў грошы загадзя. Зразумела, што ён меў «згрызоты сумлення», бо мясцовым насельнікам ён ні пра што не расказваў.

— Усё мусіла вырашыцца ў купальскую ноч, — зноў перахапіла слова Скалі. — Праўда прынёс папараць, якая ў тутэйшых паданнях грае ключавую ролю. Крэйда ў яго была. Заставалася чакаць месяцовага святла.

Малдэр працягваў:

— Такім чынам, зразумела, чаму спадар Праўда адмовіўся пайсці на паляванне. Ён пачакаў, пакуль Нотбург з гасцямі сыдуць, і скіраваўся да трона. Думаю, ён нават не ўхмыльнуўся, укладваючы ў чаравік галінку папараці.

А цяпер уявім сабе, што легенда праўдзівая, *пэўныя акалічнасці* акурат былі датрыманыя, палярызаванае святло прасвяціла тоўсты слой граніту, і Праўда сапраўды скарб *убачыў*. Мы маем гэтаму два доказы. Першы: ягонае забойства. Забойца быў пра ўсё інфармаваны. Бо Праўда яму давяраў. Забойца ведаў і тое, што ўначы Праўда пойдзе шукаць скарб. Так, забойца — самае нявіннае стварэнне ў Кінчары.

Чарга расказваць зноў перайшла да Скалі:

— Зузана Нотбургава зразумела, што ад нас не варта таіць тое, пра што мы і так даведаліся б: што з Пэтэрам Хвалам яны рабілі падлікі, што Праўда ведае пра значэнне назваў. Але яна паспрабавала пераканаць нас,

што яна адчайна хоча з Кінчара вырвацца. Насамрэч яе адсюль не выцягнула б ніякая сіла. Бо яна прагне завалодаць скарбам! Але вернемся да золата. Павал Праўда насамрэч «убачыў» яго глыбока пад «тронам». Ён прыбег дадому. Паводле дамовы, прыходзіць Зузана, Праўда з гонарам паведамляе, што скарб знайшоў. Абяцае, што на другі дзень яны пойдуць па яго разам. Ён хацеў яго «знайсці» перад вачыма ўражаных гледачоў. Таму ён затаіў самае важнае: што скарб ужо зноў нябачны. Зузана пра гэта не падазравала і забіла яго. Яна была перакананая, што досыць залезці на гару, і на ёй яе будзе чакаць раскапаная яма, поўная золата.

Малдэру заставалася толькі скончыць:

— Яна ўзяла і грошы, і рукапіс. Грошы таму, што іх яна вельмі любіць, а рукапіс таму, што баялася, што ў ім гаворыцца пра скарбы. Не забывайце, што ён быў «пра святых». А гара, на якой знаходзіцца «трон», называецца Святаяннай.

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на, — выгукнуў спадар Вінтэрмантэль, — але што значыць знак на падлозе?

*Той чалавек* устаў і падняў руку, але яго, на шчасце, ніхто не заўважыў, бо якраз у гэты момант Дана Скалі сказала:

— Уявіце сабе, што вы адшукалі скарб і паміраеце. Вы хочаце пакінуць пра гэта апошнюю вестку, і ў вас у руцэ крэйда. Што вы пазначыце? Ды месца, дзе скарб знаходзіцца. Калі б Праўду стала сілы дамаляваць, у яго атрымалася б кола. А так ён паспеў толькі палову. Кола як круглы сподні камень «трона». І гэта другі доказ.

— Таварышы! — энергічна выгукнуў маёр Зэман. — Я пратэстую...

### Трыццаць першая справа маёра Зэмана
*Рашэнне паводле работніка Дзяржбяспекі ЧССР*

— Таварышы! — энергічна выгукнуў маёр Зэман. — Я пратэстую супраць патугаў тых, хто ў імкненні схаваць уласную няздольнасць зневажае памяць таварыша Праўды.

Уся вашая так званая дэтэктыўная навука — гэта толькі набор спекуляцый, якімі вы хочаце адвесці ўвагу ад класавай сутнасці злачыннасці. Але ад праўды не схавацца. Праўда пераможа! Прычым нашая, сацыялістычная.

Дэтэктывы на маёра Зэмана глядзелі так, быццам першы раз даведаліся, як з'яўляецца на свет дзіця. Спадар Вінтэрмантэль прыплюшчыў вочы. *Пачынаецца!* — падумаў ён з жахам.

Маёр Зэман папераджальна падняў палец:

— Возьмем гэтую справу. Кожны з вас так напінаўся, каб патлумачыць тую самую фразу. Маўляў, таварыш Праўда, здымаючы грошы, прамовіў: «Прынамсі, аблегчу сваё сумленне». Але ад каго мы гэта ведаем? Ад банкаўскага работніка! Ад прыслужніка капіталу. Ха-ха! Я адразу зразумеў, што сваё расследаванне я павінен весці ў гэтым напрамку...

Маёр Зэман ведаў, да каго звярнуцца: да Монікі ў Лондане. Моніка быў таварыш, што акрамя важных вестак дасылаў на радзіму і лёзы «Жылет», якія сапраўды галілі. Ах, якія былі часы!

Маёр Зэман зайшоў на пошту і падышоў да акенца.

— Дзевушка, мне трэба зрабіць міжнародны званок, у Лондан. Вось нумар. Колькі гадзін гэта зойме?

Дзяўчына за акенцам зрабіла няўцямную грымасу:

— У сэнсе «колькі гадзін»? Вунь тэлефон, званіце.

Маёр з ухмылкай пагразіў пальцам:

— Ат жартаўніца! Што б гэта было, калі б кожны вось так проста мог узяць і пазваніць у Лондан! Мяне цікавіць, ці паспееце вы звязацца яшчэ сёння.

Дзяўчына паглядзела на нумар:

— Гэты нумар і так несапраўдны, павінна быць дзевяць лічбаў.

— Тады пашлю тэлеграму.

— Тэлеграму?! Чаму б вам не паслаць проста эсэмэску?

Маёр Зэман наморшчыў лоб:

— *Каго?*

Маёр Зэман, майстар канспірацыі, нарэшце паслаў таварышу Моніку тэлеграму наступнага зместу:

«5884 25888! 33 — 1 — 47 — 48!

(1519? Лёзы?)

Мр. Намэз»

Подпісам ён ганарыўся асабліва.

У банк маёр Зэман ішоў, пераапрануўшыся ў багатага замежнага турыста: майка з Мікі-Маўсам, самбрэра, у адной руцэ дыпламат са скуразамяняльніка, у другой — сетка з апельсінамі. На шыі ў яго вісеў бінокль, на вачах былі сонечныя акуляры, на нагах — бермуды, белыя шкарпэткі і сандалі. Ён жаваў жуйку. У кожным сказе казаць «o yes», успомніў ён лекцыю са спецпадрыхтоўкі; гэта пераканае кожнага.

Ён увайшоў у банк, і ўсе вочы скіраваліся на яго. Гэта таму, што я так добра замаскаваны, усцешыўся ён.

У банку маёр Зэман адразу ўбачыў падазронага работніка, бо той кліентцы перад сабой усміхаўся. На штрыфелі ў яго быў бэдж: Душан Тлусты. «Вядома, тлусты, — з агідай падумаў маёр, — калі цябе кормяць замежныя агенты». Ён падышоў да акенца.

— O yes, — сказаў ён, — я багаты турыст. Я Лондан.

Работнік ветліва прапанаваў:

— Would you like to speak English?

Ён не зразумеў ані слова, бо да такой магчымасці іх на спецпадрыхтоўцы, на жаль, не падрыхтавалі.

— О yes, але па-славацку, — сказаў ён і дастаў з рота жуйку. Яму шкада было яе выкінуць, таму ён прыляпіў яе сабе за вуха. Звычайны багаты заходні турыст. Ён спытаў:

— О yes, што сказала тая жанчына перада мной?

Работнік ад нечаканасці не мог падабраць словы:

— Але... я не маю права...

Маёр Зэман задаволена кіўнуў. Ён дастаў з дыпламата «Праўду», паклаў перад сабой і шматзначна пастукаў па ёй пальцам:

— *А яна ў цябе ёсць?*

Душан Тлусты пачаў спалохана азірацца. Зэман узмацніў напор:

— Мы вернемся, а з намі вернецца і Праўда. Як мінімум зноў як друкаваны орган КПС. О yes!

Работнік пацягнуўся па тэлефон.

Маёр Зэман пагардліва паглядзеў яму ў вочы і падумаў:

— Я цябе наскрозь бачу, ты, *Тлусты*!

Зэман чакаў перад банкам, пакуль у Душана Тлустага скончыцца працоўны час. Ён не спускаў з яго вачэй. Дакладней, не спускаў іх з яго тое імгненне, пакуль Тлусты выйшаў з банка, сеў у аўтамабіль і знік. Маёр з настальгіяй прыгадаў свае жыгулі, у якіх ім захапляліся ўсе супрацоўніцы...

Але ягоная ўвага не аслабела. Ён добра заўважыў налепку на заднім шкле: «НАТО ТАК».

Маёр Зэман здрыгануўся ад агіды.

Адказу ад Монікі ўсё яшчэ не было. «Нічога, — супакойваў сябе маёр, — у крайнім выпадку звяжуся з Лада-

мірам». Задачай агента Ладаміра было сачыць за агентам Монікам. Маёр Зэман адчуваў, як яго саграваe ўспамін пра цудоўныя часы сацыялістычнай салідарнасці.

«У каго ёсць свой агент, таму не бывае самотна!» — расчулена сказаў ён сабе.

Навокал была цемра, немагчыма было нічога ўбачыць. Але маёр Зэман бачыў!

— Таварышы, — звярнуўся маёр Зэман да дэтэктываў, — таварыш Праўда быў пісьменнік, але ў першую чаргу ён быў чалавек, адданы справе сацыялізму. Нават пад жорсткім націскам імперыялістычных памкненняў Захаду ён не жадаў здрадзіць ідэі і паплаціўся за гэта жыццём. Таварыш Праўда стаў пакутнікам!

Можа быць, бестыі капіталу яму і прабачылі б творы маладосці, напрыклад, «Хто ж нам яе паправіць?» — захапляльную радыёп'есу аб разборы доменнай печы, або «Кампостар» — камедыю аб эксплуатацыі рабочых на ЦЭЦ, але яму ніяк не маглі прабачыць таго, што ён бязлітасна выкрываў сапраўдны выскал так званай дэмакратыі. Таварыш Праўда працаваў замежным карэспандэнтам у пэўнай лонданскай газеце — *The Capital*. Ён хацеў праўдзіва і нескажона інфармаваць аб сітуацыі ў Славакіі, і ягоным эксплуататарам гэта не падабалася. А як жа: *Capital*! Цікава, якія ў іх былі твары, калі яны прачытвалі сказ тыпу: «Левыя ў Славакіі ўвесь час набіраюць папулярнасць»? Я ажно бачу, як гіены з *The Capital* у адчаі рвуць на сабе валасы! Як яны тыя сказы выкрэсліваюць, перапісваюць, змяняюць значэнні. Яны ж фарысеі ад журналістыкі! — маёр Зэман мусіў на імгненне спыніцца, каб з такой брыды апамятацца.

— Але вернемся ў Славакію. Таварыш Праўда штодня вымушаны быў змагацца з *The Capital*. Яны выкарыстоўвалі ўсе даступныя сродкі, каб прымусіць таварыша Праўду маўчаць аб пекле капіталізму. Яны сакрэтна па-

даслалі агента ў ягоны банк. Аднак таварыш Праўда ўсё адно не маўчыць, ён *піша*.

Маёр Зэман разышоўся:

— Бо што такое капітал, таварышы? Гэта новае боства, якому пакланяюцца яго святыя — капіталісты. Таварыш Праўда дапісаў кнігу пра «святых», гэта значыць кнігу пра капітал, які прыграбае да сваіх рук прэсу.

У той дзень таварыш Праўда ішоў у банк, не падазраючы, што ідзе насустрач смерці. Ён зняў грошы і пахваліўся работніку Тлустаму, што дапісаў свой раман. Тлустага я выкрыў адразу. Калі я — вядома ж, пераапрануты — спытаў у яго, што казала жанчына перада мной, ён адразу пачаў запінацца. Тым цікавей выглядае тое, з якой ахвотай ён у паліцыі даваў паказанні пра ўяўную фразу таварыша Праўды. Чаму? Таму што яму яе загадалі сказаць ягоныя наймальнікі.

Каб з таварыша Праўды зрабіць злачынцу са згрызотамі сумлення!

Тлусты адразу зразумеў, якая небяспека пагражае *The Capital*. Як толькі таварыш Праўда выйшаў з банка, Тлусты тут жа паведаміў аб усім у цэнтральнае бюро, і адтуль прыйшоў загад. Калі я шматзначна сказаў перад Тлустым слова «Праўда», ён вельмі перапалохаўся і кінуўся да тэлефона... каб атрымаць новы загад. Што яшчэ мог зрабіць такі прыслужнік?!

Імперыялістычная рука забойцы дабралася да Кінчара і згасіла жыццё пісьменніка. Тая самая рука вывела і «таямнічы знак». Вы ўсе памыляліся. Яго пакінуў не забіты са сваіх апошніх сіл, і не забойца, каб адвесці ўвагу. Гэта паведамленне забойцы да тых з *The Capital,* хто паслаў яго выканаць гэтае агіднае злачынства, паведамленне імперыялістам і агрэсарам. Гэта не С, не Х, не стрэлка, не вуха, не круг, не месяц і ўжо напэўна не серп. Паверце, імперыялістам серп ніколі не быў да ду-

шы! Гэта U. Што абазначае USA, Злучаныя Штаты Амерыкі!

— Але... але... але ж... — спадар Вінтэрмантэль ледзь здолеў выціснуць з сябе слова, — але ж Лондан не ў Злучаных Штатах Амерыкі!

Маёр Зэман толькі махнуў рукой:

— На спецпадрыхтоўцы нас навучылі, што

*У Пентагоне ўсё строяць падкопы,*
*Без стомы ў газеты пішуць паклёпы.*

Спадар Вінтэрмантэль выглядаў зусім бязрадна. Нарэшце ён запытаў:

— Чаму спадар Праўда зняў грошы? Дзе яны? Дзе рукапіс? Каго бачыў бяздомны? Калі адбылося забойства? І галоўнае: хто забіў?

— Гэтага я пакуль не ведаю, — прызнаўся маёр Зэман, — але дастаткова ўзяць у распрацоўку Тлустага і... Ну, і яшчэ тых, з кім таварыш Праўда зносіўся, увесь Кінчар і Жлуктаў, астатніх пісьменнікаў і ўсіх чытачоў ягоных кніг. І пачакаем, што адкажа таварыш Моніка. Злачынства мы раскрыем, не сумнявайцеся. Праўда пераможа!

У памяшканні доўга, вельмі доўга панавала цішыня.

Нарэшце *Той чалавек* уздыхнуў.

Спадар Вінтэрмантэль таксама ўздыхнуў.

Яшчэ праз імгненне пачулася:

— *Mesdames et messieurs!* Яшчэ тут ёсць я, Эркюль Пуаро! І я скажу вам, як гэта было насамрэч. *З пэўнага гледзішча*, — падкрэсліў мсье Пуаро, — рацыю меў кожны з вас, але...

## Адзінаццаць вялікіх дэтэктываў

*Рашэнне паводле прыватнага дэтэктыва Эркюля Пуаро*

— *Mesdames et messieurs*! Яшчэ тут ёсць я, Эркюль Пуаро! І я скажу вам, як гэта было насамрэч. З пэўнага гледзішча, — падкрэсліў мсье Пуаро, — рацыю меў кожны з вас, бо кожны з вас высветліў пэўны важны факт і ласкава перадаў яго мне. Прынёс проста сюды праз гэтыя дзверы, — Пуаро паказаў пальцам, — так што мне зусім не давялося нават выходзіць з памяшкання. Досыць было скарыстацца сваімі мазгавымі звілінамі...

Мсье Эркюль Пуаро звярнуўся да спадара Вінтэрмантэля:

— Пад трупам спадара Праўды быў дыванок, *n'est-ce pas*?

Спадар Вінтэрмантэль пачаў блытана тлумачыць:

— Ды не, не зусім дыванок... толькі кавалак звычайнага лінолеуму. Цела ляжала на ім, а рука з крэйдай на зямлі.

Мсье Пуаро выдыхнуў з заўважнай палёгкай:

— *Вядома*! А цяпер, — ён звярнуўся да дэтэктываў, — я вам скажу, у чым адзінаццаць вялікіх дэтэктываў мелі рацыю.

1. Містэр Шэрлак Холмс зразумеў, што гэта было *зымітаванае* забойства.

2. Містэр Каломба здагадаўся, што забойства адбылося *раней*, чым меркавалася.

3. Містэр Марлоў убачыў *нездаровасць дачыненняў* у Кінчары.

4. Гер Дэрык асэнсаваў важнасць *утойвання* рукапісу.

5. Містэр Карэла раскрыў схільнасць спадара Праўды да *наіўных жэстаў*.

6. Містэр Нэра Вулф распазнаў той *страх*, што ахопліваў Праўду ў таварыстве Зузаны Нотбургавай.

7. Міс Мэйкпіс і містэр Дэмпсі прыкмецілі *непрафесійнасць* у яго гульні ў дэтэктыва.

8. Міс Марпл разгадала, што «таямнічы знак» трэба не *чытаць* — на яго трэба *глядзець*.

9. Мсье Мегрэ ўсвядоміў, што бяздомны *нікога* не мог убачыць.

10. Міс Скалі і містэр Малдэр заўважылі значэнне *дня* забойства.

11. А... эмм... *таварыш* Зэман звярнуў увагу на *сучаснасць*.

Да таго ж, калі ласка, не забывайце вось пра што: спадар Праўда зняў усе грошы; ён збіраўся ісці *на паляванне*; зранку знайшлі *адчыненыя* дзверы.

Mesdames et messieurs, цяпер застаецца толькі пазвязваць усё *між сабой*. Напрыклад: спадар Праўда зняў усе грошы. Вы разумееце, *n'est-ce pas*? Звычайна пакідаюць столькі, каб рахунак не скасавалі. Але калі ведаць, што рахунак больш *не спатрэбіцца*... спадар Праўда зняў усе грошы і закрыў рахунак. Калі б ён хацеў толькі змяніць банк, ён перавёў бы іх на новы рахунак. З гэтага вынікае, што спадара Праўду новы рахунак не цікавіў. Аднак заробак з лонданскай газеты ён атрымліваў праз банк; ці значыць гэта, што адтуль яму больш не збіраліся прысылаць грошы? Так, *менавіта так*! Бо ён сам збіраўся ў Лондан, прычым надоўга. Невыпадкова ягоная кватэра была прыбраная — як калі гаспадары з'язджаюць на працяглы тэрмін. Чаму ён пра гэта маўчаў?

Спадар Праўда скончыў свой раман і сказаў, як заўважыў *гер* Дэрык, што *пра яго* будуць пісаць на першых палосах газет. Хоць спадар Праўда быў ганарлівы, але ж не дурны: ён добра ведаў, што пра пісьменнікаў на першых палосах не пішуць. Хіба толькі калі яны апы-

нуцца ў цэнтры вялізнага скандалу. *Précisément*! Пра гэта і гаворка! Спадар Праўда скончыў свой раман і *нікому* яго не паказаў. Бо ведаў, што калі хоць нехта яго прачытае, гэта спрацуе як дэтанатар. Ён хацеў ціхенька з'ехаць у Лондан, адтуль даслаць рукапіс свайму выдаўцу і чакаць. Бо ён сапраўды напісаў, як высветліў... эмм... *таварыш* Зэман, кнігу пра *святых новай эпохі*. Аднак не пра заходніх, а пра *ўсходніх*. Пра тых, хто тут, у Славакіі, будуе вілы з вежачкамі і хто, дзякуючы сваёй палітычнай пазіцыі, недатыкальны. Як мы ведаем, ён тры гады працаваў над раманам. Апошні год ён правёў у Кінчары, бо яму трэба было ведаць, як такія святыя новай эпохі паводзяцца ў прыватным жыцці. І як вы ўсе пабачылі, яны ствараюць вакол сябе пекла. Я б сказаў, што да таго часу ён пісаў свой раман не пра канкрэтную асобу, але чым даўжэй ён жыў у Кінчары, тым больш з неканкрэтнага дэпутата вымалёўваўся спадар Нотбург. Ці меў ён згрызоты сумлення і з гэтай нагоды — да гэтага я яшчэ вярнуся, але безумоўна ён адчуваў іх у дачыненні да маладзенькай Зузаны, якую палюбіў. Ён *баяўся* ў яе прысутнасці, бо ўсведамляў, які боль ёй прычыняе, і разумеў, што прыйдзе пасля. Грошы, якія ён зняў, ён вырашыў пакінуць Зузане, каб у выпадку неабходнасці яна магла выехаць за мяжу. Ён хацеў «аблегчыць сваё сумленне».

Далей: звярніце ўвагу на адказ спадара Нотбурга наконт характарыстыкі спадара Праўды. Нотбург сказаў: *«Гэта быў джэнтльмен»*. І сапраўды. Як джэнтльмен Праўда дзейнічаў, напрыклад, і тады, калі спадарыні Хвалавай падараваў падручнік мовы жэстаў. Ён меркаваў, што людзям досыць *намякнуць*, як ім варта дзейнічаць, і тыя так і зробяць. Наіўнасць наіўных палягае на тым, што яны пераацэньваюць значэнне *добрай парады*.

Мсье Пуаро ўздыхнуў.

— Цяпер прыгадайце, як містэр Марлоў спытаў у Зузаны Хвалавай, калі яна бачыла спадара Праўду апошні раз? Яна сказала: «У суботу пад вечар, ён прынёс *нейкія часопісы*». Над гэтым трэба было задумацца. У спадара Нотбурга пачынаюць збірацца госці на святкаванне імянінаў, а спадар Праўда ў гэты час прыносіць туды *нейкія часопісы*. Ён нават не ідзе павіншаваць? Вядома ж не! Спадар Праўда аднёс Нотбургу маленькі падарунак, *«нешта для бацькі»* — так, магчыма, ён сказаў Зузане, якая яму адчыніла. Калі пазней яна пыталася, што там было, спадар Нотбург адказаў, што *«нейкія часопісы»*. Гэта пачулі і мы. Аднак у падарунку для бацькі быў *рукапіс*. Спадар Праўда ведаў, што неўзабаве пакаціцца жахлівая лавіна, а таму як ён быў «джэнтльмен», ён хацеў папярэдзіць спадара Нотбурга. Да рукапісу ён прыклаў свой нож з надпісам «Праўда пераможа!». Выключна джэнтльменскі жэст. Ведаеце, ён хацеў *даць дэпутату добрую параду*. Напэўна, ён паслаў бы і рэвальвер, калі б ён у яго быў. Калісьці гэтак рабілі, калі некаму даваўся апошні шанец пазбегнуць скандалу.

Спадар Нотбург разгарнуў падарунак і зірнуў у рукапіс. Ён усё зразумеў. Аднак ужо збіраюцца госці! Увесь вечар ён правёў паміж гасцямі і чытаннем рукапісу. І роздумам! Ён *ведаў*, што Праўда настолькі джэнтльмен, што рукапіс паслаў яму першаму. Ён *ведаў*, што для яго гэта значыць поўны канец. Ён *не ведаў*, колькі ён мае часу. *Ведаў* адно: дзейнічаць ён павінен *імгненна*. Аднак у зале было поўна людзей, і выйсці з дома незаўважна было немагчыма. А той нож яго страшэнна раз'юшыў. Вы толькі ўявіце, што вам нехта хоча знішчыць жыццё і падае вам набіты рэвальвер з заклікам: застрэлься! Тады Нотбург успомніў пра забойства, якое я некалі раскрыў у Месапатаміі.

Мсье Пуаро нясціпла ўдарыў сябе некалькі разоў у грудзі.

— Гэта сапраўды было *зымітаванае забойства.* Спадар Нотбург быў вясковы хлопец, пэўна ж, ён гуляўся ў дзяцінстве з рагаткай. Ад вежачкі ў доме Нотбургаў да акна спадара Праўды ўсяго пара метраў. Дэпутат — *паляўнічы*, ён умее дакладна цаляць *нават у цемры.* Ён падрыхтаваў рагатку, на гэта ў яго было некалькі гадзін, стаў да акна і пазваніў спадару Праўду. Сказаў яму нешта накшталт: «Сябра, дзякую табе за шанец, пагасі святло і падыдзі да акна, нешта табе пакажу». Спадар Праўда мусіў думаць, што стане сведкам тэатральнага самагубства. Таму як ён сам «заклікаў» да гэтага, то цяпер і паслухаўся. Як мы ведаем, вокны былі адчыненыя, было незвычайна цёпла. Хвіліну яны стаялі адзін насупраць аднаго, потым спадар Нотбург прыцэліўся і стрэліў. Але ў рагатцы была не папяровая кулька. Там быў нож з надпісам «Праўда пераможа». І спадар Праўда памёр.

Забойца з гасцямі пайшоў на паляванне, пад раніцу вярнуўся і злачынства давёў да канца. Цела было пад акном на лінолеуме. Ён *павярнуў* лінолеум так, каб цела ляжала ў бок дзвярэй, ад акна, якое ён зачыніў. Ён дамаляваў «таямнічы знак», у якога не было ніякага іншага сэнсу, акрамя як пацвердзіць, што цела ўпала так, як яго потым знайшлі. Ён зрабіў новыя — Праўдавы — адбіткі пальцаў. Дзверы пакінуў адчыненымі, каб выглядала, што забойца сышоў праз іх. Грошы ён забраў не таму, што ў яго іх было мала. Проста сіла звычкі.

Бяздомны насамрэч нікога не бачыў. Бо была купальская ноч, паўсюль адзначалі, ён шукаў, дзе б што сцягнуць. У Кінчары ён зусім не быў, і тое, што ён *нікога* не бачыў, мусіла быць *ягоным* алібі.

Адпачатку мяне ва ўсёй справе раздражняла адна рэч: *чаму ў спадара Праўды ў руцэ была крэйда?* Так, *mesdames et messieurs*, — узняў голас мсье Пуаро, — паводле ўсіх сведчанняў, спадар Праўда мусіў быць у *цемры*, дык адкуль, *mon Dieu*, у яго ў руцэ *выпадкова* апынулася крэйда? Але калі ў яго яе не было да забойства,

то ці магу я, Эркюль Пуаро, паверыць, што чалавек на парозе смерці будзе шукаць крэйду, а не дапамогу? Да таго ж, пры адчыненых дзвярах!

Забойца нас старанна пераконваў, што знак намаляваў Праўда. Але ж чаму крэйдай? Чаму не тым, што прыйдзе да галавы першым — *крывёй*? Чаму ён адмовіўся ад такой уразлівай карціны, якая ў той жа час падкрэслівала б... эмм... аўтарства? А таму, што забойца, — голас мсье Пуаро гучаў драматычна, — да сваёй ахвяры дабраўся тады, калі кроў, *pardon*, ужо не была матэрыялам, прыдатным для пісання. Ён *вымушаны* быў скарыстацца крэйдай.

Павіслую цішыню абарваў спадар Вінтэрмантэль:

— Геніяльна, сапраўды ге-ні-яль-на! Гэта абсалютна дасканала!

Нечакана пачуўся голас *Таго чалавека*:

— Прабачце, калі ласка, дайце мне ўжо сказаць, што...

## Развязка ў справе забойства ў Жлуктаве

*Рашэнне паводле адзінага аматара сярод геніяльных дэтэктываў — старасты мястэчка Жлуктаў*

Нечакана пачуўся голас *Таго чалавека*:

— Прабачце, калі ласка, дайце мне ўжо сказаць, што... — дэтэктывы павярнуліся да *Таго чалавека*, а потым — як на загад — зноў да спадара Вінтэрмантэля. Відавочна, ніхто з дэтэктываў ужо не памятаў, што гэта за чалавек і чаму ён тут. Спадар Вінтэрмантэль яго зноў прадставіў:

— Гэта стараста Жлуктава.

Стараста трохі peралякана вырачыўся ў стол. Пачухаў сабе за вухам. Пакруціў галавой. Уздыхнуў. Потым злучыў далоні, як пры малітве.

— Людцы! Прабачце, я з самага пачатку спрабаваў вам гэта сказаць, але ён, — староста з дакорам паглядзеў на спадара Вінтэрмантэля, — усё не хацеў даць мне слова. Я ведаю, вы ўсе вядомыя персанажы, і для нас гонар, што вы тут, але я мушу вам нарэшце сказаць...

Староста зноў разгублена змоўк і толькі пасля досыць працяглай паўзы выціснуў з сябе:

— Войта Прыгнанец ачухаўся.

Увесь тузін вялікіх дэтэктываў глядзеў на яго з недаўменнем. Ён працягваў:

— Прабачце, калі ласка, не сярдуйце, але вы мусіце гэта ведаць.

Ён зноў з дакорам паглядзеў на спадара Вінтэрмантэля, глыбока ўдыхнуў і пачаў тлумачыць:

— Выплаты нам прыходзяць заўсёды дваццатага. У тую суботу было ўжо дваццаць трэцяга, гэта тры дні. Грошы канчаліся, дык мужыкам у карчме не было за што піць. Тады Войта Прыгнанец прыгадаў, што швагер вінны яму восемдзесят крон. Яго звалі Людусь, таго швагра. Таксама Прыгнанец, ага. Людусь Прыгнанец. Дык Войта да яго і пайшоў. Недзе праз гадзінку вярнуўся і сказаў, што, мусіць, швагра забіў, бо ляжыць там з нажом у сэрцы. І што ён нейкі дзіўны, ані да сябе не падобны. Мужыкі думалі, што ён, як заўсёды, п'яны, і не бралі да галавы. А тады ім Войта паказаў гэтую, як яе... абувалку.

У спадара Вінтэрмантэля быў зусім збянтэжаны выгляд:

— О Божа! Якую абувалку?

— Ды во гэную, ага, — сказаў староста і выцягнуў з партфеля шэрую металічную лыжачку для абутку.

Ён з піетэтам паклаў яе перад сабой.

— Сказаў, што ўзяў яе ў нябожчыка Людуся, бо заўсёды марыў пра такую. Адно што той Людусь Прыгнанец, той швагер, памёр ужо з год таму, ад гэнага, ад

цырозу печані, ага. Ну, усіх гэта збянтэжыла, бо як бы тады Войта змог яго закалоць цяпер? Ну ведаеце, нашыя не любяць спяшацца, таму яны разважалі, што ды як. А Войта сіламоц хацеў пайсці ў паліцыю здацца, што ён, маўляў, забойца. Мужыкі яму не пярэчылі, хай здаецца, калі яму гэтак хочацца! Але ж ён паблытаў дарогу і зайшоў у сад за касцёлам. Ну і з той пары там адсыпаўся. І я ўсё ніяк не мог вам сказаць, што ён ужо ачухаўся.

Дэтэктывы ўражана маўчалі. Маўчаў і спадар Вінтэрмантэль. Стараста зноў пачухаў за вухам.

— Ну, а мужыкі дагэтуль у карчме разважалі. Ведаеце, Войта Прыгнанец заўсёды ўсё блытае. Раз выбраўся з кантрабандай у Польшчу, а замест таго дайшоў да Вугоршчыны. А нядаўна забыў, што ўжо жанаты, і хацеў пабрацца з касавокай Юльцяй, што ходзіць да нас у грыбы.

Спадар Вінтэрмантэль ад немачы зажмурыў вочы. Стараста Жлуктава паслужліва пачакаў, калі той іх расплюшчыць, і толькі потым працягнуў:

— Урэшце мужыкі ўзялі гэную абувалку і прыйшлі да мяне. Што раз я прадсядацель, дык каб вырашыў. Мяне тады ў карчме не было. У мяне быў гэны... герпес, — дадаў ён у сваё апраўданне.

Містэр Нэра Вулф падняў указальны палец:

— Як нас інфармаваў спадар Вінтэрмантэль, Людусь Прыгнанец быў мінулым уладальнікам дома ў Кінчары, у якім пасяліўся пісьменнік Праўда.

Усе дэтэктывы кіўнулі. Да няшчаснага старасты звярнуўся лейтэнант Каломба:

— Вы хочаце сказаць, што прайшло столькі часу, пакуль яны дадумаліся звязаць забойства спадара Праўды са сцверджаннямі гэтага... Прыгнанца, што ён некага забіў?

— Ну я ж кажу, — стараста падняў рукі, — у нас тут не любяць спяшацца.

Сяржант Мэйкпіс рэзка запярэчыла:

— Але ж не мог спадар Прыгнанец столькі часу высыпацца з пахмелля!

Цяпер здзівіўся стараста:

— Чаму не мог? То ж усяго тры тыдні!

Засмучаны спадар Вінтэрмантэль, усё ніяк не могучы ачомацца, спытаў:

— Вы сцвярджаеце, што Войта Прыгнанец забіў спадара Праўду, бо з перапою паблытаў яго са шваграм, які ўжо год як мёртвы?!

— Прабачце, я нічога не сцвярджаю. Я толькі паўтараю, што казалі мужыкі ў карчме. Войта прыгадаў, што Людусь застаўся яму вінны восемдзесят крон, і выйшаў з карчмы. А калі вярнуўся, дык сказаў, што, пэўна, яго закалоў, але што ён сам да сябе нейкі не падобны. Я ж кажу, ачухаўся ён. Я б яго, калі дазволіце, паклікаў...

— *Mon Dieu*, — выгукнуў Эркюль Пуаро, — але чаму *абувалка*?

— Ды адкуль я ведаю, — адказаў стараста. — Такая абувалка заўсёды згадзіцца, хіба не?

Спадар Вінтэрмантэль грукнуў кулаком па стале.

— Але ж гэта нечувана! У дэтэктыве забойцам *не можа* быць той, хто не выступае ад пачатку дзеяння! Якая карчма? Які швагер? Якая абувалка? І як патлумачыць «таямнічы знак», фразу пра сумленне, грошы, постаць, якую бачыў бяздомны, страчаны рукапіс пра святых? А?

Стараста схіліў галаву:

— Прабачце... Гэтага я не ведаю. Але ж Войта вам усё сам патлумачыць. Хоць я б яму надта не верыў, бо нядаўна ён бажыўся, што гутарыў з марсіянінам, які яму сказаў, што ў Славакіі неўзабаве будуць калоніі ў гэным, у Кювеце. Мо ён зноў усё прыдумаў. Ці паблытаў. Ці там зусім і не быў. Ці ўжо знайшоў спадара пісьменніка забітым. Ці...

Спадар Вінтэрмантэль застагнаў.

Астатнія сядзелі без гуку.

Стараста Жлуктава зноў засаромеўся, аднак прапанаваў:

— Дык а вы... не хочаце паслухаць Войту Прыгнанца? Ці мужыкоў з карчмы? Цяперака яны цвярозыя. Выплаты ж пакуль няма.

Спадар Вінтэрмантэль схіліў галаву і ледзь чутна казаў сам сабе:

— Дванаццаць самых геніяльных дэтэктываў усіх часоў, дванаццаць самых геніяльных рашэнняў — і ўсё дарма! Можна ўсё пачынаць наноў. — Ад лютасці ён ледзь не душыўся.

— Што ж, усё зразумела, — прамовіў містэр Нэра Вулф і ўстаў. — Спадарства, дазвольце развітацца. — Ён павярнуўся да спадара Вінтэрмантэля і сказаў цішэй: — Я дастаў выдатны рэцэпт бруснічнага пірага. Калі б не гэта... — не дагаварыўшы, ён выйшаў з памяшкання, а за ім і ягоны асістэнт містэр Гудвін, які яшчэ паспеў усміхнуцца сяржанту Мэйкпіс і адсалютаваць маёру Зэману.

Агент Скалі і агент Малдэр адначасова закрылі лэптопы, адначасова ўсталі і адначасова падалі рукі спадару Вінтэрмантэлю. З прафесійнай усмешкай яны пажадалі яму далейшых поспехаў.

Містэр Шэрлак Холмс прашаптаў доктару Ўотсану:

— Я ж казаў, што гэта вельмі адметны народ! — ён падышоў да лыжачкі для абутку, падрабязна разгледзеў яе праз лупу і нават вымераў складным метрам. Потым выцягнуў з-пад крэсла футляр са скрыпкай, пакланіўся, і яны разам з доктарам Ўотсанам годна падаліся да выхаду.

Дэтэктыў першай катэгорыі Стыў Карэла не сказаў ані слова. Ён ні з кім не развітаўся, проста ўстаў і скіраваўся да дзвярэй. У іх ён павярнуўся, кіўнуў старасту Жлуктава і з задуменным тварам выйшаў.

Лейтэнант Дэмпсі падышоў да спадара Вінтэрмантэля і ўхмыльнуўся:

— Не бярыце да галавы. Ніхто не дасканалы.

Сяржант Мэйкпіс шапнула Дэмпсі:

— Акрамя мяне, вядома.

Праз імгненне пачуўся гук матора, які паступова сціхаў удалечыні.

Інспектар Каломба нерашуча ўстаў, зачапіўшы і скінуўшы на падлогу клубок воўны, што ляжаў на стале перад міс Марпл, а з кішэні ў яго зноў выпала незапаленая цыгарэта. Ён падняў яе, хвілю на яе пазіраў, быццам не ведаў, што гэта, потым пачасаў лоб, падняў руку на знак развітання і пакрочыў да дзвярэй. У іх ён спыніўся і прамовіў:

— Каб не забыць, спадар Вінтэрмантэль, напішыце мне, як усё скончыцца. Місіс Каломба будзе цікава.

Нарэшце ён запаліў цыгарэту і выйшаў.

Міс Марпл падышла да спадара Вінтэрмантэля і прыязна ўсміхнулася:

— Даражэнькі спадар Вінтэрмантэль, для мяне гэта зусім не быў *страчаны* час, паверце. Паглядзіце! — і міс Марпл паказала спадару Вінтэрмантэлю давязаную дзіцячую шапачку, якую разам з рэшткамі воўны і спіцамі ўклала ў вялікую чорную торбу. Пасля гэтага і яна з усмешкай пашыбавала да выхаду.

Спадар Вінтэрмантэль змучана ўздыхнуў і зноў заплюшчыў вочы.

Ён расплюшчыў іх, толькі калі адчуў сяброўскае паляпванне па плячы.

— Калі прыедзеце ў Францыю, заходзьце, — развітваўся камісар Мегрэ. — Улетку ў Парыжы і так не праціснуцца сярод турыстаў... так што тут было добра... так ціха... па-хатняму...

Гер Штэфан Дэрык і ягоны асістэнт Гары Кляйн дысцыплінавана пачакалі, пакуль спадар Вінтэрмантэль

вызваліцца, а потым падалі яму рукі. Інспектар Дэрык сказаў:

— Да пабачэння, гер Вінтэрмантэль. Дашліце нам, калі ласка, выніковы рапарт, каб мы маглі дадаць яго ў архіў. Дзякую.

— Дзякую, і не забудзьце даслаць нам выніковы рапарт, каб мы маглі дадаць яго ў архіў, — паўтарыў ягоны асістэнт Гары Кляйн.

Таварыш Зэман павярнуўся да спадара старасты з пытаннем:

— Той Прыгнанец, той мёртвы Прыгнанец... ці не быў гэта наш агент з кодавым імем Сокал?

Стараста з сумневам пакруціў галавой:

— Ды не. Каб быў ён, пра гэта ўжо даўно ведаў бы ўвесь Жлуктаў. Але адзін такі ў нас некалі быў, рабіў у калгасе на ферме...

Таварыш маёр рэзка паргразіў яму пальцам:

— Мы гэта праверым, не хвалюйцеся! — адрывіста сказаў ён і пайшоў.

Мсье Пуаро падняў лыжачку для абутку і спытаў у спадара Вінтэрмантэля:

— Ці мог бы я пакінуць яе сабе як *souvenir*? Разам з трубкай для атрутных дроцікаў паўднёваамерыканскіх індзейцаў гэта будзе аздобай усёй маёй калекцыі рарытэтаў.

Калі спадар Вінтэрмантэль разгублена кіўнуў, Эркюль Пуаро засунуў *souvenir* у кішэню, пакланіўся на ўсе бакі свету і грацыёзна пакрочыў да дзвярэй.

Містэр Філ Марлоў прасачыў за ім поглядам і ўхмыльнуўся:

— У вас плацяць абувалкамі? У нас прынята ў далярах... але прынамсі цяпер я ведаю, якая тут стаўка за дзень, — ён прыціснуў капялюш да ілба, дастаў з кішэні чарговую жуйку і з ціхім смехам знік.

Староста і спадар Вінтэрмантэль засталіся адны. Староста засмучана спытаў:

— А чаго ўсе раптам пайшлі? Я ж толькі сказаў *праўду*.

Спадар Вінтэрмантэль адно махнуў рукой.

— Праўду, праўду! Гэта былі Вялікія Дэтэктывы, а вы на іх з нейкай сваёй праўдай... Вялікім Дэтэктывам патрэбныя вялікія ўскладненні, хітрамудрыя злачынствы, смелыя выкрыцці, ад якіх ажно дых перахоплівае. А вы ім падкінулі нейкіх мужыкоў у карчме! Каго гэта цікавіць?!

Староста выглядаў збянтэжаным. Ён сказаў:

— Войта з мужыкамі чакаюць насупраць карчмы. Яны слова далі, што сёння ніякай выпіўкі. Калі б гэныя дэтэктывы засталіся, дык усё рашылі б адным скокам.

— А нашто? Каб даведацца, што нейкі п'янюга... — спадар Вінтэрмантэль толькі паціснуў плячыма.

— Гэтулькі старанняў дарма! — уздыхнуў староста.

Спадар Вінтэрмантэль агледзеў пустое памяшканне.

— Прынамсі міс Марпл давязала шапачку, — сказаў ён сам сабе невясёла. І адразу выкрыкнуў: — Вы хоць разумееце, што вы з мяне зрабілі? Я ўжо ніякі не с. л. п., я цяпер а. л. п. — *адмоўны літаратурны персанаж*! Што ж мне рабіць? — ён усхліпнуў.

У старасты дрыжаў голас:

— Я сапраўды не хацеў, не, ну праўда, не перажывайце, не ведаю, чым бы я мог... чакайце, у мяне ёсць ідэя! — ягоны твар праясніўся. — Ды што ідэя, у мяне ёсць нешта, што памагае ўсім.

Ён устаў і праз хвіліну вярнуўся з поўнай бутэлькай і дзвюма чаркамі. Наліў.

Спадар Вінтэрмантэль без словаў выпіў. Потым другі раз. Трэці. Асуджанасць на ягоным твары паступова знікала. Ён сказаў:

— Але ж гэта былі *цудоўныя рашэнні*, праўда?

— Цудоўныя, — пагадзіўся стараста, — адно цудоўнейшае за другое. Мне спадабалася, як прыдумаў інспектар Каломба. Пра тую траву.

— І за гэта вып’ем! — сказаў спадар Вінтэрмантэль ужо значна больш разняволена.

Стараста наліў і дадаў:

— А яшчэ мне надта спадабалася рашэнне міс Марпл. Што той знак нічагуткі не значыць.

Цяпер пагадзіўся спадар Вінтэрмантэль і сказаў:

— Ага. Але я ўсё ж лічу, што самае цудоўнае рашэнне было ў мсье Пуаро.

Стараста захоплена выгукнуў:

— Ага, было файна. Сапраўды ге-ні-яль-на! Давайце за гэта!

Яны пачаркаваліся. Потым яшчэ, яшчэ і яшчэ.

Пад вечар абодва ўжо блазнавата пасміхаліся.

— Ура... уры... урэшце, — нарэшце спадару Вінтэрмантэлю ўдалося вымавіць правільна, — усё ж мела сэнс прыехаць сюды, у Жлуктаў.

— Вып’ем за гэта! — пагадзіўся стараста.

І яны абняліся.

*Пераклаў са славацкай Сяргей Сматрычэнка*

## ЖАН ЖЫРАДУ

# НА ВАЛАСКУ

Пакінуўшы абдымкі місіс Шэрлак Холмс, па дарозе дадому я раптам сутыкнуўся (шанцуе ж мне!) з яе мужам.

— Вось дык сустрэча! — прамовіў знакаміты дэтэктыў. — Павячэраем разам? Я ж вас сто гадоў не бачыў!

Відаць, хваляванне ўсё ж мільганула на маім твары, таму што Шэрлак злёгку ўсміхнуўся:

— Бачу я, — сказаў ён, — што містэр ідзе да каханкі.

Скажу «не» — атрымаецца, што нешта хаваю. Скажу «так» — падумае, што пазбягаю яго. Таму я адказаў — мабыць, даволі паспешліва, — што вышэйзгаданая каханка выдатна ўмее чакаць і што я магу завітаць да яе а восьмай, а магу і а дзявятай. Зрэшты, калі ёй гэта не падабаецца, магу і зусім не хадзіць...

Тут Шэрлак абняў мяне за плечы і перабіў:

— Хопіць мармытаць, дружа. Вось вы і трапіліся! Насамрэч вы ідзяце са спаткання!

Дрыжыкі прайшлі па маім целе і дабраліся да валасоў, якія ўсталі дыбарам. На маё шчасце, ён дадаў:

— Хопіць жартаў, хадзем у рэстаран. На жаль, не магу запрасіць вас да сябе, бо мяне ніхто не чакае: у пакаёўкі выходны.

Здаецца, пранесла. Мой сябра глыбока задумаўся, гледзячы ў сваю талерку, але я вырашыў, што задумен-

насць гэтая мае дачыненне да якога кішэннага злодзея альбо сутэнёра... І раптам ён злёгку крануў нагой маю шчыкалатку.

— А вось і доказ, — сказаў ён.

Ягоную задуменнасць як рукой зняло.

— Бясспрэчны і неабвержны доказ таго, — патлумачыў мне Холмс, — што ў вас было спатканне. Вашыя чаравікі зашпіленыя толькі на палову гузікаў, значыць, вас альбо знянацку заспелі на гарачым, што даволі непраўдападобна, бо ваш гальштук няспешна завязаны жаночаю рукой, альбо вы наведвалі дом, дзе не выкарыстоўваюць кручкі для абутку, ангельскі дом, напрыклад[1].

Усмешка ў мяне атрымалася даволі крывая.

— У кожнай жанчыны, — выцiснуў я, — ёсць шпількі на валасы, якія выдатна замяняюць кручкі.

— А ў вашае каханкі іх няма, — адмахнуўся Холмс. — Магчыма, вам невядома, што англічанкі даўно заснавалі лігу змагання супраць шпілек. Зрэшты, каб не хадзіць далёка, скажу, што жанчыны, якія носяць парык, шпількамі ўвогуле не карыстаюцца. Каму, як не мне, пра гэта ведаць: мая жонка да іх належыць.

— Хм-м... — мармытнуў я.

Ён відавочна забаўляўся, катуючы мяне. Да таго ж гэты ёлупень пасадзіў мяне спінай да акна, так што скразняк працінаў да касцей. Я чхнуў. Дастаючы насоўку, я выпадкова выпусціў з рук іншую — упрыгожаную карункамі, крышку большую за ліст, крышку меншую за маю далонь. Шэрлак паклаў яе на стол і зноў занурыўся ў сузіранне.

— Гэта жаночая насоўка, — урэшце прамовіў ён.

І ўхмыльнуўся.

— Якое дзяцінства! — сказаў Холмс. — Вы выкрылі сябе насоўкай! З часоў Яга і Атэла насоўкамі не грэбу-

[1] Ангельцы і англічанкі, як вядома, аддаюць перавагу чаравікам на шнурках, што носяць назву «рышэльё» *(заўвага аўтара)*.

юць хіба што аперэты. Але не хочацца быць бестактоўным... Можна мне яе агледзець?

— Ды калі ласка, — як дурань, прамармытаў я. — Яна чыстая.

І, каб не страціць твару, пачаў насвістваць нешта ідыёцкае. Праўда, потым, зразумеўшы, што страта аднаўленню не падлягае, змоўк. Зрабілася так ціха, што можна было б пачуць, як пралятае муха. Але гэтая гнюсь, як на злосць, недзе схавалася. Маё сэрца, скачучы на чацвертай хуткасці, гуло ў поўнай цішыні, нібы рухавік. Шэрлак адпіў з бакала бардо на палец, потым яшчэ на палец, а сваім уласным (указальным) тыцнуў у насоўку:

— Магу сказаць, што гэта жонка чалавека падазронага і далёка не дурнога, — заявіў ён. — Ініцыялаў няма.

Я з палёгкай кульнуў дзве вялізныя шклянкі вады. Шэрлак панюхаў насоўку, потым падсунуў яе мне пад нос.

— Чым пахне? — спытаў ён.

У нос біла парфумай «Конга», ды так, што бакаса двухтыднёвай вытрымкі, якім нас частавалі, цалкам можна было прыняць за голуба. Дый сезон палявання ў той дзень толькі адкрываўся.

— Ну і чым пахне? — прамямліў я.

На шчасце, Холмс ніколі не слухаў сваіх суразмоўцаў. Ён сам задаваў пытанне і сам на яго адказваў.

— Мне, — паведаміў ён, — нічым не пахне. Значыць, да гэтай парфумы я прывык. Напрыклад, «Конга»: ёй карыстаецца мая жонка.

Той, хто ніколі не апынаўся ўнутры малатарні альбо пад катком, наўрад ці здолее зразумець, якія абцугі сціскалі маё сэрца. Я нахіліўся над талеркай, спрабуючы раздражніць апетыт, і адчуў, як у гэтым маўчанні паветраны слуп, што ціснўў на плечы, зрабіўся ўдвая цяжэйшым. А Шэрлак усё працягваў мяне разглядаць.

— Волас, — сказаў ён.

Я паглядзеў у ягоную талерку.

— Гэта не волас, — сказаў я, — гэта, без сумневу, парэй.

Не адказваючы, ён падняўся і двума пальцамі зняў з майго пляча светлую шаўкавістую нітачку, мяккую і кароткую, — карацей, волас, з тых, што так добра выглядаюць на плячы мужчыны, калі на яго кладзецца галава каханай.

— Ну, і што гэта? — пацікавіўся Холмс.

— Гэта, — зацягнуў я голасам, які мне б вельмі хацелася палічыць раўнадушным, але які насуперак маёй волі па-здрадніцку задрыжаў, — гэта, як вы самі заўважылі, волас.

Холмс паклаў волас на белы абрус. Я паспрабаваў скарыстаць магчымасць, дадзеную мне парывам ветру і задуменнасцю майго ка́та, і чхнуў у кірунку воласа, які прыпадняўся, калыхнуўся, быццам змяя на хвасце, і тым не менш, гадзюка, са стала не зляцеў.

— Чхніце яшчэ раз, — скамандаваў Шэрлак Холмс, які, несумненна, заўважыў мае выкрунтасы.

Жарт мне ўдалым не падаўся.

— Чхайце самі, — раззлаваўся я, — калі так хочаце.

Ён чхнуў. Волас прыпадняўся, калыхнуўся (і глядзі вышэй).

— Гэта, без сумневу, волас ад парыка, — зрабіў ён выснову. — Аснова клейкая!

Волас зноў апусціўся і застыў паміж намі, нерухомы, як мумія. Мёртвы волас падаўся мне нашмат даўжэйшым, чым жывы.

Шэрлак асушыў свой бакал і паглядзеў скрозь яго, як праз лупу, спыняючы мае спробы падліць яму шаблі — зрэшты, немагчыма агіднага.

— Гэта волас маёй жонкі, — прамовіў ён.

Я паспрабаваў схаваць свой жах за лёгкай гуллівасцю.

— Што вы, што вы, мой дарагі! — заліваўся я салаўём. — Мадам Холмс такая прыгожая, ну куды мне, што вы!..

Ён глядзеў на мяне амаль з жалем.

— Мой бедны сябра, — уздыхнуў ён, — ужо хто-хто, але гэтая ірландка не першай свежасці...

Смерць усё ж лепшая за няпэўнасць. Цярпець не магу, калі мяне падсмажваюць на павольным агні. Тым больш калі вас слухае няздара-афіцыянт, які падае на стол, — яго я адаслаў прэч.

— Ну а цяпер, — пагрозліва сказаў я, падымаючыся і працінаючы Шэрлака позіркам, — давайце, тлумачце!

Я, як кажуць, браў быка за рогі, а можа, і яшчэ горш.

Мой супернік, аднак, не страціў ні кроплі спагадлівай іроніі.

— Калі ў двух словах, — сказаў ён, — то справа такая: вы ідзяце са спаткання і відавочна хвалюецеся, сустрэўшы мяне, — значыць, вы зацікаўлены ў тым, каб я не даведаўся, хто дорыць вам сваю прыхільнасць. Вашыя чаравікі не зашпіленыя, значыць... у вас не было магчымасці гэта зрабіць. Сёння ў маёй пакаёўкі выходны, і мая жонка дома адна. У вас насоўка, якая належыць маёй жонцы. Я знаходжу на вашым плячы волас з яе найлепшага парыка. Значыць...

Мае вочы ўтаропіліся ў адну кропку. Час цягнуўся тым павольней, чым хутчэй білася маё сэрца.

— Значыць, — сказаў Шэрлак, які ўвесь гэты час працінаў мяне позіркам удава, што сабраўся праглынуць трусіка, — значыць... Самі рабіце выснову.

Выснову я зрабіў, таму сядзеў, адкінуўшыся на крэсле і ліхаманкава сціскаючы свой рэвальвер — выдатны дванаццацізарадны браўнінг. Якая дурасць — увесь час цягаць яго незараджаным!

— Значыць, — спакойна вымавіў нарэшце Шэрлак, — і заўважце, сябра, я на вас не злуюся... вы — каханак маёй пакаёўкі!

— Афіцыянт! — загарлаў я. — Дзе вас чэрці носяць? Мне да ночы чакаць?! Цягніце шампанскае!

*Пераклала з французскай Кацярына Мацієўская*

## АРКАДЗЬ АВЕРЧАНКА

# ЗНІКЛЫ ГАЛЁШ ДОБЛЬСА

Пасля «Таймса» мы зайшлі
ў рэдакцыю «Дэлі-Нью»,
«Пэл-Мэл» і яшчэ ў некалькі...

*Сач. А. К. Дойла*

Мы сядзелі ў сваёй утульнай кватэры на Бэйкер-стрыт, а за акном тым часам ішоў дождж і выла навальніца. (Дзіўна: кожнага разу, калі я расказваю штонебудзь пра Холмса, без навальніцы і дажджу ніяк не абысціся...)

Такім чынам, навальніца, як звычайна, выла, Холмс, як звычайна, курыў, а я, як звычайна, чакаў магчымасці нечаму здзівіцца.

— Ўотсан, я бачу, у цябе флюс.

І я здзівіўся.

— Адкуль вы пра гэта дазналіся?

— Трэба быць пошлым дурнем, каб гэтага не заўважыць! Бо твая апухлая шчака падвязаная хусткай.

— Неверагодна! Вось дык назіральнасць!

Холмс узяў качаргу і завязаў яе сваімі жылістымі рукамі на шыі какетлівым бантам. Потым дастаў скрыпку і выканаў вальс Шапэна, накцюрн Настрадамуса і паланэз Васка да Гамы.

Калі ён заканчваў 39-ю сімфонію Юлія Генрыха Цымермана, у пакой з грукатам уваліўся невядомы чалавек у плашчы, запэцканым брудам.

— Спадар Холмс! Я Джон Бенгам... Богам малю, памажыце! У мяне скралі... скралі... Ах! Нават сказаць страшна...

У яго вачах туманіліся слёзы.

— Я ведаю, — стрымана сказаў Холмс, — у вас скралі фамільныя каштоўнасці.

Бенгам выцер рукавом слёзы і з непрыхаваным здзіўленнем зірнуў на Холмса.

— Як вы сказалі? Фамільныя... што? У мяне скралі мае вершы.

— Я так і думаў. Раскажыце пра абставіны справы.

— Якія там абставіны! Проста я ішоў Трафальгарскверам і нёс іх, значыцца, вершы гэтыя, пад пахай, а ён як выхапіць ды як пабяжыць! Я за ім, а галёш у яго і саскочыў. Злодзей, значыцца, збег, а галёш — вось.

Холмс узяў прапанаваны галёш, агледзеў яго, панюхаў, палізаў языком і ўрэшце, адкусіўшы кавалачак, з цяжкасцю разжаваў і праглынуў.

— Цяпер я разумею! — радасна сказаў ён.

Мы ўтаропіліся ў яго, поўныя чакання.

— Я разумею... Разумею, што галёш гумовы!

Мы ад здзіўлення ўскочылі з крэслаў.

Я ўжо трохі прызвычаіўся да бліскучых высноваў, якім Холмс сціпла не надаваў увагі, але на госця такое пранікненне ў сутнасць рэчаў падзейнічала страшна.

— Божа нас барані! Гэта проста нейкае чарадзейства!

Пасля сыходу Бенгама мы памаўчалі.

— Ведаеш, хто гэта быў? — спытаў Холмс. — Гэта мужчына, ён гаворыць па-ангельску, жыве цяпер у Лондане. Займаецца паэзіяй.

Я пляснуў рукамі.

— Холмс! Стары вы чарцяка! Адкуль вы ўсё гэта ведаеце?

Холмс пагардліва ўсміхнуўся.

— Я ведаю яшчэ больш. Я магу сцвярджаць, што рабаўнік, без сумневу, — мужчына!

— Ды якая сарока прынесла вам гэта на хвасце?

— А ты заўважыў, што галёш мужчынскі? Жанчыны такіх, вядома ж, не носяць!

Я быў прыгнечаны логікай свайго знакамітага сябра і ўвесь дзень хадзіў як дурань.

Двое сутак Холмс сядзеў на канапе, курыў люльку і граў на скрыпцы.

Ён сядзеў у аблоках дыму, нібы бог, і выконваў свае найлепшыя мелодыі.

Скончыўшы элегію Ньютана, ён перайшоў на рапсодыю Мікеланджэла і на сярэдзіне гэтай мілай дрындушкі ангельскага кампазітара звярнуўся да мяне.

— Ну, Ўотсан, збірайся! Я ўсё ж намацаў ніць гэтага загадкавага злачынства.

Мы апрануліся і выйшлі.

Ведаючы, што распытваць Холмса не мае сэнсу, я звярнуў увагу на дом, да якога мы падыходзілі. Гэта была рэдакцыя «Таймса».

Мы адразу адправіліся да рэдактара.

— Сэр, — сказаў Холмс, упэўнена сціскаючы тонкія вусны. — Калі чалавек, абуты ў адзін галёш, прынясе вам вершы, затрымайце яго і паведамце мне.

Я пляснуў рукамі.

— Божа! Як гэта проста... і геніяльна.

Пасля «Таймса» мы зайшлі ў рэдакцыю «Дэлі-Нью», «Пэл-Мэл» і яшчэ ў некалькі. І ўсіх папярэдзілі.

Потым пачалі чакаць.

Увесь час надвор'е было добрым, і ніхто да нас не прыйшоў. Але аднойчы, калі выла навальніца і бушаваў

дождж, нехта, запэцканы брудам, з грукатам уваліўся ў пакой.

— Холмс, — сказаў невядомы грубым голасам. — Я Доблься. Калі вы знойдзеце мой зніклы на Трафальгар-скверы галёш, я вас азалачу. Дарэчы, знайдзіце таксама гаспадара гэтых паскудных вершыкаў. Пасля чытання такой лухцені я страціў здольнасць піць сваю вечаровую порцыю віскі.

— Ну, шаноўны, гэтыя хітрыкі мы ведаем, — прамармытаў Холмс, спрабуючы зваліць нягодніка на падлогу.

Але Доблься скочыў да дзвярэй і, кінуўшы ў твар Шэрлаку рукапіс, як метэор, скаціўся са сходаў і знік.

Другі галёш мы пасля знайшлі ў вітальні.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я мог бы расказаць яшчэ пра лёс паэта Бенгама, яго вершаў і пары галёшаў, але з прычыны, што тут замяшаныя каранаваныя асобы, гэта здаецца мне не зусім зручным.

Апроч гэтага злачынства Холмс раскрыў іншыя, можа, нават больш цікавыя, але я расказаў пра зніклы галёш Добльса як пра справу, найбольш тыповую для Шэрлака.

*Пераклала з рускай Яніна Голуб*

## СТЫВЕН ВАН ДАЙН

# ДВАЦЦАЦЬ ПРАВІЛАЎ ДЭТЭКТЫЎШЧЫКА

Дэтэктыўная гісторыя — гэта гульня. Больш за тое, гульня азартная. І пісьменніку варта гуляць з чытачом сумленна, бо хітрыкі і мухлёж тут будуць выглядаць гэтак жа непрыстойна, як і ў брыджы. Пісьменніку трэба перахітрыць чытача, утрымаць яго ўвагу чыстым майстэрствам. У добрага дэтэктыўшчыка ёсць свае акрэсленыя правілы, мабыць, няпісаныя, але ўсё адно абавязковыя, і кожны паважаны вынаходнік літаратурных загадак іх трымаецца.

Такім чынам, перад вамі свайго кшталту крэда, якое часткова грунтуецца на досведзе ўсіх вялікіх пісьменнікаў і часткова — на праўдзівых унутраных назіраннях аўтара. А менавіта:

1. У чытача з дэтэктывам мусяць быць аднолькавыя ўмовы для рашэння загадкі. Усе падказкі трэба ясна абазначыць і апісаць.

2. Нельга свавольна хітрыць і мухляваць з чытачом, калі толькі гэта не законны мухлёж з самім дэтэктывам.

3. У гісторыі не мусіць быць ніякага кахання. Увесці любоўную лінію — значыць захламіць чыста інтэлектуальнае практыкаванне недарэчнымі сантыментамі. На-

шая задача — па справядлівасці адправіць злачынцу за краты, а не бедных каханкаў пад вянец.

4. Дэтэктыў ці адзін з тых, хто праводзіць афіцыйнае расследаванне, не павінен аказацца злачынцам. Гэта непрыкрыты падман — усё адно што выдаць начышчаны пені за пяцідаляравую манету з чыстага золата.

5. Злачынца можна лагічна вылічыць дэдукцыяй — а не выпадкова, па збегу абставінаў ці праз нематываванае прызнанне. Рашыць дэтэктыўную загадку адным з апошніх спосабаў — значыць наўмысна выправіць чытача на пошукі нечага недасягальнага, а пасля таго як ён здасца, сказаць яму, што ўвесь час тое, што ён шукаў, было ў вас. Такі пісьменнік нічым не лепшы за аматараў дурных розыгрышаў.

6. У дэтэктыўным творы мусіць быць дэтэктыў, а дэтэктыў не дэтэктыў, калі ён не расследуе. Яго роля ў тым, каб збіраць доказы, якія ў выніку выведуць на вінаватага ў паскудстве, учыненым у першай частцы. І калі дэтэктыў прыходзіць да такой высновы не праз аналіз гэтых доказаў, ён разгадаў загадку не лепей за вучня, што падгледзеў адказ у канцы падручніка.

7. У дэтэктыўнай гісторыі мусіць быць труп, і чым ён мярцвейшы, тым лепш. Злачынства, меншае за забойства, не спрацуе. Трыста старонак — зашмат шуму для простага злачынства. Да таго ж, чытацкія клопаты і страту энергіі варта ўзнагароджваць. Амерыканцы — людзі па сутнасці сваёй гуманныя, а таму першакласнае забойства абудзіць у іх пачуццё помсты і жаху. Яны захочуць прыцягнуць зламысніка да адказнасці, і калі «нялюдскае і подлае забойства»* адбылося, пошукі вінаватага распачынаюцца з усім праведным энтузіязмам, на які толькі здольны тройчы лагодны чытач.

8. Загадка злачынства мусіць быць раскрытая толькі натуралістычнымі метадамі. Такія спосабы дакапацца да праўды, як грыфельныя дошкі, дошкі Ўіджа, тэлепатыя,

крыштальныя шары і да т. п. — забароненыя. Чытач мусіць мець шанец памерацца розумам з рацыянальным дэтэктывам, а вось у змаганні са светам духаў і блуканнях у чацвертым вымярэнні метафізікі ён вырачаны *ab initio*[1].

9. У рамане мусіць быць толькі адзін дэтэктыў, адзіны пратаганіст, і ён жа — адзіны *deus ex machina*. Перадаць думкі трох, чатырох ці нават цэлай банды дэтэктываў, што б'юцца над праблемай, — значыць не толькі рассеяць цікавасць і разбурыць просты лагічны ход думак, але і атрымаць несправядлівую перавагу над чытачом, які адпачатку супрацьпастаўляе свой розум розуму дэтэктыва і распачынае з ім своеасаблівае спаборніцтва. Калі дэтэктываў больш чым адзін, чытач не ведае, з кім супернічаць. Гэта падобна да забегу, дзе чытачу трэба змагацца з цэлай эстафетнай камандай.

10. Злачынцам мусіць аказацца чалавек, які адыграў больш-менш заўважную ролю ў рамане — то бок чалавек, знаёмы і цікавы чытачу. Калі аўтар у апошняй частцы вешае злачынства на незнаёмца ці таго, чыя роля ў аповедзе была абсалютна незаўважнай, то прызнаецца ў няздольнасці параўнацца розумам з чытачом.

11. Служак — лёкаяў, аканомаў, камердынераў, леснікоў, кухараў і іншых — нельга абіраць злачынцамі. Толькі асобаў высакароднага паходжання. Бо гэта будзе занадта простым рашэннем, якое чытача не задаволіць, а толькі прымусіць думаць пра марна патрачаны час. Злачынца мусіць быць напраўду вартым чалавекам — тым, каго зазвычай нельга западозрыць. Бо калі б злачынства было справай рук падступнага служкі, аўтару не варта было б увасабляць яго ў кнізе.

12. Злачынца мусіць быць адзін, незалежнага ад таго, колькі забойстваў адбылося. У яго, безумоўна, можа быць памочнік ці суўдзельнік, але асноўная адказнасць

[1] Адпачатку *(лац.)*.

за здзейсненае мусіць ляжаць на адных плячах: чытацкае абурэнне варта сканцэнтраваць толькі на адным падступным характары.

13. Таемным таварыствам, каморам*, мафіі і г. д. няма чаго рабіць у дэтэктыве. Яны — атрыбуты прыгодніцкай ці шпіёнскай літаратуры. Захапляльнае і надзвычай прыгожае забойства безнадзейна сапсуецца ад такой масавасці віноўнікаў. Забойцу ў дэтэктыўнай гісторыі сапраўды варта даць магчымасць паспаборнічаць, але падтрымка цэлага таемнага таварыства (з прытулкамі на кожным кроку і калектыўнай пратэкцыяй) — гэта занадта. Ніводзін высакакласны забойца з пачуццём уласнай годнасці не захоча такіх перавагаў перад паліцыяй.

14. Спосабы забойства і яго расследавання мусяць быць рацыянальнымі і навуковымі. Варта заўважыць, што псеўданавуковыя і цалкам выдуманыя ды спекуляцыйныя спосабы не падлягаюць выкарыстанню ў *roman policier*. Напрыклад, забойства ахвяры нядаўна адкрытым хімічным элементам — скажам, супер-радыем — несумленнае. Таксама не дапускаецца забойства ахвяры рэдкім ці невядомым рэчывам, якое існуе толькі ва ўяўленні аўтара. Таксікалагічна кажучы, пісьменніку-дэтэктыўшчыку варта абмежавацца фармакапеяй*. Калі аўтар уваходзіць у сферы чыстай фантазіі, кшталту Жуля Верна, ён апынаецца па-за межамі дэтэктыўнай літаратуры, выпраўляючыся да нязведаных даляглядаў прыгодніцтва.

15. Разгадка дэтэктыву заўжды мусіць быць відавочнай — пры ўмове, што чытач выявіцца дастаткова разумным. Я маю на ўвазе, што калі б чытач пасля тлумачэння злачынства вырашыў перачытаць кнігу, то разгадка ў пэўным сэнсе мусіла б проста кінуцца ў вочы — бо ўсе зачэпкі напраўду паказвалі б на забойцу, і калі б чытач быў такім жа разумным, як дэтэктыў, ён бы сам разгадаў загадку, не чытаючы апошняй часткі. Тое, што

разумны чытач знаходзіць разгадку такім чынам, і так зразумела. І адна з асноўных маіх тэорый напісання дэтэктыўнага твора палягае на тым, што калі твор пабудаваны сумленна і па ўсіх законах, схаваць разгадку ад усіх чытачоў проста немагчыма. Пэўныя з іх непазбежна выявяцца такімі ж разумнымі, як і аўтар. І калі аўтар слушна трымаўся духу суперніцтва і сумленнасці ў выкладанні фактаў злачынства, яго планаванні і падборы доказаў, гэтыя праніклівыя чытачы, дзякуючы аналізу, адбору і логіцы, змогуць паказаць пальцам на злачынца ў той самы момант, што і дэтэктыў. Менавіта гэта і надае гульні пікантнасці. У гэтым і палягае адказ на пытанне, чаму чытачы, якія пагарджаюць звычайнай «папулярнай» літаратурай, будуць без сораму чытаць дэтэктывы.

**16.** У дэтэктыўным рамане не мусіць быць доўгіх апісанняў, ніякага літаратурнага какецтва з пабочнымі пытаннямі, ніякіх тонка прапрацаваных герояў, ніякага захаплення «атмасфернасцю». Такія рэчы не важныя для апісання злачынства і яго раскрыцця. Яны затрымліваюць развіццё дзеяння, уводзяць аспекты, не датычныя галоўнай мэты, якая заключаецца ў тым, каб выкласці праблему, прааналізаваць яе і прывесці да паспяховага рашэння. Канечне, патрэбная пэўная апісальнасць і накіды характараў герояў, каб надаць раману праўдападобнасці, але калі аўтар дэтэктыўнага твора дасягнуў той ступені літаратурнасці, калі створанае прывабнае пачуццё рэальнасці і абуджаная цікавасць і спагада чытача да герояў і праблемы, ён скарыстаўся чыста «літаратурнымі» тэхнікамі, наколькі гэта прымальна і стасоўна з напісаннем дакумента крымінальнага злачынства. Дэтэктыўны твор — суровая рэч, і чытач звяртаецца да яго не па літаратурныя фінціфлюшкі, ці стыль, ці прыгожыя апісанні ды адлюстраванне настрояў, а па трэніроўку для розуму і па інтэлектуальную працу — такую ж, як калі ён назірае бейсбольны матч ці разгадвае крыжаван-

ку. Лекцыі пра прыгажосць прыроды паміж падачамі мяча на Пола Граўндс* наўрад ці падвысілі б цікавасць да барацьбы дзвюх бейсбольных камандаў, а трактаты па этымалогіі і арфаграфіі ў крыжаванках толькі б раздражнілі разгадвальніка, засяроджанага на правільнай падгонцы словаў.

17. Прафесійны злачынца ў дэтэктыўнай гісторыі не мусіць несці цяжару іншых злачынстваў. Злачынствы ўзломшчыкаў і бандытаў — гэта сфера крымінальнага аддзела, а не пісьменнікаў і выбітных дэтэктываў-аматараў. Такія злачынствы складаюць будні крымінальнай паліцыі. Самыя ж захапляльныя забойствы ўчыняе набожны святар ці старая дзеўка, вядомая сваёй дабрадзейнасцю.

18. Злачынства ў дэтэктыўным рамане ні ў якім разе не мусіць аказацца няшчасным выпадкам ці самазабойствам. Скончыць адысею пошукаў такой антыкульмінацыяй — значыць недаравальна паздзекавацца з чытача. Калі б пакупнік кнігі запатрабаваў назад свае два даляры на той падставе, што злачынства было падманам, любы суд пастанавіў бы на яго карысць і даў бы суровую вымову аўтару за ашуканства даверлівага і добразычлівага чытача.

19. Усе матывы ў дэтэктыўным рамане мусяць быць асабістыя. Міжнародныя змовы і ваенная палітыка належаць да іншай катэгорыі літаратуры — прыкладам, да шпіёнскіх гісторый. А гісторыя забойства мусіць быць, як кажуць, *gemütlich*[1]. Яна мусіць выяўляць штодзённы жыццёвы досвед чытача, даваць пэўны выхад яго здушаным жаданням і эмоцыям.

20. І (каб акругліць колькасць запаветаў майго крэда) падаю тут спіс прыёмаў, якіх ніводзін годны дэтэктыўшчык не возьме на ўзбраенне. Занадта часта апісваныя, яны выдатна вядомыя ўсім сапраўдным аматарам дэтэк-

---

[1] Утульны *(ням.)*.

тыўнай літаратуры. Выкарыстоўваючы іх, аўтар прызнаецца ў сваёй прафнепрыдатнасці і адсутнасці арыгінальнасці:

а) высвятленне асобы злачынцы праз супастаўленне недакурка цыгарэты, пакінутай на месцы злачынства, з маркай цыгарэтаў падазраванага;

б) фальшывы спірытычны сеанс палохае злачынцу, які выдае сябе;

в) фальшывыя адбіткі пальцаў;

г) алібі ад падстаўной асобы;

д) сабака, які не гаўкае і тым выдае, што зламыснік — нехта свой;

е) абвінавачванне ў злачынстве блізнюка ці роднага, які выглядае дакладна гэтаксама, як падазраваны, але насамрэч невінаваты;

ж) шпрыц для падскурных ін'екцыяў ці пігулкі для страты прытомнасці;

з) здзяйсненне забойства ў зачыненым пакоі, пасля ўмяшання паліцыі;

і) гульня ў асацыяцыі як праверка вінаватасці;

к) шыфр ці закадаваны ліст, які ў выніку разгадвае дэтэктыў.

*Пераклала з ангельскай Юля Цімафеева*

## РОНАЛД НОКС

# ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕТАЎ ДЭТЭКТЫЎНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

1. Злачынцу варта ўвесці ў пачатку твора, але ім не павінен аказацца герой, чые думкі чытач можа адсочваць.

2. Усе звышнатуральныя і ненатуральныя дзеянні варта адразу выкрасліць.

3. Можна выкарыстоўваць не больш за адзін патаемны пакой ці праход.

4. Не дапускаецца выкарыстанне невядомых на час дзеяння твора атрутаў або прыстасаванняў, якія вымагаюць доўгага тлумачэння ў канцы.

5. Ніякіх кітайцаў у рамане.

6. Дэтэктыву не можа дапамагчы выпадак, а таксама невытлумачальныя падказкі інтуіцыі, што пасля спраўджваюцца.

7. Дэтэктыў не можа сам здзейсніць злачынства.

8. Калі дэтэктыў натрапіў на якія-кольвек доказы, яны мусяць адразу стаць вядомыя чытачу.

9. Дурны сябар дэтэктыва (Ўотсан) не павінен хаваць свае думкі. Яго розум мусіць быць крыху слабейшым, чым у звычайнага чытача, але толькі крыху.

10. Блізнятам і двайнікам звычайна не варта з’яўляцца ў творы, калі толькі мы не былі падрыхтаваныя да іх з’яўлення.

*Пераклала з ангельскай Юля Цімафеева*

# КАМЕНТАР

## Гілберт Кіт Чэстэртан

Гілберт Кіт Чэстэртан (1874–1936) — ангельскі празаік, паэт і эсэіст. Найбольш вядомыя творы з ягонай спадчыны — метафізічны раман «Чалавек, які быў чацвяргом», дэтэктыўныя апавяданні пра айца Браўна і хрысціянская апалагетычная праца «Вечны чалавек». Нарадзіўся ў Лондане. Блізка сябраваў з Хілэрам Бэлакам і настолькі часта выступаў з ім адзіным фронтам па розных пытаннях, што Бернард Шоў празваў іх «Чэстэрбэлак». Пра надзвычайную побытавую забыўчасць Чэстэртана хадзілі анекдоты. Так, расказвалі, што аднойчы ён адправіў з дарогі жонцы тэлеграму наступнага зместу: «Я ў Маркет Харбара. Дзе я павінен быць?» — і атрымаў варты пытання адказ: «Дома».

### ***Жалоба маркіза Марна***

*Акелдама* (Зямля Крыві) — паводле Новага Запавету, участак зямлі ў Ерусаліме, набыты для пахавання вандроўнікаў на грошы, атрыманыя Іудам ад першасвятароў за здраду Ісусу Хрысту.

## Эрнст Тэадор Амадэй Гофман

Эрнст Тэадор Амадэй Гофман (1776–1822) — нямецкі пісьменнік-рамантык, кампазітар, дырыжор, мастак, музычны крытык, юрыст. Сапраўднае імя — Эрнст Тэадор Вільгельм Гофман. Псеўданім як кампазітара — Ёган Крайслер. У цэнтры творчасці Гофмана — тэмы мастака і мастацтва, музыкі і музыкаў; асноўная ідэя — невырашальнасць канфлікту паміж мастаком і грамадствам; скразныя вобразы — мастак і філістар. У цыкле навелаў «Крайслерыяна» і ў «Фрагментах

біяграфіі Ёгана Крайслера», уведзеных у раман «Жыццёвыя погляды ката Мура», Гофман стварыў вобраз геніяльнага музыкі, самотнага, асуджанага на пакуты сярод людзей, далёкіх ад мастацтва.

## Эдгар Алан По

Эдгар Алан По (1809–1849) — амерыканскі паэт, навеліст, журналіст, філосаф, літаратурны крытык, адзін з самых значных прадстаўнікоў амерыканскага рамантызму і амерыканскай літаратуры ўвогуле, заснавальнік дэтэктыўна-фантастычнага жанру ў літаратуры. Уплыў По на паслядоўнікаў і пазнейшую сусветную літаратуру, прысутнасць яго твораў у еўрапейскай культуры перааацаніць складана. Пры жыцці ён быў практычна невядомы на радзіме. Спачатку, дзякуючы французскім перакладам Шарля Бадлера, яго адкрыла Еўропа, і толькі потым яго творчасць ацаніла Амерыка. Бернард Шоў выказаўся пра гэта наступным чынам: «По не жыў у Амерыцы, ён там памёр».

### *Скрадзены ліст*

Існуе некалькі спісаў апавядання з нязначнымі адрозненнямі. За аснову для гэтага перакладу было ўзятае апошняе прыжыццёвае выданне 1849 году.

*Луцый Анэй Сенека* (3 г. да н. э. — 65 г. н. э.) — рымскі філосаф-стоік, паэт і дзяржаўны дзеяч, выхавальнік Нерона.

*Джон Абернэці* (1764–1831) — знакаміты ангельскі анатам, навуковец і хірург. У яго гонар названая апісаная ім саркома Абернэці.

*...якія прыпісваюцца Ларашфуко, Лабруеру, Мак'явэлі і Кампанэлу... — Франсуа VI дэ Ларашфуко* (1613–1680) — французскі пісьменнік і філосаф-мараліст, аўтар «Максімаў» (1665) — зборніка афарызмаў, своеасаблівага кодэксу жыццёвай філасофіі. *Жан дэ Лабруер* (1645–1696) — французскі мараліст, аўтар адзінай працы — «Характараў», кнігі, якая складаецца з 16 частак, дзе дзве прысвечаныя царкоўнаму красамоўству і вальнадумству, а астатнія ўяўляюць вынік жыццёвых назіранняў. *Нікало Мак'явэлі* (1469–1527) — італьянскі пісьменнік, гісторык і палітычны дзеяч. Асноўную яго працу — трактат «Уладар» — на беларускую мову пераклаў Змісцер Колас. *Тамаза Кампанэла* (1568–1639) — італьянскі навуковец і пісьменнік. Яго асноўная праца, сацыяльная ўтопія «Горад Сонца», была напісаная ў 1602 годзе ў вязні.

*Неразмеркаванне сярэдняга* (лац. non distributio medii) — класічная памылка ў фармальнай логіцы. Адно з правілаў пабудовы простага катэгарычнага сілагізму кажа, што сярэдні тэрмін павінен быць размеркаваны хаця б у адной з пасылак.

*Себасцьен-Рош Нікаля дэ Шамфор* (1741–1794) — французскі пісьменнік, мысляр, мараліст, сакратар Якабінскага клуба, аўтар пасмяротна выдадзеных «Максімаў» (1795), адкуль і ўзятая цытата.

*Джэйкаб Браянт* (1715–1804) — ангельскі навуковец, даследчык міфалогіі, аўтар дзесяцітомнай працы «Новая сістэма, ці Аналіз антычнай міфалогіі» (1774–1776, апошнія шэсць тамоў — 1807), адкуль і ўзятая цытата. Асноўная ідэя працы палягае ў тым, што ўсе рэлігіі свету звязаныя, бо ў аснове іх усіх ляжыць адна сістэма бачання свету. Ідэя гэтая выведзеная аўтарам дзякуючы вывучэнню хрысціянскай дактрыны.

*Лёгкі спуск праз Аверн* (лац. facilis descensus Averni) — цытата ўзятая з «Энеіды» Вергілія (VI, 126–129). Спуск праз Аверн — дарога ў падземны свет: Авернскае возера ля горада Кумы ў Кампані лічылася ўваходам у іншасвет.

*Анжэліка Каталані* (1780–1849) — знакамітая італьянская оперная спявачка. Пакінуўшы сцэну ў 1828 годзе, яна прысвяціла жыццё стварэнню і падтрымцы бясплатнай музычнай школы для дзяўчат у Фларэнцыі.

*«Жахлівая пачвара»* (лац. monstrum horrendum) — цытата з «Энеіды» Вергілія (III, 658), дзе апісваецца Цэрбер: «Monstrum horrendum, informe, ingens, cui lumen ademptum» («Страшнае, злое, жахліва агіднае, змроку стварэнне»).

*Праспэр Жаліё Крэбіён* (1674–1762) — французскі паэт і драматург, аўтар шэрагу п’есаў, у тым ліку і «Атрэя», заснаванага на сюжэце «Фіеста» Сенекі. У п’есе апісваецца суперніцтва паміж братамі Атрэем і Фіестам. Фіест спрабаваў здабыць уладу над Мікенамі, выкраўшы ў брата залатое руно. Выкрыты багамі і выгнаны Атрэем, Фіест скраў сына Атрэя Плісфена і выхаваў яго ў нянавісці да бацькі. Ён хацеў падбухторыць Плісфена забіць Атрэя, але Плісфен загінуў ад бацькавай рукі. Даведаўшыся пра гэта, Атрэй забіў сыноў Фіеста і, запрасіўшы брата на бяседу, падаў яму мяса ягоных дзяцей.

### *«Ты — той чалавек!»*

*«Ты — той чалавек!»* — з гэтымі словамі звярнуўся да цара Давіда прарок Натан, расказаўшы яму прыпавесць пра багацея, што адабраў у беднага яго адзіную авечку (Давід, упа-

дабаўшы Вірсавію, жонку свайго военачальніка Урыі, паслаў апошняга на смерць; Другая кніга Царстваў, 12:7).

*Кэтрын Грэйс Гор* (1799–1861) — ангельская пісьменніца, самы вядомы раман якой, «Сесіл, альбо Прыгоды фата», зрабіўся аб'ектам пародыі Ўільяма Тэкерэя. Звесткамі пра жыццё арыстакратычнага грамадства яна абавязаная пісьменніку Ўільяму Бэкфарду, аўтару аповесці «Ватэк».

*Ўільям Эйнсварт* (1805–1882) — ангельскі пісьменнік, на гістарычныя раманы якога «Лонданскі Таўэр» і «Гай Фокс, альбо Парахавая змова» По ў 1841 годзе напісаў рэцэнзіі ў Graham's Magazine.

*Грос* — мера лічэння, роўная 144 прадметам.

## Фрэнк Рычард Стоктан

Фрэнк Рычард Стоктан (1834–1902) — амерыканскі пісьменнік і гумарыст, найбольш вядомы цяпер сваімі наватарскімі дзіцячымі казкамі, папулярнымі ў канцы XIX стагоддзя.

## Элеры Куін

Элеры Куін — псеўданім амерыканскіх пісьменнікаў, стрыечных братоў Фрэдэрыка Данэя (1905–1982) і Манфрэда Лі (1905–1971). Гэтак жа завуць і галоўнага героя іх раманаў, які сам піша дэтэктывы і часам дапамагае свайму бацьку, інспектару Галоўнай паліцэйскай управы Нью-Ёрка Рычарду Куіну, у расследаваннях. Данэй і Лі таксама заснавалі ў 1941 годзе «Часопіс таямніцаў Элеры Куіна», у якім друкавалася дэтэктыўная проза і які выходзіць дасёння.

### *Вар'яцкае чаяванне*

*Ямайка* — цэнтральная станцыя і пункт перасадкі чыгункі Лонг-Айлэнда, найстарэйшай у ЗША. Пабудаваная ў 1913 годзе.

*Джэй-Джэй* — персанаж, які часам з'яўляецца ў кнігах пра Элеры Куіна як «сябар сям'і», а таксама аўтар прадмоваў да некалькіх раманаў Элеры.

*Джордж Арліс* (1868–1946) — брытанскі актор, сцэнарыст і рэжысёр, лаўрэат прэміі «Оскар» за галоўную ролю ў фільме «Дызраэлі» (1930).

*Гардзі, зрэшты, у законы «Паэтыкі» верыў...* — відаць, Элеры мае на ўвазе закон драматычнага дзеяння, паводле яко-

га завязка змяняецца перыпетыяй, то бок паваротам у сюжэце або зменамі ў паводзінах герояў. Ангельскі пісьменнік Томас Гардзі ў 1923 годзе напісаў п'есу «Векапомная трагедыя пра каралеву з Корнуала», прытрымліваючыся законаў Арыстоцелевай «Паэтыкі».

## Карэл Чапэк

Карэл Чапэк (1890–1938) — чэшскі празаік, драматург, крытык і перакладчык. Літаратурная творчасць Чапэка фармавалася пад уплывам даваеннага мадэрнізму і новых плыняў еўрапейскага мастацтва. Усведамленне таго, да якіх злачынстваў супраць базавых чалавечых каштоўнасцяў прывялі навука і веды падчас Першай сусветнай вайны, а таксама недавер да адназначных філасофскіх і палітычных канцэпцый, пратэст супраць умяшальніцтва бесчалавечнай улады ў натуральны парадак адлюстраваліся ў яго ўтапічна-фантастычных драмах, у раманах з элементамі навуковай фантастыкі, у алегарычных п'есах і апавяданнях.

## Даніэль Клугер

Даніэль Клугер (нар. 1951) — рускамоўны ізраільскі пісьменнік, які піша ў жанры дэтэктыву і фантастыкі, аддаючы перавагу гістарычнай тэматыцы, паэт і перакладчык. Сябра Ізраільскай федэрацыі саюзаў пісьменнікаў, замежны сябар Брытанскай асацыяцыі пісьменнікаў крымінальнага жанру, аўтар шэрагу дэтэктыўных кніг, а таксама даследавання гісторыі класічнага дэтэктыву «Баскервільская містэрыя».

## Вольга Такарчук

Вольга Такарчук (нар. 1962) — польская пісьменніца, эсэістка, сцэнарыстка, паэтка. Лічыць сябе паслядоўніцай Карла Густава Юнга і называе яго псіхалогію адной з крыніцаў сваёй творчасці. У 2008 годзе за раман «Бегуны» (Bieguni) атрымала прэстыжную польскую літаратурную прэмію Nike. Адна з арганізатараў польскага Фестывалю апавядання. Сябра польскай партыі «зялёных».

### *Прачынайся, ты забіты*

*Egri Bikavér* (венг. «бычыная кроў з Эгера») — марка знакамітага чырвонага венгерскага віна.

## Маўрыцыё Бліні

Маўрыцыё Бліні (нар. 1959) — італьянскі пісьменнік, аўтар кніг «Джулія і іншыя гісторыі», «Творчы чалавек», «Аматар яшчарак». Шмат гадоў працаваў следчым.

## Брэт Гарт

Фрэнсіс Брэт Гарт (1836–1902) — амерыканскі празаік. Аўтар рамана «Гэбрыэл Конрай», шэрагу аповесцяў, вершаў, папулярных у свой час пародый (на Дыкенса, Шарлоту Бронтэ, Віктора Гюго, Артура Конана Дойла — напрыклад, апавядання «Скрадзены партсігар», якое Элеры Куін называў найлепшай пародыяй на Шэрлака Холмса) і п’есы ў суаўтарстве з Маркам Твэнам. Найбольшую папулярнасць яму прынеслі апавяданні пра жыхароў Дзікага Захаду.

### *Скрадзены партсігар*

*«Чаму Пол Ферал забіў сваю жонку»* (Why Paul Ferroll Killed His Wife) — кніга ангельскай пісьменніцы Караліны Клайв (Caroline Clive, 1801–1872).

*«Што здарылася з Джонсам»* (What Happened to Jones) — фарс у трох дзеях ангельска-амерыканскага драматурга і рэжысёра Джорджа Хоўэлса Бродхерста (George Howells Broadhurst, 1866–1952).

## Рэкс Стаўт

Рэкс Стаўт (1886–1975) — амерыканскі пісьменнік, аўтар дэтэктыўных раманаў, стваральнік цыклу пра Нэра Вулфа. У дэтэктывах Стаўта адлюстраваныя норавы амерыканскага грамадства з 30-х да 70-х гадоў XX ст. Раман «Дзе Цэзар крывёю сцякаў» (Some Buried Caesar) увайшоў у спіс ста найлепшых дэтэктыўных раманаў XX стагоддзя паводле версіі Незалежнай асацыяцыі гандляроў дэтэктыўнай літаратурай.

### *Ўотсан быў жанчынай?*

Працытаваныя ўрыўкі з гісторыяў пра Шэрлака Холмса толькі часткова адпавядаюць іх беларускім перакладам (калі такія існуюць) з той прычыны, што перакладчык прамовы Рэкса Стаўта мусіў вырашаць праблемы, пра існаванне якіх яго папярэднікі наўрад ці маглі нават падазраваць. Тое самае датычыць назваў апавяданняў — месцамі яны могуць адрозніваცца ад кананічнага перакладу.

У арыгінале прадмовы стаіць прысвячэнне: «Gasogene: Tantalus: Buttons: Irregulars». Першыя тры словы абазначаюць тытулы, якія даваліся сябрам рады суполкі «Baker Street Irregulars», што ў раннія часы існавання была чымсьці накшталт клуба. Сябры суполкі час ад часу збіраліся для сумесных абедаў, выпіўкі і абмеркавання іранічных даследаванняў кананічнага тэксту. Стаўт зачытвае сваю прамову пасля традыцыйнага тосту за жанчынаў канону, такіх як Ірэн Адлер ці другая місіс Ўотсан.

*«Сабака ўначы»* — словы адсылаюць да апавядання «Срэбны» (Silver Blaze), дзе Холмс згадвае пра «цікавы выпадак з сабакам уначы» і ўказвае на яго інспектару Грэгары як на важны ключ да разгадкі таямніцы.

*«Песні без словаў»* (ням. Lieder ohne Worte) — фартэпіянныя п’есы нямецкага кампазітара Фелікса Мендэльсона.

*Рынг Ларднэр* (Рынгалд Ўілмер Ларднэр, 1885–1933) — амерыканскі пісьменнік і фельетаніст, аўтар шэрагу кароткіх апавяданняў і аповесцяў, многія з якіх у гумарыстычнай манеры асвятляюць пытанні шлюбу.

*Лорд Пітэр Ўімсі* — герой дэтэктыўных твораў Дорацi Л. Сэерс, напісаных у 1920-х і 1930-х.

## Даніэла Капітанява

Даніэла Капітанява (нар. 1956) — славацкая пісьменніца. Улюбёны літаратурны жанр — дэтэктыў. У гэтым жанры напісаная аповесць «Хай гэта застанецца ў сям’і», а таксама пародыя «Забойства ў Жлуктаве».

## Жан Жыраду

Жан Жыраду (1882–1944) — французскі празаік, эсэіст, драматург і дыпламат, адзін з самых значных французскіх драматургаў міжваеннага перыяду, знакаміты дзякуючы сты-

лістычнай вытанчанасці і паэтычнай фантазіі. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне і ў 1915 годзе зрабіўся першым пісьменнікам, які быў узнагароджаны Ордэнам Ганаровага легіёна за вайсковую службу.

## Аркадзь Аверчанка

Аркадзь Аверчанка (1881–1925) — рускі пісьменнік-сатырык, тэатральны крытык. У 1908 годзе зрабіўся сакратаром сатырычнага часопіса «Страказа» (пасля пераназванага ў «Сатырыкон») і ў тым жа годзе — яго рэдактарам. Менавіта там з'явіліся яго самыя бліскучыя гумарыстычныя апавяданні. За час працы Аверчанкі ў «Сатырыконе» гэты часопіс зрабіўся незвычайна папулярным, а для самога пісьменніка праца ў выданні была цэнтральнай вяхой творчай біяграфіі.

## Стывен Ван Дайн

Стывен Ван Дайн (1888–1939) — амерыканскі пісьменнік і мастацкі крытык. Сапраўднае імя — Ўілард Хантынгтан Райт. У 1923 годзе Ван Дайн спыніў кар'еру журналіста і крытыка праз хваробу. Доктар прапісваў яму рэжым лежачы больш за два гады. Расчараванне і сум прывялі пісьменніка да збору і вывучэння тысячаў кніг дэтэктыўнага і крымінальнага жанру. Вынікам гэтых росшукаў стала яго ранняе эсэ па гісторыі, традыцыях і законах дэтэктыўнай літаратуры. Апроч яго Ван Дайн напісаў 12 раманаў, першыя з якіх былі пра дэтэктыва-аматара, прадстаўніка найвышэйшага класу і эстэта Філа Ванса і прынеслі аўтару не толькі папулярнасць, але і багацце.

## Дваццаць правілаў дэтэктыўшчыка

*«Нялюдскае і подлае забойства»* — цытата ўзятая з «Гамлета» Ў. Шэкспіра (пераклад Ю. Гаўрука).

*Камора* (Camorra) — таемнае таварыства, заснаванае ў 1820 годзе ў Неапалі. Спецыялізавалася на шантажы і вымагальніцтве. Таксама любая падобная таемная арганізацыя.

*Фармакапея* — зборнік афіцыйных дакументаў, якія акрэсліваюць нормы якасці лекавай сыравіны.

*Пола Граўндс* (Polo Grounds) — назва чатырох стадыёнаў у Верхнім Манхэтэне (Нью-Ёрк), якія выкарыстоўваліся для бейсболу і амерыканскага футболу з 1880 па 1963 гг.

## Роналд Нокс

Роналд Нокс (1888–1957) — ангельскі рэлігійны дзеяч і пісьменнік. Разам з Гілбертам Чэстэртанам і Агатай Крысці заснаваў Дэтэктыўны клуб і напісаў некалькі даследаванняў дэтэктыву, а таксама пяць раманаў і адно апавяданне пра Майлза Брэдана, прыватнага дэтэктыва, нанятага не названай у творах страхавой кампаніяй.

# ПЕРАКЛАДЧЫКІ

## Антон Францішак Брыль

Паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Мінску. Фіналіст конкурсу маладых літаратараў імя У. Караткевіча (2005). Пераклаў на беларускую мову казку Дж. Р. Р. Толкіна «Каваль з Вялікага Вутану», стараангельскую паэму «Бэўвульф», шэраг твораў з лацінскай паэзіі і інш. Жыве і працуе ў Швейцарыі.

## Яніна Голуб

Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, скончыла гістарычны факультэт БДУ. Перакладае з ангельскай і рускай моваў.

## Аксана Данільчык

Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Кандыдат філалагічных навук, дысертацыю абараніла па тыпалогіі беларускай і італьянскай літаратур другой паловы XX ст. (канцэпцыя чалавека ў прозе аб Другой сусветнай вайне). Вучылася ў Італіі. Перакладае з італьянскай мовы. Пераклады друкаваліся ў часопісах «Крыніца», «Наша вера», «Дзеяслоў», «Верасень» і інш., увайшлі ў анталогію «Галасы з-за небакраю».

## Павел Донаў

Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Оршы. У 2006 скончыў БДУІР па спецыяльнасці «штучны інтэлект», працуе інжынерам-праграмістам. Перакладае з ангельскай і ўкраінскай (Говард Філіпс

Лаўкрафт, Герберт Ўэлс, Інід Блайтан, Рыенан Лэсістэр, Джозэф Конрад, ангельскія народныя казкі і інш.).

## Аляксей Жбанаў

Перакладчык, паэт, бард. Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін. Перакладае з нямецкай, сербскай, польскай, ідыша. Аўтар музычна-гістарычнага праекту «Песні філаматаў і філарэтаў».

## Надзея Кахновіч

Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску, скончыла філфак БДУ. Перакладае з польскай і чэшскай.

## Уладзь Лянкевіч

Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску. Скончыў філалагічны факультэт БДУ і Беларускі Калегіюм. Перакладае з украінскай, польскай, французскай, ангельскай моваў.

## Кацярына Маціеўская

Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Магістарскую дысертацыю абараніла па міфалагічным тэатры Жана Както. Перакладае з французскай, ангельскай, польскай, нідэрландскай, афрыкаанс.

## Ганна Пазюк

Нарадзілася ў 1980 годзе ў Мінску. Скончыла беларускае аддзяленне філфака БДУ. Жыве ў Мінску.

## Сяргей Сматрычэнка

Філолаг-славіст, перакладчык, рэдактар. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Віцебску. Скончыў філалагічны факультэт БДУ, дзе выкладаў галоўным чынам чэшскую і славацкую мовы да канца 2010 году, за выключэннем 2-гадовага перапынку, калі жыў у Вене і працаваў у асістэнтуры Інстытута славістыкі

Венскага ўніверсітэта. З канца 1990-х актыўна супрацоўнічае з часопісам «ARCHE». Заснавальнік і куратар кніжнай серыі «Чэшская калекцыя» ў выдавецтве Ігара Логвінава. Укладальнік і перакладчык «Анталогіі беларускага апавядання» і анталогіі сучаснай беларускай паэзіі «Дзве душы» па-чэшску. Сярод аўтараў, перакладзеных на беларускую мову, — Яхім Топал, Ёзэф Топал, Міхал Вівэг, Мілан Кундэра, Багуміл Грабал, Вацлаў Гавэл, Мілаш Урбан, Эва Кантуркава, Вацлаў Чэрны і інш. Жыве ў мараўскім Брне.

## Юля Цімафеева

Нарадзілася ў 1982 годзе на Брагіншчыне. У 2004 скончыла факультэт ангельскай мовы МДЛУ. Пераклала з ангельскай творы Ч. Букоўскі, Ш. П. Гілман, М. Дзікмана, С. Крэйна, Э. Лоўэл, Д. Г. Лоўрэнса, Дж. К. Оўтс, Э. А. По, К. Шапэн і іншых. Пераклады друкаваліся ў часопісах «Паміж», «pARTisan», «ARCHE», «Дзеяслоў» і інш. Жыве ў Мінску.

## Ганна Янкута

Нарадзілася ў 1984 годзе ў Гародні. Магістр філалагічных навук. Лаўрэат прэміі часопіса «ПрайдзіСвет» у намінацыі «Публікацыя ў часопісе «ПрайдзіСвет» за 2009 год. Пераклады друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «ARCHE», газеце «Літаратурная Беларусь». Пераклала на беларускую мову шэраг паэтычных і празаічных твораў Эдгара Алана По, паэму «Свет» Чэслава Мілаша (разам з А. Ф. Брылём і К. Маціеўскай), аповесць «Калядны харал» Чарлза Дыкенса і інш. Перакладае з ангельскай, польскай, афрыкаанс, нідэрландскай.

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»

**Злачынства, сэр!**
Зборнік дэтэктыўнага апавядання

Укладальнік Ганна Янкута
Рэдактар Кацярына Мацiеўская
Камп'ютарны дызайн, вёрстка Юліі Андрэевай
Дызайн вокладкі Марыі Мухінай
Карэктар Кацярына Мацiеўская

Падпісана да друку 11.06.2013. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 24,57. Ул.-выд. арк. 17,8.
Наклад 500 ас. Зак. 326.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.